БЕЛАРУСКІ
КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

# АЛЕСЬ БАРСКІ

# Выбраныя творы

Мінск
«Кнігазбор»
2011

## ЛІРЫКА АЛЕСЯ БАРСКАГА
## І АФІНЫ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА

Месца свайго нараджэння паэт не выбірае — выбіраюць бацькі, лёс, Госпад Бог. Чытач Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага) можа быць пэўны: сам паэт, празаік, драматург, літаратуразнавец, фальклафыст спыніў бы свой выбар на вёсцы Бандары на Беласточчыне, без якой не ўяўляе сябе.

Гэта не Міцкевічава Залессе, і не Марцінкевічавы Панюшкавічы, і не Сыракомлева Смольгава, і не Багушэвічавы Кушляны, і не Купалава Вязынка, і не Коласава Мікалаеўшчына. Але калі мы хочам ведаць нешта пра Бандары, а значыць ведаць як мага больш і пра самую Беларусь у яе рэальнай рознамаітасці, то наўрад ці задаволімся геаграфічнай картай, на якой адшукаем рэчку Нарву, дзе знаходзіцца малая радзіма пісьменніка, блізкую да яе Белавежу і густа заселеныя вёскамі і мястэчкамі аколіцы (Нараўка, Міхалова, Ялоўка, Заблудаў, Мастаўляны). У такім выпадку мы абавязкова звернемся да самога паэта і яго вершаў, абразкоў, дарожных нататак, дзе часта сустракаюцца гэтыя назвы, каб яшчэ раз пераканацца ў праўдзе славутай парады наведаць месца нараджэння пісьменніка, каб яго зразумець.

Пейзажы,
Краявіды белавежскія,
Сонцы
Ў трасніках наднарвянскіх
І цішыня,
Такая галасістая,
Што будзіць
Мае сны каменныя.
Мае Афіны тут —
Назваў іх Бандарамі.
Шукаю месца я
Для прыстані сваёй…

Якраз тут, у белавежскай вёсцы Бандары, якая прытулілася да рэчкі Нарвы, 2 лістапада 1930 года нарадзіўся выдатны паэт, шырока вядомы літаратуразнаўца, даследчык беларускага фальклору на ўсходняй Беласточчыне, таленавіты драматург і перакладчык Аляксандр Андрэевіч Баршчэўскі (Алесь Барскі). Даследчыкі жыцця і творчасці пісьменніка, яго біёграфы нагадваюць, што непадалёк ад Бандароў, па дарозе ў Беласток, знаходзіцца гістарычны Заблудаў, куды некалі прыбыў вядомы кнігадрукар Іван Фёдараў, а на шляху на ўсход можна патрапіць

у знакамітыя Мастаўляны, звязаныя з жыццём Кастуся Каліноўскага. У мястэчку Нараўцы жыў вядомы доктар і аматар беларускага слова Мікалай Марцінчык, які ахвяраваў частку сваіх заробкаў на культуру і да якога наведваўся да вайны тады малады паэт Максім Танк. Асобу А.Барскага акружае мноства зорных імёнаў.

Вяскоўцы жылі натуральнай гаспадаркай, з вялікім светам мелі досыць абмежаваныя стасункі, свята захоўвалі мясцовыя звычаі і традыцыі, іншай мовы, як беларуская, не ведалі, хоць дзеці вучыліся ў пачатковых польскіх школах у суседніх вёсках. Займаліся пераважна звыклымі рамёствамі, і сярод іх многія былі, як можна здагадацца з назвы вёскі, бондарамі. Мяркуючы па згадках пра дзяцінства Алеся Барскага, ён мог стаць адным з такіх народных майстроў і ўмельцаў. Але і сам будучы інтэлектуал, і яго аднавяскоўцы, і яго землякі, нягледзячы на адарванасць ад вялікіх падзей еўрапейскай гісторыі, досыць востра адчувалі залежнасць свайго жыцця і лёсу ад вялікага руху суседніх нацый, рускіх, палякаў, украінцаў, немцаў, шведаў, французаў з захаду на ўсход і з усходу на захад, з поўначы на поўдзень і з поўдня на поўнач. На працягу ХХ стагоддзя гісторыя асабліва драматычна ўплывала на характар і змест светаадчування жыхароў беларускага Белавежжа. Улада пераходзіла з рук у рукі, а вялікадзяржаўная палітыка досыць бесцырымонна абыходзілася з памежнымі тэрыторыямі, да якіх адносілася Беласточчына. Даволі нагадаць, што сумна славутая «лінія Керзана» знаходзілася непадалёк ад вёскі.

Абвостранае самаадчуванне юнака Алеся сябе ў свеце і свету ў сабе рана выявілася ў яго цікавасці да вялікай «кніжнай культуры», да асветы і адукацыі. Магутны парыў «на прасторы жыцця» адкрываў шырокія магчымасці духоўнага росту, самавызначэння і самавыяўлення. У адрозненне ад так званай народнай большасці, якая спяшалася скарыстацца дабротамі сучаснай цывілізацыі, сапраўды народная па сваёй глыбіннай сутнасці інтэлігенцыя, дасягнуўшы ўсемагчымых інтэлектуальных вышынь, не парывала сваёй адпачатковай сувязі з народнай глебай. Больш таго, яна чым далей варункі лёсу і магутная хваля хуткаплыннага часу адводзілі ад вясковай цывілізацыі, для якой найбольш характэрнай асаблівасцю з'яўляецца натуральнае існаванне ў свеце роднай прыроды і ў добрым ладзе са сваёй уласнай чалавечай існасцю, тым мацней адчувала прыцягненне духоўнага космасу народнага быцця.

Аднойчы ўбачанае ў дзяцінстве — «сонцы», іх адлюстраванне ў хвалях рачной плыні («Сонцы ў трасніках наднарвянскіх») — застаецца ў памяці назаўсёды, асвятляючы дарослае ўспрыняцце свету. Яшчэ адна паэтычная метафара, народжаная дзіцячым уяўленнем, дзе на ўсё жыццё застаецца вобраз маці: «Твой твар быў сонцам Над маёй калыскай, Якое я кранаў рукою, Якому прыглядаўся блізка». Наўрад ці ў вялікім горадзе, у «снах каменных», магчыма такое бачанне: «А неба ў Бандарах Найбольшае на свеце. Да ўсходу сонца Дастаю там леваю

рукою, Калі ж яно заходзіць — Правай дасягаю… Я волат там, Зямлю я паварочваю да сонца, Каб сеяць І каб жаць». Акурат там, у роднай вёсцы, Аляксандр Баршчэўскі адчуў сябе паэтам Алесем Барскім. Як лагічны працяг гэтага нязвыкла новага самаадчування спатрэбілася і новае імя. Вобраз сонца ў вершах Алеся Барскага мае шмат агульнага з яго вобразам у беларускім фальклоры і міфалогіі, якія глыбока даследаваў паэт як прафесійны навуковец і як складальнік некалькіх хрэстаматый фальклорных тэкстаў.

Асобна варта прыгадаць і яго адну з першых гісторый беларускай культуры і літаратуры, якая выводзіла беларусаў, у поўнай адпаведнасці з марай нашых класікаў, у вялікі свет еўрапейскай культуры, а гэта якраз: «Historia literatury bialoruskej. Cz. I. Folklor. Cz. 2. Okres Rusi Kijowskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego», выдадзеная ў Варшаве ў 1976 і 1981 гадах. У штотыднёвіку «Ніва», які ў часы Савецкай Беларусі ўспрымаўся як друкаваная крыніца, дзе на беларускай мове гучала вольнае слова і еўрапейскай думка, на працягу 70–90-х гадоў мінулага стагоддзя А.Барскім было апублікавана больш за паўтысячы яркіх, насычаных роздумам над праблемамі сацыяльнага, культурнага і літаратурнага жыцця Беласточчыны эсэ, дзе мастацкая вобразнасць спалучалася з навуковай глыбінёй і філасофскай шырынёй. Беларускі чытач з асаблівым чаканнем успрымаў кароткія нататкі, якія так удала пачыналіся з загалоўным і запамінальным «Аб» : Аб родным, Аб гордасці, Аб дабраце, Аб маіх братах і сынах, Аб шчырасці, Аб ранах на душы, Аб беларускай культуры, Аб адраджэнні, Аб смерці, Аб талерантнасці, Аб родным слове, Аб цэпе і сярпе, Аб абавязках і магчымасцях, Аб маладых і старых, Аб народнай сіле, Аб інтэлігенцыі, Аб надзеі, Аб годнасці, Аб духоўнай мізэрнасці, Аб цане папулярнасці, Аб пісьменніках, Аб крытыках, Аб дзяржаўнасці і нацыянальнасці — пералік працягваць можна амаль бясконца.

Вельмі канкрэтныя, прадметныя з’явы свету паэт і вучоны бачыў у шырокім кантэксце і нацыянальнай, і агульначалавечай гісторыі. Адразу пасля стварэння свету сонца свяціла ўвесь час і ўсім зямным істотам. Аднак урэшце сонейку надакучыла свяціць усім, добрым і ліхім, людзям і нелюдзям, і яно паскардзілася Богу. Тады Бог пагадзіўся на тое, каб Сонца свяціла толькі ўдзень і стала дзённым свяцілам, а ўночы свяціў Месяц. Сонца ўвасабляе жаночы пачатак, Месяц — мужчынскі, а ўсё разам — драму зямнога чалавечага існавання.

«Гэты канфлікт, — пішуць фалькларысты С. Санько і Я. Сахута, — меў яўнае касмаганічнае значэнне, паколькі азначаў пачатак дэканструкцыі касмічнага — сакральнага ва ўсіх яго частках — светаладу, уваходжання Хаосу ў структуры Космасу. Так з’яўляюцца проціпастаўленні добрага і ліхога, святла і цемры, дня і ночы, сакральнага і прафаннага ды інш. Але, паводле народных уяўленняў, недзе далёка на скраі зямлі застаецца хаваны Богам куточак былога *выраю*… і толькі там Сонца па-ранейшаму свеціць заўсёды, ніколі не

хаваючыся «пад зямлю». Размова, падобна, ідзе, калі мець на ўвазе Бандары ды Белавежу, пра той райскі куток, куды, як птушкі ў *вырай*, рвецца душа паэта А. Барскага:

Я толькі на роднай зямлі
Станаўлюся свабодным.
Выключна ў сваіх Бандарах
Да сонца й зямлі
Дастаю адначасна рукамі.

Усё, што адбываецца ў родных мясцінах і што так ці інакш мае дачыненне да Беларусі, Алесь Барскі ўспрымае ў маштабе сусветнай гісторыі, больш таго, на фоне палотнішча грандыёзных касмічных працэсаў. Ён з непрыхаванай трывогай углядаецца ў шпаркі ход падзей, шмат што яго вельмі моцна непакоіць. Тым больш што на памяці ў яго, чалавека, які перажыў, як сам згадвае, пяць палітычна-дзяржаўных фармацый (даваенная Польшча, савецкая ўлада ў 1939–1941 гадах, нямецкая акупацыя, Народная Польшча, Рэч Паспалітая Польшча), лепш сказаць, яны ўварваліся ў яго побыт.

«Належу да людзей, — прызнаецца пісьменнік, — у нейкай ступені раздвоеных духоўна. Раздвоенасць гэта праяўляецца ў тым, што як беларус атаясамліваюся з беларускім народам, а як грамадзянін — атаясамліваюся з Польскай дзяржавай. Зрэшты, усё болей прыхільным позіркам паглядаю на ідэю прыналежнасці да еўрапейскай ці нават сусветнай грамадскасці або, як кажа адзін з герояў Ісака Бабеля, — інтэрнацыяналу добрых людзей».

Даследчык праблемы сучаснага польска-беларускага білінгвізму, доктар філалогіі і прафесар філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку Ян Насовіч лічыць, што «найбольш актыўна моўныя кантакты адбываюцца ў мяшаных этнасах. Стала жывучы на адной тэрыторыі, апрача роднай, розныя этнасы вымушаны карыстацца і мовай іншай этнічнай супольнасці. У такой сітуацыі, напрыклад, знаходзяцца беларусы ў Польшчы і палякі на тэрыторыі Беларусі». Ён жа адразу ўдакладняе, што «звычайна сістэма роднай мовы выступае як дамінантная, адпраўная, яна перадае другой моўнай сістэме свае катэгорыі і формы. Інакш кажучы, асоба з такім тыпам білінгвізму нават тады, калі размаўляе на іншай мове, думае на роднай, а ўжо потым перакладае тэкст на мову маўлення. Абсалютнае двухмоўе практычна недасягальна нават у выпадку незалежнага білінгвізму. Заўсёды ёсць пэўнае адрозненне ў карыстанні адным ці другім моўным кодам. Гэты факт і выклікае з’яву інтэрферэнцыі, якой цяжка пазбегнуць нават чалавеку з высокай ступенню білінгвізму».

Алесь Барскі як паэт і як навуковец кіруецца не толькі эмоцыямі, але і развагай. Ён інтуіцыяй адчувае сувязь вялікага і малога, касмічнага і зямнога, а вялікі жыццёвы і творчы вопыт стасункаў з рознымі людзьмі,

са студэнцкай моладдзю стварае для яго ўсе падставы, каб дыялектычна, а кажучы простаю мовай, разумна і мудра ўзважваць прычыны і вынікі, пачаткі і канцы. Дададзім да ўсяго, што яму як чалавеку, якому ўласцівы ў вялікай ступені самакрытычны погляд на сябе, даводзілася публічна каяцца ў магчымых памылках, і ён не робіць выгляду, што быў заўсёды і ва ўсім бездакорны. Развітае пачуццё чалавечай годнасці і прафесійнай самапавагі дапамагала А. Барскаму заўсёды выходзіць са складанай сітуацыі з высока ўзнятай галавой.

У інтэрв'ю для беларускага тэлебачання, якім яно было ў пачатку перабудовы, пісьменнік з болем у душы разважаў пра вострыя праблемы беластоцкіх беларусаў: пра размыванне нацыянальнага характару Усходняй Беласточчыны, дзе да пачатку 70-х гадоў беларускую мову ў школах вывучала 11 тысяч дзяцей, а ў канцы 80-х яе вывучае толькі 4 тысячы, пра так званы добраахвотны характар выбару беларускай мовы як прадмету навучання і як найважнейшую прычыну рэзкага змяншэння колькасці беларускамоўных вучняў, пра вялікія цяжкасці, з якімі сутыкаецца беларуская моладзь, ідучы далей набываць веды ў польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, пра адсутнасць сучасных падручнікаў на беларускай мове і праблемы з навуковай тэрміналогіяй, а таксама пра тое, што беларуская інтэлігенцыя не заўсёды мела смеласць выказаць адкрыта сваё меркаванне пра згаданыя праблемы.

Сам Алесь Барскі асабіста палову свайго свядомага жыцця працаваў над засыпаннем межаў паміж палякамі і беларусамі, і, як выказваўся, «узводзіў мост паміж нашымі народамі, рабіў гэта і ў паэзіі, і ў публіцыстыцы, і ў навуковых артыкулах, і ў лекцыях». Аўтарытэт Алеся Барскага быў заўважаны беларуска-польскай грамадскасцю і адзначаны абраннем яго на пасады старшыні праўлення літаратурнага аб'яднання «Бацькаўшчына» і старшыні праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКЦ). Узнагароджаны ордэнамі Залаты крыж Адраджэння Польшчы, Кавалерскі крыж Адраджэння Польшчы, а таксама медалямі.

Сярод навучальных устаноў у сучасным свеце, якія займаюцца беларусазнаўствам, а гэта Беларускі інстытут літаратуры і мастацтва ў Нью-Ёрку, кафедра беларускай і ўкраінскай філалогіі ў Пражскім (Карлавым) універсітэце, кафедры беларускай філалогіі ў Беластоцкім і Люблінскім універсітэтах, кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце вылучаецца сваёй мэтанакіраванай працай над стварэннем беларускага культурніцкага асяродка за межамі Беларусі. Як можна заўважыць, поспех і сапраўдныя дасягненні залежаць ад пасіянарнай актыўнасці лідараў — Вітаўта Кіпеля, Вацлава Жыдліцкага, Яна Чыквіна, Сяргея Кавалёва, у Варшаве гэта арганізатар кафедры праф. Антаніна Абрэмбская-Яблонская, прадаўжальнікі яе справы дацэнт Эльжбета Смулкова, праф. Аляксандр Баршчэўскі і цяперашні яе кіраўнік праф. Ніна Баршчэўская. У выніку выпускнікі беларускіх ліцэяў маюць магчымасць працягваць беларусазнаўчую навуку, а ка-

федра практычна рэалізуе культурныя і навуковыя аспірацыі беларусаў, і не толькі замежных, але і айчынных, якіх у апошнія гады прыкметна пабольшала. Для Аляксандра Баршчэўскага праца на кафедры з’яўляецца справай усяго яго жыцця, больш таго, справай гонару, якая мае вялікую маральную вартасць.

Яго жыццёвая пазіцыя выявіла сябе на многіх напрамках творчай і навуковай дзейнасці. Патрыятычная лірыка Алеся Барскага ў высокім сэнсе сапраўды грамадзянская, а ў цэнтры яе знаходзіцца лірычны герой, надзелены такімі неабходнымі таленту асаблівасцямі, як сама-крытычнасць, сумленнасць, высакародства, шляхетнасць.

Баронячы сябе,
Баронім свет вялікі.
Прабач, бацькоўскі край,
Шырокі і прыгожы,
Не раз я там маўчаў,
Дзе трэба было крыкам
Крычаць на тое,
Што табе варожа.
Прабач і ты мне, слова
З матчыных глыбіняў,
За абыякавасць маю,
За малавернасць.
Ці згінем мы з табою,
Ці не згінем,
Ці твар сваёй зямлі
Да сонца мы павернем?
Баронячы сябе,
Нянавісці не сеем:
Няхай жыве сусвет,
Свабодны, як нядзеля;
Хто хоча жыць,
Павінен мець надзею,
І адпачне ён так,
Як сам сабе пасцеле.

Адданы сын сваёй Бацькаўшчыны, грамадзянін Польшчы, Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі) у той жа час грамадзянін Сусвету, еўрапейскага, хрысціянскага, які нязмушана называе свае Бандары «мае Афіны», як нязмушана і натуральна мог назваць «мой Парыж», «мой Лондан», які лёгка і з веданнем справы ўжывае ў сваіх вершах імёны Геракліта, Венеры Мілоскай, Хрыста, Петраркі, Паганіні, Бетховена, Ліста, які лічыць сваім сыноўнім абавязкам прысвяціць свае творы Кірылу Тураўскаму, Францішку Скарыну, Паўлюку Багрыму, Максіму Багдановічу, Максіму Танку (пра навуковыя працы доктара і

прафесара асобная размова). Такое самаадчуванне сябе ў вялікім свеце грунтуецца на ўпэўненасці, што «Ёсць на свеце такая зямля, Дзе пачатак мой ёсць і канец», бо паэт не забывае пра свой «парог», свой «бераг». Якраз памяць пра ўсё роднае і дарагое дазваляе пісьменніку «сягоння лягчэй уявіць, у чым сіла традыцый і спадчын».

Каменныя бабы інкаў,
Старагрэчаскія вазы,
Фрэскі з полацкіх сабораў,
Танцы з афрыканскіх бушаў,
Вершы Багдановіча Максіма
І казкі цёткі Паланеі
Складаюцца на вечную
Мазаіку,
Названую культурай чалавецтва.

Стужка Мёбіуса, па якой рухаецца мастацкая і навуковая думка ад пачатку да канца, змяняючы па ходу напрамак руху і не губляючы пры гэтым нічога з набытага, «пабачанага і пражытага», дазваляе А.Барскаму спалучаць неспалучальнае, не здраджваць самому сабе, свайму імкненню глядзець на свет з адкрытымі вачыма, захоўваць «яснасць позірку» (Альбер Камю), заставацца адданым сваёй веры ў вышэйшы сэнс існага. Сказаць, што чалавеку, які свядома абраў такі шлях, жылося і жывецца лёгка, бадай тое самае, што згадзіцца з думкай аднаго з вядомых літаратуразнаўцаў, выказанай ім аднойчы ўголас на ўласным юбілеі, якая нібыта апраўдвала яго і такіх, як ён, «гутаперчавых хлопчыкаў»: «Куды вецер гнуў дрэвы, туды і я гнуўся».

Credo Алеся Барскага-паэта і Аляксандра Баршчэўскага-грамадзяніна застаецца нязменным, нягледзячы ні на што: быць самім сабой, абараняць права беларускай меншасці ў Польшчы на сваю мову і культуру, верыць у тое, што ідэя ўзаемнай нацыянальнай і светапогляднай талерантнасці на карысць і палякам, і беларусам, працаваць, як працаваў больш за паўстагоддзя дагэтуль «над засыпаннем пропасці паміж палякамі і беларусамі», узводзіць «мост паміж нашымі народамі», вучыцца «творчага нацыяналізму ў палякаў» («Калі навучымся — не згінем як нацыя, калі не навучымся — згінем»). У гэтым сэнсе ў пісьменніка шмат агульнага з маральным кодэксам яго бацькі Андрэя Баршчэўскага Аляксеева, які, паводле яго слоў, зводзіўся да таго, каб «Ад змроку да зары І ад зары да змроку Думаць аб раллі, І пра яе спяваць, І працаваць на ёй, І браць з яе жыццё, І ёй жыццё даваць…».

А свет як свет і жыццё як жыццё — ідуць сваім ходам, напрасткі і зігзагамі, здзяйсняючы час ад часу кругі і спіралі:

Нас свет яшчэ не раз
І прыме і адкіне;

Ён быў заўсёды у пачуццях
Пераменны.
Істотнае,
Каб захаваць свой твар і імя
І незалежнасць
Сваіх думак суверэнных.

Надзейнай апорай маральнаму стаіцызму, духоўнай непахіснасці, душэўнай трываласці пісьменніка з’яўляецца яго малая радзіма, з якой ён звязаны духоўна і фізічна, куды рваўся душою і тады, калі там жылі бацькі, і тады, калі іх нястала, калі пайшлі з жыцця людзі, якіх добра ведаў і любіў і якія ведалі і любілі яго, называючы па-свойску, не зважаючы на яго навуковыя званні і дзяржаўныя ўзнагароды, проста, як і ў далёкім дзяцінстве, «Шурыкам». Няхай прабачыць аўтара гэтых радкоў шаноўны Алесь Барскі, але ў яго разуменні дарагога варта гэтае імя «Шурык», як і вясковая мянушка «Культурны».

«Нягледзячы на ўсю прыхільнасць да ідэі сусветнай грамадзянскай супольнасці, — пісаў А.Барскі, — жыве ва мне цэнтрабежная сіла, якая звязвае мяне арганічна з маёй Малой Айчынай — Бандарамі і іх наваколлем. Гэта ж тая зямля, на якой я нарадзіўся, над якой першы раз пабачыў сонца, на якой зрабіў першы крок, сказаў першае слова і напісаў першы верш. Урэшце, з гэтай светлай краіны рушыў у шырокі свет. І не магу да яе не вяртацца, каб зноў прайсці па матчыных слядах, каб падняць грудку зямлі са свежаўзаранай глебы, каб кінуць зерне ў раллю, каб скасіць першы даспелы колас, каб захапіцца і ўсумніцца. Усумніцца ў сабе, у маім народзе, у сэнсе жыцця, якіх і так не перастану і любіць і кахаць. Прагнуў бы не дзесьці далёка, а ў Малой Айчыне сказаць апошняе сваё слова, апошні раз абняцца з ветрам і апошні раз пацалавацца з сонцам».

Святыняю лічыць паэт бацькоўскае поле, матчын серп, жорны, плуг, цэп — усё тое, на што сучасная моладзь глядзіць як на перажытак далёкай мінуўшчыны і не знаходзіць у гэтых рэчах таго, што знаходзіць паэт. Мала таго, што ўсё гэта для яго праўда жыцця і самой гісторыі, «праўда свяцейшая ад усіх святасцей і святынь», але яшчэ і мінуўшчына, якая адгукаецца ў будучыні, і будучыня, якая глядзіцца ў мінуўшчыну. Моладзь не верыць, калі пісьменнік расказвае, што маці сярпом зжынала кожнае лета каля трох гектараў жыта, а калі гэтая ж моладзь пачуе прызнанне паэта ў тым, што для яго родная вёска — Афіны, то яшчэ больш здзівіцца. Між тым у А.Барскага ёсць вершы, прысвечаныя цэпу і сярпу, плугу і коласу, дзе заўсёды напрошваюцца параўнанні з музыкай і ўжываецца спецыяльная тэрміналогія (песні, кантаты, рапсодыі, гітары, мандаліны, балалайка, цымбалы, скрыпка, малінавы звон). У вершах пра малацьбу цэпам гучыць шалёны віхор мелодыі: «Іскрыўся саламяны жар. Узлёт — удар, Узлёт — удар! Струмень там пырскаў з-пад капы. Цапы — снапы, Цапы — снапы!»

У абразку «Аб цэпе і сярпе» гэта праца называецца катаржнай: «зараз у мяне ў варшаўскай кватэры стаіць мой галоўны вораг і галоўны эксплуататар — бацькоўскі цэп». Інакш сказана пра серп:

«А серп матчын кранаю, праводжу пальцам па вастрыі і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, блаславёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ»

Паэт удзячны наднарвянскаму свету маленства і юнацтва за тое, што ён «даў шырокасць», навучыў «адкрытасці» і «пашане прыгажосці ў свеце» («як трэба, дык кахаць, а калі трэба — біцца»). Згадкі пра родны край тады, калі паэт знаходзіўся на адлегласці, «І ў далёкім Лондане — Туманным месце, І ў Парыжы», для яго «Былі заўсёды Радаснай праявай, Чароўнай казкай». Ён як разумны і адукаваны чалавек добра ведае, што да скону будзе «адгалоссем Свайго пявучага Адроджанага краю» і ніколі не здрадзіць яму.

Алесь Барскі ў цыклах вершаў «З зямлёю роднаю ў вечным ладзе», «Штоночы сняцца тыя небасхілы», «Свет, у якім я жыву» — па каларыту, інтанацыі, настрою, настальгіі, — як гэта ні нечакана, мае надзвычай шмат агульнага з беларускімі польскамоўнымі паэтамі XIX стагоддзя.

Вось урывак з верша «ліцвіна», як ён сябе называе, Вінцэся Каратынскага «Postrzyżyny»:

Lecz kiedy mej wiosce tryz słonka zablisne
    I dusze wesołosc ogarnie,
Gdy rola, dzis chora, hlon wyda korzystnie
    I biedne napełni spiżarnie; —
O! Wtedy Was prosim na inne obrzedy,
    Na białe kolacze bez plesni,
Na piwo pieniste, na szumne gawędy,
    Na pieśni — nie takie już pieśni!
Dziś — dzięki Wam, Bracia, ze przyszliśce z dali,
    Uświecic moj dzionek nielada,
I chleba zażyli i piesni sluchali…
    Czem chata bogata, tem rada

Параўнайце з вершам Алеся Барскага «Вяртанне»:

Ці калосіцца ў сэрцы тваім яшчэ поле
І ці Нарва бяжыць праз яго у туманы,
Ці ўсходы ліпнёвыя душу няволяць,
Ці яе прыкрываюць зялёным дыванам,
Ці яшчэ памятаеш вясеннія ночы,
І дзяўчаты на прызбах, акутаных песняй,
Ды іх сінія, чорныя, шэрыя вочы,
Ад якіх было сэрцу у грудзях зацесна?

Ці яшчэ памятаеш з сялом развітанне
І смутак, заціснуты ў маці далонях,
Ці вабіць цябе яшчэ сцежка вяртання
Пад ціхія стрэхі, на родныя гоні,
І ці родная песня цябе прыклікае —
Такая далёкая, шчырая-шчырая,
Ці не кліча цябе, ці у сне не гукае…

Агульнае — і там, і там сялянская казачная краіна Муравія, славянскі варыянт антычнай Аркадыі. З той хіба розніцай, што ў В. Каратынскага, як і ў іншых прадстаўнікоў беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя, — сялянская цывілізацыя з яе пастаральнай ідыліяй («сялянкай») у самым росквіце, а ў А. Барскага — развітанне з ёю, глыбокае разуменне, што з яе стратай чалавецтва назаўсёды губляе гармонію з сусветам і суладдзе з прыродай, а беларусы — губляюць надзею на сваё адраджэнне як апошняй сялянскай нацыі, якая мёртвай хваткай трымаецца за сваю зямлю.

— Давай падамося у сельскія выраі?
А што, каб вярнуцца, мой браце, мой дружа,
Каб вызваліць сэрца з-пад горада пяты,
І ў беларускі адзецца зноў кужаль,
І жыць пад страхой саламянай той хаты?!
Вядома, што гэта усё немагчыма,
Бо скошаны колас не вернецца ў поле…
Ды справа у тым, каб мы голас Радзімы
З душы не прагналі ніколі!
Ніколі!

Апошнія два радкі рытарычных пытанняў, звернутых да саміх сябе, гучаць з надрывам, як апошні аргумент у адвечнай спрэчцы «аптымістычных аптымістаў» і «песімістычных песімістаў», як апошняя магчымасць дастукацца да братоў-беларусаў, якія глядзяць і не бачаць, слухаюць і не чуюць.

У вершы «Колас», па сутнасці, філасофскай паэме, пабудаванай на міфалагічнай аснове, услаўляецца ідэя неўміручасці жыцця і бессмяротнасці народа. Вобраз-сімвал коласа неаднаразова сустракаецца і ў іншых вершах паэта, але якраз тут ён сімвалізуе шчасце кахання і пяе гімн маладосці.

О, мой коласе ясны! Прыяцель кахання,
Ты ўмела бярог маладыя прызнанні
І спрыяў нашым марам і нашым настроям,
Калі першы я раз паявіўся тут з ёю.
І прайшлі парыванні, як ціхія цені,
Але я ў іх не кіну ніколі каменнем, —

Што было, то было — адракацца не трэба, —
А тым больш што расло яно ў шчырасці хлеба.

У цыкле інтымнай лірыкі, апублікаванай у зборніку вершаў «Мой бераг», у раздзеле «Трыялеты» ёсць верш, які выразна выяўляе павышаную чуласць паэта да эстэтычнай катэгорыі прыгажосці, увасобленай Творцам сусвету ў вобразе жанчыны. Заўважым асобна, што Бог у вершы Алеся Барскага праігнараваў рабро Адама як магчымы матэрыял для стварэння Евы, а выкарыстаў усё, што прапанавала яму краіна Белавежа:

Цябе стварыў Бог,
калі цешыўся моцна
радасцю нейкай.
З галінкі яловай
даў табе вейкі,
вочы — з азёраў двух сініх,
зубы — з інею,
косы — з саломы пшанічнай,
голас — з песні крынічнай,
сэрца — з бур навальнічных,
душу — з цішы вячэрняй,
не знаючай межаў.
Цябе стварыў Бог
ў салаўінай краіне —
у Белавежы.

Для носьбіта гэтага інтымна-абранага пачуцця каханне адкрывае насцеж свет, і паэт выкарыстоўвае традыцыйныя ў сусветнай любоўнай лірыцы і ў любоўных народных песнях вобразы: «Глянь на кветку зацвіўшую, колькі шыры у кожным пялёстку». Кожнае імгненне, якое ілюструе дынаміку і драму пачуцця, закаханы лірычны герой спяшаецца зафіксаваць у слове. Пры гэтым ён яшчэ намагаецца ўкласці ўсю глыбіню сваіх сумненняў і трывогі ў абмежаваную мовай колькасць магчымых рыфмаў і вытрымаць строгія правілы версіфікацыі. Але неўзабаве здараецца падзея, якая ўсё змяняе, і ўжо на дапамогу разгубленаму творцу прыходзіць свабодны верш:

Добра памятаю тую ноч,
калі сказала ты:
нас ужо трое, а не двое,
і узяла маю руку…
І я пачуў ціхуткі стукат.
Сын ці дачка?
Мы не ўмелі адказаць,
ды пэўным сталася адно,

што наша шчасце падапрэ
малая трэцяя калона.

У лірычным маніторынгу пачуцця знаходзіць сваё вербальнае адлюстраванне ўся ці амаль уся вядомая навуцы атрыбутыка кахання: асаблівы арэол яго носьбіта, які выяўляецца ў надзвычайным душэўным уздыме і радаснай афарбоўцы светаўспрыняцця; яго адкрыццё самога сябе, раней невядомага і загадкавага; здзіўленне перад багатым унутраным светам каханай жанчыны; складанасць душэўнага жыцця і непрадказальнасць пачуццяў, настрояў, фантазій, думак закаханай пары:

Хавайся за дрэвамі ў пушчы,
я буду лавіць цябе ў лесе,
як птушка шукае і ловіць
першы вясенні промень.
Знайду я цябе ў крушыне,
а можа, у зялёных малінах,
або пад залётнай рабінай.
Схаплю, панясу, нібы сонца,
трапяткое,
пахучае
цёплае.

Каханне ўнікальнае, і парушае «закон натуры». Закаханыя з самага пачатку шукаюць любую магчымасць абысці гэты «закон».

Мы дарогу свайго кахання
закруглім у кола
і будзем ісці па ім безупынна,
каб не дайсці да канца і краю,
і так ашукаем суровасць натуры.

«Закон» патрабуе «простых праўд», «лёгкіх праўд», а жыццё падказвае: «У слове можа быць і таямнічасць і загадка». У цыкле інтымнай лірыкі Алеся Барскага, апублікаваным у літаратурным альманаху «Белавежа», мы сустракаемся з выпадкам, калі перад намі — «голая праўда», паэтычны «эрас». Калі альбомная лірыка, адрасаваная аднаму чалавеку, падкрэслена інтымная, і нават у кожным вершы называецца імя адрасата.

А тое ў свеце дзіўнае,
Вясною зноў сатканае,
Так калярове і габеліннае,
І незабыўнае, і пажаданае
Маё і Нініна.

І чым мне жыць
Тут на самотным востраве,
Надзеяю ці ўспамінамі?
Тупыя болі, болі вострыя
За Нінаю.
Без Ніны я і з Нінаю.

У такім выпадку прасцей за ўсё прыгадаць Дантаву Беатрычэ, Петраркаву Лауру, Міцкевічаву Марылю, Багдановічаву Вераніку, Тычынаву «панну Інну». Аднак зробім спасылку на сучасных філосафаў, якія з вышыні філасофскай думкі лічаць, што антытэза ахвярнай хрысціянскай любові, жорстка супрацьстаўленай любові зямной, саступае месца мадэлі, якая сцвярджае ідэю адухоўленай зямной любові, дзе феномен хараства разглядваецца як свячэнне боскай ласкі Творцы ў тварэнні, тым самым легалізуючы паняцце «цялеснасці», надаючы яму асаблівую сімвалічную інтэрпрэтацыю.

У Алеся Барскага зямное каханне непарыўна звязваецца з імкненнем да ведання ісціны і ісцінных ведаў, з мужнасцю не закрываць вочы на наяўнасць вышэй згаданай разарванасці нябеснага і зямнога, духоўнага і фізічнага, сакральнага і прафаннага, якая з'яўляецца ўсяго толькі вынікам еўрапейскага рацыяналізму з яго падзелам душы і цела.

Ты была, як гронкі вінаграду,
З сонцам, з вераснёвай прагай.
Ты была, як ветраная радасць,
Не хапіла мне тады адвагі.
І не стала ты маёю;
Вінаграды расплыліся недзе ў далі,
Лістапады застагналі над зямлёю
З жалем.
Колькі ж у жыцці памылак робім?
Смеласці то мала, то замнога,
І сабе, як ворагі, мы шкодзім,
Вінаграду не бяром зямнога.

Пасля ўсяго сказанага натуральна звярнуцца да перспектыў беларускага шляху і паслухаць мудрае слова паэта і празаіка Алеся Барскага (падзяляем, як гэта рабілі пісьменнікі пазамінулага стагоддзя, напрыклад, Адам М-скі) і жыхара белавежскага культурнага цэнтра Афіны Аляксандра Баршчэўскага:

«А што да перспектыў еўрапейскіх народаў, дык думаю, што прайграюць тыя, хто апалагетычна адносіцца і моліцца да свайго мінулага, як і тыя, хто адносіцца да яго пагардліва. Краіна, у якой мёртвыя акрэсліваюць ідэалогію для жывых, таксама мёртвая, як і тая,

у якой можна крытыкаваць мёртвых, але нельга крытыкаваць жывых. Рамантызмы, шавінізмы, фанатызмы і месіянізмы трэба адкінуць і ісці па шляху заходніх дзяржаў, гэта значыць па шляху дысцыпліны, адказнасці, працавітасці і ахвярнасці, якія вядуць у будучае, а не ў мінулае».

Набытыя на працягу ўсяго жыцця, напоўненага інтэнсіўнай і надзвычай плённай інтэлектуальнай дзейнасцю, вялікі прафесійны вопыт і апрабаваная ў складаных варунках мудрасць Аляксандра Баршчэўскага непазбежна выявіліся ў яго афарызмах і мудраслоўі, як напрыклад наступных:

«Мы, беларусы, павінны вучыцца творчага нацыяналізму ў палякаў. Калі навучымся — не згінем як нацыя, калі не навучымся — згінем»;

«Трэба рашуча адкінуць той культ, які выступаў у СССР на працягу 70 гадоў, — культ убоства. Павінна быць наадварот, трэба развіваць культ заможнага і багатага чалавека. Адным словам, як найменш наіўнага рамантызму і як найболей рацыянальнага пазітывізму»;

«Калі хочам, каб нас у свеце шанавалі, мусім шанаваць самі сябе і не можам чужое кахаць, а сваё ненавідзець»;

«Кожны народ сябе пракорміць і пражыве. Пражыве і пракорміць сябе таксама народ беларускі. Яго імкненне да незалежнасці разумнае. Аднак мусім сабе ўсведаміць — незалежнасць пойдзе па вельмі цяжкіх дарогах. І таму нельга абяцаць беларусам лёгкага жыцця, а трэба абяцаць жыццё годнае»;

«Народ, які не мае ў сабе здольнасці абараніць свой уласны нацыянальны твар, сваю існасць, сваю тоеснасць, не заслугоўвае на існаванне. Памятайма аб гэтым і баронім тое, што яшчэ абараніць можам».

Рыцарскі кодэкс нацыянальных паводзін свядомага беларуса ў свеце быў выкладзены ў свой час Ядвігіным Ш., які пераклаў на беларускую мову лісты мараўскай суполкі «Яднота», разасланыя братам-чэхам, дзе былі па пунктах пазначаны правілы, выкананне якіх у штодзённай жыццёвай практыцы дапамаглі чэхам зрабіць усё магчымае «для ўзросту свайго краю». А. Баршчэўскім ужо ў наш час быў апублікаваны поўнасцю тэкст, названы «Дзесяццю загадамі для памяці» і выдадзены ў Заходняй Беларусі ў «Беларускім календары» за 1922 год. Пры гэтым у заключэнні было адзначана, што «прычыны, якія выклікалі 60 гадоў таму назад напісанне такога дакумента, па сутнасці, і сёння не згінулі, а мода, і ўвогуле не змяніліся».

Свой кодэкс нацыянальных паводзін у свеце прапануе ў сваім жыцці і творчасці і пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч Аляксандр Баршчэўскі.

*Міхась Тычына*

## БЕЛАСТОЦКІ КРАЙ

Мой Беластоцкі край — мая Айчына!
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю лясы твае, люблю даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.

Калышашся ў напевах песні роднай
І мыеш твар у промнях залацістых,
І толькі тут я поўнасцю свабодны,
І толькі тут душой заўсёды чысты.

Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас — мая адвечная павіннасць
І вернасць матчынай спрадвечнай мове.

Шасціць калоссе у палях шырокіх,
Бурліць крыніца песняю адвечнай,
Звініць нядзельны звон з царквы далёкай,
На роднай Беласточчыне я вечны.

Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным
Я вольны тут, душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны.

## НАРАЧ

*Максіму Танку*

Мне Нарач сінім вокам не міргала,
Слядоў я не пакінуў на пяску азёрным,
Не бачыў яе буйных неўгамонных хваляў,
Што канулі ў бяздонне светаў зорных.

І рыбакоў не бачыў барадатых,
Узросшых на празрыстых водах.
І не знаёмы мне бунтарны дух па хатах
У крыўдныя былыя годы.

А ўсё ж такі я ведаю ў дэталях,
Чым славіцца і славілася Нарач.
Не раз я акунаўся ў яе хвалі
Ў салодкіх сэрцу думках-марах.

Разблытваў з рыбакамі сеці,
Каб хлеб іх есці не задарам.
І з думкамі аб лепшым свеце
Я разам з імі гнаў жандараў.

Цудоўны кут краіны роднай,
Людзей, прыроду, вечары і ранкі
Знайшоў у гордай і свабоднай
Паэзіі Максіма Танка.

*1959*

## БАЛАДА ПРА БІЗУН

Сцяна ў памешчыцкім пакоі
Глядзіць традыцыяй стагоддзяў, —
Хтось клапатліваю рукою
Праславіў панскае адроддзе:
Партрэты — шэраг продкаў слаўных,
Двухстволка, шабля, рогі лося,
І габелен з узорам даўнім,
Карціна, а ў карціне — восень.
Далей — сляды ліхіх завеяў,
Паходаў слаўных і суровых:

Вісяць ваенныя трафеі
Дзесь з-пад Смаленска, Мінска, Пскова,
І герб вялікі — славы сімвал,
Традыцый векавых адзнака,
І скрыпка, што спявала гімны
Або вучыла хаты плакаць.
І пад усім пад гэтым збродам,
У месцы зручным, ганаровым
Вісеў на розныя нагоды
Бізун раменны адмысловы:
Казіна ножка ў чорнай скуры
І бічык — бізуна істота.
Напіўся, чортава натура,
Сялянскіх слёз, крыві і поту,
Змяёю поўз, ахвяр знаходзіў,
Глядзеў ён з-за халявы панскай,
Ішоў праз цэлыя стагоддзі,
Ішоў ён па хрыбтах сялянскіх,
Перадаваўся бацькам сыну,
Перадаваўся панам пану
І стаў падпораю краіны,
Яе эмблемай, талісманам.
З яго прадажным гнуткім целам
Сумленне панскае зраслося, —
Ім шчасце доўга зіхацела
(«Эх давялося, эх жылося!»).
Змянілася нарэшце штосьці,
Настала новых спраў багата,
Сышоў на свет жаданым госцем
Год пераможны сорак пяты.
І першы раз выпраставаны,
Зламаўшы звычаі і нормы,
Прыйшоў мужык, прыйшоў да пана,
Прыйшоў з зямельнаю рэформай.
Пан ашалеў, рукою пэўнай
З сцяны сарваў бізун старэчы
І паласнуў маланкай гнеўнай
Апошні раз халопу плечы.
І зноў павіс над селянінам
Параграфам часоў прыгону,
Але не змог паўторна рынуць
На галаву змяёй шалёнай,

Бо рук дзясятак спрацаваных
Зваліў тут пана на падлогу.
Хлябнулі ўрэшце плечы пана
Смак горкі бізуна-батога.
Бізун свістаў на панскім целе,
Пасля прабег па тварах продкаў,
Яго удары звонка пелі
Фінал ідыліі салодкай.
І, кінуты сялянскім гневам,
Да пана лёг, як знак няволі,
Упаў з апошнім свістам-спевам,
Каб не узняцца больш ніколі.
І словы моцныя, як вецер,
Зляцелі з вуснаў селяніна:
«Хто ходзіць з бізуном па свеце,
Ад бізуна павінен згінуць!»

*1962*

## ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

Цішыня. Заснулі вуліцы і плошчы,
Горад, нібы востраў, патануў у змроку.
Стомлен мітуснёю, бегатнёй і працай,
Патануў да рання ён у сне глыбокім.

Вокны на каменні бляскі скупа сочаць.
Скарына схіліўся над лістом паперы.
Невымоўнасць веры напаўняе вочы,
Кніга ў роднай мове радасці не змерыць.

І дрыжэннем шчасця сэрца яго поўна.
Беларусь, суседзям ты даеш парадак!
На ўсход, на захад, поўдзень і на поўнач
Пойдуць падарожнай кнігі экземпляры.

І глядзіць пяшчотна на рады адбітак,
З вылажаных кніжак на шырокай лаве:
«Звыклым людзям кнігі прынясуць пажытак
І краіне роднай павялічаць славу».

Ноч ідзе. Заснулі брукі, тратуары.
Горад пакрывае змрочнай світкай ціша.

Толькі у друкарні трудзіцца і марыць
Сціплы і вялікі — Скарына Францішак.

*1962*

## МАЦІ

Твой твар быў сонцам
Над маёй калыскай,
Якое я кранаў рукою,
Якому прыглядаўся блізка.
Твой твар, як ветразь,
Над маёй калыскай
Вадзіў мяне
У мора казкі,
Вадзіў мяне у мора ласкі
І зноў вяртаў мяне у прыстань.
Твой твар
Быў над калыскай небам,
Небам зялёнага прадвесня.
Твой твар быў хлебам
І быў песняй.

*1965*

## ВЯРТАННЕ

*Ваську Баршчэўскаму*

Ці калосіцца ў сэрцы тваім яшчэ поле,
І ці Нарва бяжыць праз яго у туманы,
Ці усходы ліпнёвыя душу няволяць,
Ці яе прыкрываюць зялёным дыванам,
Ці яшчэ памятаеш вясеннія ночы
І дзяўчаты на прызбах, ахутаных песняй,
Ды іх сінія, чорныя, шэрыя вочы,
Ад якіх было сэрцу у грудзях зацесна?
Ці яшчэ памятаеш з сялом развітанне
І смутак, заціснуты ў маці далонях,
Ці вабіць цябе яшчэ сцежка вяртання
Пад ціхія стрэхі, на родныя гоні,

І ці родная песня цябе прыклікае —
Такая далёкая, шчырая-шчырая,
Ці не кліча цябе, ці у сне не гукае:
— Давай падамося у сельскія выраі?
А што, каб вярнуцца, мой браце, мой дружа,
Каб вызваліць сэрца з-пад горада пяты,
І ў беларускі адзецца зноў кужаль,
І жыць пад страхой саламянай той хаты?!
Вядома, што гэта усё немагчыма,
Бо скошаны колас не вернецца ў поле...
Ды справа у тым, каб мы голас Радзімы
З душы не прагналі ніколі! Ніколі!

* * *

Майго дзяцінства і юнацтва
не аддзялялі боты
ад зямлі,
не аддзялялі ад праменняў,
і ад каменняў,
і ад росаў,
бо ў дзяцінстве і юнацтве
хадзіў я босы.
Таму ў маіх нагах,
руках і галаве
ёсць сокі роднай глебы
і пахі хлеба,
і водар лугу,
і вільгаць Нарвы,
і вільгаць Бугу.
Усё з зямлі я ўвабраў
у сваю кроў,
калі хадзіў без ботаў
сярод палёў,
сярод вясны і лета,
калі хадзіў сярод людзей,
дзе кожны ў душы —
паэтам.

*1965*

## ПАДЗЯКА АЙЧЫНЕ

Лясы твае, як загадкі,
імя якім — невядомасць
імчышся ў даль — неразгаднасць
і маніш трывожнай надзеяй.
Лебядзіцца крыламі сэрца ў лёце.
Дзякуй, Айчына!

Сялянская кроў у жылах
з пахамі глебы,
з пахамі скібы
струменіцца промнямі сонца.
Дзякуй, Айчына!

Ты разумееш роднага сына,
калі ён шукае аховы,
жадаючы ласкі-пяшчоты,
далоняў тваіх працавітых,
далоняў тваіх несмяротных.
Дзякуй, Айчына!

Даліны, узгоркі,
зялёныя нівы
і дрэвы, і хаты, і людзі,
і мова, і песня, і мроя,
і радасць, і смутак —
хлеб наш надзённы.
Дзякуй, Айчына!

Зарой незаменнай,
зарой пуцяводнай
дарогі нам крэсліш
да шчасця і праўды,
надзеі і волі.
Дзякуй, Айчына!

Ты навучыла мяне,
што, ідучы да суседзяў,
нельга з сабою несці камені,
а толькі пашану і шчырасць.
Дзякуй, Айчына!

Іду я маленькі
у край летуценняў,

іду я дарослы шляхамі змагання,
іду я старэчы дарогай сумнення
пад крыжык сасновы.
І добра мне ў сэрцы,
бо чую, што кожны твой шлях —
гэта шлях неабходны
і шлях справядлівы.
Дзякуй, Айчына.

Гляджу ў твае вочы з надзеяй,
Дабрэю,
і смутак болей не смутак,
далёкае блізкім мне стала,
абняў неабдымнасць.
Ці ж гэта не шчасце,
ці ж гэта не радасць для сына?
За ўсё гэта ў час нараджэння,
за ўсё гэта ў час маладосці,
за ўсё гэта ў момант канання,
шчыры дзякуй, Айчына!

*1965*

## БЕЛАВЕЖАНКА

Цябе стварыў Бог,
калі цешыўся моцна
радасцю нейкай.
З галінкі яловай
даў табе вейкі,
вочы — з азёраў двух сініх,
зубы — з інею,
косы — з саломы пшанічнай,
голас — з песні крынічнай,
сэрца — з бур навальнічных,
душу — з цішы вячэрняй,
што не знае межаў.
Цябе стварыў Бог
ў салаўінай краіне —
у Белавежы.

*1965*

* * *

Расклявалі сонца пчолы
і носяць у вуллі.
Кожная цягне пахучы промень,
звініць танкаструннай
мелодыяй згоды.
Шчасце ў пчаліных далонях.
Чаруюць у келлях-святынях.
Сонца становіцца мёдам
і напаўняе соты —
колькі ж карыснай работы!
Малюся:
— Дай, неба, пагоду,
дай сонца пчолам,
дай пчолы лету.
Больш будзе мёду,
больш будзе паэтаў.

*1965*

* * *

Конь, плуг і я
у баразне адной
кладзем да сонца скібу,
расхвалявалі грунт
жалезным плугавым нарогам.
Плывем беспераменна
ад лугу да дарогі
і ад дарогі к лугу.
І пахне конскі пот
мне ўраджаем плённым.
Я забабонны,
веру у прыкметы —
веру найгоршаю вясной,
што добрым будзе лета,
што хопіць працы косам,
веру лёсу.

*1967*

* * *

Селянін, як тварэц,
задумёна,
натхнёна
ідзе па загонах.
У правай руцэ
жыватворнасць — зярняты,
рассыпае ў раллю
ён пшаніцу.
Палымнеюць надзеяй,
як іскры над горнам,
зёрны,
зёрны,
зёрны.
Хто знае трывогу сяўбы,
той ведае жніва раскошу,
хто хоць раз у жыцці
у расчуленай жмені
песціў пакрышаных промняў
абломкі — зярняты,
хто сеяў у скібіны сонца,
трывожна чакаючы ўсходу праменняў
зялёных,
імклівых,
няспынных,
той ведае вартасць
хлеба,
песні,
Айчыны.

*1967*

* * *

Дзесь далёка за мною сяло,
дзе калыску дашчэнту праплакаў,
там чакае мяне жнівень слоў,
паэзія — верны сабака.
Тры бярозы, як ветразі тры,
ў хвалі жыта закінулі якар:

я прыходзіў да іх на зары
то пакутнікам, то зноў гулякам.
Белавежа!
Ты мой акіян,
апускаю пяро, як вясло,
з гарадоў да цябе плыву я,
каб сабраць ураджай —
жнівень слоў.

*1967*

* * *

Цягнік бяжыць усё хутчэй,
усё далей, усё шпарчэй,
і колы рытмы моцна б’юць,
і толькі сум,
і толькі боль,
і толькі жаль
не адстаюць
і ўсё бягуць за цягніком,
не гінуць з сэрца
і з вачэй
і шэпчуць, шэпчуць
мне злавесна:
— Не уцячэш,
не уцячэш,
не уцячэш, —
з двух слоў бязлітасную песню.

*1967*

* * *

У бялізне імглы,
разасланай між вішнямі,
жыта заснула
сном справядлівых.
Жыту прысніліся
пуні зацішныя
і сялянскія рукі шчаслівыя.

Глянь, як разам жыве яно,
разам канае,
упаўшы ад косаў
на твар і на грудзі.
О, выйграй радасць
у струнных сцяблінах
і выгадай шчасце
у сонечных зернях
і навучы ты кахаць
нас Айчыну.
Улі ў нашы сэрцы
ёй вернасць.

*1971*

* * *

Конь, нібы бог,
такі просты і дужы.
Маліся, мастацтва,
да цнотаў кабылы,
каб плуг пацягнуць —
трэба мець, мабыць, мужнасць,
не толькі звычайную
конскую сілу.
Каб конь быў царом,
а кабыла царыцай —
войны не сеялі б
смерці над светам,
зямлю пакрывалі б
авёс і пшаніца,
і гімны на межах
спявалі б паэты.
А нават калі б
і здараліся культы
ці іншыя вывіхі,
хібы і здрады,
дык коням-царам
за цярпенне іх мультум
паэты прабачылі б
іхнія вады.

Дык лезьце, кабылы,
у царскія троны,
у здымкі, у фрэскі
дварцоў і капліцаў.
Ямчэй мне маліцца
да конскай іконы,
чымся да бронзы
двухногага гіцля.

*1971*

* * *

Глянь назад:
як далёка усё!
Больш не будзеш ніколі,
ты ўнукам,
больш не будзеш ніколі
ты сынам.
Не прарок я,
ды прарочу сваім аднагодкам,
што хутка
пераробіць нас час
з нашчадкаў
у продкаў.

*1971*

* * *

Стаіць-маўчыць,
стаіць-шуміць,
глядзіць удаль,
як вартавы.
Ніхто яго не разгадаў.
Стаіць філосаф векавы
на ўзгорках і ў лагчынах,
увесь, ад ног да галавы,
адданы сын Айчыны.

*1971*

* * *

Давай адкрыем клеткі
каб птушкі з іх ляцелі ў шыры
і знімем ланцугі
з сабачых шыяў
адчынім дзверы
турмаў палітычных
платы развалім
на дзяржаўных межах
распусцім арміі
і партыі распусцім
хай цэлы свет уп’ецца воляй
і хай ад шчасця будзе п’яны
і рады так
як я ў палоне у каханай

***1971***

* * *

Ты выйшла з сукенкі
і агалілася
як колас выходзіць
з руні у маі
як ліпа з імглы выплывае
і рукамі імглістую сукню
спіхае з плячэй да ступеняў
і топча нагамі у травы
ты выйшла з сукенкі
як месяц з аблокаў
і прыйшла да пасцелі
як конь падыходзіць
да сена
і больш я не бачыў нічога
бо стаўся ад шчасця
асляпленым Богам

***1971***

* * *

У гэтую чорную ноч
усё для нас сталася белым
праз нашу трывогу
плылі і аблокі і сонца
і птушкі на рукі нам селі
і звер падышоў палахлівы
прытуліўся да нашага шчасця
у гэтую цёмную ноч
усё для нас сталася ясным
адышлі лістапады
прыйшло дзесяць маяў
бо слова тваё
майму слову сказала
кахаю

*1971*

* * *

У гэтай вялікай майстэрні,
якая завецца полем,
дзе сонца разцамі праменняў
разьбярыць калоссем твары.
Я вольны!
Я мару!
Вось тут у палетку свабода
і абавязак, і шчырасць,
і дружба калоссяў кроўная.
І сонца,
і ветру,
і глебы
заўсёды ўсім пароўну.
Вазьмі раздзялі ты шчасце
на так ідэальныя долі,
як дзеліць яго між калоссяў
поле.

## ТРЫЯЛЕТЫ

*

Няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
Але назад не прыйдзеш болей,
Загінеш недзе ў чыстым полі.
Няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
Ды кожны скажа, што ты — злыдзень,
Мана не дасць шчаслівай долі.
Няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
Але назад не прыйдзеш болей.

*

Усё жыццё я расцвітаў,
Але квітнець не давялося,—
З вясны я скочыў проста ў восень.
Усё жыццё я расцвітаў,
Ды летняй радасці вітаць
Ніколі мне не давялося.
Усё жыццё я расцвітаў,
Квітнець мне так і не ўдалося.

* * *

Мой сябра тут са мной —
Велікадушны жнівень.
Ён збажыну
Сабраў з палёў,
Сюды прыйшоў
На адпачынак.
І ён, і я
Вясёлы і шчаслівы,
Ачышчаны з грахоў і він аў.
Накрыў нас лес
Зялёнаю папахай,
І адпусціў грахі,
І прычасціў жывіцай,
Прагнаў надоўга

Боязі і страхі
І падпаіў крыштальнасцю
З крыніцы.
Ідзём, як анёлы,
З паднебнага вянчання,
Аддаўшы Богу божае,
А чалавеку ўсё людское,
І п’ём блакіт
Вячэрняга змяркання,
І ўсё ў нас добрае
І маладое.

* * *

Мне сніцца малінавы звон,
Валошкавасць зорак высокіх.
Мой край — гэта ява і сон,
І блізкі ён мне, і далёкі!

Трывогу нашу я ў сэрцы:
Зрабіў для Айчыны так мала
І сёння гатоў памерці,
Каб толькі яна існавала!

* * *

Над вадою схіліліся
Вербы-літанні.
Ціша ў цішы,
Гранне у гранні.
Усё сёння далёкае
Блізкім мне стала,
Цябе мне замала
І свету мне мала.
У вербах і ў нас
Тое ж самае гранне.
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні.
Вербы пачуццяў,

Вербы жаданняў —
Вербы сумоты
Глыбокай, глыбокай,
Вербы дзяўчыны
Маёй сінявокай.
Вербы, як крылы
Анёлаў журботных,
Вербы спакойнага
Вечнага лёту.
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні —
Ціша у цішы,
Гранне у гранні.

* * *

Баронячы сябе,
Баронім свет вялікі.
Прабач, бацькоўскі край,
Шырокі і прыгожы,
Не раз я там маўчаў,
Дзе трэба было крыкам
Крычаць на тое,
Што табе варожа.
Прабач і ты мне, слова
З матчыных глыбіняў,
За абыякавасць маю,
За малавернасць.
Ці згінем мы з табою,
Ці не згінем,
Ці твар сваёй зямлі
Да сонца мы павернем?
Баронячы сябе,
Нянавісці не сеем:
Няхай жыве сусвет,
Свабодны, як нядзеля;
Хто хоча жыць,
Павінен меці надзею,
І адпачне ён так,
Як сам сабе пасцеле.

* * *

Мой тапаліны свет
Наднарвянскі далёкі,
Ты ўсё бліжэй, бліжэй,
А я ўсё адлеглей.
Я дзякую табе,
Бо ты мне даў шырокасць
І здольнасць захаваць гады,
Якія збеглі.
А я з цябе магу браць прыклад
І вучыцца
Адкрытасці, пашаны
Прыгажосці ў свеце.
Як трэба, дык кахаць,
А калі трэба — біцца
І ў гербе мець, як ты,
Заўсёды сонца й вецер.

* * *

У зялёнай калысцы з лугоў,
Прыкрытай блакітам высокім,
Сярод дрэў — гаманлівых багоў —
Я рабіў свае першыя крокі.
З маткай крок,
З бацькам крок
І далей...
Ласкай маці і сонцам сагрэты,
З кожным днём
Усё смялей і смялей
Пачынаў я шукаць сваёй мэты...
У калыску не вернемся больш,
Расплывёмся у свеце шырокім,
Панясём свой вясковы боль
Глыбокі.

* * *

Паклон прыміце,
Сосны,
елкі
і бярозы
Ад белавежскіх дрэў,
Нагрэтых цёплым жніўнем,
Ад нарвенскіх маіх
Ракіт і лозаў,
Ад беластоцкіх ветраў
І ад ліўняў.
Я мірны пасланец,
Прыходжу ў Іслач з песняй,
Сяброў шукаю
Шчырых і адданых,
Кажу, што слову роднаму
У маім краі цесна,
З гаспадара
Становіцца яно падданым,
Але надзея нас
Ніколі не пакіне
І слову аддамо
І сны свае, і явы.
Дазволь, Айчына, жыць,
Для беларускай справы.

*1988*

* * *

Ад сонца я тут
Залацісты,
Ад сосен я тут
Зялёны,
Ад рэха я тут
Галасісты
І ад красы
Палонны.
Не, не хачу я волі,
Не прагну я

Панавання,
Надыхаўся ўдосталь полем,
Цяпер — у лясы заглянуў,
І люба стацца
Мне братам
Бранзаногіх сосен высокіх,
І елак
Густых, кашлатых,
І белых бяроз
Адзінокіх.
Дружбу прыношу вам,
Дрэвы,
І вашай дружбы жадаю,
І прагну Іслачы спевы
Занесці да роднага краю.

*1988*

* * *

Тут задуменне елак,
Тут таямнічасць зорак.
І чую, як разумнею,
І чую, як здаравею.
Лесе, мой браце зялёны,
Трымай мяне ў палоне.
Выходжу я на паляну
І чую, што крыху п’яны.
Сосны вітаюць веццем,
Не, не хачу цверазець я.
Я ў прыязнай краіне
І братам я тут, і сынам.
Як жа мне не напіцца
Водару, соннай жывіцы!
Далёка Варшава і Вісла,
Мой новы дом — гэта Іслач.
Трымаю радасць у жменях,
Запускаю ў зямлю карэнні.

*1988*

* * *

Гэта чужое
Мне роднае,
Блізкае і арганічнае.
Як у сябе тут
Свабодны я,
П’ю звонкае тут,
П’ю крынічнае.
І чую, як верш мой
Дабрэе.
Напіўшыся звонкасці
Сіняй,
І старасць мая
Маладзее
Ў Іслачанскай краіне.
Як добра,
Што ў госці прыехаў
Да роднага,
Не да чужога,
Лаўлю тут
Сасновае рэха
І ўспаміны былога.
Нясу ў свой верш
Адгалоссе
З Радзімы
Шырокіх прастораў,
Дорыць колеры
Ранняя восень,
Выйшаўшы
З цёмнага бору.
Не, не ў чужых я —
У родных,
Хаця і з суседняй
Краіны,
Толькі ў праўдзе
Свабодны,
Толькі ў шчырасці
Усясільны.

*1988*

* * *

Твой дотык,
Як лазер.
Салодкасцю
Цела маё прабівае.
І я станаўлюся
Антыматэрыяй.
Яшчэ і яшчэ, Дарагая,
Прабівай маю шэрасць
Промнем сваім каляровым,
Хай стануся
Касмічным я пылам.
Пакінь ва мне
Толькі тры словы:
«Кахаю, цябе,
Мілая».

* * *

Дзе тыя Бандары?
Пытаць усё жыццё
Я буду.
У іх мой бацька жыў
І мая маці.
О вечныя распяцці
І скрыжаванні!
З усіх маіх жаданняў
Хай споўніцца адно:
Маё акно у сад,
Мой язмін пад акном.
Матчыныя вячэрнія малітвы.
Не прагну багатні па свеце,
Ні медалёў,
Ні ўзорчатых дыпломаў.
Усё аддаў бы я,
Каб толькі мог сказаць,
Вярнуўшыся
З чужых дарог:
— Ізноў я — дома!

*1988*

* * *

Бандары для мяне
Аграмаднай Варшавай,
А я ў Бандарах
Малы і вялікі.
Там вецер прыклічу,
Здзьмухну пажар сонца,
І з хмары зялёнай
Пахучага сена
Спраду верш.

*1988*

## НА НОВЫ ГОД

Зазвінелі ў полі віхры і завеі,
Рассцілае студзень белыя абрусы;
Колькі з нашых планаў, думак і надзеяў
Прыняслі, сябры, мы роднай Беларусі?
Край айчынны родны, белыя абшары,
Дрэмле Белавежа, Буг прыкрыўся лёдам,
Колькі ж тут прасторы пошукам і марам!
Дзейнасці карыснай для свайго народа.
Як жа патрабуе дапамогі СЛОВА
З матчыных, адвечных, казачных глыбіняў,
Чым ты, беларусе, без айчыннай МОВЫ?
Без яе ты вечным марнатраўным сынам.
Захавайма тое, што на землях нашых
Ад вякоў расло тут, ад вякоў тут спела,
Хай квітнее СЛОВА-РАДАСЦЬ на Падляшшы
Ў песенным матыве, у палёце смелым.
Ушануйма дружбу, ушануйма згоду,
З сэрцаў нашых злосці за лясы прагонім,
Да суседзяў блізкіх, да чужых народаў
Працягаем сёння нашыя далоні.
Новы год прыходзіць з новай перспектывай,
Тосты ўзнімаем за жыццё ў міры,
За Айчыну нашу, за лясы і нівы,
За агонь адвечны беларускі шчыры.

*[1988]*

* * *

Блакітны лес
І неба зелень,
Алень чырвоны сонца
Скача ў верхавінах.
Тут многа ўсяго,
А мне хапіла б малавеле
У цёплым закутку краіны.
І я іду спакойна ў даль
Па-гаспадарску,
Пад кожны кусцік зазіраю,
І пахне ціхі вецер
Па-бандарску
У іслачанскім краі.

*1988*

* * *

Сярод лясоў
Пад Іслаччу сасновых
Вяду я гутарку без слоў
Жніўнёвую
З зямлёй, што, нібы хлеб,
Духмяная.
Я селянінам тут
І панам.
Няма мяжы
Між словам і задумай,
Вецер бяжыць
З блакітным шумам,
Вавёркай сонечнай
Па верхавінах скача,
Змяню на радасць
Свае плачы.
Падхоплівае жаль мой сіні вецер.
Каб разнесці
Па шырокім свеце.

*1988*

* * *

Тут хочацца задумацца
Над лёсам,
Падзякаваць
Зямлі,
          нябёсам,
                    людзям
За цішыню,
          за сонца
                    і за зелень,
І за звычайнае лясное зелле.
Не так даўно
Прайшло Купалле
Тут па лесе,
Яшчэ звініць у кронах
Яго песня.
Язычнік я —
Малюся дрэвам,
Каб вечна ў іх
Звінелі спевы
І каб я роўны быў
З казяўкаю ці птушкай,
Каб гушкала мяне
І я каб радасць гушкаў.

*1988*

* * *

Усё маё — тваё
І ўсё тваё маім
Хай будзе,
Каб болей не дзяліць
Таго, што цэласнасць
Стварае,
Бо як жа падзяліць,
Скажыце, людзі,
Слова прасцейшае —
Кахаю?
Яго нам трэба атуліць,

Як вулей атуляюць
На марозы,
Ад злых людзей абараніць,
Каб не было яно мімозай, —
Раслінай той,
Што так прыгожа расцвітае,
Але на некалькі гадзін,
І на гады ўмірае.
Няхай яно квітнее:
Вечна так,
Як неба зоркамі ірдзіцца,
І хай спявае, як спявае птах
Мільёны год па-над крыніцай.

* * *

Прыходзіш да мяне
У снах ты
Каляровых,
І мы ўзнімаемся ўвысь,
Як Ікары ў нябёсы.
Мы — безразумныя
І безгаловыя,
Пакліканы да шчасця
Выпадкам ці
Лёсам?
Глядзім на свет
З блакітных далячыняў
І ўсё на свеце
З чуласцю кахаем.
Чаму не гінем?
А таму не гінем,
Што сувязі не трацім
З родным краем.

* * *

Падружыла маё сэрца
На змярканні
І з сасною,
І з бярозаю,
І з лугам.
Што ж мы вартыя
Без шчырага кахання?
Што ж мы вартыя
Без сябра і без друга?
Прысягаю дружбу верную
Даліне
Той, што ўзгадавала
Шумную дуброву
І мне шчыра сёння
Падвячоркам сінім
Надавала шчодра
Паэтычных словаў.
Вось таму шчаслівы,
Вось таму звінячы
І хаджу па гэтым
Беларускім лесе,
Што тут ні пачую,
Што тут ні пабачу,
Зараз запрашаю
У палоны песень.

* * *

Ты вокны адчыняй
І паглядай у тую старану,
Дзе сонца ўзыходзіць,
Бо я адтуль прыеду
У нашу хату.
Хто бедны ў гэтым свеце?
Хто багаты?
А бедны той, хто ненавідзіць,
А той багаты, хто кахае.
Дык, значыць,

Багацей я,
І больш заможнага
Няма на свеце.
Мая ўласнасць — сіні вецер,
Маё чарніла
З сонечных праменняў
І з чэрвеньскіх блакітаў
Мой пергамент.
Пішу лісты табе
На ім,
На ветрах,
На каменнях —
Амэн!

* * *

Тут кожная сасна
Сонца ў руках трымае
І нам яго, як хлеб,
Гасцінна дорыць,
Ідзём і цешымся,
І забываем,
Што ёсць на свеце гора.
І верым добрым чарадзеям,
Прыхільным і зычлівым
Гномам,
Чаго не ўмелі ўчора,
Сёння тут умеем,
І гэты лес становіцца
Нам домам.
Зацерлі мы мяжу
Паміж магчымым — немагчымым,
Трымаем сонцы цёплыя
Пад пахай,
Усё змяніла
Ціхая Радзіма:
І боль ужо не боль,
І жах ужо не жахам.

* * *

Мне цяжка, асабліва
Па начах!
Калі рука замест цябе
Сціскае цемру,
І толькі ты ў вачах,
І толькі ў горкім уяўленні,
Вакол мяне
Снуюцца цені,
І вершы сумныя
Прыходзяць да мяне,
Не веснавыя,
А асеннія,
І толькі дзесь глыбока
Там, на дне,
Дзе, можа, мачатнік
Усіх пачуццяў чалавечых,
Не гасне аганёк
Надзеі вечнай,
Што сэрца
І ўквечвае
І лечыць.

* * *

Запёкся смутак
У маім чаканні,
Ды зерне веры
Не памерла.
Кладзецца часта мне
На сэрца камень,
Журба сціскае горла,
Але не камень
З горкаю журбою,
А толькі зерне
З парасткам надзеі
Мне пазваляе жыць табою
І вершы сеяць
На тым, на радасным

Палетку нашым,
Каханнем узараным,
Дзе глеба з сонечным паддашшам
Лечыць раны.

* * *

І зноў прыплывае
Ка мне задуменне,
І бег стрымгаловы
У думках дахаты.
Ці промнем калючым,
Ці востраным ценем
Я бязлітасна сягоння расцяты?
Мая Незабыўнасць,
Ты з песні і з цішы,
Як веснавая з-над Нарвы
Дуброва,
І песціш, і лечыш,
І чула калышаш,
Да вершаў маіх
Даеш пекныя словы.
А наша расстанне —
Яно толькі момант.
Ён не аддаліць цябе, дарагая.
Я чую у Мінску
Наднарвенскі гоман
І тваю постаць
З вачэй не спускаю.

*1988*

* * *

Калі ідзеш у лес,
Пакораю узбройся
І здольнасць крыку
З сваіх лёгкіх выкінь.
Забудзь, што ўмееш
Бегаць тут і гойсаць,

Свістаць, шумець і гікаць.
І стань падобны да праменя,
Які цалуе
Ствол сасны зялёнай,
Вучыся апускацца
На калені
Перад бярозаю — мадоннай,
Прыпомні ціхія малітвы
Матчыныя за падарожных
І не трактуй жыцця,
Як бітву,
З якой выходзіш пераможна.
Сусвету мы вялікага
Часцінка,
Тваё жыццё,
Як ліст,
Які жыве на дрэве.
Жывеш кароткую хвілінку,
Дык пражыві яе
З малітвай і са спевам.

*1988*

* * *

Спявайце, жнівеньскія сосны,
Хлябнуўшы залацістых промняў,
Прыехаў я сюды
З душою млоснай,
Як пілігрым бяздомны.
Зайшоў у лес, як у святыню,
Паслухаў псальмаў
Чарадзейных
І зразумеў,
Што не загіну
У гэтым краі ціхавейным.
Плыве па соснах пазалота,
Кроны — зялёныя фантаны,
Мяне спавіў лірычны мотак,
Залечыў стрэсавыя раны.
Стаю з сасной,
Як роўны з роўным,

П’ём разам сонечную радасць,
І прыгажосць мне сэрца поўніць
Бурлівым гулкім вадаспадам.

*1988*

* * *

Я, Нінка, твой,
І больш нічый на свеце.
Здаецца мне,
Што я ўладальнік сонца,
Што мая ўласнасць — вецер.
Прыйдзі і палажы
Мне галаву на грудзі,
І паплывем на астравы
Шчаслівыя з табою,
І толькі мы адны
На свеце будзем
Пад сумнаю вярбою
І над вясёлаю вадою,
Там, дзе няма ні зла,
Ні ліхалецця,
Дзе скажаш:
«Толькі я твая на свеце».

*1988*

* * *

Вось рэчанька бяжыць тут
Крокам пакручастым,
Каскад узгорка
З соснамі зялёнымі,
І нечаканы птах
У гушчары зачасціў,
Але замоўк,
Бо жнівеньскі
Не для яго сезон.
Паўлета і паўвосень
Абняліся на ўзгорку,

Яшчэ крык жураўліны
Не крануў аблокаў,
Па-летняму салодка мне
І па-асенняму ўжо горка,
Паўсмутак ціснецца
У краявід шырокі.
І лес мяне ўткаў
Тут у кавёр сасновы,
І сам не ведаю,
Ці стаў я дрэвам,
Ці застаўся чалавекам.
Спяваю песню я
Зялёнай мовай
Людзям, лясам і рэкам.

* * *

Глядзі, беларусе, над светам світае,
І зоры свабоды ў небе яснеюць,
Узыходзіць жаданая воля над краем,
У хаты прыходзіць аб шчасці надзея.

Як доўга чакалі, каб стацца народам
Без горкага, злога чужога прыгону,
Каб вечна хадзіла па краі свабода
І песні спявала над родным загонам!

Ды поўнае шчасце не прыйдзе нам з неба.
Патрэбная праца, напружанасць волі,
Каб кожнаму ўдоваль хапіла тут хлеба,
І кожны палепшыў свой быт, сваю долю.

Яднайся, народзе, і смела наперад!
Жыве Беларусь сярод вольных народаў!
Жыць нельга шчасліва без дружбы, без веры,
Жыць нельга шчасліва без сонца свабоды.

Глядзі, беларусе, світае над краем,
Спыні ты свой сон ды вазьміся за справу.
Мы сёння гісторыю з месца скранаем
І дом свой будуем—дом волі і славы.

*[1991]*

* * *

Падзяліся красою, дуброва,
З тым, што здалёк прыехаў,
Дай з кожнага слова
Паўслова
І з кожнага рэха
Паўрэха.
Я падарункі размножу,
Занёсшы ў бандарскую
Хату,
І зноў адашлю ў Валожын
І Іслач, дзе песень
Багата.
Мне тут радасна,
Мне тут і сумна,
Раблюся тут дзікаватым.
Хтосьці скажа:
Стаў безразумны,
Вызбыўся роднае хаты.
Ды сваёй Белавежы
За скарбы не дам чужому.
Чым стану
Без роднага поля
І без бацькоўскага дому?
Чужым аддавалі
Нямала
І земляў,
І думак,
І душаў.
Усё з-пад чужое навалы
Сёння вызваліць мушу.

* * *

Узнімаюся штодзень
Пад сонца,
Каб убачыць
Цябе, Непаўторная.
Там нішто не бывае шэрае,

Нішто не бывае чорнае.
І бачу істоту праменную,
Трапяткую ў сонечных промнях,
Чароўную і незаменную,
З шарам зямным у далонях.
Як красуюцца
Яблыні ў маі!
Як струменяцца
Срэбрам крыніцы!
Шар зямны
Ты ў далонях трымаеш.
Багародзіца,
Ці Чараўніца?

* * *

Ах, чаму маладзік,
Які толькі ўзабраўся на неба,
З такім сумным сягоння
Аблíччам?
Ці мала прасторы яму?
Ці нябеснага хлеба?
Ці мо зорак ніяк
Не палічыць?
Ён мне братам сягоння
У самотнай нядолі.
І плыву я з усходу
На захад.
Мне б з табою прайсці
Па халодным па полі
Між таемных і ценяў,
І страхаў.
Дарагая мая,
Я за смутак удзячны,
А самотнасць мая —
Гэта крылы для вершаў.
Не хачу я быць першым
У жыццёвай удачы,
Каб толькі ў смутку тваім
Быць мне першым.

* * *

Калі б не стрымгаловасць
Прамінання,
Дык не было б
І вечнага на свеце.
Хаця пярэчыць смерць
Каханню,
У смерць нясе планету
Вецер.
Усе мы верым,
Што не згінем,
Што смерць нас
Не датычыць асабіста.
Купаемся у ваннах
Мрояў сініх,
Каб выглядаць на добрых
І на чыстых.
Бывае свет
Ў абдымках вёснаў,
Бывае свет
Ў абдымках зімаў.
Спяваюць шумна
Мае сосны,
Каб весялей было
Радзіме.
А прамінанне?
Што ж, хай будзе.
Прыйшлі мы, дык мы і адыдзем,
Адродзімся ў наступных людзях.
Жыццё — не смерць,
Жыццё — Вялікдзень.

*25.03.1994*

* * *

Айчына — гэта місія,
А не прытулак.
Таму ты з ёю мусіш дзейнічаць
Да скону.

Хай яна у сэрцы нашым
Выклікае чуласць,
І хай жыве у нашых душах
Яе гоман.
Айчына — вечная арэна
Для адважных.
Для скептыкаў і трусаў —
Месца у запечках.
Яна важнейшая
З усіх найболей важных,
Як лек цудоўны, нашы сэрцы
Яна лечыць.
Таму ты верш пішы
Або пасей ты збожжа,
Чакай з народам восені
І ураджаю.
Гнюсавіць, наракаць
Мы сёння больш не можам,
Калі гаспадары мы
А не рабы у краі.

*4.04.1994*

* * *

Вось ты ізноў пры мне,
Як сонца пры аблоку.
Я абніму цябе далоняй
Цёпласоннай.
Да Бога блізка,
А да людзей далёка,
А вокал нас
Салодкая бяздоннасць.
Ты ні аб чым не думай болей,
Дарагая,
Бо я ўжо ўсё дакладна
Перадумаў.
Няхай гарыць каханне
І ніколі не згарае
У радасці, якая
Развялася з сумам.
Дык паглядзі,

Блакітныя пасцелі,
Каханне наша
Прагне цеснае прасторы.
Як сонца,
Ты змяшчаешся
Ў маім аблоку.
Абое патанаем
У шчаслівым моры.

*22.04.1994*

* * *

Вось і ўсё
Зноў сталася святое,
Бо целы нашы
Пабывалі ў небе.
Як добра, калі споўняцца
Дзве мроі,
Калі ўзарвецца
Плоцевы малебен.
Але у сэрцах шчэ
Гудуць авацыі,
Хаця мы крышачку ужо
Астылі.
Як два анёлы, стомленыя
Працай,
Раскінулі бездапаможна
Крыллі.
І так ляжым,
Салодкая пустэча,
І зоркі пахіліліся
Над нашым ложам.
Хто ж пракляне
Такі секс чалавечы,
Што праяўляецца
У вечным і прыгожым?

*22.04.1994*

* * *

Калі ты нада мной,
Калі ты пада мною,
І сяк, і так,
Усё я апрабую сёння.
Аблок, прыкрыты ў небе
Белаю карою,
І месяц гладзіць даль
Сярэбранай далонню.
А сорам свой пакінулі
Мы у адзенні
І сталі вольныя,
Як райскія два птахі.
Дайшлі мы да істоты
Плоцевых карэнняў,
І адышлі ад нас
Нявольніцкія страхі.
А што там нейкі гаварун
Скажа, што блудзім —
Ну, дык хай на здароўе
Сабе пагаворыць.
Мы ведаем сваё —
Паверце толькі, людзі,
Што мы былі у небе,
Сярод зорак.

*22.04.1994*

* * *

На далонях тваіх
маршчыны — дарогі,
лініі смутку,
надзеі,
кахання.
Па лініях гэтых
дзяцінства маё басаногае
рачкавала ад рання да рання,
да мяне прыплывалі
лебедзі ў змроку,

рукі, напоўнены ласкай,
са смутку красалі песню,
з надзеі красалі казку.
Памятаю зімовы вечар
і ціхі спеў калаўрота,
пах прэлага жыта на печы
і стрэлы марозу за плотам;
з рук тваіх нітка, як промень,
з кудзелі-сонца
бегла няспынна,
з вуснаў жывою крыніцай
струілася песня-быліна
для сына,
для сына.
Памятаю замовы,
сядзеў на парозе,
ахутаны вечарам шэрым,
ты сеяла попел
і сеяла словы
ад страху,
ад жаху,
ад злога, благога —
а я табе верыў.
Памятаю, у поле вадзіла мяне ты
на сцежкі русалак,
валошкі збірала,
букецік вязала з усмешкі.
І слёзы, матуля, твае памятаю —
слёзы ад слоў маіх няпраўдзівых,
учынкаў нягодных.
Сягоння я іншы,
сягоння другі я.
Прабач мне, матуля, мае
учынкі благія,
словы благія.
Прабач мне, матуля, маю
неадказнасць
пастаупкаў дзіцячых,
пастаупкаў юначых,
прабач усё тое, матуля,
што сам я сабе не прабачу.

* * *

Грудзі твае — урачыстасць,
як сад, што зацвіў у нядзелю.
Купалы яблынь
чыстыя, чыстыя,
маглі б Рублёва застрэліць.
А над імі, як крыж Хрыстовы,
анямелы без слова,
збіты з ног смагай,
збіты жаданнем,
слабы каханнем,
сільны каханнем,
раскрыжаваны
над купалам яблынь
танцуюць над дрэвам
анёлы і д'яблы.
Крыжам я рынуў
на купалы — бёдры,
на яблыні — грудзі,
пачуў, што гіну,
крычу:
— Не ратуйце, добрыя людзі.

# З ПАБАЧАНАГА І ПЕРАЖЫТАГА

## АД АЎТАРА

Мабыць, у кожнага чалавека на пэўным этапе яго жыцця паяўляецца жаданне расказаць аб пабачаным і перажытым. Паявілася яно і ў мяне. Тым болей, што маё жыццё прыпала на вельмі цікавы гістарычны перыяд. Давялося мне перажыць даваенную Польшчу, савецкую ўладу ў 1939–1941 гадах, нямецкую акупацыю, Народную Польшчу і дажыць да Рэчы Паспалітай Польшчы.

Адным словам, пяць палітычна-дзяржаўных фармацый уварвалася ў мой побыт.

Належу да людзей, у нейкай ступені раздвоеных духоўна. Раздвоенасць гэта праяўляецца ў тым, што як беларус атаясамліваюся з беларускім народам, а як грамадзянін — атаясамліваюся з Польскай дзяржавай. Зрэшты, усё болей прыхільным позіркам паглядаю на ідэю прыналежнасці да еўрапейскай ці нават сусветнай грамадскасці або, як кажа адзін з герояў Ісака Бабеля, — інтэрнацыяналу добрых людзей.

Амаль як кожны з майго пакалення, пасядзеў у каўчэгу сталінскіх ідэй і прынцыпаў. Аднак выйсці з яго было мне нялёгка, бо, калі памёр тыран, я яшчэ не дасягнуў дваццаці трох гадоў жыцця.

Нягледзячы на ўсю прыхільнасць да ідэі сусветнай грамадзянскай супольнасці, жыве ва мне цэнтрабежная сіла, якая звязвае мяне арганічна з маёй Малой Айчынай — Бандарамі і іх наваколлем. Гэта ж тая зямля, на якой я нарадзіўся, над якой першы раз пабачыў сонца, на якой зрабіў першы крок, сказаў першае слова і напісаў першы верш. Урэшце, з гэтай светлай краіны рушыў у шырокі свет. І не магу да яе не вяртацца, каб зноў прайсці па матчыных слядах, каб падняць грудку зямлі са свежаўзаранай глебы, каб кінуць зерне ў раллю, каб скасіць

першы даспелы колас, каб захапіцца і ўсумніцца. Усумніцца ў сабе, у маім народзе, у сэнсе жыцця, якіх і так не перастану і любіць і кахаць. Прагнуў бы не дзесьці далёка, а ў Малой Айчыне сказаць апошняе сваё слова, апошні раз абняцца з ветрам і апошні раз пацалавацца з сонцам.

Ведаю, што напісанае мною аб пабачаным і перажытым тут, на роднай зямлі, у Бандарах, і ў далёкай Сібіры ды ў Амерыцы, мае для мяне іншую каштоўнасць, чымсьці для чытачоў. Хоць і не чужая мне надзея, што ўдасца мне прыблізіць іх да таго ўсяго, з чым я сустрэўся і што перажыў.

Некаторыя з маіх нарысаў, напрыклад, «Сібірскія балады» былі напісаны шаснаццаць гадоў таму назад. Прызнаюся, моцна хацелася, так, як гэта робяць многія аўтары, сёе-тое змяніць, падагнаць пад сённяшнія крытэрыі, ацэнкі і моды. Не зрабіў, аднак, гэтага, усё засталося такім, як было напісана. Гэтыя рэпартажы паказваюць мяне з 1974-га, а не з 1990 года.

Дарагія чытачы, перадаючы гэту кнігу ў Вашы рукі, прагну аднаго. Хачу, каб яна сталася і Вашай уласнасцю. Каб маё жыццё-быццё ўвайшло хоць на хвіліну ў Ваш свет і сказала: давайце пазнаёмімся, можа, станем сябрамі.

*Мінск, 8 сакавіка 1990 года.*

## АБ ЦЭПЕ І СЯРПЕ

Адна з уласцівасцяў чалавечай натуры — забыванне таго, што прамінула. Зразумела, што ў гэтай уласцівасці ёсць нешта геніяльнае, бо дзякуючы ёй забываем аб тым прыкрым, ліхім або і трагічным, якім неаднаразова частуе нас жыццё. На жаль, многія людзі з тае рэчаіснасці, якая прамінула, забываюць і многае добрае.

Я разумею, што сказанае мною будзе зразумела толькі старэйшым чытачам «Нівы», бо маладыя маюць да ўсяго сваю мерку. Хачу тут звярнуцца да тых, хто памятае даваенную, ваенную і пасляваенную рэчаіснасць. Як тады жылося? З тых часоў можам усе пахваліцца вялікімі жыватамі, якія разбухалі ад бульбы і ад сырога або так званага босага квасу. Не кожная маці магла даць немаўляці ў рот «суслу» — палатняны вузельчык з некалькімі грамамі цукру з пераежаваным хлебам. Але ўжо тады беларусы карысталіся «наркотыкамі». Малых дзяцей, калі яны не хацелі спаць, паілі вываркамі з сухіх макавак. Зразумела, што ніхто не

меў ніякага ўяўлення аб тым, што гэта такое. Зрэшты, дзякаваць Богу, я ніколі не чуў, каб хто-небудзь дарослы зрабіўся ад гэтага наркаманам.

Напэўна, старэйшыя дасканала памятаюць малацьбу цэпам зімою. Дваццаціградусны мароз, дзьме ў клуню вострым снегам шалёны вецер. Пад дзвярыма кладзеш некалькі кулёў, каб паўстрымаць гэтых шаленцаў, але яны знаходзяць сотні дзірак і шчылін, каб уварвацца на ток і залезці пад тваю мізэрную ватовачку. Адзіны ратунак — варушыцца ды моцна лупіць цэпам. Ну і лупілі ад раніцы да вечара. Лічыш снапы, а іх усё многа і многа, абмалочаных жа мала і мала.

Калі, аднак, пасля такой катаржнай работы прыходзіў чалавек дахаты і клаўся спаць, тады, каб заснуць, не трэба было ніякіх параных макавак. Засынаў ён за некалькі дзясяткаў секунд.

Цяпер у мяне ў варшаўскай кватэры стаіць мой галоўны вораг і галоўны эксплуататар — бацькоўскі цэп. Выступаючы па тэлебачанні, паказаў я яго людзям і ўжо не адвёз у Бандары. Няхай стаіць. Маю таксама і бацькоўскія жорны, але пакуль што ў Бандарах. Быць можа, і іх калі-небудзь прывязу ў Варшаву.

Калісьці я гэты цэп паказаў аднаму маладому чалавеку з Варшавы. Паказаў і расказаў аб яго «дзеянні», а той мне шчыра адказаў: «Гэта толькі сведчыць аб дурноце, ці ж нельга было малаціць малатарняй? Малатарні ж існуюць ад пачатку XX стагоддзя!»

Я стараўся даказваць, што не было ў беднага, нават сярэднезаможнага селяніна ў даваенны ці акупацыйны час сродкаў наняць малатарню. А ён мне, на гэты раз ужо не злосна: «То трэба было зарабіць на нейкай будове грошы і малатарню купіць ва ўласнасць!»

Пасля гэтага я перастаў свой цэп паказваць маладым людзям, бо пераканаўся, што ён маладому пакаленню ўжо не аргумент.

Вісіць у мяне таксама матчын серп. Журналіст «Нівы», пішучы аб маім пяцідзесяцігоддзі, прыпісаў мне словы, што я ў 1980 годзе нажаў некалькі дзесяткаў коп жыта. У сапраўднасці я за ўсё жыццё не нажаў болей чым два снапы, рэжучы пры гэтым моцна мезенец. У маёй вёсцы такія разумныя былі мужчыны, што ніколі сярпамі не жалі. Гэта быў занятак выключна жаночы. А я амаль кожны год не жну, але кашу дзясяткі, дзясяткі коп збожжа.

Аднак вернемся да сярпа. Калі я гавару сваім гасцям, што маці сярпом зжынала кожнае лета каля трох гектараў збожжа, дык ніхто ў гэта не верыць, і ўсе ўспрымаюць гэтую інфармацыю

як чыстую ману. А гэта ж праўда! Праўда свяцейшая ад усіх святасцяў і Святынь. Праўда, званая хлебам. Праўда, ад якой залежала ІСНАВАННЕ.

Часта падыходжу да цэпа, але не бяру яго ў рукі. Ён мне страшэнна абрыд, і я яго зненавідзеў. А серп матчын кранаю, праводжу пальцам па вастрыі і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, дабраславёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ.

## АБ МУЧАНІЦАХ

Быць можа, тое, што скажу, не трапіць да свядомасці маладых людзей. Аднак старэйшыя мяне напэўна зразумеюць. Хачу сказаць сёння некалькі цёплых слоў аб той частцы старога беларускага грамадства, якую складалі нашы маці.

Прыгадваю сваё дзяцінства, і заўсёды незалежна ад таго, ці я засынаў, ці прачынаўся, — вочы мае траплялі на маці, якая або сядзела за калаўроткам і прала кудзелю, або ткала, або стаяла каля печы, або нешта шыла.

Не памятаю ніводнага выпадку, каб яна спала або адпачывала тады, калі я быў на нагах. Заўсёды была пры рабоце, пры нейкіх занятках. А што ўжо казаць пра заняткі не хатнія? Усю бульбу садзіла, акучвала і капала маці толькі матыкай (мода садзіць бульбу «пад плуг» у нас паявілася толькі пасля вайны). Жыта і ўсялякую збажыну жала толькі сярпом (косы на поле ў нас выйшлі толькі ў пяцідзесятыя гады). Лён, пачынаючы ад рвання, цераз малацьбу, трапанне, часанне, прадзенне, тканне, праходзіў выключна праз рукі маці. Усё льняное, канаплянае і ваўнянае ў нашай хаце выходзіла з-пад рук маці. Мяшкі, палавікі, дываны, пасцілкі, сеннікі, анучы, кашулі, нагавіцы, летнікі, світкі, абрусы і яшчэ Бог ведае што — усё гэта паяўлялася дзякуючы толькі ёй — маці.

На яе плячах былі таксама ўсе куры, гусі, свінні, каровы і… страшэнны рэлікт каменнай эпохі — жорны. Я ўпэўнены, калі б сёння паставіць пры жорнах двух маладых хлопцаў і загадаць ім намалоць мукі на адзін хлеб сяміасабовай сям’і, дык яны адышлі б ад жорнаў узмыленыя і абражаныя на ўвесь свет. А калісьці вясковыя жанчыны малолі на такія сем’і муку на хлеб кожны тыдзень. Трэба да гэтага яшчэ дадаць немалую колькасць мукі, неабходнай парасятам, кормным свінням, цялятам і г. д.

І яшчэ адна карціна, якую я захаваў у сваёй памяці.

Адносіцца яна да нашых снеданняў, абедаў і вячэраў. Не буду тут казаць, якая гэта была ежа. Аб гэтым могуць расказаць усе людзі майго ўзросту. Калі б сённяшняе маладое пакаленне пачаць карміць такой ежай, дык праз усю краіну паплыў бы такі страшэнны стогн, што, мабыць, дайшоў бы ён і да неба. Але я не аб гэтым, а толькі аб тым, што вясковыя маці, гатуючы ежу, думалі выключна пра дзяцей, пра мужа, а не пра сябе.

Па сутнасці, усё, што варылася і пяклося, вандравала ў вялікай місе і ў патэльні на стол. А там накідалася на ежу з лыжкамі пяці-, сямі- ці нават дзесяціасабовая сям'я. Маці, па сутнасці, ніколі не сядала за стол, чакала ў кухні да таго моманту, як усе наядуцца. Толькі тады яна брала нешта сабе з таго, што засталося на стале або ў гаршку. Але здаралася і так, што не заставалася нічога. І тады таксама маці ішла ўдзень да розных работ або вечарам клалася спаць галодная. На самай справе ўсё жыццё вясковыя маці жывіліся адпадкамі і рэшткамі.

Памятаю я розныя нараканні маці на непаслухмяных дзяцей, на нядобрага мужа, але не памятаю хоць бы аднаго слова скаргі з той прычыны, што не хапіла ёй ежы. Такога права не мела вясковая маці. Гэта яна адказвала ў сям'і за ежу, і да яе можна было мець прэтэнзію. Але такіх прэтэнзій не магла мець яна.

…Прайшло многа часу з таго дзяцінства. Ужо чатырнаццаць гадоў не жыве мая маці. Аднак яе вобраз не зблякнуў і не пацямнеў у маёй удзячнай памяці. Асабліва ў часе бяссонных начэй, а часта і ў снах бачу яе пры кудзелі, дзяжы, жорнах. Бачу незаменную, незабыўную і святую. Мучаніцу, якая пусціла мяне на вольны свет, надзяліўшы пэўнымі ўласцівасцямі, дзякуючы якім магу аддзяліць дабро ад зла.

## АБ ВЁСЦЫ ЯШЧЭ РАЗ

Я хачу сказаць, што ўсе нашы смуткі, усе настальгіі і малітвы да старой мнагалюднай, часта фальклорнай беларускай вёскі, так глыбока ўматываваныя мінулым, не могуць быць не пацверджаны будучым. Спусташэнне вёскі — працэс гістарычны і нястрымны. Разумею таксама і тое, што вялікая большасць маладых, чытаючы мае ляманты, са здзіўленнем падыме бровы. І гэта таксама ўматывавана. Кожная чалавечая генерацыя мае свой ідэал радасці, прыемнасці, шчасця.

Памятаю, як адзін дзядуля расказваў мне, якое гэта было шчасце пайсці ў тканых портках і кашулі ды ў лапцях 20 кіламетраў на «музыкі», патанцаваць уволю і вярнуцца дахаты… На дабавак яшчэ часта і пабіцца на такіх гульнях. Ужо мяне такі ідэал не захапляў. Мабыць, сённяшняга маладога чалавека не цікавіць мой ідэал: начное палітыкаванне жыхароў вёсак, запаўночныя спевы, уздыхі да месяца, увесь свет старой абраднасці і фальклорнасці. Зразумела, што і тут могуць быць тыя ці іншыя выключэнні. Аднак кожнае новае пакаленне мае свае новыя ўпадабанні. І вядома, што ўжо не вернецца вёска з сярпамі, кудзелямі, з вячоркамі, з песнямі і казкамі. Не вернецца. І хоць я, адыходзячы з гэтага свету — а быццам бы ў такі момант, як на прыспешаным фільме, прабягае перад вачыма ўсё жыццё, — буду бачыць і чуць усю дзівосную народную містэрыю, якая спадарожнічала майму дзяцінству. Аднак гэта не значыць, што маю права гаварыць маладому чалавеку: «Любі тое сёння, з чым вырастаў учора!»

Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, але кажуць, што чалавек, ад нараджэння сляпы, не носіць у сабе прагі бачыць свет і адрозніваць колеры. Ён проста не ведае, што гэта такое, і ставіцца да гэтага абыякава. Тое ж, мабыць, адносіцца і да нашых густаў і эмоцый. У Амерыцы, у якой няма бусла, зязюлі і салаўя, я вельмі часта сустракаўся са старэйшымі выхадцамі з Беларусі, якія мараць, сумуюць па гэтых — як жа характэрных для нашага пейзажу — птушках. І гэта зразумела, што чалавек усё жыццё носіць атрыбуты свайго дзяцінства і што пад старасць гэтыя атрыбуты ўзмацняюцца. А вось што да беларускай моладзі, народжанай у Амерыцы, тая пры размовах аб нейкіх там бусліках, зязюльках, салавейчыках толькі паціскае плячыма — дзівакі старыя. І гэта зразумела. Гэтыя беларусы нарадзіліся на зямлі, на якой няма гэтых птушак, і канец. Ці ж мы сумуем або бядуем з тае прычыны, што на нашай зямлі няма сланоў, малпаў ці нейкіх там іншых жывёлін? Няма дык няма. І вось, нягледзячы на гэтую «нармальнасць», якая праяўляецца ў тым, што маладое пакаленне — нават тое, якое застанецца ў вёсках, — ніколі ўжо не дасць сялу таго былога этнаграфічна фальклорнага беларускага каларыту, такога мне дарагога.

І зноў хачу вярнуцца да старога, а менавіта да таго, што многія бацькі вучаць сваіх маленькіх дзяцей не па-беларуску, а па-польску. Тут не можа быць такіх сумненняў, як ад нараджэння сляпы не носіць у сабе прагі пабачыць свет, так ваша дзіця, з маленства не навучанае роднай мове, не будзе ў сабе насіць

імкненне пазнаць яе і вярнуцца да яе. Адносячыся да роднай мовы абыякава, а ў многіх выпадках пасля і варожа, будзе саромецца ў будучым не толькі гэтай мовы, але і яе носьбітаў — сваіх бацькоў. Памятайце, бацькі, аб гэтым!

## АБ НАРОДНАЙ СІЛЕ

Не так даўно давялося мне ісці з Міхалова ў Бандары — 15 кіламетраў. Увесь час па гладзенькім асфальце, пры добрай пагодзе. Нягледзячы на гэта, прыйшоў я дахаты страшэнна змучаны. Адразу ўпаў і толькі праз некалькі гадзін сяк-так акрыяў.

Аднак не заўсёды беларусы былі такімі слабакамі. Гадоў дваццаць пяць таму назад на захадзе Польшчы я спаткаў паляка, якога лёс закінуў у час вайны ў Беларусь у партызанскі атрад. Паляк гэты з сапраўдным захапленнем апавядаў, як беларусы з гэтага атрада, галодныя, у час блакады, пасля доўгіх пераходаў з цяжкай зброяй праз непраходныя балоты, паспаўшы гадзінку-дзве з кулаком пад галавой, узрываліся на ногі, гатовыя да новых шматкіламетровых маршаў.

Сёння, аднак, я хачу расказаць пра чалавека, якога я ведаў асабіста, — аб жыхарцы маёй роднай вёскі. Называлі яе Альжуха Бура. Памерла ўжо, пражыўшы 104, а можа, нават 106 гадоў. Апошнія гады ўжо нічога не бачыла.

Аднак калі я, ідучы праз вёску, адазваўся да яе, дык яна мяне па голасе адразу пазнала, хоць мы з ёю гадоў пяць не бачыліся і не размаўлялі.

Вось гэтая Альжуха Бура і з’яўляецца для мяне сімвалам народнай сілы, якая была ў нашым народзе калісьці і прапала сёння.

Альжуха Бура была, бадай, найбяднейшай жыхаркай Бандароў. Мела толькі кавалачак кепскай зямлі, яшчэ ў маладосці страціла мужа і сама выхоўвала траіх дзяцей. Усё яе жыццё прайшло ў наймах і на заробках. Перад вайной за дзень цяжкай працы, якую, зрэшты, вельмі рэдка можна было знайсці, атрымлівала ў сярэднім 50 грошай.

У гэтым, аднак, не было яшчэ ніякага гераізму. У такой сітуацыі былі сотні тысяч беларускіх жанчын у санацыйнай Польшчы.

Гераізм Альжухі заключаўся ў чымсьці іншым. Яна і толькі яна з нашай вёскі хадзіла на кірмашы пешкі з Бандароў у Грод-

на. Гераізмам гэта трэба назваць таму, што з Бандароў у Гродна больш за семдзесят кіламетраў.

Выходзячы каля адзінаццатай гадзіны ночы, заходзіла яна ў Гродна каля дзесяці гадзін раніцы. Была на рынку дзве-тры гадзіны і пасля краналася ў паваротную дарогу. Каля трэцяй гадзіны наступнай ночы была ўжо дома. Раніцай нармальна ўставала і ішла на заробкі.

Трэба памятаць і аб тым, што не ішла яна па асфальце, а толькі па лясных і палявых дарогах. Нярэдка ў непагадзь. Прытым несла за плячыма некалькі дзясяткаў яек, некалькі сыркоў, грыбы або ягады. Несла таксама і ежу, на якую складаўся камяк таўканіцы, бутэлька вады і рэдка калі — кавалачак хлеба.

Вось так і хадзіла 140 кіламетраў Альжуха Бура. Вярталася з такога паходу з прыбыткам — найчасцей з адной залатоўкай. Калі ж удавалася ёй прынесці паўтара або два злотых, дык дома было сапраўднае свята.

Здараліся і драмы. «Аднойчы, — казала Альжуха,— паслізнулася я і ўпала, пабіўшы пры гэтым 15 яек і страціўшы такім чынам трыццаць грошай!»

Так, на шчасце, не трэба сёння хадзіць у гарады, адлеглыя за 70 кіламетраў. Зрэшты, калі б мне давялося ісці, напэўна ішоў бы я некалькі дзён у адзін бок.

Ужо некалькі гадоў не жыве Альжуха Бура. Часта думаю пра яе, як аб сімвале нярэдкай беларускай сілы, напорыстасці, вытрымкі.

Няхай будзе ёй лёгкай тая зямля, па якой яна з такой лёгкасцю хадзіла.

## АБ «ПІСЬМЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ»

У 1941 годзе ў маёй школе запанавала дурная мода. Усе вучні пачалі раптоўна ўзбройвацца. Рабілі пісталеты са шпулек ад нітак. Такі «пісталет» рабіўся вельмі хутка. Трэба было ўставіць у дзірачку палачку, на палачку надзець гумку, гумку прывязаць да шпулечкі — і «пісталет» быў гатовы. Палачка была крышачку карацейшая, чым шпулька. У дзірачку закладвалася «куля» — гарошына. Палачку трэба было максімальна адцягнуць назад і раптоўна яе выпусціць з пальцаў. Так выстраленая гарошына ляцела метраў 8–10. І вось з такіх «пісталетаў» лупілі мы па сценах. У часе аднаго перапынку я з Пецем Бурам выстралілі ў

бок сцяны. Адна гарошына трапіла ў партрэт Сталіна. Якраз у гэты момант увайшла ў клас настаўніца і схапіла нас з Пецем за шыварат.

— Як вы смелі страляць у вялікага Сталіна?! — крыкнула настаўніца.

— Я не хацеў, — заікнуўся я.

— Не хацеў, але трапіў?

— Ды трапіў.

Трэба сказаць, што Пеця Бура, які лічыўся ў нашым класе вялікім балдою, выйшаў з сітуацыі куды разумней, чым я. Заявіў ён, што страляў у муху і што яго гарошына ў партрэт не трапіла. Мне здавалася, што ўсё здарэнне закончылася ўшчуваннем настаўніцы. Але прайшло тры, можа, чатыры дні — і мяне выклікалі з урокаў у канцылярыю школы. Сядзеў там афіцэр. Я яго ведаў, бо некалькі тыдняў назад ён аштрафаваў бацьку за тое, што перад хатай не было бочкі з вадой. Пасля мне бацька казаў, што афіцэр гэты сеў пры стале і пачаў у блакнот упісваць розныя даныя аб нашай сям'і. Калі дайшоў да пытання «Сколько штук рогатого скота?» і пачуў адказ: «Тры», раптоўна павярнуўся да бацькі тварам і сказаў: «Кулацкое отродье!» І вось гэты афіцэр сядзеў перада мною, а перад ім на стале ляжаў разложаны блакноцік.

— Где твоя пушка? — спытаў нечакана афіцэр.

— Якая пушка? — спытаў я, бо не разумеў, аб чым пытаецца афіцэр.

— Та, из которой ты стрелял.

Я зразумеў, аб чым ідзе гутарка, і адказаў, што мой «пісталет» дома.

— Иди и принеси! — загадаў афіцэр.

Я стрымгалоў кінуўся з канцылярыі і хвілін праз дзесяць ужо стаяў перад афіцэрам і трымаў у руках сваю «зброю». Афіцэр дакладна яе агледзеў і спытаў:

— А патроны у тебя есть?

Я парыўся ў кішэнях і знайшоў некалькі гарошын.

— Ну, возьми и пали!

Я прылажыў гарошыну і пачаў разглядацца па сценах.

— Портрет Сталина висит там! — сказаў афіцэр. — Стреляй!

— У партрэт страляць не буду, я шукаю муху.

— Но ведь ты по портрету уже стрелял!

— Я не страляў у партрэт, я страляў у муху, — упёрся я і, заўважыўшы муху, выстраліў. Праз момант гарошына адскочыла ад сцяны і ўпала перад афіцэрам на стол.

Афіцэр момант падумаў і спытаўся:

— Скажи, почему в твоей семье говорят, что советская власть плохая?

— У маёй сям'і гаворацць, што савецкая ўлада добрая.

— А почему она хорошая?

— Таму, што няма паноў, што можна бясплатна вучыцца і што як вырасту, дык змагу быць афіцэрам.

— А кто так говорит?

— Так гаворыць мой татка.

— А твой татка тоже был офицером?

— Не, мой татка быў салдатам.

— А почему он служил Пилсудскому?

— Мой татка служыў не Пілсудскаму, а цару.

— Ну, а советской власти он служил?

— Служыў, ахраняў жалезную дарогу ў Маскве.

— А почему он вернулся в панскую Польшу?

І тут я запнуўся поўнасцю. Ніяк не ведаў, што маю сказаць афіцэру. У гэты час афіцэр нешта запісаў у свой блакноцік.

— Ну, а ты знаешь советские песни?

— Знаю.

— Какие?

— «Широка страна моя родная», «Если завтра война», «Три танкиста, три веселых друга», «По военной дороге», «Катюша».

— Ну, хорошо, спой «Если завтра война».

І я заспяваў:

Если завтра война, если завтра в поход,
Если темная сила нагрянет,
Как один человек, весь советский народ
За свободную родину станет.
На земле, в небесах и на море
Наш напев и могуч и суров.
Если завтра война, если завтра в поход,
Будь сегодня к походу готов!

Афіцэр выслухаў мяне да канца, пасля загадаў мне заспяваць «По военной дороге». І гэтую песню праспяваў я беспамылкова.

— Ну а скажи мне, где ты эти песенки выучил?

— У школе.

— А дома эти песенки поешь?

— Спяваю.

— А с кем поешь?

— Спяваю з сёстрамі.

— А твой отец поет эти песенки?

— Не, не спявае.

Афіцэр нешта хуценька запісаў у блакноце і спытаў:

— А какие ты знаешь произведения, посвященные Сталину?

І тут, што называецца, мне пашанцавала. Якраз у гэты час мы ў школе вывучалі на памяць «Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну». На маю долю выпала аж сорак строф гэтага твора. Я выпраставаўся і заявіў, што ведаю 160 радкоў «Пісьма».

— Ну, так расскажи, если знаешь!

І тут я панёс на ўсю моц, і калі закончыў:

Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,
Аб Сталіне песню спявай,
Спявай, беларускі народ! —

афіцэр сядзеў доўгі час нерухома, урэшце спытаўся:

— А где ты учил это произведение, в школе?

— Ну, вучыў у хаце.

— А тебе там никто не препятствовал?

Я зразумеў, што слова «препятствовать», абазначае «памагаць» і адказаў:

— Препятствовали сёстры і татка.

Афіцэр хуценька запісаў нешта ў блакнот і спытаўся:

— А как они препятствовали?

— Калі я гаварыў верш на памяць і збіўся або забыў, то яны глядзелі ў кніжку і падказвалі мне, як трэба гаварыць.

— Так они тебе помогали, а не препятствовали.

— Ну, памагалі.

— Так почему, балбес, говоришь, что препятствовали?

— Я думаў, што «препятствовать» азначае «памагаць».

— По-дурацки думал!

Афіцэр нейкую хвіліну думаў, і на яго твары рысавалася незадаволенасць. У канцы алоўкам падкрэсліў усё напісанае ў блакноце і сказаў:

— Во-первых, заруби на носу, балбес, что по портрету вождя стрелять строго воспрещается! Во-вторых, свою пукалку уничтожь, чтобы от нее не осталось следа! В-третьих, знай, что спасло тебя произведение о Великом Сталине!

І гэтым усё скончылася. Гаворачы шчыра, дык я зразумеў толькі «во-первых» і «во-вторых». «В-третьих» я не разумеў. Калі прызнацца, дык «в-третьих» я поўнасцю зразумеў толькі ў

канцы пяцідзесятых гадоў, калі прачытаў некалькі апавяданняў Алеся Пальчэўскага. У адным апавяданні Пальчэўскі расказваў аб адзінаццацігадовым хлапчуку-вязню, які быў арыштаваны за нейкія палітычныя правіны. А мне ў 1941 годзе было таксама 11 гадоў.

І таму да сёння, калі вяртаюся думкамі да гэтай справы, у маім сэрцы ўзнімаецца хваля ўдзячнасці да беларускіх паэтаў, аўтараў славутага «Пісьма беларускага народа Вялікаму Сталіну» і ў такіх момантах я падспеўваю сабе:

Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,
Аб Сталіне песню спявай,
Спявай, беларускі народ!

## КУЛАЧКА, ВОРАГ НАРОДА

У пагодны чэрвеньскі дзень 1941 года дайшла ў нашу хату вестка, што вывозяць у Сібір родную сястру маёй маці Настусю і ўсю яе сям'ю і што будуць везці іх праз Бандары. Так злажылася, што дома былі толькі маці і я, рэшта сям'і знаходзілася ў полі. Маці замітусілася, забегала, завойкала. Хуценька паклала ў торбу кусок сала і сухароў, і мы пабеглі ў канец вёскі, кудой меліся везці нашых.

— Каб хоць затрымаліся! Каб хоць затрымаліся! — паўтарала паўпрытомная маці.

У канцы вёскі, каля Назаркавых, стаяла многа людзей, да якіх далучыліся і мы. Неўзабаве нехта крыкнуў:

— О! З Лукі выязджаюць грузавікі!

І сапраўды, з канца вёскі Лука, ад якой да Бандароў адзін кіламетр, паказаліся ў клубах пылу грузавікі. Зразумела, што не было відаць, хто ў іх едзе. Аднак вельмі хутка грузавікі праляцелі да ракі і загрукацелі па мосце. Першы з іх вельмі гласна «кашляў», выкідваючы з сябе клубы чорнага дыму. Якраз гэта і было прычынай таго, што, даехаўшы да натоўпу, грузавік затрымаўся, а за ім затрымаліся другія.

— А Божа мой, Божа, — зашаптала маці. — Калі так, то пабачым сваякоў.

Мы кінуліся ўздоўж калоны і вельмі хутка знайшлі грузавік, у якім сядзела сям'я Марозаў, нашых сваякоў. На маленькіх клунках сядзелі Іван Мароз, яго жонка Настуся, сын Ваня і дачка. Маці кінулася да кузава, але з яго, амаль ёй на галаву, саскочылі

два канваіры з доўгімі вінтоўкамі. Трымаючы вінтоўку ўпоперак цела, адзін з канваіраў сказаў:

— К машине, гражданка, подходить нельзя.

— Я толькі торбу з сухарамі перадам.

— И это тоже не разрешается.

Нечакана ад першага грузавіка падбег афіцэр і закрычаў:

— Что вы с посторонними балакаете! Устава не знаешь! Отогнать толпу на приличное расстояние!

Вінтоўкі канваіраў павярнуліся да нас штыкамі. Штыкі былі для мяне як бы і не страшныя таму, што віселі ў мяне недзе над галавой. Затое маці яны глядзелі проста ў вочы. Мы пакаціліся назад, пакідаючы на вулічным пяску сляды ад босых ног. Раптам я пачуў на галаве нешта мокрае і цёплае. Зірнуў уверх і пабачыў, як з вачэй маці каціліся буйныя слёзы. Цётка Настуся і дачка загаласілі ў грузавіку, заплакала ўголас і маці.

Афіцэр падскочыў да маці і рэзка спытаў:

— Кто они тебе, родственники?

— Ся-я-стра родна мне Настуся, — не спыняючы слёз, з цяжкасцю прагаварыла маці.

— Сестра, значит! Значит, ты тоже кулачка и враг народа?! Не беспокойся, за вами тоже приедем. А реветь нечего! Расстаётесь ненадолго. В Сибири места для паразитов много! Вот там вместе и наплачетесь!

Раптам ад першага грузавіка падбег да афіцэра шафёр і сказаў:

— Готово, товарищ капитан!

— По машинам! — зычна крыкнуў афіцэр.

Адзін з канваіраў быў нізкага росту і ніяк не мог залезці ў кузаў. Дзядзька Мароз схапіў яго за руку, каб дапамагчы яму.

— Не смей! — крыкнуў другі канваір, і дзядзька Мароз неяк абмяк і сеў на клунак. Тым часам канваір схапіў малога за рукі і ўзвалок на бар'ер кузава. Малы нырнуў за бар'ер, і зверху на момант паказаліся толькі яго вялікія боты.

Машыны крануліся з месца і хутка прапалі за паваротам, падымаючы велізарную хмару шэрага пылу.

Маці нерухома стаяла і ўзіралася ўслед машынам. Праз некалькі хвілін пыл рассеяўся і зноў улёгся на дарозе. З Бандароў у Рыбакі пралеглі роўныя сляды колаў грузавікоў.

А маці ўсё стаіць, усё глядзіць, усё чагосьці як бы чакае. У адной руцэ трымае торбу з сухарамі, а другая жылістая, сумная рука звісае ўздоўж цела. Час ад часу паднімае яе і верхняй часткай далоні выцірае слязу. Яе патрэсканыя босыя ступні

моцна заглыбіліся ў вулічны, перамелены на попел пясок. І апранута «кулачка» і «вораг народа» не надзвычайна. На ёй белая кужэльная кашуля, зашпіленая пад шыяй на сіненькі гузічак, і саматканы зрэбны чорны парцяк, зашпілены збоку на палачку.

Я цягну маці за руку, і яна, як бы ў сне, моўчкі паварочваецца, і мы разам накіроўваемся ў бок хаты. А вакол сонечна, сонечна. А вакол зялёна, зялёна. А вакол звонка, звонка. А нам горка, горка.

Уваходзім у хату. Маці сядае на ўслон. Торбу няведама чаму трымае на прыполе. Глядзіць няведама куды невідушчымі вачыма і галосіць:

— А Божа ж мой, Божа! Не дазволілі ўзяць ні кароўкі, ні свіняці, ні авечкі, ні гускі, ні куркі. Прападут яны ў той Сібіры з голаду і холаду, прападут, прападут. А Божа мой, Божа…

У хаце паяўляецца бацька. Мабыць, аб усім ужо ведае. Вярнуўся з поля, і нехта яму расказаў. Пануры, не знімаючы шапкі, сядае на ложак. Маўчыць. І раптам маці выпаліла:

— Ну, маеш за сваё! Цешыўся. Таму, хто першы пабачыў саветаў, у 1939 годзе, барыш паставіў. Ну, та маеш цяпер. Афіцэр сказаў, што і мы кулакі і ворагі і што нас таксама павязуць у Сібір! Цешся!

Вочы бацькі звужаюцца ад злосці. Вусы ёжацца. Прыпаднімаецца з ложка, нахіляецца ў бок маці і крычыць:

— Ты знаеш!..

І гэтае яго «ты» моцнае і гулкае, а «знаеш» нейкае дрыготкае і глухаватае. Відаць выразна, што не ведае, што сказаць далей. Аднак не паддаецца і другі раз паўтарае:

— Ты знаеш!..

На гэты раз і «ты» і «знаеш» атрымліваюцца нейкія злосныя і бяссільныя.

Бацька ўскаквае на ногі, нацягвае глыбей на вочы шапку і выходзіць. А маці зноў сваё:

— А Божа ты мой!..

Тым часам грузавікі дамчаліся да Ваўкавыска, і там наступіў перапалом у лёсе вывезеных. Усіх мужчын знялі з грузавікоў у Ваўкавыску, а іх сем'і паехалі на ўсход. Іван Мароз, вярнуўшыся дахаты, гаварыў, што на просьбу мужчын, каб іх не раздзялялі з сем'ямі, афіцэр заявіў:

— Вы остаетесь на месте. Здесь будем разбираться в ваших антинародных злодеяниях. Не беспокойтесь, советская власть справедливая. Если ваши преступления окажутся небольшими,

вам будет предоставлена возможность присоединиться к семьям в Сибири. Но пока что будем разбираться здесь.

Афіцэру не ўдалося ні разабрацца ў «злачынствах» вывезеных, ні вывезці «кулакоў» з Бандароў і аколіц. Праз тыдзень, 22 чэрвеня 1941 года, жалезныя нямецкія кагорты, спушчаныя фюрэрам з ланцугоў, рванулі наперад, крышачы і ломячы слабое супраціўленне Чырвонай Арміі і шчодра паліваючы дарогі і палі Беларусі крывёю чырвонаармейцаў, якія яшчэ некалькі тыдняў таму назад бадзёра спявалі: «И на вражьей земле мы врага разгромим малой кровью, могучим ударом».

Бадай што на другі дзень пасля пачатку вайны немцы занялі Ваўкавыск і памчалі на ўсход…

У Ваўкавыску адчынілі турму, выпусцілі вязняў і дазволілі ім ісці дамоў. Дзядзька Мароз вярнуўся ў Семяноўку і перабедаваў усю вайну пры сваёй замужняй дачцэ, якую ў Сібір не вывезлі.

Цётку Настусю з сынам і дачкой рознымі відамі транспарту канваіры ўсё далей везлі на ўсход. Затрымаліся ў сібірскім калгасе.

На маё пытанне аб жыцці ў Сібіры, мой дваюрадны брат Ваня Мароз сказаў вось што: «Як мы жылі? Не дай Бог такога жыцця. Пасялілі нас у калгасе не то ў хлеўчыку, не то ў каморцы, не то ў свіронку. Мясцовы народ быў добры і, можа, нават і памог бы, але як мог памагчы, калі сам быў галодны. Летам і восенню так-сяк жылі. Мелі крыху сала і сухароў. Акрамя таго, як і ўсе калгаснікі, кралі ў полі. Парабілі спецыяльныя хітрыя кішэньчыкі ў штанах, у спадніцах, у шапках і кожны дзень прыносілі па жменьцы пшаніцы або па адной бульбіне. Але прыйшла зіма, а з ёю і голад. Спачатку я ратаваўся тым, што маляваў начальнікам і маладажонам партрэты. За гэта давалі мне хто рубель, хто тры бульбіны, хто пару жменяў пшаніцы. Але хутка маладажоны скончыліся, усіх маладых узялі на фронт. Я ў гэты час падрос і пайшоў у ваенкамат, каб мяне ўзялі ў армію. Але не ўзялі. Камендант сказаў: «Ссыльных не берем в армию. Дай вам оружие, а вы все побежите к немцам».

Жылося вельмі цяжка. Ледзь дацягнулі да вясны. Збіралі шчавук і розныя іншыя травы. Я і сястра былі маладыя і таму вытрымалі, а мама ўсё больш слабела, урэшце памерла. Пахавалі мы яе без труны. У 1943 годзе дайшла да нас чутка, што будзе створана польская армія. Я змікіціў, што каб вырвацца, то трэба падавацца ў палякі. Ну, і запісаўся палякам. Да Андэрса не пайшоў, але пайшоў у дывізію Касцюшкі. Ну, і дайшоў да

Берліна, а з Берліна ў Семяноўку. Выпусцілі таксама сястру. Значыць, вярнуліся ўсе, акрамя мамы, от і ўсё».

Сапраўды, Ваня Мароз вярнуўся цэлы фізічна, але надламаны духоўна. Пасля вайны быў у Семяноўцы начальнікам пошты. Пачаў камбінаваць з ашчаднымі кніжкамі і трапіў у турму. Вярнуўся зусім сівым, хаця быў яшчэ маладым чалавекам. Памёр рана, усяго на некалькі гадоў перажыў бацьку, Івана Мароза.

Часта вяртаюся думкамі да гэтай справы, і заўсёды перад маімі вачыма паяўляецца постаць маёй маці, беларускай гаротніцы, адной з найбольш працавітых жанчын у Бандарах, вернай дачкі нашай зямлі, якую энкавэдыст назваў кулачкай і ворагам народа і пагражаў вывазам у Сібір.

## АБ ПЕРШЫМ ДНІ АКУПАЦЫІ

Калі да нас прыйшлі немцы, дакладна не памятаю. Сталася гэта вельмі хутка ад моманту выбуху вайны. Памятаю, што савецкія падраздзяленні адчайна кідаліся то на ўсход, то на поўнач, а пыл, узняты войскамі па ўсіх дарогах, засланяў сонца. Немцы ў Бандарах паявіліся вельмі хутка. І вось з гэтага першага дня акупацыі захаваліся ў маёй памяці некаторыя абразкі.

### Абразок першы

На ўзгорку за мостам, метраў за дваццаць ад вёскі, ляжыць савецкі салдат. Упаў з грузавіка, і цяжкая машына пераехала яго па нагах, ломячы іх дашчэнту. На чале са старым жыхаром нашай вёскі Васілём К. мы ідзём да салдата. Васіль К. тлумачыць нам, што немцаў вельмі добра ведае, бо меў з імі дачыненне ў 1915 годзе. «Немцы, — кажа, — гэта культурны народ. Яны разбіраюцца не толькі ў тым, як ваяваць, але і зямлю араць умеюць лепш, чым мы аром. Пабачыце».

Падыходзім да салдата, каля яго стаяць людзі з Лукі і Слабодкі. Салдат страшэнна мучыцца. У яго акрываўленыя не толькі нагавіцы, боты, але і горла. Аказваецца, што хацеў застрэліцца, але вінтоўка доўгая, і ён не мог падставіць сабе дула пад бараду. Зрэшты, хтосьці яму гэтую вінтоўку вырваў з рук. Тады салдат выцягнуў ножык і спрабаваў падрэзаць сабе горла. Крыху парэзаў цела, потым нехта вырваў з яго рук ножык. Салдат енчыць і просіць:

— Ребята, добейте меня! Добрые люди, помогите, убейте!

Васіль К. тлумачыць усім, што немцы — народ культурны, што яны возьмуць салдата ў шпіталь і вылечаць яго. Каб толькі як найхутчэй прыйшлі.

І раптам з-за ўзгорка паяўляюцца спачатку салдацкія, а пасля і конскія галовы. Праз момант тры ездакі стрымгалоў пад'язджаюць да грамады і капытамі зарываюцца з разбегу ў пяску. Васіль К. знімае шапку, выходзіць наперад з натоўпу і кажа:

— Гут моргэн, панове!

Пярэдні немец імгненна выхоплівае з кабуры пісталет і тры разы страляе ў савецкага салдата. Салдат падскоквае, пасля паварочваецца на бок, курчыцца і нерухомее. Немец хавае пісталет, хапае рукаятку бізуна, які вісіць на кісці яго рукі, і лупіць Васіля К. бізуном праз галаву і плечы і крычыць дзіка: «Лёўс наххаўзэ!»

Усе мы стрымгалоў кідаемся да вёскі. Апярэджваем Васіля К., які таксама бяжыць, як толькі можа, хутка, але яго старыя ногі не вельмі яго слухаюцца. Мы азіраемся і бачым, што немцаў пад узгоркам няма. Мабыць, павярнулі назад, дык чакаем Васіля К. і разам з ім дабягаем да вёскі.

Васіль К. моцна дыхае, штохвіліны мацае сябе па плячах і па шыі. Адхіляе кашулю і знімае шапку. Мы глядзім і бачым моцны чырвоны рубец. Васіль К. азіраецца назад, глядзіць за мост і пытае нас:

— Дзе яны?

— Не ведаем, дзеду, як мы беглі, то яны невядома куды падзеліся. Відно, паехалі назад у Ляўкова або ў Нараўку.

Васіль К. апускаецца на лаўку перад сваёй старэнькай хаткай, каля яго сядаем і мы.

— То як жэш так, дзеду? — пытаецца нехта. — Вы ж гаварылі, што немцы вельмі добры людзі і што чырвонаармейца вылечат. Ну, то якія ж яны е напраўду?

Васіль К. доўга маўчыць. Відаць, пытанне яму не вельмі падабаецца. Круціцца на месцы. Ізноў пальцамі мацае крывавы рубец, урэшце гаворыць ціха, з нейкай жаласцю і крыўдай у голасе:

— Хай іх немач спаліт! Такого мне немцы не рабілі. Я не толькі такого не бачыў, але і не чуў такого. Што я тут магу сказаць? Гэто не тыя самыя немцы. Не тыя самыя!

Ізноў пальцы Васіля К. папаўзлі да рубца, а нам усім робіцца трывожна і боязна. І шкада нам моцна і Васіля К., і чырвонаармейца, і пачынаем гаварыць, што трэба ўзяць лапаты, выкапаць магілу і пахаваць салдата па-чалавечы.

## Абразок другі

Праз Бандары ідзе нямецкая калона. Я з чатырма сябрамі сяджу на панадворку ў Паўлавых. Углядаемся праз плот на немцаў, якіх бачым першы раз у жыцці. Усе маладыя, усе прыгожыя, моцна зялёныя мундзіры. Многія пазнімалі шапкі, заткнулі іх за пагоны або за паясы. Наваксаваныя чорныя боты. Закасаныя да локцяў рукавы мундзіраў. Сядзім з разяўленымі ратамі: Пеця, Сцёпа, Валодзя, Юлік і я. Сядзім і паціху размаўляем.

— Гляньце, як прут, але салдаты!

— Ну і што з таго, што прут? А екіе з іх салдаты, калі яны без вінтовак?!

І толькі цяпер усе ўсведамляем сабе, што немцы сапраўды без вінтовак. Яшчэ ўчора мы бачылі чырвонаармейцаў з даўжэзнымі вінтоўкамі і заткнутымі на іх штыкамі, а ў немцаў няма вінтовак ні ў руках, ні на плячах.

— Ну, то екіе ж з іх салдаты, калі яны вінтовак не мают, то іх нават бабы папрут назад.

— Гляньце, іх вінтоўкі на грудзях!

— Што, гэты камарыкі то вінтоўкі?

— Ну, але, вінтоўкі.

— А чы ж з такого камарыка заб’е чалавека?

— Чом не заб’е? Калі забівае з ліворвера, то заб’е і з гэтаго камарыка.

— Та ж ведомо, што з ліворвера заб’е з малых адлегласцей, а здалёк то не толькі не заб’е, але ніякае шкоды не зробіт.

— Ну то чом саветы ад іх уцікают? Тыя ж мают вінтоўкі, а немцы ні мают?!

— Уцікают? Не ўцікают. Гэто такая такціка. Саветы адышлі, можэ, да Ялоўкі. Ну, можэ, да Свіслачы. Хібо так навёрст сорок, каб немцоўу мяшок уцягнуць. Калі ўжо ўсіх уцягнут, то так дадут, што ні адзін жывы ні астанецца. Гэто такціка, так мой татко казаў.

— Лепш каб не варочаліся саветы, — кажа Пеця Бура, які быў заўсёды слабым вучнем.

— Чаму лепш?

— А том, што зноў трэбо будзе хадзіці ў школу.

— А думаеш, што пры немцах не трэбо будзе хадзіці ў школу?

— Напэўно не трэбо будзе хадзіці. Што ты думаеш, што немцы будут цябе ўчыці? Ены толькі сваіх дзіцей вучат, а да нас ім нема ніякага дзела. Як хочаш, так сабе і жыві.

— Э, там, саветы, напэўно, вернуцца.

— Ну, а калі, думаеш, вернуцца?

— Ну, можэ, за тыдзень.

— Што ты пляцеш? За які тыдзень? Напэўно вернуцца за тры або два дні, а можа, яшчэ вернуцца сегодне вечаром.

Тым часам чуецца гул матораў. Калону немцаў абганяе штук дваццаць матацыклаў з прычэпамі. На кожным матацыкле сядзіць па трох немцаў. Усе маюць на галовах глыбокія каскі. Перад тымі, што сядзяць у прычэпах, стаяць на ножках кулямёты. Нас абдае густым пылам, і некалькі мінут нічога не бачым. Калі ўрэшце матацыклы зніклі і пыл рассеяўся, то ўбачылі, што вуліца апусцела. Выглядаем праз плот і бачым, што калона немцаў дайшла да канца вёскі і салдаты кінуліся ў бок рэчкі. Толькі чалавек дваццаць асталося на вуліцы. Асцярожна выходзім з панадворка і памаленьку пад платамі прыбліжаемся да нямецкіх жаўнераў. А яны, пазнімаўшы з грудзей аўтаматы, гергечуць і вымаюць з кішэняў плоскія банкі. Адкрываюць іх і вымаюць з сярэдзіны карычневы шакалад. Пачынаюць есці. Адзін немец, апаражніўшы баначку, закрывае яе і шпурляе ў наш бок. Першы хапае банку даўгавязы Пеця Бура. Адкрывае яе і дае нам усім панюхаць. Вельмі ж смачна пахне! Пеця выцягвае з банкі карычневую паперу і совае яе ў рот. Пачынае жаваць.

— Ну як, смачна? — пытаем з зайздрасцю.

Пеця жуе доўга, пасля выплёўвае яе ў руку і хавае ў кішэню.

— Напачатку, — кажа, — была смачна, а пад канец горка. Пажду, як высахне — зноў пажую.

Немцы пазіраюць на нас, нешта гергечуць і пасля, як па камандзе, шпурляюць нам пустыя шакаладныя банкі. Кідаемся на вулічны пясок, і кожны хапае, прынамсі, адну банку. Задаволеныя, вяртаемся на сярэдзіну вёскі і пазіраем у бок рэчкі, дзе немцы, распрануўшыся дагала, не зважаючы на жыхароў вёскі, ходзяць па беразе, лезуць у ваду або сядаюць ці лажацца на траву. Некалькі немцаў грае на губных гармоніках. Тыя немцы, што ў рэчцы, паліваюцца вадой, папіхаюцца, ныраюць, рагочуць, крычаць, дужаюцца.

Мы паспрабавалі падысці да рэчкі, аднак адзін немец, грозна глянуўшы на нас, патрос у наш бок кулаком, і мы падаліся назад.

## Абразок трэці

Пасярэдзіне вёскі, каля Рыгоравых, стаіць распрануты да пояса даўгавязы пажылы немец. Трымае ён у руках пнеўматычнае ружжо і страляе вераб’ёў. Немец, як толькі каго пабачыць, ківае пальцам і гаворыць па-руску: «Иди суда». Спачатку акружаюць немца дзеці. Загадвае нам прыносіць пастраляных вераб’ёў, якіх ён укладвае акуратненька ў радочак на сцежцы. Адзін паранены верабей ляціць проста на немца, ударaецца ў яго голыя грудзі і падае на пясок. Немец прыціскае яго ботам і душыць. Невядома чаму не кладзе яго побач іншых забітых вераб’ёў, а толькі спіхае ботам у каляіну і засыпае пяском. Пабачыўшы старэйшых жыхароў вёскі, немец кліча іх да сябе. Праз нейкі час збіраецца чалавек сем і каля дванаццаці дзяцей. Немец перастае страляць вераб’ёў і пачынае рабіць «даклад». Выгладжвае ботам пясок, ставіць на заходнім краі гэтага поля абцас і тое ж самае робіць на ўсходнім краі. Пасля бярэ галінку, піша пры заходнім абцасе літару Б, а пры ўсходнім — М. Пачынае гаварыць: «Я сольдат 1914 год. Я воеваль з генераль Брусилёв. Белёсток–Москва тысяча килёметр. Германский армия идёт вперёд сто килёметр. Через десять сутки будет парад и будет фюрер принимать парад». Немец выцягвае ўпалыя, худыя грудзі і пачынае паказваць, як немцы будуць ісці па Краснай плошчы. Яго боты ўзбіваюць пыл. Адышоўшы крокаў на дзесяць, паварочваецца і пачынае адбіваць крокі. Затрымліваецца і гаворыць далей: «Красная Армия капут. Будённый — капут. Ворошилёв — капут. Бензин — нет, снаряд — нет, винтовка — нет. Красный Армия — большой плен. Сталин — капут! Ленин из Мавзолея — вэк!»

Закончыўшы «даклад», немец глядзіць на ўсіх уважна і вельмі задаволена. Пасля нечакана гаворыць: «Все идёт по домам, все расходись!»

Мужчыны разыходзяцца, за імі ідзём і мы. На панадворку ў Міруцёвых затрымліваюцца Язэп Міруць, Ладзік Бура і Сцяпан Бура. Каля іх затрымліваемся і мы. Язэп Міруць пачынае гаварыць:

— Немцы ўжэ за Валкавыскам, яшчэ далей пойдут.

— Ну, але як жэш далеко яны запрут ешчэ? — пытае Ладзік Бура.

— Дойдут да старое польска-савецкае граніцы і далей не пойдут.

— А чом не пойдут? — пытае Ладзік.

— А том не пойдут, што там пад Мінскам так умоцнена граніца, што не толькі не пяройдзе салдат, не праедзе матацыклетны бранявік, але нават ні праляціт птушка.

— Чы можэ быці такое? — сумняваецца Сцяпан Бура.

— Можэ быці. Там саветы дваццаць лет умацнялі граніцу. Там кругом адзін бетон і сталь, зтоль ні адзін жывы немец не вернецца, усе там лягут.

— Ну, а калі гэто можэ стацца? — дапытваецца Ладзік.

— Ну, калі, я так думаю, што можэ за які тыдзень.

— А чом жэш гэто саветы так много кругом на дарогах аружыя пакідалі? — пытае Сцяпан.

— Гэто ўсё ерунда. Тут яны толькі барахло мелі. Ено ім зусім ні патрэбнэ. На той граніцы ў іх усё новэ. Там такое аружые, што адзін салдат, з его страляючы, можэ палажыць цэлы поўк немцаў.

— То чом жэш тут іх адразу не выкідрышылі і не пайшлі на Берлін? — упіраецца Ладзік.

— А на чорта саветам ісці на Берлін? Ніхай немец увалачэ сюды сваю цехніку, абозы, хлеб, абмундзіраванне, коні — то ўсё, як расхвошчуць немца, застанецца ў нашых руках. Небось хутко зноў саветы ў нас будут. Мне так здаецца, што ешчэ Варашылава і Будзённаго на жарабцах пабачым у Бандарах!

Нечакана паяўляецца на вуліцы паўголы знаёмы немец. Накіроўвае ён на нас сваё ружжо:

— Я сказаль идти домой! Вэк, вэк! Идти домой! Вэк, вэк!

Старэйшыя разыходзяцца, а мы праз платы накіроўваемся ў другі канец вёскі.

### Абразок чацвёрты

Невядома ад каго даведваемся, што перад нашай школай у Рыбаках стаіць савецкая зенітная гармата і што можна на ёй «паездзіць». Пераадолеўшы боязь, рашаем ісці па-за гумнамі ў Рыбакі. У Рыбакі з Бандароў усяго метраў 200–250, і таму праз некалькі мінут мы ўжо ў Рыбаках. Сапраўды недалёка ад школы стаіць прыгожая зенітная гармата. Рыбацкія хлопцы ўжо прывязалі да канца дула гарматы пастронак, і праз кожныя некалькі мінут у гэты пастронак сядае хлопец з Рыбакоў. Адзін з хлопцаў сядзіць пры рукаятках і хутка іх круціць. Ад гэтага ўся гармата вельмі хутка круціцца вакол сваёй восі. Зразумела, што нам таксама хочацца паездзіць на гармаце, але рыбацкія хлопцы нас да яе не дапускаюць. Гавораць, што гармата іх уласнасць.

Мы, аднак, пераконваем іх, што дарога належыць усім і што тое, што на дарозе, таксама наша супольнае.

Хтосьці падказвае, што гармата круцілася б намнога хутчэй, калі б частка хлопцаў рукамі папіхала яе «падлогу». У такой сітуацыі рыбацкія хлопцы згаджаюцца, каб і мы ўдзельнічалі ў аперацыі. І сапраўды, гармата, калі яе папіхаць рукамі, са страшэннай хуткасцю віруе.

Нарэшце чарга даходзіць да мяне, і я сядаю на пастронак. Пачынаецца дзівосная карусель, і здаецца мне, што я сяджу на месцы, а навакольны свет з вар'яцкай хуткасцю віруе вакол мяне.

## Абразок пяты

Не паспелі мы па-сапраўднаму нацешыцца круцёлкаю, як хтосьці з жыхароў Рыбакоў сказаў нам, што нешта вельмі цікавае дзеецца пры хаце Назаркавых.

Назаркавы — гэта два браты, Сяргей і Валодзя Назарка, якія жывуць у канцы Бандароў. Пакідаем гармату і грамадой вяртаемся ў Бандары. Падышоўшы, бачым, што нешта дзеецца не на панадворку ў Назаркавых, а вакол высознай ліпы, якая расце метраў за пяцьдзесят ад гэтага панадворка. Пры ліпе сабралася каля паўсотні немцаў. Усе яны голасна гергечуць і, задраўшы галовы, узіраюцца ў верхавіну ліпы. Адзін немец, угледзеўшы нас, грозна хмурыць бровы, хапаецца за кабуру, а другую руку заціскае ў кулак. Мы адскокваем метраў на пяцьдзесят, спыняемся і пачынаем прыглядвацца.

— Хлопцы, — кажа Лёнік Хлябіч з Рыбакоў, — на версе ліпы хтось сідзіт.

Прыглядаемся і бачым, што сядзіць на ліпе савецкі салдат.

Немцы ўсё галасней крычаць, але мы нічога з іх крыкаў не разумеем. Урэшце бачым, што набліжаецца да ліпы даўгавязы немец, які страляў вераб'ёў і гаварыў, што праз дзесяць дзён нямецкая армія будзе ў Маскве. Даўгавязы пачынае ўзірацца і ўрэшце крычыць: «Иван, слезай, а то уб'ём, Иван слезай, а то уб'ём! Иван слезай, уб'ём!»

З верхавіны чуецца голас салдата. Мы не зусім разумеем, што крычыць чырвонаармеец. У пазнейшым часе ўсе ў Бандарах гаварылі, што чырвонаармеец крыкнуў: «Не твоя пасадила, не твоя снимет!»

Падзеі вакол ліпы пачынаюць развівацца хутчэй. Адзін немец, бадай, афіцэр, бярэ ад салдата «камарыка», накіроўвае яго на чырвонаармейца — і два кароткія «тррры! тррры!».

Чырвонаармеец валіцца ўніз, быццам затрымліваецца на некаторых галінах, аднак толькі на момант. Цела салдата падае ўсё ніжэй і ўрэшце, вырваўшыся з кроны дрэва, цяжка звальваецца на зямлю. Немец, які страляў, падыходзіць да чырвонаармейца і нагой паварочвае яго ўверх тварам. Немцы яшчэ хвіліну нешта гергечуць і раптам, як па камандзе, адварочваюцца і ідуць у вёску.

Мы паволі набліжаемся да салдата. Прыглядаемся, бачым яго скуласты твар і касыя вочы. Хтосьці кажа, што гэта ўзбек, нехта іншы — што мангол. Другія гавораць, што ён, напэўна, татарын. Гімнасцёрка салдата ўсё мацней набрыньвае крывёю, а ў яго заціснутых далонях тырчыць лісцё ліпы.

Усім нам сумна. Гаворым, што мы разявы, што трэба было нам убачыць салдата раней, чым пабачылі яго немцы, і паказаць яму дарогу ў лес, да якога ад Бандароў усяго паўкіламетра.

— Каб дабраўся да лесу, — гаворыць Лёнік Хлябіч, — то пасідзеў бы там дзень-два і дачакаўся б саветаў, бо яны ж хутко вернуцца; і пагнаў бы нямцоў назад.

## Абразок шосты

Вечарэе. Большасць нямецкіх салдатаў вярнулася з-над рэчкі ў вёску. Чатыры салдаты ў вельмі маленечкіх трусіках дастаюць з грузавіка нейкія дзіўныя прылады. А якія ж гэта прылады? Чатыры малыя квадратныя дошчачкі і адна вялікая квадратная дошка. І з гэтых дошчачак умомант робяцца чатыры табурэтачкі і стол. Немцы праступоюць алюмініевыя ножкі, якія прылягаюць да дошак, і праз мінуту ўжо стаяць на зямлі і стол і табурэтачкі. Праз момант на панадворку маіх дзядзькоў Пятра і Андрэя Баршчэўскіх ужо не толькі стаіць стол і табурэтачкі, але сядзяць на табурэтачках паўголыя немцы і гуляюць у карты.

Адзін дробненькі, худзенькі немец сядзіць на ўслоне пад сцяною хаты Андрэя і Пятра Баршчэўскіх і грае на губным гармоніку нейкую сумную жаласлівую мелодыю. З-за вугла хаты паяўляецца на вуліцы цыбаты немец. Той, што страляў вераб'ёў. Спявае:

Вольга, Вольга, мать родная,
Вольга, русская река!

Адзін з тых, што гуляюць у карты, паказвае ў бок цыбатага і стукае пальцам па лбе. Я з неадлучнымі сябрамі сяджу ў сябе на панадворку за некалькі метраў ад немцаў.

— Чы хтось бачыў такое, — гаворыць Пеця Бура, — каб стол і табурэткі з паломанымі нагамі можна было за паўмінуты паладаваці і паставіць?

— Пляцеш абы-што, ногі не былі паломаны, а толькі зложаны, і немцы іх выпраставалі, от і ўсё!

— А дзе ты такое бачыў, каб ножкі ў табурэтачках і сталах складаліся? — упіраецца Пеця.

І мы ўжо і самі не ведаем, як сталася з табурэткамі: былі яны папсаваны ці не былі, і ці можна будзе іх зноў злажыць.

Па вуліцы, узбіваючы пыл, ідуць з выгану каровы. Вяртаецца са сваёй каровай і дзядзька Пётр Баршчэўскі. Вядзе яе, як заўсёды, на пастронку. Увайшоўшы на панадворак, на момант затрымліваецца. Немцы ж паставілі стол і расселіся вакол яго амаль пасярэдзіне панадворка і між імі і плотам не болей чым адзін метр праходу, праз які трэба праціснуцца дзядзьку Пятру з каровай. Клопат яшчэ і ў тым, што з боку сцежкі, па якой мусяць прайсці дзядзька і яго карова, сядзіць таўшчэзны, як бочка, рыжы немец. Урэшце дзядзька Пятро хапае сваю карову за рог і памаленьку цягне яе ў вузенькі праход. І ў той момант, калі дзядзька і карова знаходзяцца ў найвузейшым месцы, здаравенны немец узнімае свой зад, і магутнае п-р-р-ру! — устрасае паветрам. Карова кідаецца ўбок, прыціскае дзядзьку Пятра да плота, вырываецца з яго рук і імчыцца да хлявоў і пуні. Зрэшты, вельмі хутка супакойваецца і пачынае на прыгуменні скубаць траву. Немцы, выразна задаволеныя эфектам зробленага рыжым, непрытомна рагочуць. Усе пачынаюць падымаць свае азадкі і стараюцца рабіць тое, што толькі што зрабіў іх рыжы сябра. Аднак эфект іх спроб досыць мізэрны. Затое новая хваля рогату ўстрасае панадворак.

Мы моцна здзіўлены ўсім гэтым. У нас не толькі дарослыя, але і дзеці ніколі не займаліся такімі забавамі. Рагоча толькі Пеця Бура. Вядома нам, што яго сям’я ў Бандарах — выключэнне, і яе члены, асабліва Пецеў бацька і дзед, не раз публічна рабілі тое, што зрабіў немец. Вось таму Пеця і рагоча раскацістым смехам і кажа:

— Але бабахнуў! Як з арудзія! Як яму ср… не лопнула? — сказаўшы гэта, зноў моцна рагоча.

Дзядзька Пётр доўга корпаецца пры хляве і пуні. Відаць выразна, што яму вельмі не хочацца зноў праходзіць каля карцёжнікаў. Аднак другой дарогі няма і ўрэшце, як бы крадучыся пад плотам, ідзе ў хату. Таўшчэзны немец як бы гэтага толькі і чакаў. Калі толькі дзядзька Пётр зраўняўся з ім, паўтарыў з

не меншым эфектам тое, што зрабіў тады, калі дзядзька ішоў з каровай. І зноў рогат немцаў ускалыхнуў панадворак. Дзядзька, усунуўшы галаву ў плечы, хаваецца ў сенцах.

…А мізэрненькі немец, як і дагэтуль, сядзіць сабе пад сцяной на ўслоне і іграе сумную-сумную мелодыю, а яго вочы, як бы нічога не бачачы, узіраюцца на ўсход.

Наступае вечар. Пачынаем разыходзіцца. Пеця Бура ўпэўнена гаворыць:

— Немцы ў нас будут вельмі доўго. Напэўно не трэбо будзе хадзіць у школу. Я вам кажу, што немцы будут нам даваць ні толькі пустыя банкі, але і банкі з шакаладаю.

Такім запамятаўся мне першы дзень акупацыі. А што да прароцтваў Пеці Буры, дык споўніліся толькі два першыя, а трэцяе не споўнілася.

## АБ ДРАМЕ

Жыхары Бандароў адносіліся ў час акупацыі да партызанаў спачувальна. А некаторыя цесна з імі супрацоўнічалі. У трох суседніх вёсках: Бандарах, Рыбаках і Таніцы былі сем’і, якія ўвайшлі ў цесны кантакт з партызанамі і рознымі спосабамі ім памагалі. Першыя месяцы дзейнасці партызанаў не прынеслі ім клопатаў. Аднак ужо на пачатку 1942 года наступіла здарэнне, якое ўзрушыла ўсю ваколіцу.

А сталася гэта так. У ваколіцах Ялоўкі, дзе была гміна, у час перастрэлкі былі паранены амтскамісар і вядомы на нашай тэрыторыі партызан Федзька. Партызанам удалося адарвацца ад немцаў і занесці параненага таварыша на хутар у Навасадах, дзе жыла савецкая грамадзянка — лекар. Партызаны былі перакананы, што ўдасца вылечыць Федзьку і што ён зноў далучыцца да партызанскага падраздзялення. Але нехта данёс немцам, і яны акружылі хутар. Немцы павезлі параненага ў лёгкія партызана ў Ялоўку. Там паабяцалі яму лячэнне і свабоду, калі ён назаве тых сялян, якія супрацоўнічалі з партызанамі. Спачатку Федзька не згаджаўся, але пасля згадзіўся. Немцы палажылі Федзьку ў сані, і ён сказаў, каб яго везлі ў вёску Рыбакі. Прыехаўшы ў гэтую вёску, Федзька загадаў, каб сані затрымаліся каля хаты Антона Хлябіча. Немцы ўварваліся ў хату і вывалаклі на снег і мароз распранутых і босых братоў Міцьку і Кастуся Хлябічаў. Партызан паказаў рукой у бок Кастуся і сказаў, што ён памагаў партызанам. Немцы паваліілі на снег Кастуся і пачалі яго катаваць

і прымушаць, каб прызнаўся ў супрацоўніцтве з партызанамі. І тады Кастусь звярнуўся да немцаў са словамі:

— Калі ён мяне ведае, то хай скажа, як я называюся!

Немцы спыталіся пра гэта ў партызана, і той адказаў:

— Іван.

Прысутны пры гэтым здарэнні мясцовы солтыс сказаў, што катаваны Хлябіч называецца Канстанцін. Пасля гэтага немцы перасталі біць Кастуся і пусцілі яго ў хату.

Кастусь Хлябіч, шматгадовы дзеяч Беларускага грамадска-палітычнага таварыства, гаворыць сёння, што тады, нягледзячы на вялікі мароз, хоць быў босы, не чуў ніякага холаду.

Федзька сказаў немцам, што ў вёсцы Бандары супрацоўнічала з партызанамі сям'я Міруцёў. Вельмі хутка сані прыехалі ў Бандары і затрымаліся каля хаты братоў Васіля і Язэпа Міруцёў. І тут я ўжо не паўтараю чужых расказаў, а кажу тое, што бачыў сваімі вачыма. Немцы ўварваліся ў хату Міруцёў, вывелі братоў і падвялі іх да саней, на якіх ляжаў партызан Федзька. Федзька назваў беспамылкова імёны братоў. Васіль Міруць запярэчыў, сказаў, што першы раз у жыцці бачыць гэтага партызана. Тады Федзька сказаў:

— Не дурыся, Васька, каля хлява ў трэсках ляжыць закапаны ручны кулямёт.

Немцы пайшлі на панадворак, раскідалі трэскі і выграблі з іх кулямёт. Арыштавалі братоў Міруцёў і спыталіся ў партызана, куды павінны ехаць. Федзька адказаў:

— У вёску Таніца.

Не ведаю чаму, але немцы нават не спяшаліся. Хвілін 10–15 туды-сюды хадзілі па вёсцы. І вось гэтыя 10–15 хвілін выратавалі жыхароў Таніцы.

Невядома якім спосабам, але жыхары Таніцы даведаліся аб тым, што сталася ў Рыбаках і Бандарах. І аб тым, што здарылася перад Таніцаю. Кажу на падставе таго, што пачуў ад Язэпа Міруця, якога немцы, патрымаўшы некалькі дзён, выпусцілі з турмы. Вось словы Язэпа:

— Сам ведаеш, што з Бандароў да Таніцы паўтары вярсты. Ехалі мы памалу. А да гэтага ешчэ матланула адны сані ў калдобіну і конь распрогся. Пакуль мужык запрагаў каня, то зноў прайшло мінут пяць, бо супоня каля хамута парвалася і трэба было яе звязваць. Ну, і калі мы ўжэ пад'язджалі да Таніцы, то выбег з вёскі раскудлачаны, з моцна чырвоным тварам Бэджык і крыкнуў: «Панове, у Таніцы тыфус!» Немцы прыказалі паварочваць сані, а пасля выкінулі ў снег Федзьку і забілі яго. От і ўсё.

Трэба дабавіць, што Бэджык — гэта мянушка жыхара Таніцы Язэпа Кузьмінскага, кемлівасць і адвага якога выратавалі некага з жыхароў Таніцы.

Партызана Федзьку пахавалі ў тым месцы, дзе ён быў забіты. Цэлы тыдзень на магіле Федзькі выў яго сабачка.

Як я ўжо сказаў, Язэпа Міруця немцы пусцілі, а яго брат Васіль апынуўся ў турме ў Беластоку. Наколькі мне вядома, сям'я ад яго лістоў не атрымлівала, але час ад часу прыходзілі пасылкі з бруднай бялізнай.

Памятаю, як у Міруцёвай хаце паказвалі ўсім нямецкую тоненькую паперку, на якой іголкай былі выкалаты словы: «Хлеб, сланіна, цыбуля, табак». Гэты малюсенькі лісточак знайшла жонка Васіля ў каўняры кашулі мужа. Калі і дзе быў расстраляны Васіль Міруць, дакладна невядома, аднак быў забіты напэўна і дамоў не вярнуўся.

Восенню 1942 года ізноў паўтарылася падобная да першай, але яшчэ горшая трагедыя. Зноў паявіліся ў нашай аколіцы немцы. Разам з імі быў другі партызан, які выдаваў тых, хто супрацоўнічаў з партызанамі. У спомненай ужо вёсцы Таніца немцы арыштавалі Міхала Лаўраша, які пакінуў жонку і двух малых сыноў. У Бандарах арыштавалі сына спомненага ўжо Язэпа Міруця Мішу. З Бандароў паехалі немцы ў Рыбакі. Аднак жыхары Рыбакоў ужо ведалі аб тым, што дзеелася ў Таніцы і Бандарах. У сувязі з гэтым уцякло з вёскі некалькі чалавек з тых, хто меў кантакты з партызанамі.

Выйшлі з вёскі Кастусь Хлябіч, Станіслаў Баршчэўскі і Аляксандр Лаўрашук. У гэты час немцы пад'ехалі пад хату Аляксандра Лаўрашука. Спыталі пра яго і, даведаўшыся, што яго няма дома, загадалі маці, каб пашукала сына. Маці, не падазраючы драмы, кінулася за вёску і, пабачыўшы пад лясочкам сына, пачала крычаць:

— Сашка, Сашка! Вернісе. Цебе клічут немцы.

Аляксандр Лаўрашук вярнуўся і быў арыштаваны. Таксама быў арыштаваны другі жыхар Рыбакоў, Міхал Кічкайла, які пакінуў жонку і малых дзяцей. Арыштаваных вазілі немцы ў лес, званы ў нас Тарабінкай, дзе знаходзілася партызанская зямлянка. З гэтай зямлянкі забралі акумулятары і нейкія іншыя прылады.

У час гэтай акцыі немцы яшчэ арыштавалі няведамага мне жыхара вёскі Раманава.

Усіх пецярых арыштаваных завезлі ў Міхалова, дзе змяшчалася сядзіба амтскамісара. На жаль, не ведаю дакладна, ці было нейкае следства, ці абышлося без яго. Вядома толькі, што ўсіх арыштаваных вывезлі немцы за Міхалова, расстралялі і кінулі ў яму. Досыць хутка сем'ям дазволілі забраць целы забітых. Целы былі перавезены ў Міхалова і пахаваны ў адной магіле. Асобна быў пахаваны толькі жыхар з Раманава. У маёй хаце захаваўся здымак, які быў зроблены над магілай Мішы Міруця, Аляксандра Лаўрашука, Міхала Лаўраша і Міхала Кічкайлы. Над магілай стаяць усе тыя жыхары Таніцы, Бандароў і Рыбакоў, якія прымалі ўдзел у пахаванні.

Падзеі, звязаныя з апісаным здарэннем, мне цяжка было расканструяваць. Бо я асабіста бачыў толькі момант арышту братоў Васіля і Язэпа Міруцёў. Таму я звяртаўся да іншых. Найбольш дапамог мне Кастусь Хлябіч, якога немцы вывезлі пасля на прымусовыя работы ў Кёнігсберг. Аднак удалося яму адтуль вярнуцца і дажыць да сёння. Зразумела, што ў расказаным мною могуць быць недакладнасці.

Думаючы аб гэтых двух трагічных здарэннях, перш за ўсё агортвае мяне трывога і жах за чалавечнасць к чалавеку, а таксама прага, каб ніколі ў будучым не паявіліся зноў такія ўмовы, якія прымушалі б чалавека стацца жывёлінай.

## АБ НЕЙЛОНАХ, БЕТОНАХ І ДУШЫ

### I

Мабыць, гадоў дваццаць пяць таму назад выбухнула ў нас нейлонавая хвароба. Як толькі хто змог, так хутка скідаў з сябе ўсё льняное, ваўнянае, баваўнянае і апранаў нейлонавае. Яно было бліскучае, прыгожае, цяжка брудзілася і лёгка мылася. Адным словам — тое, што поўнасцю адпавядала нашым новым густам і свежым марам.

Спачатку накінуліся мы на нейлонавыя кашулі. Пасля пачалі на сябе чапляць і кашулі, і плашчы, і інтымную бялізну. Як заўсёды бывае з модамі, прыходзяць яны з Захаду. Нават тое, што, для прыкладу, з'яўляецца рускім, прымае наша грамадства тады, калі запрапануе яго Захад.

Нейлонавую вопратку зафундаваў нам Захад, і мы схапілі яе як найбольшую раскошу. Хоць адразу было вядома, што з гэтымі нейлонамі нешта не ў парадку. Хто з нас не чуў, што,

апрануўшы нейлонавую вопратку, моцна пацеем, хто з нас не заўважыў, што сыплюцца з яе іскры? Усе гэта чулі і бачылі, але не трацілі энтузіязму для нейлону, далей яго паважалі. Ёсць прыказка: скажы дурню маліцца, дык ён, б'ючы паклоны, лоб разаб'е. Вось крышку з гэтымі нейлонамі мы паводзілі сябе так. Напэўна, многія памятаюць і часы, калі ўвайшлі ў моду гэтак званыя артальёнавыя (балонневыя. — *Рэд.*) плашчы. Плашчы гэтыя на Захадзе былі звычайнымі дажджавікамі, і апраналі іх там толькі ў непагадзь. Затое ў нас насілі іх удзень і ўночы. Апраналі ў гарачыню; надзявалі ў час найбольшых урачыстасцей. Плацілі шалёныя грошы. Малады і стары за гонар лічыў мець такі плашч і нават быў гатоў недаядаць некалькі месяцаў, каб яго абавязкова здабыць.

Не думайце, што я тут насміхаюся толькі з іншых. Смяюся і з самога сябе. Я таксама фарсіў у такім плашчы. Калі трэба і калі не трэба. На шчасце, вылечыла мяне з нейлонавай хваробы адна бабуля, якая таксама стала ахвярай ліхога ідала — нейлону. Старэнькая расказвала мне, што скалечыла лёгка руку і, ідучы параіцца да захопленай нейлонамі ўнучкі, абвязала руку нейлонам. Ужо назаўтра заўважыла, што скалечанае месца намнога больш пачырванела і напухла. Вядома, аднак, што часта перад фактычным выздараўленнем наступае як бы абвастрэнне хваробы. Бабуля падумала, што тут якраз такая з'ява, і таму яшчэ мацней абгарнула нейлонам хворае месца. Назаўтра, зняўшы нейлон, заўважыла, што рана выразна разраслася. Аднак і на гэты раз не зрабіла належных вывадаў, тым болей што ўнучка катэгарычна забараніла знімаць нейлон. Яна даказвала, што нейлон добры на ўсё. Калі, аднак, на трэцюю ноч бабуля пачула ў хворай руцэ страшэнны боль, зняла нейлон, абвязала скалечанае месца льняной павязкай, а паверсе, каб не гнявіць унучку, для віду і так, каб не перашкаджала доступу паветра, павязала нейлонавую анучку. Ужо раніцай яна адчула палёгку, а праз некалькі дзён чырвань і пухліна зніклі. Прамінуў тыдзень, і рука стала здаровая. Унучка была пераканана, што вылечыў заходні нейлон, а бабка добра ведала, што ратунак прынёс родны лён.

І так, дзякуючы гэтаму простаму апавяданню беларускі з-пад Гайнаўкі, я зразумеў, што ад нейлону трэба ўцякаць, як ад зласнейшага ворага. Вядома ж, што матэрыял, які адмоўна дзейнічае на хворае месца, дрэнна дзейнічае і на здароўе. Аднак гэтае ўздзеянне не так яскрава кідаецца ў вочы. На шчасце, нейлонавая мода прамінула, але ўсё яшчэ пагражае нам не меней грозная мода — бетонная.

II

Людзі нават у нашым белавежскім краі, наглядзеўшыся на мяшчан, пачалі раптоўна развальваць драўляныя дамы — часта яшчэ вельмі добрыя — і будаваць бетонныя аграмадзіны. Праедзьцеся па любой вёсцы і пабачыце, колькі іх цяпер высіцца… На шчасце, у апошнія гады наступіла нейкае апамятанне. Усё часцей відаць новыя драўляныя дамы. Думаю, што гэта будзе ўсё болей пашырацца.

І ўсё ж такі маем тут дачыненне з цікавай з'явай. Нашы продкі апраналіся ў ільняную і ваўняную вопратку, а зімой апраналі кажухі і абувалі валенкі, жылі у драўляных, крытых саломай хатах. А мы ўсяго гэтага пачалі саромецца, адкінулі яго. І як бы ўсяго гэтага было мала, пачалі мы выракацца і роднай мовы. Дзякуючы чужым, памаленьку вярнуліся мы да льняных простыняў, баваўняных кашуляў, авечых кажухоў, драўляных хат. І дзякуючы гэтаму абаронім здароўе цела. Але чужыя не памогуць, аднак, вярнуцца нам да роднай мовы, а без яе згубім здароўе душы.

## АБ ПЕСНІ І МАЛІТВЕ

Найпрыгажэйшая песня і малітва, даступныя ў нашай краіне кожнаму чалавеку, ёсць песня і малітва лесу. Нельга прайсці ці праехаць і дзесяці кіламетраў, каб не натыкнуцца на пралесак, дуброву, лес, пушчу. І гэта бадай што найвялікшае і найпрыгажэйшае багацце, даступнае кожнаму чалавеку. Можам у кожны лес, уключна з запаведнікам, увайсці з любога боку і адчуваць сябе ў ім гаспадаром. Лясная песня, малітва і ціша становяцца тваёю ўласнасцю. Пайдзі ў лес, прыстань, паглядзі, прыслухайся і задумайся над сэнсам свайго жыцця, над яго мімалётнасцю і над вечнасцю бору! І пачуеш, што, нягледзячы на ўсе няўдачы, крахі, не зважаючы на нервозы і стрэсы, пачынаеш здаравець целам і душою. Разам з жывічнымі пахамі лес улівае ў тваю душу нейкі невыказны спакой, нейкае прымірэнне са светам, нейкую веру ў сэнс нашага існавання. Прыносіць ён упэўненасць, што ёсць на гэтай зямлі нешта вечнае, чаму чалавечая нявечнасць мусіць пакланіцца, што мусіць ушанаваць і перад чым павінна пакарыцца. Лес дзеліцца з табою сваімі каштоўнасцямі, улівае ў твой арганізм частку свайго здароўя, сілы і разнаколернасці.

Ніхто і нішто на свеце не ўмее так прыгожа спяваць, маўчаць і маліцца. І мы, нованароджаныя мяшчане, учарашнія

паднявоЛеныя мужыкі, а сённяшнія панкі з такімі або іншымі пасведчаннямі або дыпломам у кішэні зыходзім, а часцей за ўсё з’язджаем з асфальтаванай дарогі і заглыбляемся ў баравую гушчу. У нашых пальцах пазвоньваюць ключыкі ад машын, якімі мы стараемся ўварвацца ў лес як найглыбей. Часта валачом з сабою надуўныя матрацы, раскладушкі, каляровыя палатачкі, алюмініевыя гаршкі, газавыя плітачкі, прадукты і абавязкова найбольшае дзіва, страшэнную абразу для іканастаснага лесу — радыёпрыёмнік! Уключаем яго адразу, яшчэ на хаду, ставім на поўную магутнасць. Глушым дрэвы, звяроў, птушак. Мы — паны свету. Бор не мае ў сваёй праграме ні джазу, ні року, а мы маем. І паглядзім, хто каго: бор нас ці мы бор!

Апамятайся, злосны чалавеча! Не валачы ў лес ніякай музыкі, не гойсай у ім, не верашчы, не рві і не ламай без сэнсу.

Памятай, што з усіх істот на свеце дрэва найбольш высакароднае, альтруістычнае і чалавечнае. Яно дае табе вечна музыку, спеў, зацішак, колер і пах — і нават тады, калі памрэ ад сякеры, дасць чалавеку цяпло, жар, попел. А калі памрэш, споўніць апошнюю паслугу — дасць дошкі на труну.

Дык шануй дрэва, не перашкаджай яму існаваць на роднай зямлі!

## АБ ПАЛАШЦЫ К.

Жыла ў нашай вёсцы вялікая дзівачка, якую звалі Палашка К. У адрозненне ад усіх жанчын не толькі з Бандароў, але і з суседніх вёсак Палашка курыла. Не ведаю чаму, але мне яна запамяталася як жанчына, якая была заўсёды старой. Мела моцна пакручаныя рэўматызмам ногі. Калі была вялікая гарачыня, яна памаленьку ішла на рэчку, там закопвалася ў моцна нагрэты пясок і цэлымі гадзінамі трымала ў ім ногі.

Палашка К. ніколі не смяялася з таго, што сама гаварыла, а, па сутнасці, усё жыццё гаварыла камічнае і смешнае. Я ніколі не бачыў Палашку пры нейкай працы ці занятках. Праўда, што часам зімовымі вечарамі прала пакулле. Калі хтосьці яе не ведаў, дык успрымаў яе пытанні і выказванні як доказ яе бяскрайняй наіўнасці. Тым часам ва ўсіх яе пытаннях была саркастычная насмешка.

Запамяталася мне на ўсё жыццё размова Палашкі К. з савецкім салдатам у ліпені 1944 года. Мая вёска, як, зрэшты, і ўся Беласточчына, была вызвалена ў выніку, бадай, найбольш

бліскучай аперацыі Чырвонай Арміі, названай «Баграціён». У канцы ліпеня 1944 года савецкія салдаты ізноў паявіліся ў Бандарах. Некаторыя з іх затрымліваліся надаўжэй, і тады завязваліся прыязныя адносіны між імі і тымі сем'ямі, дзе салдаты начавалі. Вось адзін з такіх салдат досыць доўга стаяў у Бандарах, размаўляў з людзьмі, пытаў іх пра жыццё ў час акупацыі. Прывычкай гэтага салдата было часта пытаць: «Есть еще у вас вопросы?» І вось аднаго разу, калі каля хаты Васілёвых сабралася група жанчын і дзяцей, далучыўся да трупы і гэты салдат. Пагаварыўшы аб тым-сім, салдат па старой звычцы спытаў: «Есть еще у вас вопросы?» Палашка К., як заўсёды, прыкінуўшыся бяскрайне наіўнай кабетаю, спытала:

— Салдацiку, ты мне скажы, дурной бабе, чы гэто праўда, што Сталін і Гітлер — родныя браты?

Салдат як бы анямеў. Досыць доўгі час не мог з сябе выдабыць голасу. Пасля крыху апрытомнеў і спытаў:

— О чем ты, мать, спросила?

— Ну, я спытала, чы гэто праўда, што Сталін і Гітлер — родныя браты?

Салдат поўнасцю апрытомнеў і праз момант пачаў выясняць наступным чынам:

— Знаешь что, мать? Если бы я не знал тебя и твоей семьи, я бы подумал, што ты спятила. Я прожил двадцать лет, но никогда еще не слышал такого нелепого вопроса! Можно было бы подумать, что тебе такие вопросы подсказывают злейшие враги советской власти. Ты знаешь, мать, что за такие вопросы под стенку ставят?! Как тебе могло вообше взбрести в башку, что отец народов Сталин может быть родным братом людоеда Гитлера?! Быть может, ты, мать, находишься под влиянием какой-нибудь контры? Если так, ты должна давать этой контре отпор. А если ты сама не в состоянии это сделать, так ты должна нам сообщить, кто тебе такую чушь подсказывает. Заруби на носу, мать, что Сталин и Гитлер не только не родные братья, но они даже не родственники! А вообще никому не говори, мать, что ты у меня об этом спрашивала. Я тебя должен после такого вопроса под арест взять, однако ладно, на первый раз прощу.

Палашка ўвесь час слухала салдата вельмі спакойна, і нават ніводзін мускул на яе твары не сведчыў, што пытанне яе мела іранічны характар.

Трэба сказаць, што і для мяне, чатырнаццацігадовага тады хлопца, які добра ведаў Палашку К., яе пытанне было вялікай нечаканасцю. І хоць ужо столькі гадоў прайшло з таго часу,

як жывыя застаюцца ў маёй памяці Палашка К., я — хлапец і савецкі салдат, які горача даказваў, што Сталін і Гітлер «даже не родственники».

## АБ ПРАМІНАННІ

У розныя перыяды свайго жыцця чалавек мае розныя меркі і крытэрыі праміналня. Калі чалавеку 12–15 гадоў, яму здаецца, што час праходзіць вельмі памалу і калі б ведаў, як гэта зрабіць, дык абавязкова паскорыў бы бег часу.

Дарасламу ж чалавеку здаецца нешта іншае. Здаецца яму, што час прамінае вельмі хутка, што кожны дзень прыносіць новыя маршчыны, што ўсё часцей чалавек хварэе, што многае з запланаванага не зроблена, бо не хапіла часу.

Задуменне, здзіўленне ці абурэнне з прычыны бегу часу не з'яўляецца нашым вынаходствам. Думалі аб ім і не маглі з ім пагадзіцца людзі ад моманту свайго элементарнага разумовага развіцця.

У старажытнай Грэцыі пісьменнік Феагнід — чалавек пажылога ўзросту — пісаў паэтычныя лісты-элегіі да падапечнага маладога паэта Кірна, у якіх супрацьстаўляў сваю старасць маладосці Кірна. Супрацьстаўляў і абураўся на хуткае праміланне часу, на тое, што многа чаго не паспеў зрабіць, што ўсё ярчэй бачыць перспектыву смерці. Калі сёння чытаем гэтыя скаргі Феагніда, дык яны здаюцца нам як бы і смешныя. Ужо многа стагоддзяў няма ні Феагніда, ні Кірна, ні многіх наступных генерацый пісьменнікаў, якія таксама бачылі праміланне часу і таксама не маглі з ім пагадзіцца.

Ад бяды, якой ёсць праміланне, чалавек спрабуе сяк-так ратавацца. У чым заключаецца гэты ратунак? У спробах вытлумачыць сабе, што мы пастарэлі меней, чым нашы аднагодкі. Памятаю, як адна з нашых студэнтак-завочніц сказала мне пра сваіх сяброўак аднакурсніц. «Паглядзіце на іх і на мяне, яны ў параўнанні са мною выглядаюць як мае маці, хаця нам столькі сама гадоў!»

Шчаслівая! Знайшла зманлівы спосаб памаладзець. У сапраўднасці выглядала яна прыблізна так, як і яе сяброўкі. Такі, аднак, падыход да справы вынікае з таго простага і парадаксальнага факта, што змены, якія выклікае ў людзей праміланне, заўважаем тым ярчэй, чым радзей бачым чалавека. Гледзячы на сябе і на блізкіх штодзённа, не заўважаем перамен, якія

прыносіць час. Спатыкаючы людзей рэдка, бачым перамены як на далоні.

І таму, чалавеча, калі сустрэнеш даўно не бачанага знаёмага і ўбачыш у ім вялікія перамены, памятай, што пастарэў не толькі ён, але і ты.

## АБ ЛЮБОВІ

Ёсць яшчэ ў беларускіх вёсках катэгорыя людзей, бяспамятна адданых зямлі. Мабыць, гэта ўжо апошняя генерацыя тых беларусаў, для якіх зямля, гаспадарка была не толькі тым, што запэўнівае чалавеку матэрыяльны быт, але і свайго роду рэлігіяй, духоўнай стравай.

Адзін з жыхароў вёскі Лука, якая цяпер ліквідуецца, бо трапіла яна пад вадасховішча Семяноўка, калісьці, загледзеўшыся на загоны, як бы ў забыцці сказаў мне: «Як жа не любіць гэтую зямлю. Яна ж мне пахне». Вось у гэтых словах і праяўлялася своеасаблівае веравызнанне нашых дзядоў, бацькоў.

У сувязі з тым, што я ў даны момант займаюся апрацоўкай зямлі, памагаючы сястры, выконваю не раз і найцяжэйшыя сялянскія работы, вельмі часта сустракаю маладых сялян, якія не толькі са здзіўленнем, але амаль са злосцю насміхаюцца з майго захаплення зямлёй. Не кажу тут ужо аб велізарнай катэгорыі новаспечаных нашых мяшчан, якія выехалі ў гарады. Адзін з іх крыкнуў пры мне свайму сыну: «Артур, не падыходзь да каня, бо конь смярдзіць». Зразумела, што такі ніколі не скажа, што яму зямля пахне, хутчэй скажа зусім штосьці іншае.

Мабыць, гадоў пятнаццаць таму назад памёр у Міхнаўцы-Лешуках гаспадар, які называўся Грыцуком. Памёр ён беспатомна. Грыцук меў каля пяцідзесяці гектараў зямлі. Такой вялікай гаспадаркі ў нашых ваколіцах не меў ніхто. Не ведаю дакладна, як Грыцук жыў матэрыяльна, ведаю, аднак, што ўсё жыццё працаваў страшэнна многа, бо вядома, як трэба працаваць, маючы пяцьдзесят гектараў зямлі і не маючы машын. Гадоў дваццаць пяць таму назад Грыцук у нейкай там справе прыйшоў да майго бацькі. Запомніўся мне адзін фрагмент іх размовы. Вось ён.

Бацька: — Навошта вам мучыцца, прадавайце кожны год па гектару зямлі і жывіце па-панску.

Грыцук: — Што вы, Андрэю, мне гаворыце?! Я думаю, як тут яшчэ дакупіць, а не прадаць. Як жа гэта ўзяць і прадаць? Зямля святая.

Я думаю, зрэшты, што мой бацька таксама ўсё жыццё гэтак думаў і ў ніякіх акалічнасцях зямлі не прадаў бы.

Сёння вялікая колькасць людзей не можа дачакацца пенсійнага веку і стараецца як найхутчэй пазбыцца гаспадаркі. Аднак не аб іх я хачу тут гаварыць. Наадварот, хачу сказаць аб тых, якія даўно маглі б перадаць дзяржаве гаспадарку, бо маюць па 65, а то і па 70 гадоў, але гэтага не робяць. У далейшым цяжка працуюць, аруць, сеюць, косяць, гадуюць кароў і свіней. Прыносяць карысць дзяржаве, гэта значыць грамадству, большую, чым сабе. Гэта людзі самаахвярныя і па-свойму прыгожыя. Гэта яны — соль нашай зямлі. Гэта дзякуючы ім трымаецца ў нашых вёсках беларуская і адвечная этнічная спецыфіка.

Зямля некаханая не родзіць. На жаль, такой некаханай зямлі ўсё болей, бо людзей, у яе закаханых, усё меней. І таму, калі іду або еду па Беласточчыне і бачу пажылога мужчыну ў полі, на лузе або пры жывёле, сэрца маё залівае хваля ўдзячнасці. Гэта тыя людзі, якім конь не смярдзіць, а зямля пахне. Дзякую вам, пажылыя беларусы. Без вас наша зямля становіцца сіратою.

## АБ РОДНЫМ

Атавізм — гэта кліч крыві. Тое, што жыве ў чалавеку ўтоеным жыццём і што даходзіць да голасу і праяўляецца з вялікай сілай у пэўных умовах.

Казаў мне адзін адвакат, што з абавязку сваёй прафесіі на працягу многіх дзясяткаў гадоў кантактаваў з турэмшчыкамі гарадскога і вясковага паходжання. Людзі гэтых дзвюх грамадскіх катэгорый вельмі па-рознаму паводзілі сябе ў часе надыходу вясны. Гарадскія найчасцей задумваліся, настройваліся настальгічна — і на гэтым канец. Зусім інакш паводзілі сябе сяляне. Калі толькі дзьмуў праз краты веснавы вецер, моцна ўзбуджаліся, крычалі, плакалі, кідаліся да кратаў або дзвярэй, білі ў іх кулакамі або галовамі. Здараліся выпадкі, што забіваліся насмерць. Многія крычалі пры гэтым: «Хачу на поле! Дайце мне плуг! Дзе ляжыць высяўное збожжа?» Некаторыя ўночы ўзрываліся з нараў і, ідучы па камеры, выконвалі рукой такія рухі, як бы сеялі зерне. Вось у гэтым і праяўляецца адвеч-

ны сялянскі атавізм — кліч крыві, унаследаваны ад дзядоў і прадзедаў.

Гэты кліч нашу ў сабе і я. Калі б мяне раптоўна абудзілі са сну і спыталіся: хто ты? — дык, напэўна, я б не гаварыў ні аб універсітэтах, ні аб паэзіі і нават не аб «Ніве», а гаварыў бы аб тых вясковых рэаліях, якія акрэслілі характар майго дзяцінства і юнацтва.

Як жа часта ў цемры і цішыні варшаўскай ночы я чую падпечнага цвыркуна, які нястомна заводзіў свае многагадзінныя спевы. І бачу ў марознай цемры бацьку, які прыносіць і кладзе каля цёплай печы бездапаможнае, толькі што народжанае ягня. І чую цвірканне малых жоўтых куранят, якія толькі што выкаціліся з-пад курыцы, а ўжо наровяць дзюбануць сваю «маму» ў вока.

А ці ж не могуць не сніцца і не мроіцца першыя падснежныя веснавыя струмені або спелыя зялёныя парасткі травы, якія рвуцца да сонца, нягледзячы на тое, што тут жа побач ляжыць снег і лёд. А ці можа не наведаць мяне трывога, звязаная з першымі, самастойна кінутымі ў зямлю зярнятамі…

Няхай растуць! Яны наш хлеб і наша жыццё!

А ці ж не вернецца да нас, дурных мяшчан, дабраслаўлёная святая пара пачатку жніва, калі маці і бацька апраналі свежыя святочныя кашулі — бо гэтага вымагала яго праасвяшчэнства даспелае збожжа. А ці ж можам забыць вясельныя ўрачыстасці, каравайны абрад, містэрыю перадшлюбнай абраднасці і ўрачыстую святочную падзею на тварах усіх вясельнікаў.

Мой Божа! Колькі ж яшчэ вяртаецца таго, што было, што страчана ў жыцці, але што носім яшчэ недзе ў глыбінях свайго сэрца і што якраз з'яўляецца нашай беларускай існасцю. Значыць, не цалкам і не ўсё знішчыў гарадскі цагляны звер. Значыць, прысутнічае не толькі страшэнная плыцізна матэрыяльнага дабрабыту, але засталася ў сэрцы і духоўная глыбіннасць. Жыве недзе ўва мне, што невядомымі спосабамі ўнеслі ў маю духоўную сутнасць мае бацькі, дзяды, прадзеды.

Дарэчы, ні маці, ні бацька ніколі мне не казалі: вось гэта і гэта ёсць наша роднае, беларускае, і ты, беларускае дзіця, мусіш яго шанаваць і любіць, але знаходзілі нейкія метады на тое, каб усё гэта роднае і беларускае пранікла ў маё цела і маю свядомасць. І вось гэта цяпер і праяўляецца, і звязвае мяне неразрыўным вузлом з родным.

Дарагія суродзічы беларусы! Нягледзячы на ўсе клопаты і крызісы, беларуская вёска ў Польшчы жыве так, як не жыла

ніколі. На жаль, гэтае «ніколі» мае і радасны і трагічны аспекты. Ніколі не жыла так добра матэрыяльна і ніколі не жыла так дрэнна нацыянальна. Пачуццё сваёй нацыянальнай самастойнасці, незалежнасці, гордасці зніжаецца да ўсё ніжэйшага ўзроўню. Нават з закінутых у глыбіні Белавежскай пушчы вёсак многія бацькі са сваімі роднымі дзецьмі не гавораць на сваёй роднай мове.

Беларусы, апамятайцеся! Ведайце, што, выхоўваючы дзіця на чужой мове, гадуеце ворага і свайго і сваіх продкаў. Ці хочаце, каб на нашай зямлі разам з вашай смерцю памерла беларусчына?

Людзі, выходзьце ў пагодныя ночы, сядайце перад сваімі хатамі, глядзіце ў зорнае неба так, як глядзелі ў яго нашы продкі, і ведайце, што ўсякая прыгажосць у чалавеку і ўсякае багацце бярэцца толькі з роднага.

## РАЗМОВА

Гэтых старых я наведваў рэдка. Аднак час ад часу заглядаў да іх і ўсё болей пераконваўся, што гармонію паміж людзьмі можа запоўніць поўная абыякавасць аднаго да таго, што кажа другі.

Старыя, Сцяпан і Агата, жылі ў пахіленай хатцы. Даўно ім пераваліла за восемдзясят. Сцяпан жыў выключна ўспамінамі, а Агата — дробязямі з сучаснасці, якія выклікалі ў ёй добразычлівасць і філасофскія асацыяцыі.

Шкадую, што я ніколі не запісваў тых дыялогаў, якія вялі яны паміж сабою, дыялогаў, у якіх не было ніколі ніякай супольнасці. Зрэшты, мабыць, нічога я не страціў, не запісваючы іх размоў, бо ў іх было многа такіх элементаў, якія за кожным разам паўтараліся.

Здавалася б, што ў такой сітуацыі не пачуеш у іх нічога цікавага і каштоўнага. Аднак было па-другому. Седзячы пры старых, якія, мабыць, забывалі часта аб маёй прысутнасці, удзельнічаў я ў непаўторнай атмасферы чалавечага адзіноцтва на зямлі. Адзіноцтва, якому падлягае кожны з нас, хоць не кожны хоча ў гэтым адзіноцтве прызнацца. І спадарожнічае яно нам незалежна ад таго, ці жывём адзінока, ці маем сям’ю, ці яе не маем, ці вядзём з кімсьці размову, ці аддаёмся самотным роздумам.

І вось хацелася б мне паўтарыць адну з тых размоў, якую вялі Сцяпан і Агата, седзячы на прызбе старой хаты.

Агата: — Глянь, Сцяпанку, пабегла чорная кузалка. Божа мой, Божа! Вось жыве сабе на свеце такая кузалка, бегае па зямлі, а ці ж жыццё не абышлося б без такога маленства?

Сцяпан: — Калі я служыў пад маршалам Будзённым на Украіне, то мы ваявалі з белымі на сланечнікавых палях. Вось гэта то цуд — сланечнікавае поле. Як падуе вецер, то перад табою не поле, а жоўтае мора. А нам трэба па гэтых сланечніках з кулямётаў лупіць, бо ў іх сядзяць белыя. Ну, а Будзённы, то ён быў…

Агата: — Але, але, Сцяпанку. Здавалася б, навошта Пану Богу ствараць такую кузалку. Ну, навошта? Яна ж нікому не патрэбная. Але, відаць, Богу патрэбная. Калі б не была патрэбная, то Бог яе не ствараў бы. І так яна сабе, гэта кузалка…

Сцяпан: — Гэты Будзённы, трэба табе ведаць, Агата, быў сусветным рэвалюцыянерам, і ён рэвалюцыю нёс на штыку ў Заходнюю Еўропу. Але, бачыш, перашкодзілі гэтаму белыя, таму ён і не данёс. Вось з гэтай прычыны і жывуць на Захадзе ў бядзе, а Амерыка перабралася да нас. Цяпер Амерыка ў Польшчы, а Польшча ў Амерыцы. Ну, а што да Будзённага, то я вельмі добра ведаў яго дзеншчыка. І вось аднаго разу…

Агата: — То ж усім вядома, што і кузалка таксама боскае стварэнне. Яна таксама неяк таму Пану Богу служыць, толькі што мы не ведаем як. Ну, і як тут зразумець тое…

Сцяпан: — Вось гэты дзяншчык адзін раз узяў і мне сказаў, каб я прымераў мундзір Будзённага. А мне боязна, але і хочацца. Ну, я асмеліўся і апрануў. А трэба ведаць, што на гэтым мундзіры было медалёў і крыжоў, ну, можа, пудоў са два. Я апрануў, і адразу гэтыя медалі мяне сагнулі. Хачу, але не магу ніяк разагнуцца, каб у люстэрка глянуць. Выпростваў мяне дзяншчык, выпростваў, але так з гэтага нічога не атрымалася. Урэшце ён, сукін кот, знайшоў выхад. Зняў са сцяны люстэрка і палажыў перада мною. І тады я прыгледзеўся, што там гаварыць, хараство! Узяў я, паварушыў грудзьмі, а медалі як зазвоняць! Ну, проста, як рой чмялёў. Ого, слава, то яна таксама цяжкая! А было яшчэ такое…

Агата: — Сцяпанку, ты ўжо мне, можа, тысячу разоў гэтыя буслы расказваеш.

Сцяпан: — А ты мне, Агата, дзве тысячы разоў пра свае рабачкі. Старая дурыла!

Сцяпан робіцца злосны. Памаленьку, аднак, супакойваецца і дабрэе і раптам нечакана пытае:

— А гэта памятаеш, як мы з табой калісьці кахаліся?

— А як жа, Сцяпанку, вядома, дурныя былі.

# АБ АЛЬБОМЕ

Гадоў дзесяць таму назад сустрэў я знаёмага, з якім вучыўся трыццаць гадоў таму назад. Ён — у політэхнічным інстытуце, аднак яго не закончыў. Кінуў палітэхніку і заснаваў прыватную майстэрню па рамонту аўтамашын. Спытаў мяне, дзе я працую. Я яму адказаў, што ва ўніверсітэце. Тады ён мяне спытаў, колькі зарабляю. Я яму сумленна адказаў. Знаёмы з пачуццём вышэйшасці, якая мяжуе з пагардай, заявіў, што ён такую суму зарабляе за адзін-два дні. Пасля гэтага спытаў мяне пра кватэру. Я прызнаўся, што мая кватэра — 47 квадратных метраў. Знаёмы трыумфальна рассмяяўся, і раптам у яго паявілася жаданне запрасіць мяне да сябе ў госці. Я зразумеў, што робіць ён гэта з адной думкай, каб дабіць мяне маральна, паказаць чорна на белым маё ўбоства. Аднак на пачатку размовы я сказаў, што маю час, бо цягнік у Варшаву будзе толькі праз шэсць гадзін, таму не мог цяпер выкруціцца і мусіў прыняць запрашэнне.

З горда паднятай галавой знаёмы падвёў мяне да «мерседэса», пасадзіў побач з сабой і рвануў з такой хуткасцю, што мая галава адкінулася назад. Тут жа знаёмы правёў «экзамен», спытаў мяне пра тэхнічныя даныя «мерседэса», пра колькасць цыліндраў і колькасць конскіх сіл, пра максімальную хуткасць, пра колькасць паліва, якое спальвае ён на сто кіламетраў. «Экзамен» я здаў вельмі слаба. І чым менш трапна адказваў я на пытанні, тым болей было самазадавальнення на твары знаёмага. Ад «мерседэса» перайшоў знаёмы да дырэктараў дэпартаментаў і міністраў, якія рамантуюць у яго майстэрні свае машыны або звяртаюцца да яго з рознымі справамі. З рэляцыі знаёмага вынікала адназначна, што высокапастаўленыя людзі, сярод якіх былі, апрача міністраў, таксама акцёры, звяртаюцца да яго не толькі пры рамонце машын, але таксама даражаць яго радамі, поглядамі, меркаваннямі.

Урэшце мы заехалі на нейкае прадмесце, і знаёмы затрымаў машыну перад маленькім скромненькім домікам і сказаў: я тут жыву. Я пачаў адчыняць дзверы, каб выйсці з машыны, і тады знаёмы грымнуў смехам:

— Ды што, ты сапраўды падумаў мо, што я жыву ў такой сабачай будзе?

Сказаўшы гэта, праехаў яшчэ метраў дзвесце і затрымаўся перад трохпавярховай вілай.

— Вось гэта мая хатка! — заявіў.

Я, перакանаўшыся з усёй размовы, што маю дачыненне з чалавекам, які адурэў ад таго, што яму жыццё падкінула многа грошай, пастанавіў больш не рэагаваць, не захапляцца і не асуджаць таго, што ён мне скажа або пакажа.

Увайшлі мы ў сапраўды раскошны дом. Знаёмы адчыніў дзверцы ў бары, у якім стаяла многа бутэлек. Заявіў пры гэтым, што ў яго бары сто бутэлек каньякоў і гарэлак, спытаў, што буду піць. Я сказаў, што вып’ю віскі.

— З лёдам ці без лёду? — спытаў гаспадар.

— Без лёду, — адказаў я.

— Без лёду п’юць толькі варвары! — адказаў гаспадар. І, каб не дабіць мяне да канца, патлумачыў, што так гавораць англічане.

Неспадзявана гаспадар мяне спытаў, ці я быў недзе па-за граніцамі. Не паспеў я адкрыць рот, каб адказаць, калі гаспадар мяне ўжо выручыў.

— Навошта я пытаю пра такое? — сказаў. — Зарабляючы такую мізэрную суму грошай, як ты, не толькі не паедзеш за мяжу, але дай Бог, каб хапіла на білет да першай гміны ў Польшчы.

Я не стаў пярэчыць. Гаспадар на момант прапаў і вярнуўся з аграмадным альбомам.

— Пазнаёмлю цябе са сваім захапленнем! — заявіў.

Калі разгарнуў альбом, выявілася, што запоўнены ён паштоўкамі з рознымі дзівамі Свету, тыпу індыйскіх святыняў, Эйфелевай вежы, вадаспаду Ніягара, статуі Свабоды і Музея васковых фігур у Лондане.

Аб усіх гэтых цудах гаспадар апавядаў мне так, як бы ён іх не толькі бачыў, але і іх асабіста збудаваў. Тлумачыў мне ўсё, як настаўнік тлумачыць дзеткам першага класа, якія першы раз у жыцці бачаць атлас або нейкую іншую рэдкую кнігу. Асаблівую ўвагу звярнуў на Ніягарскі вадаспад, Эйфелеву вежу, статую Свабоды і Музей васковых фігур. Пры гэтым пачаў гаварыць розную бязглуздзіцу, якая не мела нічога супольнага з сапраўдным характарам аб’ектаў.

Я, выпіўшы свае віскі, сказаў гаспадару, што ў тым, што ён гаворыць, вельмі многа недакладнасці і сказаў тое-сёе і аб Эйфелевай вежы, і аб статуі Свабоды, і Ніягарскім вадаспадзе, і аб Музеі васковых фігур.

— Адкуль ты аб гэтым ведаеш? — здзівіўся гаспадар.

— Быў у Англіі, Францыі, Амерыцы і асабіста бачыў усе аб’екты, аб якіх ты мне расказваеш свае казкі.

Твар гаспадара пазелянеў. Візіт мой пачаў стрымгалова прыбліжацца да канца. На вакзал гаспадар мяне не адвёз. Вывеў

на вуліцу і паказаў, як дайсці да стаянкі таксі. Калі мы развіталіся і разышліся, нам стала аднолькава лёгка.

## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ

Трапіў мне ў рукі «Беларускі каляндар» на 1922 год, падрыхтаваны Пятром Станічам. У гэтым календары, выдадзеным у Заходняй Беларусі, на старонках 66–67 змешчаны своеасаблівы кодэкс нацыянальных паводзін, названы тут «Дзесяццю загадамі для памяці». У сувязі з тым, што чытачам «Нівы», напэўна, будзе цікава пазнаёміцца з пунктам гледжання на справу беларускай свядомасці з боку беларусаў, якія жылі і дзейнічалі 60 гадоў таму назад, прыводжу тэкст поўнасцю.

I

Кожны праваслаўны беларус павінен ведаць, што ён не масковец (расеец); а каталік — што ён не паляк. Памятайце, што вы не проста «тутэйшыя людзі», а — беларусы.

II

Не саромся, беларусе, гаманіць па-свойму — на роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх, шануй сваю мову, шануй свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае — гэта спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб.

III

Богу маліцца трэба толькі па-свойму, і тады вы добра зразумееце тое, што кажаце. Дзяцей трэба вучыць толькі на роднай мове, тады навука прынясе шмат карысці.

IV

Толькі тады цябе будуць шанаваць як чалавека, калі сам сябе будзеш шанаваць — калі не адкінеш свайго нацыянальнага ўласнага багацця. А першы скарб нацыянальны — гэта родная мова.

V

Толькі на роднай мове, добра зразумелай мове, чалавечы розум развіваецца і багаціць родную духоўную і эканамічную культуру.

VI

Культура кожнай нацыі паасобку прыносіць карысць агульначалавечай культуры — усяму свету, таксама і мы, беларусы, прынясем карысць усім людзям на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць наша асобнае вытваранае намі, а не пазычанае ў палякаў або маскалёў. Фундаментам гэтага ёсць толькі родная мова.

VII

Быць беларусам — гэта значыць працаваць дзеля свайго краю, дзеля свайго народа і развіваць сваю культуру і штукарства. Таксама шанаваць і ўсе іншыя нацыі — і свайго не цурайся, і чужому павучыся.

VIII

Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што наша беларуская мова не горшая за іншыя мовы, толькі на нашай мове было наўмысна забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы аставаліся цёмнымі людзьмі і каб былі парабкамі чужых, болей разумных людзей. Ведайце, што некалькі сотняў гадоў таму назад на нашай мове пісаліся законы ў гэтым краі і друкаваліся розныя святыя і свецкія кнігі.

IX

Той чалавек, што называе нашу мову «мужыцкай», «хамскай» і кпіць з яе, гэта або правакатар, або дурань. Бо мова, на якой гамоніць 12 мільёнаў людзей, мае права быць нароўні з усімі іншымі мовамі і развівацца праз друк і кнігі.

X

Тыя людзі з палякаў ці маскоўцаў, што скажуць: «кіньце сваю бедную, няразвітую мову і прылучэцеся да нас — мы вам дадзім усё гатовенькае» — гэта, памятайце, такія людзі, што найдалей могуць закабаліць вашу душу — не ідзіце за імі, бо страціце сваё імя і зробіцеся нявольнікамі духу, грунтам для чужых… Толькі тады чалавек вольны — калі мае ўсё сваё.

Трэба сказаць, што, пішучы сёння падобныя маральныя наказы, мы карысталіся б іншай тэрміналогіяй. Пры гэтым, аднак, варта адзначыць, што прычыны, якія выклікалі 60 гадоў таму назад напісанне такога дакумента, па сутнасці, і сёння не

згінулі, а можа, і ўвогуле не змяніліся. І як ні дзіўна, але гэтыя прычыны ў меншай ступені знаходзяцца ў сферы суседзяў, чым у сферы саміх беларусаў. І таму, гаворачы аб нашай нацыянальнай драме, трэба паказваць пальцамі не на чужых, а перш за ўсё на сваіх, бо вядома, што годная самастойнасць у жыцці даецца як асобным людзям, так і народам не чужымі, а дасягаецца толькі і выключна гэтымі асобнымі людзьмі і гэтымі народамі праз паслядоўнае імкненне і дзеянне.

## ВЯЧОРКІ

З глыбокіх слаёў сваёй памяці дабываю сёння ўспамін аб цікавым вясковым звычаі, які называўся вячоркамі.

У доўгія асеннія і зімовыя вечары мужчыны, жанчыны, а таксама і дзяўчаты асобна збіраліся ў нейкай хаце і, прынамсі, да першай, другой гадзіны ночы вялі калектыўнае бытаванне.

Мужчыны, як правіла, займаліся толькі размовамі. Слухалі ўспаміны аб розных незвычайных гісторыях і прыгодах. Нярэдка расказвалі казкі. Іншы характар мелі вячоркі для жанчын або дзяўчат. Як адны, так і другія збіраліся гурбою ў адной з хат, прынёсшы свае калаўроты. На гэтых калаўротах пралі лён на кужаль, воўну на дываны, саяны, світкі, пакулле на радзюжкі або вопратку, вал на мяшкі або палавікі. Мабыць, галоўная прычына вячорак была ў адвечнай цязе чалавека да чалавека. Другарадная, але таксама важная прычына мела эканамічны характар. Сяляне не мелі грошай на газу. Многія свае хаты асвятлялі пры дапамозе лучыны, доўгіх дранак або капцілак. Газавую, а па сутнасці, нафтавую лямпу запальвалі рэдка. Лічылі, што не аплачваецца запальваць лямпу для адной гаспадыні або толькі для гаспадыні і яе дачок. І вось таму збіраліся чаргова ў паасобных хатах па дзесяць-дванаццаць жанчын або дзяўчат. Тады ўжо можна запаліць лямпу, бо свяціла яна не адной, а вялікай групе сабраных.

У Бандарах звычай вячорак моцна яшчэ квітнеў у час акупацыі і ў першыя пасляваенныя гады. Мне асабліва моцна запамяталіся мужчынскія вячоркі, а яшчэ мацней — дзявочыя.

Дзявочыя вячоркі пачыналіся ў нас так званай шароўкай. Шароўка сваю назву заўдзячвае шэраму зімняму змярканню. Калі толькі пачынала змяркацца, дзяўчаты бралі калаўроты і ішлі ў выбраную хату. У гэты час гаспадароў не было дома. Маці і бацька кармілі свіней, курэй, кароў і коней. У хату, прызначаную на вячоркі, паспешна збіраліся хлопцы. Як хлопцы, так і дзяўчаты стараліся выкарыстаць хвіліны адноснай свабоды,

якую давала неприсутнасць старэйшых. У гэты час лямпа яшчэ не гарэла і ў хаце панаваў густы змрок. Вось у гэтым змроку і пачыналіся сваволі. Хлопцы досыць бесцырымонна браліся за дзяўчат, хапаючы іх за дазволеныя і недазволеныя часткі цела. Некаторыя з хлопцаў выразна перабіралі меру, і таму з куткоў даляталі абураныя галасы дзяўчат: «Пусці, бессаромнік!», «Куды лезеш, парасё!», «Забяры лапы, бо дам па мордзе!», «Зараз дам па зубах!» Хлопцаў, аднак, цяжка было суцішыць, і таму валтузня працягвалася доўга. Здаралася, што моцна атакаваная дзяўчына вырывалася з абдымкаў энергічнага кавалера і выбягала ў кухню, дзе перад печкай сядзелі дзеці. Нярэдка гэтыя дзяўчаты мелі расшпіленыя блузкі або павернутыя задам наперад спадніцы. Выбегшы з моцна чырвонымі тварамі і агледзеўшы сваю вопратку, з роспаччу крычалі: «Ну і, свіння, мне блузку разарваў!», «Але ж нахабны, гузікі мне павырываў!», «Каб ён здох, ліфчык мне абарваў!»

Хутка, аднак, даводзілі сябе да парадку і наогул зноў падаваліся туды, адкуль даходзілі крыкі, уздыхі, шэпты. Калі толькі паяўлялася ў хаце гаспадыня або гаспадар, канчалася шароўка і пачыналіся вячоркі. Запальвалі лямпу. Вешалі яе пасярэдзіне хаты так, каб доступ да святла быў аднолькавы. Дзяўчаты рассядаліся, пускалі ў ход калаўроткі, і пачыналася шматгадзінная праца. Праўда, многія хлопцы скідалі шнуры з колаў, знімалі цыганкі, адкручвалі рэгулятары ў калаўротках. Настрой, аднак, наладжваўся, і дзяўчаты пачыналі спяваць песні. Спачатку ціха, плаўна, а пасля з усё большым пачуццём. Твары румяніліся і прыгажэлі. Глыбокай ноччу вельмі часта пераходзілі да казак.

Казкі ў нас найчасцей расказвалі не дзяўчаты, але хлопцы. Апавядальнікі выразна любаваліся моцным словам, не раз нават ад імя казачных герояў лаяліся, моцна згушчалі фарбы ў тых момантах, у якіх выступалі розныя жахі і страхі. Эфект быў такі, што калі трэба было разыходзіцца, дык дзяўчаты баяліся ісці дамоў. Здаралася, што некаторых з іх праводзіў гаспадар або гаспадыня

Я быў у тыя часы хлапчуком і асаблівага ўдзелу ў шароўках не браў, аднак на вячорках прысутнічаў. І, вяртаючыся дадому, каб не паказаць, што баюся, голасна свістаў. Найстрашней было ў сенях сваёй хаты, бо здавалася, што з падстрэшша скочыць на галаву нябожчык або чорт.

І вось сёння, калі ўспамінаю тыя далёкія часы, маё сэрца залівае хваля свойскасці.

## АБ ПОЛЬШЧЫ І ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІХ АДНОСІНАХ

*Інтэрв'ю для беларускага тэлебачання*

Пытаеце мяне пра Польшчу і пра беларусаў у Польшчы. Пытанне не лёгкае, і, мабыць, у маіх адказах не мала будзе суб'ектыўнага. Тым болей, што Польшча паловы 1989 года — гэта нешта плывучае. Яна зусім іншая, чым тая, якая была пяць, дзесяць ці дваццаць гадоў таму назад, а мабыць, заўтрашняя Польшча будзе моцна адрозніваццa ад сённяшняй. І таму не хачу займацца футуралогіяй, бо мог бы моцна памыліцца.

Можа, напачатку аб жыцці беларусаў у пасляваеннай Польшчы. Я належу да тых людзей, якія памятаюць перадваенную Польшчу, савецкую ўладу ў 1939–1941 гадах, нямецкую акупацыю і, зразумела, пасляваенную Польшчу. Скажу рашуча: ніколі беларусы не жылі так, як сёння. Працуюць яны ў міністэрствах, у дыпламатыі, у Акадэміі навук, у вышэйшых і навучальных установах і, мабыць, ва ўсіх сферах гаспадаркі. Але і тыя, хто застаўся ў вёсцы, радыкальна палепшылі свой побыт. Поўная электрыфікацыя вёскі, новазбудаваныя дарогі, бясплатнае лячэнне, бясплатная адукацыя, пенсіі для сялян — усё гэта нават не снілася беларусам некалькі дзесяткаў гадоў таму назад. Праўда, выгляд беларускай вёскі горшы, чым выгляд вёскі ў Пазнанскім ці Торунскім ваяводствах. На гэта складваецца многа прычын: і лепшая зямля, і культура апрацоўкі зямлі, і многае іншае.

Аднак толькі вар'ят або несумленны чалавек мог бы сказаць, што няма ў гэтай галіне вялікага прагрэсу. Кажу я аб матэрыяльнай старане жыцця беларусаў. А як выглядае духоўны бок? Горш, чым матэрыяльны.

Па-першае, у час сталінізму не было ў Польшчы нацыянальнай палітыкі. Беларускія школы то адчыняліся, то зачыняліся. Да 1956 года беларусы не маглі паклікаць да жыцця ніякай

беларускай арганізацыі. У 1956 годзе дазволілі арганізаваць Беларускае грамадска-культурнае таварыства. І больш нічога.

Калі ў 1984 годзе ў час выбарчай кампаніі ў Сейм мы запрапанавалі сваіх кандыдатаў, было гэта партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі расцэнена як праява неадказнасці і авантурызму. Выслалі мы ліст да Ярузэльскага, на які на працягу чатырох гадоў не атрымалі ніякага адказу. А ці ж тое, што беларускія аўтары ў Польшчы, нават члены Саюза польскіх пісьменнікаў, не атрымліваюць ганарараў за свае беларускія творы, з'яўляецца нармальным? Наша літаратурнае асяроддзе трактуе гэта як дыскрымінацыю. Так, партыя не мела і не мае нацыянальнай палітыкі. На адным з пленумаў Герэк заявіў, што Польшча з'яўляецца аднанацыянальнай дзяржавай. А гэта ж пярэчыць праўдзе. У Польшчы жыве каля мільёна непалякаў, і зразумела, што ўсе яны павінны мець не толькі тэарэтычныя правы, але і практычныя магчымасці развіваць сваю культуру.

А што да партыі, дык я сказаў бы так: калі раней нас клікалі ў партыйныя інстанцыі, дык я ішоў туды з бояззю, але і з надзеяй, а сёння іду ў гэтыя інстанцыі без боязі і без надзеі.

Я ўжо сказаў, што Польшча знаходзіцца ў працэсе вялікіх перамен. У гонар Польшчы трэба сказаць, што яна першая распачала працэс дэсталінізацыі. Па сутнасці, дык першай была Югаславія. Аднак Ціта, выступаючы супраць Сталіна, у спосабе кіравання дзяржавай выкарыстоўваў сталінскую метадалогію.

Ну, а кажучы аб Польшчы, трэба звярнуць увагу на значэнне Гамулкі як чалавека, які супрацьпаставіўся сталінскім спосабам кіравання дзяржавай. Вельмі часта Гамулка аб такіх ці іншых праявах сталінізму, гаварыў аб «паслясталінскай ікаўцы». І вось цікава і незразумела, што Гамулка — ахвяра сталінізму — у 1968 годзе распачаў тыпова сталінскую кампанію, скіраваную супраць яўрэяў. У выніку гэтай кампаніі многія польскія вучоныя, лекары, журналісты, дзеячы выехалі на Захад. Гэта моцна пашкодзіла Польшчы. Кажучы аб гэтым, хачу падкрэсліць, што цяжка вырвацца з абдымкаў сталінізму. Я думаю, што і сёння і ў будучым могуць паявіцца дзеячы як ва ўрадавых, так і ў апазіцыйных арганізацыях, якія будуць выкарыстоўваць некаторыя са сталінскіх прыёмаў.

Для мяне найстрашнейшае — гэта нішчэнне людзей за іх погляды, ідэі і выказванні. Колькі асоб пацярпела за гэта, як крывадушліва, подла пры дапамозе нажніц і клею дэфармаваўся сапраўдны сэнс выказванняў, тэзісаў, навуковых прац. І як нішчылі людзей пры дапамозе такіх махінацый. Не дай Бог,

каб гэта магло паўтарыцца. А такое магчыма. Быць можа, што ўсё гэта тлумачыць Дастаеўскі, кажучы, што паніжаны і абражаны чалавек імкнецца да вызвалення дзеля таго, каб паніжаць і абражаць іншых. Да рацыяналізму і справядлівасці ў гэтай галіне далёка.

Пытаеце мяне пра Беласточчыну, пра жыццё беларусаў. Я ўжо вам часткова адказаў на гэтае пытанне. Хацеў бы, аднак, адказ пашырыць. Мне здаецца, што ўсё яшчэ ў Польшчы многа людзей, якія не разумеюць, што сапраўдную славу ў свеце здабудзе Польшча тады, калі зробіць усё, каб захаваць спецыфіку нацыянальнасцей. Тым болей, што Польшча мае па-за межамі 11 мільёнаў суайчыннікаў, між іншым, мабыць, больш чым мільён у СССР. Думаю, што прыкладнае, узорнае вырашэнне справы нацыянальнасцей у Польшчы дасць магчымасць дамагацца такога ж вырашэння справы польскай меншасці па-за межамі Польшчы.

На Беласточчыне не ўсё ў парадку. Хацеў бы тут гаварыць аб стрэмцы, якая стрычыць з майго сэрца. Маю на думцы вадасховішча ў Семяноўцы. Дамбу на рацэ Нараў бачу з свайго панадворка і трактую яе як нож, убіты ў беларускую субстанцыю. Вадасховішча знішчыла пяць беларускіх вёсак: Луку, Рудню, Гарбары, Боўтрыкі і Буды. Выдадзены мільярды злотых, але не хапіла некалькі мільёнаў, каб з кожнай вёскі перанесці на бераг па адной сялібе: хатку, пуню, хлеў, свіран, якія б сведчылі аб тыпе знішчанага беларускага будаўніцтва. Да гэтага ўсяго пры дамбе паставілі помнік, на якім высечаны словы: «Аб'ект гэты ўзведзены па ініцыятыве партыйных і адміністрацыйных улад. Мае ён служыць адпачынку і развіццю сельскай гаспадаркі». Гэта ж вяршыня крывадушнасці і дэмагогіі. Як можа служыць аб'ект сельскай гаспадарцы, калі ён гэтую гаспадарку знішчыў. Пад вадой знойдзецца пяць тысяч гектараў угоддзяў, наступныя тысячы гектараў зоймуць аб'екты, якія будуць служыць адпачынку і турыстыцы. Затопленыя вёскі давалі тысячы тон збожжа, бульбы, гародніны, сена, гадавалі тысячы кароў, свіней, авечак, курэй, гусей, качак, трусоў. Усё гэта знішчана. І гэта мае служыць сельскай гаспадарцы! Гэта ж кпіны! Ініцыятары гэтага аб'екта з партыі і адміністрацыі павінны саромецца, а не ганарыцца.

І яшчэ адно. Узняты ўзровень вады падыдзе да ўскраін Белавежскай пушчы. Думаю, што ўплыў вады на флору і фаўну можа быць згубны. І таму я супраць гэтага вадасховішча. Супраць з прычын нацыянальна-этнічных, біялагічных і сельскагаспадарчых.

У Польшчы выдадзена многа турыстычных інфарматараў і фольдэраў. Выдадзены нават плакат пад назваю «Татарскі шлях», які папулярызуе татарскія мячэці і саміх татараў. Вельмі добра, што аўтары памяталі аб тых некалькіх сотнях татараў, якія яшчэ жывуць на Беласточчыне. Але чаму ж гэта да сёння ні ў адным фольдэры няма ніводнага слова аб беларускім характары Усходняй Беласточчыны?

А праект развіцця культуры на Беласточчыне да 2000 года, апрацаваны нядаўна? Амаль ні слова не гаворыцца аб патрэбах беларускай культуры. Думаю, што новыя ўрады Польшчы возьмуць пад увагу тое, чаго не бралі пад увагу ўрады папярэднія.

А цяпер аб тым, што вас цікавіць у асветніцкай справе. Яшчэ пятнаццаць гадоў таму назад вывучала беларускую мову 11 000 дзяцей. Сёння вывучае толькі чатыры тысячы. Да пачатку сямідзесятых гадоў былі на Беласточчыне школы, у якіх усе прадметы вывучаліся па-беларуску. Праўда, мы, дзеячы Беларускага таварыства, не выступалі супраць ліквідацыі гэтых школ. А рабілі гэта таму, што выпускнікі гэтых школ, ідучы на далейшую навуку ў польскія школы, мелі вялікія цяжкасці з матэматычнай, біялагічнай і гістарычнай тэрміналогіяй.

Калі ліквідаваліся беларускія школы, школьныя і партыйныя ўлады абяцалі нам, што вывучэнне беларускай мовы як прадмета ўзмоцніцца. Так, аднак, не сталася. Наадварот, настаў пастаянны спадак колькасці вучняў, якія вучацца на беларускай мове.

Якія прычыны, хто вінаваты ў такім стане рэчаў? Прычыны і віны вельмі розныя. Па-першае, старэе беларуская вёска. Вялікая колькасць маладых беларусаў выехала ў гарады і там падпала пад асіміляцыйны працэс. Па-другое, слабы стан школ ва Усходняй Беласточчыне, не заўсёды добрая атмасфера ў школах. Усё гэта дало такі, а не іншы вынік. Трэба, аднак, сказаць і тое, што апрацоўваюцца самімі беларусамі і выдаюцца ў дзяржаўных выдавецтвах падручнікі па беларускай мове для пачатковых школ. Аднак няма такіх падручнікаў для беларускіх ліцэяў. І гэта сапраўдная бяда. Ліцэі карыстаюцца савецкімі падручнікамі, якія з увагі на тэматыку, тэрміналогію моцна не падыходзяць для польскай рэчаіснасці. Апрача гэтага, у Савецкім Саюзе да нядаўна абавязвала дзесяцігодка, а ў нас — дванаццацігодка. Патрэбны падручнікі ўласныя, аднак, як дагэтуль, улады не згаджаюцца на іх апрацоўку і выданне.

Калі гаворым аб прычынах змяншэння колькасці вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, дык трэба назваць прычыну найважнейшую. У адрозненне ад усіх іншых прадметаў у школе,

якія маюць прымусовы характар, беларуская мова мае характар добраахвотны. Калі б прынцып добраахвотнасці перанесці на польскую мову ці матэматыку, таксама знайшліся б вучні, якія гэтых прадметаў не вывучалі б. І таму Беларускае таварыства і я лічу, што там, дзе насельніцтва беларускага больш, чым 50 працэнтаў, беларуская мова павінна быць абавязковай. Справай дыскусійнай застаецца тое, ці абавязковай для ўсіх, ці толькі для беларусаў. Асабіста думаю, што толькі для беларусаў, хоць ёсць і іншыя погляды.

Кажучы аб беларусазнаўчай адукацыі ў Польшчы, хачу звярнуць увагу на тое, што ёсць сапраўдным дасягненнем Польшчы. Маю на думцы кафедру беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, адзіную такога тыпу пляцоўку ў свеце па-за межамі Савецкага Саюза. Гэта — вялікая справа. Выпускнікі беларускіх ліцэяў атрымалі магчымасць працягваць беларусазнаўчую навуку. Кафедра практычна рэалізуе культурныя і навуковыя аспірацыі беларусаў. Меў я магчымасць аб гэтым гаварыць не раз у БССР, у Англіі і ў Амерыцы, калі быў запрошаны мясцовымі ўніверсітэтамі. Гаварыў аб гэтым з гордасцю і ўдзячнасцю перад усім у адрас арганізатара кафедры праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай.

І яшчэ адно. Так склалася, што я, беларус, кірую гэтай навуковай пляцоўкай. Ці ж гэта не праява эмансіпацыі? У нас у сярэднім каля 75 працэнтаў студэнтаў — гэта беларусы, 25 працэнтаў — палякі. Ёсць сярод іх праваслаўныя, католікі, баптысты або бязвернікі. Заўсёды ў час першай сустрэчы з першым курсам звяртаю ўвагу на гэту мазаічнасць і прапаную ідэю ўзаемнай нацыянальнай і светапоглядавай талерантнасці. І тут магу пахваліцца. На працягу 33 гадоў існавання кафедры не было ў нас ніводнага нацыянальнага ці рэлігійнага канфлікту. Радуецца сэрца, калі бачу, што студэнты-палякі з Варшавы запрашаюць у госці студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны або калі едуць да іх у госці на Беласточчыну. Запрашаюцца на вяселлі, на хрысціны, на сямейныя ўрачыстасці. Гэта, на маю думку, — вялікая справа. Хацелася б, каб так было і ў будучым і не толькі паміж студэнтамі, але і ўсімі беларусамі і палякамі.

Цяпер я хацеў бы перайсці да найцяжэйшага пытання, звязанага з так званымі «белымі плямамі». У апошні час паяўляецца ў беластоцкай прэсе: у «Кантрастах», у «Падляшскім кур’еры» ўсё болей публікацый, у якіх выступае татальнае абвінавачванне беларусаў у тым, што яны верныя служкі Сталіна, што яны пасля вайны займаліся злачынствамі як працаўнікі міліцыі і бяспекі

і г. д. Я асабіста ўспрымаю гэтыя артыкулы вельмі крытычна. Выклікаюць яны нядобрыя рэакцыі. Беларусы пачынаюць дамагацца ліквідацыі «белых плям» з польскага боку. А якія гэта плямы? Польскае падполле пасля вайны забівала беларусаў, выганяла іх у СССР, паліла вёскі. Нават некалькі вёсак было сілаю перахрышчаны з праваслаўя ў каталіцызм.

Калі мы спатыкаемся з беларусамі ў вёсках і мястэчках, дык яны заяўляюць прэтэнзіі, што мы паводзім сябе пасіўна, што не гаворым пра зло, якое выступала таксама пазней. Тут ідзе гутарка аб тэлексах, якія прыходзілі на Гайнаўшчыну ў 1981 годзе, тыпу: «Кацапскія свінні, чаму не бастуеце?», «Кацапы, чаму не далучаецеся да забастовак?» Гаворыцца таксама аб тым, што летам гэтага года ў некаторых вёсках невядомыя людзі забівалі дзверы малачарняў дошкамі або засыпалі пяском, каб сяляне не прадавалі дзяржаве малако. Ганебная была акцыя крыжыкаў, якія ставілі на дзвярах многіх беларусаў у Гайнаўцы, Бельску, Беластоку. Узнікае пытанне: хто ўсё гэта рабіў? Канкрэтныя віноўнікі невядомы. Мне здаецца, што было б добра, калі б усе партыі і арганізацыі, у тым ліку і Салідарнасць, асудзілі гэтыя практыкі і заявілі, што яны не маюць з гэтым нічога супольнага,

Узнікаюць і іншыя патрабаванні. Многія беларусы гавораць нам: польскія вучоныя ездзяць у СССР, каб высветліць злачынствы Саветаў у адносінах да палякаў. У такой сітуацыі павінны савецкія вучоныя прыязджаць у Польшчу і даследаваць злачынствы палякаў. І тут я стаю перад вялікай дылемай. Я асабіста трыццаць гадоў працаваў над засыпаннем прорвы паміж палякамі і беларусамі. Узводзіў мост паміж нашымі народамі. Рабіў гэта і ў паэзіі, і ў публіцыстыцы, і ў навуковых артыкулах, і ў лекцыях. Калі б я далучыўся да ідэі «белых плямаў», я запярэчыў бы самому сабе. Тэарэтычна прызнаю рацыю тым асобам, якія кажуць, што трэба назваць усе факты, адкрыць злачынствы, ачысціць атмасферу і збудаваць новы тып дружбы. Гэта правільна. Аднак у практыцы гэта будзе азначаць доўгі ланцуг прэтэнзій, закідаў, абвінавачанняў, якія выклічуць нянавісць і варожасць. Будзе гэта формай капання новай прорвы і знішчэння тых мастоў, якія будаваў. І таму, хоць і не выступаю супраць ідэі знішчэння «белых плямаў», сам не хачу прымаць удзелу ў гэтых «раскопках», якія давядуць да ўзмацнення нянавісці, што акрэсліць польска-беларускія адносіны на многа гадоў. Палякі і беларусы не павінны ўзаемна глядзець на сябе як на злачынцаў. Тым болей што на працягу соцень гадоў у адносінах паміж нашымі народамі не было крыві. Годна і лаяльна захоўваліся

беларусы і палякі нават у час акупацыі. Прынамсі, так было на Беласточчыне, і я асабіста цаню гэта найбольш. Гэта для мяне вялікая маральная вартасць, якую нельга нішчыць.

Наступнае пытанне цяжкое. Датычыць яно польскага нацыяналізму. Не пярэчу, што ён ёсць. Зразумела, што нацыяналізму не змерыш і не зважыш, але мне здаецца, што сапраўды яго болей у палякаў, чым у беларусаў. Я, аднак, думаю, што нацыяналізм можна ацэньваць не толькі адмоўна, але і станоўча. Гэта ж дзякуючы нацыяналізму Польшча выратавала сваю мову, культуру і сваю нацыянальную тоеснасць пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Мы такога нацыяналізму не праявілі і таму паддаліся русіфікацыі ў СССР і паддаёмся паланізацыі ў Польшчы.

Але ёсць і аспект негатыўны. А ён негатыўны тады, калі праяўляецца ў неталерантнасці да іншых народаў, у шавінізме і фанатызме. Я, аднак, адкідаю спрошчаны тэзіс, што кожны паляк — нацыяналіст у негатыўным сэнсе. Спашлюся тут на свой прыклад. У Варшаўскім універсітэце ўсе ведаюць, што я беларус. Аднак сярод палякаў я маю многа сяброў. Верце мне, што некалькі разоў мне патрэбна была сума мільёна злотых або некалькі сот долараў. Я іх без цяжкасцей пазычаў у палякаў. Зрэшты, ім таксама не раз пазычаў досыць вялікія сумы. Я ведаю, што многія са знаёмых беларусаў маюць шмат грошай, аднак ведаю і тое, што яны мне не пазычылі б такіх сум, якія пазычалі палякі.

Скажу яшчэ пра адно. У нас на факультэце праводзяцца рознага тыпу галасаванні, звязаныя з замяшчэннем пасад. Такія галасаванні, як правіла, тайныя, не раз датычылі мяне. І верце мне, што прапорцыі галасоў у такіх галасаваннях былі для мяне заўсёды добрыя. Значыць, палякі, якія галасавалі, не кіраваліся прынцыпамі і крытэрыямі нацыянальнымі, а тым больш нацыяналістычнымі, а толькі чалавечнымі.

А ўвогуле мне здаецца, што мы, беларусы, павінны вучыцца творчага нацыяналізму ў палякаў. Калі навучымся — не згінем як нацыя, калі не навучымся — згінем.

Хацеў бы я яшчэ вярнуцца да спраў розных. Здаецца мне, што Польшчы пагражае беспрацоўе. Быць можа, што яно неабходна для таго, каб вывесці нашу краіну з крызісу. Зрэшты, я не эканаміст і таму не хачу катэгарычна выказвацца ў гэтай справе. Баюся, што калі беспрацоўе станецца фактам, можа на Беласточчыне перад усім ударыць у беларусаў. Чаму? Таму перад усім, што яны — гараджане з першага пакалення. Калі будуць

звальняць з працы, дык, мабыць, перад усім звольняць не карэннага жыхара горада, а таго, хто нядаўна прыехаў з вёскі, хто яшчэ ў вёсцы мае бацьку, брата ці нават уласную зямлю. Баюся, каб зноў мы не сталіся выключна сялянскім класам.

Яшчэ раз хацеў бы вярнуцца да сталінізму. Думаю, што ён як татальная ідэалогія ці сістэма ўжо не вернецца ў жыццё еўрапейскіх народаў, аднак яго праявы і элементы могуць выступаць у дзейнасці не толькі апалагетаў сталінізму, але і яго ахвяр. Што ж тут можна зрабіць? Паўтарыць словы Фучыка аб гітлерызме: «Людзі, будзьце пільнымі!»

А што да перспектыў еўрапейскіх народаў, дык думаю, што прайграюць тыя, хто апалагетычна адносіцца і моліцца да свайго мінулага, як і тыя, хто адносіцца да яго пагардліва. Краіна, у якой мёртвыя акрэсліваюць ідэалогію для жывых, таксама мёртвая, як і тая, у якой можна крытыкаваць мёртвых, але нельга крытыкаваць жывых. Рамантызмы, шавінізмы, фанатызмы і месіянізмы трэба адкінуць і ісці дарогаю заходніх дзяржаў, гэта значыць дарогаю дысцыпліны, адказнасці, працавітасці і ахвярнасці, якія вядуць у будучае, а не ў мінулае.

Думаю, што трэба таксама рашуча адкінуць той культ, які выступаў у СССР на працягу 70-ці гадоў — культ убоства. Парадачным чалавекам мог быць толькі галыш. Павінна быць наадварот, трэба развіваць культ заможнага і багатага чалавека. Адным словам, як найменш наіўнага рамантызму і як найболей рацыянальнага пазітывізму.

Можа, яшчэ некалькі слоў аб паляках у СССР. Іх там многа. Калі я гадоў 20 таму назад сказаў публічна ў Беластоку, што мы павінны дамагацца як найшырэйшых правоў для беларусаў у Польшчы, але павінны памятаць аб тым, што наш беларускі народ, у адрозненне да літоўцаў, пакуль што не дае ніякіх правоў палякам, на мяне са страшэннай сілай накінуўся прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў. Пасля пасяджэння не захацеў сесці за адным сталом, каб выпіць каву, і не падаў мне рукі пры развітанні. Былі пасля розныя спробы запалохвання мяне. Урэшце ў МУС нехта сказаў: «А што Баршчэўскі зрабіў дрэннага? Ён жа сказаў праўду аб сваім народзе».

Мне здаецца, што тэма і ў далейшым актуальная. У Беларусі адраджаецца польскі культурны рух. І гэта добра. Думаю, што мы, беларусы ў Польшчы, і палякі ў Беларусі павінны рабіць усё, каб адносіны паміж Польшчай і Беларуссю былі як найлепшымі, бо толькі тады будзе добра беларусам у Польшчы, а палякам у Беларусі. Можа, гэта і натуральна, што напачатку палякі з

Беларусі і беларусы з Польшчы будуць гаварыць перад усім аб сваіх крыўдах. Гэта лагічна, і гэта напэўна ўнармуецца. Трэба дазволіць адным і другім гаварыць тое, што яны маюць на сэрцы. Думаю, што тут будуць зігзагі.

Гляньце на прыклад літоўскі. Літоўцы вядуць вялікую кампанію, скіраваную супраць дэнацыяналізацыі і асіміляцыі Літвы. І гэта ж добра. Літоўцы на працягу многіх гадоў дазвалялі палякам развіваць культурны і асветніцкі рух. Аднак калі палякі заікнуліся аб аўтаноміі, падняўся страшэнны шум. Чуў я выказванні прадстаўніка польскай нацыянальнай меншасці ў Літве. Колькі ж у яго было болю, прэтэнзій. Мне здаецца, яны былі глыбока аргументаваны і ўматываваны.

Я ў Беларусі сустракаў многіх палякаў. Пытаў іх, ці ведаюць польскую мову, а яны мне адказвалі: «Нет, не знаю польского языка, но мои родители знают». А колькі ж такіх самых «беларусаў» у Польшчы! Мне здаецца: тое, што паляк у Беларусі, а беларус у Польшчы не ведаюць роднай мовы, служыць абвінавачаннем не толькі меншасці, але і большасці.

Ёсць, як бачыце, аб чым гаварыць, і гаварыць трэба тут і там. Калі будзе свабода слова. Калі не будзе свабоды — замоўкнем, і гэта стане ганьбай большасці, а не меншасці.

Быць можа, вы сустрэнецеся ў Польшчы з тым, з чым сустракаемся часта мы. Можа, вам хтосьці скажа, што беларускія дзеячы ў Польшчы хочуць стварыць ва Усходняй Беласточчыне асобную беларускую дзяржаву або што хочуць далучыць Усходнюю Беласточчыну да Беларусі. Ведайце, што такія ідэі паходзяць не ад беларусаў, але ад іх ворагаў. Мы стаялі і стаім на фундаменце захавання польскіх межаў на ўсходзе і захадзе і не марым аб ніякай беларускай незалежнай дзяржаве ў Польшчы. Мы лаяльныя грамадзяне дзяржавы.

Як бачыце, гаварыў я з вамі шчыра і адкрыта аб нашых болях і крыўдах. Напэўна, не змог бы так гаварыць дзесяць, пяць ці год таму назад. Баяўся б. Шчыра і адкрыта аб сваіх болях і крыўдах гавораць са мной палякі з Беларусі. І гэта ж сведчыць аб тым, што ўвайшлі мы ў новы, лепшы свет. І калі б паявіліся ў нас ці ў вас людзі, якія хацелі б у нашых дзвюх краінах прымусіць нас маўчаць або лгаць, або складаць вернападданыя дэкларацыі, або пакідаць работу, або ісці ў эміграцыю, азначала б гэта, што вяртаецца ў нашы краіны ганьба XX стагоддзя — сталінізм. Няхай так не станецца, і няхай ніколі данос ці плётка, ці паклёп не трактуюцца як даставерны матэрыял для абвінавачання чалавека.

Ах, забыў яшчэ аб адным. Даведаўся я, што Чырак заключыў з першым сакратаром ЦК КПБ Сакаловым дагавор аб супрацоўніцтве, у якім гаворыцца перад усім аб беларускай меншасці ў Польшчы і польскай меншасці ў БССР. Да сёння Беларускае таварыства не мае тэксту гэтага дагавора. Напэўна не маюць яго і палякі з Беларусі. Ці ж гэта не рэлікт нядобрага мінулага? Гэта ж зноў аб нас без нас.

Едзьце на Беласточчыну. Думаю, што вам спадабаецца жыццё беларусаў у Польшчы — жыццё, у якім ёсць месца на працу і песню. Хоць у гэтым жыцці сёе-тое трэба змяніць на лепшае.

## КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ, КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ…

Увесь трагічны парадокс заключаецца ў тым, што тады, калі такога тыпу артыкулы, даклады, вершы пісаліся, сялянства мучылася ў новай прыгоннай сістэме. Спатрэбіліся доўгія дзясяткі гадоў, каб калгасы, асабліва тыя, што існуюць у Літве, Латвіі, Эстоніі, Заходняй Украіне, Малдавіі і Заходняй Беларусі, канчаткова пераламалі ўсе бессэнсоўныя забароны і загады і паднялі калгасную гаспадарку на належны ўзровень. На жаль, датычыць гэта толькі невялікіх рэгіёнаў СССР. На большасці тэрыторыі краіны калгасны маразм далей скоўвае адвечны сялянскі рацыяналізм, ініцыятыву, працавітасць.

У 1962 годзе знаходзіўся я ў БССР на стажыроўцы. Жыў з двума беларускімі савецкімі аспірантамі. Да аднаго з іх прыехаў бацька, які, як аказалася, быў калгасным брыгадзірам. Спытаў я ў яго пра калгасныя справы. Брыгадзір махнуў рукою і сказаў: «Бяда». Я стаў яго пытаць, у чым справа. Брыгадзір сказаў: «Пасеялі некалькі гектараў ячменю. Якраз добра трапілі і з угнаеннем і з пагодай. Ячмень узышоў вельмі добра і высокі вырас за некалькі тыдняў. Звеставаў добры ўраджай. Так, аднак, не сталася. Прыехаў сакратар райкома і спытаў, як выглядае справа па севу кукурузы. Мы адказалі, што увогуле не пасеялі, бо пасеялі ў мінулым годзе і яна поўнасцю прапала. Тады сакратар спытаў, што пасеялі. Мы адказалі, што ячмень. Сакратар заявіў, што мы сабатуем ініцыятыву М. Хрушчова, загадаў перааараць поле ды засеяць кукурузу. Мы стараліся бараніцца, даказваючы, што наша зямля і клімат неспрыяльныя для кукурузы. Сакратар быў няўмольны. Прыйшлося перааараць ячмень і пасеяць кукурузу. Ужо канец лета, а наша кукуруза мае вышыню не болей як 20–25 сантыметраў. І, як у насмешку, сям-там тырчаць з зямлі

сцябліны ячменю, якія ў два-тры разы вышэйшыя, чым кукуруза. Вось так выглядае самакіраванне ў нашых калгасах».

Пасядзеўшы крыху і паўздыхаўшы, брыгадзір дадаў шэптам: «Хутчэй бы гэтага дурака Хрушчова пагналі».

Хрушчова, наколькі добра памятаю, пагналі ў 1964 годзе. Перад адыходам, аднак, паспеў ён нарабіць сваёй самаволяй нямала зла. Часта вяртаюся да гэтай справы і думаю: ці ж індывідуальны селянін, пераканаўшыся, што на яго полі не дае ўраджаю нейкае збожжа, сеяў бы яго раз-пораз?

Зрэшты, наслухаўся я ў інтэрнаце гісторый, якія не змяшчаліся ў маіх паняццях. Для прыкладу, апавядалі студэнты, якія ездзілі на цалінныя землі, што не хапала ў брыгадах вады, і таму студэнты, хацеўшы памыцца, уставалі вельмі рана, каб «мыцца» расою. Слухаў я і аб тым, што закрываліся для дарожнага руху адрэзкі асфальтавых дарог, каб сушыць на іх тысячы тон збожжа, аб тым, што пасля ўвядзення так званага раздзельнага спосабу ўборкі на полі заставаліся тысячы гектараў скошанай, але не сабранай пшаніцы, аб тым, што непрыстасаваныя для перавозкі зерня грузавікі рассыпалі па дарозе дзясяткі тон вымалачанай пшаніцы.

Усе гэтыя апавяданні былі для мяне, сялянскага сына, які ведаў цану кожнаму вырашчанаму коласу, нейкім катастрафічным злачынствам. Рабілася зразумелым, што ўсе гэтыя страшэнныя праявы марнатраўства, бязглуздзіцы, шкоднасці — гэта віна не толькі паасобных неадказных людзей, але вынік той калектыўнай сістэмы, якая як бы была створана наўмысна для таго, каб марнаваць вынікі сялянскай працы.

Злавесная вымова гэтага ўсяго паглыблялася асабліва тады, калі чытаў я ў прэсе пераможныя, трыумфальныя артыкулы аб цалінных землях або, вярнуўшыся ў Польшчу, даведаўся, што Таварыства польска-савецкай дружбы раз-пораз арганізуе семінары, прысвечаныя дасягненням савецкай калгаснай сістэмы.

Вернемся да першых гадоў існавання БССР. Беларусь, як вядома, мела моцна адсталую сельскую гаспадарку. Сусветная вайна, рэвалюцыя, польска-савецкая вайна стапталі і знішчылі Беларусь дашчэнту. Здавалася б, што спатрэбяцца дзясяткі гадоў для таго, каб сяк-так адрадзіць беларускую вёску. Дадаткова паглыбляла нядолю беларускай вёскі цераспалосіца. Многія сяляне мелі сваю гаспадарку не толькі ў дзясятках, але і ў сотнях палеткаў, палетачкаў, загонаў і загончыкаў. Зразумела, што пры захаванні цераспалосіцы нельга было марыць аб адраджэнні

сельскай гаспадаркі. І тут настаў свайго роду цуд. Міністэрствам сельскай гаспадаркі пачаў кіраваць Прышчэпаў. Ён вельмі эфектна правёў так званую хутарызацыю. Сяляне атрымлівалі зямлю ў адным месцы і высяляліся з пералюдненых цесных вёсак на хутары.

Я добра ведаю, якім вялікім благаславенствам была хутарызацыя. Бо ў маёй вёсцы, якая знаходзілася ў межах Польшчы, была ў 1938 годзе праведзена ліквідацыя цераспалосіцы, што на працягу кароткага часу радыкальна палепшыла сялянскае жыццё.

Вяртаючыся да савецкай рэчаіснасці, варта падкрэсліць, што рэформа Прышчэпава стварыла спрыяльны грунт для прагрэсу. Праявы новага і лепшага ў вёсцы выклікалі шчырае захапленне публіцыстаў і пісьменнікаў. Вядомы празаік Міхась Зарэцкі напісаў кнігу рэпартажаў пад вымоўным загалоўкам «Падарожжа на новую зямлю». Пісьменнік пабачыў як бы рэалізацыю ў БССР той мары, з якой паміраў герой коласаўскай паэмы Міхал. Праўда, вульгарызатарскія крытыкі ў сталінскія часы ў запаветных словах Міхала аб уласнай гаспадарцы пабачылі кліканне ў калгасы, але гэта ўжо зусім іншая трагікамічная справа. Зрэшты, і сам М. Зарэцкі, калі сталінізм рушыў у атаку, для ратавання сваёй галавы напіша кнігу рэпартажаў «Вясна 1930», у якой славіць новы калгасны лад. Гэтым, аднак, ён не выратаваў сваю галаву.

Вернемся крыху назад. У палове дваццатых гадоў ствараліся ў БССР падставы для ліквідацыі адвечнай бяды і адсталасці беларускай вёскі. Поўнасцю, аднак, прышчэпаўская візія шчаслівай беларускай вёскі не збылася. Надышоў злавесны 1930 год. Прышчэпаў быў аб'яўлены рэстаўратарам капіталізму, бацькам кулацкай Беларусі, ворагам народа. Гінуў не толькі міністр, гінула надзея на сялянскае лепшае. Наступіла калектывізацыя, праведзеная самым жорсткім, бесчалавечным спосабам. Пісьменнікі стварылі першую шарэнгу апалагетаў калгаснага ладу. Была гэта вялікая мана. Ніякага выбару і ніякай добраахвотнасці ў беларускага селяніна не было. Самымі дзікімі сродкамі, прымусам і тэрорам заганялі беларускага селяніна ў калгасы. І селянін змірыўся. Змірыўся і пайшоў. Пайшлі беднякі, серадня кі і так званыя кулакі. Але вось пачалася славутая ліквідацыя кулацтва як сацыяльнага класа. Якія ж былі кулакі ў Беларусі? Адзін выдатны сучасны беларускі пісьменнік апавядаў, што ў іх вёску прыйшоў план па раскулачванні. Доўга думаў мясцовы актыў, каго раскулачыць, калі было вядома, што

ўсе гаспадары маюць па адной карове. Думалі доўга і знайшлі геніяльнае вырашэнне: залічылі ў кулакі тых сялян, у якіх каровы прывялі цялят. Цяляты згубілі людзей!

Пэўная частка так званых кулакоў, адчуўшы набліжэнне бяды, заўчасу пакінула вёску, падалася ў гарады і неяк там з горам прымасцілася на фабрыках. Магло б здавацца, што гэтыя людзі выратуюцца, Так, аднак, не сталася. Нехта з акружэння «айца народаў» звярнуў увагу на тое, што сталася страшэнная рэч — ворагі народа праніклі ў склад кіруючага сацыялістычнай краінай рабочага класа. Значыць, яны зноў будуць кіраваць сялянскай беднатой, карыстаючыся мандатам рабочых. Пачаўся працэс вылоўлівання злосных ворагаў, якія пракраліся ў пралетарскія рады. Большасць з іх з часам далучылася да тых сваіх былых землякоў, суседзяў, якія непасрэдна з вёсак павандравалі ў Сібір.

Ачышчаныя ад кулацкіх антынародных элементаў калгасныя вёскі рыхтаваліся да шчаслівага жыцця. Зрэшты, пісьменнікі не чакалі. Пачалася неспатыканая ў гісторыі гонка, спаборніцтвы, хто аб калгасным шчаслівым жыцці напіша болей і аптымістычней. Язэп Вісарыёнавіч стаў Іосіфам і завалодаў не толькі зямлёй, але і сонцам. Абагаўленне забойцы, тырана, тэрарыста сталася фактам. А ён аплачваў. Устанавіў Сталінскую літаратурную прэмію, якой шчодра абдзялілі сервілістычных пісьменнікаў. Расказваў мне адзін паважаны беларускі пісьменнік аб тым, што ў часе вялікай урачыстасці ў тэатры сакратар Цэнтральнага камітэта Гусараў у час прамовы ўпаў на вачах вялікага натоўпу на калені і, склаўшы малітвенна рукі, крыкнуў: «Давайце падзякуем вялікаму Сталіну за шчаслівае жыццё». Натоўп моцна збянтэжыўся, бо ў цесных праходах паміж крэсламі ніяк не мог зрабіць таго, што зрабіў Гусараў. Толькі мала каму ўдалося зрабіць тое ж.

Здавалася б, статыстыка спрыяла новай сістэме і яе абяцанкам. Вялікая колькасць кулакоў і іх сем’яў была вывезена ў Сібір. Тым самым паменшылася колькасць людзей, якіх мусіла карміць зямля. Усе маёмасці кулакоў: хаты, будынкі, прылады, жывёла перайшлі ва ўладанне калгасаў, скончылася эксплуатацыя кулакамі сумленных працавітых беднякоў. Дзяржава аказала калгаснікам вялікую дапамогу. Увайшлі на калгасныя палі і лугі машыны. Калгасная гаспадарка першы раз у гісторыі атрымала падтрымку з боку навукі. І якія былі з гэтага вынікі? Думаю, што можна не гаварыць, усе ведаюць. Многія мільёны калгаснікаў у СССР аказаліся на грані галоднай смерці.

Калі ў нашых заходнебеларускіх вёсках паяўляліся звесткі аб трагічнай сітуацыі ў калгасах, людзі не верылі. Гаварылі, што гэта антысавецкая прапаганда. Чакалі Саветаў. Памятаю, як мой бацька ў верасні 1939 года чалавеку, які прыйшоў у Бандары і сказаў, што бачыў на гасцінцы чырвонаармейцаў, падзякаваў, выцягнуў недзе моцна схаваную бутэльку і паставіў перад ім. Мабыць, нават і не падумаў тады аб тым, што калі б у чэрвені 1941 года савецкая ўлада пратрымалася яшчэ два тыдні, ён як кулак быў бы вывезены ў Сібір.

Энтузіязм вітання Чырвонай Арміі быў у нас спантанны і шчыры. І трэба сказаць, што, прынамсі, у дзвюх галінах жыццё ў параўнанні з польскім перыядам палепшылася: моладзь атрымала магчымасць бясплатнай навукі, а ўсе жыхары атрымалі бясплатнае лячэнне. Гэта людзей радавала. Цешыла таксама родная мова ў школах і свае чыноўнікі ў сельсаветах. Людзі ахвотна слухалі агітатараў, якія наведвалі вёскі. І раптам нечакана — калгасы! Праўда, прапаганда вялася досыць асцярожна. Хутчэй за ўсё яе мэтай было даведацца аб настроях мясцовых жыхароў. А настроі ў гэтай галіне былі дрэнныя. Людзі не хацелі калгасаў. Толькі людзі, найчасцей з тых, хто нічога не меў, падтрымлівалі ідэю калектывізацыі. На жаль, сярод іх нямала было гультаёў, п’яніц, лайдакоў, якія нічога не мелі па прычыне сваёй безадказнасці, абыякавасці, пагарды для працы. Якраз ім і былі дадзены карты ў рукі, яны з апошніх рабіліся першымі. На сходах станавіліся ў першыя рады і спявалі «Інтэрнацыянал». Асабліва моцна любілі фразу: «Кто был ничем, тот станет всем». Гарадскія агітатары, гледзячы на іх, прамянелі. Запамяталася мне фраза двух прапагандыстаў, якія пакідалі школьную залу пасля сходу ў Рыбаках. «Петя, — сказаў адзін другому, — ведь это отличные ребята. С ними создадим прекрасное будущее».

Нармальныя гаспадары паглядалі коса на новых вясковых важакоў, якіх ведалі дагэтуль з найгоршага боку. Аднак трэба было лічыцца з уладамі, якія ўсебакова падтрымлівалі вясковы бедняцкі элемент. Падтрымка гэта ішла ад афіцыйнай дзяржаўнай філасофіі, паводле якой толькі бедны быў парадачны, а заможны ў сваім характары насіў варожыя сацыялізму гены. Канчатковая мэта заключалася ў тым, каб знішчыць усе праявы вясковага дастатку і заможнасці, каб усе сталіся роўнымі, не маючы нічога.

Праўда, у нас за ліквідацыю «кулакоў як класа» ўзяліся ўлады запозна. Толькі ў другой палове чэрвеня, на некалькі дзён

перад вайной, паявіліся ў некаторых вёсках грузавікі з поўным энкавэдоўскім эскортам. Вось тады і схапілі родную сястру маёй маці і яе сям'ю з вёскі Семяноўка. Яшчэ паспелі схапіць сям-там, аднак масавага характару рэпрэсіі не мелі. Паабяцаны пачатак не атрымаў свайго развіцця, не дайшоў да кульмінацыі — перашкодзілі немцы. Новыя гаспадары кіраваліся зусім іншымі, чым Саветы, крытэрыямі. У кожным выпадку, заможнасць селяніна не была прычынай праследавання. Пачалася трохгадовая эпоха новага нявольніцтва. Факт гэты знайшоў шырокае адлюстраванне ў беларускай літаратуры, таксама, зрэшты, як і антыкулацкія сталінскія рэпрэсіі. Розніца, аднак, у тым, што ў выпадку гітлераўскіх рэпрэсій пісьменнікі свой гнеў кіравалі супраць катаў, а ў выпадку сталінскіх рэпрэсій грамілі не катаў, а ахвяры.

Вярнуся, аднак, да калектывізацыі ў маёй акрузе ў 1940–1941 гады. Не набрала яна размаху. Чым гэта вытлумачыць, не ведаю. Могуць брацца пад увагу дзве прычыны. Першая — прыватная сялянская гаспадарка ў Заходняй Беларусі была больш эканамічна эфектыўная, чым калектыўная, а дзяржава, пэўна, гэта адчувала. Запамятаўся мне такі эпізод з 1939 года. Прыехаў у нашу вёску грузавік. Некалькі салдат абышлі ўсю вёску, паведамíўшы сялян, што яны збіраюць печаны хлеб для арміі. Сялянкі з кожнай хаты вынеслі па адным, а то і па некалькі вялікіх боханаў хлеба. Многія з іх гаварылі: «Прабачце, пане афіцэр, што наш хлеб такі чорны». — «Ничего, ничего, — адказваў дабрадушна афіцэр, — наши солдаты съедят. Спасибо за хлеб, спасибо».

Калі ўжо жанчыны разышліся, афіцэр сказаў сяржанту: «Черт его знает, что об этом и думать. Кулаки они все, что ли? Смотри, сколько хлеба натаскали. Ведь малая деревушка. Какой, в конце концов, был этот панский пригнет, если у них столько хлеба? Ведь у нас столько хлеба не собрал бы с трех колхозов!»

Сэнс гэтых слоў зразумеў я многа гадоў пасля вайны.

Другая прычына пэўнага замаруджання ў правядзенні калектывізацыі магла мець тактычны характар. Новая ўлада, якая трактавалася мясцовымі сялянамі як улада вызваліцеляў, не хацела гвалтоўнай калектывізацыяй супрацьпастаўляць сабе сялянскія масы. Усё ж такі сям-там калгасы былі паўсілаю арганізаваны. У маёй акрузе бадай што найбліжэйшы быў створаны ў Новай Волі, аддаленай ад Бандароў на 12 кіламетраў.

Новая Воля мае найлепшую ў нашай акрузе зямлю, і магло б здавацца, што калгас будзе добры. Так, аднак, не сталася.

Найлепшыя ў вёсцы сяляне не былі дапушчаны да кіраўніцтва калгасам. Не было сумнення, што іх прызначэннем станецца Сібір. Кіраўнікамі новай гаспадаркі сталі найгоршыя сяляне, людзі камедыйнага тыпу, тыя, што не былі ў стане кіраваць дагэтуль ні сваімі некалькімі гектарамі, ні сваімі сем'ямі. Якраз яны — людзі «без кала і двара» — станавіліся новымі панамі. Горда ў асысце наязджаючых з раёна партыйных інструктараў і энкавэдыстаў раз'язджалі па Новай Волі, загадваючы безупынна: хутчэй сеяць, хутчэй касіць, хутчэй капаць, хутчэй малаціць, хутчэй здаваць дзяржаве прадукцыю. І сапраўды, пасеялі і пасадзілі вельмі рана насуперак усялякай логіцы, але згодна з інструкцыямі і наказамі сеялі і садзілі амаль у веснавы снег. А зямля ў Новай Волі чарназёмная, цяжкая. Прыняўшы ў сваё ўлонне зерне і бульбу, яна зацiснула іх пад уплывам сонца. Ураджай аказаўся напалову горшы, чым пры індывідуальнай гаспадарцы. У наступным годзе было яшчэ горш. Бульбу пасадзілі вельмі рана, але капалі яе ў снежні, пасля таго як бязлітасна скаваў яе, а пасля літасціва адпусціў мароз. Зразумела, што вінаватыя ў паражэнні былі не бязглуздыя заправілы, а толькі «шкодніцкі кулацкі элемент». Над Новай Воляй павісла пагроза распраў і дэпартацый. Аднак улады не паспелі ажыццявіць свой злавесны намер. Прыйшлі немцы, і зямля ў Новай Волі вярнулася ў прыватныя цёплыя рукі.

А такія, як я, хадзілі ў школу і з вялікім жарам вывучалі «Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну».

Пасля дзясяткаў гадоў калгаснага гора, бяды, бязглуздзіцы, самаволі і безгалоўя многія калгасы, асабліва ў Заходняй Беларусі, выйшлі на сваё. Людзі ў іх жывуць сёння добра. Сустрэў я, для прыкладу, на Гродзеншчыне яшчэ рухавую шасцідзесяцігадовую калгасніцу, якая мае 140 рублёў пенсіі. Трымае яна быка, якога прадасць, прынамсі, за 500 рублёў, карову, якая дае ёй немалы даход за малако, вепрука, штук дзесяць гусак, каля дваццаці курак. «Жыву, — кажа, — прыпяваючы, няма куды дзяваць грошай і яек». Пасля задумваецца і дадае: «Ну, але і бяды я хлябнула, ой, пасёрбала гора, калі толькі калгас арганізавалі. Ды і пасля не было мёду».

Стварыў я тут амаль ідылічную карціну жыцця калгасніцы. Ці ўсе калгасы такія? Не ўсе. Ёсць і бедныя, падупалыя, задоўжаныя, убогія. Відаць гэта і па хатах, і па вопратцы, і ў позірках. Аб тысячах калгасаў у глыбіні Расіі ўвогуле гаварыць не хочацца, яны страшэнна бедныя. Я іх не бачыў, але глядзеў

рэпартажы ў тэлебачанні. Цяжка паверыць, што нешта такое ёсць у Еўропе.

Найгоршае, аднак, іншае. Шматгадовы сталінскі культ убоства і праграмная нянавісць да багацця былі галоўнымі прычынамі ўпадку калгасаў. Ці ж можа быць багатым калгас, калі яго членам агітатары на працягу многіх год убівалі ў галовы ідэю: бедны чалавек — добры, высакародны, савецкі, а багаты — дрэнны, эгаістычны, антысавецкі. Такім чынам нарадзілася ў чалавечых сэрцах пагарда да ўзбагачэння. Адзін з беларускіх пісьменнікаў ездзіць штогод на Поўнач, на Пячору, сплаўляць лес. Можна там зарабіць і семсот рублёў. Трэба, аднак, працаваць. Не восем, але 10–12 гадзін у дзень. І вось гэты пісьменнік апавядае: «Гавару рускаму таварышу па рабоце: давай сёння папрацуем даўжэй, добра заробім. А ён на мяне як не кінецца: «Все тебе мало и мало, ох, ненасытная ваша западницкая душонка! Чего тебе надо? Обогащаться приехал. Получаешь в месяц за восемь часов ежедневного труда 240 рублей и скажи: слава Богу. Хватит тебе на бутылку? Хватит. Значит, выпей как человек, попляши как человек, спой песню как человек. Ну, если есть желание, дай кому-нибудь в морду как человек, и пусть тебе дадут как человеку. Понял?!»

Вось гэта і ёсць новая страшэнная філасофія жыцця, а яе карэнні — у афіцыйнай ідэалогіі пахвала ўбоства.

І яшчэ горшая з’ява (ды і яна звязана з тымі самымі карэннямі) — п’янства. Татальнае, страшэннае п’янства ў калгасах.

Гаворыць мне тая ж калгасніца: «За грошы ніхто табе не заарэ ўчастка, ніхто не пасее, не абгоніць бульбу, не вывезе гною, не паможа завезці на базу быка. За усё трэба плаціць гарэлкаю, за гарэлку зробяць усё, за грошы нічога. Грошы людзі маюць, а гарэлкі не хапае».

Сапраўды, не рубель, а паўлітроўка становіцца сродкам міжчалавечых разлічэнняў, зносін і камунікацый. Прычынай любві і нянавісці.

Адзін уніклівы беларускі пісьменнік, якога лічу сардэчным прыяцелем, з болем гаворыць: «Бяда ў нас у калгасах. Ты ж памятаеш даваеннае жыццё і ведаеш, што тады быў адзін п’яніца на вёску, а баба-п’яніца пападалася адна на пяць-дзесяць вёсак. А сёння ўсе мужчыны п’юць пагалоўна. Але і многія бабы — п’яніцы. Напіваюцца бабы ўжо з раніцы. Ідуць летам у агарод, валяцца ў баразну і ляжаць да вечара. А калі прачнуцца, зноў шукаюць гарэлкі».

Так, рагатаць і цешыцца тут не прыходзіцца. Гэта агульнанароднае бедства, бяда, катастрофа. І хто з нас ведае, як з яе выйсці? Я не ведаю.

І яшчэ адна вялікая бяда, якая вырастае з тых самых калгасных карэнняў, — абыякавыя адносіны да зямлі. Беларускі селянін вякамі абагаўляў зямлю, любіў яе, песціў, кахаў. Чаму? Таму, што яна была яго ўласнасцю, карміцелькай, абаронцам, заступніцай, надзеяй і збаўеннем. Сёння зямля страціла ўсе гэтыя атрыбуты. Калгаснік раней ці пазней можа пакінуць яе, знайсці работу ў неабсяжным СССР і кожны месяц атрымліваць рэгулярную зарплату, не чакаючы добрага ўраджаю, ад якога залежыць яго побыт. Адвечная ўлада зямлі над чалавекам перастала існаваць. Зямля, перастаўшы быць прыватнай уласнасцю, страціла адвечную магнітнасць і перастала прыцягваць сялянскае сэрца. Калгаснае — «наша супольнае», якое мела быць панацэяй на дабрабыт, высокую прадукцыйнасць працы, шчасце, абярнулася ў сваё запярэчанне — абыякавасць, бадзянне на рабоце, недысцыплінаванасць, нізкі ўзровень прадукцыйнасці працы, нізкі ўзровень жыцця. Праграмнае «нашае», а не «маё» дало страшэнныя вынікі. Адвечны сялянскі фундамент любоў да зямлі — заваліўся. Сёння ў Савецкім Саюзе заахвочваюць калгаснікаў, па сутнасці, да фермерскай гаспадаркі: бяры зямлю, бяры кароў, бяры ў крэдыт машыны, бяры насенне. А селянін, якому дзясяткі гадоў выбівалі з галавы ўласную зямлю, уласных кароў, уласнае багацце, — не хоча. Працуючы абы-як, атрымлівае ў калгасе 200–350 рублёў і не хоча тых тысяч, якія, быць можа, дасць яму прыватная гаспадарка. Што рабіць? Дабралюбаўскае пытанне. Ці ёсць на яго адказ?

Што рабіць? Мабыць, толькі арганізацыйна-палітычныя меры не дадуць пажаданых вынікаў. Няхай дапамогуць пісьменнікі, няхай згладзяць грэх, калі не свой, дык сваіх папярэднікаў, няхай пачнуць вялікую, па сутнасці маралізатарскую акцыю супраць культу выгод, супраць п'янства, супраць абыякавасці да зямлі. Тая ж вялікая дэмаралізацыя сяла, якая наступіла з прыходам калектывізацыі, у сур'ёзнай ступені была вынікам сталінскага злога слова. Калі слова магло зрабіць столькі зла, дык у стане яно зробіць і добрае.

Выдатны беларускі перакладчык Я. Семяжон расказваў мне, што ў час адступлення Савецкай Арміі ён аказаўся ў кастрычніку 1941 года пад Масквой. «Затрымаліся мы ў аднаго калгасніка. Нягледзячы на тое, што быў якраз перыяд зборкі ўраджаю, у яго не было ні адной бульбіны, ні аднаго бурака, ні адной галоўкі

капусты. Здзівіла гэта мяне вельмі тым болей, што перад хатай яго быў вялікі агарод, зарослы, зрэшты, бур’янам. Калі я спытаў калгасніка, чый гэта агарод, ён адказаў: «Мой!» Я асуджальна выказаўся аб яго падыходзе да справы, а калгаснік як не вызверыцца: «На черта мне этот огород и его плоды! Моя дочка работала до войны в Москве, у нас была провиантовая карточка. Она все привозила готовое». Вось так! Да такога спусташэння дайшлі сялянскія душы. Быць можа, у беларускага селяніна гэты гнільны працэс не пайшоў так глыбока, бо пра што пра што, а пра свой уласны палетак ён дбае, але зямельны нігілізм выступае ўсюды.

Калісьці я прачытаў дзіўны артыкул. Гаварылася ў ім, што ўласныя ўчасткі калгаснікаў, участкі, якія складаюць мізэрны працэнт у параўнанні з калгасным арэалам, даюць 40 працэнтаў прадукцыі мяса ва ўсім Савецкім Саюзе. Аўтар гэтага артыкула (мабыць, гадоў дзесяць таму назад гэта было) не рабіў ніякіх вывадаў і ніякіх прапаноў. А гэтыя ж прапановы проста аж просяцца на паперу. Значыць, адзінае збавенне ў прыватызацыі зямлі, значыць, некаханая, нічыя калгасная зямля не родзіць, а каханая ўласная пладаносіць. Але што зрабіць, каб калгаснік хацеў хацець уладаць уласнай зямлёй? Напэўна, працэс гэты нялёгкі і не кароткі, а роля пісьменнікаў ды публіцыстаў у ім вялікая. А тым часам што мы ў гэтай галіне бачым? Па сутнасці, не бачым нічога. Пісьменнікі, як драпежныя крукі, кінуліся ў трыццатыя гады на прыватную ўласнасць у вёсцы. Пісьменнікі, як анёлы, спявалі гімны ў гонар калектыўнай гаспадаркі. А сёння маўчаць. А ёсць, наколькі мне вядома, пэўная колькасць калгаснікаў, якія перанялі ад калгасаў зямлю, машыны, жывёлу і атрымліваюць добрыя вынікі ў гаспадаранні. Добрыя для сябе і дзяржавы. Бо вядома, што селянін, які гадуе 50 быкоў, сам іх не з’есць: прадасць дзяржаве. Чаму ж пісьменнікі набралі вады ў рот? Чаму не цікавяцца такімі гаспадарамі, не славяць іх, не папулярызуюць? Чаму ў часопісах няма пастаяннай рубрыкі, прысвечанай такім людзям? Няхай яны стануць героямі новых часоў. Еўропа вельмі хутка імчыцца наперад. Ні заходнюю прамысловасць, ні заходнюю сельскую гаспадарку не дагоняць сацыялістычная індустрыя і сацыялістычная сельская гаспадарка.

Трэба мяняць коней.

Праўда, ёсць у сацыялістычным лагеры факты, якія запярэчваюць маім вывадам. У Чэхаславакіі сярэдні ўраджай збожжа з

калгаснага гектара 60 цэнтнераў, такі ж, як у фермерскай Даніі. Аднак мы, усходнія славяне, не чэхі. У нас не атрымліваецца.

Вярнуся да страшэннага ўнутранага ворага — алкагалізму. На працягу многіх гадоў СССР вёў вострую прапаганду, накіраваную супраць міжнароднага імперыялізму, галоўнага ворага сацыялізму. Тым часам сапраўдны і найбольш небяспечны ўнутраны імперыялізм, які называўся п'янствам, спакойна развіваўся і рос ва ўлонні СССР.

Першы заўважыў гэта Гарбачоў і павёў з ім рашучую барацьбу, але вынікі былі мізэрныя. Адной пастановай нічога не вырашыш, патрэбна татальная і шматгадовая вайна, у якой пісьменнікі павінны быць галоўнакамандуючымі.

Я ведаю некалькіх беларускіх пісьменнікаў, якія былі алкаголікамі. Адзін з іх не апамятаўся, не паўстрымаўся і памёр. Шкада, быў выдатным літаратарам. А другі знайшоў у сабе сілу і кінуў піць. Жыве і многа піша. Сустракаў я і ў вёсцы людзей, якія кінулі піць. Адзін па прычыне здароўя, другі адумаўся, трэці пад уплывам Бібліі. Няхай іх мала, але яны ёсць. Але я іх не бачыў у беларускай літаратуры. А быць павінны. Хай пісьменнікі пішуць аб тых, хто пакахаў зноў зямлю, аб тых, хто з п'янства перайшоў у цвярозасць, аб тых, якія, кіруючыся сталінізмам, сталі нацыянальнымі рэнегатамі, а пад уплывам новых часоў яны зноў беларускія сыны. Трэба іх славіць, бо ў іх наша сялянская і нацыянальная надзея.

Маральнае адраджэнне народа сталася неабходнасцю. Або мы яго зробім і сустрэнемся з пашанай народаў, або не зробім і акажамся смеццем, якое ўтопчуць у зямлю чужацкія боты. Калісьці Бядуля напісаў, што перад беларусам тры дарогі: да Масквы, да Варшавы і да Сонца. Думаю, што сёння ўжо ведаем, якой дарогай трэба ісці.

Не так даўно Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб зямлі. Закон гэты ў тэарэтычным сэнсе мае характар рэвалюцыі. Толькі падумаць, ад 1929 года вялася інтэнсіўная прапаганда аб тым, што калектыўная ўласнасць на зямлю самая перадавая ў свеце і што толькі яна стварае велізарныя магчымасці ў галіне прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Аднак гісторыя не пацвердзіла слушнасці такога тэзіса. Наадварот, Савецкі Саюз не толькі не стаў вялікім экспарцёрам збожжа і мяса, але, наадварот, стаў найбольшым у свеце імпарцёрам гэтых прадуктаў. Тысячы пленумаў, канферэнцый, сходаў, якія павінны былі стаць пераломнымі ў галіне сельскай гаспадаркі і мелі вывесці яе на перадавое месца ў свеце, не апраўдалі надзеяў. Савецкі

Саюз таптаўся на адным і тым самым месцы і, па сутнасці, усё болей адставаў ад перадавых у галіне сельскай гаспадаркі свету. Асабліва трагікамічнымі былі заявы Хрушчова ўсяму свету, што СССР праз чатыры гады перагоніць ЗША па прадукцыі збожжа, мяса і малака. Так, аднак, не сталася. Нічога дзіўнага, што ўрэшце ў СССР дзеячы зразумелі, што далей ісці калектыўным шляхам нельга, што трэба вярнуцца да рэпрыватызацыі зямлі. І так яно сталася. Магло б здавацца, што знойдзены геніяльны выхад і праз некалькі гадоў СССР стане ракой малака і мёду. Аднак так яно не будзе. У душах савецкага сялянства, мабыць, поўнасцю знішчаны ўласніцкі інстынкт — той фактар, які вякамі быў палівам для «ўлады зямлі» над сялянскай душой. Баюся, што ў неабсяжных прасторах СССР знойдзецца параўнаўча нямнога калгаснікаў, якія захочуць стаць прыватнымі гаспадарамі. Калі такі працэс мае шанц, дык перш за ўсё ў прыбалтыйскіх рэспубліках, у Заходняй Беларусі і ва Украіне. Аднак гэтыя параўнаўча невялікія арэалы зямлі не вырашаць правіянтавай праблемы ў СССР. Па-другое, якраз у гэтых рэгіёнах большасць калгасаў — гэта моцныя добрыя гаспадаркі. На пачатку гэтага года я быў у некалькіх калгасах Гродзеншчыны і быў здзіўлены іх дасканалым станам.

Быць можа, знойдзецца палітык ці, можа, група палітыкаў, якія прыйдуць да вываду, што трэба выкарыстаць метад, які быў ужыты ў СССР у 1929 годзе. Гэта значыць, прымусова ліквідаваць усе калгасы і перадаць усю зямлю ў рукі сённяшніх калгаснікаў. Такога тыпу рэвалюцыя была б такой самай гаспадарчай катастрофай, як і тая з 1929–1930 гадоў. Давяла б да поўнага краху гаспадаркі, да страшэннага крызісу і голаду. У гэтай справе прымальныя толькі эвалюцыйныя, а не рэвалюцыйныя шляхі. Зямельна-сістэмная рэвалюцыя была б формай самазгубы. І спатрэбяцца не тыдні, не месяцы, а дзясяткі гадоў для таго, каб наступілі пазітыўныя змены і каб паліцы ўсіх прадуктовых магазінаў у СССР напоўніліся, як гэта ёсць ва ўсіх заходнееўрапейскіх краінах.

Так ці інакш, лёд скрануўся, і заўтрашняя савецкая вёска павінна быць іншай, чым сённяшняя. Якая будзе, дакладна не ведаем. Новая сітуацыя патрабуе ад савецкіх пісьменнікаў-публіцыстаў новага і шчырага слова. У чым яно павінна праяўляцца? Перш за ўсё ў тым, што пісьменнікі і публіцысты павінны сказаць усю праўду аб тых страшных часах, калі сілаю было зламана адвечнае сялянскае права на ўласную зямлю і калі дзясяткі тысяч беларускіх сялян былі рэпрэсаваны, і аб

той бядзе, у якой жыла беларуская калгасная вёска. Апрача гэтага, пісьменнікі і публіцысты павінны шукаць у сялянскай рэчаіснасці тых калгаснікаў, якія ўжо выйшлі з калгасаў і пачалі гаспадарыць на ўласным кавалку зямлі.

Пісьменнікі і публіцысты абавязаны сказаць добрае слова аб аплёваным і зняважаным міністру Прышчэпаве, які ў дваццатыя гады стараўся правесці ў Беларусі хутарскую сістэму, каб пайсці шляхам заходнееўрапейскіх дзяржаў.

Пішу я гэтыя словы, а ў маім сэрцы няма надзеі. Бо ці ж можна марыць аб развіцці беларускай сельскай гаспадаркі, калі вядома, што беларуская зямля страшэнна забруджана радыяцыяй?

Так, гэта наша страшэнная супольная бяда, і як яе пазбыцца — не ведаю.

# ГАРАДСКІЯ ГОСЦІ

## *(Камедыя з вясковага жыцця)*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Т а м а ш   Р а м а н ю к, гаспадар, 65 гадоў.
М а р ы с я, яго жонка, гады 53.
К а с т у с ь, іх сын, 25 гадоў.
В а с я, другі сын, 15 гадоў.
В ё л е т а, жонка Кастуся, гадоў 20.
Н а с т а ў н і ц а, гадоў 25.
М а р к е в і ч, паэт, гадоў 27.
С е л я н і н, 50–60 гадоў.
Ж у р н а л і с т «Н і в ы», гадоў 25.
І н с т р у к т а р   Б Г К Т, гадоў 26.

### АКТ І

#### З’ЯВА І

Сялянская хата. Стол, ложак, табурэтка. На сцяне ікона. За іконай — «Ніва». М а р ы с я   сядзіць на зэдліку і скрабе бульбу.

Т а м а ш (*уваходзячы ў хату і знімаючы шапку*). Як думаеш, маці, Кастусь, мабыць, ужо выехаў з Кракава і знаходзіцца недзе ў дарозе? Напэўна, заўтра будзе тут.

М а р ы с я. Дай Божа, каб усё абышлося і якое няшчасце з хлопцам не здарылася. Газеты ўсё аб хуліганах пішуць.

Т а м а ш. Ты, маці, зараз аб няшчасці. Ты ж зразумей, што Косця чалавек вучоны, ды і не ўломак які-небудзь. Не вельмі яго скрыўдзіш, кожнага ў дугу сагне. Ты ж не думай, аграном!.. За злот не купіш.

М а р ы с я. Яно вядома. Ды я не аб гэтым. Ты ж сам у «Ніве» чытаў аб розных катастрофах, не тут успамінаючы. Вось я і баюся якога-небудзь няшчасця, барані нас Божа!

Т а м а ш. Бяда ёсць бяда… за злот не купіш. З кожным можа здарыцца. Ды не гавары, маці, аб гэтым. Будзь спакойна. Косця прыедзе жывы і здаровы.

Т а м а ш (*устае і дастае з-за іконы «Ніву», сядае на ложак і паглыбляецца ў чытанне. Твар яго нерухомее, а пасля ажыўляецца*). Глянь, маці, гэта проста як бы аб нашым Кастусю сказана, паслухай толькі. (*Чытае.*) «Маладыя беларускія хлопцы і дзяўчаты канчаюць польскія ўніверсітэты, атрымліваюць дыпломы аграномаў, лекараў, настаўнікаў. Гэта яны, вяртаючыся ў беларускія вёскі, змяняюць характар нашых сёл. Яны прычыняюцца да павышэння ўзроўню нашай культуры, гаспадаркі, здароўя. Гэта яны стануць апорай, пацехай і вялікай радасцю сваіх бацькоў. Гэта яны працай у нашым асяроддзі заплацяць доўг сваім бацькам і краіне, якая выдае на іх адукацыю вялікія грашовыя і матэрыяльныя сродкі». Бачыш, старая, як добра напісана. Тут да ніводнага слова не прычэпішся.

М а р ы с я (*заслухаўшыся*). Ой, сапраўды добра напісаў. Маладзец. Бачыш, бацька, і ў «Ніве» разумныя хлопцы сядзяць. І, можа, гэта каторы з тых, што ў нас выпівалі. Бачыш, разумна напісаў, ды не падпісаўся. Забыў, ці як?

Т а м а ш. Як жа забыў… і то не адзін, а двое нават: Васіль Макушэўскі і Міхась Харкевіч.

М а р ы с я (*усплясквае рукамі*). А мае вы божачкі! Дык, значыцца, і сапраўды тыя, што ў нас выпівалі. Здавалася, такія простыя хлопцы, а так напісаць умеюць. А я-яй, ну і саколікі.

Т а м а ш. Ну, што ж, маці, і нашы беларусы насабачыліся. За злот не купіш, і напісаць патрапяць. Жыццё, бачыш, змянілася. Гэта не тое, што было калісьці.

М а р ы с я (*задумаўшыся над кошыкам*). Ой! — змянілася, змянілася. Вазоў жалезных няма, калаўроты павыкідалі, цапы прапалі, у клунях малатарні бушуюць. Ой, божачкі, божачкі! Як падумаеш, дык неяк і сумна, і радасна, а часамі то проста страх агорне.

Т а м а ш. Які страх, маці?! Змянілася? Няхай змяняецца! Каб толькі не горшала, а лепшала. Чаго тут баяцца або сумаваць?

М а р ы с я. А ці ж я не цешуся, але чагосьці неяк боязна. Калісьці мая мама, нябожчыца, царства ёй нябеснае, расказвала, што ў нейкай краіне Бог за грахі адабраў у людзей усе калаўроты

і прасніцы. І што ты думаеш, людзі выдзерлі дашчэнту адзенне і ўсе вымерзлі, ходзячы ўзімку голымі. Дык і з намі…

Т а м а ш (*перабівае яе*). Што ты, маці, казкі апавядаеш. Стане твой Бог калаўротамі займацца. Бог… Бог… за злот не купіш. Калі людзям добра, дык і яму павінна быць добра, я так мяркую.

М а р ы с я. Перастань, бо зараз што-небудзь грэшнае налапочаш.

Т а м а ш. Пры чым тут, маці, грэх… часы змяняюцца, ды і на казку інакш гледзімо. Часамі і шкада зробіцца. Хацеў бы чалавек паслухаць тых баек ці старых песень. Ды іх амаль няма, а калісь кожны ўмеў расказаць. Слухаеш, бывала, нібы верыш, нібы не верыш, але нeяк так добра на сэрцы. А сёння нават дзеці інакш на свет глядзяць. Я аднойчы Міхасёваму Валодзіку пачаў казку расказваць, а ён слухаў, слухаў, ды і кажа: «Я ў такую ерунду не веру. Ніякіх ведзьмаў і чарцей няма. Ва ўсім свеце наймацнейшы я разам са сваім таткам». (*Раскладае рукі і робіць скрыўленую міну.*) Вось бачыш, маці!

М а р ы с я. Лепш ты, бацька, яшчэ раз пісьмо ад Кастуся прачытай. Можа, мы чаго там недагледзелі.

Т а м а ш (*устае і выцягвае з-за іконы канверт, дастае з яго ліст і пачынае чытаць*). «Дарагія мама, тата і Васілёк! Паведамляю вам, што я ўжо здаў апошнія экзамены і атрымаў дыплом агранома. Еду да вас, каб падзяліцца з вамі гэтай вялікай радасцю і абмеркаваць таксама іншыя справы. Не прыеду да вас з пустымі рукамі. Вязу неспадзеўку. Думаю, што яна вас вельмі ўцешыць. Цалую вас і чакаю з нецярплівасцю сустрэчы. Сын Кастусь».

М а р ы с я. Бачыш, як прыемна сынок наш напісаў. Здаецца, чалавек слухаў бы і слухаў. Вучоны, што ні гавары. Толькі скажы, бацька, што ён там за неспадзеўку вязе. Ужо лепш, каб узяў і напісаў, а так, дык чакаеш і сам не ведаеш, чаго спадзявацца. Думаеш, думаеш і прыдумаць нічога не можаш.

Т а м а ш. Што там думаць, маці. Мне здаецца, што падарункі валачэ. Вось табе і неспадзеўка. Зрэшты, усё ўбачыш заўтра, калі прыедзе Кастусь.

М а р ы с я. Каб ён хаця сам прыехаў. Але, пэўна, і без падаркаў не абыдзецца.

Т а м а ш. Вядома, ён жа аграном. Шышка, за злот не купіш.

М а р ы с я. А як думаеш, бацька, дзе будзе працаваць наш Кастусь? Можа, у Гайнаўцы? Вось блізка было б. Ды і ў Бельск рукой падаць. Можа, у Бельску затрымаецца?

Т а м а ш. Найважнейшае, каб недзе тут, у нашым баку, сярод сваіх людзей, маці. Можа быць Гайнаўка, можа — Бельск… Але калі асядзе ў Міхалове, Саколцы ці ў Сямяцічах, таксама няма бяды. Усюды свае.

М а р ы с я. Ну, але, вядома. Ды і Кастусь калісьці пісаў, што будзе працаваць на Беласточчыне.

Т а м а ш. Вось, вось. А калі Кастусь скажа, дык быццам тапаром адсячэ. Слова не зменіць. Мой характар, маці… За злот не купіш.

Дзверы раптоўна адчыняюцца і ў хату з чамаданам у руцэ ўбягае В а с і л ё к.

В а с я. Мама! Кастусь з жонкай прыехаў. Вось іх чамадан з падаркамі.

М а р ы с я (*успляснуўшы рукамі*). А божачкі. Я ж казала, што няшчасце здарыцца.

Т а м а ш. Якое няшчасце, маці! Прыехаў з жонкай, дык і добра. Цешся.

М а р ы с я. А божачкі, ці ж я не цешуся, але так неяк нечакана.

Т а м а ш (*да Васі*). Дзе ж яны, Вася?!

В а с я. Ідуць з аўтобуснага прыпынку, я іх перагнаў. Зараз тут будуць.

З а с л о н а.

## З’ЯВА 2

Дзейнічаюць тыя самыя асобы. Апрача іх К а с т у с ь і В ё л е т а. Дзверы адчыняюцца і паказваецца ў іх прыгожа апранутая дзяўчына, за ёю ўваходзіць Кастусь у гарнітуры, капелюшы і гальштуку. У руцэ партфель.

К а с т у с ь. Добры дзень!

М а р ы с я (*устаючы*). Добры дзень, добры дзень!

К а с т у с ь. Знаёмцеся, гэта мая жонка.

Усе сходзяцца, вітаюцца і цалуюцца. Васілёк сядзіць пры чамадане і беспаспяхова стараецца яго адчыніць. Марыся падсоўвае гасцям табурэткі. Усе сядаюць.

Т а м а ш. Што ж ты, сынок, нас так падвёў? Напісаў, што прыедзеш заўтра, а прыехаў сёння? Мы ж не падрыхтаваліся як след.

К а с т у с ь. Прабачце, сам не спадзяваўся, што на дзень раней аформлю справы. Не хацелася нам цэлы дзень у Кракаве сядзець. Таму і прыехалі.

М а р ы с я. Ах, божачкі, дзеці мае, прыехалі раней, тым лепш, даўжэй будзеце! А можа, зусім тут ужо застанецеся?

К а с т у с ь. Ну, гэтага, мама, зрабіць не ўдасца. Мне пашанцавала, і я буду працаваць у Варшаве.

Т а м а ш. Аграном і ў Варшаве? Дык што, і там сяляне на гаспадарках жывуць?

К а с т у с ь. Сялян і гаспадарак няма, ды я буду працаваць у міністэрстве. Але пакуль што пакіньма гэтыя справы. Хачу, каб вы бліжэй пазналі неспадзеўку, аб якой я пісаў, маю жонку Вёлету.

М а р ы с я. Можа, сынок, яшчэ раз паўторыш імя жонкі, я неяк не разабралася…

К а с т у с ь (*выразна*). Вё-ле-та!

Т а м а ш. Неяк дзіўна. Пра спутніка і планеты чулі, а Вёлеты не сустрэлі дагэтуль.

М а р ы с я (*з дакорам*). Супакойся, стары. Дзе ж ты мог сустрэць? Усё жыццё за печчу прасядзеў.

Т а м а ш (*абражана*). Што ты, маці, выдумала. Я ж Георгія з рук генерала Палякова на фронце атрымаў… За злот не купіш.

К а с т у с ь. Перастаньце, бо яшчэ пачнеце сварыцца. Імя Вёлета папулярнае ва ўсёй Польшчы. З часам і ў нас стане вядомым.

М а р ы с я (*звяртаючыся да Вёлеты*). А ці Вы, панечка, разумееце што-небудзь па-нашаму, па-беларуску?

В ё л е т а (*задорна*). Właściwie to bardzo mało, ale mówcie po swojemu, jakoś damy sobie radę!

М а р ы с я. Па-польску дык нам не выходзіць. Толькі язык ламаеш. Нават самому слухаць сорамна.

В ё л е т а. Nie martwcie się, z czasem nauczycie się mówić po polsku.

М а р ы с я. Я хацела даведацца, адкуль Вы, панечка, родам?

К а с т у с ь. Вы, мама, называйце яе проста Вёлета. Яна ж вам нявестка, а не панечка.

М а р ы с я. Калі бачыш, сынок, неяк нязручна. Вы ж паны, а мы мужыкі. Ну, але калі ўжо так, дык няхай будзе. Дык адкуль ты будзеш, Філета?

В а с я (*са смехам*). Філеты дык толькі з селядцоў і доршаў робяць, мама, а яна не селядзец, а Вёлета.

В ё л е т а (*абражана*). Uspokój się, bo zaraz Ciebie obsadzę.

М а р ы с я. Дык адкуль ты будзеш, Ві… Віле… дачушка?

В ё л е т а. Właściwie to w Białymstoku.

М а р ы с я. А божачкі! Які ж гэта вялікі горад! Была я раз там. Якія там дамы велізарныя. Кожны дом падобны на царкву. Ідзеш і здаецца, што ўсё хрысціцца трэба.

В ё л е т а. Co tam Białystok, Kraków jest o wiele większy. A są przecież miasta większe od Krakowa.

Т а м а ш. Што, маці, у размову кінулася? Зрабі што-небудзь перакусіць. Гасцей голадам заморыш. (*Устае.*) Я пайду, прынясу чагосьці, каб можна было горла прамачыць. А ты, Васька, прынясі маме дроў у печку.

М а р ы с я. Але, загаварылася. Прабачце, дзеткі, зараз усё будзе падрыхтавана. (*Да Васі.*) Чаго сядзіш? Ідзі па трэскі.

Усе разыходзяцца.
З а с л о н а.

З'ЯВА 3

У пакоі В ё л е т а і К а с т у с ь.

В ё л е т а (*нюхае паветра, крывіцца*). Ale powietrze. Mam wrażenie, że tutaj przez rok nikt okna nie otwierał, w takim powietrzu koń mógły czkawki dostać.

К а с т у с ь (*лагодна*). Сама ведаеш, вёска, зусім іншыя ўмовы, чым у горадзе. Зрэшты, будзем тут толькі некалькі дзён. Аформім справы і гайда ў Варшаву. (*Цалуе Вёлету ў шчаку.*)

В ё л е т а. Tutaj napewno i pchły, jak foki?

К а с т у с ь. Блох зусім няма. А калі і ёсць, няма бяды, мы будзем спаць на сене ў клуні.

В ё л е т а. Po co mnie przywiozłeś do takiego prymitywu? Ja tu kolor cery stracę. (*Прыглядаецца ў люстра.*)

К а с т у с ь. Трэба некалькі дзён пацярпець.

В ё л е т а. Czy po to ze mną się żeniłeś, żeby mnie cierpieniami karmić?

К а с т у с ь. Лепш памаўчы, а то бацькі пачуюць.

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Т а м а ш, ставіць на стол паўлітра гарэлкі. Прыходзіць таксама маці з закускай. Садзяцца. Вёлета выцягвае люстэрка, памадку і чорны аловак. Моцна чэрніць бровы, вочы і малюе вусны, выдуваючы іх далёка ўперад. Марыся і Тамаш глядзяць на Вёлету незадаволена. Пасля глядзяць на сябе. Тамаш без слоў разводзіць рукамі. Вася стаіць пад сцяною, з зацікаўленнем глядзіць на Вёлету. Крывіць пры

гэтым твар, жмурыць вочы і выдувае губы. Тамаш аглядаецца на Васю і трасе пальцам. Вася раптоўна змяняе міну. Кастусь адкрывае невялічкі партфель і дастае адтуль падарункі.

Вось вам невялікія пакуль што падарункі. (*Падае матцы хустку.*)

В ё л е т а. Co prawda nie jest najnowsza, ale na wsi można w niej z powodzeniem chodzić nawet do cerkwi.

В а с я. Вельмі добра, мама, ты мела такую самую і аддала жабрачцы Ганульцы, дык цяпер будзеш зноў мець.

Т а м а ш. Маўчы, пачкун бясхвосты.

К а с т у с ь (*дастае і падае бацьку люльку і пачку табаку*). А гэта вам, тата, курыце на здароўе.

Т а м а ш (*бярэ незадаволена*). Дзякуй, Кастусь, дзякуй. Толькі, бачыш, я для здароўя кінуў курыць. Так лекар параіў.

К а с т у с ь (*незадаволена*). Вам не дагадзіў, дык можа яму дагаджу. (*Паказвае ў бок Васі, перадае яму невялічкі пакунак, Вася дастае з яго пугача.*)

В а с я. Ну, браткі, зброя. Сапраўдная. Цяпер не буду баяцца хадзіць вечарамі.

Кастусь паказвае брату, як карыстацца пугачом. З кухні вяртаецца маці і прыносіць яшчэ талеркі з закускай. Усе сядаюць за стол. Тамаш налівае гарэлку ў чаркі, Васі налівае аранжаду.

Т а м а ш. Ну, давайце вып’ем за здароўе нашых гасцей. За ўдачу ў іх жыцці, за іх шчасце.

М а р ы с я (*выціраючы кончыкам хусткі вочы*). Дай Божа, дай Божа!

Вася спрытна замяняе сваю чарку з чаркай маткі. Усе п’юць.

Т а м а ш. Ой, моцная, падла.

М а р ы с я. Што кажаш, бацька, маё дык нейкае салодкае.

Т а м а ш (*наліваючы чаркі*). Ты, маці, так распілася, што ўжо і спірт для цябе салодкі.

В а с я. Цяпер давайце вып’ем за здароўе дзяцей, якія паявяцца ў Вёлеты і Кастуся.

Т а м а ш. А каб цябе паляруш, гіцаль ты бясхвосты. Малакасос недапечаны! (*Замахваецца на Васю рукою.*)

М а р ы с я. Чаго ты, бацька, на дзіця наваліўся? Ці ж ён сказаў што-небудзь дрэннае?

Т а м а ш. Ды яно і папраўдзе. Чаму нам не выпіць за вашых дзяцей?..

Вася хоча замяніць сваю аранжаду на гарэлку Вёлеты, але тая ўбачыла.
Б’е яго спрытна па ілбе.

В ё л е т а. Hej, cwaniaku, możesz oszukiwać takich jak sam. Mnie nie nabierzesz!

Т а м а ш. Ах ты, разбойнік, дык ты, мабыць, падмяніў сваю аранжаду на матчыну чарку. (*Тузае яго за вуха.*) Прызнавайся!

В а с я. Ой, ой, ой! Пусціце, татачка. Падмяніў, бо памыліўся, але больш ужо не буду мыліцца.

Т а м а ш (*б’е Васю па карку*). Глядзі, пачкун голены, яшчэ раз зробіш, з хаты выганю. Ну, дык за вашых дзяцей!

М а р ы с я. Што ты гаворыш, бацька? Яны ж самі дзеці. Няхай пажывуць, пацешацца свабодай.

К а с т у с ь. Цяпер вып’ем за ваша здароўе, мама і тата. Каб доўга жылі і каб добра вам ішло.

Вёлета, не чакаючы на іншых, спрытна выпівае сваю чарку.
Іншыя таксама выпіваюць.

Т а м а ш. Ды ты, Вёлепа, хоць і палячка, але п’еш зусім па-беларуску. Маладзец.

В ё л е т а. Po pierwsze, nie Wiolepa, a Violetta, a po drugie, to cóż to — wypić nie można. Polacy nie gorzej piją od Białorusinów.

Т а м а ш. Ды я нічога не маю супраць, калі здароўе дазваляе, дык і выпіць можна.

Вёлета ўсміхаецца моцна нафарбаванымі вуснамі. Выцягвае з сумкі
папяросы і закурвае. Выдувае з сябе далёка дым.

М а р ы с я. Дык і курыш, дачушка?

В ё л е т а. Oczywiście, że palę. I cóż z tego?

М а р ы с я. Ды нічога. Толькі неяк дзіўна. У нашай вёсцы ніводна дзяўчына не курыць.

В ё л е т а. Powinniście wiedzieć, że nie jestem wiejską dziewczyną.

Т а м а ш (*незадаволена*). Вядома, вядома. Горад ёсць горад. Але ў нас гэта не прынята. Ды і не здорава.

К а с т у с ь. Няма праблемы, калі табе, тата, дым шкодзіць, дык Вёлета не будзе курыць дома і, як трэба, дык выйдзе з хаты.

М а р ы с я. Што ты, Кастусь, каб такія, як вы, гарадскія госці, дык яшчэ з хаты ўцякалі. Няхай Бог бароніць. Калі толькі хочаце, дык курыце тут, і годзе.

Т а м а ш. Вядома. Я ж і сам курыў, дык ведаю, што гэта за прывычка.

М а р ы с я. Кіньце ўжо гутарку аб гэтым. Можа, вы, дзеткі, лепш раскажаце, як там у горадзе народ жыве. Мусіць, не так, як у нас.

В ё л е т а. Wiadomo, tam wszystko za ludzi robią maszyny, a tu każdy tyra jak głupi.

Т а м а ш. Машыны дык і ў нас ёсць. Трактар маем, малатарня ёсць, касілку купілі. Сельскагаспадарчая база ў нас за работу ўзялася, вось і жыць лягчэй стала, за злот не купіш. Гэта не тое, што да вайны было.

В ё л е т а. Ja mówię o maszynach domowych, o lodówce, odkurzaczu.

М а р ы с я. Няма ў нас, галубка, нічога. Усё рукамі трэба, усенька рукамі.

Васька адыходзіць ад стала і за плячыма ўсіх стараецца адкрыць чамадан. Стараецца заглянуць у яго праз шчылінку. Нюхае, крывіцца.

В ё л е т а. Na przykład, taka pralka. Wrzucamy do niej trochę mydła, wkładamy bieliznę, włączamy prąd i za kilka minut bielizna czyściuteńka.

Вася з трэскам адчыняе чамадан, з якога вывальваецца брудная бялізна.

Т а м а ш. Што ты, жулік, нарабіў?!

В ё л е т а. No trudno, już się stało. Przywieźliśmy przy okazji trochę brudnej bielizny mamie do prania.

М а р ы с я. Чаму ж не, дзеткі, калі трэба, дык памыю. Але навошта вам было везці такі кавалак дарогі? У вас жа машыны.

В ё л е т а. Maszyna też kosztuje nie mało, a ręce są bezpłatne.

К а с т у с ь (*злосна).* Што ты гаворыш, Вёлета, упілася, ці што?

В ё л е т а. Widzicie go, słowa nie da powiedzieć.

Т а м а ш. Я ўжо і сам не ведаю, як з тым жыццём у горадзе. Добра там ці дрэнна. Без паўлітра не разбярэш. (*Налівае чаркі.*) Ну, будзьце здаровы.

Усе выпіваюць і закусваюць, наступае клапатлівае маўчанне. Васілёк майструе нешта ў пугачы. Раптам раздаецца стрэл. Усе ўздрыгнулі. Тамаш зляцеў з табурэткі.

Т а м а ш (*зрываецца і кідаецца на Ваську*). А каб ты скіс, пачкун хваёвы.

Васька ўцякае з хаты.
З а с л о н а.
Канец першага акта.

## АКТ II

### З’ЯВА 1

Дзея адбываецца ў школе. На сцяне партрэты Міцкевіча і Янкі Купалы. У зале сядзіць многа людзей. Сярод іх знаходзяцца таксама Т а м а ш, В ё л е т а, К а с т у с ь і В а с ь к а.

Н а с т а ў н і ц а. Паважаныя грамадзяне, сённяшні сход прысвечаны сустрэчы з беларускім паэтам, які прыехаў з Беластока і прачытае нам свае вершы. Апрача таго, чакаем прыезду інструктара ГП БГКТ, які будзе гаварыць аб справах, звязаных з арганізацыяй у нашай вёсцы драматычнага гуртка. Тым часам прадстаўляю вам Андрэя Маркевіча і прашу, каб пазнаёміў нас са сваёй творчасцю. Калі ласка.

М а р к е в і ч (*устае*). Я вельмі цешуся, што ўдалося мне ўрэшце прыехаць у вашу вёску. Спачатку хацеў бы сказаць некалькі слоў аб сабе. Нарадзіўся я на Беласточчыне ў вёсцы Галіннікі. Вучыўся ў Беластоку і Варшаве. Вершы пішу ад 1957 года. Памяшчаю іх у «Ніве» і ў беларускіх календарах.

Г а л а с ы з залы. Знаем, ведаем, чыталі!

Вельмі мне прыемна. Выдадзены таксама мой зборнік вершаў «Беластоцкае неба» і зборнік апавяданняў «Прыгоды дзядзькі Прыгунца». А цяпер хачу я вам прачытаць некалькі вершаў. (*Дастае блакнот і чытае.*)

### Восень

Замоўклі салаўі у лесе белавежскім,
Расстаўся клён з лістом апошнім,
Палын шуміць самотна на узмежку,
Зіму прарочыць рыжай пожні.
Ляцяць вароны да сяліб счарнелых,
Вартуюць ціха панадворкі,
Даўно ўжо адзвінелі стрэлы
Буслоў і жураўлёў пад горкай.
Гляджу ў даль,
Сляза туманіць вока,
І непакой душу трывожыць;
Бо птахі адляцелі ў край далёкі,
Адкуль не кожны з іх вярнуцца зможа.

У зале раздаюцца апладысменты. Не апладзіруюць толькі Вёлета і Кастусь.

А зараз я прачытаю верш, прысвечаны матцы.

Калі мне цяжка у жыцці,
Калі не знаю, як ісці,
Калі стаю на крок ад згубы —
Тады з надзеяй мае губы
Шапочуць адно слова —
Мама!
І чым старэйшы.мой узрост,
Чым больш заблытаны мой лёс,
І чым слабейшы ўзмах крыл,
Чым менш у маіх грудзях сіл
Тым галасней кажу я:
— Мама!
Як трэсне майго быту вось,
Не буду мець ніякіх просьб —
Жыцця аднова не пачаць.
Каб толькі на хвіліну ўстаць
Ды і на цэлы крыкнуць свет:
— Мама!

Зноў апладысменты.

В а с я. Можа, прачытаеце аб каханні?

Т а м а ш (*б'е сына па патыліцы*). Вось табе каханне, дрозд ты бясхвосты.

У зале раздаецца агульны рогат.

М а р к е в і ч. Ну, што ж, можна і аб каханні. Прачытаю вам верш «Белавежанка».

Цябе стварыў Бог,
Калі цешыўся моцна
Радасцю нейкай.
З галінкі яловай
Даў табе вейкі.
Вочы — з азёраў двух сініх,
Зубы — з інею.
Косы — з саломы пшанічнай.
Голас — з песні крынічнай.
Сэрца — з бур навальнічных.

Ласку — з цішы вячэрняй,
Не знаючай межаў.
Цябе стварыў Бог,
Ў салаўінай краіне,
У Белавежы.

Усе апладзіруюць.

Прачытаю яшчэ адзін верш, пад загалоўкам «Да п’яніцы».

«Не буду болей піць я водкі», —
Сказаў ты ўчора ўрачыста.
Ды, відна, з памяццю кароткай,
Бо сёння зноў напіўся чыстай.
І зноў навокал сёння звоніш,
Завеш яе халерай лютай,
На водку кідаеш праклёны,
Як на найгоршую атруту.

* * *

І распілі зноў вечарам да дна літроўку белай.
Абяцала свіння не есць талакна, ды з’ела.

У зале смех, апладысменты, галасы: «Ну і даў», «Маладзец».

Дзякую, я скончыў. Не буду вас больш затрымліваць. Але калі маеце якія пытанні, дык, калі ласка, з прыемнасцю адкажу.

К а с т у с ь (*з іранічнай усмешкай*). Я хацеў бы ў вас запытацца, чаму вы пішаце па-беларуску, ці не лепш было б пісаць па-польску або інакш?

М а р к е в і ч. Вы ў мяне спыталіся са злоснай іроніяй, дык і адкажу я вам у тым жа духу. Скажыце, калі ласка, чаму вы нарадзіліся беларусам, ці не лепш было б вам нарадзіцца палякам або кімсьці іншым?

У зале раздаецца смех.

С е л я н і н. Ну, і пеканyў паэт агранома, як авадзень Сідараву кабылу.

У зале яшчэ галаснейшы смех.

К а с т у с ь (*злосным, павышаным тонам*). Раіў бы вам устрымацца ад такіх жартаў. Не забывайце, што я маю вышэйшую адукацыю.

М а р к е в і ч. Думаю, што мы ўсе тут гаворым, як роўны з роўным. Адукацыя ў гэтым выпадку не мае ніякага значэння.

К а с т у с ь (*перабівае Маркевіча*). Ездзіце і раздуваеце без ніякай патрэбы байкі аб нейкай Беларусі. Пакажыце, дзе яна. Я яе не бачу. Дзейнічаеце наперакор гісторыі.

М а р к е в і ч. Вы не бачыце Беларусі, так як сляпы не бачыць сонца. Але гэта не значыць, што сонца няма. Яно ёсць, і людзі бачаць яго і цешацца ім. Так і з Беларуссю. Людзі яе носяць у сэрцах таксама, як палякі ці рускія носяць у сэрцах Польшчу ці Расію. А што да гісторыі, на якую вы спасылаецеся, дык можна шырэй пагаварыць. Хачу вам прадставіцца, з'яўляюся магістрам гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта.

С е л я н і н. Не лезь, Кастусь, у гісторыю, бо яшчэ лепш па вушах абарвеш!

Смех у зале.

В ё л е т а. Nas Polaków oburza Wasza praktyka. Działacie na szkodę państwa.

М а р к е в і ч. Сустрэў я многа палякаў, перад якімі ніколі не хаваў беларускага паходжання. І павінен сказаць, што палякі заўсёды адносіліся з пашанай да нашай працы на беларускай ніве. Дзівяць мяне вельмі вашы словы. Думаю, што было б лепш, каб вы гаварылі ад свайго імя, а не ад імя ўсіх палякаў. А што да польскай дзяржавы, дык хачу вам сказаць, што яна не толькі не перашкаджае ў нашай дзейнасці, але нават фінансуе Беларускае таварыства.

В ё л е т а (*загарэўшыся*). Wy szerzycie nacjonalizm białoruski.

М а р к е в і ч. Наадварот. Мы пашыраем ідэі польска-беларускай дружбы. Скажыце, калі ласка. (*Звяртаецца да ўсіх.*) Ці вы чулі хаця адно слова, накіраванае супроць палякаў?

Г а л а с ы з з а л ы. Не чулі, не чулі ніколі.

Н а с т а ў н і ц а. Я хацела сказаць некалькі слоў. Вы ўсе ведаеце, што я полька. Аднак не падзяляю абсалютна поглядаў гэтай пані. (*Паказвае на Вёлету.*) Дзеці ў нашай школе вывучаюць польскую і беларускую мовы. Думаю, што гэта толькі развівае іх. Дапамагае ім пазнаць гісторыю і культуру Беларусі і Польшчы. Дае ім добрую падрыхтоўку для вывучання яшчэ іншых моў у сярэдняй школе. Нас цешыць, што адносіны палякаў і беларусаў укладаюцца ў нашай краіне гарманійна.

Г а л а с ы з з а л ы. Правільна! Добра гаворыць!

М а р к е в і ч (*звяртаецца да Вёлеты і Кастуся*). Вось, бачыце, вы маеце магчымасць пачуць ацэнку праўдзівага прадстаўніка польскага народа.

С е л я н і н. Прабачце, што я тут у вашу вучоную размову лезу. (*У бок Маркевіча.*) Калі ўжо ты да нас прыехаў, дык, мабыць, хочаш пачуць і наша слова?

М а р к е в і ч. Вядома.

С е л я н і н. Дык на мой мужыцкі розум выглядае ўсё гэта так: жывуць на свеце розныя народы. Англіец жыве, баўгарац жыве і паляк жыве. І кожны сам для сябе найлепшы, як той казаў. Калі давялося нам жыць з палякамі, дык жывем у згодзе. Ну, ці ж не добра гавару?!

М а р к е в і ч. Вельмі добра.

Г а л а с ы з з а л ы. Вельмі добра! Сямён, валі далей!

С е л я н і н. Ну, вось. Дзеці нашы вучацца і па-беларуску, і па-польску. І думаю, што добра. Тут у сябе гаворым па-нашаму, а паедзем у Варшаву, то і па-польску патрапім.

К а с т у с ь. Каб Бог сцярог ад такой размовы. Толькі мову калечыце.

С е л я н і н. А ты, Кастусь, хаця й наш хлопец, але кепска гаворыш. (*У бок Вёлеты.*) І вы, дамачка, дрэнна гаворыце. Сёння крычыце, што вершаў беларускіх не трэба, заўтра скажаце, што мова наша непатрэбная. А пазней крыкнеце — царкву далоў.

В ё л е т а. Warto to już dawno powiedzieć.

С е л я н і н. Ой, дамачка, не варта, не варта. Бо бачыце, калі б трэба было кідаць і царкву і касцёл, дык няма яшчэ бяды. Мы людзі не надта рэлігійныя. Але калі вы, дамачка, хочаце, каб пакідаць адно, аісці ў другое, дык так няможна і крыўдна, як той казаў. Ну скажы, Тамаш, ці не добра гавару?

Т а м а ш. Вядома, што добра.

С е л я н і н. Ты, Кастусь, мабыць, у касцёле вянчаўся, га?

В ё л е т а. Oczywiście, jakże mogło być inaczej?

С е л я н і н. Я вам не суддзя, а просты мужык, але мне здаецца, што раз вы памешаны, дык лепш было не ісці ні туды, ні сюды. Але гэта ўжо ваша справа. Толькі мне, бачыце, не падабаецца тое, што вы гаворыце. І думаю, што добра тут сказала наша настаўніца аб тым, як мы павінны жыць. І добра сказаў наш госць — паэт. Любіць сваё — і шанаваць чужое, кахаць Беларусь і паважаць Польшчу. Ды ў нас так і здаўна было, дык чаму ж вы тут хочаце змяніць на горшае? Ну як, добра ці не добра гавару?

Г а л а с ы з з а л ы. Маладзец, Сямён! Вельмі добра! Ты, брат, мог бы і вершы пісаць!

С е л я н і н. А чаму ж не, як трэба, дык і напішу. Ты думаеш, што верш цяжэй пісаць, чым траву касіць?

У зале смех і апладысменты.

М а р к е в і ч (*у бок селяніна*). Я вельмі рады, што вы выступілі. Можа, гэта найлепш пераканае гарадскіх гасцей, дазволіць ім разабрацца ў гэтых справах.

Г а л а с ы з з а л ы. Як сам перахрысціўся ў ксяндза, дык няхай маўчыць! Няхай нас не вучыць! Ну і вывучыў ты, Тамаш, сына!

Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць і н с т р у к т а р Б Г К Т.

І н с т р у к т а р. Добры вечар!

Г а л а с ы з з а л ы. Добры вечар, добры вечар!

І н с т р у к т а р. Прабачце, што спазніліся, машына засела ў гразі. Ледзь выцягнулі. Варта было б дарогу наладзіць.

С е л я н і н. Ці ты ўжо забыў, што гурток БГКТ разам з ЗМВ абавязаліся наладзіць у наступным месяцы?

І н с т р у к т а р. Не забыў. Хацеў толькі пераканацца, ці вы не забылі.

Вёлета ад моманту ўваходу інструктара хаваецца за плячыма сялян.

Зараз пакажам вам савецкі фільм «Круты паварот». Хачу вам паведаміць, што ГП БГКТ закупіла за 90 000 злотых апаратуру і будзе часта ў вёсках дэманстраваць фільмы.

Г а л а с ы з з а л ы. Дзевяноста тысяч, ого, малайцы. І аб вёсцы падумалі.

І н с т р у к т а р (*прыглядаецца хвіліну да Вёлеты*). Валечка, якім цудам ты тут апынулася? Дзе толькі беларусы не сустракаюцца! (*Ідзе да Вёлеты прывітацца.*)

Вёлета ўстае і ўцякае з залы. За ёю выходзіць паспешна і Кастусь.

(*Здзіўлена разводзіць рукамі.*) Што здарылася, чаму яна ўцякла?

С е л я н і н. Можа, ты памыліўся. Яна тут падавалася за польку, на беларусаў нападала.

І н с т р у к т а р. Як жа памыліўся. Мы з ёю з адной вёскі — з Грыбкоў пад Заблудавам. Валя — дачка царкоўнага старасты, два гады на клірасе спявала.

Г а л а с ы з з а л ы. Ну, і схапіў Кастусь жонку! Калі і ён такі самы! І не сорамна табе, Тамаш? Такой яшчэ ў нашай вёсцы не было! Бачыш, як сакатала і ўсё пад палячку падшывалася!

М а р к е в і ч. Вось як, бачыце, сябры, не палякі нам перашкаджаюць у працы, а толькі свае адшчапенцы.

Т а м а ш (*устаючы*). Калі гэта ўсё праўда, браткі, дык сапраўды сорам і ганьба. (*Разводзячы рукамі.*) Гэта ж чорт ведае што, такое за злот не купіш.

З а с л о н а.

## З'ЯВА 2

Дзея адбываецца ў тым самым, што і раней, пакоі ў хаце Тамаша Раманюка. Прымаюць удзел Т а м а ш, яго жонка М а р ы с я, В а с і л ё к, В а л я і К а с т у с ь. Усе сядзяць у вялікім заклапатанні.

Т а м а ш. Ну, дзеткі, асмяшылі вы мяне, ой асмяшылі. Калі гэта праўда, дык і на вуліцу сорам паказацца. Засмяюць людзі.

К а с т у с ь. А ты ўжо так не перажывай. Якія гэта людзі?..

Т а м а ш. Ах, дык ты такі. Вялікім панам стаў. Забыў, хто цябе ўзгадаваў.

К а с т у с ь. Яны мяне не ўзгадавалі — гэта факт.

Т а м а ш. А вось якраз і яны. Я за ўсё жыццё ад суседзяў дрэннага слова не пачуў. А ты за адну гадзіну ўсё сапсаваў.

М а р ы с я (*выціраючы вочы рукою*). Памоўчваў бы ты, бацька, навошта ты гэты агонь раздуваеш?..

Т а м а ш. Ты, маці, спачатку гаворыш, а потым думаеш. Калі б ты спачатку думала, дык такога глупства не гаварыла б. Ці ж гэта я раздуваю агонь, га?

М а р ы с я (*махае безнадзейна рукою*). А хто тут разбярэцца?

Т а м а ш (*у бок Вёлеты*). З табой, галубка, хачу пагаварыць. Трэба ўсё гэта выясніць. Дык значыць ты — беларуска?

В ё л е т а. Беларуска.

Т а м а ш. І гаварыць па-нашаму ўмееш?

В ё л е т а. Не горш, чым вы.

Т а м а ш. І сама з Грыбкоў?

В ё л е т а. З Грыбкоў.

Т а м а ш. І дачка царкоўнага старасты?

В ё л е т а. І дачка старасты.

Т а м а ш. І Валя завешся?

В ё л е т а. І Валя завуся.

Т а м а ш. І ў касцёле шлюб бралі?

В ё л е т а. У касцёле.

Т а м а ш (*у бок Кастуся*). І ты аб усім гэтым ведаў?

К а с т у с ь. Ведаў.

Т а м а ш. Дык як вы, дзеці, хочаце жыць? Ці ж вам не сорамна? Калі вы такія, дык вы не патрэбны ні нам, беларусам, ні палякам. Як людзі кажуць: «Ні Богу свечка, ні чорту рожак».

В ё л е т а (*прыкладае рукі да вачэй і плача*). А будзь ты пракляты, Андрэйчык, як ты мяне пакрыўдзіў.

Т а м а ш. Які ізноў Андрэйчык?

В ё л е т а. Ды гэты інструктар пракляты. Зганьбіў перад цэлай вёскай. Калі б не ён, ніхто не ведаў бы, і ўсё было б добра.

Т а м а ш. Не! Гэта ты сама сябе пакрыўдзіла і зганьбіла. Ды, зрэшты, зганьбіла і мяне, і маю сям'ю. Мяне людзі шанавалі, бо і я людзей шанаваў. А цяпер, дык страх з хаты выйсці.

В ё л е т а. Я не хацела.

Т а м а ш. Вядома. Я табе нават і веру. Ды, зрэшты, ты тут чужы чалавек — госць. Я не маю права на цябе навальвацца. Але вось не магу зразумець, як ты, Кастусь, у такое балота залез.

К а с т у с ь (*злосна*). У якое зноў балота? Ты, тата, павінен лічыцца са словамі.

Т а м а ш (*таксама са злосцю*). Маслюк ты рабачывы, больш нічога! Аграном! Адукацыя! У размову з паэтам палез. Як не патрапіш разумнага слова сказаць, дык маўчы. Ён жа цябе на кожным кроку біў. Гэта нават кожная вясковая баба бачыла. Ці ж ты не чуў, як народ рагатаў? Ты проста на дурня выйшаў.

К а с т у с ь. Прашу мяне не абражаць. Прыехаў такі самы хам, як і твой народ. І хочаш, каб я слухаў яго вершаваную ерунду.

Т а м а ш (*прыглядаецца доўга да сына*). Дык вось ты які? Забыўся, значыцца, што мой народ, то і твой народ? Забыў, што ты аграном і мусіш працаваць з гэтымі людзьмі?

К а с т у с ь. На шчасце, я назаўсёды развітаўся з гноем. Маю працу ў міністэрстве і, будзь спакойны, больш сюды не паеду.

Т а м а ш (*устае з заціснутымі кулакамі*). Дык чаго ты сюды прыехаў?

М а р ы с я (*спалохана ўстае і засланяе сына*). Чаго ты, стары, на дзіця наваліўся, супакойся. Божачкі мае, божачкі, за што мяне караеце?!

Т а м а ш. Маўчаць, маці! Не твайго розуму справа. Я пытаю, чаго ён сюды прыехаў, калі ўсё нашае зненавідзеў?! (*Сядае.*)

К а с т у с ь (*залажыўшы нагу на нагу, спакойна цэдзіць*). Калі так ужо хочаш ведаць, дык скажу. Мне патрэбны грошы,

каб уладзіць новую кватэру. Прыехаў я, каб атрымаць грашовую сплату за належную мне частку гаспадаркі. А калі не дасі, дык сваю частку прадам.

Марыся, Васька і Тамаш з шырока адкрытымі вуснамі і вачыма ўстаюць і зноў сядаюць, не вымавіўшы ні слова.

Т а м а ш (*зноў устае і хапае сябе за горла, расшпіляе кашулю, як ад вялікай спякоты*). Сплату за частку гаспадаркі?!

К а с т у с ь (*спакойна).* Многа не хачу. Пятнаццаць тысяч мяне поўнасцю задаволяць.

М а р ы с я. Сплату. За што сплату? Сынок! Якую сплату?!

Т а м а ш. Пятнаццаць тысяч!

К а с т у с ь. Я чалавек памяркоўны. Можна яшчэ ўзгодніць суму грошай!

Т а м а ш. Вось бачыш, маці, дачакаліся мы ад сына дапамогі.

К а с т у с ь. Не пярэчу, што буду вам памагаць. Але зараз сам патрабую. Самі ведаеце, размах, расходы.

М а р ы с я. А божачкі мае, божачкі! (*Уцякае з хаты.*)

Т а м а ш. А прападзі ты пропадам разам з тваім размахам, з тваёй кватэрай. Будзь пэўны, што не дам нават аднаго грашака.

К а с т у с ь. Паглядзім. Права на маім баку. А сам ведаеш, што права не такіх цвёрдых, як ты, зламала.

Т а м а ш. Не можа быць такога права на свеце, каб дазволіла жуліку вырваць з рук бацькоў апошні кусок хлеба.

К а с т у с ь. Ёсць такое права, і ты яшчэ ў гэтым пераканаешся. Але сам падумай, навошта нам суды, ці ж мы не можам дагаварыцца па-сяброўску?

Т а м а ш. Ах ты, жулік, яшчэ аб сяброўстве гаворыш! Рве маё цела на кавалкі, ды яшчэ аб прыязні гаворыць.

К а с т у с ь. Не дасі па-добраму, дасі па-злому!

Т а м а ш. Ніяк не дам. Нічагусенькі не дам. Буду справядлівасці шукаць. Паеду ў камітэт партыйны, у павятовы, у ваяводскі. У варшаўскі, калі спатрэбіцца, паеду. Знайду праўду, мушу знайсці!

К а с т у с ь. Тое, што я гавару, якраз і з'яўляецца праўдай.

Т а м а ш. Няхай яна згарыць гэтая твая праўда! (*Пачынае скідаць боты.*) Пайшлі спаць!

К а с т у с ь. Хадзі, Валя, спаць. Думаю, што да заўтра бацька апамятаецца.

Кастусь і Валя выходзяць, у хату вяртаецца Марыся.
Тамаш сядзіць у задуменні з адным ботам наназе.

М а р ы с я. Ах, божачкі, што ж гэта такое сталася. Нехта нам сына падмяніў.

Т а м а ш. Я ведаю, што яго падмяніла. Добрае жыццё, маці! Гора і бяды ён не хлёбаў. Усё жыццё цацкаліся мы з ім, як з яйкам. Усё клапаціліся — няхай толькі вучыцца і нам паможа. Вось табе і памог!

В а с я. Дык як жа будзе, тата падзеліш гаспадарку ці як?

Т а м а ш. Не, сынок. Нават кали б ён лопнуў разам са сваёй Вёлетай. Не дам ні адной сотні. Не, брат, не такі Тамаш мяккі, за злот не купіш!

М а р ы с я. Ах, божачкі, дык што ж з намі будзе? Ён жа ў міністэрстве служыць, яшчэ якіх галаварэзаў нам тут нашле. Засудзяць ды яшчэ ў турму пасадзяць.

Т а м а ш. Што ты, маці. Ты ж не забывай, жывеш ты не ў панскай Польшчы і не ў Амерыцы нейкай, дзе каго хочаш можна загубіць, як таго прэзідэнта, і пакрыўдзіць. У нас ёсць справядлівасць! Ды і найгоршы галаварэз — гэта наш сынок.

М а р ы с я. Грэх так, бацька, гаварыць аб родным дзіцяці. Не гавары так, Бог пакарае.

Т а м а ш. Ужо пакараў, маці. Дык няма чаго баяцца. Трэба дапамогі, відаць, у людзей шукаць, а не ў небе.

М а р ы с я. Не грашы, стары.

Т а м а ш (*сцягвае другі бот*). Кладзіся спаць. Заўтра будзем нейкі ратунак шукаць. (*Гасіць святло*.)

З а с л о н а.

## З'ЯВА 3

Дзея адбываецца ў тым самым пакоі. Т а м а ш сядзіць і курыць папяросу. Уваходзіць М а р ы с я.

М а р ы с я. Што ты, Тамаш, зноў курыць пачаў? Што гэта ты прыдумаў, здароўе страціш!

Т а м а ш. Нервы, маці, за злот не купіш. Не магу супакоіцца. Дзе яны?

М а р ы с я. Хто яны?

Т а м а ш. Вядома хто, гарадскія госці!

М а р ы с я. Спяць, як пшаніцу прадаўшы. Нічым, відаць, не пераймаюцца.

Т а м а ш. Вось загвоздка, за злот не купіш.

Адчыняюцца дзверы і ўваходзіць В а с ь к а з нейкім чалавекам у капелюшы, з апаратам на грудзях.

Ж у р н а л і с т. Добры дзень!

Т а м а ш. Добры дзень! Сядайце. (*Падсоўвае крэсла.*)

Ж у р н а л і с т. Дзякую. (*Сядае.*)

Т а м а ш. Чым магу служыць?

Ж у р н а л і с т. Ды нічым, гэта я вам хачу паслужыць. Я з'яўляюся журналістам «Нівы». Ваш Вася мяне ведае, бо прыязджаў калісьці ў рэдакцыю. Ён жа наш супрацоўнік. Дык спаткаў ён мяне сёння на вуліцы і кажа, што маеце нейкія клопаты.

Т а м а ш (*грозна да Васі*). Ужо размалоў па вёсцы?!

В а с я. Дальбог, татачка, нікому не сказаў, а вось толькі ім. (*Паказвае на журналіста*).

Т а м а ш. Ды і вам я ўжо не вельмі веру. Так прыгожа напісалі, як дзеці, вывучыўшыся, будуць памагаць бацькам, а тым часам гэтыя дзеці да горла скачуць.

Ж у р н а л і с т. Нельга ўсіх судзіць аднолькава. Ёсць розныя дзеці, ёсць і розныя бацькі.

Т а м а ш (*задумаўшыся*). Яно, вядома, так.

Ж у р н а л і с т. Ну, але вернемся да справы. Я ў рэдакцыі займаюся якраз праўнымі праблемамі. Займаюся асабліва такімі справамі, як падзел маёмасці, падзел гаспадарак, сямейныя клопаты і г. д. Можаце гаварыць смела і будзьце спакойны: таямніца будзе захаваная.

Т а м а ш (*думае хвіліну*). Ну, бачыце, сын скончыў вышэйшую школу, прыехаў і патрабаваў 15 тысяч сплаты за належную яму частку гаспадаркі.

Ж у р н а л і с т. З якой рацыі?

Т а м а ш. А хто яго ведае. Гаворыць, што яму належыцца згодна з зямельным правам.

Ж у р н а л і с т. А скажыце, на каго запісана гаспадарка?

Т а м а ш. Вядома, што на мяне. Усё на мяне: і падаткі, і даставы.

Ж у р н а л і с т. Дык ведайце, што згодна з правам нічога яму не належыцца. Пакуль вы і жонка жывяце, гаспадарка знаходзіцца толькі і выключна пад вашай уладай.

Т а м а ш. Ці гэта напэўна так, як вы гаворыце?

Ж у р н а л і с т. Не можа быць ніякіх сумненняў. Згодна з законам народнай Польшчы. (*Задумваецца.*) Ці вы выпісваеце «Ніву»?

Т а м а ш. А як жа, гляньце. (*Паказвае на ікону.*)

Ж у р н а л і с т. Нічога не бачу.

Т а м а ш (*здзіўлена*). Дзе яна падзелася?

В а с я. Вёлета выкінула, як толькі прыехала.

Т а м а ш. А каб яе халера ўзяла, гэтую Вёлету! (*У бок журналіста.*) Прабачце, вырвалася неяк.

Ж у р н а л і с т (*дастае «Ніву» з партфеля*). Ну, не шукайце. Вы, напэўна, мелі газету з мінулага тыдня, а вось у мяне ўчарашняя. Ёсць тут артыкул аб пастановах Сейма. Сейм вырашыў, што пасля смерці бацькоў нават дзеці, якія засталіся на гаспадарцы, на працягу найбліжэйшых гадоў не маюць абавязку выплачваць якіх-небудзь грашовых сум тым членам радні, якія выехалі ў горад або знаходзяцца на дзяржаўным утрыманні.

Т а м а ш. Ці гэта ўсё праўда?

Ж у р н а л і с т. Ясна. Гэта ж пастановы найвышэйшай улады ў краіне, Сейма.

Т а м а ш. Дык Кастусь гаспадаркі не разарве?

Ж у р н а л і с т. Ні ў якім выпадку.

Т а м а ш. Маці! Маці!

М а р ы с я (*уваходзіць*). Чаго крычыш?

Т а м а ш (*радасна*). Не будзем плаціць Кастусю, і гаспадарка застанецца. Разумееш? Нясі сюды закуску і гарэлку.

Ж у р н а л і с т. Дзякую. У нашай рэдакцыі парады бясплатныя. Гарэлкі піць сёння не буду.

Т а м а ш. Дык як жа! Вы ж нам так дапамаглі!

Ж у р н а л і с т. Вельмі рады. Але мы не бярэм ніякіх аплат ні ў форме грашовай, ні матэрыяльнай.

Т а м а ш. Але ў нас вашы хлопцы выпівалі.

Ж у р н а л і с т. І я ахвотна калі-небудзь вып’ю, толькі не сёння!

М а р ы с я. Дзякую вам, паночку. Выратавалі вы нас з бяды.

Ж у р н а л і с т. Гэта ж не я вас выратаваў, а толькі наша дзяржава. Такіх выпадкаў, як ваш, былі тысячы. Вось улада і выратавала іх па справядлівасці. Ну, аставайцеся здаровы. (*Падае руку Марысі, Тамашу, Ваську і выходзіць.*)

Т а м а ш. Дзякую вам з цэлага сэрца.

М а р ы с я. Ідзі з Богам, саколіку.

Т а м а ш. Маці! Вася! Давайце сюды падаркі. Няхай выбіраюцца з імі гарадскія госці. Каб іх і духу не было.

Марыся прыносіць хустку і кідае на падлогу. Вася прывалок і шпурнуў бялізну. Тамаш кідае люльку і пачку табаку.

Т а м а ш. Васька, а пісталет дзе?

В а с я (*трымае ў руках пугача*). Татка, а можа, адзін падарак пакінем?

Т а м а ш. Кідай усё, каб і следу не было ад такіх гасцей!

Васька кідае пісталет, чуецца стрэл.
У хату ўбягаюць В а л я і К а с т у с ь.

К а с т у с ь. Што тут робіцца?!

Т а м а ш. Нічога, усё стала на сваё месца. (*Паказвае на кучку бялізны.*) Забірай свае шматы і да пабачэння. Дуй у Варшаву. Чаго стаіш, збірай! Табе спатрэбіцца!

К а с т у с ь (*злосна*). Ну, яшчэ паглядзім. Занадта рана цешыцеся.

Выходзяць з Валяй з пакоя.

В а с я (*збірае хутка бялізну і хустку. Пісталет, хаваючыся, усунуў у кішэню. Усё выкідае ўслед за Кастусём у дзверы*). Забірайце, забірайце, за злот не купіш.

Т а м а ш. Ах ты, гіцаль, бацьку дражніш!

З а с л о н а.
К а н е ц

# БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНЫ РУХ У ПОЛЬШЧЫ Ў 1958–1998 ГАДАХ

Беларускі літаратурны рух у пасляваеннай Польшчы — з'ява ўнікальная як у сваёй фармальна-жанравай спецыфіцы, так і ў тэматычных асаблівасцях.

Гаворачы сёння аб беларускіх прадстаўніках літаратурнага руху на Усходняй Беласточчыне, нельга не памятаць аб тым, што ўжо ў царскія часы надзеленыя літаратурным талентам сыны беластоцкага краю праяўлялі сваю актыўнасць галоўным чынам пад уплывам адраджэнскіх ідэалаў «Нашай нівы» (1906–1915), якая змяшчала на сваіх старонках паведамленні, артыкулы і вершы аўтараў з Сакольшчыны, Бельшчыны, Гайнаўшчыны, што ўваходзілі тады ў склад Гродзенскай губерні. Адраджэнне гэтае тармазілася тым, што на Гродзеншчыне, зрэшты, як і на іншых беларускіх землях, аж да першай нямецкай акупацыі ўвогуле не існавала беларускага школьніцтва. Трэба шкадаваць, што выдаўцы «Нашай нівы», мабыць, пад уплывам афіцыйнай расійскай прапаганды, што пашырала звесткі аб зверствах кайзераўскай арміі, якая, дарэчы, паводзіла сябе на занятых тэрыторыях даволі ліберальна і талерантна, пастанавілі ліквідаваць «Нашу ніву» ў сувязі з набліжэннем руска-нямецкага фронту да Вільні, дзе на працягу 9 гадоў выдаваўся гэты знакаміты беларускі штотыднёвік.

Як гэта ні дзіўна, але якраз пры нямецкіх уладах «Наша ніва» мела б магчымасць значна пашырыць свой уплыў і павялічыць тыраж хаця б з тае прычыны, што першы раз у гісторыі Беларусі дазвалялася нямецкімі вайскова-адміністрацыйнымі ўладамі арганізоўваць беларускае школьніцтва на пачатковым і сярэднім узроўнях, а таксама адкрываць курсы ўдасканалення беларускіх настаўнікаў.

Нямецкая асветніцкая палітыка ў пэўнай ступені, мабыць, паўплывала на тых беларускіх дзеячаў, што пасля польска-бальшавіцкай вайны і Рыжскага мірнага дагавора 1921 года, у выніку якіх заходнебеларускія землі апынуліся ў межах адроджа-

най Польшчы, пачалі дамагацца ад палітычна-адміністрацыйных і асветніцкіх польскіх уладаў права на арганізацыю школаў з навучаннем у іх на роднай беларускай мове. Цікава, што ў гэты працэс уключыліся таксама шматлікія ксяндзы-беларусы. Бадай што найпрыгажэйшым прыкладам такога стаўлення быў выдатны паэт і публіцыст Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч), які, працуючы на Гродзеншчыне і Беласточчыне, арганізаваў каля 10 школ, бібліятэк і мастацкіх калектываў, у якіх вялася настойлівая прапаганда беларускай нацыянальнай свядомасці, культу роднай мовы ды ідэі беларускай асветы. Аднак у міжваенны перыяд на Беласточчыне не выдаваліся беларускія газеты і не друкаваліся беларускія кніжкі, не было таксама якой-колечы літаратурнай арганізацыі беларускіх пісьменнікаў.

Пасля разгрому Польшчы нямецкай і Чырвонай Арміямі і далучэння не толькі Усходняй, але і Заходняй Беласточчыны да Савецкай Беларусі беларускія школы пачалі ўзнікаць не толькі на тэрыторыях, заселеных беларусамі, але і на землях спрадвеку этнічна польскіх, на захад ад горада Беластока. У самім Беластоку ўзнік аддзел Саюза пісьменнікаў БССР і пачала выходзіць беларуская газета «Вольная праца», якая друкавала дадатак «Літаратурная старонка», дзе час ад часу паяўляліся наогул няспелыя творы беларускіх аўтараў. У перыяд нямецкай акупацыі ў Беластоку друкавалася беларуская газета «Новая дарога», рэдагаваная добрым віленскім паэтам Хведарам Ільяшэвічам, які стараўся прыцягнуць да супрацоўніцтва ўсходнебеластоцкіх беларускіх аўтараў. Вынік яго намаганняў быў даволі мізэрны. Усяго толькі некалькі чалавек пад псеўданімамі змяшчалі на старонках «Новай дарогі» свае найчасцей сатырычныя антысавецкія творы. Беларускае школьніцтва падчас нямецкай акупацыі на Беласточчыне амаль што не існавала. Аграмадная колькасць дзяцей, у тым ліку і я, аставался па-за школай, хаця афіцыйна беларуская асвета не была забаронена.

Карэнным чынам сітуацыя беларускага слова змянілася да лепшага пасля адыходу нямецкай арміі з Усходняй Беласточчыны і ўзнікнення на ёй так званай народнай улады. За параўнаўча кароткі час тут паўстала даволі густая сетка школаў, у якіх выкладалася беларуская мова. Праўда, асветніцкая палітыка пасляваеннай Польшчы не была паслядоўнай. Дзяржава раз за разам або паслабляла, або нацягвала лейцы, то аблягчаючы, то ўскладняючы і тармозячы беларускае школьніцтва. Толькі праз тры гады пасля смерці Сталіна, больш чым за шэсць месяцаў да выкрывальніцкага XX з’езда Камуністычнай партыі Савецкага

Саюза палітычныя ўлады Польшчы пастанавілі адступіць ад тэзісу аб аднанацыянальным характары польскай дзяржавы і апрача існавання вядучай і дамінуючай польскай нацыі прызнаць існаванне такіх нацыянальных меншасцяў, як украінцы, беларусы, яўрэі, літоўцы, славакі, немцы ды інш. Зрэшты, не толькі прызнаць тэарэтычна, але і дазволіць ім паклікаць да жыцця грамадска-культурныя таварыствы, для якіх былі вызначаны пэўныя фінансавыя сродкі на штаты, аматарскі рух і, што самае важнае для лёсу нацыянальнай справы, дазволілі выдаваць друкаваныя органы і кнігі. Новыя магчымасці скарысталі ўсе нацыянальныя меншасці, у тым ліку і беларусы. Ужо ў першыя месяцы 1956 года ў Беластоку ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і пачаў выдавацца яго друкаваны орган «Ніва», а праз год выходзіць у форме кнігі «Беларускі каляндар». Амаль ад самага пачатку як «Ніва», так і «Беларускія календары» пачалі даволі часта друкаваць вершы, апавяданні, фельетоны мясцовых аўтараў. Такім чынам, быў створаны спрыяльны грунт пад сяўбу роднага беларускага слова.

Вялікую ролю ў гэтым высакародным працэсе адыграў Георгій Валкавыцкі, шматгадовы галоўны рэдактар «Нівы» і выдатны дзеяч Беларускага таварыства. Дзякуючы яго добразычлівасці і дапамозе кагорта беларускіх творцаў пачала хутка расці і павялічвацца, а мастацкі ўзровень іх вершаў і апавяданняў узнімацца на ўсё вышэйшы ўзровень.

Асабовы склад беларускіх аўтараў 2-й паловы 50-х гадоў меў моцна разнародны характар. Адны з іх спрабавалі свае літаратурныя сілы ў час савецкай улады, другія дэбютавалі ў перыяд нямецкай акупацыі, трэція ў рамках рэпатрыяцыі пасля Другой сусветнай вайны пераехалі з Савецкай Беларусі ў Польшчу на пастаяннае жыхарства. Аднак асноўная маса паэтаў і празаікаў прыходзіла з вёсак і мястэчак Усходняй Беласточчыны, і гэта былі наогул маладыя людзі, як правіла, вучні ліцэяў або студэнты. Усе яны належалі да ўсходнебеластоцкага беларускага насельніцтва, якое адназначна падтрымлівала народную Польшчу, бачачы ў ёй гарантыю новых магчымасцяў і добрых перспектываў у галіне нацыянальнай эмансіпацыі, шырокага доступу да асветы, бясплатнага лячэння і шансаў у атрыманні працы ў сельскай гаспадарцы. Беларускія дзеці і моладзь масава хлынулі ў align рознага тыпу бясплатныя гімназіі, ліцэі, прафесійныя і афіцэрскія школы, а таксама ў педагагічныя і політэхнічныя інстытуты, універсітэты. Новыя адукацыйныя магчымасці выкарысталі дзясяткі тысяч маладых беларусаў. Таму нічога

дзіўнага, што беларускае насельніцтва моцна стаяла на грунце новага палітычна-дзяржаўнага парадку. Праўда, з часам пачалі паяўляцца расчараванні і песімізм, выкліканыя бесцырымоннасцю партыі ў галіне прымусовай калектывізацыі вёскі, прымусовых паставак збожжа, мяса і малака, а таксама пэўных абмежаванняў свабоды ў галіне рэлігіі. Аднак усе гэтыя вывіхі не пахіснулі падтрымку беларусамі «народнай улады» ў такой ступені, як гэта было ў польскім асяроддзі. Таму нічога дзіўнага, што так званая дэмакратызацыя і аднаўленне сацыялізму, звязаныя з 1956 годам і пазнейшымі часамі, былі з надзеяй сустрэты беларускім насельніцтвам у Польшчы. А ўсе пераўтварэнні, асабліва тыя, што датычыліся новай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцяў, сталіся спрыяльным стымулам для развіцця той духоўнай сферы, якой з’яўляецца літаратурная творчасць. У гэтай галіне беларусы выперадзілі іншыя нацыянальныя меншасці. І старонкі «Нівы», і старонкі «Беларускіх календароў» запаўняліся родным паэтычным і празаічным словам, а беларускія творцы ўсё часцей паяўляліся ў рэдакцыі «Нівы» або ў Галоўным праўленні БГКТ. Многія з іх пачалі прапагандаваць ідэю стварэння беларускай літаратурнай арганізацыі. І такая структура была паклікана да жыцця ў сярэдзіне 1958 года пад назовам Беларускае літаратурнае аб’яднанне. Старшынёй гэтай арганізацыі амаль аднагалосна быў выбраны вядомы нам Георгій Валкавыцкі, выпускнік Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве, галоўны рэдактар «Нівы» і грамадскі старшыня Беларускага таварыства — чалавек не вельмі эмацыянальны, але моцна добразычлівы ў адносінах да творцаў беларускага літаратурнага слова. Георгій Валкавыцкі не прагнуў улады і дамінавання ў беларускім літаратурным руху і таму праз два гады перадаў уладу новаабранаму старшыні Аляксандру Баршчэўскаму. І гэта менавіта новы старшыня, а не хтосьці іншы, як гэта пішуць некаторыя даследчыкі, запрапанаваў узбагаціць тэрмін «Беларускае літаратурнае аб’яднанне» назовамі «Рунь», «Пошук» або «Белавежа». Удзельнікі семінара выказаліся за назву «Белавежа», і так яно засталося і да сёння.

Георгій Валкавыцкі ўвайшоў у гісторыю беларускага руху ў Польшчы таксама дзякуючы таму, што падрыхтаваў, адрэдагаваў і выдаў першы калектыўны зборнік «Рунь», у якім змясцілі свае вершы 17 беларускіх паэтаў. Гэта была вялікая падзея ў беларускім літаратурным бытаванні. Незабыўнай застаецца аўтарская сустрэча ў вёсцы Клейнікі, у якой досыць шырока разыходзілася да рэвалюцыі віленская «Наша ніва» і

шырокую папулярнасць набыла таксама беластоцкая «Ніва». Непаўторнасць аўтарскай сустрэчы ў Клейніках заключалася, між іншым, у тым, што ў цесную залу мясцовай старой школы набілася некалькі сот чалавек. Натоўп быў настолькі густы, што на сценах прыгасалі ад недахопу кіслароду нафтавыя лямпы. Адна з жанчын, заціснутая з усіх бакоў натоўпам, крыкнула: «Людкове, злітуйцеся, павернітэ мэнэ тварам да гэтых няшчасных паэтаў». Не пазбаўленым камізму было і тое, што мясцовыя жыхары змайстравалі для аўтараў сцэну з дзвярэй, знятых з пуні. Факт гэты знайшоў адлюстраванне ў транспаранце, які вісеў над сцэнай. На ім красаваўся надпіс: «Для паэтаў «Руні» знялі дзверы з клуні». Арганізатарам гэтай сустрэчы быў мясцовы настаўнік Закройшчык, вядомы энтузіяст беларускага літаратурнага слова. Бадай што галоўнай постаццю на сустрэчы быў Віктар Швед. Ён паходзіў з Гайнаўшчыны, дзякуючы чаму для клейнікаўцаў быў суседам і сваім чалавекам. Ён добра валодаў мясцовай гаворкай і чытаў вершы простыя і зразумелыя для ўсёй сабранай публікі.

Пасля ўзнікнення беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» аўтарскія сустрэчы з дарослымі жыхарамі Беласточчыны, з вучнямі пачатковых школ і ліцэйскай моладдзю сталіся амаль што паўсядзённай практыкай. Белавежцы правялі болей чым 3000 такіх сустрэч. Віктар Швед на працягу многіх гадоў вёў статыстыку сваіх аўтарскіх спатканняў і, зафіксаваўшы іх болей чым 1200, спыніў свой спіс. 1000 сустрэч правёў і я. Шкада, што ўсе беларускія аўтары не вялі такую статыстыку. Як жа цікавыя сёння былі б не толькі ўражанні і ацэнкі саміх аўтараў, але таксама пытанні і выказванні слухачоў, якія мелі не толькі пазітыўны, але часта і адмоўны характар.

Да вялікіх дасягненняў белавежцаў трэба залічыць і тое, што яны апублікавалі тысячы сваіх твораў на сотнях літаратурных старонак «Белавежы» — органа Беларускага літаратурнага аб'яднання, які ў якасці дадатку да «Нівы» друкуецца ўжо каля 40 гадоў. Вялікая колькасць літаратурнай прадукцыі з'явілася на старонках «Беларускіх календароў», якія ўжо болей як 40 гадоў выдаюцца Беларускім таварыствам.

Нельга абысці маўчаннем тое, што апрача сціплага калектыўнага зборніка «Рунь» Беларускае літаратурнае аб'яднанне падрыхтавала і выдала ў Мінску другі калектыўны зборнік — «Літаратурная Беласточчына». У самім Беластоку былі выдадзены такія літаратурныя альманахі, як «Мой родны кут», чатыры

нумары альманаха «Белавежа» і беларуска-польскі альманах «Гасцінец» («Gościniec»).

Зразумела, што найвыдатнейшым здабыткам кожнага творцы з’яўляецца яго індывідуальная кніжка. А такіх кніжак у белавежцаў, уключаючы творы мастацкія, мемуарныя, публіцыстычныя, навуковыя і перакладныя, ужо даўно больш за 50, што з’яўляецца істотным укладам у развіццё беларускай духоўнасці ў Польшчы.

Праявай прызнання высокага ўзроўню беларускіх творцаў з’яўляецца тое, што больш чым 10 з іх прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Апошняе, што хачу сказаць, гэта прасіць прабачэння ў тых творцаў, якія не змясціліся на старонках кнігі. Многія з іх адыгралі або адыграюць у далейшым істотную ролю ў беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Маю надзею, што недахоп гэты выпраўлю ў наступнай публікацыі, прысвечанай нашым творцам.

У канцы з болем канстатую, што заўчасна з радоў белавежцаў адышлі назаўсёды Віктар Рудчык, Юрка Геніюш, Мікола Гайдук, Міхась Шаховіч, Васіль Баршчэўскі, якія застануцца ў нашай удзячнай памяці і ў гісторыі Беласточчыны.

# ГЕОРГІЙ ВАЛКАВЫЦКІ

## ДЗЕЯЧ, ПУБЛІЦЫСТ І ПАЭТ

Георгій Валкавыцкі як паэт выступае пад псеўданімам Юрка Зубрыцкі. Характар гэтай літаратурнай мянушкі звязаны з роднай мясцовасцю паэта — Белавежай, ваколіцы якой, як вядома, з’яўляюцца радзімай зубра. Нарадзіўся Г. Валкавыцкі ў 1923 годзе ў сям’і белавежскага селяніна. Лёс ягонай сям’і, хоць і незайздросны, быў крыху лягчэйшы, чым большасці беларускіх сялянскіх сем’яў у даваенны перыяд. Белавежская пушча давала ўсім мясцовым жыхарам дадатковы даход, дзякуючы якому сям’я Валкавыцкіх хоць і не жыла ў вялікай раскошы, аднак усё ж не ведала крайняй нядолі. Юнацтва яго прыпала на апошнія гады Другой Рэчы Паспалітай і на перыяд гітлераўскай акупацыі. У мясцовасці Белавежа падчас акупацыі ўсю ўладу трымаў у

сваіх руках нямецкі камісар, які адзначаўся выключнай жорсткасцю і дзікасцю ў адносінах да мясцовага насельніцтва. Гэты прапагандыст новага парадку загадаў паставіць перад вокнамі свае ўправы віселью, на якой гойдаліся трупы павешаных беларусаў і палякаў.

Г. Валкавыцкі не змарнаваў акупацыйны час. Апрача фізічнай працы ён інтэнсіўна займаўся самаадукацыяй, асабліва ў галіне грунтоўнага азнаямлення з рускай, польскай і беларускай літаратурамі. Сказанае адносіцца толькі да пачатку акупацыі. Пасля ён быў вывезены на прымусовыя працы ў глыбіню Германіі, дзе дачакаўся прыходу Чырвонае Арміі. Пасля вызвалення Г. Валкавыцкі накіраваўся на вучобу ў Маскоўскі літаратурны інстытут імя Горкага, дзе атрымаў грунтоўную філалагічную і літаратуразнаўчую адукацыю. Вярнуўшыся з Масквы, працаваў у Беластоку ў розных установах.

Калі ў 1956 годзе наступіла гэтак званая палітычная адліга і новыя партыйныя ўлады на чале з Уладзіславам Гамулкам афіцыйна прызналі факт існавання ў Польшчы нацыянальных меншасцяў, у тым ліку і беларускай, Г. Валкавыцкі стаўся адным з найбольш актыўных дзеячаў, якія паклікалі да жыцця БГКТ. Апрача гэтага, ён стаў адным з заснавальнікаў друкаванага органа гэтага Таварыства — «Нівы». Аказалася, што ніхто іншы не падыходзіў так, як Г. Валкавыцкі, на ролю галоўнага рэдактара беларускага тыднёвіка. Як арганізатар «Нівы» і на працягу больш як 30 гадоў яе галоўны рэдактар, Г. Валкавыцкі праяўляў нястомную энергію ў рэдагаванні тыднёвіка і папулярызацыі на яго старонках беларускіх пісьменнікаў у Польшчы. У хуткім часе ён давёў тыраж газеты да 7 тысяч паасобнікаў, устанавіўшы гэтакім чынам рэкорд, які да сёння не ўдалося пабіць наступным рэдактарам «Нівы».

Г. Валкавыцкі вядомы як публіцыст. На працягу болей чым 30 гадоў ён змяшчаў у «Ніве» артыкулы, прысвечаныя найчасцей актуальным палітычным пытанням.

Апрача гэтага, Г. Валкавыцкі быў адным з ініцыятараў і арганізатараў беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Ён прычыніўся да ўзнікнення пры рэдакцыі «Нівы» літаратурнага аб'яднання і як старшыня кіраваў гэтай структурай на працягу некалькіх гадоў. Быў таксама рэдактарам альбо сябрам рэдакцыйных калегій паасобных нумароў альманаха «Белавежа», «Беларускіх календароў» ці індывідуальных зборнікаў белавежцаў.

Трэба падкрэсліць, што як галоўны рэдактар «Нівы» ён заўсёды заахвочваў маладых паэтаў і празаікаў да супрацоўніцтва з тыднёвікам і, па сутнасці, без абмежаванняў друкаваў іх вершы і малыя празаічныя творы. Адна з галін ягонай публіцыстычнай дзейнасці была звязаная з літаратуразнаўствам. Г. Валкавыцкі не раз пісаў уступныя артыкулы да літаратурных альманахаў або паэтычных зборнікаў белавежцаў. Валкавыцкі-літаратуразнавец заўсёды характарызаваўся прыхільнасцю і добразычлівасцю да аналізаваных аўтараў і іх твораў.

Як публіцыст, Валкавыцкі падрыхтаваў і выдаў кнігу «Віры», у якой прадставіў найважнейшыя факты і падзеі як у жыцці беларускага таварыства, так і дзейнасці «Нівы». У гэтай кнізе атрымалі характарыстыку амаль усе беларускія дзеячы, журналісты і пісьменнікі, якія дзейнічалі ў пасляваеннай Польшчы. Найбольш увагі ён прысвяціў, зразумела, працы рэдакцыі «Нівы», якая, як вядома, адыграла вялікую ролю ў ратаванні і беларускай мовы, і беларускай нацыянальнай свядомасці.

## У ПАЛОНЕ КАСМІЗМУ

Вершы Ю. Зубрыцкага час ад часу паяўляліся на старонках «Нівы» і альманаха «Белавежа». Уся ягоная паэтычная спадчына невялікая. Яе складаюць, на нашу думку, каля 50 твораў. Трэба сказаць, што Г. Валкавыцкі хоць і меў, як рэдактар «Нівы» і вядучы дзеяч БГКТ, значныя выдавецкія магчымасці, але не выкарыстоўваў іх для экспанавання сваіх вершаў. Мала таго, пасля апублікавання першага верша «Касмічны сон» пад псеўданімам ён досыць доўга не прызнаваўся ў сваім аўтарстве. І толькі пайшоўшы на пенсію, згадзіўся выдаць свой першы і адзіны паэтычны зборнік «Разнагоддзе», які выйшаў у Беластоку ў 1989 годзе. Гэту кніжку склалі 22 вершы, напісаныя ў розныя гады жыцця паэта.

Характэрнай рысай творчасці Ю. Зубрыцкага з’яўляюцца касмічныя матывы. Паэта цікавіць макракосмас і месца ў ім нашай радзімы — Зямлі. Тэматыка гэтая адлюстравалася ў такіх вершах, як «Касмічны сон», «Зямля», «Зямное прыцяжэнне», «Прызямленне», «Як я выратаваў месяц» і «Адамаў агонь».

Па сутнасці, усе сябры літаратурнага аб’яднання «Белавежа» час ад часу заглядаюцца ў зорнае неба і часта там шукаюць адказу на нашы зямныя пытанні. Аднак ніводзін з іх не робіць

гэта так інтэнсіўна, як мы гэта бачым у паэзіі Ю. Зубрыцкага. Ён трактуе касмічную тэму як своеасаблівую праграму.

Зборнік Ю. Зубрыцкага «Разнагоддзе» якраз адкрываецца вершам «Касмічны сон», у якім мы сутыкаемся з паэтавым бачаннем касмічных прышэльцаў, што наведалі нашу Зямлю. Не будзем казаць аб тым, што гэты верш навеяны хворым ці здаровым уяўленнем аўтара. Галоўная думка аўтара заключаецца ў тым, што прышэльцы з далёкіх планет нічым нам не пагражаюць хоць бы з тае прычыны, што не толькі не маюць ніякай зброі, але іх пальцы пазбаўленыя нават пазногцяў. І таму, пабачыўшы ў жыхаркі Зямлі ногці, праяўляюць вялікую трывогу і боязь за свой лёс сярод людзей. Выснова верша адназначная. Яна зводзіцца да таго, што эгаізм, злоснасць, экспансія і агрэсія — гэта характэрныя рысы зямнога чалавека, а не далёкіх касмічных істотаў. Так на гэтую справу глядзіць Зубрыцкі-паэт, і трэба сказаць, што ён без цяжкасцяў знаходзіць падтрымку з боку ўсіх тых чытачоў, якія, кіруючыся сялянскім рацыяналізмам, вельмі часта адказваюць, што рай і пекла не дзесьці там далёка і пасля нашае смерці, а толькі тут — на Зямлі і пры нашым жыцці. Выснова верша «Касмічны сон» мае, па сутнасці, аптымістычны, супакойвальны характар. Ю. Зубрыцкі як бы гаворыць нам: не бойцеся касмічных прышэльцаў. Усё найгоршае не ў далёкім космасе, не на далёкіх планетах, а толькі ў нас — у людзях, што засяляюць нашу Зямлю.

На пажарышчы мядзведзі —
Мыза бурая пры мызе.
Пыл касмічны ў лапах цэдзяць
На дарожны пояс шызы.
Не мядзведзі — лісы гэта.
Бясхвостыя! Ну і дзіва.
А з абрывістых кюветаў —
Гарачага пылу грыва.
— Валя! — крычу — Адзавіся!
Кладзе рукі мне на грудзі:
— Што з табою?
— Страшна лісаў.
— Супакойся, гэта людзі.
Напружваюся:
— Хто вы?
— Жыхары другой планеты.
Пухкім коўрыкам кавовым

Шэрсць расце на людзях гэтых.
Норавам, як мы, крутыя —
Не адпусціш на парукі.
І ў вачах агні зямныя —
Парыў радаснае мукі.
Абступілі нас,
Пытаюць,
Ці пазногці мае Валя.
Паказала.
Нарастае
Сціснуўшая сэрца хваля.
Завохкалі раптам госці:
— Мы тут, — кажуць, — непрыгодны!
Прападзём тут ад пазногцяў
Дзікуноў лісападобных…
На пажарышчы мядзведзі
Топчуцца пасярод ночы.
Пыл касмічны ў лапах цэдзяць
Сыплюць ім у мае вочы.

## КАСМІЧНЫЯ СХІЛЬНАСЦІ

Адзін з матываў касмічных вершаў Ю. Зубрыцкага адносіцца да самотнасці Зямлі ў міжзорнай прасторы. Аўтар адухаўляе мёртвую матэрыю Зямлі, трактуе яе як жывую істоту, прыпісвае ёй тыя якасці і схільнасці, якія характарызуюць чалавека. Ю. Зубрыцкі кіруе ў адрас Зямлі закіды ў сувязі з яе абжорствам, бяздумнасцю і зласлівасцю. Гэтакая катэгорыя паняццяў і трактовак праявілася ў вершы «Зямля», які пачынаецца наступным чатырохрадкоўем:

Крываносныя напружыўшы артэрыі,
Анямела ад рассаджваючай бокі колькі,
Цягнеш з неба тысячы тон матэрыі
І губляеш па дарозе столькі ж.

Непасрэдны зварот аўтара да Зямлі мае характар не толькі паэтычнай рыторыкі, але з’яўляецца перадусім вынікам тае разгубленасці і стрэсавасці, якія выклікае кожная спроба чалавека заглыбіцца ў бездань касмічнае прасторы. Прастора гэтая найчасцей анясмельвае чалавека, прымушае яго да пакоры і

пачуцця свае ўласнае мізэрнасці, нікчэмнасці, мікраскапічнасці ды бездапаможнасці. Аднак у вершы «Зямля» мы бачым і нешта супрацьстаўнае. Паэт падыходзіць да планеты Зямля папанібрацку, з пазіцыі паўнапраўнага партнёра, а нават свайго роду маралізатара-настаўніка, які ўзурпуе права на свабодную крытыку і дыдактычныя павучанні. Ад гэтакай тэндэнцыі Ю. Зубрыцкі адступае, аднак, у наступным вершы пад назваю «Зямное прыцяжэнне». Наколькі ў папярэднім творы аўтар прэтэндаваў на самаўпэўненае кіраванне зямным шарам, настолькі тут ён, хоць і параўноўвае Зямлю з касмічным чоўнам, усё ж лічыць, што зямляне ні ў якім выпадку не з'яўляюцца рулявымі гэтага касмічнага аб'екта. Другі верш, несумненна, намнога больш рацыянальны, чым першы. Калі яшчэ дадаць, што твор «Зямное прыцяжэнне» адзначаецца лаканічнасцю і прадуманай формай, дык трэба сказаць, што тут мы маем дачыненне з творам арыгінальным і цікавым як у аспекце ягонага зместу, гэтак і ў аспекце формы.

Жывому — на шляху зямным
Прыродай вызначана гонка;
А мы — ў касмічныя чаўны,
А мы увысь — абганяць сонца.
І, ўзяўшы зоркі на прыцэл,
Якую ж ісціну адкрылі?
Зямля — касмічны карабель,
Ды мы ў ім — не рулявыя.

Да касмічнага цыклу ў паэзіі Ю. Зубрыцкага мы можам умоўна залічыць таксама верш «Прызямленне». Твор гэты навеяны, праўдападобна, паўрэальнасцю і паўсном. У ім спалучаюцца ў адно цэлае рэалістычныя элементы з фантастычнымі містыфікацыямі. Па сутнасці, у разуменні паэта чалавек у адносінах з космасам мае права да зусім свабоднай трактоўкі і інтэрпрэтацыі таго, што па сваёй натуры і сутнасці характарызуецца загадкавасцю і таямнічасцю. Паэт хоць і досыць катэгарычна выказваецца аб акрэсленым месцы Зямлі ў міжзорнай прасторы, але ўсё ж прызнаецца ў сваёй бездапаможнасці ў інтэрпрэтацыі тае ўнікальнае і незразумелае з'явы, якой з'яўляецца космас, напоўнены непаўторным хараством і таямнічасцю.

## ЗМАГАННЕ З ПАГАНСКІМІ КУЛЬТАМІ

У зборніку «Разнагоддзе» ёсць два вершы — «Сварожычы» і «Новае». Паводле Ю. Зубрыцкага, наша свядомасць павязана бачнай і нябачнай повяззю з даўно прамінулай паганскай эпохай, у якой нашы далёкія паганскія продкі пакланяліся язычніцкім ідалам. Паэт у вершы «Сварожычы» звяртаецца да аднаго з багоў — Сварога, якому старажытныя людзі маліліся, якога ўшаноўвалі і баяліся. Ю. Зубрыцкі называе наша сённяшняе пакаленне сварожычамі, гэта значыць ідалапаклоннікамі. Зразумела, аўтар не падазрае, што сучасны чалавек носіць у сабе аўтэнтычныя паганскія схільнасці і верыць у тое ж самае, у што верылі нашы продкі. У вершы мы маем дачыненне з добра схаваным намёкам на тое, што паганства сучасных пакаленняў праяўляецца ў бескрытычных культавых адносінах да новых ідалаў, гэта значыць правадыроў, што здолелі пры жыцці не толькі ўзвесці свае помнікі, але і пры дапамозе хітрай сістэмы агітацыі і асветы зняволіць людзей да такой ступені, якая выклікае ў іх сэрцах духоўную падпарадкаванасць, бескрытычнасць і сервілістычныя адносіны да помнікаў сучасных палітычных дзеячаў. Менавіта ва ўсім гэтым і ўбачыў Ю. Зубрыцкі аналогію паміж далёкім дзікім продкам, які падаў на калені перад ідалам, і сучасным адукаваным чалавекам, які сервілістычна абагаўляе такую, як і ён сам, істоту. Адзінства і супольнасць паміж моцна адлеглымі пакаленнямі, паводле аўтара, праяўляюцца ў малітоўных адносінах да фантастычных альбо рэчаісных постацяў. Да культавага характару эпохі звяртаецца Ю. Зубрыцкі таксама ў вершы «Новае».

У старога свету ўсе ў палоне мы,
Новае — не з музыкай парад:
Скрытымі мяцежнымі калонамі
Цягне нас мінулае назад.
Ведамі рубежнымі ахутаны,
Гойсаем з прывалу на прывал;
Заадно, змагаючыся з культамі,
На парожні рвемся п’едэстал.
Гонім век, які пражыць нам выпала,
І ў нябесных прыдарожных снах
Меданоснымі зямнымі ліпамі
Садзім неабжыты Млечны Шлях.

Як адзін, гэтак і другі вершы напісаны пад уражаннем савецкай рэчаіснасці 50–60-х гадоў. Паэт, як вядома, у перыяд 1949–1954 гадоў вучыўся ў Маскве. Былі гэта гады, калі культ Сталіна і ягоных паплечнікаў быў даведзены да гіганцкіх памераў. Смерць Сталіна ў 1953 годзе зваставала вялікія перамены. Аднак у хуткім часе постсталінская рэчаіснасць паказала, што новыя генеральныя сакратары былі схільны ўзысці на п’едэсталы, звольненыя бацькам народа Сталіным і яго паплечнікамі. Трэба сказаць, што Зубрыцкі, кіруючыся прынцыпам высокай мастацкасці, не пайшоў па лініі публіцыстычнай даслоўнасці і аўтэнтычнай факталогіі. Аднак няма сумненняў, што ягоныя творы былі формай асуджэння сучаснага паганства, якое яскрава праявілася ў прынцыпах сталінскай ідэалогіі і палітыкі. Парадаксальнасць закранутай у вершы «Новае» праблемы палягае на тым, што новае ў нашым жыцці часта з’яўляецца паўторам старога, а гэтак званае сацыялістычнае — паўтарэннем язычніцкага.

Варта падкрэсліць, што ў 60–70-я гады многія белавежцы звярталіся да культавай праблематыкі, аднак Ю. Зубрыцкі ў яе разуменні і трактоўцы праявіў арыгінальны паэтычны падыход.

## ЗНЯВОЛЕННЕ БЕЛАВЕЖАЙ

Такія вершы Ю. Зубрыцкага, як «Ля вытокаў», «Балада пра зубра», «Пад лесам», «Як я выратаваў месяц», «На возеры Памора», поўнасцю альбо часткова прысвечаныя Белавежскай пушчы. Па сутнасці, ва ўсёй творчасці паэта няма ніводнага верша, які б апісальна трактаваў Белавежу. Аўтар гаворыць пра яе заўсёды рэфлексійна. Выкарыстоўвае родны лясны масіў для своеасаблівага філасофствавання і роздуму над існаваннем Белавежы і жыццём чалавека, звязанага з ёю. У гэтага аўтара, які, як вядома, родам з Белавежы, мы не знаходзім ніводнага верша, у якім праявілася б дэкларатыўная любоў да пушчы. Аднак пры дапамозе намёкаў, алегорый ды іншасказанняў паэт адназначна даказвае, што Белавежа з’яўляецца арганічнай часткай яго душы і сэрца. Нават тады, калі паэт знаходзіцца над далёкім возерам Памора і піша аб гэтым верш, ён скарыстоўвае нагоду, каб увесці ў змест твора элемент Белавежскае пушчы. Зразумела, што гэтакія схільнасці сведчаць аб прыярытэтнай пазіцыі Белавежы ў паэтычным мысленні аўтара, а гэта ў сваю чаргу сведчыць аб дамінацыі гэтай незвычайнай прыроднай з’явы ва ўсёй духоўнай тоеснасці Ю. Зубрыцкага. Спецыфічную пазіцыю ў белавежскай

творчасці аўтара займае верш «Балада пра зубра». Ён характарызуецца тым, чаго няма ў іншых творах, а менавіта апісальнасцю, унутранай логікай і поўнай зразумеласцю зместу. Можна было б назваць гэты твор рыфмаванай навелай з завязкай, кульмінацыяй і развязкай. І якраз гэтыя элементы так прыбліжаюць яго да гатунку навелы. У творы паэт малюе магутную фігуру белавежскага зубра, якога людзі загналі ў клетку і завезлі ў далёкую паўднёвую краіну дзеля таго, каб паказваць мясцовым людзям. З гэтай прычыны зубр-кароль страціў назаўсёды сваю валадарнасць і стаўся выключна экспанатам, які цешыць экзатычных наведвальнікаў. І хоць у творы няма ані слова наракання ці пратэсту, мы маем тут дачыненне з экалагічнай абаронай таго стану, які ўтварыўся ў прыродзе на працягу мільёнаў гадоў у працэсе адвечнай эвалюцыі. Верш з'яўляецца як бы крыкам, у якім выступае патрабаванне пакінуць у прыродзе ўсё на сваім месцы, а гэта таму, што ўсё існуючае на Зямлі мае заканамерны, а не выпадковы характар. Парадаксальны элемент у гэтым вершы праяўляецца ў тым, што чалавек, будучы арганічнай часткай прыроды, уводзіць у яе такія самавольныя карэктывы і эксперыменты, якія пагражаюць самой сутнасці навакольнага свету. Ю. Зубрыцкі — несумненны праціўнік гэтакай самаволі. Паэт трактуе Белавежскую пушчу як запаветнае месца, якое яму — жыхару горада дае спакой, духоўную раўнавагу і веру ў сваю чалавечнасць. Гэтакая трактоўка прыроды найбольш поўна выявілася ў адным з найлепшых ягоных вершаў «Над лесам».

Сцелісты лесе, добрага рання!
Прымі з дарогі ў прытулак скрытны.
Маўчыш. І толькі на кліч вяртання
Азвецца пойма драчавым скрыпам.
    У поўдзень зашухкае клін асаковы,
    Косы ўваб'ем над паніклай травою,
    Ты нас асвежыш парэчкавым сокам,
    Густою засенню — лісцяў страхою.
З'явіцца ноч, над табою застыне,
Чэмерам стомным водар пранікне —
Сальюцца ў мроях блуднага сына
Сцены Каносы з пошчакам Нікі.

Лес-калыска, лес-прыстанішча, лес-святыня, у якіх адпачываюць душа і сэрца блуднага сына, што пакінуў родны край, але ўрэшце вярнуўся да яго, каб працаваць, спяваць, маліцца, а можа, і плакаць.

Юрка Зубрыцкі, нягледзячы на доўгае расстанне з родным краем, дэманструе сыноўнюю любоў да маці-Белавежы.

## МІЖ КАХАННЕМ І ФІЛАСОФІЯЙ

У зборніку Ю. Зубрыцкага «Разнагоддзе» мы знаходзім толькі два вершы — «Зман» і «Праява», прысвечаныя каханню. Зразумела, што гэта вельмі мала. Сярод белавежцаў ёсць паэты, што напісалі па некалькі сот вершаў аб каханні, з якімі Ю. Зубрыцкі выразна не спаборнічае. Калі, аднак, хтосьці ведае гэтага паэта асабіста, дык не здзіўляецца. Бо ён з’яўляецца чалавекам, які ніколі не характарызаваўся шматслоўнасцю ў асабістых, а тым болей у інтымных прызнаннях. Ужо названыя два вершы аб каханні вызначаюцца выключным лаканізмам. У суме яны налічваюць меней чым 20 радкоў.

Сонца сядае
не таму,
што змарылася,
што за пагоркам
убачыла
ціхую прыстань.
Сонца сядае,
каб ты
потайкам
магла прыйсці да мяне.

* * *

Твой ліст перачытаў
зноў і зноў —
і нешта ўва мне
прарвалася.
Магчыма — тое,
што сядзела
пад моцным замком,
калі ты была побач.

Прыведзеныя тэксты вытрыманыя ў нарматывах паэтыкі Максіма Танка 70-х гадоў. Паэт гэты, як вядома, зламаў тра-

дыцыйную структуру паэтычнай страфы, увёў белы верш, адступіў ад рыфмоўкі і ад рытмікі. Напоўніў паэтычныя творы апавядальным струменем, вызваліў паэтычны расказ ад вонкавай эмацыянальнасці і пачуццёвасці. Супакоіў верш і загадаў яму несці ў сваім нутры акрэслены змест і сэнс. Усе гэтыя танкаўскія ўласцівасці выступілі ў двух прыведзеных вершах Зубрыцкага, які як бы выпадкова крануў тую струну, што спявае аб адвечным, гэта значыць, аб тым пачуцці, што акрыляе найбольш чэрствую чалавечую душу.

У гэтакіх вершах, як «Мая утопія», «Тварэц», «Пакрыўджанаму», «Адамаў агонь», бачацца спробы Юркі Зубрыцкага інтэрпрэтацыі свету і сэнсу чалавечага жыцця. Як бы другарадный, але істотнай тэмай у гэтых творах з'яўляецца роздум над сэнсам і мэтанакіраванасцю паэтычнага таленту. Несумненна, мы маем дачыненне з самаіроніяй у той момант, калі паэт у вершы «Мая утопія» гаворыць, што прагнуў бы ўзяць свае пачуцці на ланцуг. Можна было б згадзіцца з аўтарам толькі ў тым выпадку, калі б пад пачуццямі на ланцугу ён разумеў кантроль над нашымі эмоцыямі, а не поўнае іх зняволенне і падпарадкаванне нормам розуму. З даволі лёгкай для разгадкі шыфроўкай мы маем дачыненне ў вершы «Тварэц», у якім аўтар выказвае, несумненна, глыбокую думку пра тое, што ў выпадку творчага працэсу мы часта атрымліваем не залатое зерне, але звычайнае пустазелле.

Супярэчлівасць, непаслядоўнасць і нечаканасць творчых настрояў акрэслілі таксама характар верша «Пакрыўджанаму».

Трагедыя. Кіпіш без слоў.
У руках скамечана газета.
Дай табе волю — ты гатоў
З торбай пусціць хоць бы паўсвету.
        Эх, небарака, не дуры.
        Каго, уласна, табе трэба?
        У патоку моднай мішуры
        Цана якая вершам зрэбным.
Азмрочыўся (сам грамабой)
Чужым і крыўдным прыгаворам.
І падзяліў людзей, нябось,
На тых, хто добры і хто вораг.
        З дарадчыкамі пачакай,
        Не спадзявайся звонку многа.
        У сябе кіруй душы адчай,
        Там твая сіла і падмога.

А калі выйдзеш на прасцяг
Ухабістым радком падспудным,
Ты самы строгі тут суддзя
І нераскаяны падсудны.

Вядома, на падставе згаданых тут твораў Ю. Зубрыцкага досыць цяжка было б ахарактарызаваць яго прынцыпы, крытэрыі і ацэнкі таго, што складае прадукт паэта, мастака ці кампазітара. Аднак няма сумненняў, што, паводле нашага аўтара, мастацтва стараецца інтэрпрэтаваць ТАЯМНІЦУ чалавечага жыцця і, быць можа, прыбліжае чалавека да зразумення сутнасці навакольнага свету.

## У ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫМ РЭЧЫШЧЫ

Бадай што апошняя катэгорыя творчасці гэтага паэта — паэтычная публіцыстыка. Да гэтай катэгорыі трэба залічыць перадусім творы «Паліцэйская абвестка аб пакаранні Райска» і «Уваскрашэнне». Першы твор — гэта кароценькі верш, а другі паэмка, якая складаецца з 10 раздзелаў. «Паліцэйская абвестка аб пакаранні Райска» — верш-рэмінісцэнцыя, выкліканая музейнай нямецкай аб'явай аб мілітарнай акцыі, у выніку якой беларуская вёска Райск, што на Бельшчыне, была спалена, а яе жыхары — расстраляны. Ю. Зубрыцкі ў кароценькім 15-радковым творы выявіў боль, выкліканы трагедыяй Райска. У гэтым лаканічным вершы паэт звяртаецца да помніка — мармуровай рукі, што вырастае з зямлі. Помнік гэты — крык аб гітлераўскім злачынстве на Беласточчыне.

Даўно музейная,
за шклом,
а млосна —
цягне гарам.
СС — Штандартэнфюрэр Фром —
След здані ў почырку крывавым.
Яна — за шклом,
у гадоў адхоне,
жывым —
наследны
боль далёкі…
а
мармуровыя далоні

ўсё цягнуцца
з зямлі
ў аблокі.

Твор «Уваскрашэнне» бадай што найдаўжэйшы ва ўсёй творчасці паэта. Ён налічвае каля 200 радкоў. Трэба, аднак, сказаць, што напісаны ён тэхнікай лесвіцы, характэрнай для вершаскладання Маякоўскага. Калі б раздробненыя радкі змясціць у правільных строфах, дык гэты твор аказаўся б намнога карацейшым. «Уваскрашэнне» кранае не надта частую, але ўсё ж такі прысутную ў творчасці белавежцаў партызанскую тэму. На Усходняй Беласточчыне, дзе дамінавала беларускае насельніцтва, выступалі амаль выключна савецкія партызаны. Сёння пажылыя беларусы вельмі па-рознаму ацэньваюць іх антыгітлераўскую дзейнасць. Нягледзячы на палітычны і публіцыстычны характар твора «Уваскрашэнне», мы знаходзім у ім такія фрагменты, у якіх праяўляецца добрае паэтычнае майстэрства. Прыкладам сапраўднае паэзіі можа быць наступны фрагмент твора:

Вайна
апаліла
мары,
шуганула
траскучым
кругам,
Райска
пакутнага
зрывам
павісла
між Нарвай
і Бугам.
Магілы,
магілы,
магілы
уваскрашэння
сталі
кодам,
генезісам
і
запаветнай сілай
вяртання
ў
свабоду.

Апрача прадстаўленых двух твораў, у спадчыне Ю. Зубрыцкага мы знаходзім яшчэ некалькі публіцыстычных вершаў, якія адносяцца да міжваеннай польскай рэчаіснасці. Рэчаіснасць гэтую паэт ацэньвае адмоўна, бо лічыць, што яна не стварала спрыяльных умоваў для жыцця людзей з грамадскіх нізоў, у тым ліку таксама ўсім беларусам.

Публіцыстычная плынь у паэзіі Ю. Зубрыцкага застаецца ў арганічнай сувязі перадусім з палітычнай лірыкай В. Шведа і некаторых іншых белавежцаў старэйшага пакалення.

Вяртаючыся да традыцыйнай паэтычнай амплітуды, якую ствараюць беларускія пісьменнікі ў Польшчы, трэба сказаць, што Ю. Зубрыцкі займае ў ёй цэнтрысцкую пазіцыю. Тэхнічны бок ягоных вершаў, як правіла, традыцыйны. Сказанае адносіцца да рыфмоўкі і рытмікі, якія выступаюць амаль ва ўсіх вершах гэтага аўтара. Тут трэба, аднак, падкрэсліць, што Ю. Зубрыцкі з'яўляецца прыхільнікам Уладзіміра Маякоўскага ў галіне ламання традыцыйнай паэтычнай страфы і ўжывання гэтак званай лесвічнай альбо ўсходавай тэхнікі верша. Яна палягае на тым, што ў адным радку змяшчаецца ўсяго некалькі словаў альбо нават толькі адно. Што да ўжывання паэтам метафорыкі іншасказальнасці, дык трэба яго залічыць да даволі смелых і наватарскіх аўтараў, што перасоўвае гэтага паэта ў бок адносных мадэрністаў.

Аднак у паэзіі Ю. Зубрыцкага мы знаходзім істотны элемент, які прымушае нас трактаваць гэтага аўтара перадусім як традыцыяналіста. Элементам гэтым з'яўляецца тэматыка большасці ягоных вершаў. Праўда, касмічныя схільнасці некаторых яго твораў не належаць да частых і тыповых у паэзіі белавежцаў, аднак моцны публіцыстычны струмень у многіх ягоных вершах выразна саштурхоўвае Юрку Зубрыцкага ў кагорту белавежцаў-традыцыяналістаў.

Ю. Зубрыцкі — чалавек з багатай біяграфіяй, добры знаўца апошняга пяцідзесяцігоддзя ў жыцці беларусаў з Усходняй Беласточчыны, заўсёды характарызаваўся грамадскім заангажаваннем.

Яго трыццацігадовая кар'ера як рэдактара «Нівы» таксама спрыяла гэтакім грамадскім і палітычным схільнасцям, якія акрэслілі не толькі палітычныя погляды, але і паэтычныя настроі.

Ю. Зубрыцкі вядомы таксама як арганізатар беларускага літаратурнага руху ў Польшчы і літаратурны крытык. На першай стадыі стварэння беларускага літаратурнага аб'яднання «Бела-

вежа» Ю. Зубрыцкі быў яго старшынёй. Рэдакцыя «Нівы», якой кіраваў Валкавыцкі-Зубрыцкі, сталася прыстанкам, што спрыяў узнікненню літаратурнага аб'яднання. Па-першае, таму, што ў тыднёвіку друкаваліся творы беларускіх аўтараў, па-другое, з тае прычыны, што яго памяшканні сталіся сядзібай новай узніклай літаратурнай структуры. Толькі пазней белавежцы адлучыліся ад рэдакцыі «Нівы» і далучыліся да БГКТ, якое запэўнівала лепшыя ўмовы бытавання, асабліва ў галіне арганізацыі аўтарскіх сустрэч і ў выданні твораў. Зрэшты, у тыя часы «Ніва» была органам БГКТ, а Георгій Валкавыцкі — намеснікам старшыні ГП БГКТ. Дзякуючы чаму пераход літаратурнага аб'яднання з «Нівы» ў Таварыства не меў канфліктнага характару і вынікаў выключна з арганізацыйнага прагматызму. Разам са зменамі Зубрыцкі не страціў высокапрэстыжнай пасады ў літаратурным аб'яднанні «Белавежа».

Гаворачы пра літаратурныя заслугі Ю. Зубрыцкага, нельга абысці ягоную крытычную і выдавецкую дзейнасць. Ён неаднаразова быў ініцыятарам і рэдактарам «Беларускіх календароў», альманахаў і індывідуальных зборнікаў. Гэта ён увёў у «Ніву» штомесячны літаратурны дадатак «Белавежа», які стаўся органам літаратурнага аб'яднання. Быў таксама прыхільнікам літаратурных раздзелаў у «Беларускіх календарах». Адно з апошніх літаратурных дасягненняў Ю. Зубрыцкага — гэта альманах «Гасцінец», у якім паралельна змешчаны беларускія арыгіналы і польскія пераклады твораў белавежцаў.

Нельга таксама абысці маўчаннем дасягненні Ю. Зубрыцкага як літаратурнага крытыка. Ягоныя шматлікія літаратуразнаўчыя артыкулы датычылі, галоўным чынам, беларускай паэзіі ў Польшчы. Ю. Зубрыцкі пісаў іх, як правіла, з пазіцыі чалавека, закаханага ў творчасць белавежцаў. Добразычлівасць у адносінах да калегаў-паэтаў, а не зайздрасць, як гэта часта бывае, выстаўляе яму добрае сведчанне і добрую маральную ацэнку.

У суме Ю. Зубрыцкі як паэт, выдавец і крытык заваяваў трывалае і ганаровае месца ў беларускім літаратурным руху ў пасляваеннай Польшчы.

## ВІКТАР ШВЕД

Беларускі літаратурны рух у Польшчы не быў і не ёсць з’явай аднароднай. У ім выступалі і выступаюць розныя, часта супрацьстаўныя арыентацыі і тэндэнцыі. Прыкладам найбольш ад сябе аддаленых паэтычных паставаў і пунктаў гледжання з’яўляюцца, несумненна, Н. Артымовіч і В. Швед.

Н. Артымовіч прадстаўляе арыентацыю мадэрнісцкую, сучасную, наватарскую. У беларускім літаратурным руху яна працягвае лінію Я. Бурша, а калі гаварыць шырэй, дык свядома ці не, уводзіць у беларускі рух галоўную рысу і схільнасці такіх сучасных польскіх паэтаў, як Гарасымовіч, Ружэвіч, Белашэўскі. Можа ўзнікнуць сумненне і пытанне, ці можам мы гаварыць аб мадэрнізме аўтара, які звяртаецца да таго, што ўжо зрабілі іншыя паэты. Ці не трэба такога аўтара называць эпігонам, а не наватарам? З прычыны гэткіх сумненняў трэба сказаць, што аб наватарстве Я. Бурша ці Н. Артымовіч мы гаварылі не як аб усходнееўрапейскім ці сусветным літаратурным працэсе, а толькі ў беларускім кантэксце.

Віктар Швед — паэт, які ні ў чым не напамінае творчасці Я. Бурша ці Н. Артымовіч. Ён быў і ў далейшым застаецца традыцыяналістам, які лічыць, што класічныя ўзоры беларускае паэзіі не страцілі свае прыцягальнасці і што яны могуць выконваць пазітыўную ролю гэтаксама ў беларускім літаратурным руху на польскім грунце. В. Швед паслядоўны прыхільнік правільнага верша з захаваннем такіх яго атрыбутаў, як правільны радок, прысутнасць рыфмы і рытму, відавочнасць выразнага сэнсу ды чытэльнасць паэтычнага тэксту. Гэткага тыпу вершы ў творчасці В. Шведа выразна набліжаюцца да тае паэтычнае спадчыны, якую пакінулі такія паэты, як Янка Купала і Якуб Колас. Да ягоных паэтычных бацькоў нельга было б залічыць М. Багдановіча, які ўжо ў перыяд «Нашае нівы» дэманстраваў сваю сімпатыю да таго варыянту мадэрнізму, які выступаў пад назвай імпрэсіянізм.

В. Швед свядома выбраў лёс паэтычнага сына Купалы і Коласа, і трэба сказаць, што на працягу 45 гадоў свае творчасці не сышоў з дарогі вернасці беларускай паэтычнай традыцыі. В. Швед — найстарэйшы сучасны беларускі паэт у Польшчы.

Ён нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора Гайнаўскага павета. Паходзіць ён з тыповай беларускай сялянскай сям’і, якая перажыла нястачы даваеннай польскай рэчаіснасці, трагедыю германскай акупацыі, цяжкасці першых пасляваенных гадоў.

Перад вайной Віктар скончыў пачатковую школу. У перыяд савецкай улады вучыўся ў дзесяцігодцы ў Орлі. У час акупацыі заставаўся па-за школай. Пасля вайны ў 1946 годзе апынуўся ў Варшаве, у якой жыў да 1991 года. У сталіцы скончыў два факультэты: журналістыкі і філалагічны на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. На працягу некалькіх гадоў працаваў сакратаром ГП БГКТ, а пасля быў шматгадовым працаўнікам рэдакцыі выдавецтва «Książka i wiedza». З 1991 года знаходзіцца на пенсіі. В. Швед — сябра Саюза польскіх пісьменнікаў.

Каб зразумець спецыфіку жыцця паэта, трэба прыслухацца да ягоных прызнанняў.

«Пісаць вершы пачаў я спантанна, — гаворыць В. Швед, — яшчэ ў пятым класе даваеннай пачатковай школы. Пісаў на польскай мове, а таксама і на мясцовым дыялекце. З беларускай літаратурнай моваю пазнаёміўся я ў савецкай дзесяцігодцы ў Орлі, адкуль у 1946 годзе быў накіраваны са сшыткам сваіх вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску. У час жа акупацыі спрабаваў я пісаць па-руску. У пасляваенны перыяд, у беларускіх гімназіях у Гайнаўцы і ў Бельску пісаў я свае творы, — працягвае В. Швед, — на трох мовах: беларускай, польскай і рускай, што сведчыць яшчэ тады аб слабым маім самавызначэнні, хто я. У 1946 годзе выехаў у Варшаву, і там, па розных прычынах, заглохла мая паэтычная ліра на 10 гадоў. Амаль ад пачатку пачаў я пісаць вершы для дзяцей. Некаторыя белавежцы сцвярджаюць, што я павінен канцэнтравацца на гэтай творчасці, — гаворыць В. Швед далей у сваёй аўтабіяграфіі. — Але я не падзяляў гэтага… Для дзяцей трэба пісаць вершы пагоднага характару, жартоўныя, вясёлыя. І такія я пісаў. Нашы дзеці паспеюць яшчэ ў жыцці насумавацца. Гэта — па-першае. А па-другое, пішучы толькі для дзяцей, куды мне было б падзецца з той маёй настальгіяй, якая распірае мае грудзі, настальгіяй за адыходзячым у нябыт маім светам, а таксама з глыбокім пачуццем, што нараджаецца ў сэрцы?! Доўгі час знаходзіўся я пад уплывам паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча, Танка. Заўсёды сачу за творчасцю сучасных польскіх паэтаў. А ў сувязі з тым, што ў Польшчы вельмі цяжка да мінскіх выдавецкіх навінак, я зрабіў адзіна магчымае: падпісаўся на беларускія літаратурныя часопісы, каб сяк-так не патраціць кантактаў з бягучым momантам нашай нацыянальнай літаратуры.

Як ніхто з «белавежцаў», апублікаваў я дзясяткі вершаў, — піша далей у сваёй аўтабіяграфіі В. Швед, — прысвечаных

роднай мове, роднаму народу і малой айчыне сваёй — Беласточчыне. На жаль, гэтая мая паэтычная лірыка не знаходзіць грамадскага водгуку. Як кажуць, што гарохам аб сцяну! Узнікае пытанне: а ці варта далей пісаць? Адказваю: варта! Зрэшты, я ўжо ў такім стане, што не магу не пісаць. І калі б нават не было ўжо дзе друкавацца — буду пісаць, няхай толькі сабе «ў стол».

Дарэчы, сама «Ніва» змясціла ўжо 250 маіх твораў толькі на працягу апошніх чатырох гадоў, — адзначыў В. Швед у аўтабіяграфіі — Тыя ж 4 гады таму назад склаў я два паэтычныя зборнікі: «Вяртанні» для дарослых і «Вясёлка» для дзяцей. Дазвол на іх друкаванне ўрэшце ёсць. Але няма за што выдаваць іх, грошай дзеля гэтага няма ў БГКТ. А гэта ж недарэчнасць і крыўда! Гавару тут за ўсіх нашых «белавежцаў», бо яны як быццам каля разбітага карыта ў вядомай байцы пра дзеда і бабу».

Трэба адзначыць, што апошнія горкія словы В. Шведа аб выдавецкіх клопатах не поўнасцю апраўданыя. Бо яму ўдалося выдаць параўнаўча многа сваіх паэтычных кніжак. Дагэтуль выйшлі ў Беластоку і Мінску такія яго зборнікі, як «Жыццёвыя сцежкі», «Дзяцінства прыстань», «Дружба», а таксама згаданая аўтарам «Вясёлка».

Біяграфія В. Шведа — гэта арганічная частка жыцця беларусаў у даваеннай Польшчы, у перыяд акупацыі, а таксама ў пасляваеннай Польшчы. Не ведаю, свядома ці не, В. Швед стаўся паэтычным летапісцам найбольш характэрных з’яў, падзеяў і фактаў у жыцці беларусаў на працягу апошніх 60 гадоў. У yгонай творчасці мы знаходзім рэмінісцэнцыі і водгукі на падзеі ранняга дзяцінства, юнацтва і сталасці. Гэтыя падзеі паэт наогул стараецца кінуць на фон грамадскага жыцця беларускай вёскі ў апошняе 60-годдзе.

Фармальны дыяпазон паэзіі В. Шведа даволі вялікі і аднародны. Затое дыяпазон тэматычны — намнога шырэйшы і больш markedly рознабаковы. Пэўная аднабаковасць фармальнага аспекту творчасці паэта заключаецца ў тым, што ён нязменна стаяў і стаіць на грунце паэзіі традыцыйнай. Паэтычныя ўзоры, створаныя беларускімі пісьменнікамі ў перыяд «Нашай нівы», поўнасцю задавальняюць патрэбы і амбіцыі В. Шведа. Практычна ўсе вершы паэта збудаваныя паводле прынцыпу правільнай чатырохрадковай страфы, у якой першы радок рыфмуецца з трэцім радком, а другі — з чацвёртым. Гэтакі традыцыйны шаблон поўнасцю вычэрпвае структурна-паэтычныя патрэбы і магчымасці Шведа.

Трэба сказаць, што В. Швед свядома ішоў і ідзе па лініі заспакаення найбольш элементарных літаратурных патрабаванняў самага простага, гэтак званага масавага, чытача. Паралельна з прастатой формы ідзе ў В. Шведа і прастата зместу. Звяртаецца ён, як правіла, не да філасофскага роздуму над жыццём, не да таго, што ў жыцці неадназначнае, складанае, невыразнае, а толькі да таго, што мае адназначны характар. Чытаючы вершы В. Шведа, мы заўсёды выразна бачым, якія з тых з'яў і праблемаў, што ён характарызуе, пазітыўныя, а якія адмоўныя, якія прыгожыя, а якія брыдкія, якія эгаістычныя, а якія альтруістычныя. Адназначнасць — гэта пастаянны фундамент шведавых вершаў, якія заўсёды з'яўляюцца носьбітамі акрэсленых ідэяў, ісцінаў і тэндэнцыяў. Швед ніколі не вядзе чытача ў духоўную разгубленасць, у сумненні ды інтэлектуальную імглістасць. Наадварот, ён робіць усё, каб у настроі і душы чытача ліквідаваць усякую двухзначнасць і невыразнасць. Большасць вершаў В. Шведа мае характар дэкларацыяў, якія заўсёды нешта асуджаюць і нешта хваляць, нешта адабраюць і нешта адкідваюць.

Віктару Шведу не ўсё роўна, як да гэтых вершаў-дэкларацыяў адносіцца чытач, і таму ён робіць усё, каб далучыць чытача да таго, што любіць аўтар, і выклікаць у чытача нянавісць да таго, што ненавідзіць сам паэт. Зразумела, што гэткая трактоўка паэзіі ўводзіць у яе маралізатарскі элемент і штурхае ў бок дыдактызму.

Прымаючы пад увагу тое, што выхадцы з беларускіх вёсак у Польшчы лёгка выракаюцца ўсяго роднага, В. Швед звяртаецца да гэтай катэгорыі людзей, безупынна напамінаючы ім, хто яны, які іх класавы радавод, да якой яны належаць нацыі і што яны павінны трактаваць як адвечнае, а што — як наноснае і часовае. Прыкладам гэткага падыходу да рэчаіснасці можа быць ягоны верш «Я ў душы астаўся селянінам».

Не было мне суджанае лёсам
Жыць без перабою ў роднай вёсцы.
Чуць зямельку пад стапою босай,
Цешыць вока збожжам на палосцы.

З габляваных смаляных бярвенняў
У бацькоўскай аставацца хаце…
З глебы перасаджаны з карэннем
Стаў я постаць селяніна траціць.

Стаў я жыць, загублены ў мільёне,
У таўпе, у гушчы спраў шматлікіх,

Стаў я па асфальце і бетоне
Шаргаць у глянцаваных чаравіках.

У мурах, таўшчэзных і халодных,
Я замкнуўся, як у клетцы птушка.
Уцякаюць мае думкі штодня
На палетак з палявою грушкай.

Паміж мной а бацькавым парогам
Пасмы праляглі сталёвых рэек.
І калі збіраюся ў дарогу,
Узрастае ў сэрцы зноў надзея.

Цешуся, што зноў убачу скора
Родны кут, які калісь пакінуў.
І хоць праглынуў мяне ўжо горад,
Я ў душы астаўся селянінам.

У прыведзеным вершы няма непасрэднай атакі на рэнегатаў, якія выракліся ўсяго роднага — беларускага. Затое ў ім выступае постаць лірычнага героя, якім з’яўляецца сам аўтар. Для гэтага героя захаванне эмацыянальнай і духоўнай сувязі з вёскай ды радзімай ёсць той каштоўнасцю, якая адназначная з чалавечнасцю. Зразумела, што аўтар імкнецца да таго, каб чытач раздзяліў яго пачуцці і каб гэтак, як і ён, ірваўся душою і сэрцам да пакінутай роднай вёскі.

Непарушным фундаментам усяе паэзіі Віктара Шведа з’яўляецца грамадзянскасць, і ў гэтым сэнсе ён можа трактавацца не толькі як сын Купалы ці Коласа, але і як унук ды праўнук Марыі Канапніцкай і Мікалая Някрасава. Вялікая колькасць ягоных вершаў з’яўляецца формай пакланення роднай вёсцы, сваім бацькам і свайму дзяцінству. Аднак В. Швед не толькі моліцца ўсяму мінуламу, старому ды архаічнаму, але заўважае і ўхваляе ўсе тыя змены, якія наступілі ў вёсцы ў пасляваенную пару. Аднак ніякая мадэрнізацыя роднага сяла не ў стане сцерці ўсё тое, што было звязана з вясковымі рэаліямі тых часоў, калі паэт быў дзіцём і калі яшчэ не думаў аб шырокім свеце. Захапленне старым і ўхваленне новага знайшло прыгожы паэтычны сінтэз у вершы «Дзяцінства прыстань», прысвечаным жыхарам роднай вёскі паэта — Мора.

Майго дзяцінства прыстань — Мора,
Адкуль выводзіш свой назоў?

Відаць, было тут мора гора,
Мора балот і хмызнякоў.

Тут асушылі ўжо балота,
З балотам счэзлі хмызнякі,
Знікае гора і турботы,
Жывуць больш шчасна землякі.

Тады назоў мо недарэчны,
Можа інакш назваць сяло?
Не існаваць жа таму вечна,
Што век свой доўгі аджыло.

Ды не. Талковы і прыгожы
І новы мае сэнс назоў.
Шуміць навокал мора збожжа,
Мора красуецца садоў.

Каб меў назоў сэнс і апору,
Каб нам служыць мог, дык вякам,
Жадаю я багацця мора
І мора шчасця землякам!

У бальшыні сваіх вясковых вершаў В. Швед звяртаецца да розных праяваў рэчаіснасці. Аднак нярэдка з гэтае рэчаіснасці ён выбірае толькі адну альбо некалькі найбольш характэрных дэталяў. Найчасцей да іх належаць: парог бацькоўскай хаты, цэп, матчына кудзеля, матчын кужаль. І гэтыя, здавалася б, будзённыя праявы Віктарам Шведам выразна ўзвышаюцца і паэтызуюцца. Паэтызаванай апалогіяй аўтар звяртаецца да таго, што прамінула, што са штодзённай рэчаіснасці сталася далёкім тэрытарыяльна, але засталося блізкім духоўна. І ўсё ж такі трэба сказаць, што з усяе дзіцячае аркадыі, якую складаюць надзеі, здарэнні, прадметы і рэчы, В. Швед вылучае постаці сваіх бацькоў, якіх ён безупынна прадстаўляе і характарызуе, прыпісваючы сабе віну за рэдкія прыезды, за рэдкія лісты і за сваю непрысутнасць. Бадай што ва ўсёй групе беларускіх пісьменнікаў у Польшчы няма ніводнага аўтара, які прысвяціў сваім бацькам такую вялікую колькасць вершаў, як зрабіў гэта Швед. Можна сказаць і па-іншаму. Мабыць, усе беларускія пісьменнікі ў Польшчы разам ўзятыя не напісалі столькі твораў аб бацьках, як В. Швед. Амаль усе гэтыя вершы напісаныя ад імя паэта. Але ў адным вершы В. Швед адступіў ад гэтага прынцыпу

і напісаў свой твор ад імя маці пры сконе. Няма сумненняў, што аўтар вельмі трапна перадаў адчуванні і пажаданні беларускай сялянкі, якая памірае без істэрыкі, без спалоху і ўспрымае смерць як нешта натуральнае і непазбежнае. Вось гэты верш, які мае назву «Запавет»:

Жыцця апошнія хвіліны
Як свечка гаснуць уваччу.
Апошні раз з Варшавы сына
Так вельмі ўбачыць я хачу.

Той далікатнае, мястовай,
Не абсталёўвайце труны.
Збудуйце новы дом здаровы
Мне з дошак смаляной сасны.

Не абувайце мне на ногі
Ніякіх чаравік, галёш.
Схадзіла боса ўсе дарогі,
Пайду ў апошню басанож.

А пахавайце ля Мікіты,
Хачу быць разам з мужыком.
Разам усё жыццё пражыта,
Разам спаць апошнім сном.

Бывайце, дарагія дзеткі,
І белы свет мой — будзь здароў.
А на магілах часам кветкі
Злажыце, помнячы бацькоў.

Усе вершы, прысвечаныя дзяцінству, бацькам і скіраванай у нябыт старой вёсцы, гэта творы, у якіх В. Швед стараецца рэканструяваць малую бацькаўшчыну. Гэтая малая бацькаўшчына выразна ідэалізуецца, як нешта найпрыгажэйшае і найбольш дасканалае. Паэт паведамляе аб тым, што малая бацькаўшчына гіне пад напорам цывілізацыі. Гіне, але не перастае быць прыгожай. Наадварот, чым больш яна аддаляецца ў часе і ў прасторы, чым болей траціць сваю першабытную, архаічную аўтэнтычнасць, тым болей эмоцыяў і цяпла выклікае ў думках паэта на схіле гадоў. Для В. Шведа старая вёска несмяротная і заўсёды маладая. Прыгадваючы ўсё мінулае, В. Швед вяртаецца ў часы дзяцінства, калі босымі нагамі бегаў па разасланым на

лузе кужалі і калі свет быў адной доўгай паласой бесклапотнасці, якую забяспечвалі бацька і маці.

Усе вершы В. Шведа, прысвечаныя малой бацькаўшчыне, вытрыманыя ў нормах традыцыйнае паэзіі. Няма ў іх небяспечных, пакручастых асацыяцыяў і параўнанняў. Для іх характэрны апавядальны спакой, сумнае задуменне і канстатацыя прамінання, якому нельга супрацьставіцца і з якім нельга змагацца. Зразуменне яго непазбежнасці ўносіць у сэрца паэта спакой і гармонію, якія ён стараецца адлюстраваць таксама ў настроі сваіх вершаў.

Амаль усе вершы Віктара Шведа — гэта рыфмаваныя апавяданні альбо мікрааповесці аб чымсьці ці аб кімсьці. Рэфлексійнасць у іх не выступае ўвогуле альбо адыгрывае другапланавую ролю. Усе творы паэта — гэта лагічны выклад, у якім ёсць уступ, кульмінацыя і заканчэнне. Усё гэта набліжае творчасць В. Шведа да традыцыйных літаратурных узораў. Паэтычны лаканізм наогул чужы вершам гэтага аўтара. Аднак і ў ягонай творчасці час ад часу мы знаходзім вершы, якія як бы пярэчаць вышэйсказанаму. Характарызуюцца яны кароткасцю, канцэнтрацыяй думкі, квінтэсенцыйнасцю ды галоўнай паэтычнай думкай. Прыкладам гэткага падыходу да паэзіі можа быць верш «Яднанне з прыродай».

У старэнькай калысцы,
З-пад магільных карэнняў
Вырастала калісьці
Не адно пакаленне.

Пакаленні ўміралі:
Хто старым, а хто юным.
З прахаў іх вырасталі
Зноў калыскі і труны.

Прыведзены верш, дзякуючы выключнай шчыльнасці, канцэнтрацыі, а таксама ашчаднасці слова, набывае афарыстычнасць. З прычыны гэтакіх уласцівасцяў верш як бы пярэчыць усёй той мнагаслоўнай апавядальнасці, якая характарызуе большасць вершаў В. Шведа. З другога боку, прыведзены твор сведчыць аб новым дыяпазоне паэтычных магчымасцяў аўтара. Сваімі апавядальнымі вершамі В. Швед як бы даказваў вялікія магчымасці ў галіне мнагаслоўнасці, а прыведзеным творам «Яднанне з прыродай» даказвае нешта зусім адваротнае. Ён прадэманстраваў свае магчымасці ў галіне аб’ёмістасці думкі,

якая не заўсёды мусіць суправаджацца вялікай колькасцю вершаванага тэксту.

Мы ўжо адзначылі арганічную сувязь вершаў В. Шведа з бацькамі, з роднай хатай і роднай вёскай. У творчасці паэта нямала вершаў, прысвечаных усёй Усходняй Беласточчыне, якую ён трактуе як незаменную айчыну беларусаў у Польшчы. У творчасці Шведа мы знаходзім значную колькасць вершаў, прысвечаных усёй Беларусі, якая для паэта таксама дарагая і блізкая, як і родны бацькоўскі кут. У вершы «Беларусь» аўтар выяўляе радасныя пачуцці, выкліканыя падарожжам у Беларусь і ў Мінск.

Ізноў знаёмыя мясціны,
Лясы, пасёлкі, гарады,
О, Беларусь, ты край гасцінны,
Край жыватворчы, малады.

Край з маляўнічаю прыродай,
Сваіх багаццяў уладар,
Край працавітага народа,
Край здзейсненых надзей і мар.

Мінск захапляе стройным станам
І ачароўвае сабой.
Зайздрошчу шчыра я мінчанам
Сталіцы з юнаю красой.

Хоць я цябе ізноў пакінуў,
Хоць я сказаў табе — бывай!
Жывеш ты ў сэрцы, ва ўспамінах,
О, Беларусь, гасцінны край.

Прыведзены верш — гэта тыповая для В. Шведа дэкларацыя любові да вялікае айчыны. Праўда, можна было б у адрас твора скіраваць пэўныя закіды адносна пэўнай у ім ідэалізацыі і павярхоўнасці. Аднак пачуццё любові, якім кіруецца тут паэт і якое вынікае з ягонай шчырай эмацыянальнасці, поўнасцю апраўдвае паэтычную дэкларатыўнасць.

Многія вершы В. Шведа дыяпазонам свае тэматыкі выходзяць не толькі па-за межы роднае вёскі, але таксама па-за межы Беларусі. Жывучы на працягу даўжэйшага часу ў Маскве, Віктар напісаў нізкі вершаў, прысвечаных маскоўскім рэаліям. Некаторыя з гэтых вершаў былі навеяны палітычна-паэтычнай

расійскай модай. Нягледзячы на памылковую інтанацыю сацыялістычных вершаў паэта, трэба сказаць, што яны былі ў ягонай творчасці толькі малаістотным эпізодам, які не змяніў агульнае тэндэнцыі яго паэзіі.

Разам з тым і не ўсё тое, што ў паэзіі В. Шведа навеяна палітычнай модай, трэба трактаваць адмоўна. Як вядома, у савецкай паэзіі амаль што наказам і абавязкам паэтаў было пісаць вершы, якія былі б формай барацьбы за мір. Гэтая мода пранікла таксама ў паэзію В. Шведа. Частка шведавых вершаў на гэтую тэму досыць слабая. Трашчыць яна дэкларатыўнасцю, голай прапагандай і шаблоннасцю. Аднак здараюцца ў яго і міралюбівыя вершы, якія не толькі нельга назваць слабымі, але варта залічыць іх да сур'ёзных паэтычных здабыткаў аўтара. Прыкладам можа быць ягоны кароткі твор пад загалоўкам «Закляты ў камені». Пра чалавека, які згарэў у час выбуху атамнае бомбы ў Хірасіме ад страшэнна высокай тэмпературы і ад якога астаўся толькі след на сходах банка, дзе ён прысеў на момант.

На ўсходах банка Сумісома
Як барэльеф — людскі адбітак,
Тут чалавек прысеў ад стомы
І не падняўся больш з граніту.
Гарачынёю немагчымай
Яго стапіў з гранітам атам.
Як помнік сімвал Хірасімы
Ён дрэмле ў лесвіцы закляты.
Гаворыць быццам ён: «Прахожы,
Глядзі і пільным будзь заўсёды.
Цябе закляць таксама можа
Атам і каменныя ўсходы».

Як бы насуперак сваім схільнасцям да паэтычнае шматслоўнасці, у прыведзеным творы зноў затрыумфаваў лаканізм, які тут амаль мяжуе з афарыстычнасцю. Мы маем тут дачыненне з паэтычнай перамогай аўтара. Многа сэнсу ў малой колькасці словаў — гэтак можна схарактарызаваць прыведзены верш.

Для паўнейшае характарыстыкі творчасці В. Шведа трэба сказаць, што досыць часта ў ёй госцяй з'яўляецца прырода. Наогул ягоныя прыродаапісальныя вершы занадта факталагічныя. Перапоўненыя такімі дэталямі, як жыта, лён і іншымі збожжавымі культурамі. Аднак мы знаходзім у яго творчасці і

высакародныя выключэнні. Прыкладам можа быць верш «На гарызонце лесу готык».

На гарызонце лесу готык.
А я іду папросту ў гушчу,
Пад лесу царскія вароты,
Да хараства імкнуся пушчы.

І заглядаюся ў крыніцы,
У крысталічным ізумрудзе.
Кадзільны арамат жывіцы
Струменіцца бясконца ў грудзі.

Не моўкне гоман шматгалосы,
Спеў жыхароў лясных парогаў,
Што падымаюць пад нябёсы
На крылах радасць і трывогу.

Пазнаць бы дрэва ў пушчы ценю,
Што дасць мне дошкі пасля скону.
Прад ім упаў бы на калені
І цалаваў бы як ікону.

Мо лепш на вечны адпачынак
З карэннем дрэваў мне зрадніцца.
Магутнай прарасці ялінай
І ап'яняць людзей жывіцай.

Гэта добры верш, без непатрэбнай у паэзіі дэталёвасці і фатаграфічнасці. Верш, у якім мы маем дачыненне з рэфлексійнасцю, а без рэфлексійнасці не можа існаваць сапраўдная паэзія. Прыведзены верш мае ў сабе адну каштоўную ўласцівасць. Уласцівасць гэтая выяўляецца ў тым, што паэт арганічна спалучае радасць і смутак. Радасць вынікае ў творы з вечнага хараства лесу, а смутак — з усведамлення прамінання, набліжэння старасці і непазбежнае смерці. Спалучэнне ў адно цэлае супрацьстаўных з'яваў — гэта найвышэйшае паэтычнае ўменне. І якраз з гэтакім уменнем мы сустракаемся ў прыведзеным вершы «На гарызонце лесу готык». Многія з аўтараў хацелі б мець у сваёй паэзіі верш такога характару, як працытаваны верш В. Шведа.

Нельга не згадаць таксама творы паэта, прысвечаныя жанчынам і каханню. Трэба шчыра сказаць, што не ўсе яны належаць

да найвышэйшых паэтычных дасягненняў. Здараюцца ў ягонай творчасці і такія вершы, якія можна было б патрактаваць як вынік пэўнага юнага захаплення ўсім, што ходзіць у спадніцы ці ў сукенцы. Прыкладам гэтакай трактоўкі праблемы можа быць верш «Нашыя прыгажуні».

Валасы ільняныя,
Вочы васільковыя,
Тварыкі румяныя,
Ручанькі здаровыя.
У працы не лянівыя,
У хаце непаседлівы,
Для людзей жычлівыя
І надзвычай ветлівы.
Заўжды служаць радаю,
Шчырай дапамогаю.
Яны ніц не падаюць
Прад бурай-трывогаю,
Пад цяжкою ношаю,
Пад жыцця нагрузкаю.
Прыгажуні нашыя,
Кветкі беларускія.

Больш-менш у такім жа стылі ўтрыманы таксама верш «Галінка бэзу».

На развітанне ты мне адвячоркам
З куста адламала галінку.
Ірдзелі на ёй ліловыя зоркі,
Алмазам блішчэлі расінкі.

Калі на расцвіўшым бэзе ў вагоне
Я росныя кроплі ўбачыў,
Здавалася, ціха ў маіх далонях
Галінка духмяная плача.

Яе прыгажосцю цешыўся мала,
Галінка ўмірала ціхутка.
Яна на вачах самлела, завяла,
Пакінуўшы ў сэрцы шмат смутку.

У гэтых двух вершах В. Швед звяртаўся да ненайлепшых паэтычных узораў. Наіўнае захапленне, хлапечая бескрытыч-

насць, злоўжыванне эпітэтамі акрэсліваюць форму прыведзеных твораў. Зразумела, што нельга тут гаварыць аб творчай перамозе.

Ад моманту напісання цытаваных вершаў прамінула не меней 35 гадоў. Гэта значыць, палова сярэдняга чалавечага жыцця. Даволі доўгі перыяд дзеля таго, каб зрабіць адпаведныя высновы і пашукаць выйсце з паэтычнага тупіка. В. Швед, несумненна, скарыстаў з гэтакай магчымасці і пастараўся адарвацца ад дрэнных паэтычных узораў ды зрабіць вялікі крок у добрым напрамку. Паэтычным адлюстраваннем гэтакага кроку з'яўляецца цыкл вершаў «Трыялеты», змешчаны ў ягоным зборніку «Дзяцінства прыстань».

Што новае ў гэтых вершах у параўнанні з творамі з ранняга перыяду? Перадусім тое, што Швед убачыў у пачуцці кахання не толькі радасць, але і боль, што каханне сталася для яго квінтэсенцыяй сумнага шчасця, што каханне — гэта найчасцей удача і паражэнне, вера і бязвер'е.

В. Швед, аднак, не адступіў ад ранейшага культу духоўных і фізічных каштоўнасцяў жанчыны, але культ гэты апрануў у новую арыгінальную вопратку. Зрэшты, трэба сказаць, што без ухвалення жаночага цела і душы ўвогуле не было б лірыкі кахання. Нельга сабе ўявіць такую лірыку без узнёсласці ды без ідэалізацыі. Трэба, аднак, усяму ведаць меру. Сваімі трыялетамі В. Швед даказаў, што ён такую меру ўсвядоміў, зразумеў ды эфектна выкарыстаў у паэтычнай практыцы.

Характэрная рыса многіх вершаў В. Шведа — дыдактызм і маралізатарства. Абедзве гэтыя ўласцівасці моцна пашкодзілі многім творам паэта. Надакучлівая манера палітычнага ці маральнага ўплыву і ўздзеяння на духоўную сферу чытача не прынеслі карысці шведавым вершам. Часта бывае так, што тое, што з'яўляецца непрымальным у адной катэгорыі творчасці, пажаданае ў другой.

Гэтак яно і сталася ў выпадку Шведавага маралізатарства і дыдактызму. Непрымальнасць як аднаго, так і другога ў паэзіі для дарослых сталася пажаданым госцем у паэзіі для дзяцей.

Пачаткова ў творчасці В. Шведа амаль зусім не было дзіцячых вершаў, аднак пазней паэт усё часцей паглядаў у бок дзяцей, якім пачаў прысвячаць усё больш вершаў. Адной з прычынаў гэтакай эвалюцыі паэта была сітуацыя з навучаннем беларускай мовы ў школах пасляваеннае Польшчы. Амаль заўсёды там не хапала падручнікаў ды літаратурных тэкстаў. В. Швед быў тым паэтам-белавежцам, які праводзіў вельмі многа аўтарскіх сустрэчаў у школах. Гэтыя два факты спрыялі стварэнню ім

вялікіх цыклаў вершаў для дзяцей. Зразумела, што галоўнай прычынай гэтакай паэтычнай эвалюцыі былі ўнутраныя схільнасці аўтара. Дзякуючы гэтым схільнасцям і практычным патрэбам, на працягу некалькіх гадоў В. Швед стаўся вядучым дзіцячым паэтам сярод беларускіх аўтараў у Польшчы. Прызнанне гэтага факту праявілася, між іншым, у тым, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў Мінску выдала зборнік ягоных дзіцячых вершаў «Вясёлка» накладам 50 тысяч паасобнікаў, дзякуючы чаму В. Швед стаў рэкардсменам па колькасці выдадзеных экземпляраў паэтычнае кнігі.

Чым вытлумачыць такі поспех шведавай дзіцячай паэзіі сярод беларускіх дзяцей у Польшчы і ў Беларусі? Мабыць тым, што В. Швед лепш, чым хто-небудзь іншы сярод паэтаў-белавежцаў, адчуў і зразумеў сутнасць разумовых, духоўных і эмацыянальных магчымасцяў ды патрэбаў беларускіх дзяцей у Польшчы. Гаворачы аб прыцягальнай сіле Шведавых вершаў, трэба яшчэ звярнуць увагу на тое, што амаль усе яны маюць у сабе гумарыстычны, камічны альбо сатырычны элементы. Дзякуючы гэтаму вершы падаюць на спрыяльны грунт дзіцячай псіхікі, якая заўсёды адзывалася добразычлівасцю ў адносінах да ўсякага камізму.

Аднак ні ў якім выпадку нельга зводзіць усе дзіцячыя вершы В. Шведа да гумарыстычна-камічнага стылю. У многіх сваіх дзіцячых творах паэт ставіць сур’ёзныя выхаваўча-патрыятычныя мэты, якія павінны спрыяць акрэсленаму фармаванню дзіцячае душы. Прыкладам можа быць верш «Не забывай».

Калі за школьнай партай, сыну,
Сядзеш, каб веды здабываць,
Вучыся, што ў жыцці павінен
Шчыра любіць, не забываць.

Не забывай ты бацькі, маткі,
У сэрцы май заўжды іх лёс.
Не забывай пад вязам хаткі,
Дзе нарадзіўся і дзе рос.

Не забывай свае мясціны,
Дзе твой бацькоўскі родны кут,
Дзе ад вякоў жыве гасцінны
Твой беларускі кроўны люд.

Не забывай ты роднай мовы,
Напеву песні дарагой,
Жывой абраднасці вясковай
І шуму пушчы векавой.

Аб родным, дарагім, мой сыну,
Ў жыцці заўсёды памятай.
Народа, мовы і айчыны
Не забывай, не забывай.

Апрача патрыятычнага ўхілу, сярод дзіцячых вершаў В. Шведа мы сустракаем нямала твораў пазнавальных, такіх, якія знаёмяць дзіця з відамі ці назвамі агародніны, садавіны ды збажыны. Таму вершы В. Шведа становяцца дапаможным матэрыялам у навучанні прыродазнаўству. З гэтакага тыпу творам мы маем дачыненне ў выпадку верша «Гаспадарыла сонца на градках».

Колькі дзіваў на градках ля хаты
Нінка ўбачыла летняй парой!
Ловіць сонца сланечнік цыбаты,
Залатою трасе барадой.

Як вужака, па тычцы да сонца
Струкавы ўзбіраецца боб.
І гарбуз прыпякае бясконца
Аграмадны, бліскучы свой лоб.

Ад спякоты, як крот на загоне,
Закапаўся ў зямлю бурачок.
Пад зялёным схаваў парасонам
Прыгажосць чырванеючых шчок.

На адной ножцы дрэмле капуста,
Вяла ўніз апусціўшы лісты.
Агурок выграваецца тлусты,
У кароне стаіць мак густы.

Блузак шмат апранула цыбулька,
Хоць і сонца праменьчык прыпёк.
Грэе плечы ў цяпле, як бабулька,
Побач дзедка сівенькі — часнок.

Шмат на градках і дзіваў і чараў
Заўважыла Нінка кругом.

Дбала сонейка тут гаспадарыць,
Напаўняе прыроду жыццём.

Апрача гэтакіх твораў амаль ва ўсіх выдадзеных Шведам кніжках мы знаходзім вялікую колькасць гумарыстычных вершаў, у якіх аўтар высмейвае розныя адмоўныя рысы дзіцячых характараў — ляноту, зазнайства, ашуканства, эгаізм, абжорства, хітрасць, заўзятасць ды зайздрасць.

Шведавы дзіцячыя вершы добра ўрастаюць у рэаліі дзіцячага свету, у дзіцячыя ўяўленні ды ў патрэбы, звязаныя з выхаваннем дзяцей. Падчас аўтарскіх сустрэчаў не толькі дзеці, але і дарослыя з прыемнасцю слухаюць, як В. Швед чытае гэтыя вершы. З рэакцыі дарослых адназначна вынікае, што ўсе тыя схільнасці, недахопы і заганы, пра якія піша В. Швед, выступаюць у характарах і паводзінах іх уласных дзяцей. І менавіта гэты факт сведчыць найбольш пераканаўча аб тым, што дзіцячыя вершы Шведа — гэта не паэтычная містыфікацыя, пазбаўленая сувязі з рэальнасцю і рэчаіснасцю, а толькі структуры, у змест якіх глыбока пранікпі шматлікія аспекты жыццёвай праўды.

Нават у тых вершах, у якіх Швед паказвае найбольш сур'ёзныя заганы дзіцячых характараў і паводзін, няма вострага аўтарскага асуджэння ці сарказму. Паэт зводзіць усё да лагоднага смеху, да камізму, які нікога не абражае і не крыўдзіць.

Спытаў раз Ваня: Дзеду мой,
Чаму ты ходзіш з барадой?
Сказаў на гэта дзед Андрэй:
Мне з барадою шмат цяплей.
Аднойчы зімняю парой
Бег Ваня разам з дзетварой.
Яго за шчокі і за нос
Хапаў сівы жывы мароз.
Падумаў Ваня: як шкада,
Што не расце шчэ барада.
Не паспеў на ўроку Ваня
Дакончыць хатняга задання,
Настаўнік кажа: — Ваня мілы,
Відаць, замала меў ты сілы.
Ваню падказвае Людміла:
Скажы: чарніла не хапіла.

З хаты выбегла Ганнуся,
Бачыць — сеў на клуню бусел.

Кажа: хіба зноў цыбаты
Хоча мне падкінуць брата.

Помніў гэтую хвіліну:
Абламаў калісь галіну
І з галіны ў збанок
Крышталічны сок пацёк.
Я чакаў цярпліва, потым
З незвычайнаю ахвотай
Піў салодкі, як мядок,
Смакавіты надта сок.
Пад бярозаю праходзіў
Згорблены стары Мяфодзій.
На мяне падняўшы зрок
Адазваўся так дзядок:
— Ведай, дарагі сынок,
Не бярозавы п’еш сок.
У збанок сабраў ты слёзы
Акалечанай бярозы.

Заканчваючы разважанні пра жыццё і творчасць В. Шведа, мы мусім акрэсліць ягонае месца ў беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Ён быў, несумненна, адным з галоўных пачынальнікаў гэтага руху і галоўным прыхільнікам тэзы аб цеснай сувязі літаратурнай творчасці з надзённымі патрэбамі грамадскага і нацыянальнага жыцця беларусаў у Польшчы. Незалежна ад таго, да якога перыяду творчасці паэта мы звернемся, мы нязменна знойдзем у ім вершы, насычаныя глыбокім замілаваннем аўтара да Усходняе Беласточчыны, да беларускай нацыянальнасці, да роднае вёскі Мора, да сваіх бацькоў, да моладзі і да дзяцей.

Усе вершы В. Шведа адзначаюцца традыцыйнай структурай. У іх дамінуе пабудова тыпу АБАБ. Ён звяртаецца да простых зразумелых метафараў. В. Швед як паэт ніколі не гнаўся за модай і ўвогуле стаяў і стаіць на грунце традыцыйнай беларускай паэтыкі. Паводле В. Шведа, традыцыйная паэтыка не вычарпала свае магчымасці і сёння, як і ў часы Янкі Купалы і Якуба Коласа, можа выконваць канструктыўную ролю ў развіцці сучаснай літаратуры. Мабыць, другой прыгожай прывязанасцю В. Шведа да традыцыйнае паэтыкі з’яўляецца тое, што вершы, утрыманыя ў традыцыйнай манеры, найбольш прыхільна ўспрымаюцца як дзецьмі, гэтак і дарослым беларускім насельніцтвам у Польшчы.

Бадай што найбольш характэрнай рысай усяе творчасці В. Шведа з’яўляецца іх грамадзянскасць, і ў гэтым аспекце В. Швед свядома ідзе па тым шляху, па якім ішлі ў расійскай літаратуры М. Някрасаў і А. Кальцоў, а ў польскай — У. Сыракомля і М. Канапніцкая. В. Швед лічыць, што грамадзянскія пачуцці ў паэзіі не вычарпалі свае магчымасці і што яны павінны выкарыстоўвацца на сённяшнім этапе развіцця беларускай літаратуры.

Гаворачы пра найбольш характэрныя рысы творчасці В. Шведа, трэба звярнуць таксама ўвагу на глыбокую эмацыянальнасць і пачуццёвасць ягонае творчасці. Паэт не пайшоў па моднай для многіх мадэрнісцкіх паэтаў лініі сораму пачуццяў. Ён свядома эмацыянальны і пачуццёвы. Паэт лічыць, што пачуццёвасць уквечвае, а перадусім, учалавечвае верш.

Развітваючыся з творчасцю В. Шведа, мы прагнем падкрэсліць, што з’яўленне ягонай паэзіі ў беларускім літаратурным руху ўзбагаціла і ўпрыгожыла гэты рух.

## ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

### ВЯСКОВЫ ЛЕТАПІСЕЦ

Нарадзіўся Васіль Баршчэўскі 8 лютага 1931 года на ўскраіне Белавежскае пушчы над ракою Нарваю ў вёсцы Бандары Ваўкавыскага павета. Паходзіў ён з тыповай беларускай сялянскай сям’і. Ягоны бацька — Андрэй Баршчэўскі — цікавіўся палітыкай, чытаў газеты і кнігі і апрача апрацоўкі зямлі займаўся вырабам рашотаў, якімі славіліся Бандары. У даваеннай Польшчы Васіль скончыў 1-ы клас пачатковай польскай школы, у якой увогуле не выкладалася беларуская мова. Мова гэтая паявілася ў мясцовай школе ў 1939–1941 гадах, калі Беласточчына знаходзілася ў межах Савецкай Беларусі. У час нямецкай акупацыі мясцовая школа не дзейнічала, і Васіль разам з іншымі бандарскімі дзецьмі заставаўся па-за школьнай адукацыяй. Аднак ён крыху вучыўся пры дапамозе братоў Аляксандра і Валодзі Казберукоў, якія ў міжваенны перыяд адукаваліся ў гімназіі ў Беластоку, а падчас нямецкай акупацыі займаліся гаспадаркай. Браты Казберукі мелі даволі багатую бібліятэку, у

якой дапытлівы Васіль знаходзіў многа цікавых кніг. Мабыць, на гэты перыяд прыпадаюць пачаткі крышталізацыі яго нацыянальных пачуццяў пад уплывам братоў Казберукоў, якія моцна стаялі на грунце беларускага патрыятызму.

Пасля вызвалення ў ліпені 1944 года Васіль пайшоў у новаадкрытую пачатковую школу, у якой побач з польскай выкладалася таксама беларуская мова. Пасля заканчэння пачатковай школы ён накіраваўся ў далёкі Вроцлаў, дзе вучыўся ў прафесійнай тэхнічнай школе. Закончыўшы яе, вярнуўся ў Беласток і пачаў працаваць майстрам на мясцовай фабрыцы. Настойліва займаўся ў гэты час самаадукацыяй і прымаў актыўны ўдзел у выданні фабрычнай газеты. Ужо ў гэты час, а быў гэта пачатак 50-х гадоў, праявіліся ў яго журналісцкія здольнасці. У 1952 годзе публіцыстычныя дасягненні адкрылі яму дарогу ў рэдакцыю «Беластоцкай газеты», у якой ён апублікаваў шматлікія артыкулы ды інфармацыі, прысвечаныя галоўным чынам тагачаснаму рабочаму і сялянскаму жыццю.

На пачатку 1956 года, на хвалі вядомых палітычных пераменаў, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назовам дэмакратызацыі грамадскага жыцця, узнікла першая ў пасляваеннай Польшчы беларуская арганізацыя Беларускае Грамадска-культурнае Таварыства (БГКТ) і яе орган — тыднёвік «Ніва». Васіль Баршчэўскі — па сваіх перакананнях свядомы беларус — не вагаўся ні хвіліны і адразу далучыўся да беларускага руху. Ён пакінуў польскамоўную «Беластоцкую газету» і пачаў працаваць у рэдакцыі тыднёвіка «Ніва». На працягу кароткага часу стаўся адным з найвыдатнейшых беларускіх публіцыстаў у Польшчы. Ягоныя артыкулы былі галоўным чынам прысвечаны беларускай вясковай рэчаіснасці Усходняй Беласточчыны. Васіль Баршчэўскі адным з першых заўважыў балючую з'яву — тое, што маладыя беларусы пачалі масава пакідаць вёскі, дэнацыяналізавацца і праяўляць абыякавыя альбо і пагардлівыя адносіны да сваіх нацыянальных каранёў. І хоць у гэты час, з-за цэнзурных прычынаў, нельга было гаварыць, а тым болей пісаць пра гэтую балючую праблему, Васіль Баршчэўскі — як публіцыст — часта знаходзіў спосабы дзеля таго, каб падобныя паводзіны беларускіх рэнегатаў выстаўляць на публічнае асуджэнне.

У «Ніве» Васіль Баршчэўскі працаваў на працягу 8 гадоў і, несумненна, прычыніўся да росту яе публіцыстычнага і журналісцкага ўзроўню.

# З ЛЮБОЎЮ ДА НАРОДНАГА

Адным з першых празаічных твораў Васіля Баршчэўскага была ягоная навела «Арэлі» ў першым нумары альманаха «Белавежа», выдадзенага Галоўным праўленнем (ГП) БГКТ у 1965 годзе. Тэрмін «арэлі» ў мясцовай гаворцы абазначае плытагонаў — прафесію, шырока распаўсюджаную над ракой Нарвай у апошнія гады царызму і ў міжваеннай Польшчы. Сотні і нават тысячы беларускіх сялян з раёна Белавежскае пушчы і з басейна ракі Нараў папаўнялі свой мізэрны бюджэт, высякаючы зімою Белавежскую пушчу і меншыя мясцовыя лясныя масівы, вывозілі дрэва да ракі, дзе вясною вязалі бярвёны ў плыты і гналі ў Штраблю альбо ў Тыкоцін, адкуль белавежскія сосны плылі далей па Бугу і Вісле ў далёкую Варшаву, Торунь і нават у Гданьск. Мясцовыя арэлі, аднак, гналі плыты толькі ў Штраблю альбо Тыкоцін, адлеглыя ад Белавежы каля 100 кіламетраў.

Арэлі мелі свайго роду базу ў вёсцы Бандары, дзе знаходзілася карчма, у якой яны пакідалі пры чарках і куфлях свае цяжка заробленыя грошы. З дзейнасцю і жыццём арэляў былі звязаны шматлікія быліцы і небыліцы. Да аднае з іх звярнуўся Васіль Баршчэўскі, надаючы ёй форму мастацкае навелы. Дарэчы, здарэнне, якое лягло ў аснову твора, не было выдумкай, а сапраўдным гістарычным фактам ў апошнія гады існавання Расійскай імперыі. Жыхары навакольных вёсак Рыбакі, Боўтрыкі, Бандары, Лука, Гарбары і Рудня ахвотна апавядалі пра Яся Дужага, які паходзіў з вёскі Рыбакі і адзначаўся выключнай фізічнай сілай. Менавіта гэты момант і выкарыстаў Васіль Баршчэўскі ў сваім творы. Скарыстаў мясцовую быль, якая сталася свайго роду легендай, што паланіла сэрцы моладзі. Моладзь, як вядома, заўсёды хоча быць моцнай, ганаровай і справядлівай, і якраз гэтакія рысы характарызуюць Яся Дужага — галоўнага героя навелы. Малады пісьменнік звярнуўся да неіснуючай ужо сёння традыцыі дужацца, паказваць сваю сілу і сваю адвагу. На жаль, не заўсёды гэта мела мірную форму і часта пераходзіла ў жорсткія крывавыя бойкі жыхароў аднае вёскі з жыхарамі другой альбо нават жыхароў аднаго канца мясцовасці з жыхарамі другога канца гэтай жа мясцовасці. Здараліся выпадкі трывалага калецтва, а нават і забойстваў у час гэтакага бяздумнага спаборніцтва.

У цэнтры апавядання «Арэлі» — сапраўдная постаць жыхара вёскі Рыбакі Івана Баршчэўскага, званага, як ужо было сказана, Ясем Дужым. Чалавек гэты памёр нечакана ў міжваенны

перыяд, падарваўшыся ў час сцягвання з падводнага пня плыта, які складаўся з 15 цяжэзных бярвенняў.

Васіль Баршчэўскі, стараючыся надаць свайму твору характар дынамічнае навелы, паказаў толькі адзін момант з жыцця героя, і трэба сказаць, што зрабіў гэта праўдзіва і па-высокамастацку.

Аўтар заканчвае свой твор настальгічным разважаннем пра спецыфіку даўно прамінулага жыцця, якое засталося толькі ва ўспамінах найстарэйшых жыхароў наднарвенскіх вёсак.

«Шмат гадоў мінула з таго часу. Ад Носкавай карчмы і следу не засталося. Кінулі арэльку сяляне, ды і рака цяпер ужо не такая. Рэчышча яе паглыбілася, а вады ў ім зусім мала. Цяпер і плыты па ёй не змаглі б пайсці, аднак памяць аб мінулым жыве ў нашых вёсках.

У летні спякотны дзень старыя дзядулі, былыя арэльшчыкі, збяруцца на беразе ракі ля пераезду, закураць люлькі і, гледзячы ў далечыню ракі, успамінаюць былое. Асабліва любяць яны ўспамінаць аб дужым Ясю, аб яго незвычайнай сіле. Ад іх і пачуў я гэта».

## ВЯСКОВА-ГАРАДСКІЯ КАНФЛІКТЫ

У Васіля Баршчэўскага ёсць два апавяданні «Вясельная гуска» і «Варвары», пра адну і тую ж праблему. Яны ілюструюць адносіны паміж жыхарамі сяла і горада. Суадносіны гэтыя аўтар паказвае ў канфліктным аспекце. Аднак трактоўка гэтага канфліктнага аспекту ў абодвух творах адметная. Змест і фармальныя прыёмы апавядання «Вясельная гуска» ў значнай ступені падобныя да вядомай навелы Змітрака Бядулі «На каляды к сыну». І герой Змітрака Бядулі, і герой Васіля Баршчэўскага, трапіўшы ў горад, робяць усё, каб зацерці сляды свайго вясковага паходжання і схаваць як найглыбей усякія сувязі са сваімі сялянскімі бацькамі.

Змест апавядання «Вясельная гуска» вельмі просты. Вясковая жанчына Агата выпадкова даведваецца, што яе сын Васька, які ўжо даўно пакінуў вёску, жэніцца ў горадзе. Агата не можа ўявіць, што вяселле можа адбыцца без яе прысутнасці і яе гасцінца. Пячэ яна самую тлустую гуску і вязе на сынава вяселле. Сын бярэ ад маці гуску, аднак не толькі не пускае яе да вясельнікаў, але, уручыўшы ёй талерку з піражным, выпіхвае ў гарод.

У творы «Вясельная гуска» псіхалагічны аналіз вясковай жанчыны Агаты праведзены досыць пераканаўча, глыбока і цікава. Васіль Баршчэўскі выразна дэманструе непрыхільныя адносіны да беларускага рэнегацтва, становячыся на абарону простых людзей.

«Чаму ж ён не скажа, што гэта я, маці, — думала Агата. Яна не вытрымала ды, адчыніўшы дзверы ў пакой, адклікнулася:

— Гэта ж я, сынку, адмыслова на твае вяселле падрыхтавала гуску, ці ж ты аб гэтым не ведаеш?

Усе прыціхлі. Позіркі іх накіраваліся на Агату. Сын, пачырванеўшы, сарамліва апусціў вочы.

— Што гэта, Вацусь? — спытала нейкая маладзенькая, гарадскога выгляду прыгажуня, што сядзела побач з Агацiным сынам.

«Мабыць, нявестка!» — падумала Агата.

Збялеўшы ад злосці, сын устаў з-за стала і, нічога не гаворачы, выйшаў у кухню.

— Ведаеш што, — звярнуўся ён дрыготкім голасам да маці, — лепш ты вазьмі з талеркі вось гэтых пернікаў і ідзі сабе ў гародчык, бо ў кухні горача, ды і госці шумяць — не дадуць табе спакою.

— Як жа так, — паспрабавала запярэчыць маці, — я ж хачу…

— Ну, добра, добра, — перабіў яе сын, утыкаючы ў рукі талерку з пернікамі і папіхаючы да дзвярэй, — ідзі, ідзі, там адпачнеш.

За знямелай ад нечаканасці Агатай зачыніліся дзверы.

Яна стаяла пад імі з выцягнутай рукой, у якой была талерка з салодкімі пернікамі. «І чаго ж ён так… на мяне?» — раздумвала Агата. Моцна прытулілася яна да халоднай сцяны. Па старэчых зморшчаных шчоках пацяклі пякучыя слёзы».

## З СІМПАТЫЯЙ ДА ГОРАДА

Галоўная ж гераіня апавядання «Варвары» — вясковая дзяўчына Валя — вучаніца гарадскога ліцэя, якая адчувае моцную эмацыянальную сувязь з беларускай вёскай. Яе запаветная мара — закончыўшы вучобу, працаваць сярод вясковых людзей. Таму, калі ёсць толькі вольны час, Валя абавязкова прыязджае ў вёску.

Якраз гэтакі прыезд у родную мясціну і звязаныя з ім складанасці ляглі ў аснову апавядання. Валя трапляе на вясковую забаву, дзе знаходзіцца яе каханы хлопец Сярожа. Аднак заба-

вай кіруе алкаголь. Мясцовы самадур і заправіла, п’яны Коля, выцягвае дзяўчыну на сярэдзіну хаты і, бязлітасна тузаючы, абзывае яе гарадскою выскачкаю. Здарэнне канчаецца тым, што п’яніца выганяе дзяўчыну з забавы, а большасць яе ўдзельнікаў выразна становіцца на бок п’янага эгаістычнага баламута, а не высакароднай дзяўчыны.

Абвінаваўчае вастрыё твора скіраванае тут не толькі супраць вясковага п’яніцы, але і супраць тае шматлікае грамады, якая з пэўнай дозай ухвалы адносіцца да яго дзікіх паводзінаў. Якраз з гэтае прычыны апавяданне Васіля Баршчэўскага называецца не «Варвар», а «Варвары», бо датычыць не аднае асобы, але многіх вясковых жыхароў, якія зжыліся з праявамі дзікасці і трактуюць яе як з’яву, што заслугоўвае ўхвалы.

Тут няма аднабаковай трактоўкі, якую часам дапускалі белавежцы: вясковы — значыць альтруістычны і высакародны, гарадскі — значыць эгаістычны і подлы. Васіль Баршчэўскі ўносіць новы подых.

Ён даказвае, што можа быць сапраўды так, але можа быць і наадварот. Ягонае апавяданне «Вясельная гуска» ілюструе першы падыход, а апавяданне «Варвары» — другі. Агульная выснова гэтых двух твораў такая: зло ёсць усюды — і ў горадзе, і ў вёсцы; і дабро таксама не мае толькі аднаго месца аседласці.

У «Варварах» Васіль Баршчэўскі выступіў як рашучы праціўнік гэтак званых ідыятызмаў вясковага жыцця, у якім побач з пазітыўнымі з’явамі і ўласцівасцямі выступаюць моцна адмоўныя факты. Аўтар не ідэалізуе чаго-колечы і каго-колечы. Пісьменнік, несумненна, кіраваўся перакананнем, што зло толькі заўважанае не гіне, аднак зло схарактарызаванае, паказанае і высмеянае становіцца з’явай, ад якой пачынаюць адварочвацца людзі. З гэтакага падыходу да рэчаіснасці вынікае досыць відавочная дыдактыка і нават маралізатарства. Пісьменнік свядома не хацеў быць абыякавым назіральнікам, а толькі гарачым удзельнікам таго, што складае беларускі пасляваенны побыт, і яму заўсёды хапала волі ды рашучасці, каб узняць руку супраць зла і адназначна ўхваліць праяву дабра.

«Аркестр урэзаў марша.

— Вон адсюль, гадаўка! — прахрыпеў заправіла, кідаючы злосны позірк на Валю.

Пачырванеўшы, збянтэжаная дзяўчына стаяла ў нерашучасці.

— Чаго яшчэ чакаеш?! — шматзначна распяразваючы шырокі пояс, ускіпеў Коля.

Валя, закрыўшы рукамі твар, памалу ступаючы, быццам не сваімі, адзервянелымі нагамі, накіравалася да дзвярэй. Натоўп расступіўся, утвараючы праход. Нейкі «жартаўнік» падставіў ёй нагу, і Валя спатыкнулася, ледзь не ўпала. Нехта прарэзліва свіснуў. Нехта захіхікаў, і раптам шматгалосы рогат заглушыў гукі маршу.

— Так ёй і трэба, — пачуўся шапялявы голас нейкай бабулькі. — Бач ты, бессаромніца, задавацца надумала, танцаваць з хлопцам не хоча, — барматала яна.

За Валяй выйшаў збялелы Сярожа і дзве сяброўкі».

## ПРЫНЦЫП ДВУХ КОЛЕРАЎ

Творчыя дасягненні Васіля Баршчэўскага складаюць, апрача ўжо згаданых твораў, два ягоныя апавяданні: «Мары» і «Сучаснае сярэдневякоўе». Іх трэба залічыць да найбольш публіцыстычных твораў аўтара. Публіцыстычнасць выяўляецца ў тым, што пісьменнік не хавае адмоўных адносінаў да сваіх герояў. Адносіны гэтыя адназначныя з вострым асуджэннем паводзінаў герояў, якія не адпавядаюць паводзінам самога аўтара. І ў «Марах» і ў «Сучасным сярэдневякоўі» мы маем дачыненне са з'явамі, якія досыць часта апісваюцца ў газетах. І гэта дадатковы чыннік, што звязвае іх у значнай ступені з публіцыстыкай.

## СПРОБА СТВАРЭННЯ АПОВЕСЦІ

Апрача апавяданняў Васіль Баршчэўскі напісаў і апублікаваў на старонках «Нівы» аповесць «Мішкава вяселле». Гэта была першая спроба стварэння вялікай празаічнай формы з боку беларускага пісьменніка ў пасляваеннай Польшчы. Зразумела, што недахоп вопыту не мог не адбіцца адмоўна на спробе Васіля Баршчэўскага. І ўсё ж такі з-пад пяра маладога празаіка выйшаў твор даволі займальны і цікавы.

У аснову аповесці «Мішкава вяселле» лягло сапраўднае здарэнне, звязанае з жаніцьбай Мішкі Баршчэўскага з вёскі Багнюкі, якія знаходзяцца за кіламетр ад Бандароў. Зразумела, што аўтэнтычных фактаў было замала для аповесці, і таму аўтар унёс у фабулу твора нямала прыдуманых элементаў. Характэрнай рысай «Мішкавага вяселля» з'яўляецца арганічная сувязь

твора з беларускай народнай абраднасцю. Васіль Баршчэўскі ўнёс у аповесць усё тое, што ведаў пра традыцыйнае беларускае народнае вяселле. Аповесць «Мішкава вяселле» на фоне беларускага руху ў Польшчы была ў канцы 50-х гадоў з'явай свежай і арыгінальнай. І таму чытачы ўспрынялі яе прыхільна і з цікавасцю.

Падсумоўваючы характарыстыку творчасці Васіля Баршчэўскага, хочацца звярнуць увагу на тое, што гэты празаік уважліва прыглядаўся да грамадска-палітычнай і сацыяльнай беларускай рэчаіснасці ды чэрпаў з яе натхненне і ідэі да сваіх нешматлікіх твораў. Васіль Баршчэўскі з асаблівай увагай ставіўся да спецыфікі жыцця вясковых беларусаў і ахвотна ўводзіў іх у свае апавяданні. Пісьменнік адназначна атаясамліваўся з жыхарамі беларускага сяла. З гэтага, аднак, не вынікае, што ён быў схільны да ідэалізацыі вясковага беларуса. Ён бачыў у ягоных паводзінах не толькі цноты, але таксама хібы і заганы, якія выстаўляў на публічны смех.

Большасць твораў Васіля Баршчэўскага адзначаецца прадуманай фабулярнасцю і жывым дынамічным дзеяннем. Дзякуючы гэтаму апавяданні чытаюцца лёгка і надоўга западаюць у памяць. Гэта адносіцца таксама да аповесці «Мішкава вяселле», у якой выступаюць вельмі жывыя дыялогі і выразна абрысаваныя чалавечыя характары.

Празаік заўсёды дбаў пра сацыяльна-грамадскі фон, што адыгрываў у яго ролю свайго роду сцэны, форуму ці тэатра, на якіх дзейнічалі індывідуальныя героі. Тыповай рысай ягоных твораў з'яўляецца тое, што герояў характарызуюць галоўным чынам іх учынкі, а не іх псіхалагічныя перажыванні.

Галоўны недахоп прозы Васіля Баршчэўскага выяўляецца ў яе блізкасці да газетнай публіцыстыкі. Шматгадовыя заняткі журналістыкай не маглі не адбіцца на характары апавяданняў, у якіх нямала газетных прыёмаў і вывадаў.

Хочацца, аднак, сказаць, што апавяданні і аповесць Васіля Баршчэўскага, які ў 2000 годзе назаўсёды пайшоў з жыцця, сталіся істотным укладам у беларускі літаратурны рух у Польшчы.

Празаік на працягу ўсяго свайго творчага шляху стаяў на грунце паслядоўнага рэалізму, яго не цікавілі фармалістычныя эксперыменты. Аўтар лічыў, што традыцыйны рэалізм не вычарпаў усіх сваіх магчымасцяў і што ў нашую эпоху ён можа прыносіць добрыя мастацкія вынікі.

# МІКОЛА ГАЙДУК

## ПАЭТ ДРУГОГА ШЭРАГУ

У беларускім літаратурным руху ў Польшчы апрача аўтараў, якія ствараюць першы шэраг, выступаюць творцы другой лініі, што не займаюць прыярытэтных пазіцыяў і ўсё ж такі ўносяць у беларускую паэтычную плынь свой сціплы ўклад. Да такіх аўтараў належаў, несумненна, Мікола Гайдук.

Нарадзіўся ён 29 траўня 1933 года ў вёсцы Кабылянка Міхалоўскае гміны ў Беластоцкім ваяводстве. Пасля заканчэння пачатковае школы вучыўся ў Міхалоўскім агульнаадукацыйным ліцэі, закончыўшы які, накіраваўся вывучаць рускую філалогію ў Растове і Ленінградзе. Сваю вышэйшую адукацыю ён закончыў у Беларускім дзяржаўным універсітэце ў 1959 годзе як спецыяліст у галіне русістыкі і беларусістыкі.

Вярнуўўшыся ў Польшчу, пачаў працаваць выкладчыкам рускай, беларускай і лацінскай моваў у Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску-Падляшскім. У 1965–1971 гадах ён быў дырэктарам гэтага ліцэя. У 1971 годзе пакінуў Бельск-Падляшскі, пераехаў у Беласток і на працягу многіх гадоў працаваў журналістам у «Ніве». Яго жыццёвы шлях завяршыўся ў 1998 годзе.

М. Гайдук вядомы як аўтар некалькіх падручнікаў, чытанак для дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах Усходняе Беласточчыны. На працягу многіх гадоў М. Гайдук пры дапамозе вучняў і студэнтаў, а таксама асабіста збіраў беларускія песні і казкі ва Усходняй Беласточчыне. Песні гэтыя ён друкаваў на старонках «Нівы», а казкі і легенды выдаў у зборніку пад назваю «Аб чым шуміць Белавежская пушча». Здабыў папулярнасць як аўтар шматлікіх сацыяльных і сацыялагічных публікацыяў, прысвечаных жыццю беларускіх сялян у Польшчы. Што да арыгінальнай творчасці, дык М. Гайдук займаўся перадусім малымі празаічнымі формамі з гістарычнай тэматыкай. Яго апавяданні былі выдадзены ў Мінску ў вялікім томе «Паратунак».

Пачынаючы з 60-х гадоў, М. Гайдук час ад часу публікаваў таксама вершы, якія ўрэшце склалі сціплы зборнічак «Ціш», выдадзены ў Беластоку ў 1988 годзе. У кніжцы гэтай было змешчана 13 арыгінальных вершаў аўтара і 6 перакладаў польскіх

паэтаў. Гэты тоненькі зборнічак мае крыху прэтэнцыёзны падзел на раздзелы «Росны россып», «Сны» і «З блізкага сэрцу».

Ва ўступе да гэтае кніжачкі ананімны крытык дае даволі пафасную характарыстыку змешчаных у зборніку вершаў. Ён піша, між іншым, наступнае: «Мікола Гайдук як беларускамоўны паэт выдзяляецца мастацкай культурай. У лапідарнасці літаратурных асацыяцыяў, у спосабе літаратурнай вобразнасці выступаюць у іх народныя і мастацкія інспірацыі, паэтычныя пераўтварэнні беларускага фальклору. Свабодна валодае таксама аўтар лірызмам дзіцячага ўспрыняцця свету. Вельмі цікавая ў яго творчасці гістарычная рэфлексійнасць. Мікалай Гайдук па-мастацку ўводзіць Беластоцкі рэгіён у літаратурны краявід. Будучы знаўцам мінулага Беласточчыны, прыгадвае ў паэтычных карцінах нашы рэгіянальныя падзеі, надаючы ім шырэйшы еўрапейскі бляск». Такім вывадам заканчвае аўтар сваю пахвальную рэцэнзію. Прызнаючы поўнае права на ўласны погляд і ўласную інтэрпрэтацыю любога крытыка, мы не можам паўстрымацца ад пэўнае дозы крытыцызму ў адрас вышэй прыведзенай ацэнкі. Дзеля элементарнай аб’ектыўнасці трэба падкрэсліць, што пафасныя ацэнкі 13 апублікаваных вершаў могуць прынесці паэту не карысць, а толькі шкоду. У апублікаваных вершах, на жаль, мы не знаходзім ані падкрэсленага крытыкам гістарызму, ані рэгіяналізму, ані тым болей еўрапейскага бляску. Што да нас, то мы лічым, што паэтычныя дасягненні М. Гайдука значна ўступаюць ягонай прозе. Нягледзячы на гэта, мы лічым неабходным ахарактарызаваць яго вершы без перадузятасці і без непрыхільнай тэндэнцыйнасці. Вершы М. Гайдука адлюстроўваюць ягоныя паэтычныя здольнасці і магчымасці. Наш абавязак у тым, каб сказаць пра іх аб’ектыўнае слова.

## З ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАГА

Паэтычны зборнік вершаў М. Гайдука «Ціш» пачынаецца лірычнай рыфмаванай дэкларацыяй, у якой аўтар выяўляе шчырае захапленне хараством роднага краю і падкрэслівае сваю адданасць яму. У першым вершы зборніка, без назвы, усе радкі падпарадкаваны адной і той самай рыфме. Твор выклікае ўражанне шчырай аўтарскай дэкларацыі і гарачай яго прывязанасці да малой айчыны. У нейкай ступені гэтая лірычная дэкларацыя нагадвае апастрофу да «Сымона-музыкі» Якуба Коласа. Вядома, кожны паэт, свядома ці несвядома, можа

выкарыстоўваць тое, што было ім прачытана і глыбока запала ў ягоную свядомасць ці падсвядомасць. Характарызаваны верш з'яўляецца непасрэдным зваротам да чытача і формай спробы спадабацца яму.

Мой край, дзе срэбра рос
страсае звон сталёвых кос,
дзе грае май шумлівых лоз
і млее гай дзяўчат-бяроз.
Я ў краі тым радзіўся, ўзрос
і згэтуль сны істужкай шос
ў нязнаны свет з сабой панёс.
Сабраў я шум межаў-палос
і зорны сып, што жнівень строс,
задумаў звіць у верша скрос
і на Твой суд, Чытач, прынёс.

Гэты верш належыць, несумненна, да патрыятычнай лірыкі. Родны край выразна захапляе Гайдука, і паэт прагне, каб гэтае захапленне перадалося таксама ўсім тым, хто сутыкнецца з паэтавай айчынай. Замілаванне да айчыннай зямлі выступае ў такіх вершах аўтара, як «Вешні дождж», «Белавежа», «Светлякі», «Калісьцы над Нарвай», «Прыход», «Вяргіня», «Асколак». Усе названыя тут вершы складаюць патрыятычны струмень у Гайдуковай паэзіі. Аб'ядноўвае іх адзін матыў — матыў прыродаапісальны. Для М. Гайдука-пейзажыста ў прыродзе няма нічога брыдкага, усё ў ёй прыгожае, захапляючае і прывабнае. Сказанае адносіцца асабліва да Белавежы, якую аўтар выразна абагаўляе. Культавыя адносіны да яе выявіліся найпаўней бадай што ў найцікавейшым ягоным творы «Белавежа».

Вандроўча!
Тут свой ход запыні,
цяжар з плячэй скінь —
адпачынак у цяні
вабіць шэптам дубоў,
спевам ціхім ялін.
Пыл чужы са ступні,
што з далёкіх дарог
прынёс ты, страхні —
заімшэлы мурог.
Тут ад стомы, знямог
пах дубровы асвежыць,
а пасцель — сена стог,

калыханкаю — шум,
гаючы шум Белавежы.

Для аўтара Белавежа — гэта святыня, якая ачышчае чалавечае цела і, перадусім, душу. І ён моліцца Белавежы сваім сціплым па размерах, але цікавым па мастацкіх сродках вершам.

## ПРЫВЯЗАНАСЦЬ ДА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У сямі прыродаапісальных вершах паэта мы знаходзім усяго некалькі пейзажных матываў, і яны заслугоўваюць глыбейшай увагі. Адзін з гэтых матываў — Белавежская пушча, другі — рака Нарва, трэці — больш агульны — адносіцца да ўсяе Беластоцкае зямлі. У нядрэнным вершы «Заўсёды мая» аўтар дэкларуе пастаяннасць і любоў да Беластоцкага краю, які, як гэта мы ўжо не раз бачылі, для ўсіх сяброў літаратурнага аб'яднання «Белавежа» з'яўляецца малой айчынай. Твор «Заўсёды мая» не выдзяляецца ані выключнай тэматыкай, ані асаблівай мастацкай формай. Паэт у гэтым вершы пералічвае гэтакія пейзажныя рэаліі, як чорныя разоры, гусіны Млечны Шлях, задуменныя лясы, загоны даспелай грэчкі, павуцінне на пожнях. Усе яны складаюць атмасферу сумнага асенняга пейзажу. Аўтар выразна выкарыстоўвае неба і зямлю для стварэння настальгічнага настрою, як бы не верачы ў вынік сваіх намаганняў, у апошніх чатырох радках верша пакідае прыродаапісальныя рэаліі і фармулюе лірычна-патрыятычную дэкларацыю, у якой гаворыць аб сваёй любові і прывязанасці да роднай Беласточчыны.

Загоны чорнымі разорамі
Жалобу сцелюць на палях,
І кліча ў вырай,
кліча зорамі,
Гусям міргае Млечны Шлях.

Задуменныя, стаяць без шолаху
У сіняй імгле лясы,
Гараць на гонях,
гараць ад золаку
Усмаглай грэчкі паясы.

А восень рана, з росамі,
Уе павуціння ніць,

І снуе над пожнямі,
снуе босая
да самых позніх вечарніц.

І блізкая ты мне, і родная,
Беластоцкая зямля,
Ці ў весну салаўіную,
ці ў восень зорную —
Заўсёды ты мая, мая!

Прыведзены верш цяжка залічыць да выдатных паэтычных дасягненняў. Аднак мы не можам сумнявацца ў шчырасці паэтавых пачуццяў і ў аўтэнтычнасці ягонай прывязанасці да Беластоцкае зямлі. Дзякуючы гэтым уласцівасцям, верш упісваецца ў патрыятычную лірыку літаратурнага аб’яднання «Белавежа».

Сярод прыродаапісальных твораў М. Гайдука, якія адзначаюцца тэматычнай сувяззю з Усходняй Беласточчынай, мы знаходзім верш «Калісьці над Нарвай». У ім услаўляецца праца. Захапленне стваральным сэнсам сялянскіх заняткаў мае ў беларускай літаратуры доўгую гістарычную традыцыю. Яго сустракаем у творчасці многіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, а таксама ў нашаніўскую пару. Найбольшым майстрам гэтакага тыпу паэзіі быў, несумненна, Якуб Колас. У «Новай зямлі» ён стварыў класічны для беларускай літаратуры канон культу працы. Нейкі далёкі адгалосак коласаўскай трактоўкі сялянскага высілку выступае ў ахарактарызаваным вершы М. Гайдука. Твор «Калісьці над Нарвай» — гэта, несумненна, успамін з дзяцінства. Тут мы маем дачыненне з ідэалізаванай карцінай сялянскага этнаграфізму, у якой, мабыць, пароўну праўды і маны. І нягледзячы на гэта, нельга сумнявацца ў шчырасці пачуццяў аўтара, які паказаў працу сялянак на сенажаці так, як яе ўбачыў на нейкім сентыментальным абразку альбо ў сацрэалістычным фільме.

Адзвінелі толькі косы —
спала з траваў срэбра рос,
ідзе гурбок квяцістай, босай
касцам змена ў сенакос.
Ідуць дзяўчаты спеўным кругам
шнур пакосаў варушыць,
грабуць, пластуюць зелень лугу
у пахучы рад капіц.
Песня з песняю сплялася,
чуваць жарты, смех,

адна Нарва ў летняй смазе
ціхай прохаладдзю тхне.
Праца спорыцца. З гамонкай
звіт апоўзень, выслан сцежар
і тыкло з бярозы гонкай
стала ў лузе стромкай вежай.
Сонца ўніз зірнула коса,
вокам суму і тугі —
мест раўніны гладкай, роснай,
ў лузе высяцца стагі.

## ЛІРЫКА КАХАННЯ

У зборніку М. Гайдука «Ціш» мы знаходзім раздзел «Сны», які складаюць такія вершы, як «Каханне», «Мне твае палкія вусны», «Не цалуй так палка і хціва», «Кулік», «Змучаны жыццёвай мітуснёй». Гэта лірыка кахання. М. Гайдук наогул выкарыстоўвае традыцыйныя тэматычныя паняцці і фармальныя мастацкія прыёмы. Пра некаторую навізну мы можам гаварыць у выпадку кароценькага верша «Каханне», які характарызуецца значнай дозай алегарычнасці. Твор гэты пранізаны настроем варажбы, заклёну альбо замовы.

На загоне тваім —
белы камень легенды
і пошчак.
Дзяўчына-каліна
капае пад ім
корань дзіў, корань шчасця
і ў млечным струмені надзей
палошча,
брыдзе на расстаі,
на хвалю сінюю Дунаю
пускае…
і ў роспачы плача.
Бо на загоне тваім
толькі камень легенды
і пошчак.

Характэрны для прыведзенага верша настрой таямнічасці і загадкавасці атрымаў пэўны працяг у творы «Змушаны жыццёвай

мітуснёй». М. Гайдук уцёк у ім поўнасцю ад адназначнасці ў свет падтэкстаў і, дзякуючы гэтаму, атрымаў цікавы паэтычны эфект. Падтэкставая мнагазначнасць — гэта нібы сезамавыя закуткі, якія вабяць сваёй таямнічасцю і сваімі нечаканасцямі. Дзякуючы ім чытач атрымлівае магчымасць стацца як бы сааўтарам твора. Ён можа згодна са сваім разуменнем інтэрпрэтаваць твор так, як яму падказвае ўласны інтэлект, а быць можа, перадусім уласная інтуіцыя. Паэты, якія пішуць вершы адназначныя, пазбаўляюць чытачоў магчымасці інтэлектуальнай медытацыі і зводзяць іх ролю амаль што да тэхнічнай функцыі элементарнага азбучнага чытання. Твор з элементамі загадкавасці набліжае чытача да інтэлектуальнага высілку. Верш М. Гайдука «Змучаны жыццёвай мітуснёй» мае ў сабе тую дозу загадкавасці і двухзначнасці, якая прыцягвае чытача і трымае яго на эмацыянальнай прывязі.

Змучаны жыццёвай мітуснёй,
уцякаю я ў бездань успамінаў
і патанаю…
І як жа ж добра мне ў ёй!
На хвалях зелені, пад ліўнем сонца
сярпом займістым радасць жну.
Палетак шчасця мой бясконцы,
і не кранае стома маіх рук,
смяюся я — п’яны цішынёй…
І скрыгат:
дзівосны свет мой у бездань рынуў,
змучаны жыццёвай мітуснёй.

Гэты верш — своеасаблівы эпагей лірычных магчымасцяў М. Гайдука. Наступныя ягоныя творы — «Мне твае палкія вусны», «Не цалуй так палка і хціва» і, перадусім, «Кулік» выразна спаўзаюць на грунт паэтычнай адназначнасці і не могуць быць залічаны да творчых дасягненняў аўтара.

## У СВЕЦЕ КАЗКІ

Працуючы журналістам «Нівы», Мікола Гайдук часта выязджаў у розныя беларускія вёскі ва ўсходняй Польшчы. Вынікам гэтых паездак былі не толькі матэрыялы грамадскага і сацыялагічнага характару, але таксама фальклорныя здабыткі. Сабраныя народныя песні на працягу многіх гадоў Мікола Гайдук

друкаваў на старонках «Нівы». Гэта былі тэксты аўтэнтычныя і арыгінальныя. Збіральнік іх не перарабляў і не змяняў іх зместу. Іншым шляхам пайшоў ён, публікуючы народным казкі і легенды. Адметнасць праявілася ў тым, што Мікола Гайдук сабраныя казкі апрацаваў, гэта значыць, унёс у іх змест такія змены, дзякуючы якім яны сталіся больш камунікатыўнымі, пазбаўленымі ўсіх так характэрных для арыгіналу адхіленняў і адступленняў ад галоўнага сюжэтнага стрыжня. Калі ўзяць пад увагу тое, што казкі, апублікаваныя Міколам Гайдуком, выкарыстоўваліся ў працэсе навучання беларускай мове ў пачатковых школах Усходняй Беласточчыны, дык трэба сказаць, што ягоныя апрацоўкі сталіся больш даступнымі і прыцягальнымі для вучняў, чым былі б арыгінальныя народныя тэксты.

Добра вядома, напрыклад, што народныя песенныя тэксты свабодна перапрацоўваў Ян Чачот. А што да свабоднай трактоўкі казак, дык прыкладам можа быць Ян Баршчэўскі, які ў сваім некалькітомным зборніку «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» вельмі адвольна абыходзіўся з аўтэнтычнымі народнымі празаічнымі тэкстамі, перарабляючы іх згодна са сваімі настроямі ды публікуючы ў форме кароткіх літаратурных навелак.

Сабраныя і апрацаваныя казкі Мікола Гайдук часткова публікаваў на старонках «Нівы». Пасля ён падрыхтаваў зборнік «Аб чым шуміць Белавежская пушча». У кніжку ўвайшлі 24 тэксты, змешчаныя ў падраздзелах «У звяроў і птушак», «Паміж людзьмі і жывёламі», «Калі пушчу сцераглі асочнікі», «Сярод людзей».

Трэба сказаць, што гэта была першая такога тыпу публікацыя ў гісторыі пасляваеннага беларускага кнігадрукавання ў Польшчы.

Трактуючы справу вельмі агульна, трэба сказаць, што змешчаныя ў зборніку тэксты падзяляюцца на дзве групы. У першую ўваходзяць казкі пра жывёл, а ў другую — сацыяльна-прыгодніцкія. Як у адной, гэтак і ў другой выступаюць матывы, вядомыя з беларускага казачнага эпасу іншых рэгіёнаў Беларусі. Аднак часта трапляюцца таксама тэксты наскрозь арыгінальныя, характэрныя толькі для ўсходнебеластоцкага рэгіёну. Як адна, гэтак і другая катэгорыі казак адлюстроўваюць старую сялянскую псіхалогію, інтэрпрэтацыю навакольнага свету, успрыманне свету звяроў і самога сябе. І менавіта ў гэтым аспекце зборнік мае істотную вартасць і каштоўнасць. Не магу не прывесці тут хоць адну з казак.

## НАЙМІЛЕЙШЫЯ І НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ
*Казка*

*Калісьці ў адным урочышчы ў пушчы жылі па-суседску сава ды куніца. У згодзе ды прыязні вялікай хадзілі. Вядома ж, і адна і другая цёмнай ноччу палююць, а ўдзень у дуплах, у сваіх гнёздах сядзяць.*

*Аднойчы, як ужо змяркалася, сустрэліся яны на ўзлеску. Сава ў поле ляцела мышэй лавіць, а куніца ў пушчанскую чашчобу па спажыву збіралася.*

*Тут яны і разгаварыліся.*

*— Вы, кума, куды сабраліся? — пытаецца сава ў куніцы.*

*— У пушчу іду, кумачка, прагаладалася я нешта. Вечар ужо настае, можа, дзе вавёрку сонную прыдбаю на вячэру або на гняздзечка з птушанятамі натраплю.*

*— Ах, кума, — пачала прасіць куніцу сава, — вы толькі хоць маіх дзетак не чапайце!..*

*— Ды што вы! Нават і пальцам не крану, — запэўніла яе куніца. — Толькі як мне іх пазнаць?!*

*— Як жа гэта?! — абурылася сава. — Маіх дзетак ды і не пазнаць! Яны ж наймілейшыя і найпрыгажэйшыя ў свеце!*

*— Ну, калі так, то напэўна пазнаю, — адказала куніца.*

*На гэтым яны і разышліся кожная ў свой бок: сава на поле паляцела, а куніца ўглыб пушчы падалася.*

*Вандравала так куніца па пушчы, з дрэва на дрэва пераскокваючы, аж на гняздо на старой яліне наткнулася. Заглянула ў яго — там такія прыгожыя птушаняткі сядзяць, глядзі — не наглядзішся.*

*— Пэўна, гэта дзеці савы, — падумала яна, — не буду іх чапаць. — І пайшла далей. На высежным вязе зноў гняздо звочыла, у ім жа птушаняты так сабе — не надта прыгожыя, не цалкам брыдкія.*

*— Ат, — памеркавала куніца, — няхай жывуць, мо яны савіныя дзеці.*

*У дупле старога каржакаватага дуба таксама гняздо знайшла. Праціснулася туды праз дзіркі і бачыць, што там птушаняты сядзяць надта ж брыдкія — з шырокімі ратамі, аблезлыя нейкія. Куніца ўзяла іх ды з’ела. Вылезла яна з дупла, аблізалася і ўжо ў сваё гняздо ісці намервалася, ажно тут прыляцела аднекуль сава і накінулася на яе.*

*— Ах ты, паганая зладзейка, разбойніца ты крыважэрная! — І з вострай дзюбай ды расцаперанымі кіпцюрамі да куніцы сунулася. — Навошта ты маіх дзяцей паела, гадзюка?*

*— Што вы, кумачка, не можа быць! — пачала апраўдвацца тая. — Вы ж казалі, што вашыя дзеці наймілейшыя і найпрыгажэйшыя на свеце. Гэтыя ж, што я ў дубовым дупле знайшла, былі такія непрыгожыя, такія агідныя...*

*Сава раскрычалася:*

*— І наймілейшыя і найпрыгажэйшыя. Вось няхай толькі ты прывядзеш сваіх сляпых кацянят — паглядзіш, якія мілыя і прыгожыя яны табе будуць. Але я не пагляджу на іх брыдоту, — сказала яна пагрозліва, узмахнула мякка крыламі і знікла ў цемры.*

*Не рада ўжо была куніца сваёй смакавітай вячэрай і, панурыўшы голаў, да свайго гнязда хутчэй пабегла.*

*З таго часу паміж савой і куніцай пайшла вечная вайна за дзяцей. Ваююць яны і па сённяшні дзень. Сярод людзей жа такая прыказка ходзіць: кожны кулік сваё балота хваліць, а кожная сава — сваіх дзяцей.*

## НА «ТЫ» З ГІСТОРЫЯЙ

Сярод творчых дасягненняў М. Гайдука мы знаходзім ягоную кнігу «Паратунак», якая выдадзена выдавецтвам «Юнацтва» ў Мінску ў 1993 годзе. Кніга гэтая налічвае 367 старонак і з'яўляецца несумненна найбольш абшырнай публікацыяй, прысвечанай галоўным чынам заходнебеларускім землям, у тым ліку і Бельска-Падляшскай дый Драгічынскай зямлі. Кніга складаецца аж з 12 раздзелаў: «Карані», «На досвітку», «У час расцярушанасці», «Станаўленне», «Абарона самастойнасці», «Узрастанне ў моц», «Не сходзячы з сядла», «Час будавання і бітваў», «Здагадкі і ўчынкі», «За бляскам кароны», «Здзяйсненні», «Паражэнні і перамогі». «Паратунак» прапануецца выдавецтвам як дапаможнік для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.

Кнігу склалі гістарычныя публікацыі М. Гайдука, які друкаваў іх на працягу многіх гадоў на старонках тыднёвіка «Ніва». Дапрацаваныя і часта перапрацаваныя з улікам дзяцей і моладзі з Беларусі, яны склалі зборнік эсэ, прысвечаных розным аспектам беларускай мінуўшчыны. Кніга не мае выразна акрэсленага гістарычнага характару. Яе аўтар як бы свядома займае пераходную пазіцыю паміж чыста гісторыяй і літаратурна-мастацкай інтэрпрэтацыяй мінулага Беларусі. Трэба пагадзіцца з вядомым даследчыкам беларускай літаратуры перыяду ВКЛ Вячаславам Чамярыцкім, які ва ўступе да кнігі напісаў:

«Кніга «Паратунак» напісаная цікава і натхнёна, добраю беларускаю моваю, своеасаблівым стылем, які мы імкнуліся захаваць, дапамагае нам прасачыць свае глыбокія гістарычныя карані, адчуць іх жыватворчую сілу. Яна дапамагае нам, азірнуўшыся далёка назад, у смугу стагоддзяў, убачыць свой самабытны беларускі шлях і больш упэўнена і годна глядзець наперад ды з большай настойлівасцю змагацца за сваю лепшую будучыню, за сваё нацыянальнае адраджэнне, неадлучнае ад еўрапейскай гісторыі».

Сам аўтар кнігі, Мікола Гайдук, ва ўступным артыкуле «Перад вандроўкай» звяртае ўвагу на тое, што мінулае Беласточчыны вывучаецца многімі даследчыкамі, асабліва псеўдадаследчыкамі, вельмі тэндэнцыйна. Аўтар гаворыць, што многія з тых, хто бярэцца за вывучэнне мінуўшчыны Беластоцкага краю, у залежнасці ад кан'юнктуры, лічаць сябе рускімі, палякамі або ўкраінцамі. Якраз такая катэгорыя публіцыстаў баламуціць і сябе, і іншых карэнных жыхароў Беласточчыны, якія, як вядома, былі і ёсць у агромністай сваёй большыні беларусамі. Спроба Міколы Гайдука якраз і зводзіцца да таго, каб у баламутнае палітыканства ўвесці акрэсленую еднасць і даць гістарычным заходнебеларускім з'явам аб'ектыўнае тлумачэнне.

У сваёй кнізе аўтар часта выходзіць па-за межы Беластоцкага краю і займаецца гісторыяй Польшчы, Украіны і Літвы, а перш за ўсё — розных рэгіёнаў Беларусі. І гэта поўнасцю зразумела, таму што нельга разглядаць ізалявана гісторыю толькі невялікага абшару зямлі і толькі невялікай часткі акрэсленага народа.

Вядома, што гісторыю кожнай нацыі твораць народныя масы і выдатныя дзяржаўныя постаці. Зусім магчыма, што ўплыў на падзеі большы з боку выдатных дзеячаў, чым гэтак званых шэрых масаў. Мікола Гайдук несумненна разумее гэтую элементарную праўду і таму ў сваіх эсэ звяртае асаблівую ўвагу на тыя выдатныя постаці князёў, вяльможаў, рэлігійных дзеячаў, якія ў гісторыі Беларусі адыгрывалі выключную ролю, дзякуючы чаму аказалі вялікі ўплыў на развіццё сваіх народаў.

Для Міколы Гайдука гісторыя кожнага народа, у тым ліку і гісторыя Беларусі — гэта складаная повязь непаразуменняў, канфліктаў і войнаў, якія вяліся не толькі са знешнімі ворагамі, але таксама ўнутры беларускага народа, нярэдка паміж князямі і вяльможамі, што знаходзіліся ў блізкім кроўным сваяцтве.

Аўтар кнігі «Паратунак» паставіў перад сабою выразна акрэсленую палітычную мэту. Зводзіцца яна да таго, каб да сучаснага чытача наблізіць далёкую гістарычную мінуўшчыну,

каб дапамагчы яму разабрацца ў дэталях гісторыі і каб урэшце ён мог пранікнуцца сімпатыяй калі не да ўсіх гістарычных постацяў, то прынамсі да тых, якія цвёрда стаялі на пазіцыях абароны незалежнасці беларусаў і іх земляў.

## ГІСТАРЫЧНЫЯ АПАВЯДАННІ

Паралельна з ахарактарызаванымі гістарычнымі нарысамі Міколы Гайдука ўзнікалі літаратурныя апавяданні, прысвечаныя гістарычнаму мінуламу беларускіх плямёнаў перыяду Кіеўскай Русі і ВКЛ. Да гэтакага тыпу апавяданняў трэба залічыць творы «Навала», «Крамола», «Буруш», «Трызна», «Воўчы спеў», «Жнівень у Белавежскай пушчы», «Першыя», «Нектарый» і інш.

Па сутнасці, усе гістарычныя апавяданні Міколы Гайдука ў большай ці меншай ступені звязаныя тэматычна з паўночна-заходнімі землямі Кіеўскай Русі і ВКЛ. Гаворачы больш камунікатыўна і сучасна, аўтар свае гістарычныя творы тэматычна звязвае з сённяшнімі ўсходнебеластоцкімі землямі.

Мікола Гайдук несумненна добра валодае кароткай празаічнай формай, якая ў выпадку ягонай творчасці праяўляецца найчасцей у апавяданнях альбо навелах. Аўтар, як правіла, выбірае для сваіх твораў выключную гістарычную падзею і характарызуе параўнаўча невялікую колькасць герояў. Апавядальнае дзеянне ён наогул вядзе дынамічна. Дбае пра выразную адназначную фінальную развязку твора.

Некалькі гадоў таму беластоцкі крытык Ян Леанчук востра заатакаваў гістарычныя творы Міколы Гайдука, называючы іх лубачнай літаратурай, прызначанай да чытання ў час святых вечароў.

Нягледзячы на тое, што ў Гайдуковых апавяданнях сапраўды выступае лубачны элемент, як, зрэшты, у большасці гістарычных твораў іншых пісьменнікаў, трэба сказаць, што апавяданні гэтыя несумненна характарызуюцца мастацка-літаратурнымі каштоўнасцямі, дзякуючы чаму яны займаюць пачэснае месца сярод твораў празаікаў-белавежцаў.

Здаецца нам, што гістарычная публіцыстыка, якая склала кнігу «Паратунак», і гістарычныя мастацкія творы Міколы Гайдука былі прадыктаваныя ахвотай супраціву ў адносінах да ўсіх тых, хто даказваў, што беларусы не маюць уласнае гісторыі і што яны заўсёды прымазваюцца да чужой гістарычнай славы. Сваёй публіцыстыкай і гістарычнымі творамі Мікола Гайдук

спрабаваў даказаць, што гэтакі погляд вядзе свой радавод з асяроддзяў, варожых беларускаму народу, што інспіруецца ён прадстаўнікамі тых народаў, якія вялі палітыку экспансіі ў адносінах да Беларусі і якія ахвотна бачылі б беларусаў істотамі, пазбаўленымі дзяржаўных памкненняў.

М. Гайдук у сваіх творах даказвае, што беларусы мелі ў мінулым моцныя каларыстычныя і пластычныя гістарычныя постаці, якія цвёрда змагаліся за незалежнасць сваіх земляў, сваіх княстваў і даручаных ім гісторыяй грамадстваў.

Другой мэтай, якая выразна праяўляецца ў гістарычнай публіцыстыцы і гістарычных апавяданнях Міколы Гайдука, з'яўляецца аўтарскае перакананне, што практычна ўсе гістарычныя канфлікты Русі з Усходам і Захадам у большай альбо меншай ступені мелі рэлігійную глебу і праяўляліся ў барацьбе з нявернымі манголамі, паганскімі яцвягамі ці каталіцкімі заходнікамі.

Мікола Гайдук як публіцыст і пісьменнік цвёрда стаяў на грунце непарушнасці праваслаўя, бачачы ў ім комплексныя маральныя каштоўнасці, якія адпавядаюць складу і характару беларускай душы. Менавіта з гэтай прычыны аўтар вельмі часта звяртаўся да постацяў праваслаўных іерархаў, да пабудовы манастыроў і цэркваў, знаходзячы ў іх маральную падтрымку для тых продкаў, якія, жывучы на рэлігійным памежжы, воляй-няволяй знаходзіліся ў цэнтры рознага тыпу канфліктаў і войнаў.

Гістарычныя апавяданні Міколы Гайдука маюць эстэтычны характар. Яны яскравяцца падзеямі і здарэннямі, у якіх дамінуюць жывыя эмоцыі: прыязнь і нянавісць, каханне і варожасць, прывязанасць да роднага пейзажу і краявіду.

Вельмі часта ў гістарычных апавяданнях Міколы Гайдука паяўляюцца такія мясцовасці, як Пінск, Бярэсце, Мельнік, Драгічын, Бельск. Аўтар умела ўплятае спецыфіку жыцця іх жыхароў у шырэйшы аспект мінулага Кіеўскай Русі і ВКЛ.

Дзякуючы ўсім гэтым уласцівасцям, Мікола Гайдук стаў сціплым летапісцам гістарычнае мінуўшчыны заходнебеларускіх земляў. Аўтэнтычнасць ягоных апавяданняў узмацняецца частым выкарыстаннем старарускіх і старабеларускіх хронік, хоць асноўную ролю ў іх адыгрываюць аўтарская выдумка і фантазія.

З усіх названых вышэй прычын гістарычныя творы Міколы Гайдука заслугоўваюць пазітыўнай ацэнкі.

# ВІКТАР РУДЧЫК

## ІЛЮСТРАТАР БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЦЯ

Віктар Рудчык нарадзіўся 8 сакавіка 1934 года ў вёсцы Вулька Нурэцкая Сямяціцкага павета ў сялянскай сям'і. Яго дзяцінства прыпала на нялёгкі перыяд даваеннай Польшчы, савецкае ўлады і нямецкае акупацыі.

Толькі ў пасляваенны перыяд ён пачаў вучыцца ў пачатковай школе, а пазней здабыў сярэднюю адукацыю. У канцы 50-х гадоў распачаў працу ў тыднёвіку «Ніва» і на працягу кароткага часу стаўся вядучым журналістам гэтага выдання.

Рудчыка як аўтара шматлікіх публіцыстычных артыкулаў цікавіла перадусім грамадска-гістарычная праблематыка. Шырокую папулярнасць набыў ягоны вялікі публіцыстычны цыкл «Буг у агні», у якім ён глыбока і ўсебакова паказаў падзеі, звязаныя з нямецка-савецкімі баямі на лініі Буга ў 1941 годзе. Другой гістарычнай падзеяй, якой шырока заняўся Рудчык, быў партызанскі антынямецкі рух на тэрыторыі Сямяціцкага рэгіёна і ўсяе Беласточчыны. Рудчыку ўдалося дайсці да многіх непасрэдных удзельнікаў антыгітлераўскага змагання. Дзякуючы іх інфармацыі і ўспамінам значна павялічылася аўтэнтычнасць Рудчыкавых артыкулаў.

Апрача гэтае тэматыкі Рудчык як публіцыст цікавіўся актуальным сялянскім жыццём беларусаў з Усходняе Беласточчыны. Сталіся шырока вядомымі ягоныя артыкулы аб паасобных вёсках альбо паасобных гмінах, у якіх аўтар умела спалучаў факталогію з лёгкай мастацкай формай публіцыстычнага паведамлення.

Займаўся Рудчык таксама палітычнымі падзеямі ў польскім пасляваенным жыцці. Трэба сказаць, што ў некаторых яго палітычных публікацыях выступаў занадта ўхвальны тон у адносінах да палітычных дзеячаў народнае Польшчы. Гаворачы пра гэта, трэба памятаць аб характары герэкаўскіх часоў, у якіх палітычная ўлада праяўляла выразную схільнасць да самазахаплення.

Прыблізна ў сярэдзіне 60-х гадоў у «Ніве», у «Беларускіх календарах» пачалі друкавацца ягоныя апавяданні, якія адзначаліся добрымі мастацкімі якасцямі.

У № 1 ды № 2 «Белавежы» былі апублікаваныя такія ягоныя апавяданні, як «Чаканне», «Дом», «Жменя зямлі» і «Пацалункі Кастухі».

Тэматычны дыяпазон празаічных твораў Рудчыка досыць шырокі. Аднак яго ў асноўным цікавілі вясковыя здарэнні, падзеі і героі. У апавяданнях гэтых адлюстраваліся пасляваенныя працэсы. Цікавіў пісьменніка лёс тых беларусаў, якія, пакінуўшы вёскі і трапіўшы ў гарадское асяроддзе, стараліся забыць аб сваім сацыяльным паходжанні, а часта і аб сваёй беларускай нацыянальнасці. Рудчык звяртаў увагу таксама на нарастаючы маральны канфлікт паміж вясковымі бацькамі і іх гарадскімі дзецьмі, якія праяўляюць пагарду да сялянскага жыцця.

В. Рудчык адным з першых сярод беларускіх пісьменнікаў у Польшчы заўважыў балючую праблему — старэнне беларускае вёскі, горкі лёс старых адзінокіх вясковых бацькоў.

Амаль усе апавяданні гэтага пісьменніка адзначаюцца насычанасцю ўсходнебеластоцкімі рэаліямі. Прадстаўленыя ў іх здарэнні і героі арганічна звязаныя з беларускай пасляваеннай рэчаіснасцю ў Польшчы.

Адной з праблемаў, якая бадай што найчасцей паяўлялася ў апавяданнях пісьменніка, была праблема прамінання і смерці. Цяжка сказаць, чым можна вытлумачыць гэта. Быць можа інтуіцыяй, якая прадказвала пісьменніку яго ўласную заўчасную смерць, што наступіла на 55-м годзе жыцця.

Калі сёння мы бярэм у рукі апавяданні Рудчыка, дык бачым, што большасць з іх не састарэла. Па сутнасці, гэткія праблемы, як міграцыя беларусаў з вёсак у гарады, старэнне вёскі, нацыянальны нігілізм часткі насельніцтва не толькі не паменшыліся, але і павялічыліся. У такой сітуацыі мы можам гаварыць аб інтуіцыі і праніклівасці пісьменніка.

Спадчыну Рудчыка складаюць некалькі дзясяткаў апавяданняў і неапублікаваныя дагэтуль аповесці. Ужо сёння не можа быць сумненняў у тым, што без Рудчыкавых невялікіх празаічных твораў беларускі літаратурны рух у Польшчы быў бы бяднейшы.

## ПРЫГЛЯДАЮЧЫСЯ ДА НЯДОЛІ

Тэматычна апавяданні Віктара Рудчыка ахопліваюць шырокі дыяпазон праблемаў і пытанняў, характэрных для пасляваеннае вёскі ў Польшчы. Аднак празаік час ад часу выходзіць па-за рамкі пасляваеннага перыяду і кранае польскую даваенную рэчаіснасць, якую выразна асуджае за яе непрыхільныя адносіны да беларускага сялянства. Грамадская і палітычная праблематыка закранаецца ў апавяданнях Віктара Рудчыка, аднак не

яна галоўны лейтматыў ягоных твораў. Пісьменнік перш за ўсё цікавіцца адносінамі паміж бацькамі і дзецьмі альбо, кажучы шырэй, адносінамі паміж тымі членамі сем'яў, якія засталіся ў вёсках на гаспадарках, і тымі, якія пакінулі вёскі і пасяліліся ў гарадах.

Менавіта гэтаму прысвечана адно з ранніх апавяданняў «Чаканне». Праўдападобна, твор гэты мае аўтабіяграфічны характар. У ім ёсць нямала з жыцця сваіх родных бацькоў. Апавяданне напоўнена глыбокім псіхалагізмам. Яно дае цікавую карціну духоўных перажыванняў вясковай жанчыны Марфы, якая ўсё чакае сваіх дзяцей, што, як і большасць пасляваеннай моладзі ў Польшчы, апынуліся ў горадзе.

Раздумваючы над уласным лёсам, Марфа з горыччу прыгадвае цяжкае сіроцкае жыццё пасля Першай сусветнай вайны ў міжваеннай Польшчы. Жыццё гэтае было напоўненае нядоляй і крыўдай, што плылі не толькі з боку сістэмы, але і свайго найбліжэйшага асяроддзя, якое адзначалася выключнай суровасцю, бессардэчнасцю і эгаізмам.

Нягледзячы на гэтакі характар міжваеннага побыту, на які прыпала маладосць Марфы, яна не страціла такіх прыгожых рысаў і схільнасцяў, як працавітасць, добразычлівасць, гарачая адданасць сям'і і асабліва сваім дзецям. Увесь псіхічны склад вясковай жанчыны Марфы — добрай маці і вернай дачкі роднага сяла з'яўляецца сімвалам гарачага безупыннага чакання калі не фізічнай прысутнасці дзяцей, якія падаліся ў гарады, дык іх прысутнасці ў форме лістоў, якія Марфа трактуе як добрых пасланцоў ад тых, каго яна не можа забыць нават на хвіліну.

Віктар Рудчык — пісьменнік-рэаліст. У фабулу свайго апавядання ён уводзіць вельмі характэрны момант, які складае сутнасць інтрыгі ў ягоным творы. Гэтым момантам з'яўляецца непісьменнасць Марфы, якая толькі інтуітыўна адчувае, што атрыманыя лісты праўдападобна паходзяць ад яе дзяцей, аднак катэгарычна сцвердзіць гэтага не можа, бо чытаць не ўмее.

Беларускія жанчыны схільныя да эмацыянальных роздумаў аб мінулым. Яны любяць чуласць і слязлівасць. Шкадуюць сябе, але спачуваюць і іншым. Да гэтакага тыпу жанчын належыць таксама Марфа. Яна схільная да безупыннага супастаўлення таго, што было калісьці, з тым, што ёсць сёння. Яна мае ўласныя крытэрыі і ацэнкі, свет сваіх непаўторных маральных вартасцяў. Небеспадстаўна такія тыпы вясковых жанчын лічаць, што толькі той чалавек, які прайшоў праз нядолю і гора, здольны зразумець няшчасці іншых людзей. Гэтакім тыпам беларускі з'яўляецца, несумненна, гераіня апавядання Віктара Рудчыка «Чаканне».

«Як толькі вярнуліся з бежанства, мачаха адразу распарадзілася:

— Ты ўжо дзеўка. Ідзі сама сабе зарабляй на жыццё. Я карміць цябе не буду.

За тры гады службы ў нейкага шляхціча Марфа запрацавала сабе цялушку, боты, пару сукенак і капу нявымалачаных снапоў жыта. Гэта быў яе пасаг.

Сваты прыехалі з суседняй вёскі. Марфа якраз была дома. Прыйшла ў нядзелю наведаць радню. Сваты, як звычай кажа, мёдам і цукрам шмаравалі свайго кавалера.

— Падумай, гаспадар: Ванька адзін застаўся і цэлы ўчастак зямлі ў яго!

Загарэліся прагнасцю вочы Марфы. Урэшце будзе, як пані, для сябе, на сваім! Здавалася ёй, што гэта знак божай ласкі для сіраты няшчаснай.

Вяселле было ціхае ды вельмі скромнае. Малады аддаў касцюм, які пазычыў быў на гэтую ўрачыстасць, і застаўся ў лапцях ды латаных штанах. Мужаў дом стаяў без акон, дзвярэй і страхі, а на ўчастку зямлі гаспадарыў палын. Прыняў іх у хату далёкі сваяк. Жылі без гаршка, лыжкі, міскі, не было ні сякеры, ні пілы.

Праз год нарадзілася дзіця. Дзяўчынку ахрысцілі Верай. Бабулька Юлька перавязала ёй пупок, выкупала і пайшла дамоў.

Малако ў Марфы хутка прапала. Яна думала, што нехта ўрок і малілася і заклінала ўсіх святых, але без выніку. Бо з чаго ж мела яно быць, тое малако, калі ў хаце ні кавалачка хлеба, ні жмені мукі, а муж у салдатах».

## ПРЫВЯЗАНАСЦЬ ДА ЗЯМЛІ

У апавяданні «Жменя зямлі» Віктар Рудчык кранае бадай што найбольш фундаментальнае пытанне, характэрнае для ўсяго старэйшага пакалення беларусаў у Польшчы, ды, мабыць, не толькі ў Польшчы. Многія даследчыкі псіхікі беларусаў у мінуўшчыне згодна адзначалі нявольніцкую прывязанасць беларускага люду да гаспадаркі. Каму ж не вядомая знакамітая паэма Якуба Коласа «Новая зямля» — цудоўны гімн у гонар зямлі-выратавальніцы, зямлі-карміцелькі, зямлі-заступніцы. Менавіта да гэтага кардынальнага пытання звярнуўся Віктар Рудчык у сваім апавяданні. Аднак апрача гэтага пісьменнік крануў яшчэ і другую як жа істотную праблему — нігілістычных адносін да зямлі маладых беларусаў, якія трапілі ў гарады, здабылі там адукацыю, атрымалі

працу, набылі кватэры і пачалі дэманстратыўна праяўляць пагарду да вясковых рэаліяў, нягледзячы на тое, што ў гэтых рэаліях у далейшым існавалі і працавалі іх бацькі. На працягу некалькіх пасляваенных дзесяцігоддзяў наступіла карэнная псіхалагічная змена, якая зводзіцца да таго, што чыннікі, дарагія сэрцам бацькоў, сталіся абыякавымі для розумаў іх дзяцей. Зразумела, што старэйшае пакаленне беларусаў, па-нявольніцку прывязанае да роднае гаспадаркі, пакаленне, якога не разбэсціла ў Польшчы калгасная сістэма, з болем і жахам у пасляваенны перыяд глядзела на сваіх дзяцей, якія дэманстравалі пагарду да роднай мовы, родных традыцый і роднага загону. Віктар Рудчык хаця і паходзіў з усходнебеластоцкай беларускай вёскі, у якой быў арганізаваны польскі варыянт калектыўнай гаспадаркі, праявіў глыбокую назіральнасць і адлюстраваў у сваім творы «Жменя зямлі» ўсе тыя схільнасці, якія характарызавалі беларусаў старэйшага і малодшага пакаленняў.

Галоўны носьбіт старой беларускай псіхалогіі ў творы селянін Андрэй. А ягоныя дзеці Нінка і Жорж робяць усё, каб прымусіць бацьку прадаць любімую гаспадарку і падацца ўслед за імі ў горад.

Рудчык у сваім творы праз адступленні стараецца як найшырэй паказаць селяніна Андрэя ў працэсе адвечных сялянскіх дзеянняў і не меней адвечнага сялянскага мыслення. З другога боку, аўтар паказвае Андрэевых дзяцей Нінку і Жоржа, якіх не прыцягвае бацькоўская гаспадарка. Жывучы ў вялікім горадзе, яны мараць аб летнім адпачынку не ў роднай вёсцы, а толькі на далёкім замежным курорце. У галовах маладых даспявае яшчэ адна падступная задума — продаж бацькоўскай гаспадаркі. У разуменні традыцыйнага беларуса Андрэя гэтакі намер мае сатанісцкі характар. І ўсё ж такі маладыя дамагаюцца таго, што гаспадарка іхніх бацькоў пяройдзе ў чужыя рукі.

Зусім магчыма, што дзеці пасля гэтага акту заапекаваліся ў горадзе сваімі бацькамі і стварылі ім добрыя ўмовы бытавання. Аднак няма сумненняў, што сваім учынкам яны зрабілі роднаму бацьку найбольшую з магчымых крыўду. Гэта яны выбілі яму з-пад ног цвёрды грунт любімай гаспадаркі, і з гэтай прычыны селянін назаўсёды страціў сваю наймацнейшую жыццёвую апору.

Мы можам гаварыць пра драматычны характар апавядання Віктара Рудчыка, які выразна падкрэслівае сваю салідарнасць з бацькамі, а не з іх гарадскімі дзецьмі.

«З высокага судовага пад’езду Андрэй сышоў хісткім цяжкім крокам, як бы баяўся, што вось-вось зямля абарвецца яму пад нагамі і ён паляціць у бяздонную прорву.

Некалькі хвілін таму назад падпісаў у пана рэента дакумент. Гэты подпіс… Як дзяцюк з першага класа, вадзіў рукой па белай паперы, пяро траслося ў яго старых пальцах, а ён так і не змог дапісаць апошнія літары свайго прозвішча.

Побач ішлі дачка, сын, новыя ўласнікі «Зарэчанкі» і сведкі. Усе вясёлыя, задаволеныя, што іх справа ўрэшце аформлена, дагаворваюцца, дзе б найлепш «замачыць» яе.

Толькі Андрэю ўсё гэта неяк чужое, далёкае. Хай сабе ідуць, хай гавораць… Андрэй стаіць на тратуары, блудзіць позіркам па неабсяжных дамах вялікага горада і раптам адчувае сябе маленькім, загубленым, як мурашка сярод дрымучага лесу.

Бываў Андрэй тут толькі госцем, раз у год на Яна прыязджаў на кірмаш. А цяпер?

Свет шырокі, столькі ў ім прасторы, дарог і сцяжынак. Якая мае быць цяпер яго? Дзе яму знайсці прытулак і звычайныя турботы, да якіх прывык ад маленства? Чым заняць час?

Мімавольна хавае рукі пад кашулю. У далоні чуе невялікую торбачку, сагрэтую яго целам. Моцна, проста сутаргава сціскае яе пальцамі.

— Зямля!.. Мая… мая… зямля!..

— Тата, ідзём! — прыказаў сын.

Андрэй не варухнуўся. Толькі яшчэ мацней прыціснуў да грудзей гэтую торбачку.

— Тата, што з табой? — занепакоілася дачка.

— Усё забралі… усё… — шаптаў Андрэй, а дзве вялікія слязы скакалі па глыбокіх барознах яго старэчага твару.

Дзеці ўзялі яго пад рукі. Андрэй ішоў цяжка, валочачы ногі».

## У АБДЫМКАХ СА СМЕРЦЮ

У спадчыне Віктара Рудчыка мы знаходзім спецыфічны твор «Пацалункі Кастухі». Гэтае апавяданне пазбаўлена якой-небудзь фікцыі і абапіраецца выключна на праўдзівыя здарэнні і факты. Аўтэнтычнасць датычыць таксама постацяў герояў, якія выступаюць пад сваімі ўласнымі прозвішчамі. Галоўны герой твора — Язэп Маркоўскі з вёскі Дэніскі, што непадалёк ад Бельска-Падляшскага.

І Язэпа Маркоўскага, і ягоных сяброў характарызуе адна пастаянная рыса — імкненне да свабоды. Аднак няволя трыма-

ецца за гэтага чалавека з вялікай заўзятасцю і паслядоўнасцю. Ужо ў міжваенны перыяд, як беларускі радыкал, ён трапляе пад паліцэйскі нагляд, а пасля ў турму. Нямецкая акупацыя абазначае новы віток у пакутах Язэпа Маркоўскага. Немцы арыштоўваюць яго і пасля доўгага следства высылаюць у адзін з найбольшых лагераў смерці — Майданак. На пачатку красавіка 1944 года перад набліжэннем савецка-нямецкага фронту нямецкія ўлады вывозяць яго ў глыбіню Германіі аж за Рэйн. І толькі там вызваліць яго вясною 1945 года амерыканская армія. Трэба, аднак, сказаць, што Язэп Маркоўскі быў вязнем выключна напорыстым і непаслухмяным. Некалькі разоў ён уцякаў з турмаў і лагераў, аднак ніводзін з уцёкаў не закончыўся ўдачай і вёў Язэпа да новага лагернага зняволення.

Апавяданне «Пацалункі Кастухі» займае выключную пазіцыю ў беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Выключнасць гэтая выяўляецца ў тым, што жыццёвая аўтэнтычнасць бывае куды больш яскравай і страшнай, чым усякія жахі, прыдуманыя фантазіяй пісьменніка.

Чытаючы апавяданне, мы сутыкаемся яшчэ з адной сферай беларускай рэчаіснасці. Як вядома, беларусы наогул атаясамліваюцца з лагоднасцю, дабрадушнасцю, падатлівасцю, кампраміснасцю, а часта і з духоўнай безаблічнасцю. Твор «Пацалункі Кастухі» выразна запярэчвае такому вобразу беларуса. Тут мы маем дачыненне з беларусам цвёрдым, паслядоўным, упартым і гатовым да смерці за свае ідэалы. Пры гэтым герой апавядання цалкам пазбаўлены дэмагогіі, дэкларатыўнасці і штучнай тэатральнасці. Язэп Маркоўскі — чалавек ціхі і сціплы. Ён носіць у сэрцы акрэсленую праўду ды ідэі, аднак у ім няма ніякай надакучлівасці і экспансіўнасці. Відавочна, ён лічыць, што кожны чалавек мае права на ўласныя погляды і ідэалы і ніхто іншы не можа ўрывацца ва ўнутраную сферу чалавечай духоўнасці.

З апавядання Віктара Рудчыка выплывае яшчэ адна яскравая праўда. Зводзіцца яна да таго, што духоўнае ў чалавеку можа быць намнога больш устойлівым і моцным, чым фізічнае. На працягу некалькіх гадоў Язэп Маркоўскі знаходзіцца ў стане крайняй фізічнай знямогі. Лагерны голад і катаванні даводзяць ягоную фізічную сферу да глыбокага знясілення. Пры гэтым, аднак, яго духоўнасць застаецца на вельмі высокім узроўні вынослівасці і дынамікі. І вось гэтая воля і сіла духу дазваляюць яму перамагчы ўласную фізічную мізэрнасць. Язэп Маркоўскі перамагае ўсё. Дачакае жаданага дня вызвалення, з далёкай

амерыканскай акупацыйнай зоны вернецца ва Усходнюю Беласточчыну і ўглыбіцца ў беларускі нацыянальны рух.

Такім быў сапраўды Язэп Маркоўскі, і такім яго паказаў Віктар Рудчык.

«На шаснаццаты дзень вандроўкі выйшлі з прырэйнскіх лясоў. Перад імі кругом, як вокам згледзіш, распасціраўся пустыр. Ішлі цэлую ноч. А лесу ні следу. Далёка за вёскай пабачылі ў полі тры стагі. Рашылі ў іх перасядзець дзень.

Выбралі сярэдні — яшчэ цалкам не крануты. Першы прачнуўся Язэп. Прыслухаўся. Ля стагоў гаргочуць немцы. Штурхнуў таварыша.

— Бяруць салому, — прашаптаў Алёшка.

— Ага, — пацвердзіў Язэп. — Прыйдзецца ўцякаць, як паедуць.

— Хіба, — згадзіўся Алёшка.

Воз зрушыўся з месца і паскрыпеў.

— Ну, давай! — штурхнуў Язэп сябра.

У той момант над галовамі пачулі гарклівыя галасы.

— Грузчыкі хіба асталіся, — прыкінуў Алёшка.

Язэп маўчаў. Сэрца яго стала раптам біцца, як ашалелае, быццам прадчувала няшчасце.

І за другім разам грузчыкі асталіся на сцірце.

А за трэцім разам…

Немец адваліў сноп і закрычаў:

— Хальт! Хальт! Рукі ўгору, рускія смярдзючыя свінні!

Другія таксама з віламі пасяшаліся яму з дапамогай.

Перад імі ў саломе трапяталіся дзве істоты — больш падобныя на малпаў, чымсьці на людзей. Зарослыя, брудныя, абарваныя.

Звязалі ім рукі і ногі. Паслалі па жандараў.

«Цяпер ужо канец!» — падумаў Язэп і на губах пачуў халодны пацалунак Кастухі, што яго так пакахала».

На працягу многіх гадоў Віктар Рудчык працаваў над аповесцю, прысвечанай гадам вайны і пасляваеннаму перыяду. Аднак твор гэты ніколі поўнасцю не быў апублікаваны. Фрагменты аповесці, якія паяўляліся ў «Ніве», сведчылі пра тое, што аўтар публіцыстычнае ставіў вышэй, чым мастацкае. І ўсё ж такі трэба сказаць, што ў аснову вялікай празаічнай формы пісьменнік паклаў нямала істотных для жыцця беларусаў з Усходняй Беласточчыны фактаў. Факты гэтыя, аднак, не заўсёды ўдавалася яму падаць у адпаведнай прыгожай літаратурнай форме.

Віктар Рудчык быў верным сынам Беластоцкай зямлі. Вырас ён на беларуска-польскім этнічным памежжы. У 1939–1941

гадах ягоная вёска знаходзілася ў зоне непасрэднага сутыкнення гітлераўскай і сталінскай сістэмаў. Калі ў чэрвені 1941 года немцы моцна ўдарылі і пагналі Чырвоную Армію пад Маскву, жыхары роднае вёскі Рудчыка не маглі зразумець, як магло стацца тое, што армія, якая ў савецкай прапагандзе была прадстаўленая як найвыдатнейшая і непераможная, пабегла ад першых udaраў вермахту і апынулася пад далёкай Масквою. Менавіта гэтае здзіўленне беларусаў з Усходняе Беласточчыны як бы лягло ў аснову многіх твораў Віктара Рудчыка і асабліва ягонай напаўлітаратурнай і напаўпубліцыстычнай публікацыі «Буг у агні», у якой малады аўтар, згодна з метадалогіяй савецкай літаратуры, стараўся паказаць толькі выключнае і гераічнае ў паводзінах савецкіх воінаў. Аднак побач з такім рытуальным для сацыялістычнага рэалізму падыходам у творчасці Віктара Рудчыка мы знаходзім нямала фактало гіі, якая цалкам змяшчаецца ў нормах крытычнага рэалізму, характэрнага для бальшыні беларускіх празаікаў у Польшчы.

Віктар Рудчык умеў нахіліцца над чалавечай нядоляй, самотнасцю і горкім задуменнем. Пісьменнік не здолеў поўнасцю развіць свайго літаратурнага таленту і адышоў назаўсёды ў 1989 годзе. Гэта быў пісьменнік, што з асаблівай увагай ставіўся да факта і дэталі. Ва ўсіх ягоных малых празаічных творах мы сустракаемся з своеасаблівым культам канкрэтыкі. Практычна ўсе постаці герояў, якія выступаюць у творах Віктара Рудчыка, моцна асаджаныя ў беларускіх вясковых рэаліях пасляваеннага перыяду. Пісьменнік балюча перажываў працэс масавай міграцыі беларускай моладзі з вёсак у гарады, з глыбокім спачуваннем ставіўся да самотных старых беларусаў, што засталіся ў вёсках. Яны былі для пісьменніка сімвалам умірання беларускага сяла і павольнага апусташэння Усходняе Беласточчыны. З вялікай увагай адносіўся Віктар Рудчык да постацяў вясковых жанчын, у якіх ён быў схільны бачыць праявы сімвалічнай дабрыні і альтруізму. Кіруючыся традыцыйным поглядам, пісьменнік быў схільны атаясамліваць чалавечую дабрыню з вёскаю, а праявы эгаізму — з горадам. Гэтакая трактоўка рэчаіснасці вынікала з адвечнай схільнасці сялянства, якое трактавала гарады як селішчы дармаедства і махлярства.

Апрача літаратурнай творчасці Віктар Рудчык актыўна займаўся публіцыстыкай. Ён пакінуў сотні цікавых артыкулаў, якія ахоплівалі розныя сферы жыцця беларусаў у Польшчы. Ягоная публіцыстыка вельмі часта паяўлялася на старонках «Нівы» і «Беларускіх календароў» і, наогул, датычылася найбольш істотных беларускіх спраў.

Віктар Рудчык як празаік не заняў вядучай пазіцыі ў беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Аднак ягоныя апавяданні ўвайшлі ў скарбніцу творчасці белавежцаў як элемент трывалы і арыгінальны.

Трымаючыся паслядоўнага рэалізму ў яго традыцыйных праявах, Віктар Рудчык адназначна і свядома далучаўся да тых сяброў «Белавежы», якія лічылі і лічаць, што рэалізм як мастацкі метад не вычарпаў сваіх творчых і літаратурных магчымасцяў.

## САКРАТ ЯНОВІЧ

### ШЛЯХ ПРАЗ КЛОПАТЫ

Нарадзіўся Сакрат Яновіч 4 верасня 1936 года ў мястэчку Крынкі Беластоцкага ваяводства ў сям'і шаўца. У даваенны перыяд, а таксама ў гады савецкай улады Крынкі былі дзіўнай нацыянальнай мазаікай, якая складалася з беларусаў, яўрэяў, палякаў і татараў. Немцы радыкальна змянілі характар гэтай мазаікі, па-варварску расправіўшыся з яўрэйскім насельніцтвам. Матэрыяльныя ўмовы сям'і Яновічаў былі цяжкія не толькі тады, калі бацька будучага пісьменніка знаходзіўся ў нямецкім палоне, але і тады, калі ён з гэтага палону вярнуўся дамоў.

Пасля вызвалення ў 1944 годзе Сакрат вучыўся ў пачатковай школе і, закончыўшы яе, паступіў у Беластоцкі электратэхнічны тэхнікум, які закончыў у 1955 годзе. Напачатку працаваў па сваёй спецыяльнасці на баваўняным камбінаце ў Фастах пад Беластокам. У канцы 1955 года ў польскім грамадскім жыцці паявіліся сімптомы, якія сведчылі аб тым, што кіруючыя Польшчай палітычныя эліты схільныя стварыць пэўныя спрыяльныя ўмовы для дзейнасці нацыянальных меншасцяў. Дзякуючы гэтаму магло на пачатку 1956 года ўзнікнуць БГКТ і ягоны орган «Ніва». С. Яновіч прымаў актыўны ўдзел у маладым беларускім руху. Ён пакінуў працу на баваўняным камбінаце і стаў перакладчыкам, а пасля журналістам у рэдакцыі «Нівы». У 1959–1962 гадах працаваў загадчыкам арганізацыйнага аддзела ў Галоўным праўленні БГКТ. У міжчассе закончыў аддзяленне беларускай філалогіі ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Пасля 1962 года вярнуўся ў «Ніву», дзе працаваў журналістам да 1970 года. У гэты час ён вёў ажыўленую перапіску з гродзенскім пісьменнікам Аляксеем Карпюком і

з іншымі беларускімі савецкімі пісьменнікамі. У сваіх лістах моцна акцэнтаваў нацыянальныя беларускія пытанні, асабліва падкрэсліваў праблему русіфікацыі Беларусі. Лісты гэтакага тыпу перахопліваліся савецкімі органамі, якія перадавалі весткі аб іх польскай бяспецы. Польскія органы распачалі шырокую акцыю нападкаў, мэтай якіх было даказаць, што Яновіч з'яўляецца беларускім нацыяналістам. У выніку такіх акцыяў Яновіч быў звольнены з працы і выключаны з шэрагаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Працаваў чорнарабочым, прадаўжаючы завочную адукацыю ў Варшаўскім універсітэце на факультэце польскай філалогіі. У 2-й палове 70-х і ў 80-х гадах у перыяд лібералізацыі польскай палітычнай сістэмы працаваў у ваяводскім Доме культуры і ў рэдакцыі «Нівы». Пасля пакінуў работу і не вярнуўся да яе нават тады, калі ў 1989 годзе канчаткова абвалілася сацыялістычная сістэма. У гэты час С. Яновіч праяўляў вялікую палітычную актыўнасць, моцна акцэнтаваў сваю непрыхільнасць да БГКТ. Прыклаў многа намаганняў для стварэння альтэрнатыўных беларускіх рухаў, дзякуючы чаму несумненна ажывіў беларускае грамадскае жыццё ў Польшчы. У 1990 годзе быў ініцыятарам паклікання да жыцця першай беларускай партыі — Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Партыя гэтая дзейнічае да сёння, аднак не знайшла шырэйшай падтрымкі з боку беларускага насельніцтва ў Польшчы.

З пачатку ўзнікнення беларускага літаратурнага руху ў Польшчы С. Яновіч адыгрываў у ім актыўную ролю — як аўтар і як дзеяч літаб'яднання «Белавежа». У 1970 годзе за свае літаратурныя дасягненні ён быў прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў.

## У ПОШУКАХ СТЫЛЮ

Першыя творы Сакрат Яновіч апублікаваў у 20-гадовым узросце. Паявіліся яны ў 1956 годзе ў тыднёвіку «Ніва» У наступныя гады пісьменнік безупынна праяўляў сваю прысутнасць у беларускамоўных перыядычных выданнях у Польшчы. Дзякуючы сваёй творчай актыўнасці, С. Яновіч стаўся адным з пачынальнікаў беларускага руху ў Польшчы і сваёй творчасцю прычыніўся да ўзнікнення літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Ягоная актыўнасць захавалася да сёння.

Вяртаючыся да Сакрата Яновіча 2-й паловы 50-х гадоў, трэба сказаць, што ён увайшоў у беларускі літаратурны рух

як аўтар малых апавяданняў. З гэтага, аднак, не вынікае, што аўтар з'яўляецца паслядоўным празаікам. Рэч у тым, што амаль усе яго творы ранняга перыяду па сваім настроі мелі глыбока рэфлексійны характар. Малады Сакрат Яновіч пісаў паэтычныя замалёўкі ў форме кароценькіх апавяданняў, якія захоўвалі жывую сувязь з паэтычнай прозай Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага і Янкі Брыля. Зразумела, што ўсе апавяданні пісьменніка былі насычаныя ўсходнебеластоцкімі грамадскімі і нацыянальнымі рэаліямі. У большыні ранніх твораў Яновіч асуджаў беларускае рэнегацтва, абыякавыя альбо нават пагардлівыя адносіны беларусаў да роднае мовы, нізкапаклонства перад чужым.

Апрача лірычных апавяданняў, якія могуць быць залічаныя ў аднолькавай ступені як да прозы, так і да паэзіі, ён стварыў нямала выдатных рэалістычных апавяданняў. Гэты тып ягоных малых празаічных формаў звяртаўся найчасцей да рэалій родных Крынак — малога мястэчка, якое ў даваенны, ваенны і пасляваенны час пульсавала спецыфічным этнічным, нацыянальным і этычным жыццём. Нярэдка звяртаўся Сакрат Яновіч да побыту ўласнай сям'і і да постаці бацькі, які дзякуючы прафесіі шаўца быў свайго роду магнітам, што прыцягваў мясцовых напаўсялян і напаўмяшчан, сярод якіх нямала было арыгіналаў. Апавяданні, якія грунтаваліся на такой сацыялагічнай глебе, характарызуюцца паслядоўным рэалізмам. Праўда, і ў гэтакага тыпу творах час ад часу праяўляецца лірызм, аднак не ён акрэслівае іх асноўную інтанацыю. Некаторыя з ягоных апавяданняў былі вытрыманыя ў настроі лёгкай іроніі і камізму, якія амаль ніколі не ператвараюцца ў сарказм і сатыру. Галоўную ўвагу Сакрат Яновіч канцэнтраваў заўсёды на чалавеку, на яго характары і паводзінах, на яго недасканаласцях і заганах. Чалавечыя цноты — гэта госці намнога больш рэдкія, чым чалавечыя заганы. Іх Сакрат Яновіч як пісьменнік выхоплівае ў сваіх герояў з вялікай лёгкасцю і эфектнасцю. Агромністая большыня герояў Яновіча — гэта беларусы, якія нярэдка дэманструюць абыякавыя адносіны да нацыянальнай атрыбутыкі.

Апрача чалавечых постацей ранні Сакрат Яновіч нярэдка выкарыстоўвае элементы пейзажу. Адносіцца гэта асабліва да ягонай паэтычнай прозы. Прыродныя элементы выконваюць у творах пісьменніка ролю эмацыянальных носьбітаў, заданнем якіх з'яўляецца ўнясенне ў твор акрэсленай дозы тае пачуццёвасці, якая павінна ўзрушыць чытача і напоўніць ягонае нутро канкрэтнымі настроямі.

Усю раннюю прозу характарызуе слоўны лаканізм. Сакрат Яновіч праграмна пазбягае шматслоўнасці.

## ПЯСНЯР СЯЛЯНСКАГА АДРАЧЭННЯ

Практычна ўсе малыя празаічныя творы Сакрата Яновіча змяшчаюцца ў тэматычнай формуле сялянскай альбо маламястэчковай беларускай рэчаіснасці. Пасля Другой сусветнай вайны зачыненыя шчыльна ад вякоў беларускія сялянскія абшчыны пачалі хутка развальвацца. Дзясяткі тысяч маладых беларусаў хлынулі ў адчыненыя гісторыяй дзверы і стрымгалоў кінуліся ў гарады. З імклівай хуткасцю ўчарашнія пастушкі станавіліся вучнямі, студэнтамі, рабочымі, а пасля афіцэрамі, вучонымі і дырэктарамі. Паявіліся постаці, абсалютна невядомыя колішняй беларускай вёсцы: прафесары, дыпламаты, палкоўнікі і нават генералы. Гэтакага беларуская вёска не чакала. Мала хто з гэтай неафіцкай грамады знайшоў у сабе мужнасць і гатоўнасць да абароны сваёй учарашняй беларускасці, якая ніяк не падыходзіла да новых умоваў жыцця, да новых суседзяў, да гарадской вуліцы, да месца службы і нават да ўласнай сям'і. Беларускасць станавілася тормазам, які трэба было як мага хутчэй прыхаваць, а то і знішчыць. Большасць выхадцаў з беларускіх вёсак зрабіла гэта з вялікай паспешлівасцю і без лішніх душэўных сумненняў. Старая вёска са здзіўленнем глядзела на вялікія поспехі сваіх дзяцей, захаплялася іх прыгожай вопраткай, нямела ад іх новых машын і ў найменшай ступені не абуралася тым, што ўчарашнія вясковыя дзеці, а сёння гарадскія жыхары не толькі з уласнымі дзецьмі і жонкамі, але часта і з вясковымі бацькамі размаўляюць на польскай мове. Беларушчына ў свядомасці амаль усіх беларусаў — і тых гарадскіх вясковых — станавілася арганічным атрыбутам тае старыны, якая атаясамлівалася з убогасцю, забітасцю і цемрай, а пальшчызна спалучалася з прыгожым новым дабрабытам і перспектывай на далейшае ўзбагачэнне. Трэба, аднак, ведаць, што ступень уцёкаў ад роднага альбо, інакш гаворачы, ступень рэнегацтва была іншая ў гарадскіх дзяцей, чым у іх вясковых бацькоў. Бацькі, як правіла, заставаліся ў моўнай беларускай стыхіі і вельмі часта першыя звароты да іх з боку дзяцей папольску былі шокам. Аднак даволі хутка яны прызвычаіліся.

Якраз гэтыя праблемы адносінаў паміж вясковымі бацькамі і іх гарадскімі дзецьмі ляглі ў аснову большасці апавяданняў, якія склалі першы зборнік Сакрата Яновіча «Загоны». Прыблізна

адна трэць зборніка «Загоны» — гэта апавяданні, напісаныя ў форме лістоў бацькоў да сваіх дзяцей. Самотнасць беларусаў, якія засталіся ў вёсках, іх няўменне знайсці кантакт са сваімі гарадскімі ўжо дзецьмі аўтар паказаў у сваіх шматлікіх лірычных мініяцюрах. Прыкладам можа быць мініяцюра «Прыехаў».

«Глянь, маці, на сына. Ён сумны стаіць, бамбіза, і не ведае, куды падзець рукі. Падымі, маці, вочы. Ён здалёку прыехаў наведаць гаспадарку. Запытай, маці, як жывецца яму. Ён пакінуў цябе адну на загоне запушчаным. Прытуліся, маці, да шчакі! Ён не асмеліцца пацалаваць руку тваю. Прыгалуб, мамачка, кучму яго раскудлачаную. Ён вялікі ўжо чалавек і жаніцца будзе.

А пра нявестку нашто табе ведаць, маці? Ты ж у вёсцы свой век дажывеш».

## ПЕСНІ НА РУІНАХ МАЛОЙ АЙЧЫНЫ

Бадай што адзін з найчасцейшых матываў малых празаічных твораў Сакрата Яновіча — матыў маральнага краху. У пасляваенны перыяд у выніку небывалых грамадскіх перспектываў велізарныя групы вясковых беларусаў хлынулі ў гарады і сталіся ў большай ступені мяшчанамі, чым гараджанамі. Гэтак ці інакш, узнікла глыбокая прорва паміж пакаленнямі. Вясковыя бацькі сілаю рэчаў заставаліся захавальнікамі старых архаічных нормаў і прывычак, а іх гарадскія дзеці станавіліся носьбітамі новай местачковай маралі, якая дыктавала абыякавыя, непрыхільныя і нават варожыя адносіны да ўсіх атрыбутаў сялянскай беларускай рэчаіснасці, а перш за ўсё да мовы сваіх бацькоў і дзядоў.

Цікава, што маладое пакаленне беларусаў, праяўляючы сваю непрыхільнасць да духоўных вясковых каштоўнасцяў, наогул дэманстравала вялікую прыхільнасць да многіх атрыбутаў вясковай матэрыяльнай рэчаіснасці. Новая катэгорыя мяшчанства, якая выводзілася з беларускіх вясковых асяроддзяў, ахвотна вывозіла ў гарады ў залежнасці ад пануючай моды саматканыя ваўняныя тканіны, авечыя шкуры на кажухі, прадукты і грошы, калі толькі аказвалася, што вясковыя бацькі знаходзяцца ў добрым фінансавым становішчы.

Сакрат Яновіч як пісьменнік уважліва прыглядаўся да гэтага працэсу, што ў аднолькавай ступені быў напоўнены як драматычнымі, так і камічнымі элементамі. Практычна амаль усе апавяданні аўтара ілюструюць разнародныя формы сутыкнення старой беларускай вясковай псіхікі з новай псіхікай тых маладых

беларусаў, якія трапілі ў мястэчкі і гарады. Сутыкненне гэтае не заўсёды мае канфліктны характар і не ўсюды вядзе да паглыблення варожасці паміж бацькамі і дзецьмі. І калі яно так ёсць, дык перадусім дзякуючы бязмежнай цярплівасці і талерантнасці з боку старых беларусаў, якія праяўляюць пастаянную ахвоту зразумець і поўнасцю вытлумачыць і адобрыць усе дзеянні і паводзіны тых сваіх дзяцей, якія пераехалі ў гарады. Стаўленне старых беларусаў зводзіцца да безупыннага кампрамісу, а дакладней, да поўнага адмаўлення ад свайго «я» і гатоўнасці падпарадкаваць усё вясковае ўсяму гарадскому. Стаўленне маладых, наадварот, характарызуюць адназначнасць, катэгарычнасць і выразная непрыязнь да ўсяго таго свету маральных каштоўнасцяў, якія канцэнтруюцца ў характары бацькоў. Ці можна ў такой сітуацыі сказаць, што маладыя з'яўляюцца носьбітамі новых каштоўнасцяў, якія разбураюць адвечную сялянскую скасцянеласць і беларускі вясковы кансерватызм. На гэтак пастаўленае пытанне Сакрат Яновіч дае адназначна адмоўны адказ. Яго героі — маладыя беларусы, учарашнія сяляне, а сённяшнія мяшчане — не з'яўляюцца стваральнікамі новых этычных каштоўнасцяў. Яны, гэтаксама як месяц, што не стварае ўласнага святла, а толькі адлюстроўвае святло чужое, нясуць у вёску фальшывае святло мяшчанскай культуры і чужой нацыянальнай мовы. Практычна ўсе маладыя беларусы, што выступаюць у апавяданнях Сакрата Яновіча, — гэта людзі, якія ў меншай ці большай ступені здрадзілі ўсяму таму, што складае адвечнасць беларускай вясковай духоўнасці. І ніводзін з іх не здолеў, а найчасцей не схацеў, перадаць не толькі яе паўнаты, але нават яе асколкаў сваім дзецям, якія хоць і прыязджаюць у вёску, але ўсёй сваёй псіхалогіяй і мараллю адмаўляюць сваіх дзядоў.

Практычна амаль усе падзеі і ўсе канфлікты, з якімі мы маем дачыненне ў апавяданнях Сакрата Яновіча, разыгрываюцца на руінах беларускай вясковай духоўнасці. Праўда, С. Яновіч як пісьменнік стараецца выкрасаць з гэтых падзеяў і канфліктаў максімальную дозу паэтычнага лірызму, і дзякуючы гэтаму многія ягоныя апавяданні — гэта не толькі плачы, але і песні. Аднак трэба сказаць, што гэта песні на руінах. Зразумела, што такое заключэнне мае песімістычны характар. Аднак дыктуе яго не фантазія горкага крытыка, а толькі інтанацыя нашага сучаснага жыцця.

## ЛЯМАНТ ЧАЛАВЕЧАЙ САМОТНАСЦІ

У 1993 годзе Сакрат Яновіч выдаў досыць вялікую кніжку пад назвай «Доўгая смерць Крынак», якую склалі 26 апавяданняў і аповесць «Сцяна». Зборнік гэты, па сутнасці, працягвае ранейшыя тэндэнцыі, што выступаюць у большасці твораў аўтара. Тэндэнцыі гэтыя можна звесці да маніякальнага мыслення аб беларускім канцы свету. Можна паставіць пытанне, ці гэтакага тыпу маніякальнасць — гэта ўсяго толькі пісьменніцкая містыфікацыя, якая не мае нічога супольнага з рэчаіснасцю, ці гэта сканцэнтраваная ў мастацкіх вобразах балючая праўда аб беларусах у Польшчы?

Для кожнага сына беларускай нацыянальнай меншасці, які не ходзіць з павязкаю на вачах і не корміць свае душы ружовымі падманамі, няма сумненняў, што карціна беларускага жыцця, прадстаўленая Яновічам, аўтэнтычная. Сапраўды, на нашых вачах разваліліся традыцыйныя беларускія структуры, а такія фундаментальныя элементы гэтых структур, як мова і этычная сістэма жыцця, не толькі трэснулі, але ў многіх выпадках страцілі пад сабою грунт. Менавіта з гэтай прычыны Сакрат Яновіч выступае ў ролі плачкі, якая лямантуе над тым, што ўчора было дамінуючым, а сёння сталася маргінальным. Для ілюстрацыі гэтага балючага працэсу пісьменнік выкарыстоўвае безупынна два тыпы герояў альбо, лепш сказаць, дзве катэгорыі: маладых і старых. Глыбокі канфлікт паміж маладымі, якія прагнуць быць гараджанамі, і старымі, якія, па сутнасці, не супрацьстаяць тэндэнцыі, дамінуючай сярод дзяцей, але пры гэтым, з прычыны сваёй інертнасці, традыцыйнасці і старасветчыны ў нейкай ступені, найчасцей несвядома, становяцца абаронцамі таго, што прамінула, складае сутнасць літаратурных працаў Сакрата Яновіча. «Доўгая смерць Крынак» — гэта пэўная элегія ці эпітафія на пліце, якую рыхтуе пісьменнік для магілы не толькі сваёй мясцовасці, але, як гэта ні балюча, быць можа і для цэлай беларускай меншасці ў Польшчы, а хто ведае, ці і не ўсёй беларускай нацыі, якая выразна ўзненавідзела сябе і выразна не прагне аставацца жывой і гордай сярод жывых і гордых народаў свету.

А вось фрагмент лірычнай рэмінісцэнцыі «Занатоўкі для памяці»:

«На ўскрай сваёй палоскі мы рассцілалі радзюжкі, каб прысесці на сырой зямліцы паесці. На ручнік выкладвала бабулька пару гатаваных яек, па скібцы хлеба і ставіла адмысловую,

малую гладышку з кіслым малаком (акуратненька абвязаную хусцінкаю). Знаходзілася й крышынка солі.

Яна памерла ў тое ж маё маленства, няспешна і ўрачыста. Пасля яе смерці людзі пачалі пакідаць сярпы, перасталі пасвіць, а потым кінуліся рабіць усенька машынамі, багацець ды страчваць розум. Я тым часам вырас, паканчаў усякія школы і сумна палепшваў свет з Беларусяй, каб, урэшце, пастарэць і задумацца над тым, што казала яна, мая непісьменная бабуля. Пахаваў я яе, бы тысячагадовы беларускі лёс, і, пакруціўшыся па жыцці, сам цяпер не ведаю, як мне быць. Новы час адказвае неяк няшчыра, у яго што ні дзень — то іншая праўда. І бацькі мае гэтак жа разгубіліся».

## СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Сакрат Яновіч увайшоў у беларускі літаратурны рух перадусім як навеліст. У кароткіх лаканічных формах, карыстаючыся маласлоўем, ён патрапіць заўсёды даць максімум сэнсу і зместу.

Аднак спадчына пісьменніка не абмяжоўваецца толькі кароценькімі навеламі, апавяданнямі і мініяцюрамі. Мы знаходзім у ёй і большыя празаічныя формы. Разгледзім ягоную мікрааповесць «Сярэбраны яздок», якая ўзнікла ў 1984 годзе. Твор гэты заснаваны на фрагментах студзеньскага паўстання на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Сакрат Яновіч, апрача многіх іншых аспектаў паўстання, займаецца не высветленым па сённяшні дзень пытаннем месца друку «Мужыцкае праўды». Аўтар адкідае Вільню і Беласток як месцы лакалізацыі друкарні, ён схільны звязваць яе дзейнасць з ваколіцамі Саколкі. Зразумела, што тут мы маем дачыненне з гіпотэзай, якую нельга ані пацвердзіць, ані адкінуць. Мы, аднак, не маем сумнення ў тым, што подпіс пад паасобнымі нумарамі «Мужыцкае праўды» — «Яська гаспадар з-пад Вільні» адназначна сведчыць пра тое, што газета гэтая ні ў якім выпадку ў Вільні не выдавалася, а напамін аб Вільні меў зманлівы характар.

Сакрат Яновіч уводзіць у змест твора каля 10 досыць сакавітых постацяў герояў, сярод якіх — жанчына, што праяўляе значныя канспірацыйныя здольнасці.

«Сярэбраны яздок» ні ў якім выпадку не прэтэндуе на шырокі ахоп падзеяў, звязаных са студзеньскім паўстаннем. Адносіцца ён толькі да яго фрагментаў, а можа лепш сказаць — перыферыяў. Мабыць, аўтару хацелася падкрэсліць, што яго

родная Сакольшчына адыграла ў гэтай гістарычнай падзеі істотную ролю.

Мы можам гаварыць аб прысутнасці ў мікрааповесці праяваў гістарычнага фальшу. Так, аўтар у некалькіх месцах свайго твора гаворыць пра пакліканне ў Вільні паўстанцкага органа, які называўся Беларуска-літоўскі чырвоны ўрад. Вядома, што ніколі гэтакі орган не быў створаны, і таму вестка аб ім з'яўляецца фікцыяй, на якую, быць можа, пісьменнік-белетрыст мае права. Справа ў тым, што кожны літаратурны твор, нават такі, які грунтуецца на канкрэтнай гістарычнай падзеі, не з'яўляецца поўнасцю верагодным і гістарычна аўтэнтычным актам.

Містыфікатарства аўтара не абмяжоўваецца толькі прыдуманымі паўстанцкімі органамі. У творы моцна надуманая ў сэнсе верагоднасці паездка начальніка контрразведкі пры генерал-губернатары Мураўёве палкоўніка Лосева, які, даведаўшыся выпадкова аб дзяўчыне, што саскочыла ў раёне Саколкі з цягніка, едзе з Вільні ў Саколку, а пасля і ў глухую беларускую вёску, каб на месцы разабрацца ў гэтай справе. Зразумела, што галоўны царскі сышчык палкоўнік Лосеў ні ў якім выпадку не мог бы без моцнага эскорту прагульвацца па сакольскіх вясковых ваколіцах.

І ўсё ж такі, на нашу думку, фантазія Сакрата Яновіча, калі і не супадала ў многім з аўтэнтычнымі фактамі, аднак у асноўным яна не пярэчыла тым галоўным тэндэнцыям, якія акрэслівалі сутнасць студзеньскага паўстання на этнічных беларускіх землях.

Не можа не зацікавіць чытача вобраз Кастуся Каліноўскага, якому, праўда, адведзена ў аповесці другарадная роля. Постаць дыктатара паўстання ў аповесці моцна размытая, туманная і нават міфалагічная. Зусім магчыма, што расплывістасць і размытасць гэтага героя не выпадковая, але поўнасцю прадуманая і запланаваная. Быць можа, што якраз такім чынам Сакрат Яновіч прагнуў даказаць геніяльныя канспірацыйныя здольнасці Кастуся Каліноўскага, які, як вядома, выбраў дасканалы варыянт падпольнай дзейнасці і жыў у Вільні паблізу штаб-кватэры генерал-губернатара Мураўёва. І, праўдападобна, калі б не здрада Парафіяновіча, дык ён мог бы выратаваць сваё жыццё і пазбегнуць трагічнага лёсу.

Нягледзячы на гэта, другарадная роля Кастуся Каліноўскага ў аповесці Сакрата Яновіча ўзбуджае поўнасцю матываваныя прэтэнзіі да аўтара. Яго твор, па сутнасці, абмінае Каліноўскага як палітыка, як беларускага нацыянальнага дзеяча, як публіцыста, як паэта, як выдатнага паўстанцкага вайскоўца і,

урэшце, як непахіснага царскага вязня, які нават пад вісельняй не выракся сваіх ідэалаў. Кастусь Каліноўскі быў павешаны 22 сакавіка 1864 года ў Вільні.

Памятайма, аднак, што аўтар, які стварае не аўтэнтычную аб'ектыўную карціну, а толькі суб'ектыўную літаратурную, мае поўнае права другараднае ўзняць да першапланавага рангу і наадварот. Гэтакім правам несумненна пакарыстаўся Сакрат Яновіч у сваім «Сярэбраным ездаку», у якім мы знаходзім нямала фіктыўных сцэнаў і сітуацыяў, што ў значнай ступені змяшчаюцца ў паўстанцкім аўтэнтызме. І якраз гэтая рыса ды ўласцівасць твора пераканаўча пацвярджаюць думку аб тым, што «Сярэбранага ездака» трэба трактаваць не як няўдачу, але як творчае дасягненне пісьменніка.

## АПОВЕСЦЬ «СЦЯНА» І АБАРОНА ПРАЎДЫ

Літаратурная спадчына Сакрата Яновіча ўключае аповесць «Сцяна». Твор гэты быў напісаны і выдадзены на польскай мове ў 1979 годзе, а ў 1993 годзе — у сваім беларускамоўным варыянце. Ён быў змешчаны ў зборніку «Доўгая смерць Крынак».

С. Яновіч у «Сцяне» карыстаецца прыёмам вельмі тыповым для многіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, між іншым, для В. Дуніна-Марцінкевіча. Пісьменнікі гэтыя вельмі любілі надаваць сваім героям прозвішчы са зместава-характаралагічным значэннем. Як вядома, Дунін-Марцінкевіч уводзіў у свае творы такія прозвішчы, як Лятальскі, Пачціўскі, Выкрутач, Кручкоў, Прыгаворка. Гэтакага тыпу прозвішчы адлюстроўвалі характар і паводзіны асоб, з якімі былі звязаныя. Зыходзячы з такога прынцыпу, Яновіч назваў галоўнага героя «Сцяны» Сцяпанам Сумляневічам і прыпісаў яму рысы паслядоўнага чалавека, які на працягу ўсяго жыцця кіруецца прынцыпам непадкупнасці і сумленнасці.

Аднабаковасць гэтага твора, між іншым, у тым, што апрача аднаго сумленнага чалавека, якім з'яўляецца Сцяпан Сумляневіч, усе іншыя постаці ў большай альбо меншай ступені звязаныя з камбінацыямі і жульніцтвам у прафесійнай дзейнасці ды ў штодзённым жыцці. Да такога тыпу людзей належаць таксама людзі, найбліжэйшыя Сумляневічу: цесць і нават жонка.

У «Сцяне» мы маем дачыненне з даволі спрошчаным тыпам канфлікту, які зводзіцца да канфлікту паміж высакароднасцю Сумляневіча і подласцю ўсіх іншых герояў, якіх у аповесці вы-

ступае больш за 10. Зразумела, што канчатковы вынік такога канфлікту адназначны. У адрозненне ад казак, у якіх дабро заўсёды перамагае зло, у Сакрата Яновіча зло перамагае дабро.

Вялікі недахоп аповесці «Сцяна» — яе кампазіцыя. Першая палова твора патанае ў бязруху дзеяння. Амаль да апошніх старонак аўтар топчацца на месцы, патанаючы ў гэтак званым псіхалагічным самааналізе галоўнага героя. Ход падзеяў у гэтай частцы твора настолькі замаруджаны, што адбірае ахвоту чытаць яго нават у выпадку найбольш талерантнага і цярплівага чытача. У другой палове «Сцяны» аўтар радыкальна прыспешвае ход падзеяў. Адступае ад нуднага аналізу псіхікі герояў і разгортвае тую праслойку аповесці, якая адносіцца да акцыйнай дынамікі. І дзякуючы гэтаму твор пачынае выразна выйграваць, дастаўляючы чытачу новыя падзеі, факты і здарэнні.

Сказанае дагэтуль аб адмоўных баках аповесці не вычэрпвае яе недахопаў. Да іх трэба аднесці яшчэ, між іншым, нявырашаную справу смерці сакратаркі, якая на пачатку твора заакцэнтавана аўтарам як вельмі істотная асоба. Мала выразная і нават наіўная сцэна падпалу спакойным, прынцыповым і разумным Сцяпанам Сумляневічам машыны свайго шэфа.

Гэта аб недахопах. А што ў аповесці трэба аднесці да творчых здабыткаў і ці ўвогуле такія ў ёй ёсць? Несумненна, ёсць. Да іх трэба залічыць прынцыповасць аўтара і ягонага галоўнага героя. Як адзін, гэтак і другі стаяць на грунце вернасці той маральнай прынцыповасці, якая лічыць, што чалавек, нягледзячы на найгоршае ў нашым жыцці, павінен заставацца верным тым каштоўнасцям, дзякуючы якім ён залічаецца да гатунку homo sapiens.

Якраз увесь канфлікт паміж героямі «Сцяны» і зводзіцца да змагання паміж тым, што ў нашым жыцці мае, з аднаго боку, свінячы, а з другога — высока чалавечны характар. І хоць кожнаму элементарна разумнаму чалавеку вядома, што перамога ў такіх сітуацыях будзе на баку зла, а не дабра, усё ж такі мы не можам не салідарызавацца з тымі, хто найчасцей самотна кідае рукавіцу ў твар подлай чалавечай большасці. Гэтакім тыпам героя паказаны якраз Сцяпан Сумляневіч, які на пачатку кіруецца наіўным рамантычным перакананнем, паводле якога даволі мець рацыю, каб перамагчы. У канцы аповесці галоўны герой усведамляе тое, што ён не меў рацыі, верачы ў перамогу высакароднага над подлым. Ён ужо ведае, што зло найчасцей пераможнае, а дабру, як правіла, уласціва няўдача. Аднак, дзейнічаючы па інерцыі, ён ужо не можа затрымацца і працяг-

вае бегчы за праўдай, хоць ведае, што гэты бег давядзе яго да гібелі. У гэтым якраз і выяўляецца самагубная прынцыповасць галоўнага героя, якая дазваляе аўтару, а таксама і чытачу верыць, што за прайграную праўду прыходзіцца заплаціць значна больш, чым за выйграную ману.

Герой «Сцяны» Сцяпан Сумляневіч прайграў усё: добрую пасаду, неблагі заробак, пашану людзей, сямейнае суладдзе і жонку. Баронячы праўду, ён стаўся разбіткам на хісткай крызе, але праўду не пакінуў. Свядома пайшоў на дно. Аднак выратаваў сваю чалавечнасць. Такі глыбока гуманны сэнс «Сцяны», і нельга яго не падтрымліваць, нельга з ім не атаясамлівацца незалежна ад таго, якія мы маем погляды і прынцыпы.

## АПОВЕСЦЬ «СЦЯНА» І ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ

Працягваючы разважанні аб аповесці Сакрата Яновіча, варта задумацца над адносінамі гэтага твора з рэчаіснасцю альбо, як кажуць, з праўдай жыцця. Калі ацэньваць гэтую аповесць з такога пункту гледжання, дык трэба ацаніць яе высока. Ведаючы праўду аб пасляваенным жыцці ва ўсёй Польшчы, у тым ліку і на Беласточчыне, якая прадстаўлена досыць шырока ў «Сцяне», трэба сказаць, што Яновіч выступіў як добры і верагодны знаўца таго, што мы называем сапраўдным жыццём. У жыцці гэтым, на жаль, нярэдка дамінавалі камбінацыі і злачынствы, якія ўздымаліся да рангу нармальнасці, калі толькі служылі не адной, але большай групе асоб. У «Сцяне» мы маем дачыненне з сітуацыяй, у якой камбінацыі дырэктара ўстановы ў нейкай ступені служаць усім супрацоўнікам і таму падтрымліваюцца імі. У гэтакіх умовах змаганне галоўнага героя Сцяпана Сумляневіча за маральную чысціню, за сумленнасць і за ісціну набываюць у вачах большасці характар шкодных дзівацтваў, якія павінны быць асуджаны. І так яно ў аповесці сталася. Урэшце ў паводзінах Сцяпана Сумляневіча ўсе ўбачылі не высакароднасць непадкупнага чалавека, а толькі маніякальнага тыпа, які ў імя нейкай абстрактнай справядлівасці і праўды прагне парушыць спакой і парадак установы, што дзейнічае добра і дасягае станоўчых вынікаў у сваёй працы. І таму кантрольны пратакол, у якім Сцяпан Сумляневіч фіксуе многія няправільнасці, парушэнні і нават гаспадарчыя злачынствы, усімі прымяншаецца, бо вядома, што абнародаванне гэтых фактаў пашкодзіць інтарэсам супрацоўнікаў цэлай установы. У гэтакай сітуацыі

людзі не толькі не становяцца на бок праўды, але схільныя ману трактаваць як ісціну. З гэтай прычыны ўсе сябры па працы, хоць і ведаюць, што Сцяпан Сумляневіч мае рацыю і не мае яе дырэктар установы, схільныя ўрэшце сказаць адваротнае таму, што яны ведаюць і думаюць. І таму ў аповесці «Сцяна» Сцяпан Сумляневіч застаецца самотным Дон Кіхотам, які выклікае калі не вострае асуджэнне, дык літасцівую ўсмешку. Зразумела, што ў гэтакіх абставінах Сумляневіч мусіць прайграць і сапраўды прайграе поўнасцю. Ягоны кантрольны пратакол, які павінен быў выкрыць дырэктара, не робіць гэтаму чалавеку ніякай шкоды, але самога Сумляневіча прыводзіць у судовую пастку. Сумляневіч з абвінаваўцы становіцца падсудным і з суда выходзіць вязнем. Такім чынам заканчваецца місія сумленнага чалавека. Лёс галоўнага героя «Сцяны» пацвярджае погляд, што людзі толькі да часу служаць праўдзе. Кажучы дакладней, людзі зацікаўленыя праўдай толькі да тае ступені, якая гарантуе ім карысць. Калі праўда пазбаўляецца атрыбуту пажытку, яна траціць у асяроддзі людзей абаронцаў і энтузіястаў. Ніхто не бывае настолькі самотным і адзінокім, як праўда, якая пазбылася здольнасці прыносіць людзям канкрэтную карысць.

Агульны сэнс аповесці «Сцяна» песімістычны. Зводзіцца ён да таго, што большасць людзей — гэта нікчэмнікі і лайдакі, якія хочуць ведаць ісціну толькі тады, калі яна ім напаўняе кішэні, і ахвотна аднекваюцца ад яе, калі пераконваюцца, што ісціна не служыць іх інтарэсам.

Аповесць Сакрата Яновіча мае выкрывальніцкі характар. Яе асуджальнае вастрыё скіраванае супраць усіх герояў, за выключэннем постаці Сцяпана Сумляневіча. Зрэшты, калі разабрацца, дык і гэты персанаж далёкі ад поўнай беззаганнасці.

Застаецца яшчэ высветліць, здавалася б, дзіўную назву твора — «Сцяна». Мае ён несумненна трапны сімвалічны характар. Маральная сцяна ў аповесці — людзі, іх нікчэмнасць, эгаізм, бяздушнасць, хітры разлік і подласць. «Сцяну» складаюць таксама паліцэйскія следчыя і судовыя органы, якія шаблонна, прымітыўна і аднабакова кідаюць на шалі справядлівасці чалавечы лёс і прысуджваюць да зняволення таго, хто не вінаваты, пры гэтым апраўдваюць тых, хто вінаваты.

Уся духоўная афера людзей і спалучаныя з ёю юрыдычныя ды следчыя сістэмы ўзводзяць сцяну, аб якую разбівае галаву кожная праўда, асабліва тады, калі яна не толькі не гарантуе людзям канкрэтную карысць, але прыносіць ім абмежаванні і шкоду.

Усё дагэтуль сказанае пра аповесць «Сцяна» сведчыць аб тым, што гэты твор слабы кампазіцыйна і недасканалы з пункту гледжання злоўжывання тэматычнымі адступленнямі і рэтраспекцыямі, але пры гэтым моцны ў аспекце зараду тае грамадзянска-псіхалагічнае праўды, якая неабходная кожнаму з нас для ўласцівай інтэрпрэтацыі рэчаіснасці.

## АПОВЕСЦЬ «САМАСЕЙ»

Аповесць «Самасей» — вялікі твор Сакрата Яновіча. Узнікла яна ў 1981 годзе, гэта значыць, праз два гады пасля аповесці «Сцяна». Мабыць, гэтая часавая блізкасць акрэсліла значнае падабенства твораў. Аналогіі праяўляюцца, між іншым, у шматслоўнасці, дэталёвасці апісанняў, наяўнасці частых тэматычных адступленняў, значнай колькасці эпізадычных выпадковых постацяў, частых рэтраспекцыях, замаруджаным ходзе падзеяў. Усё гэта ў «Самасеі», таксама як мы ўжо бачылі ў «Сцяне», выклікае ўражанне тармажэння дзеяння на працягу ўсяго твора. Надаедлівыя ў ім безупынныя роздумы героя аб самім сабе, аб сваім мінулым, аб сваіх адчуваннях і перажываннях. Аўтар многа разоў паўтарае адзін і той самы прыём, які заключаецца ў спатканні галоўным героем на вуліцы нейкага свайго знаёмага. Гэтакага тыпу дробязны факт выклікае заўсёды хвалю роздумаў Андрэя Антошкі аб мінулым і сучасным. Роздумы гэтыя, як правіла, павінны засведчыць глыбіннасць героя і духоўную пустэчу напатканага знаёмага. Частыя паўторы прыёму выпадковых сустрэчаў выклікаюць ураженне шаблоннасці, якая стварае атмасферу манатоннасці і паўторнасці. Найгорш тое, што напатканыя такім чынам асобы не выконваюць, па сутнасці, ніякай канструктыўнай функцыі. Ііаяўляюцца яны ў творы нечакана і нечакана гінуць з яго беспаваротна. Адзіныя эпізадычныя персанажы, якія выконваюць у творы істотную паслядоўную функцыю, маці і бацька Антошкі. Асабліва маці, якая паяўляецца ў творы многа разоў і выконвае ў ім ролю ідэальнай выспы, на якой герой лечыць свае нервы і вяртаецца да духоўнай раўнавагі. Час ад часу паяўляецца ў аповесці і постаць бацькі героя. Некаторыя сцэны, звязаныя з сустрэчамі Андрэя Антошкі з бацькам, маюць характар вельмі цікавых замалёвак з пункту погляду псіхікі і маралі вясковага чалавека. Да гэтакіх вельмі ўдалых у мастацкім і псіхалагічным сэнсе сцэнаў трэба аднесці тыя фрагменты аповесці, у якіх аўтар апісвае спробы

бацькі Андрэя Антошкі ажаніць свайго сына. Асаблівай увагі заслугоўваюць дыялогі паміж бацькам героя і маці сватанай дзяўчыны, якія трапна і пластычна адлюстроўваюць душу традыцыйных беларусаў. Мы знаходзім тут каларыстычныя праявы беларускай перадвясельнай абраднасці. На жаль, сцэны і апісанні, што ажыўляюць сонную атмасферу аповесці, з'яўляюцца рэдкасцю. Наогул, дзеянне «Самасея» патанае ў шматслоўнасці і забойчай для кампазіцыі твора дэталёвасці. Аўтар выразна злоўжывае цярплівасцю чытача, калі інфармацыю аб тым, што герой выняў з кішэні хустачку, разбудоўвае такімі непатрэбнымі нікому дэталямі, як «выняў хустачку, зладжаную ў квадрацік, белую з палосачкамі». Згубіўшыся ў падрабязнасцях, звязаных з выглядам насоўкі, аўтар не тлумачыць, дзеля чаго герой дастаў з кішэні хустачку і як яе выкарыстаў.

Апрача тае праслойкі аповесці, якая датычыць псіхічнага самааналізу галоўнага героя, мы знаходзім у творы, асабліва ў другой яго палове, вялікую колькасць інфармацыі пра адміністрацыйную ўстанову, у якой працуе Андрэй Антошка. І тут таксама выяўляецца вялікае падабенства паміж «Сцяной» і «Самасеем». У «Самасеі» так, як раней у «Сцяне», з сярэдзіны твора ўзнікае значнае прыспешванне падзеяў. Установа, у якой працуе Андрэй Антошка, моцна нагадвае ўстанову, у якой дзейнічаў ужо вядомы нам Сцяпан Сумляневіч. І тут, і там чыноўнікі стараюцца праўдай і няпраўдай узнімаць як найвышэй прэстыж сваіх установаў, не пагарджаючы большымі альбо меншымі камбінацыямі і подласцямі. Па сутнасці, амаль усе чыноўнікі карыстаюцца той катэгорыяй несумленнасці, якая дазваляе будаваць штучна дзьмуты аўтарытэт установы. Элемент несумленнасці не чужы таксама Андрэю Антошку, які, між іншым, здольны карыстацца гэтакім амаральным прыёмам, як ананімкі.

Мы можам гаварыць аб аналогіях у заканчэннях «Сцяны» і «Самасея». Як мы ўжо ведаем, Сцяпан Сумляневіч са «Сцяны» прайграў змаганне за праўду і трапіў у турму. Андрэю Антошку з «Самасея», па сутнасці, пашчасціла. Пасля многіх перыпетыяў і нечаканага павышэння па службе наступіў ягоны ўпадак у адміністрацыйнай кар'еры і радыкальнае паніжэнне на чыноўніцкай лесвіцы.

Аднолькавы таксама радавод гэтых герояў. Абодва яны выйшлі з вясковага асяроддзя і абодва інтэлігенты ў першым пакаленні.

Адным словам, «Сцяна» і «Самасей» настолькі кампазіцыйна і стылістычна паралельныя, што, чытаючы гэтыя творы, нам здаецца, што адна аповесць з'яўляецца ў нейкай ступені паўторам другой.

У суме, абодва творы запярэчваюць малым празаічным формам Сакрата Яновіча не толькі жанравымі асаблівасцямі, але перш за ўсё тым, што лаканізм і выключная ашчаднасць слова ў апавяданнях пісьменніка замяняюцца ў аповесцях выразным злоўжываннем шматслоўнасцю.

## У ПАЯДЫНКУ З РЭНЕГАЦТВАМ

Практычна ўсе малыя празаічныя творы Сакрата Яновіча адзначаюцца лаканічнасцю. Ашчаднасць слова — гэта свайго роду праграма апавяданняў, навелаў, а тым больш мініяцюраў. Маласлоўнасць ён узвёў да рангу творчага прынцыпу і ўсёй метадалогіі пісьменніцкага занятку. Дэкларацыя, паводле якой павінна быць у творы словам цесна, а думкам прасторна, у малых празаічных творах Сакрата Яновіча стасуецца з вялікай паслядоўнасцю і пастаяннасцю. Дзякуючы гэтаму практычна ўсе апавяданні пісьменніка, нягледзячы на сваю малагабарытнасць, з'яўляюцца носьбітамі вялікіх дозаў зместу і сэнсавага значэння. Амаль усе апавяданні і навелы Сакрата Яновіча пра адносіны паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі беларусаў, якія пасля вайны апынуліся ў розных, нават супрацьлеглых сацыяльна-псіхалагічных сітуацыях. Старое пакаленне засталося захавальнікам беларускай сялянскай адвечнасці, а маладое, трапіўшы ў гарадскія абставіны і апынуўшыся ў польскім асяроддзі, хутка заўважыла, што яго вясковая пупавіна не толькі не пастаўляе жыццядайнай крыві, але атручвае ягоны арганізм архаічнасцю, якая яго абмяжоўвае і нават кампраметуе. З гэтае прычыны маладыя беларусы, якія папалі ў мястэчкі і гарады, зрабілі вельмі многа для таго, каб максімальна аддаліцца ад беларускага этнасу і як найшчыльней далучыцца да этнасу польскага. Першай смяротнай ахвярай гэтакай тэндэнцыі сталася беларуская мова, якую маладыя беларусы выкінулі са свайго штодзённага ўжытку, замяніўшы яе без шкадавання пальшчызнай. Польская мова праявіла шматлікія перавагі над беларускай. Яна зрабілася адзіным сродкам зносін на працы, на вуліцы, а таксама ў сям'і. Сталася гэтак не толькі ў сем'ях змешаных, польска-беларускіх, але і ў тых, дзе муж і жонка бе-

ларусы і вельмі часта паходзілі з тае самае вёскі, дзе на працягу ўсяго дзяцінства ды ранняй маладосці размаўлялі паміж сабою выключна па-беларуску.

Сакрат Яновіч як аўтар малых празаічных твораў менавіта ў гэтакай з'яве ўбачыў галоўны чыннік заняпаду і развалу беларускасці ў Польшчы. Ён адным з першых беларускіх пісьменнікаў пачаў біць у звон трывогі. Па сутнасці, амаль усе ягоныя мініяцюры, апавяданні і навелы з'яўляюцца формаю асуджэння і абвінавачання ўсіх тых беларусаў, што ўзышлі на шлях рэнегацтва і нацыянальнай здрады. У разуменні пісьменніка рэнегацтва — гэта праява аднае з найгоршых чалавечых подласцяў. Празаік уступае з гэтай подласцю ў адзінаборства, вядзе безупынныя дуэлі і паядынкі і практычна ўсюды і заўсёды іх прайграе. Будучы рэалістам і грунтуючыся на факталогіі, а не фікцыі, ён стварае амаль выключна тыпы герояў-рэнегатаў, а не носьбітаў беларускай нацыянальнай годнасці. Ён прагне, такім чынам, заставацца ў згодзе з праўдай і не хоча ствараць нацыянальныя міражы ды міфы.

Нягледзячы на падкрэслены лаканізм, малыя празаічныя формы Яновіча вельмі змястоўныя і маштабныя. Пранізвае іх боль і пачуццё бяссільнасці чалавека, які бачыць зло, але не ў стане яго перамагчы. З гэтага вынікае клімат горычы, які ахутвае большасць апавяданняў і навелаў пісьменніка.

З зусім іншай тэндэнцыяй мы маем дачыненне ў аповесцях Сакрата Яновіча. У іх на месца дыктатуры сэнсу прыходзіць дыктатура мнагаслоўнасці. Героі ягоных аповесцяў «Сцяна» і «Самасей» — гэта таксама прадстаўнікі таго пакалення беларусаў, якія пакінулі вёску і пачалі рабіць кар'еры чыноўнікаў-службоўцаў. І яны адчуваюць, што беларускасць ды ўвесь вясковы этнас — гэта путы на іх душах. Аднак у іх няма праграмнае варожасці да родных каранёў і ўсіх вясковых рэаліяў. Мы можам гаварыць пра іх прыстойнасць і сумленнасць. Аднак бюракратычны свет, у які яны папалі, тысячамі бачных і нябачных нітак аблытвае іх душы. І ўрэшце кідаюцца яны з галавою ў псеўдапсіхалагічную апраметнасць, без канца корпаючыся ў месіве ўспамінаў, дзякуючы чаму становяцца людзьмі штучнымі і тэатральнымі.

У суме проза Сакрата Яновіча, як малая, так і вялікая, — гэта карціна пасляваеннай беларускай вёскі і пасляваеннага польскага горада, які сваім магнітам павыцягваў з вёсак Усходняй Беласточчыны беларускія сэрцы і бязлітасна кінуў іх на гарадскія брукі ды асфальты. Па сутнасці, мы маем тут дачыненне з беларускай катастрофай, з беларускім самагубствам,

ці канчатковым — не ведаем. Будзем верыць, што беларускае літаратурнае слова, у тым ліку і Яновічава, праявіць магічную сілу, якая ўліе моц і веру ў беларускія душы.

На працягу многіх гадоў у публіцыстыцы аўтара мы знаходзім нямала экскурсаў у гісторыю, у якой ён стараецца знайсці доказы існавання беларускай незалежнай дзяржаўнасці.

Адна з публіцыстычных катэгорыяў у пісьменстве Сакрата Яновіча — ягоныя дзённікі, у якіх аўтар дзень за днём характарызуе сваё жыццё. Апрача выразна асабістых матываў ён часта звяртаецца да шырэйшага грамадскага аспекту сучаснай рэчаіснасці. У ацэнцы людзей Сакрат Яновіч найахвотней атакуе ўсіх тых, хто быў звязаны з сацыялістычнай сістэмай.

У публіцыстыцы Сакрата Яновіча мы знаходзім таксама шырокую аўтабіяграфічную характарыстыку свайго дзяцінства і ранняга юнацтва, родных, бацькоў, суседзяў і ўсяго беларускага маламестачковага асяроддзя з айчынных Крынкаў.

Па-за вядомымі ўжо нам апавяданнямі, навеламі, мініяцюрамі, аповесцямі і публіцыстыкай творчасць Сакрата Яновіча ўключае таксама п’есы. У суме напісаў ён іх некалькі. На іх падставе досыць цяжка сфармуляваць ацэнку маштабаў драматургічнага таленту гэтага пісьменніка. Няма сумненняў, што яны не верхавіннае дасягненне аўтара. Як правіла, знаходзяцца яны на ўзроўні магчымасцяў вясковых аматарскіх калектываў і патрабаванняў вясковага ды маламестачковага гледача. Што да тэматыкі драматычных твораў Яновіча, дык наогул яны адносяцца да паталагічных з’яваў у пасляваенным жыцці народнай Польшчы. Аўтар ахвотна запаўняе сцэну постацямі камбінатараў і дробных злачынцаў. Пісьменнік ставіць перад сабой заданне гумарыстычнага высмейвання альбо сатырычнага асуджэння тых з’яваў у жыцці людзей, якія перашкаджаюць ім нармальна жыць і нармальна функцыянаваць.

Празаічная, публіцыстычная і драматургічная творчасць Сакрата Яновіча сведчыць аб тым, што ён знаходзіцца ў творчым росквіце, і чытачы могуць чакаць ад яго ўсё новых твораў, якія будуць формай ілюстрацыі розных абшараў беларускага жыцця ў Польшчы. Як пісьменнік ён яшчэ не вычарпаў усіх магчымасцяў свайго творчага патэнцыялу.

У заканчэнне разважанняў на тэму творчага сілуэта С. Яновіча нельга не сказаць і аб тым, што ён найбольш плённы пісьменнік сярод усёй пляяды белавежцаў. Яго творы перакладзены на многія замежныя мовы, у тым ліку і заходнееўрапейскія. Калі

толькі не падвядзе здароўе, пісьменнік гэты яшчэ не раз парадуе сяброў і засмуціць ворагаў новымі творчымі здзяйсненнямі. Аднак вядома, што незалежна ад таго, што ён напіша, гэта будзе праява болю і горкага задумення над беларускім лёсам.

## ЯНКА ЧЫКВІН

### ПАЭТ ЛІРЫЧНАГА ЗАДУМЕННЯ

Адзін з паэтаў літаратурнага цэнтра літаб'яднання «Белавежа» — Янка Чыквін. У ягонай творчасці мы знаходзім вершы, якія далучаюць гэтага аўтара да паэтычных традыцыяналістаў. З другога боку, ён мае нямала твораў, якія ўключаюць яго ў групу наватараў. Я. Чыквін, несумненна, звяртаецца як паэт да здабыткаў не толькі беларускай, але таксама рускай і польскай літаратур.

Нягледзячы на ўсю прыхільнасць да эстэтычных плыняў у суседніх літаратурах, у творчасці Я. Чыквіна застаўся даволі моцны струмень сялянскага фундаменталізму, які акрэсліваў і акрэслівае характар многіх ягоных вершаў.

Я. Чыквін нарадзіўся 18 траўня 1940 года ў вёсцы Дубічы Царкоўныя, якая знаходзіцца на ўскраіне Белавежскае пушчы, недалёка ад Гайнаўкі. Там ён закончыў пачатковую школу. Тыповае беларускае сялянскае асяроддзе фармавала яго дзіцячую свядомасць.

Закончыўшы сярэднюю школу, ён накіраваўся на вучобу ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе вывучаў рускую філалогію. Пасля заканчэння ўніверсітэта вярнуўся ў Беласток, працаваў настаўнікам рускай мовы ў сярэдняй школе. Пасля адкрыцця ў Беластоку філіяла Варшаўскага ўніверсітэта быў прыняты на пасаду асістэнта на кафедры рускай літаратуры.

На працягу некалькіх гадоў Я. Чыквін падрыхтаваў і абараніў кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыю, прысвечаную творчасці Афанасія Фета. Цяпер ён — прафесар Варшаўскага ўніверсітэта на факультэце русістыкі і прыкладной лінгвістыкі.

Як празаік Я. Чыквін дэбютаваў на старонках «Нівы» ў 1957 годзе. Тады ён выступаў пад псеўданімам Янка Дубіцкі. У пазнейшы перыяд у ягоных літаратурных інтарэсах перамагла паэзія. Праўда, час ад часу і сёння з-пад яго пяра выходзяць апавяданні.

Дагэтуль апрача цыклаў вершаў, публікаваных на старонках «Нівы», «Беларускіх календароў» і альманахаў «Белавежа», Я. Чыквін выдаў, між іншым, гэткія паэтычныя зборнікі, як «Іду», «Святая студня», «Неспакой», «Кругавая чара», «Свет першы і апошні» і інш.

Паэзія Я. Чыквіна небагатая колькасцю напісаных вершаў. Аднак вядома, што вартасць яе вымяраецца не колькасцю, а толькі якасцю напісанага.

Калі б трэба было абавязкова шукаць крытэрыі падзелу паэзіі Я. Чыквіна, дык можна было б усю яго творчасць падзяліць на дзве групы: у першую ўвайшлі б тыя вершы, якія яму нашапталі сялянскае паходжанне, вясковае дзяцінства, пачуцці да бацькоў і блізкіх. Другую групу склалі б вершы, якія вядуць свой радавод ад літаратуры, у прыватнасці, рускага авангарду, такіх паэтаў, як Барыс Пастарнак, Ганна Ахматава. Беларускі крытык Рыгор Бярозкін гадоў 20 таму назад забракаваў як рэцэнзент зборнік вершаў Чыквіна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», закідваючы яму эпігонства ў адносінах да творчасці Пастарнака і Ахматавай. Не падважаючы права крытыка на свае меркаванні і характарыстыкі, цяжка пагадзіцца з катэгарычнасцю ацэнкі Бярозкіна. Справа ў тым, што, мабыць, кожны паэт мае нейкі літаратурны радавод, і яго зачараванне творчасцю таго ці іншага куміра не мусіць сведчыць аб механічным эпігонстве. Так, на маю думку, і ў выпадку творчасці Я. Чыквіна. Захапленне рускімі пісьменнікамі эстэтычнага напрамку не абазначае яго поўнага зняволення імі, а тым болей механічнага пераймання іх паэтыкі, тыпаў герояў і інтэрпрэтацыі рэчаіснасці.

Можна думаць, што Я. Чыквін, нягледзячы на такія ці іншыя сімпатыі да акрэсленых пісьменнікаў, досыць эфектыўна бароніць сваю літаратурную аўтаномію. Сказанае не абазначае, што ён так, як і кожны іншы паэт свету, у меншай ці большай ступені не скарыстоўвае таго, што ўжо створана дагэтуль у літаратуры. Поўнай чысцінёю і абсалютнай незалежнасцю ў гэтай галіне, мабыць, не можа пахваліцца ніводзін паэт. Чужое ўрываецца ў нашу творчасць таксама тады, калі мы аб ім не думаем, а нават тады, калі аб ім думаем і ад яго баронімся.

## ВЯРТАННЕ ДА ПЕРШАКРЫНІЦ

Я. Чыквін — паэт, які са значнай паслядоўнасцю, а нават напорыстасцю шукае першакрыніцы свае чалавечае тоеснасці.

Ён знаходзіць яе ў многіх з'явах. Сярод іх да прыярытэтных, несумненна, адносіцца паэтава дзяцінства, якое здаецца яму той вялікай бесклапотнай краінай, што ўводзіць у сэрца аўтара лад, гармонію і спакой. Думку гэтую пацвярджаюць такія вершы, як «Дзяцінства», «А наш дом недзе», «Дзяцінства за мною няспынна ідзе», «На папасе», «Дубічы, Дубічы».

Для Чыквіна дзяцінства амаль заўсёды шматколернае. Чыквін піша:

Дзяцінства
За мною ідзе
У размалёванай краскамі
Сукенцы.

І менавіта гэтая шматколернасць дзіцячага свету становіцца свайго роду магнітам, які прыцягвае сэрца і розум паэта.

Зразумела, што вершы Чыквіна, прысвечаныя дзяцінству, не з'яўляюцца спробай татальнай усебаковай ілюстрацыі свайго даўняга мінулага. Гэтыя вершы ні ў якім выпадку не могуць трактавацца як паслядоўная і верная карціна дзяцінства. Можна сцвердзіць, што Чыквін хутчэй за ўсё выкарыстоўвае ўспаміны з далёкага мінулага для паэтычных рэмінісцэнцыяў, у якіх колькі праўды, гэтулькі і выдумкі. Варта, мабыць, падкрэсліць і тое, што часта выдумка тут больш пераканаўчая, чым праўда, і што дзякуючы ёй літаратурная фікцыя становіцца жыццёвай праўдай, якая заслугоўвае поўнага даверу з боку чытача.

З сужыццём выдуманага і сапраўднага мы маем дачыненне ў раннім вершы «Дзяцінства». У цэнтры гэтага твора — жаўрук. Як вядома, характэрная ўласцівасць паводзін жаўрука тое, што ён у час свае паднябеснае песні раптоўна спыняе яе і каменем падае на зямлю. Мабыць, вынесенае з дзяцінства паэтава ўяўленне падказала яму, што жаўрук, падаючы, разбіваецца аб зямлю і гіне. Гэткія асацыяцыі якраз акрэслілі характар ужо згаданага верша «Дзяцінства».

Цішэй, цішэй… Прыпамінаецца былое:
Ідзем у поле, я ў маці за плячыма,
Як на экране, ніў сцяна перад вачыма,
Там наша будзе поле — тут яшчэ чужое.
Жаўрук згары ўбачыў на мяжы малое
І маці, што сярпом збірала збожжа шчыра,
І з песняй нас забраў бы у далёкі вырай,
Каб з летнім песняром не сталася такое:

Замоўк раптоўна, струны абарваўшы,
Аб землю ўдарыўся юнацкім сэрцам,
І назаўсёды змоўкла яго скерца,
І нежывым у полі там астаўся.
Цішэй, цішэй… Прыпамінаю з плачам
Той дзень, маці. Жаўрука ўжо не ўбачыць…

Амаль усе дзіцячыя вершы Чыквіна малююць дзяцінства, як ціхую прыстань, у якую хацелася б вярнуцца, хоць паэт і ведае, што гэтаму не адбыцца. Аднак, нягледзячы на ўсё, прывід дзяцінства ўзнікае перад аўтарам, вабіць яго і кліча, не дае яму спаць па начах, а калі ён засне, вяртаецца да яго ў каляровых снах. Дзяцінства здаецца паэту краінай намнога больш дасканалай, чым тая, у якой яму давялося жыць і дзейнічаць сёння. Дзякуючы гэтаму мінуўшчына ўзбагачае сённяшні дзень ды ў прозу жыцця ўводзіць паэтычную каляровую мазаіку.

## ПОШУКІ ПЕРШАКРЫНІЦ

Дзяцінства, якое здаецца паэту краінай шчасця і бесклапотнасці, паўстае ў многіх ягоных вершах у выглядзе страчанага раю. Тут найбольш характэрны верш «А дом наш недзе…».

Вечарам духмяныя ўстаюць агароды,
Бярозы рукі апускаюць у крыніцы,
Чаромхі ўецца неслухмяны водар,
Як віно, якога нельга ўжо напіцца.

І галасы сяброў, і клёкат бусла з клуні,
І лугі, дзе конскія пасуцца грывы,
І сон глыбокі ветру ў палудзень,
І трава іржавая па-над абрывам.

У садзе нашым зноў цвітуць кусты язміну,
Макі грэюць рукі, узняўшыся высока,
А дом наш, як далёкія ўспаміны…
Без дзвярэй, без тынку і без вокан.

Верш гэты — адзін з найлепшых паэтычных твораў Я. Чыквіна. У трох строфах аўтар змяшчае шырокі дыяпазон праблемаў, звязаных з дзяцінствам, якое асацыюецца тут з найбліжэйшай ваколіцай, уласным агародам, садам і, перадусім, з родным

домам. Аўтар з асаблівай чуласцю і эмацыянальнасцю будуе прыгожую канструкцыю рэчаіснасці, якая спадарожнічала ягонаму дзяцінству. Агароды, бярозы, крыніца, чаромха, галасы сяброў, клёкат бусла, коні, вецер, травы, язмін і макі — усе гэтыя рэаліі паэт змяшчае ў 10 пачатковых радках верша дзеля таго, каб бязлітасна знішчыць прыгожую структуру ў двух апошніх радках твора: «А дом наш, як далёкія ўспаміны… Без дзвярэй, без тынку і без вокан». Гэткая разбуральная выснова як бы перакрэслівае ўсё, што было сказана раней. Яе сэнс зводзіцца да таго, што імкненне вярнуцца ў краіну дзяцінства ёсць ідэяй фікс, нерэальнасцю і непрадуктыўнасцю, якія вядуць толькі да расчаравання і болю. Дзякуючы гэткаму мастацкаму прыёму верш атрымаўся супярэчлівы і як бы самазнішчальны. Аднак трэба прызнаць, што ідэя дома без дзвярэй, без тынку і без вокан — цікавая. Атрымаўся свайго роду вобраз не з выявай дома, а хутчэй за ўсё з труною, у якой назаўсёды пахаваны дзіцячыя ілюзіі, уяўленні і надзеі. Усё сказанае дазваляе нам паставіць прыведзены верш вельмі высока ў іерархіі творчых дасягненняў паэта.

Да свету дзяцінства і, мабыць, да бацькоўскае хаты вяртаецца Я. Чыквін у творы «Дом». Верш гэты значна адрозніваецца ад ахарактарызаванага намі твора «А дом наш недзе…». У новым творы аўтар прымяняе форму персаніфікацыі і чалавечага ўвасаблення ў адносінах да мёртвага прадмета. У тым доме аўтар заўважае роспач, скаргу, боль, паклон, смяротны ўспамін, кроў, песню смутку. Адным словам, прыпісвае дому ўсе тыя рэаліі, якія могуць быць звязаныя толькі з чалавечымі адчуваннямі.

Я — роспач, скарга. Я — руіна.
Я — боль. Я — слёзы. Я — праклён.
Я тое, што не згіне.
Я кожны захад нашых дзён.

Я сыплюся. Шкілет. Я — выбух.
Я — сімвал. Я — смяротны ўспамін.
Я — кроў. Я — наша глыба.
Я — песня смутку і ваш гімн.

Можна думаць, што гэткі твор узнік у хвіліну згублення аўтарам духоўнай раўнавагі, у момант праяўлення панічнага настрою. Зразумела, што тут мы маем дачыненне з паэтычнымі

асацыяцыямі, якія не толькі не вяртаюцца да ідэі дзіцячага раю, але ўводзяць нас у пачварны свет натуралістычнага песімізму. На такі настрой паэт мае права. Але, мабыць, лепш было б для аўтара і чытача, калі б ён не карыстаўся гэтакім правам. І ўсё ж такі нельга гэты другі верш недаацэньваць. Ён дакументуе духоўную дэпрэсію і таму заслугоўвае нашай увагі. Важны гэты твор і з тае прычыны, што ён паказвае, як у двух сваяцкіх творах паэт можа звяртацца да розных тэхнік. Калі ў вершы «А дом наш недзе…» аўтар скарыстоўвае спеўныя, гарманічныя інтанацыі, то ў вершы «Дом» ён звяртаецца да жорсткасці і кантраснасці.

Калі б зацытаваныя вершы патрактаваць як чыннікі творча настраёвыя, дык трэба было б сказаць, што першы твор выразна ўзбуджае ў чытача настрой гарманічнага сужыцця са светам, а другі селіць у ягонае сэрца неспакой, безнадзейнасць і варожасць.

Зразумела, што толькі індывідуальны чытач мае права акрэсліваць, што бліжэйшае ягонаму сэрцу. Гэта ўдзел яго свабоднага выбару.

## ПОШУКІ ІЛЮЗОРНАЙ КРАІНЫ

Амаль усе аналізаваныя дагэтуль вершы былі напісаныя з пункту гледжання дзіцяці. У іх выступалі дзіцячыя асацыяцыі, параўнанні і ўяўленні. Пішучы гэткага тыпу творы, паэт прагнуў поўнасцю атаясаміцца з дзяцінствам. Рабіў усё, каб стацца малым, каб адчуваць і рэагаваць так, як робіць гэта маленькі хлапчук. Да таго ж у паэзіі Янкі Чыквіна мы знаходзім вершы, якія з'яўляюцца формай пошуку ілюзорнай краіны дзяцінства дарослым спелым чалавекам, які поўнасцю ўсведамляе ўсю бясплённасць сваіх намаганняў. Такім чынам, ён займаецца сізіфавым высілкам, вынікам якога будзе выключна безвыніковасць. Аднак, нягледзячы на ўсю беспрадуктыўнасць і дарэмнасць сваіх намаганняў, паэт напорыста стараецца вярнуцца ў дзіцячую краіну, якую часта называе прыстанню. Гэткага тыпу трактоўка дзяцінства сведчыць аб тым, што сваё сучаснае жыццё паэт трактуе як жыццё пацярпелага крушэнне, які змагаецца з хвалямі ў адкрытым моры, шукаючы ратунку. Зразумела, што тут мы маем дачыненне толькі з паэтычнай метафарай паэта, які не мае на ўвазе даслоўнага мора, а толькі тыя жыццёвыя ўскладненні, якія гойдаюць і кідаюць чалавека ў неспакойным жыцці.

Адзін з найпрыгажэйшых твораў гэтага цыклу — верш «Перада мною мацярык».

Перада мною мацярык —
Плыву з дзяцінства і юнацтва,
краін зусім ужо нерэальных,
як рунь на стол буханкай хлеба.

Каб гавань ціхую знайсці,
каб ветру слухаць ці ў поўдзень
у сонечным дажджы папаласкаць
ногі і жывот вышэй з грудною клеткай.

Перада мною мацярык
і хлеб духмяны, аж дыміцца,
абрус ад узораў, ажывае поле тут і луг,
і коні пасвяцца бы пчолы тыя,
што на нагах замест нектару ўсіх падковы.

Каб гавань ціхую знайсці, плыву
з дзяцінства і юнацтва…
А за сталом з абруса восень
дыміць каструляй бульбы з мятай
і жонкі крыж над пузам узняты.

Зразумела, што мацярык абазначае тут дзіцячую краіну, якой ужо няма і ніколі не будзе. Усё недаступнае, страчанае найчасцей ідэалізуецца і ўпрыгожваецца. Прыём гэткі, як вядома, вельмі прыгожа выяўлены ў першых радках «Пана Тадэвуша» ды і ва ўсёй знакамітай паэме Адама Міцкевіча.

Да гэтага прыёму, несумненна, безупынна звяртаецца Янка Чыквін. Аднак, у адрозненне ад А. Міцкевіча, ён пазбягае шырокіх этнічных апісанняў, абмяжоўваючыся кароткімі рэмінісцэнцыямі, у якіх лірызм, смутак ды настальгія адыгрываюць вядучую ролю.

Шукаючы ілюзорнай прыстані і дзяцінства, Чыквін найчасцей звяртаецца да шматлікіх фактаў з мінуўшчыны. У гэткіх вершах выступае нагрувашчанасць, канцэнтрацыя многіх з’яваў і прадметаў: зямных, раслінных, атмасферычных, архітэктурных. Аднак часам ён робіць адступленне ад масавасці ў бок індывідуалізацыі. Прыкладам такога падыходу да новай творчай метадалогіі можа быць верш «Вязе мой слаўны».

Вязе мой слаўны, вязе вяковы,
Ці шчаслівы ты ў шапцы вясковай?
Брыдзеш ты па свеце кульгавым карэннем,
Як факт аўтэнтычны, канкрэтна, здарэнне.
І рукі скрыпяць у суставах старэчых,
І мову птушак стаў ты калечыць.
Зусім адзінокі, як нейкі філосаф,
Ты днём раўнадушны, а ноччу галосіш.
Бо як жа, бо як жа ўстрываць, мой дружа,
Калі шчэ жывы — калі ўжо нядужы.
Нядужы паветра збіраць у карэнні,
Свядомы, што рухнеш, упадзеш на калені.
Свядомы, што хутка, што заўтра, што зараз,
Жыццё праміне, непаўторнае і велізарнае.
Мой вязе з дзяцінства, з бацькоўскага краю,
Прыеду у вёску, цябе не пазнаю.
І ты мяне не пазнаеш таксама,
Убачыш — палічыш няпраўдай ці зманам.

## ВЯСКОВЫЯ РЭМІНІСЦЭНЦЫІ

Апрача вершаў, прысвечаных дзяцінству, у творчасці Я. Чыквіна мы знаходзім нямала вершаў, звязаных з вясковай рэчаіснасцю, але без такой дзіцячае апантанасці. Прыкладам можа быць верш «За вёскай з сена ўставала надранне». У іншых вершах гэтага цыклу аўтар, карыстаючыся прыёмам рэтраспекцыі, пачынае накладаць мінулае на сваё сённяшняе. Гэты метад асабліва пераканаўча выяўляецца ў вершы «Я жыць хачу, як вы жылі». Мы знаходзім тут і такія творы, у якіх паэт пачынае маляваць шырэйшую панараму сваёй малой айчыны і выходзіць па-за рамкі роднай вёскі. Ён гаворыць аб усім гайнаўскім рэгіёне. Прыкладам — верш «Гайнаўшчына». Урэшце, у гэтай групе вершаў мы знаходзім творы, у якіх паэт супрацьпастаўляе вясковую рэчаіснасць рэчаіснасці гарадской, як бы даказваючы гэтым, што паэтычная творчасць гарманіруе не толькі з вясковым побытам.

За вёскай з сена ўставала надранне,
З-за лесу сонца цякла пазалота,
Як быццам нехта кранаў фартэпіяна

На выраслых у гародах нотах.
Усё было справядліва ў прыродзе —
Далёка дзесьці была недарэчнасць
Адвечнай смерці, што прыйдзе і пройдзе,
А ўсё-такі нешта пакіне на вечнасць.
Маўчалі яшчэ каляіны дарожныя,
Дзе-недзе хаты курылі цыгары,
У невядомае людзі ішлі асцярожна,
Баючыся смеху на выспаным твары.
І час стаяў, як ракіты на лузе,
Гнуткі, жывы, працякаючы ў хаты.
Над вёскай — міску неба трымаў бусел,
Каб заўжды тут было толькі свята.

Прыведзены твор — добрае сведчанне паэтычнага майстэрства, а таксама пераканаўчы доказ шчырае прывязанасці да таго, што ў жыцці было і, мабыць, сплыло. У вершы няма гэтак характэрнага для іншых твораў паэта тугі па страчанай краіне дзяцінства.

Цалкам іншая трактоўка вясковых рэаліяў у вершы «Я жыць хачу, як вы жылі».

Я жыць хачу, як вы жылі:
Сярод палёў, звяроў і чыставоддзя,
Здалёк ад горадоў, машын
І цывілізаваных паводзін.

Мне вясковага хочацца хлеба,
З дзяжы высокай — шчэ дзедавай,
Малака і поўну каструлю
З лупін наваранай бульбы.

Як хлеба, мне хочацца зелені,
Цішыні, надвячоркаў росных,
Шчасця, нічым не раздзеленага,
І дарог палявых, няпростых.

Дзе лёгка зусім заблудзіцца
І верыць: шчаслівы ты ўволю,
Дзе б'юць жыватворчы крыніцы,
Дзе кожнаму можа прысніцца
Паэзіі магнітнае поле.

Гэты верш — несумненна, мост, які вядзе нас да раней аналізаваных дзіцячых вершаў паэта. Тут, гэтак як і ў тых ранейшых творах, аўтар імкнецца безупынна ў беспаваротнасць. Верш заканчваецца высакаякасным паэтычным радком, які гаворыць аб «паэзіі магнітным полі». Радок гэты акрэслівае першакрыніцу творчасці Я. Чыквіна. Крыніца гэтая, несумненна, вясковая рэчаіснасць.

## СЭНС ЖЫЦЦЯ І СЭНС ТВОРЧАСЦІ

Адна з характэрных рысаў паэзіі Я. Чыквіна — частыя спробы правядзення паралеляў паміж сваім жыццём і прыродай. Паэт бачыць арганічную сувязь паміж таямнічасцю свае істоты, таямнічасцю лёсу і неразгаданасцю сутнасці навакольнай прыроды. Аўтар, па сутнасці, ухваляе і гэтую таямнічасць. Праўда, час ад часу Чыквін як бы смуткуе з тае прычыны, што не можа спасцігнуць усіх таямніц прыроды і прадбачыць уласную будучыню. Аднак гэты смутак мае ўяўны характар. Паэт, несумненна, ухваляе існуючы парадак рэчаў, бо поўнасцю ўсведамляе тое, што таямнічасць і неразгаданасць — невычэрпная крыніца для паэтычных роздумаў і жыццёвых пошукаў. Трэба, аднак, сказаць і тое, што паэт скептычна адносіцца да адвечнага чалавечага імкнення пазнаць усё таемнае ды загадкавае, што знаходзіцца ў душы чалавека і ў прыродзе. Па сутнасці, аўтар праяўляе сумнае адабрэнне таго, што ідзе ў смерць. Але ўсё такі цешыцца, што крок у крок, нага ў нагу ідзе паралельна наперад разам з прыродай. Гэткая ісціна вельмі цікава праяўляецца ў ягоным вершы «Трывожная альба».

Асенні дзень гарыць агнём асеннім,  
З траў злекацелых сыплецца апошняе насенне,  
І верас тлее несмяротным неспакоем.  
А я іду, таму што сэрца б’ецца шчэ жывое.

Асенні сум гарыць ажоўклай горыччу асенняй,  
Бяспамяцтва ва ўсім пад схаладнелага скляпеннем,  
Пустэча ад пустэчы вырывае пустазвоны —  
Усё іду, таму што мысля мыслю гоніць.

Асенні боль плыве ў душы воблакам асеннім,  
Зніжэла сонца, падаўжэлі пажыццёвыя глухія цені.

Знявечаны, самотны, гнаны неспакоем,
Яшчэ, яшчэ іду… Але адкуль, за чым? І што перада мною?

Увесь гэты верш можа трактавацца як творчы здабытак аўтара, які глядзіць на сябе як на неаддзельную частку прыроды.

Янку Чыквіну выразна зацесна ў сучасным свеце. Ягонае лірычнае «я» не змяшчаецца ў ім. Паэта палохае какафонія наваколля, імклівасць жыцця, неразумная напружанасць і нервовасць. Назіраючы за праявамі жыццёвага бяссэнсу, пісьменнік пачынае сумнявацца, ці мае які-небудзь сэнс творчы высілак, ці яго вынік патрэбны забеганаму і заблуджанаму чалавеку. У гэтым аспекце значную вартасць мае ягоны ранні верш «На ўсе лады».

На ўсе лады
Скуголіць
Наша слепата,
У зайздрасці
Няведама куды
Імчыцца.
Ніхто на свеце ўжо
Не слухае паэтаў,
І напэўна Ромул
Непатрэбна ссаў
Ваўчыцу.

Бадай што найбольш горкі сказ гэтага верша «Ніхто на свеце ўжо не слухае паэтаў», нягледзячы на сваю фармальную экстрэмальнасць, заключае ў сабе элементарную праўду, якой ніхто не можа запярэчыць. Так яно ёсць сёння і напэўна не зменіцца заўтра на лепшае.

Аднак жыццё мае глыбокі сэнс і непаўторную прыгажосць. І таму ў ссанні ваўчыцы Ромулам трэба бачыць праяву культу чалавечага існавання як з боку старажытных, гэтак і сучасных людзей.

Многія творы Я. Чыквіна прысвечаны таму, што можна было б назваць тэхналогіяй альбо метадалогіяй верша. Паэт недзе ў сховах свае душы трактуе паэтычны працэс як адзін з цудаў свету, адну з вялікіх магіяў і таямніцаў, да сутнасці якой нельга дабрацца. Мабыць, якраз гэтая таямнічасць творчага працэсу і ёсць для паэта той магніт, які прыцягвае ягоныя сэрца і розум. Хоць Чыквін і імкнецца да пазнання сезаму паэтычнае майстэрні, аднак у сапраўднасці, мабыць, ніколі не хацеў бы

спазнаць усё да канца, бо ў такім выпадку развеялася б тое хараство, якое спадарожнічае ўзнікненню верша.

З таго нямногага, што спасцігае і разумее аўтар з творчага працэсу — гэта не шчаслівыя радасныя трыумфальныя ўзлёты, а хутчэй за ўсё пакутніцкія падзенні, якія ўрэшце зацвітаюць вершам. Верш, як канчатковы фінал духоўнай напружанасці і пакутніцтва, не пераможны акт, а толькі горкая канстатацыя таямнічага нараджэння новага жыцця, якое ў аднолькавай ступені цешыць і настройвае на мінорны лад.

Бадай што найпаўней складанасці, звязаныя з узнікненнем твора, паказаны ў вершы «Майстэрня паэта».

Няма ні славы, ні багацця —
адно скрыпучае пяро
тырчыць з чарніліцы рабром
і крыж для новага распяцця.
　　　　На сцяне маўклівы Ван-Гог,
　　　　са шклянкі лезуць фіялкі,
　　　　вярнуўшыся з дарогі, палка
　　　　змучана глядзела на парог.
Змяркалася. Рука ляжала,
згорбіўшыся па-старэчы,
а са сцяны спаўзала жаласць
і пагарда насустрэчу.

Трактоўка творчага працэсу як «крыжа для новага распяцця», зрэшты, частая ў многіх іншых творцаў, з’яўляецца сведчаннем таго, што ўзнікненне твора — гэта для Чыквіна не толькі праява пакутніцтва, але і роспачы. І, нягледзячы на ўсё гэта, творчы працэс трактуецца Чыквіным як адна з найпрыгажэйшых праяваў чалавечага духу, праява, даступная толькі нямногім з многіх.

Шукаючы першакрыніцы літаратурнага таленту і настрою, Чыквін не звяртаецца да вышэйшых сілаў і да іх натхнення. Аднак ён усведамляе тое, што талент не нараджаецца на камяні, што ягоная сутнасць, хоць і ахутаная таямнічасцю, вымагае ад творцы напружанай працы, і што гэты высілак бывае празмерна вялікі ў параўнанні з нікчэмнасцю канчатковага выніку, якім з’яўляецца твор. Гэтак ці інакш, узнікненне верша для Чыквіна — форма безупыннага згарання, якое даводзіць да паўстання з попелу новай духоўнай каштоўнасці. У адным з ранніх вершаў аўтар піша:

Паверыўшы ў паэзіі крыло,
У інтымнасць Сафо, элегійнасць Крус,

Агню я аддаў свой груз,
Паверыўшы ў паэзіі крыло.

І тут мы можам дайсці да пэўнага непаразумення або, прынамсі, здзіўлення. Бо мы не разумеем, якім чынам паэт у адным вершы творчы працэс называе «распяццем на крыжы», а ў другім гаворыць аб «крылатасці паэзіі»? Гэткае здзіўленне магло б быць толькі пасведчаннем нашага дылетанцтва. Таму што ўвесь творчы працэс быў, ёсць і будзе заўсёды з'явай супярэчлівай. У ім выступаюць розныя стадыі і розныя, нярэдка супрацьстаўныя, праявы ды станы. І таму тое, што ўрэшце пасля многіх шліфовак ён атрымлівае прыгожы вершаваны кшталт, можа здавацца аўтару і паўзучым, і раскрыжаваным, і ўзлётным. Стварыўшы верш, аўтар мае права да розных станаў, да трыумфу, але і да элегічнай канстатацыі. У Чыквіна найчасцей мы маем дачыненне з сумнымі рэмінісцэнцыямі. І цяжка сабе ўявіць Чыквіна ў стане той эйфарыі, што часта агортвала Аляксандра Пушкіна, які, напісаўшы адзін са сваіх вядомых твораў, крычаў, падскокваючы: «Ай да Пушкін, ай да малойца!»

Задавальненне ад напісанага твора, мабыць, характарызуе кожнага стваральніка. Не чужое яно і Я. Чыквіну. Аднак мы не знаходзім у яго праяваў трыумфу, а тым болей — самахвальства.

Шукаючы сэнс жыцця і сэнс творчасці, Я. Чыквін, як, мабыць і ўсе паэты свету, непаслядоўны. У аграмаднай бальшыні вершаў Чыквін сцвярджае суровую праўду аб сваёй бяссільнасці ў дыялогу з жыццём, а можа, лепш сказаць, у паядынку са штодзённым быццём, якое бязлітасна засноўвае павуціннем або заманьвае ў пастку. Многія з вершаў паэта — гэта творы, напісаныя якраз з гэтага павуціння ці з гэтай пасткі. Зразумела, што яны выпраменьваюць настрой смутку, бязвыхаднасці і нават трагізму. Аднак нельга звесці ўсе вершы аўтара менавіта да гэткай інтанацыі. У ягонай творчасці мы знаходзім і такія творы, у якіх аўтар выступае як чалавек, які поўнасцю кіруе сваім лёсам, як чалавек, які знаходзіць у сабе сілы для таго, каб кантраляваць рэчаіснасць і кіраваць ёю. Паэту здаецца, што ён знаходзіць магчымасць вызваліцца ад залежнасці, стацца поўнасцю вольным. Праўда, паэт не акрэслівае, ці гэтакі стан панавання мае сталы, ці толькі вузка часовы характар.

Прыкладам такога вызвалення як ад сучаснай, гэтак і ад мінулай рэчаіснасці можа быць адзін з найлепшых вершаў Я. Чыквіна, які пачынаецца словамі «Што мне Ньютоны».

Што мне Ньютоны, што Галілеі
Ці пустата Тарычэлі…
Адзін я выходжу на арбіту алеі
У камбінезоне вячэрнім.
　　Адзін я кружуся па крузе фактаў,
　　Чакаючы з мора пагоды.
　　І шчасце зямное прыходзіць раптам,
　　І шчасце зямное раптам адходзіць.
Сам для сябе я мэтай і стартам,
Сам для сябе я пілот і ракета —
Плюхаю полем чаравікамі ўпарта,
Цокаю штодзень па ясных паркетах.
　　Па той бок здарэння іду ў імгле я
　　І што мне Ньютоны, і што Галілеі.

Прыведзены верш — адзін з найбольш светлых ва ўсёй творчасці Я. Чыквіна, і сваім настроем ён прымыкае да некаторых ягоных вершаў з дзіцячага цыклу.

Варта заўважыць, што нават упартыя пошукі сярод творчасці Чыквіна не дастаўляюць замнога прыкладаў гэткай светлай трактоўкі рэчаіснасці, а кажучы дакладней, ацэнкі сваіх магчымасцяў у самакіраванні, як у гэтым вершы.

Са сказанага не вынікае, што ў прыведзеным творы Чыквін выступае як пераможца. Не. У ім няма адчування трыумфу, а тым болей панавання над кімсьці ці чымсьці. Але ёсць у ім светлае пачуццё чалавека, які, апрануўшыся ў «вячэрні камбінезон», выходзіць на сваю жыццёвую арбіту і, урэшце, спасцерагае калі не сваё панаванне над светам, дык прынамсі незалежнасць ад яго.

Які ж паэт не марыць аб гэткім стане духу? І які ж паэт не цешыцца, калі сапраўды ці толькі ўяўна яго асягае? І ці асягае на доўгі час?

У выпадку Я. Чыквіна — ненадоўга, бо ўжо ў вершы, які пачынаецца словамі «Сын вёскі, брат крыніцы і травы», мы бачым паэта ў зусім іншай сітуацыі, у сітуацыі чалавека, які трапіў у пастку вялікага горада. Гэты горад, мабыць, Ленінград.

Сын вёскі, брат крыніцы і травы,
Куды мае ўспаміны зноў ляцяць
З-над берагоў змяінае Нявы —
Я не паэт цяпер, але дзіця.

Траншэі вуліц з танкамі трамваяў,
Жалезная вантроба балотнага дракона —
Маленькі чалавек я, бегаю ў адчаі,
Мяне тут душаць — Лаакона.
О горад-клавіятура, сумны горад!
Чаму царквы твае не звоняць?
Куды праспектамі тваімі гоняць
Самотны тлум — звяроў Пандоры?
Ці хтось дарогу ім пакажа?
Ні Пушкіна няма, ні Гогаля, ні Блока…
Той анёл, што на плошчы Эрмітажа,
Як той Гапон. А трэба ім прарока.

Пазнаёміўшыся з гэтымі, як бы супрацьлеглымі творамі, хочацца спытаць: у якім з гэтых вершаў паэт праўдзівы і аўтэнтычны? Ёсць усе падставы, каб думаць, што ён аўтэнтычны як у першым, гэтак і ў другім. Мы маем тут дачыненне з двума супрацьлеглымі станамі, у якія ўвайшоў творца і з гэтых супрацьлеглых станаў выйшаў, па сутнасці, пераможцам. А перамога ягоная выявілася ў тым, што як першы, гэтак і другі стан ён завяршыў творамі: творамі, рознымі па настроях, але аднолькава каштоўнымі ў ілюстратарскіх здольнасцях вобраза чалавечай душы.

## БАЛЮЧАСЦЬ КАХАННЯ

### I

Сфера пачуцця кахання для Я. Чыквіна таксама балючая, як балючыя для яго сэнс паэзіі і сэнс жыцця. Паэт не шукае спрошчаных эфектаў і вырашэнняў у пачуццёвым вузле жанчыны і мужчыны. Па сутнасці, для Я. Чыквіна каханне не вядзе да стварэння новага, болей высакароднага за бытаванне, а хутчэй за ўсё да новага вітка самотнасці і адзінства. І, нягледзячы на такі канчатковы фінал жаноча-мужчынскага збліжэння, паэт шукае жаночае цела і жаночую душу ды лічыць іх натхненнем да паэтычнага працэсу. На падставе вершаў Я. Чыквіна досыць цяжка сказаць, ці, паводле яго, каханне — гэта новы маральны лад, ці новы маральны хаос. Як амаль усе паэты, гэтак і Я. Чыквін імкнецца да таго, каб паміж жанчынай і мужчынам панавала гармонія. Аднак ягоныя героі, як бы насуперак аўтару,

робяць усё, свядома або несвядома, каб гэтая гармонія сталася антыгарманічнай. Такая праўда выяўляецца, між іншым, у адным з найлепшых вершаў паэта «Не прыйшоў». Верш гэты быў напісаны ў ранні перыяд творчасці паэта і сведчыў аб яго значных магчымасцях у сферы паказу тых кантактаў паміж жанчынай і мужчынам, якія, тэарэтычна, павінны яе і яго набліжаць да сябе, а практычна аддаляюць.

Дзяўчына адна стаяла,
сонца рукой засланіўшы.
Гэта ж сама дасканаласць
пад неба цёплае выйшла.
        Каму такое спатканне
        удзячны лёс назначыў?
        Каханне наша, каханне,
        жыцця хвіліна жабрача.
З-за клёнаў вырас мужчына,
глянуў на постаць дзявочу.
Адна стаяла дзяўчына,
рукой засланіўшы вочы.
        Захад страляў цэлай гамай,
        гусцелі кусты ў даліне,
        слаўся туман пад нагамі.
        Ён не прыйшоў да дзяўчыны.
Значыць, жыццё пераспела,
значыць, прайшло побач шчасця,
значыць, жылі мы няўмела —
чым жа далей будзем шастаць?

Апошняя страфа верша мае маралізатарскі павучальны характар. Паэт, выразна незадаволены фактам нерэалізаванага спаткання, перасцерагае маладых, якім не дае права на «шастанне пачуццямі». Здавалася б, што ў магчымасцях паэта знаходзіцца шчаслівае збліжэнне і гарманічнае шчасце маладых герояў. Аднак аўтар не скарыстаў з такой магчымасці і выбраў варыянт не гарманічны, але канфліктны.

Прыведзены верш адкрываў у першым зборніку Я. Чыквіна «Іду» раздзел, які называўся «Вобраз твой нясу». Верш гэты не можа быць трактаваны, як адзінае паэтычнае крэда аўтара. Справа ў тым, што ў ягонай творчасці мы знаходзім вершы, якія рэалізуюць іншага тыпу перакананні і імкненні. Прыкладам

новай трактоўкі пачуцця кахання і жанчыны можа быць верш «Жаночая сіла», у якім паэт адназначна заяўляе:

З тваёй жаноцкасцю лягчэй ісці
Па вытаптаных вуліцах і парках.

Твор гэты заканчваецца вельмі вымоўным дэкларатыўным трохрадкоўем:

Шчасце абараню сваё, як асілак.
У жыццё шырэй адкрывайце вароты:
Я еду, са мною — жаночая сіла.

Увесь верш насычаны радаснымі аптымістычнымі інтанацыямі. Ён выпраменьвае перакананне аўтара ў тым, што пачуццё кахання ўзбагачае чалавека, робіць яго лепшым і прыгажэйшым.

У радаснай інтанацыі вытрыманы таксама верш, які пачынаецца словамі:

Іду на спатканне
У натхнёнай задуме
І вобраз твой нясу, як ікону.

Пісьменнік звяртаецца тут да выключных рэквізітаў. Ён выкарыстоўвае ікону, якую атаясамлівае з дзяўчынай, і пад канец твора неспадзявана супрацьпастаўляе і сябе, і сваю выбранку царкве і царкоўнаму натоўпу. Ён заяўляе, што не пойдзе ў царкву з дзяўчынай, бо ніхто не ходзіць у храм са сваёй іконай.

Тры ахарактарызаваныя вершы сведчаць, што для Чыквіна каханне не мае аднаго твару. Аднак незалежна ад характару трактоўкі дзяўчыны і кахання мы заўсёды маем дачыненне з шырокай гамай адкрытых або схаваных пачуццяў, якія сведчаць аб тым, што Чыквін мае здольнасці захапляцца духоўным і цялесным багаццем маладосці.

## II

Перачытваючы лірыку кахання паэта, мы даходзім да высновы, што для яго жанчына — з’ява перш за ўсё духоўная, а не фізічная. І гэта галоўная праява аднабаковасці лірыкі паэта. Абмінаючы чыннікі фізічны і цялесны, Чыквін усю сваю энергію скіроўвае на жаночую духоўнасць. Зрэшты, не заўсёды. Здараецца, што паэт піша вершы аб уяўных, а не рэальных жанчынах.

Гэткія постаці выводзяцца не з рэчаіснасці, а толькі са сну або, ужываючы акрэсленне самога аўтара, «з расы ранняй і туману». Зразумела, што ў такім выпадку досыць цяжка гаварыць аб канкрэтнасці, а тым болей — аб цялеснасці. Абстрактнасць у малюнку жаночай постаці найбольш поўна выявілася ў вершы «Пошукі».

Сышліся ў пустым парку лаўкі.
Голыя дрэвы. Ранак туманны
Усе алеі ў Лазенках заслаў
І вабіць мяне сваім падманам.
А я іду, чарам паслухмяны.
    Каго шукаю, куды іду,
    Калі ногі расплываюцца ў тумане?
    Што ў пустым парку раніцай знайду,
    У Лазенках, зачараваных падманам?
    Іду, прыгажосці паслухмяны.
І цябе знайду, мая дзяўчына…
Вобраз твой з расы ранняй і туману,
Паразвешваны на кветках і галінах,
Цягне ў парк сваім падманам.
Добра, што іду, яму я паслухмяны.

З падобнай падрэалістычнай трактоўкай жанчыны мы маем дачыненне ў такіх вершах, як «Дзяўчына з павоем», «Аграмадная ноч. Мяккія фалды туману». Каханне ў творчасці Я. Чыквіна — гэта свайго роду прысутнасць непрысутнага. Яно ў аднолькавай ступені ёсць і яго няма. Пачуццё кахання з'яўляецца мімалётнасцю і няўлоўнасцю, якія выступаюць амаль што інкогніта і выконваюць сваю канструктыўную, а можа, і антыканструктыўную ролю. Сказанае праяўляецца не толькі тады, калі паэт гаворыць аб жанчынах увогуле, але і тады, калі ён мае на ўвазе канкрэтную жаночую постаць.

Робячы націск, галоўным чынам, на духоўнасць кахання, паэт ніколі не наблізіў сваю лірыку да эротыкі.

Адцягненасць і абстрактнасць у трактоўцы кахання, аднак, толькі адна з форм паэтычных прыёмаў Я. Чыквіна. Ужо на пачатку падраздзела «Балючасць кахання» былі ў паэта такія вершы, у якіх гэтаму пачуццю даецца іншае тлумачэнне.

Са сказанага вынікае, што на працягу дзесяткаў гадоў сваёй творчасці аўтар праходзіць розныя этапы ў інтэрпрэтацыі найвышэйшага чалавечага пачуцця, і трэба сказаць, што ў ягонай спадчыне, побач з вершамі, як бы абстрактнымі і антыцялеснымі

ды сентыментальна-рамантычнымі, час ад часу мы маем дачыненне з урыўкамі фізічнай экстрэмальнасці і нават драпежнасці.

У вершы «Клён і вішня» Я. Чыквін звяртаўся да частае ў народнай песні і ў творчасці многіх паэтаў паралелі паміж дзяўчынай і хлопцам, з аднаго боку, і дрэвамі жаночага ды мужчынскага роду, з другога. Аднак і ў гэтым вершы, таксама як і ў іншых творах, ён не знаходзіць аптымістычных вырашэнняў.

Каханая, мой у клёне пачатак,
А твой — з вэлюму вішні.
Жыццё зноў для нас святам,
Калі запрасіў Усявышні.
    Ты калісь бегала — сінія вочы —
    Вольная вольнасць — лёгкае цела —
    Боская пышнасць рухаў дзявочых —
    Ты калісь… над вадою змярцвела…
Я той, хто сэрцам памяці помніў
Голас твой. Ён свету — залатым прыскам…
Я табе дзён жывых, па той бок промняў,
Нёс у падарунку на вясельным паўміску.
    Нёс — не данёс… Лёс разамкнёны —
    Нас раздзяліў — ды паасобку калыша…
    Чуе вішня парывы хлапечага клёна.
    Бачыць клён, як к вянчанню строіцца вішня.

Падсумоўваючы разважанні аб лірыцы кахання ў творчасці Я. Чыквіна, мабыць, варта працытаваць ягоны верш «Смуга вячэрняя», які можа трактавацца як сінтэз ягоных твораў аб каханні.

Вяртаецца пад вечар лірычнае зацьменне.
Мінула тысячу гадоў, як ты схавалася ў мінуласць,
І я не мог наслухацца твайго звонкага заспеву.
Імклівых хвіль сумілавання так нам мала!
    Запаланіла некалі мяне твая ўсечалавечнасць,
    Жаноча-боская цярплівасць, дабрыня, ласкавасць,
    Ружовы алебастр тваёй душы і многае такое,
    Чаго ніякім нельга выказаць разумным словам,
    Бо тое ўсё перадаецца дотыкам, у жэсце, пацалунку.
Ты зараз зноў з’явілася ў маім уяўленні.
Я паўтараў усе імёны твайго цела.
    Мабыць, не тыя мы ўжо… Але прыемна ведаць,
    Што ты пад сонцам ёсць, прыгожае стварэнне,

І харашынь такая — агонь святы ў лампадзе.
Ды сэрца адначасна гаркатою думкі джаляць,
Што дні мінаюць, цежнуць-цежнуць тыдні,
А мы — не разам! І зусім магчыма,
Датла згарым мы ад самоты ў самоце
І ніколі не дагонім тых хвілін нам даных,
І ніколі свет не ўбачыць нашых сплеценых двух ценяў —
Нельга, нельга паўтарыць жыцця дзівосных летуценняў!
З высокіх дахаў неба свеціць сонца закаханых.
А ты ка мне ідзеш палкаю смугой вячэрняй.

Як і ў іншых творах паэта, гэтак і тут мы маем дачыненне з малой ступенню канкрэтызацыі.

Калі, аднак, розныя аспекты творчасці Я. Чыквіна падлягаюць аналізу, дык і ягоная лірыка кахання мусіць быць паддадзеная спробе характарыстыкі, што мы і зрабілі, кіруючыся нязменна прынцыпам добразычлівасці да паэта.

Усе вершы Я. Чыквіна аб каханні падкрэсліваюць факт існавання ў ім пачуцця болю. Лёгкага бесклапотнага кахання паэт не ведае. І якраз з гэтай праўдай ён стараецца сумленна сутыкнуць чытача і прымусіць яго пагадзіцца з гэтым.

Калі б паставіць пытанне, у якой ступені паэзія для Я. Чыквіна патрэба сэрца, а ў якой — патрэба розуму, дык, мабыць, не баючыся зрабіць вялікую памылку, можна было б сказаць, што галоўную ролю ў ягонай творчасці адыгрывае рацыяналізм, а не энцыклапедычнасць. Са сказанага не вынікае, аднак, што сэрца ўвогуле не прысутнічае ў ягонай паэзіі. Калі ж яно і прымае ўдзел у паэтычных працэсах, дык заўсёды ў большай або меншай ступені кантралюецца розумам. Згэтуль, мабыць, і бярэцца схільнасць частага выкарыстання элементаў набытых тэарэтычных ведаў, асабліва ведаў, узятых з гісторыі. Янка Чыквін нярэдка звяртаецца да старажытнай міфалогіі або выкарыстоўвае постаці сусветна вядомых вучоных. Зусім магчыма, што выкарыстанне гэткіх элементаў выклікае ўражанне інтэлектуальнага поспеху такіх ці іншых паэтычных сцвярджэнняў або асацыяцыяў.

Агульныя настроі паэзіі гэтага творцы пазбаўленыя лёгкага аптымізму. Амаль усё, што ён піша, утрымана ў настальгічнай інтанацыі. Аўтар выразна пазбягае нацыянальнай актуальнасці і наогул уцякае ад патрэбаў падпарадкавання сваёй творчасці якім-колечы злабадзённым задачам ці патрэбам нацыянальнага жыцця. Бадай што ён праграмна пазбягае такіх паняццяў, як Беларусь, Радзіма, Айчына, Бацькаўшчына ці Родны край.

У гэтым сэнсе ён значна адрозніваецца ад большасці беларускіх эмігранцкіх паэтаў, якія з выразным замілаваннем звяртаюцца да нацыянальнай айчыннай тэрміналогіі.

Я. Чыквін выразна не дбае пра магчымасці і густы чытача і не робіць нічога, каб яму спадабацца. Ён не піша вершаў для дзяцей, для моладзі і для старых. Ён не піша таксама твораў для сялян, інтэлігенцыі ці рабочых. Паэт лічыць, што паэзія мае агульначалавечыя вартасці і што да гэтых вартасцяў павінен падцягвацца чытач, незалежна ад свайго ўзросту, сацыяльнай прыналежнасці ці сваіх палітычных поглядаў.

З гэтага ўсяго, аднак, не вынікае, што ў творчасці Я. Чыквіна няма сацыяльных ці нацыянальных элементаў. Яны ёсць. Выступаюць у шматлікіх вершах, якія павязаны з дзяцінствам і з роднай зямлёй. Але ў вершах, здавалася б, прысвечаных адцягнутым паняццям, час ад часу праяўляюцца грамадскія ды нацыянальныя матывы. Найчасцей яны не маюць характару распачатага і закончанага выкладу, а толькі выступаюць у форме адарваных рэфлексіяў ды рэмінісцэнцыяў.

Я. Чыквін — выразны праціўнік гэтак званай паэтычнай лапаталогіі, поўнай яснасці, зразумеласці і лагічнасці. Ён любіць засакрэчанасць, якая, мабыць, не спрыяе шырокай папулярнасці ягоных вершаў ва ўсходнебеластоцкага чытача, прывыклага да канонаў чыстатрадыцыйнай паэзіі. Вельмі часта гэты паэт карыстаецца намёкам і паўсловам, лаканічнымі ды паэтычнымі сродкамі, якія не заўсёды ствараюць просты ды прасторны шлях, што вядзе чытача да паэта.

Пры гэтым, аднак, Я. Чыквін не прыхіляецца да крайняга мадэрнізму і наватарства ў стылі Н. Артымовіч. І таму, шукаючы для яго творчасці месца ў амплітудзе ўсходнебеластоцкіх беларускіх паэтаў, мы знойдзем яго ў яе сярэдніх структурах. Але гэтыя структуры значна аддаленыя ад традыцыяналізму В. Шведа і Д. Шатыловіча і прыбліжаныя да радыкалізму Н. Артымовіч. Паэт гэты стараецца ўзвесці сваю ўласную паэтычную вежу, якая мае свой кшталт і свой колер.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

XIX стагоддзе ў Расіі паклікала да жыцця цэлую пляяду прадстаўнікоў дэмакратычна-рэвалюцыйнай філасофіі і грамадскай думкі, якія першы раз у гісторыі сваёй краіны паслядоўна спалучалі свой інтэлект з матэрыяльнымі інтарэсамі народных нізоў.

Прадстаўнікі гэтага ідэйнага напрамку нярэдка выраcталі з высакародных, але ўтапічных надзей і мараў Сен Сімона або з захапляючай сваёй шырынёй, але ідэалістычнай філасофіі Гегеля — у канцы, аднак, пераходзілі на родную глебу, якая выпеставала славутую рускую рэвалюцыйную дэмакратыю, што пакінула глыбокі след у сацыяльнай думцы ўсіх народаў царскай Імперыі, у тым ліку і ў Беларусі.

З глебы, падрыхтаванай гэтымі дзеячамі, вырас Кастусь Каліноўскі, адзін з выдатных прадстаўнікоў беларускай прагрэсіўнай думкі другой паловы XIX стагоддзя.

Частка даследчыкаў, якія абараняюць погляд аб мясцовым беларускім паходжанні яго продкаў, бароніць «беларускасць» Каліноўскага.

Другія, хоць і без верагодных пераканаўчых фактаў, стараюцца даказаць тэзіс аб польскім паходжанні сям’і Каліноўскага, продкі якой быццам бы прыехалі ў Беларусь з Польшчы. Нават Віктар Кардовіч, сучасны аўтар манаграфіі аб Каліноўскім, карыстаючыся непераканаўчымі доказамі, стараецца пацвердзіць гэтую канцэпцыю.

«Царква, — піша Кардовіч, — якая знаходзіцца ў Мастаўлянах, сведчыць аб тым, што ў гэтай вёсцы жыла ўніяцкая шляхта беларускага паходжання, а пасля ліквідацыі ў 1839 годзе царкоўнай уніі — праваслаўная. Каліноўскія, аднак, засталіся католікамі, а з гэтага трэба было б зрабіць вывад, што яны былі прышэльцамі, інакш былі б прылучаны разам з усімі жыхарамі вёскі да праваслаўя»*.

Па-першае, выклікае сумненне само сцвярджэнне аб шляхце, якая нібыта жыла ў Мастаўлянах, на існаванне якой у гэтай, чыста сялянскай, вёсцы няма ніякіх доказаў.

Па-другое, да сённяшняга дня ў многіх беларускіх вёсках, нават у сялянскім асяроддзі, засталося нямала католікаў, продкаў якіх ні ў якім выпадку нельга залічваць да наплыўнага, этнічна

---

* Kordowicz W. Konstanty Kalinowski. Warszawa, 1955.

чужога, элемента. Пры гэтым варта заўважыць, што да XIX стагоддзя вялікая колькасць беларусаў была ўжо каталікамі, дзякуючы чаму ліквідацыя уніі ні ў якім выпадку іх не датычыла*. Але нават у час ліквідацыі уніі, якая праводзілася з асаблівай жорсткасцю, існавалі магчымасці пераходу ўніятаў у каталіцызм, што несумненна скарыстала частка беларусаў, асабліва з асяроддзя апалячанай шляхты. Сёння, зразумела, цяжка сказаць, да якой з пералічаных груп належала сям'я Каліноўскіх, але незалежна ад гэтага атаясамліваць нацыянальнасць (як гэта робіць Кардовіч) з веравызнаннем, асабліва на тэрыторыі Беларусі, з'яўляецца хісткім доказам, якім карыстацца ў сур'ёзным навуковым даследаванні — даволі рызыкоўна. Дзіўна, гэты беспадстаўны погляд у нейкай меры раздзяляе і Вялікая Савецкая Энцыклапедыя, даючы Каліноўскаму характарыстыку «…польскі нацыянальна-рэвалюцыйны дзеяч»** і амаль цалкам абмінаючы яго сувязі з беларускім насельніцтвам і яго ролю ў працэсе беларускага разумовага і сацыяльнага адраджэння. Здаецца, што пры сучасным стане няпоўнага вывучэння пытання аб паходжанні продкаў Каліноўскага, найбольш прымальная і лагічная канцэпцыя аб мясцовай беларускай генеалогіі сям'і Каліноўскіх. Калі б у будучым навуковыя доследы даказалі праўдзівасць супрацьлеглай канцэпцыі, то і так ад гэтага не зменіцца наш погляд на Каліноўскага, урослага ўсімі карэннямі ў беларускую глебу і аддаўшага ўсе свае сілы барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага сялянства.

*

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 12.1.1838 года ў Мастаўлянах. Дзяцінства правёў у Якушоўцы, за некалькі вёрстаў ад Свіслачы, дзе бацька яго купіў зямельны маёнтак. Гэты кут Гродзеншчыны, так характэрны для Беларусі, калі ідзе аб галечы сялянскага быту, меў несумненна сур'ёзны ўплыў на псіхіку маладога хлапца. Магчыма, што ўжо з гэтых гадоў, назіраючы за страшэннымі сацыяльнымі кантрастамі, ён вынес уражанне здзіўленасці.

* Працэс акаталічвання беларускага насельніцтва вызначаецца асаблівай інтэнсіўнасцю ў XVI і пазнейшых стагоддзях. У першую чаргу паддалася яму беларуская арыстакратыя, пасля агарнуў ён беларускую шляхту і толькі ў канцы нязначна крануў бедных жыхароў гарадоў і вёсак.

** Большая Советская Энциклопедия. 1937. Т. 30. С. 737.

Дзесяцігадовае (1846–1855) прабыванне ў свіслацкай гімназіі, дзе паглыбляліся яго тэарэтычныя веды, не магло не наблізіць Каліноўскага да беларускай рэчаіснасці. Аднак поўная крышталізацыя яго светапогляду і выпрацоўка практычнага зместу змагання з сацыяльным ладам мелі здзейсніцца толькі ў Маскве, а перадусім у Пецярбургу, у які пасля заканчэння свіслацкай гімназіі і кароткага прабывання ў Маскве накіраваўся Каліноўскі.

Тут сустракаецца з сваім братам Віктарам і супольна вырашаюць многія праблемы. Зарыентаваныя ў тайнах польскага рэвалюцыйнага руху, сярод вялікай пецярбургскай польскай калоніі, якая складалася з чыноўнікаў, студэнтаў і афіцэраў, Кастусь Каліноўскі цалкам акунаецца ў кіпучую атмасферу. Адукацыя на юрыдычным факультэце ўніверсітэта, які быў адным з галоўных цэнтраў рускага рэвалюцыйнага руху, паскарае працэс ідэйнага даспявання Каліноўскага.

Такім чынам, прабыванне Каліноўскага ў Пецярбургу прыпала якраз на той перыяд жыцця Рускай Імперыі, калі наступіла трыумфальнае пашырэнне ідэй разначыннай рэвалюцыйнай дэмакратыі, якая гвалтоўнай дынамікай сваіх аргументацый раз і назаўсёды зварухнула з месца скасцянеласць рускай рэчаіснасці. Уплыў прадстаўнікоў рэвалюцыйнага напрамку на практычнае жыццё, і перш за ўсё Герцэна ў эміграцыі і яго «Колокола», быў такі вялікі, што сярод насельніцтва кружыў жарт аб тым, што невядома, хто кіруе Расіяй, Аляксандр II ці Аляксандр Герцэн.

На фармаванне цэласнасці светапогляду Каліноўскага паўплывала, несумненна, многа фактараў як суб’ектыўнага, так і аб’ектыўнага характару, фактараў, нярэдка не даступных ужо сучаснаму даследчыку. Гэта, аднак, не перашкаджае ўлічыць галоўныя крыніцы яго ідэйных імкненняў. Да іх у першую чаргу належаць: беларускі сялянскі антыпрыгонны рух; дзейнасць прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі; ідэі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі.

*

Пасля заканчэння адукацыі ў Пецярбургскім універсітэце — на пераломе 1860 і 1861 года — Каліноўскі вяртаецца ў Беларусь. У сэнсе дынамікі росту і палітычнай актывізацыі сялянства гэта была ўжо зусім другая краіна ў параўнанні з той, якую пакінуў пяць гадоў назад.

Грамадскія нізы, паводле трапнага выказвання Леніна, рашуча не хацелі жыць па-старому. Час завастрыў сацыяльныя канфлікты, якія нярэдка пачалі шукаць выхаду ў адкрытых антыфеадальных бунтах. Над галавой вісеў грозны прывід рэвалюцыі. Перад абліччам пагрозы царскі ўрад робіць уступку ў выглядзе сялянскай рэформы 1861 года.

Рэформа ў значнай ступені была пахавальніцай сялянскіх надзей на поўнае вызваленне і адначасова крышыла ілюзіі аб царскай дабраце.

З другога боку, і захаванне формаў прыгоннай гаспадаркі Польшчы стварыла спрыяльную глебу для масавага антыцарскага паўстання, ад якога палякі ніколі не адмаўляліся. Заставалася, аднак, спрэчнай справа выбару шляхоў барацьбы і акрэслення характару будучага паўстання. Тут ніколі не дайшло да поўнай згоды. Кастусь Каліноўскі, будучы прыхільнікам антыцарскага паўстання ў Беларусі, звязвае надзею з яго пасяховасцю і з агульным аб'яднаным выступленнем палякаў, беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, разлічваючы пры гэтым на падтрымку рэвалюцыйных рускіх элементаў. Адстойваючы тэзіс супольнай барацьбы, ён бароніць, аднак, права няпольскіх народаў да самастойнага дзяржаўнага існавання, з чым не заўсёды згаджалася Варшава.

Другой, бадай што найважнейшай, прычынай нязгоды быў характар паўстання, якое, на думку Каліноўскага, мела быць не толькі антыцарскім, але і самастойна сялянскім, антыпамешчыцкім. Агатон Гілер, адзін з удзельнікаў паўстання 1863 года, піша: «…Кранула мяне балюча яго (Каліноўскага. — *А. Б.*) тэорыя аб будучым паўстанні ў Літве, якое, на думку Каліноўскага, павінна было абапірацца толькі на польскім сялянстве, а шляхту, значыць, трэба пакінуць на баку»*.

Ці мог Каліноўскі, выказваючы такія думкі, не трапіць у глыбокі канфлікт з правымі арганізатарамі паўстання, якія з прагнасцю глядзелі на ўсходнія землі і з выразным страхам сачылі за антыпамешчыцкімі тэндэнцыямі ў сялянскім руху. Зразумела, што канфлікт быў непазбежны. Менавіта таму Варшаўскі цэнтр пры першай аказіі разграміў віленскі «Камітэт Руху», у які ўваходзіў Каліноўскі з першых дзён яго існавання. На месца гэтага органа быў пакліканы «Камітэт кіравання правінцыямі», які ў намерах цэнтра меў быць выразнікам інтарэсаў буйных

* Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. Paryż, 1867. T. I. S. 49.

землеўласнікаў і які ўжо ў сваёй назве насіў экспансіўны характар.

У нацыянальным пытанні Каліноўскі стаяў, несумненна, на пазіцыях Герцэна і Бакуніна, якія пакідалі за народамі поўную свабоду ў выбары формы сувязяў з суседзямі, дапускаючы поўнае права на адрыў або федэрацыю з Польшчай або з Расіяй.

Герцэн, бачачы ў польскіх выказваннях замашкі, якія пагражалі беларусам, літоўцам і ўкраінцам нацыянальнай няволяй, прысвяціў нацыянальнаму пытанню нямала месца на старонках «Колокола», паслядоўна абараняючы правы гэтых народаў на свабоднае вырашэнне свайго лёсу. Ён пісаў: «У сучасных умовах вельмі цяжка даведацца, чаго жадае Літва, Беларусь і Маларасія, прыгнёт рускага ўрада не дае ім найменшай магчымасці выказацца, і гэты ж прыгнёт прымушае іх змешваць усё рускае з урадавым…» і далей «…скажам разам з палякамі: быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны хочуць або ні з кім, каб толькі волю іх пазнаць, не падробленую, а сапраўдную»*. Яшчэ больш ясна выказаў свае думкі Бакунін. «Я думаю, што ўся Украіна, а таксама і Беларусь, будуць самастойнымі сябрамі агульнаславянскай сувязі. Я вымагаю толькі аднаго: каб кожнаму народу, кожнаму малому і вялікаму племю былі дадзены магчымасці і правы дзейнічаць згодна з уласнай воляй. Жадае ён зліцца з Расіяй ці Польшчай, няхай зліваецца, хоча быць самастойным, няхай будзе гэткім. Урэшце, хоча ён зусім ад усіх аддзяліцца і жыць на ўмовах зусім асобнай дзяржавы — бог з ім, няхай аддзяляецца»**.

Варта адзначыць, што Варшава, знаходзячыся пад націскам дэмакратычнай думкі свету, а таксама імкнучыся запэўніць у паўстанні ўдзел як найбольшай колькасці беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, на старонках гэтага ж «Колокола» апублікавала дэкларацыю, у якой заявіла наступнае: «…імкнемся да адраджэння Польшчы ў даўніх межах, пакідаючы за народамі, якія пражываюць у гэтых межах, гэта значыць ліцвінамі і русінамі, свабоднае права выбару аб’яднання з Польшчаю або вырашэння свайго лёсу згодна з уласнай воляй».

Аднак у сувязі з пераважным уплывам у цэнтральных польскіх уладах прыхільнікаў непадзельнасці старой Рэчы

---

* Поўны збор твораў п. р. Ленке. Т. XV. С. 516.

** Цыт. па кн.: Піятуховіч. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Ч. I. Мінск, 1928. С. 94.

Паспалітай гэтая дэкларацыя ўжо ў дні паўстання адзначалася галаслоўнасцю.

Усё гэта нараджала ў душы Каліноўскага цяжкае пытанне, вырашэнне якога згодна са шчырымі перакананнямі, магчыма, паставіла б яго па-за шэрагамі паўстанцаў.

Прымушаны ходам падзей, ён прымыкае да «Камітэта кіравання правінцыямі» і абяцае поўнае падпарадкаванне сваёй асобы яго загадам.

Назначаны на пост ваеннага камісара Гродзеншчыны, пакідае Вільню. Дакладнае веданне мясцовасці гэтай губерні, якую ён у выглядзе жабрака ці гандляра не раз наведваў пасля звароту з Пецярбурга, дазваляе Каліноўскаму паспяхова выконваць пастаўленыя цэнтрам заданні. Разнародныя формы сялянскага супраціўлення, згодна з намерамі паўстанцкіх улад, павінны былі аб’яднацца для ўзброенай барацьбы, падпарадкаванай адзінаму кіраўніцтву. У гэтым сэнсе выбух паўстання меў несумненна сур’ёзны ўплыў на крышталізацыю і актывізацыю беларускага сялянскага руху, які прычыніў царскім прыгнятальнікам нямала клопату. Разгортванне паўстанцкіх падзей мела асабліва востры характар у заходніх губернях Беларусі, побач з галоўным месцам паўстання — Польшчай.

Пры гэтым, аднак, трэба адзначыць, што далёка не ўсе матэрыяльныя і людскія рэзервы ў Беларусі былі выкарыстаны ў паўстанні.

Прычыну абыякавасці, з якой аднеслася пэўная частка беларускага насельніцтва да паўстання, трэба шукаць у непаслядоўнасці аграрнай праграмы Белых, выразам якой быў, між іншым, і характар паўстання, дзе галоўную ролю ігралі памешчыкі; у дэмагагічнай палітыцы Мураўёва, які абяцаў матэрыяльныя выгоды за няўдзел у паўстанні, у антыпаўстанцкай агітацыі праваслаўнага духавенства з яго сур’ёзным уплывам сярод часткі цёмнага беларускага насельніцтва; у жорсткіх формах праследвання асоб, звязаных з паўстаннем.

Павольнае выгасанне паўстання ўжо ў канцы 1863 года не азначала пакуль што яго смерці якраз цяпер, пасля арышту многіх дзеячаў з паўстанцкага віленскага цэнтра. Каліноўскі як адзін з самых здольных канспіратараў і важакоў становіцца фактычным і фармальным кіраўніком паўстання ў Беларусі і Літве.

Згода з Варшавай была для Каліноўскага нечым знешнім. Унутрана ён заставаўся верны сваім папярэднім сацыяльным і нацыянальным прынцыпам. І калі толькі здарылася магчымасць, ён выкарыстаў яе для дэманстрацыі сваёй адданасці ідэі

незалежнасці Літвы і Беларусі. Здарэнне гэтае прадстаўлена Агатонам Гілерам, які так гаварыў аб адным з пасяджэнняў Віленскага камітэта кіравання правінцыямі: «Пасля сказанага мною, — напамінае Гілер, — усе згадзіліся, што прычына бяздзеяння знаходзіцца ў Варшаве, а Малахоўскі крыкнуў: “Даволі гэтай пасіўнасці, Варшава не разумее нашых патрэб, мы самі павінны дбаць пра дабро Літвы, мы ўсе тут сабраныя вырашылі ліквідаваць гэтую залежнасць, якая нас губіць”. Гаворачы так, ён кінуў на стол пячатку, на якой апрача герба Літвы былі выразаныя словы “Камітэт кіравання Літвой”»*.

І нягледзячы на тое, што Гілер лічыў гэты ўчынак «сепаратызмам і здрадай», Малахоўскі разам з рашучым прыхільнікам такога вырашэння справы — Каліноўскім не ўступілі. Скасаванне польскага арла з паўстанцкай пячаткі мела не толькі знешняе значэнне, было яно выразнай дэманстрацыяй непахіснай волі, накіраванай супраць экспансійнай варшаўскай палітыкі Белых. Апрача гэтага, каб працягваць паўстанне, Каліноўскі рабіў спробы ўвайсці ў кантакт з рускай рэвалюцыйнай арганізацыяй «Зямля і Воля».

Аднак ні гэтыя, ні другія мерапрыемствы ўжо не маглі змяніць лёсу паўстання, якое пад напорам рускіх войск з кожным днём усё больш і больш падала.

Крывавы марш расправы Мураўёва з паўстанцамі ў Вільні меў закончыцца апошнім балючым акордам — смерцю Каліноўскага. Жыў ён у гэты час у Вільні, недалёка ад кватэры Мураўёва, канспіруючыся пад псеўданімам Вітажэнца. Выдадзены здраднікам, быў арыштаваны ля дзвярэй сваёй кватэры 1.1.1864. Пасля доўгіх допытаў, праведзеных у атмасферы маральных і фізічных мук, ён быў публічна павешаны на Лукішскай плошчы 10.III (ст. ст.) 1864 года. Паводле сцвярджэнняў сучаснікаў, Каліноўскі быў апошняй ахвярай мураўёўскага тэрору ў Вільні.

Галоўная мэта гэтага артыкула заключаецца ў азнаямленні чытача з беларускай публіцыстычна-літаратурнай творчасцю Каліноўскага. «Мужыцкая праўда», займаючы ў яго публіцыстычных дасягненнях галоўнае месца, не адзіны твор Каліноўскага. Яго публіцыстычна-літаратурная спадчына дапаўняецца «Пісьмом Яські-гаспадара з-пад Вільні» і «Пісьмом з-пад шыбеніцы», напісаным напярэдадні смерці ў час прабывання ў віленскім астрозе.

---

* Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego, 1861–1864. T. II. S. 62–63.

У «Пісьме з-над шыбеніцы» ўплецены бадай што адзіны верш Каліноўскага. У гэтай вершаванай алегорыі пад постаццю Марысі выступае Беларусь, і ў апошніх дзвюх строфах аўтар адыходзіць ад алегорыі і ў непасрэдным звароце да «мужыцкага народу» заахвочвае беларускае сялянства да барацьбы за сваё вызваленне. Апрача пералічаных твораў некаторыя з даследчыкаў прыпісваюць Каліноўскаму сааўтарства і ўдзел у выданні «Гутаркі двух суседаў» — газеты на беларускай мове, якая выходзіла адначасова з «Мужыцкай праўдай».

У сувязі з тым, што няма ніякіх доказаў, якія б пацвярджалі гэтую думку, трэба яе лічыць беспадстаўнай. Нягледзячы на тое, што ад выхаду ў свет «Мужыцкай праўды» і іншых твораў Каліноўскага прайшло амаль сто год, іх змест і праблематыка застаюцца наогул мала вядомымі нават нашай інтэлігенцыі. Таму гэты артыкул, абапіраючыся на пашыраныя цытаты з усіх твораў Каліноўскага, ставіць галоўнай сваёй мэтай давесці да чытача як найбольшую частку арыгінальнай творчасці гэтага дзеяча.

Прыступаючы да дакладнага аналізу «Мужыцкай праўды» і іншых твораў Каліноўскага, хацелася б зрабіць гэта ў некалькіх аспектах як фармальнага, знешняга, так і ўнутранага, зместавага характару.

«Мужыцкая праўда» пачала выходзіць у палове 1862 года ў Беластоку і прызначалася, аб чым сведчыць сама назва, для сялянскага насельніцтва Беларусі.

Аўтарам тэксту ўсіх сямі нумароў была, несумненна, адна асоба. Гэта відаць не толькі з пастаўленага подпісу «Яські», але і з прадаўжальнасці адных і тых самых пытанняў ва ўсіх нумарах і, у першую чаргу, з стылёвых асаблівасцей, якія вызначаюцца поўнай ідэнтычнасцю стылю аўтарскай мовы. Мова газеты амаль цалкам супадае з дыялектам ваколіц Ялоўкі і, праўдападобна, Свіслачы, што яшчэ раз упэўнівае нас у тым, што аўтарам «Мужыцкай праўды» быў Каліноўскі. Адсутнасць выпрацаваных формаў беларускай літаратурнай мовы прымушала Каліноўскага да частковага, хоць вельмі рэдкага, карыстання некаторымі часта напалову збеларушчанымі польскімі словамі, якімі, відавочна, карысталася мясцовае сялянства. Напрыклад, ронд (урад), паказьна (прыкметна, значна), потэнпене (асуджэнне), мэнкі (мукі). Пры гэтым карыстаўся ён польскімі насавымі «ą» і «ę», якія, магчыма, у некаторых выпадках былі памылкай наборшчыка ў друкарні. Шрыфт усіх выданняў Каліноўскага — лацінскі. «Мужыцкая праўда» друкавалася на дзвюх старонках невялічкага ліста і сваім знешнім выглядам хутчэй нагадвае

адозву, чым газету. Аднак аднолькавая ва ўсіх нумарах назва, а таксама захаванне чарговай нумарацыі, а часткова і цана, набліжаюць яе да газетных выданняў. Трэба адзначыць, што сам Каліноўскі бачыў у «Мужыцкай праўдзе» менавіта газету. І нягледзячы на тое, што яна не змяшчаецца ў сённяшняе разуменне гэтага слова, усё ж такі яна можа лічыцца першай у гісторыі беларускай газетай. Праўдападобна, Каліноўскі намерваўся выдаваць «Мужыцкую праўду» пастаянна і рэгулярна, аднак умовы падпольнага існавання і звязаная з гэтым паліцэйская пагроза не дазволілі ажыццявіць гэты намер. Таму ішлі вялікія перабоі ў выданні газеты, выхад якой на сёмым нумары спыніўся зусім.

Тыраж «Мужыцкай праўды», відавочна, назаўсёды застанецца неразгаданым пытаннем. Даволі цяжка сказаць аб шляху распаўсюджвання газеты. Можна, аднак, меркаваць, што яе распаўсюджванне вялося сувязнымі, якія рассылаліся ў некаторыя раёны Беларусі цэнтрам падпольнага руху ў Беластоку. Пры гэтым і сам Каліноўскі, часта наведваючы беларускія вёскі, папулярызаваў сваю газету. Аб гэтым сведчыць данос прыстава Слонімскага павета, які 27.X.1862 пісаў гродзенскаму губернатару, што «…7 дня кастрычніка месяца ў 5 гадзін пасля палудня праезджы, едучы паштовым трактам праз вёску Шэйпякі ў горад Ваўкавыск на пары паштовых коней, выкідваў скруткі паперы на дарогу і памянёныя сяляне, падымаючы іх, звярталіся да пісьменных сваіх сабратоў з просьбай прачытаць… Вяртаўся я на Ражанскую паштовую станцыю і па сабранай мною асабіста даведцы выявіў, што праезджым пасажырам быў, як відаць з кніг… нехта дваранін Вікенцій Каліноўскі… які вяртаўся з Слоніма ў г. Ваўкавыск»*. Зразумела, што ні Каліноўскі і ні яго паплечнікі не маглі даставіць газету ва ўсе куткі Беларусі — гэтаму перашкаджалі фактары як палітычнага, так і тыражнага характару. Менавіта таму звяртаецца ён да чытачоў з наступнай просьбай: «Чытайце з увагаю, а як прачытаеце, аддавайце да другой вёскі»**.

«Мужыцкая праўда» цікавіла, аднак, не толькі чыноўнікаў і паноў. Нават сам міністр унутраных спраў патрабаваў дакладных даных аб месцы яе друку і спосабах распаўсюджвання, гэта найлепш сведчыць аб тым, якой грознай з'явай у тагачасным жыцці

---

* Партархіў ЦК КП Беларусі. Ф. 4, воп. 22, зв. 75, с. № 814. Цыт. па кн.: Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадскай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой пал. XIX ст. С. 198.

** Мужыцкая праўда. № 2.

была газета Каліноўскага. Аднак дасканаласць канспірацыі, з якой выдавалася газета, не дазволіла гродзенскаму губернатару даць задавальняючы адказ. «Лічу сваім абавязкам, — пісаў губернатар міністру, — успомніць аб новым данясенні беластоцкага штаб-афіцэра аб тым, што днямі атрымаў ён сакрэтна далучаныя тут копіі трох брашур, з якіх дзве — гэта нумары “Мужыцкай праўды”…»* І гэта ўсё. Цікава адзначыць, што некаторыя нумары «Мужыцкай праўды» былі знойдзены паліцыяй толькі ў 1864 годзе, і гэта сведчыць аб тым, што газета трапляла ў пэўныя і надзейныя сялянскія рукі.

*

Дыяпазон пытанняў, закранутых ў «Мужыцкай праўдзе» і іншых творах Каліноўскага, вельмі шырокі. Тут выступае антыпрыгонная і антырэформенная агітацыя, акрэсліваецца характар сялянскага сацыяльнага руху, праводзіцца антырэкруцкая прапаганда, выступаюць разважанні аб характары дзяржаўнай улады, закранаецца пытанне заканамернасці працэсу разумовага развіцця сялянства, нямала гаворыцца аб рэлігійных справах, вядуцца грунтоўныя разважанні над метадамі барацьбы і шляхамі вызвалення з-пад тагачаснага ладу. Усе гэта падпарадкавана адзінай запаветнай думцы аб вызваленні беларускіх сялян ад панскага і царскага прыгнёту.

*

Прыступаючы да выдання газеты, Каліноўскі стараецца стварыць спрыяльную атмасферу для яе распаўсюджвання. Дзеля навязвання цеснага ідэйнага кантакту з чытачом аўтар даволі часта падкрэслівае сваё сялянскае паходжанне. Такім чынам хацеў ён сцерці ўсякую прадузятасць, якая магла ўзнікнуць паміж ім і чытачом. Адсутнасць даверу, а нярэдка нават варожасць сялянства да друкаванага палітычнага слова была паўсядзённым фактам. Гэта зусім зразумела, калі ўзяць пад увагу, што пісанае слова, асабліва слова сацыяльнага характару, было нярэдка прадуктам адукаваных асоб, найчасцей выхадцаў з варожых сялянству класаў. Ведаючы гэта, Каліноўскі паслядоўна, з упорам, падкрэслівае сваё сялянскае паходжанне,

---

* Миловидов А. И. Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. Т. I. С. 144–145.

сваю класавую адзінакроўнасць: «Мы мужыкі *браты вашыя*, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас!»*, або «як нам здаецца *на наш мужыцкі розум*», ці ўрэшце подпіс пад газетай: «Гэту Мужыцкую Праўду напісаў і зноў пісаці будзе *Яська-гаспадар* з-пад Вільні»**. Такім чынам, Каліноўскі ўмела набліжаецца да сялянства, стаючыся яго неадлучнай часткай, падымаючы адначасова пачуццё годнасці селяніна, здольнага перанесці сваю крыўду, свае імкненні і надзеі на паперу і распаўсюджваць іх па свеце. «Мінула ўжэ тое, калі здавалося ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе»***. Можам, аднак, меркаваць, што дэкларацыя аб «сялянскасці» аўтара не памагла б яму, калі б у газеце не было блізкага сялянскім імкненням палітычнага напрамку, а таксама стылю мовы газеты, у якой Каліноўскі падышоў усутык да жывой народнай гаворкі. Нават сёння, чытаючы «Мужыцкую праўду» і іншыя творы, нягледзячы на тое, што ведаем іх аўтара, выносім уражанне, што пісаў іх не чалавек з вышэйшай адукацыяй, не кандыдат юрыдычных навук, а чалавек — выхадзец з народных нізоў, кроўна звязаны як разумовым узроўнем, так і інтарэсамі з беларускім сялянствам. Не можа быць ніякіх сумненняў у тым, што слова Каліноўскага ўзварушыла тагачаснага чытача сваёй прастатой і шчырасцю, ясным акрэсленнем шляхоў змагання і палітычных мэт. Сама назва газеты згодна з намерам аўтара нясе ў газеце якасны груз праграмна-палітычнага характару. Паводле Каліноўскага, «Мужыцкая праўда» — гэта зямля і свабода для абяздоленага беларускага селяніна. І сапраўды, зямля была асноўным пытаннем — пытаннем жыцця і смерці ў дарэформенную, а нават і паслярэформенную эпоху. І кожная іншая форма прапаганды — прапаганды, не ўрослай сваімі карэннямі ў зямельнае пытанне — была б беспрадметнай і не прынесла б пажаданых вынікаў. Такім чынам, у планах Каліноўскага сялянскае вызваленне атаясамліваецца з уласным кавалкам зямлі. Палітычная мэта Каліноўскага не ў замазванні асноўнага класавага канфлікту эпохі — паміж сялянствам і памешчыцтвам, а ў яго завастрэнні. «...скуль жа, — пытае аўтар, — гэта ўзялося, што адзін марнуе да і над людзьмі збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо

* Мужыцкая праўда. № 1.

** Тамсама.

*** Тамсама.

аброкі ў казну плаціць?»* Каліноўскі правільна лічыць, што на гэтае адвечнае пытанне, з прычыны характару сваіх класавых інтарэсаў, не змогуць аб’ектыўна адказаць прадстаўнікі пануючых класаў «кожны па-свойму талкуе, на сваю старану цягне. Цар кажа, што ён добра нам думае, а паны кажуць, што яны добра думаюць нам зрабіці, а мужык бедны ад іх дабросці як прападаў, так і прападае»**. Варта адзначыць, што і Каліноўскі, стараючыся растлумачыць гістарычнае пытанне аб паходжанні класаў, карыстаецца няправільнай негістарычнай канцэпцыяй, аб якой будзе гаворка ў іншым месцы гэтага артыкула. Аднак у ацэнцы тагачаснай рэчаіснасці ён амаль заўсёды паслядоўна застаецца на пазіцыях дэмакратычнага разумення сутнасці класавых адносін. У першых нумарах «Мужыцкай праўды» Каліноўскі пакуль што не выходзіць з заклікам да ўзброенага паўстання, а толькі стараецца падтрымаць хвалю антыфеадальнага руху, які быў выразам незадавальнення сялянства сутнасцю зямельнай рэформы 1861 года. Выкарыстоўваючы гэтыя настроі, Каліноўскі праз згушчэнне адмоўных фарбаў з фактаў сялянскага жыцця і дзяржаўных парадкаў царскай Расіі стараецца накіраваць вызваленчыя імкненні сялянства ў акрэсленым, арганізаваным антыпанскім і антыцарскім напрамку. Арганізацыйная субардынацыя гэтага руху: узбройванне яго тэарэтычным фундаментам, падрыхтоўка да рашучых і самастойных дзеянняў — вось мэты, якія кіравалі Каліноўскім. Заклік да паўстання пакуль што не меў сэнсу, глеба да ўзброенага выступлення не была яшчэ падрыхтавана. Нават 1863 год, які прынёс пачатак паўстання, паводле Каліноўскага, быў заўчасным. У сувязі з гэтым нельга было разлічваць на паспяховасць***. Праўда, ужо і тут аўтар асвоіў чытача з думкай аб непазбежнасці вайны з пануючым ладам, якая будзе весціся з той мэтай, «...каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі і каб навек вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы»****. Нягледзячы на гэта, галоўным матывам першых нумароў з’яўляецца эканамічная антыпрыгонная і антырэформенная агітацыя. «...Мужыкі панскія

* Мужыцкая праўда. № 2.

** Тамсама.

*** Па гэтым пытанні Каліноўскі, відавочна, падзяляў погляды Герцэна, які даводзіў, што нельга разлічваць на паспяховасць польскага паўстання, калі ў Расіі не будзе падрыхтаванай глебы да антыцарскіх выступленняў.

**** Мужыцкая праўда. № 2.

і казённыя не павінны плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю — бо гэта зямля да нас належыць»*.

Лічачыся з тым, што як дзяржава, так і памешчыкі будуць старацца прадухіліць сялянскае эканамічнае супраціўленне, Каліноўскі перасцерагае чытача перад дэмагогамі, называючы іх царскімі або панскімі наймітамі. «То пэўна ашуканства, — перасцерагае ён, — што за царскія альбо панскія грошы вечнай вашай згубы хоча»**. Непаслядоўнасць царскага зямельнага маніфеста ад 1861 года сталася зыходным пунктам да вострых атак, якія праводзіліся Каліноўскім амаль у кожным нумары «Мужыцкай праўды», а таксама і ў іншых яго творах. Маніфест, на думку аўтара, быў супольным плодам царызму і землеўласнікаў, і адсюль менавіта выплываў яго антысялянскі характар. «…гэты маніфест, што цар з сэнатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён надобны, — ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці»***. Улічваючы, што царызм для задушэння сацыяльных хваляванняў сярод сялянства можа выступіць з новымі ашуканствамі, пустаслоўнымі і дэмагагічнымі дэкларацыямі, Каліноўскі перасцерагае беларускую вёску ад наіўнай веры ў высакароднасць падобных крокаў. «Могуць яшчэ напісаці і другі маніфест, яшчэ большы ад гэтага, но і з гэтага другога маніфесту нічога добрага, як і з першага, не будзе»****. Такім чынам, Каліноўскі, добра ведаючы антынародны характар царызму і памешчыцтва, паслядоўна выкрываў як першых, так і другіх.

Пры гэтым Каліноўскі час ад часу кідае ў адрас паноў і дзяржавы пагрозу, якая з асаблівай сілай прагучала ў чацвёртым нумары «Мужыцкай праўды»: «Калі мужык разгуляецца, то як свет шырокі, кроў ваша паліецца»*****. Часткова гэты ж самы матыў паўтараецца і ў іншых нумарах газеты. Аднак ні ў адным з шасці першых нумароў «Мужыцкай праўды» няма гутаркі аб паўстанні. З гэтага можна зрабіць вывад, што ўсе яны выйшлі з друку да студзеня 1863 года, у якім, як вядома, выбухнула паўстанне. І толькі ў самым апошнім нумары газеты аўтар выступае з гарачым заклікам да паўстання беларускай вёскі. З гэтага відаць, што сёмы нумар выйшаў у першыя месяцы паўстання.

---

* Мужыцкая праўда. № 2.

** Тамсама. № 2.

*** Тамсама. № 1.

**** Тамсама.

***** Тамсама. № 4.

*

*Рэкрутчына — адна з балючых праблем, якая ўскладняла многім беларускім сем'ям і так нялёгкае жыццё*, — знаходзіцца ў цэнтры ўвагі Каліноўскага. Рэкруцкія прымусовыя наборы і шматгадовае прабыванне ў царскай арміі не маглі не хваляваць беларускага селяніна, які адзначаўся асаблівай прывязанасцю да сваёй краіны. Рэкрутчына, эканамічна аслабляючы вёску, выводзіла адначасова з яе найбольш актыўную ў грамадскім і палітычным сэнсе моладзь, якая падпадае пад шматгадовую русіфікацыю. Устрыманне пастаяннага адплыву беларускай моладзі ў глыбіню Расіі магло б мець прыкметны ўплыў на лёсы планаванага, будучага антыцарскага паўстання. Відавочна, сыходзячы з гэтых меркаванняў, Каліноўскі кладзе асаблівы націск на падрыхтоўку беларускіх сялян да антырэкруцкіх выступленняў. У тых частках артыкулаў, дзе закранаюцца пытанні, звязаныя з наборамі, асаблівая вобразнасць заўважаецца пры характарыстыцы балючых бакоў рэкрутчыны. Мэта эмацыянальнага ўздзеяння на сялянскую псіхіку акрэсліла тут форму літаратурнага прыёму. «…чы ёсць паміж намі хтолень каб не аплаківаў яшчэ альбо свайго сына, альбо свайго брата, альбо свайго мужа, што цар забраў яго ў рэкруты да і загнаў чорт ведае гдзе? Працуе бацька цяжка на дзеткі свае, гадуе маці сына, ночанькі не спіць, а цар, сабача яго вера, як гэты воўк, закраўшыся, вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад радні далёка. А маскоўскае жыццё — горка ўжэ доля. Забыці там трэба, што ёсць у нас наша бацькаўшчына, што ёсць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечну няволю нашых братоў»*.

З другога боку, Каліноўскі звяртае ўвагу чытача на класавы, антынародны характар царскай арміі, прызначанай для ліквідацыі сялянскіх бунтаў і ўмацавання пазіцыі памешчыцтва. На думку аўтара, служба ў такой арміі ставіць кожнага яе ўдзельніка ў непасрэдную калізію з інтарэсамі класа, з якога ён выйшаў. «…мы то даемо рэкрута і нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца, і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае нас усіх у вечну няволю»**.

У канцы пятага нумара «Мужыцкай праўды» Каліноўскі пераходзіць да практычных крокаў, якія маюць прадухіліць но-

* Мужыцкая праўда. № 5.

** Тамсама.

выя наборы. Паспяховасць антырэкруцкай кампаніі ён звязвае з рашучасцю, з годнасцю і няўступнасцю сялян. «…так цэлымі грамадамі, — раіць Каліноўскі, — згаварыўшыся, нігдзе яму (цару. — *А. Б.*) не давайце. Ён цяпер хоча ўзяці 5 з тысячы, но як мы яму дамо 5, то ён пазней захоча ўзяці 10, і зноў пойдзе па-старому. Цяпер мы яму аддамо гыцлёў, но пазней трэба будзе аддаці і сваіх сыноў. Так для таго, дзецюкі, талкуйце добра і не давайцеся ашуківаць. За мужыцкую праўду стойце смела, усе разам і калі хто захоча крыўдзіць вас, выцягаці рэкрута, то хто бы ён ні быў, чы то старшына, чы акружны, чы хоць сам губернатар, то вы яго таўчэце мужыцкаю рукою, а будзе вольнасць і рэкрута не будзе»*. Стараючыся ўпэўніць жыхароў беларускай вёскі ў правільнасці сваіх парад, Каліноўскі звяртае ўвагу на польскіх сялян, якія сваёй рашучасцю спынілі рэкруцкі набор. «Паказываюць, — піша ён, — што мужыкі коло Варшавы збунтаваліся і не далі рэкрута. Тагды цар паняволі мусіў даравацi. Так пытаю вас, дзецюкі, — што ж нам трэбо зрабіці»**. Да рэкруцкага пытання Каліноўскі вяртаецца безупынна. Гэта датычыць як наступных нумароў «Мужыцкай праўды», так і іншых яго публіцыстычных твораў. Аднак у сувязі з тым, што прыведзеныя прыклады дастаткова характарызуюць адносіны Каліноўскага да рэкрутчыны, а таксама і таму, што яго далейшыя разважанні над гэтым пытаннем утрыманы ў рамках форм аргументацыі, прыклады якой ужо тут прыводзіліся, на нашу думку, прадаўжэнне гэтай часткі артыкула не ўносіла б нічога новага ў вобраз постаці Каліноўскага.

*

Пытанне *характару дзяржаўнай улады і ролі ўрада ў грамадскім жыцці займае ў разважаннях Каліноўскага значнае месца*. Асабліва многа ўвагі прысвяціў ён гэтай праблеме ў чацвёртым нумары газеты і «Пісьме з-пад шыбеніцы». Каардынацыйная, арганізацыйная, асветніцкая і судовая дзейнасці, уваходзячы ў кампетэнцыі дзяржаўных і ўрадавых устаноў, павінны, на думку аўтара, весціся згодна з інтарэсамі шырокіх колаў грамадскасці, якая, даручыўшы сваю волю ўраду, чакае ад яго, як выканаўчага органа, практычнага ажыццяўлення сваіх імкненняў. Зразумела, што такое разуменне Каліноўскім харак-

* Мужыцкая праўда. № 5.

** Тамсама.

тару дзяржаўнай улады поўнасцю пераклікалася з поглядамі самых прагрэсіўных людзей таго часу. «Як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так і добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу»*. Выказаўшы свае погляды на характар дзяржаўнай улады, аўтар супрацьпастаўляе царскую рэчаіснасць, якую ён асуджае, карыстаючыся даволі цікавым прыёмам, пабудаваным на цэлым шэрагу пытанняў, наштурхоўваючы чытача на адказы адмоўнага характару. «…чы ў нас, — пытае Каліноўскі, — е (ёсць. — *А. Б.*) справядлівая наука ў школах, што учыць жыці без крыўды другога? Чы е праўда і справядлівасць у судзе? Чы можа чэлавек быць пэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ронд маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліве? Самі скажэце»**. Параўноўваючы царскі ўрад з ліхім памешчыкам, Каліноўскі атаясамлівае гэтыя дзве сілы, бачачы ў іх дзейнасці прычыну сялянскага ўбоства і нядолі. «Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што, пачаўшы ад камісара аж да цівуна пазваляе кожнаму народ глуміці, каб но як найбольш грошай у кішэнь яго дасталося»***. Відавочна, паняцце ўрада (ронда), якім так часта аперыруе Каліноўскі, было сярод малаадукаванага насельніцтва Беларусі нечым туманным, малазразумелым, тым больш, што нават у друку і ў тэрміналогіі чыноўніцтва слова «ўрад» ужывалася рэдка. Зусім іншае, калі ідзе аб асобе цара. Абсалютысцкі характар рускай дзяржавы патрабаваў безупыннага высоўвання на першы план асобы манарха. Ідэйны напрамак дзяржаўнай палітыкі на працягу стагоддзяў убіваў усімі даступнымі сродкамі ў галовы насельніцтва думку аб беспамылковасці, усёмагутнасці і высакароднасці рускага самадзяржаўца. І гэта давала несумненна станоўчыя вынікі. Нягледзячы на тое, што гніласць царскай сістэмы была відавочнай, у народных нізах жыло перакананне аб геніяльнасці царскага розуму. Пры гэтым віна за ўсё зло спіхалася на чыноўнікаў, якія быццам бы скажалі добразычлівыя ў адносінах да народа царскія загады. Менавіта ў гэты фальшывы міф ударыў усёй сілай сваёй публіцыстыкі Каліноўскі. Якой жа вялікай сілай і навізной вее ад яго слоў: *«…глум, здзерства, несправядлівасць выходзяць ад самога цара»*****.

---

* Мужыцкая праўда. № 4.

** Тамсама.

*** Тамсама.

**** Тамсама.

Традыцыйную формулу — добры цар — дрэнныя чыноўнікі — Каліноўскі паставіў на галаве — дрэнныя чыноўнікі, бо дрэнны цар. «… Для таго, — піша Каліноўскі, — як галава ў чалавека калі задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так і ў рондзе, калі цар глуму захоча, то чыноўнікі глуму наробяць»*.

Далей аўтар востра атакуе царскія ўлады за русіфікатарскую, не згодную з імкненнямі народаў палітыку, якая праводзілася ў Беларусі і іншых краінах, якія ўваходзяць у склад імперыі. Ён гаворыць, што цар «…там гдзе жылі палякі літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учыць па маскоўску, дзе ніколі не пачуеш ні слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хочэ»**. Выступаючы востра супраць устарэлых і недэмакратычных форм царскай улады, Каліноўскі прыходзіць да непахіснага вываду аб непазбежнай неабходнасці радыкальных грамадскіх перамен, праведзеных не зверху, а знізу. Сілай, здольнай выканаць гэта заданне, на думку аўтара, з'яўляецца рэвалюцыйны сялянскі рух вызвалення з-пад памешчыцкага і дзяржаўнага прыгнёту.

*

*Заканамернасць безупыннага працэсу разумовага развіцця чалавека і пастаяннасць эвалюцыі формаў грамадскага мыслення* займае ў публіцыстыцы Каліноўскага сур'ёзную пазіцыю. Гаворачы аб гэтым працэсе, аўтар звяртае ўвагу на змену, якая выступіла ў адносінах сялянства да грамадскага парадку. Пасіўнасць і прымірэнцтва, характэрныя для сялянства ў мінулым, паступова замяняюцца крытыцызмам і актыўным імкненнем да перабудовы рэчаіснасці. «От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога мецi не хацелі, а чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжэ ведаюць многа і многа хочуць?»*** і далей: «Сягодня ўсе ўжо паразумнелі, усе ўжэ мужыкі талкуюць, што Бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай і смяюцца, як гэта маглі інакш думаць»****. У зараджэнні скептыцызму і

---

* Мужыцкая праўда. № 4.

** Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. T. I. S. 331; Пісьмо з-пад шыбеніцы. Втк. 331.

*** Мужыцкая праўда. № 3.

**** Тамсама. № 3.

крытыцызму, ва ўзнікненні духоўных імкненняў да перамены існуючых форм грамадскага жыцця бачыць Каліноўскі першую ступень на шляху да свабоды, бачыць трывалы элемент гарантыі будучага поўнага як палітычнага, так і сацыяльна-эканамічнага вызвалення.

*

*Для стварэння паўнейшага вобраза грамадскіх поглядаў Каліноўскага варта яшчэ звярнуць увагу чытача на некаторыя праявы непаслядоўнасці ідэйнага і гістарычнага характару, якія не маглі не аслабляць сілу яго агітацыі ў масах*. Побач з цвярозай ацэнкай многіх з'яў і фактаў у тагачаснай рэчаіснасці Каліноўскі ў некаторых сваіх публіцыстычных творах выступае з супярэчлівымі сцвярджэннямі, якія падкрэсліваюць памылковасць некаторых яго поглядаў. У гэтых месцах Каліноўскі несумненна разыходзіцца з ідэалогіяй рэвалюцыйных дэмакратаў, да якіх ён у прынцыпе належаў.

*Непаслядоўнасць аўтара выступае перадусім у спробе высвятлення паходжання грамадскіх класаў*. Амаль поўная бездапаможнасць у тлумачэнні гэтага пытання робіць з некаторых частак яго публіцыстыкі бледныя, пазбаўленыя грамадскай і гістарычнай вартасці агістарычныя фразы. Незразумела, чаму, гаворачы аб працэсе ўзнікнення прывілеяваных класаў, Каліноўскі разважае толькі над адносна познім гістарычным перыядам, у якім Беларусь знаходзілася ўжо ў межах Польскай шляхецкай дзяржавы.

Абмінаючы цалкам перыяд Кіеўскай дзяржавы, не ўспомніўшы ні словам аб незалежным існаванні беларускіх княстваў і іх барацьбе з суседзямі, аўтар гаворыць аб супольным польска-беларуска-літоўскім дзяржаўным арганізме як аб нечым адвечным. Далей ідзе ідэалізаваная характарыстыка мінулых часоў, у якіх народ быццам бы жыў у багацці і свабодзе. З гэтай наіўнай, па сутнасці казачнай інтэрпрэтацыі крышталізуецца канцэпцыя аб дасканаласці формы каралеўскай улады. «Помняць яшчэ і нашыя дзеды, паказываюць яны, што за іх часоў мужыкі рэкрута і не зналі. Было войска, то праўда, но войска польскае ўсё было зэ шляхты, а калі мужыкі часам захацелі ісці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтва да паншчыну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю. Стуль то ў нас і парабіліся гэтыя аколіцы шляхецкія. Так за тое, што чалавек шоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, то ронд польскі даваў зямлю, даваў

вольнасць, даваў шляхецтва»*. У другім месцы аўтар, імкнучыся прадставіць дакладны генеалагічны працэс паншчыны, стварыў наіўны вобраз мінулага. «Гэтыя, што не хочуць бараніць сваей зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'юцца за вольнасць і шчасце ўсіх. І гэтак было доўга: адны баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі, згэтуль то і ўзялася гэта паншчына. Судзеце ж цяпер самі, чы можна было зрабіць справядлівей, як зрабіў калісьці наш кароль Польскі да і Літоўскі?»**

Да найбольш неабдуманых і памылковых вывадаў прыходзіць Каліноўскі ў тых месцах сваёй публіцыстыкі, дзе займаецца характарыстыкай рэлігійных пытанняў. Каліноўскі не мог зразумець усёй складанасці і спецыфікі рэлігійнай праблематыкі Беларусі. Прадузятая варожасць да першабытнай рэлігіі беларусаў — праваслаўя — падказала аўтару непрадуманыя, часта грубыя псеўдааргументы, якія яшчэ раз ірвалі незагойную рэлігійную рану Беларусі. Зыходзячы з палажэння аб праўдзівасці заходняга і фальшывасці ўсходняга абраду, карыстаючыся нярэдка фальшывымі сцвярджэннямі, аўтар праводзіць думку аб неабходнасці павароту беларусаў на унію. «Калі сын Боскі, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру і за гэту веру церпеў крыжовыя мэнкі, то не для таго, каб якіясь там цары маскоўскія байстручага роду парамянялі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых цароў, выракаліся веры сваіх дзядоў і прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню царскую»***.

Каліноўскі несумненна правільна звяртае ўвагу на цесную сувязь праваслаўнай царквы з дзяржаўнай палітыкай і на яе ролю ў замацаванні рускага самадзяржаўя. Пры гэтым, аднак, часта карыстаецца павярхоўнай і вульгарнай аргументацыяй, якая не можа не выклікаць сур'ёзных засцярог. «Не адзін ужэ, можа, забыўся, што бацька яго быў справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ не спомніць на тое што перавярнулі его на сызму, на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры і як сабака здохне чартам да пекла!!!»****

Гарачы заклік Каліноўскага, заахвочваючы сялян да пераходу на ўніяцкі абрад, быў відавочна прадыктаваны актуальнымі палітычнымі мэтамі. Ажыццяўленне гэтых заклікаў магло б мець

---

* Мужыцкая праўда. № 5.

** Тамсама. № 2.

*** Тамсама. № 6.

**** Тамсама.

вялікае практычнае значэнне. Вырванне беларускага сялянства з-пад уплыву варожа настроенага ў адаосінах да антыцарскага руху праваслаўнага духавенства магло б у значнай ступені спрыяць паспяховасці будучага паўстання, аднак гэты факт толькі часткова апраўдвае Каліноўскага ў яго глыбока памылковай характарыстыцы ролі праваслаўя ў Беларусі, якое, як вядома, было дзейснай зброяй у барацьбе з паланізацыяй. Памылковасць поглядаў Каліноўскага не абмяжоўваецца рэлігійнымі справамі і гістарычным мінулым, але таксама датычыць некаторых сучасных яму пытанняў. Датычыць гэта перш за ўсё яго ілюзій адносна ўзброенай дапамогі, якую мелі прынесці заходнія дзяржавы польска-беларускаму паўстанню. Менавіта гэтымі ілюзіямі былі прадыктаваны такія радкі публіцыстыкі Каліноўскага, як: «Ідзе Пранцуз (француз. — *А. Б.*) даваці вольнасць мужыкам»*, або «Ды ведайце, дзецюкі, добра, што пранцуз прыказаў не даваці ўжэ больш маскалеві рэкрута»**, ці ўрэшце «Пранцуз і цэлы свет ідзе нам памагаці»***. Прыведзеныя цытаты наглядна паказваюць, што Каліноўскі не да канца зразумеў сутнасць буржуазных урадаў Заходняй Еўропы, якія мелі нямала агульнага з рускім царызмам і для якіх паўстанцкі парыў палякаў быў абсалютна абыякавай з'явай. Толькі пазней, ужо седзячы ў астрозе, Каліноўскі да канца зразумеў крывадушлівую палітыку заходніх дзяржаў. Вызваліўшыся з папярэдніх ілюзій, у сваім апошнім «Пісьме з-пад шыбеніцы» даў выраз свайму расчараванню. «Доўга палякі ждалі памоцы з заграніцы, народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі, кажуць што яны не маюць ніякай патрэбы сваей у польскім дзеле»****. Гаворачы аб памылковасці поглядаў Каліноўскага на класавыя адносіны ў старой Рэчы Паспалітай, на рэлігійныя праблемы ў Беларусі, а таксама і на некаторыя тагачасныя актуальныя справы, варта адзначыць, што ўсё гэта было выклікана гарачым імкненнем да самага моцнага польска-беларускага аб'яднання ў час паўстання, да накіравання ўсіх матэрыяльных і духоўных сіл гэтых народаў супраць царскага самадзяржаўя. Гэты факт у суб'ектыўным сэнсе часткова апраўдвае Каліноўскага. Аднак аб'ектыўны выраз закранутых у гэтай частцы артыкула поглядаў Каліноўскага можа атрымаць толькі адмоўную ацэнку.

---

* Мужыцкая праўда. № 5.

** Тамсама.

*** Пісьмо ад Яські-гаспадара з-пад Вільні.

**** Пісьмо з-пад шыбеніцы.

*

*Метады барацьбы і шляхі вызвалення ад памешчыцкага і царскага прыгнёту* праходзяць чырвонай ніткай праз усю публіцыстыку Каліноўскага. Выбар сродкаў і спосабаў гэтай барацьбы быў несумненна нялёгкім пытаннем. У павадцы разнародных напрамкаў і канцэпцый Каліноўскі ад пачатку ставіў на самастойны, ачышчаны ад памешчыцкага і царскага ўплыву, сялянскі рух. Ачышчэнне гэтага руху ад чужога, у класавым сэнсе, уплыву, пашырэнне і паглыбленне яго ў масах было асноўнай задачай Каліноўскага. Ужо ў першым нумары «Мужыцкай праўды», акрэсліваючы праграмныя заданні газеты, аўтар адзначае, што яна выдаецца, «…каб вы зналі, хто ваш прыяцель а хто вораг»*. Каліноўскі, не верачы ў добразычлівасць царскіх і панскіх намераў, разбіваючы надзеі той часткі сяляін, якая разлічвала на царскую і панскую дабрадушнасць, піша: «Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацiся, бо яны не вольнасці а глуму і здзерства над намі хочуць»**. Паводле Каліноўскага, вырашэнне пытання аб формах сялянскага вызвалення павінна знайсціся ў кампетэнцыі сялянскага розуму. «…нам не маніфестаў, — заяўляе Каліноўскі, — а вольнасці патрэба, — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо, а для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе дастаць можэ»***. Усведамленне селянінам магчымасці грамадскіх перамен, на думку аўтара, з’яўляецца зарукаю паспяховасці канчатковага сялянскага вызвалення. «…бо мы пазналі, гдзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду»****. Прынцып сялянскай згуртаванасці, якой адводзіцца асноўная роля ў працэсе вызвалення, часткова парушаецца самім Каліноўскім, калі ён у сялянскіх радах адводзіць месца і шляхце. Відавочна, аднак, што, пішучы аб магчымым удзеле паноў у вызваленчым руху, ён мае на ўвазе бяднейшую шляхту. *Пры гэтым, аднак, сялянска-шляхецкае аб’яднанне лічыць магчымым, і толькі ў выпадку згоды на падпарадкаванне ўсяго руху выключна сялянскім інтарэсам.*

---

* Мужыцкая праўда. № 1.

** Тамсама.

*** Тамсама. № 3.

**** Тамсама. № 1.

«Возьмемся, дзецюкі, за рукі, — піша Каліноўскі, — і дзяржэмся разам! а калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жа робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай — так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці косу і сакеру, бараніць свайго патрапіць і нікога ласкі прасіць не будзе»*. З гэтага відаць, што рэвалюцыйны характар сялянскага руху, якога дамагаўся і які арганізаваў Каліноўскі, *быў у аднолькавай ступені небяспечны як для рускага царызму, так і для мясцовага ў большасці польскага памешчыка*. Аб гэтым сведчаць сялянскія бунты ў Расіі, якія хоць і не маглі прынесці поўнага вызвалення, але ўсё-такі былі стыхійнай сілай, разбуральна ўздзейнічаючы на дамінуючае становішча буйнага землеўладальніцтва. Канчатковай мэтай руху, якой Каліноўскі аддаваў ўсе свае сілы, было сялянскае вызваленне. *Яно ў імкненнях аўтара атаясамліваецца з сялянскай зямлёй і асабістай свабодай як фактарамі грамадскай свабоды*. «Мы сягоння ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць ані паншчыну не служыць — калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю і то тады толькі, калі які непрыяцель падыдзе — калі робіць усенько што спадабае і што не крыўдзіць блізьнего і хвалы боскай — і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзеды, і прадзеды, от што вольнасць значыць»**.

Не верачы ў сумленнасць пануючых класаў, Каліноўскі парваў зусім з бескарыснымі заклікамі, якія не раз накіроўваліся высакароднымі адзінкамі ў адрас багацеяў, з боку якіх мела прыйсці змілаванне над прыгнечаным сялянствам. Ён паслядоўна выказвае рэвалюцыйную думку, паводле якой вырашэнне сялянскага лёсу трэба аддаць у сялянскія рукі. «Як прыдзе пара, — звяртаецца ён да сялян, — не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным»***.

*Адкрываючы перад сялянствам светлую перспектыву будучага вызвалення, Каліноўскі пастаянна падкрэслівае, што яно можа ажыццявіцца толькі праз актыўную барацьбу*.

На думку Каліноўскага, існаванне царскай улады і вялікай зямельнай уласнасці побач са свабодай сялянства немагчыма. «… прыходзіць яму (цару. — *А. Б.*) ужэ канец, *бо мужык пачуў воль-*

* Мужыцкая праўда. № 1.

** Тамсама. № 3.

*** Тамсама. № 1.

*насць, а мужыцкая вольнасць — гэта усё роўна што шубеніца для ўсіх здзерцоў і глуміцеляў народа!*»* Падкрэсліваючы супольнасць царскіх і памешчыцкіх інтарэсаў, аўтар звяртае ўвагу на абсалютную абыякавасць царызму да сялянскіх спраў і патрэб. «…у паноў сто раз пытаў, якую хочуць даці вольнасць мужыкам, у мужыкоў і разу не спытаў, якой яны хочуць вольнасці»**. Ужо ў першых нумарах «Мужыцкай праўды», якія наогул вытрыманы ў духу мірных палітычных і грамадскіх патрабаванняў, час ад часу паяўляюцца рашучыя звароты аб неабходнасці ўзброенага рэвалюцыйнага змагання. «Дзецюкі, па добраці да ладу не дойдзем»***, — гаворыць ён у сёмым нумары «Мужыцкай праўды», які выйшаў з друку ў час паўстання, а таксама і ў другіх творах Каліноўскі выступае з палымянымі заклікамі да актыўнай узброенай барацьбы з пануючым ладам. Звяртаючы ўвагу на паўстанцкі парыў палякаў, Каліноўскі піша: «У Польшчы мужыкі таксама, як і мы, спадзяялісь на цара, ждалі волі ад него, да як пабачылі, што цар толькі лёстачкамі душу выймае, а новымі падаткамі, рэкрутам да чыншамі астатнюю сарочку з ніх здзерці хоча — от усі разом з віламі да касамі пайшлі дабівацца зямлі да праўды, а іншы і святой уніяцкай веры. От і дабілісь. Выйшаў ужэ Польскі Маніфест. Зямля вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхне зямля з дзедаў прадзедаў»****. Рашучы ўдзел беларускага сялянства ў паўстанні, мабілізацыя ўсіх матэрыяльных і людскіх рэзерваў вёскі да барацьбы з царскім войскам былі, на думку аўтара, неабходным фактарам канчатковай перамогі. «Падумайце добра, — звяртаецца ён да сялян, — да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужо не падмане — не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба — для ніх мы глухі і немы, нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцом спяшыць з віламі да з косамі там, дзе дабіваюцца волі да праўды»*****, і далей «…а будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзедам і бацькам». У «Пісьме ад Яські-гаспадара з-пад

* Мужыцкая праўда. № 4.

** Тамсама.

*** Тамсама. № 5.

**** Тамсама. № 7. Аўтару гэтага артыкула не ўдалося пазнаёміцца з арыгіналам сёмага нумара «Мужыцкай праўды». Усе цытаты сёмага нумара ўзяты з артыкула А. Шлюбскага «Мужыцкая Праўда Кастуся Каліноўскага». Полымя. 1926. № 1.

***** Тамсама.

Вільні» якое так, як і сёмы нумар «Мужыцкай праўды», выйшла ў час паўстання, Каліноўскі ўсімі даступнымі сродкамі заахвочвае сялян да ўдзелу ў паўстанцкіх радах. «Годзі, дзецюкі, ужэ ждалі, настаў час Божый! Хто за рондом Польскім, таму Праўдзівая Вольносць, хто проціў его, таму вечна няволя на гэтом і вечное патэнпленне на тамтом свеці! Выбірайце што каму лепшое, што да мене, то я Вам, дзецюкі, кажу, бярэце за косы, гэто мая рада»*. І нават ужо седзячы ў царскім астрозе і чакаючы смерці, Каліноўскі безупынна верыць у сэнс і паспяховасць сялянскай барацьбы.

У сваім апошнім «Пісьме з-пад шыбеніцы», спасылаючыся на духоўную чысціню беларусаў, на іх чэснасць і свабодалюбівасць, заклікае іх да безупыннага змагання за поўнае вызваленне. Лірызм і грознасць ваенных падзей, папрок заходнім дзяржавам за абыякавасць і надзея на канчатковы трыумф выбранай справы зліваюцца тут у гарманійную стройную цэласнасць. «Ты, аднак, Народзе не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права і сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае способы, бо табе як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна. А калі народы загранічныя, з дзіва разінуўшы рот, скажуць, — шалёныя, ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхам ляжа»**. Асабліва многа пачуццяў і эмацыянальнай сілы ўкладаў Каліноўскі ва ўпамянуты ўжо алегарычны верш «Марыська чорнобрэва». Прастата, задушэўнасць і смутак, перамешаны з аптымістычнай верай у перамогу народнай справы, прыдаюць вершу характар ідэйнага запавету. З прычыны таго, што верш гэты з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю, варта тэкст яго прывесці ў цэласці.

Марыська чорнобрэва галубка моя,
Гдзеж ся падзела шчасце і ясна доля Твая;
Усё прайшло, — прайшло як бы не бывало,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.

---

* Пісьмо ад Яські-гаспадара з-пад Вільні. Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. T. I. S. 327.

** Пісьмо з-пад шыбеніцы. Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. T. I. S. 333.

Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці,
Дай у прадвечнаго саду вялеў прападаці,
То мы прападзем марна, но праўды не кінем,
Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.

Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прымі цяжкую кару Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету Табе адазвуся.

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе,
І часам спамяні пра Яську твайго
Што згінуў за праўду для дабра Твайго.

А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно с праўдай у грумадзе згодна,
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

Смерць прыняў Каліноўскі спакойна. Відавочна, прыступаючы да паўстання, лічыўся ўжо з магчымасцю такога канца. Колькі ж упэўненасці аб правільнасці выбранага шляху, колькі ж любві да народных нізоў замкнуў ён у развітальных радках свайго «Пісьма з-пад шыбеніцы». «Браты мае, мужыкі родныя! з-пад шубеніцы маскоўскай прыходзіць мне да Вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць земельку родную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду»*.

Дзеля гістарычнай праўды трэба заўважыць, што з цягам часу, калі крышталізуецца далёкі ад рэвалюцыйнага характар паўстання, калі сіла белых у кіраўнічых органах узрастае, Каліноўскі, прынамсі, знешне не можа не ісці на некаторыя ўступкі. Факт гэты пакінуў свой след і ў яго публіцыстыцы. Першыя нумары «Мужыцкай праўды», перапоўненыя намаганнямі паглыблення класавай нянавісці селяніна да пана, у пазнейшых яго творах у штораз большай і большай ступені замяняюцца антыцарскімі матывамі. Накіроўваючы галоўныя сілы сваёй прапаганды на фронт антыцарскай барацьбы, ён не перастае ўсё ж такі пераконваць селяніна ў неабходнасці радыкаль-

* Пісьмо з-пад шыбеніцы. Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. T. I. S. 334.

ных перамен у грамадскай і сацыяльнай галінах жыцця, якія маглі ажыццявіцца толькі праз барацьбу. Відавочна, да канца жыцця Каліноўскі ўнутрана застаўся верны поглядам, якімі падзяліўся з Гілерам пры першай сустрэчы. «Пры першай сустрэчы даводзіў (Каліноўскі. — *А. Б.*), што ўдзел шляхты і землеўласнікаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але нават шкодны. Народ сам здабудзе незалежнасць і ад землеўласнікаў патрабуе ўласнасці»*, — успамінае Гілер. Такім чынам, нягледзячы на некаторыя хістанні, уся публіцыстыка Каліноўскага была перапоўнена матывам вызваленчай песні сялянства, якой аўтар застаўся верны да апошніх хвілін свайго жыцця. Пераглядаючы працы аўтараў розных ідэйных напрамкаў, часткова або цалкам прысвечаныя характарыстыцы Каліноўскага, знаходзім нямала супярэчлівых ацэнак, якія датычаць яго светапогляду, ідэалогіі, грамадскіх і нацыянальных імкненняў. Аднак усе аўтары згодны, калі мова ідзе аб крыштальнай чысціні характару Каліноўскага. Выключная высакароднасць, вернасць народу робяць з постаці Каліноўскага ўзор рэвалюцыйнага гуманізму. Нават супрацоўнікі Каліноўскага ў паўстанні, якія не падзялялі яго ідэйных перакананняў, пакінулі шчодрыя характарыстыкі нашага героя. «Была гэта натура гвалтоўная, але правая, пазбаўленая якой-небудзь крывадушнасці. Аддany душой і сэрцам народу і айчыне, але прасякнуты скрайнымі тэорыямі, прытым літоўскі сепаратыст, а ў славах дэмагог крыважадны»**. І далей: «Быў найпрыгажэйшым, найчысцейшым узорам непараўнальнага змоўшчыка, гэты адзін чалавек замяняў сотні, таму што ўмеў працаваць, ахвяраваць і хавацца. Яго тэорыі часта занадта яскравыя і непрактычныя, логіка скрыўленая і гвалтоўная, але магутнасць і праўда пачуццяў велізарная; празывалі яго хамам, ён сам гэтую мянушку паднімаў і па-свойму ёю ганарыўся, выступаючы пры гэтым супраць шляхты»***. Прыведзеная цытата даволі дакладна перадае атмасферу, у якой жыў і змагаўся Каліноўскі.

*

Каліноўскі верыў у гістарычны сэнс і паспяховасць сялянскай рэвалюцыі, бачыў у ёй будучыню сваёй айчыны. Не быў

---

* Giller A. Historia Powstania Narodu Polskiego. T. II. S. 222.

** Ibidem. S. 221–222.

*** Ibidem. T. I. S. 48.

ён праціўнікам федэрацыйнага аб'яднання Літвы і Беларусі з вызваленай з-пад царызму дэмакратычнай Расіяй. У канкрэтных умовах паўстання 1863 года спалучаў лёсы Беларусі і Польшчы, разлічваючы на магчымасці незалежнага існавання сваёй краіны і сяброўскага сужыцця з вызваленай з-пад царскай тыраніі Польшчай. Усё сваё жыццё і дзейнасць падпарадкаваў Каліноўскі інтарэсам сялянскіх імкненняў і надзей, з якіх чэрпаў ён сваю ідэалогію і ў ажыццяўленні якіх бачыў сэнс свайго існавання і сваёй смерці.

## КАМІЗМ У ТВОРЧАСЦІ ЯКУБА КОЛАСА

Беларуская літаратура, пачынаючы ад сярэдневякоўя ірдзіцца яскравымі гумарыстычнымі персанажамі і падзеямі*. Нямала бяскрыўднага смеху, іроніі, а нярэдка і калючай сатыры, якая высмейвае не толькі зямныя, але і нябесныя парадкі, знаходзім у ананімных творах мінулага стагоддзя. Гэтую ж традыцыю ўмела працягваў Ф. Багушэвіч, шчодра надзяліўшы сваіх літаратурных герояў як дабрадушным гумарам, так і бічуючай выкрывальнай сатырай.

Перыяд беларускай літаратуры з часоў «Нашай нівы» стварыў спрыяльныя ўмовы для развіцця гумарыстычнай творчасці тром найзначнейшым гумарыстам: Альберту Паўловічу, Ядвігіну Ш. і Якубу Коласу.

Дзякуючы А. Паўловічу беларуская літаратура ўзбагацілася значнай колькасцю камічнай паэзіі, вобразы якой пераліваюцца вясёлкавымі фарбамі гумару і смеху.

Гумар Ядвігіна Ш. шукаў літаратурнага выяўлення ў форме кароткага апавядання — навелы, якая займае ў яго творчасці пераважную пазіцыю. Ядвігін Ш. быў мастаком архітэктанічнай формы кароткага апавядання. Ён адкінуў апісальныя моманты, розныя адступленні ад падачы падзеі. Дзякуючы гэтаму яго навелы як з тэматычнага, так і фармальнага боку — заўсёды стройныя, цэласныя. Пры гэтым, аднак, Ядвігін Ш. не пазбег іншых недахопаў, якія ў значнай меры ступілі грамадскае вастрыё яго гумару. У гэтым сэнсе варта перадусім звярнуць увагу на адсутнасць у творчасці Ядвігіна Ш. акрэсленых палітычных, ідэйных і маральных мэт ці імкненняў. Асновай зместу навел Ядвігіна Ш. з'яўляецца найчасцей *прастадушнасць* характару сялянскага

---

* Глядзі такія творы, як «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча».

героя. Вядома, што наіўнасць іграе адну з галоўных роляў у сусветнай гумарыстычнай літаратуры. Аднак Ядвігіна Ш. цікавіць выключна сялянская наіўнасць, даведзеная аўтарам да крайнасці. Выпадковыя сустрэчы прастадушнага селяніна з пранырлівым і хітрым мешчанінам ствараюць тыповыя для навел Ядвігіна Ш. літаратурныя канфлікты. Ядвігінаўскія героі — гэта маленькія дабрадушныя чалавечкі, вырваныя з вясковага асяроддзя і кінутыя ва ўмовы гарадскога жыцця. Не могучы прыстасавацца да спецыфікі законаў гарадскога побыту, стаюцца ахвярамі местачковых лаўкачоў, прайдох, хітруноў.

Разумовая бездапаможнасць сялянскага героя нярэдка мяжуе з ідыятызмам і выломваецца з неабходнай у літаратуры праўдападобнасці вобраза. Сяляне з гумарыстычных навел Ядвігіна Ш. — гэта, па сутнасці, гратэскавыя постаці.

*

З усяго сказанага відаць, што Якуб Колас, прыступаючы да стварэння шэрагу сваіх камічных апавяданняў, не меў, па сутнасці, гатовых узораў.

Гумарыстычная плынь паяўляецца ў творчасці Коласа на самым пачатку яго літаратурнага шляху. Першыя апавяданні, змешчаныя на старонках «Нашай долі» і «Нашай нівы», ужо мелі гумарыстычны характар. Цікава, што гумар выступае пачаткова амаль выключна ў прозе і толькі пазней шырокім струменем пальецца ў паэзію*.

*

Аб’ектам гумарыстычнай зацікаўленасці Коласа з’яўляюцца пытанні, звязаныя з прагнiласцю дзяржаўнага ладу, а таксама справы адмоўных якасцяў і рыс чалавечых характараў.

Звязваючы надзею аб будучым сацыяльным і нацыянальным вызваленні з сялянствам, Якуб Колас не баіцца выставіць на публічны смех адмоўныя бакі побыту, а таксама даць камічнае асвятленне заганлівым рысам характараў сялянскіх персанажаў.

Нярэдка таксама кранаецца дзяржаўнай праблематыкі, сатырычна высмейваючы чыноўніцтва і паліцыю, сімвалы сацыяльнай і нацыянальнай няволі.

---

* Асабліва многа гумарыстычных момантаў у паэме «Новая зямля», да напісання якой прыступіў паэт у 1910 годзе.

*

Камічная постаць селяніна займае ў творчасці Коласа трывалую пазіцыю. Сялянскі герой Коласа заўсёды ўтрыманы ў рэалістычным, адэкватным да рэчаіснасці малюнку. Колас канчаткова вызваліўся як з народніцкіх тэндэнцый, якія ідэалізавалі селяніна, так і з неадказнага, характэрнага для творчасці А. Паўловіча і Ядвігіна Ш. смеху, што часам прыніжаў разумовыя здольнасці селяніна. Канцэнтрацыя аўтарскай увагі на адмоўных баках жыцця і побыту беларускай вёскі была выклікана імкненнем да актыўнага, злагаджальнага ўплыву на праявы ўсяго адсталага, старога.

Сялянскія героі з камічных апавяданняў Коласа не могуць вызваліцца з забабоннасці, наіўнасці, п’янства і многіх іншых адмоўных рыс, якія сталі ў творчасці аўтара аб’ектам гумарыстычнай літаратурнай тыпізацыі. У дадзеным выпадку выбар гумарыстычнай формы літаратурнай ілюстрацыі быў несумненна трапным. Камічнае, пазбаўленае яўных маралізатарскіх акцэнтаў, прадстаўленне сялянскага побыту было не толькі смешным, але і ў акрэсленай ступені магло знішчальна ўздзейнічаць на паказаныя праявы грамадскага зла.

Адной з праяў заганнасці натуры і характару сялянскага героя з’яўляецца *наіўнасць.* Яна іграе ў гумары Коласа знамянальную ролю. Відавочна, рыса дабрадушнай наіўнасці была сапраўды тыповай для малаадукаванага, загнанага беларускага селяніна. Аб гэтым мог бы сведчыць значны ўдзел наіўнасці ў даколасаўскай гумарыстычнай беларускай літаратуры, а таксама і сцвярджэнні некаторых этнографаў, якія даследавалі звычаі, культуру і побыт беларускай вёскі.

Якуба Коласа цікавяць перш за ўсё камічныя камплікацыі, выкліканыя сялянскай прастадушнасцю. Менавіта яны стаюцца аб’ектам гумарыстычных замалёвак пісьменніка. Адным з першых твораў гэтага тыпу была гумарэска «Сацыяліст». Гэты твор быў напісаны праўдападобна пад уплывам гумарыстычнай творчасці Ядвігіна Ш. Падабенства выступае перадусім у выбары тэмы, узятай відавочна не з праўдзівага здарэння, а, хутчэй за ўсё, з анекдатычнага матэрыялу. Пры гэтым, аднак, дзякуючы рэалістычным схільнасцям аўтара, у творы захаваны рысы неабходнай у літаратуры праўдападобнасці вобраза. Герой гумарэскі, разбуджаны подзьмухам першай рускай рэвалюцыі, шукаючы ў горадзе месца, у якім прадаюцца рэвалюцыйныя пракламацыі, — несумненна камічны. Па сутнасці, ад самага

пачатку твора чакаем нейкіх непрадбачаных, але непрыемных камплікацый, падзей. Накіраванне селяніна нейкім гарадскім лаўкачом да паліцэйскага прыносіць камічную кульмінацыю твора. «Адкрыта праклaveraцыі разносіш? Да чаго даходзіць дзёрзкасць?! Пасадзіць у кутузку!» — крычыць гнеўна прыстаў і няўдачлівы наіўны герой вандруе ў астрог, які яго вылечыць ад наіўнасці. Гумарыстычны вобраз сялянскага персанажа ў творчасці Якуба Коласа вытрыманы заўсёды ў дабрадушным тоне, пазбаўленым іранічнай насмешкі, а тым больш сатырычнага асуджэння. Далейшыя апавяданні з гэтага цыкла сведчаць аб поўным вызваленні Коласа з хвілёвага ўплыву Ядвігіна Ш., які адчуваецца ў «Сацыялісце». У выніку самастойнай трактоўкі тэмы і арыгінальных гумарыстычных прыёмаў узніклі такія творы, як дасканалае апавяданне «Дзядзькаў сведка». Аўтар у шырокім малюнку псіхалагічных перажыванняў паказвае, як суб’ектыўнае перакананне аб слушнасці сваёй справы нараджае ў герою веру ў карыснае для яго заканчэнне канфлікту. Герой апавядання селянін Марцін, нарыхтоўваючы дровы ў княжацкім лесе, добра памятаў аб тым, што ссечаныя дрэвы не павінны перавышаць акрэсленай таўшчыні. І сапраўды, складзены селянінам сажань адпавядаў усім вымаганням ляснога права. Аднак падпорка, якую зрабіў ён са знойдзенага дубовага вяршка, не спадабалася лесніку, і з прычыны гэтага справа селяніна трапіла ў суд. Унутранае перакананне аб сваёй нявіннасці настройвае селяніна аптымістычна. Для большай пераканаўчасці — у характары рэчавага доказу — павалок селянін у далёкі горад кусок дуба — сведку, які нечакана адыграў фатальную ролю. Паяўленне героя ў зале суда з няўдачлівым «сведкам» у руках выклікала здзіўленне і злосць, якія выліваюцца ў выключна некарысную для селяніна рэзалюцыю суддзі. «Тры рублі штрафу за паяўленне ў судзе не ў належным відзе! — крыкнуў земскі начальнік. — І сем рублёў штрафу за парубку дубка» («Дзядзькаў сведка»). Зразумела, што вастрыё гумару гэтага апавядання кіруецца не толькі супраць наіўнасці селяніна. Каларытная постаць аб’ездчыка, які беспадстаўна аддае селяніна пад суд, а тым больш асоба земскага з яго судовым рашэннем без найменшай спробы ўнікнення ў сутнасць справы, атрымліваюць не толькі гумарыстычнае асвятленне. Апісанае здарэнне вучыць многаму самога селяніна. Праз момант шукае ён месца, у якое мог бы шпурнуць няўдачлівага сведку. Аднак хутка вяртаецца духовая раўнавага і, несучы дубіну дамоў, герой разважае: «Хай

лажыць, можа, яшчэ скажа сваё слова». Супраць каго і ў чыёй абароне — вядома.

Амаль ва ўсіх адзначаных апавяданнях Якуба Коласа выступаюць здарэнні, якія маюць часта прыгодніцкі характар. У выніку пападання наіўных герояў у розныя прыгоды ўзнікаюць нечаканыя гумарыстычныя эфекты. З другога боку, канфлікт прааналізаваных апавяданняў вырастае з міжкласавых адносін («Сацыяліст»), («Дзядзькаў сведка»), з міжсуседскіх адносін («Калодка пчол») або датычыць толькі ўнутранага свету героя («Выстагнаўся»).

*

Наступная група гумарыстычных апавяданняў Коласа тэматычна грунтуецца на такіх рысах сялянскага побыту, як *забабоннасць* і *страх*. Гэтыя з'явы ў мінулым былі, несумненна, характэрнымі для побыту цёмнага, звязанага з фантастыкай старасвецкіх легендаў беларускага селяніна.

Страх з прычыны неразумення навакольнай рэчаіснасці складае аснову фабулы некаторых гумарыстычных апавяданняў Коласа. Галоўным элементам завязкі, канфлікта і кульмінацыі падзей гэтых апавяданняў з'яўляецца найчасцей нечаканасць, якая іграе тут першачарговую ролю.

Да гэтага цыкла належаць перш за ўсё такія апавяданні, як «Чорт», «Трывога», «У часе начлегу», у якіх аўтар ілюструе разнародныя сялянскія прыгоды. Яны адбываюцца ў надзвычай узрушаным, эмацыянальным стане герояў. Камізм гэтых вобразаў заключаецца ў тым, што героі ў чыста матэрыяльных і вытлумачальных з'явах бачаць праявы ўмешвання незразумелых і таямнічых надпрыродных сіл («Чорт», «Трывога»). Унушэнне і «заразлівасць» страху вялікая. Могуць яму падлягаць не толькі асобныя людзі, але і цэлыя групы людзей. «Мікола Тляк высунуўся з двара на вуліцу з затыкалам у руках і з жаночай спадніцай на плячах. Убачыўшы яго ў такой вопратцы і з затыкалам у руках, цэлая чарада сялян адкінулася назад і з крыкам "чорт", "чорт" пусцілася наўцёкі» («Трывога»).

Супярэчлівасць паміж чалавекам як «стваральнікам» страху і тым жа чалавекам як ахвярай сваёй хваравітай фантазіі і становіцца для Коласа адной з падстаў для стварэння камічных вобразаў.

*

Побыт беларускай вёскі пры ўсёй сваёй складанасці і разнароднасці быў бясспрэчна галоўнай крыніцай, якая давала Коласу багаты гумарыстычны матэрыял. Прымітывізм вясковага жыцця, які выяўляўся, між іншым, і ў супольнасці студняў, гаспадарчых прылад, а нярэдка і цесных хат, спрыяў узнікненню канфліктаў, якім аўтар мог даць і даваў гумарыстычную трактоўку. Незадаволенасць людзей, асуджаных цяжкімі ўмовамі жыцця на прымусовыя кантакты, выліваецца найчасцей у спрэчкі, сваркі, а нярэдка даходзіць да той мяжы, дзе слоўная аргументацыя, не могучы вырашыць канфлікту, перастае задавальняць як адзін, так і другі бок і пераходзіць у вышэйшую, больш «пераканаўчую» форму аргументацыі — фізічную бойку.

Не з чужых апавяданняў і не з літаратурных твораў пазнаваў пісьменнік добрыя і дрэнныя бакі беларускага жыцця. Ён быў непасрэдным удзельнікам побыту беларускай вёскі.

Згэтуль і выцякае жыццёвая праўдзівасць яго творчасці, вернай карціны народнай нядолі.

Бадай што няма ні адной справы, ні аднаго тыповага для вёскі канфлікту, ні адной рысы сялянскіх характараў, якіх бы Колас не заўважыў і не адвёў ім у сваёй творчасці належнае месца. Чулае сэрца пісьменніка надзяліла ўсё гэта і шчодрай паэзіяй пачуцця, і паэзіяй любві, і паэзіяй жалю, і паэзіяй смутку, але ніколі — абыякавасцю. Колькі ж праўды і глыбокага ведання апісанай праблемы выступае ў яго апавяданні «Дзяліцьба».

Не кожнае этнаграфічнае даследаванне патрапіць увесці ў сутнасць механізму раздзелу бацькоўскай маёмасці і гаспадаркі між сынамі з такой дакладнасцю, як кароткае гумарыстычнае апавяданне Коласа. Паслухаем аўтара. «Дзяліцьба ідзе вось у якім парадку. Перш-наперш выступаюць бабы. Бабы сварацца год, год з палавінаю, а то і цэлых тры. (Мой нябожчык дзед казаў, што яго нябожчыца жонка сварылася з яго нябожчыцай братавай цэлых дванаццаць год!) Наўперад бабы сварацца патроху — так гадзіну, дзве ў дзень. Потым сварцы адводзіцца больш часу — гадзін пяць-шэсць. Да гэтага часу мужчыны яшчэ маўчаць, набіраюцца толькі злосці. Мужчыны сварацца часцей увечар ці ў святы дзень, бо ў будні — часу няма. А бабы тым часам пачынаюць прабаваць моц сваіх чубоў. Вараць яны ў адной печы, але ў асобных гаршках. Дастаецца тут і бедным гаршкам. А пасля жанок ужо б’юцца мужчыны. Каб падзяліцца, яшчэ мала пабіцца адзін раз: трэба пабіцца найменш разоў з во-

сем, каб разы тры засыхала скурка на носе, трэба разоў шэсць абадраць твар ды ліхтар паставіць каля вока, а лоб убраць гузам або і двума. Тады толькі можна лічыць, што права на дзяліцьбу здабыта» («Дзяліцьба»).

Спакой і непрадузятасць аўтарскай рэляцыі мае тут, несумненна, іранічны каларыт. Аўтар не абмяжоўваецца высмейваннем «ваюючых бакоў», якімі з'яўляюцца два браты. Выкрывальны смех датычыць усіх жыхароў вёскі, якія натоўпам сыходзяцца да нязгодных герояў і ўсімі сіламі намагаюцца не дапусціць да злагаджэння канфлікту. «Наперадзе стаяла некалькі чалавек, якія борзда ўмелі звесці Сымона з Міколам. А другія толькі пазіралі, калі звадыяшы бачылі, што бойка раскідаецца, тады ўмешваліся яны.

— Эй, Сымон! як табе не брыдка? Мікола даў дулю, а ты толькі нос адхіліў!» («Дзяліцьба»).

Здаволеныя сяляне прыпамінаюць тут апошнюю сцэну «Рэвізора», героі якой, паводле трапнай заўвагі гараднічага, «смяюцца з сябе». У гэтым і заключаецца сутнасць трагічнага камізму, высмеянай у творы сялянскай звычаёвасці.

Да «Дзяліцьбы» тэматычна набліжаецца і апавяданне «Кажух старога Анісіма» і часткова ўпамянутае ўжо апавяданне «На начлезе».

У гэтых творах аўтар дае багатую ілюстрацыю адносін, якія бытуюць у беларускай вёсцы. Сутнасць канфлікту гэтых апавяданняў грунтуецца на неразуменні моладдзю прывычак і густаў старэйшага пакалення. Нецярпімая форма суадносін паміж «бацькамі і дзяцьмі» ўзбуджае смех, поўны горычы.

*

Бадай што самую вялікую частку сваіх гумарыстычных апавяданняў звязаў Колас з частай у мінулым сярод беларускага сялянства з'явай — п'янствам*. П'янства як тэматычная аснова літаратурнага камізму выступае ва ўсіх літаратурах свету. Пытанне гэтае атрымала шырокую літаратурную трактоўку ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. У творчасці Чачота, Рыпінскага, Баршчэўскага і Марцінкевіча яно мела амаль

* Варта адзначыць, што ў аўтабіяграфіі Якуб Колас упамінае аб тым, што вобразам, які назаўсёды застаўся ў яго памяці, быў каляндарны малюнак п'янага селяніна з вершаваным подпісам: «Без музыкі, без дуды ногі ходзяць не туды».

заўсёды дыдактычную афарбоўку. Паводле Чачота, п’янства — адна з галоўных прычын сялянскай нядолі. Рыпінскі бачыць у ім выток бязбожніцтва і распусты. Баршчэўскага палохае разгул п’яных сялян, здольных падняць свае рукі супраць замацаванага богам грамадскага ладу. Нават Багушэвіч, які ў многім адрозніваецца ад сваіх літаратурных папярэднікаў, час ад часу заломіць рукі над п’яным селянінам.

Якуб Колас рашуча парывае з гэтай традыцыяй. Яго апавяданні, закранаючы гэтую тэму, пазбаўлены маралізатарскіх тэндэнцый. Канчатковыя высновы належаць тут да самога чытача. У гэтым цыкле апавяданняў пісьменніка цікавіць, перш за ўсё, адхіленне ад нормы, якое часта выступае ў п’янага чалавека, зменнасць яго псіхічнага стану, а таксама ўскладненні і камічныя прыгоды, у якія трапляюць пазбаўленыя фізічнай і духоўнай раўнавагі героі. Галерэя п’яных герояў у Коласа вялікая і яскравая. Характарызуе яе непаўторнасць малюнку як асобных постацей, так і сітуацыі. Відавочна, фактычны матэрыял, які лёг у аснову гэтага цыкла, вызначаўся багаццем і разнароднасцю. Месцам, у якім адбываюцца падзеі апавяданняў, бывае найчасцей карчма, рынак, вуліца, дарога або сялянская хата. Усе гэтыя аб’екты замяняюцца ў апавяданнях Коласа ў сцэны камічных прыгод п’яных герояў. Чалавек, шукаючы на дне чаркі забыцця ад штодзённых клопатаў або ілюзорнага шчасця, можа быць аб’ектам нашага смеху. Коласа цікавіць у першую чаргу схільнасць п’янага чалавека да шчырага «вылівання» душы. П’яныя героі Коласа скідаюць маскі, паказваюць сапраўднае аблічча, выліваюць глыбока схаваныя думкі і надзеі, скідаюць рацыянальнае пакрывала сваіх меркаванняў, адкрываючы шырокі шлях пачуццям. Усе заганы, усе недахопы, а нярэдка добрыя рысы і якасці характараў, вызваленыя з рамак штодзённай разумовай цвярозасці, выліваюцца страсна і адкрыта.

Да найбольш характэрных схільнасцей у паводзінах п’яных герояў Коласа належаць:

1) Перабольшанне сваіх разумовых здольнасцей і заслуг або фізічных сіл. «“Я стараста — стараста, я ста-а-ра-ста!” — Пры гэтым стараста падняў угару палец, уставіўся ў адно месца, як бы ахопліваючы цалкам усю веліч свайго чына, сваёй улады, сваёй магутнасці» («Стараста»). «Але хто накрыў пазалетась вучыцялёў на з’ездзе? — перапыніў старшыня. Ён увесь час маўчаў і старанна ачышчаў чаркі і талеркі. — Бачу я, збіраюцца

валасатыя, кудлатыя. Тут я і здагадаўся. Я да земскага, ад земскага да прыстава. Ось і накрылі» («Пісаравы імяніны»).

2) Адсутнасць духоўнай і фізічнай раўнавагі, няздольнасць да кіравання сваім целам і да выказвання лагічных думак. «Ногі не слухалі Янку, а ішлі як хацелі: адна ўлева, другая ўправа, а сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, то ў адзін бок, то ў другі» («Соцкі падвёў»). «Міхась стаў на кукішкі і падставіў спіну. Іван узяўся за плечы. Сталі падымацца. Міхась крактаў, пяўся, а потым паваліўся спіною на Івана, і ляжаць абодва» («Чорт»). «Паўзучы ад Шварца чуць не на чатырох, Паўлюк мармытаў» («Тоўстае палена»). «Адзін выбарны здароўкаўся асобна. Усё ўжо сціхла, а ён, п’яны як зямля, заікаецца, крычыць: Здраввя жжжалаю, ввваша пппбббблагародддзе!» («Выбар старшыні»).

3) Схільнасць да спрэчак і боек з-за неістотных прычын. «А ты дзе быў, карова ты? Чаго глядзеў? — накінуўся на Андрэя п’яны Антось». («Андрэй-выбаршчык»). «Ураднік сарваўся з месца, скінуў са стала бутэльку з гарэлкаю, некалькі талерак, схапіў сядзельца за сярэдзіну і пацягнуў на двор» («Пісаравы імяніны»).

4) Узбуджаны стан весялосці, схільнасць да выяўлення сваёй радасці ў песнях і танцах. «Тут былі і такія, што паспелі налізацца і спявалі песні. А Антось Байбак пайшоў нават у скокі і баранаваў пясок на вуліцы старымі ботамі, на якіх не хапала аднаго абцаса» («Андрэй-выбаршчык»).

5) Абуджэнне асабліва вострай формы грамадскага крытыцызму і палітычнай смеласці. «Грамада! Ужо выбралі? Апанаса Кветку? Каб вам дошкі сабралі! Каго вы выбралі? Яшчэ мала выпіў у вас крыві?

— Ціха! — кажуць. — Тут жа земскі!

— А што мне ён? Але вы абармоты. Га-ааа? Ты старшынька? Сто рублёў прапіў! Каму трэба — падсунуў? Зноў кроў будзеш піць?..» («Выбар старшыні»).

«— Ты знаеш, хто я? Я — дэмакрат і забастоўшчык першай гільдыі… Хлопцы! Браткі мае родныя! Хадзем бунтавацца…» («Соцкі падвёў»).

6) Наплыў пачуццёвасці, выяўленне сваёй пашаны і любві да іншых. «Братка ты мой, Міхаська! Забі мяне пярун, во тут, у гэтую ночку, на гэтай дарозе, калі я не люблю цябе. Дай і я цябе пацалую» («Чорт»). «Ось ты, Лявон, і чужы мне чалавек, а чаму я цябе люблю? Затым люблю, што ты, як і я, чалавек без хітрыкаў» («Знайшлі»).

*

У вобразах п'яных герояў пісьменнік звяртае значную ўвагу на асаблівасць іх натур і характараў, якія адзначаюцца выключна слабой воляй і непаслядоўнасцю пастаноў і рашэнняў. Супярэчлівасць паміж схільнасцю да п'янства і ўнутраным асуджэннем гэтай схільнасці іграе сур'ёзную ролю ў завязцы і развязцы падзей апавядання.

На прыкладзе героя з апавядання «Кірмаш» бачым, як лёгка прыняць пастанову і як цяжка ажыццявіць яе ў практыцы. «І Пятрусь стаў думаць аб тым, як ён ужо разоў дваццаць абяцаў жонцы не піць гарэлкі і заўсёды прыязджаў дадому п'яны, як ён ашукваў яе, прыкідваючыся цвярозым — для гэтага ён стараўся хадзіць роўна».

Пасля доўгага роздуму прыходзіць цвёрдае рашэнне: «Не, трэба-такі кінуць піць, — гаварыў сам сабе Пятрусь і развясельваўся». Аднак сіла звычкі пераважае сілу перакананняў і пастаноў. Тым больш, што перадкарчэмная сцэна спакушае і вабіць, абяцаючы хвілёвае вызваленне ад штодзённых клопатаў і горычы жыцця. «…грамада народу стаяла каля дома з шыльдаю "Казённая винная лавка № 67". Тут былі бабы і мужчыны. Хто выбіваў корак з кварты, з паўкварты, а хто, адвярнуўшыся ад людзей, каб не сароміць іх, — з маленькага кручка. З дваццаць людскіх галоў было задрана ўгару так, што нос прыходзіўся якраз проці самай сярэдзіны неба. Хто піў з вялікай бутэлькі, той трымаўся смела: станавіўся на самае віднае месца, падпіраў адною рукою бок і важна цягнуў гарэлку. А калі хто ішоў з "буслам" — перад тым людзі расступаліся і давалі дарогу, як якому спраўніку» («Кірмаш»).

Аўтар паказвае камедыю чалавечых душ, скрыўленае разуменне гонару і пашаны, вартасць якіх акрэсліваецца памерам бутэлькі. Пры гэтым пісьменнік не пакідае галоўнага героя твора, які даўно адступаў ад чысціні сваіх антыалкагольных пастаноў і, дзякуючы гэтаму, перажыў цэлы рад непрыемных прыгод.

Выцверазіўшыся, «…пацалаваў Пятрусь зямлю і прысягнуў, што ніколі не будзе піць гарэлкі» («Кірмаш»). Але ці можам, ведаючы слабасць чалавечай натуры, паверыць у вынік прысягі героя?

Гумарэска «Стараста», абапіраючыся на той самай праблеме п'янства, падае зусім другі, у параўнанні з «Кірмашом», тып героя і характар канфлікту.

П'яны напавал стараста, патрабуючы ад сабраных выяўлення асаблівай пашаны да свайго чыну і пацвярджэння сваіх вялікіх грамадскіх заслуг — несумненна, смешны сваім ненатуральнымі амбіцыямі. У цэлым гумарэска «Стараста» жывая, камічная замалёўка, пабудаваная на рэалістычным матэрыяле вясковай рэчаіснасці.

У навеле «Выбар старшыні» пераходзіць Колас ад камізму індывідуальных постацей да гумарыстычнай характарыстыкі групы. Спроба гумарыстычнай трактоўкі натоўпу выяўлена, як вядома, у «Кірмашы». Аднак у «Выбары старшыні» малюнак п'янай грамады паказаны ў палітычным аспекце тагачасных грамадскіх адносін. Навела — дасканалая іронія, накіраваная супраць заганлівай звычаёвасці і палітычнай недальнабачнасці сялянства.

«У нас ужо такі парадак, — гаворыць адзін з герояў, — хто больш паставіць гарэлкі, той старшыня — а хто ж больш паставіць, як не багаты? Сяляне нашы таго не помняць, што гэтую выпіўку старшыня пасля ў тры разы верне». («Выбары старшыні»).

Натоўп, атуманены алкаголем, губляе здольнасць лагічна разумець свае элементарныя інтарэсы. У вялікай грамадзе знойдзецца толькі адзін чалавек, здольны кінуць у твар аднавяскоўцам горкую праўду аб іх палітычнай слепаце. Але запозна, старшыня выбраны, і смяльчак вандруе ў халодную.

Выключна цікавае, з псіхалагічнага боку, пытанне закранае аўтар у дасканалым апавяданні «Тоўстае палена». Тэматычная аснова твора такая ж, як і ў вядомым ўжо нам апавяданні «Дзядзькаў сведка». Тут, таксама як і там, сыходным пунктам камічных перыпетый героя было «тоўстае палена», якое стала прычынай затрымання ў лясніцтве нарыхтаваных сялянінам дроў. Аднак падрыхтоўка да канчатковай развязкі патрактавана аўтарам зусім па-іншаму. Выступае тут усебаковая ілюстрацыя псіхалагічных перажыванняў чалавека, які мучыцца, шукаючы формы помсты на асобе зненавіджанага ворага. У сэнсе ўзроўню палітычнай свядомасці герой «Тоўстага палена» стаіць несумненна вышэй, чым яго папярэднік з «Дзядзькавага сведкі». У яго характары няма ўжо наіўнасці. Ён, відавочна, даўно вызваліўся ад ілюзіі адносна магчымасці справядлівага вырашэння справы ў дзяржаўным судзе. Згэтуль і прыйшла думка аб неабходнасці вырашэння канфлікту сваім розумам і сваімі рукамі. Аднак выбар формы помсты не быў лёгкі. Кожная з прыдуманых версій мела адмоўныя бакі. І толькі пачуўшы ад суседа апавяданне аб

бяскарным пабоі сялянамі ў часе супольнай выпіўкі стражніка, ад шаблі якога адзін з іх адрэзаў нават кавалак рэменя, гаворачы, што… «добра будзе вушкі паўстаўляць у лапці», герой твора прыйшоў да непахіснага вываду: «…Залучыць на кірмашы аб’ездчыка, завесці яго куды-небудзь да Хацкеля ці Каца, напаіць і тады можна будзе парахавацца». Урэшце наступае доўгачаканы дзень канчатковай расплаты. Селянін сустракае на кірмашы аб’ездчыка і просіць яго пайсці выпіць. Мяркуючы, што пасля першай бутэлькі ўзровень злосці не дасягнуў яшчэ апагея, селянін заказвае другую. Рыхтуючыся кінуцца на аб’ездчыка, селянін заціскае пад сталом кулакі. Набліжаецца момант расправы. І тут наступае нечаканасць. «Яшчэ не быў выпіты паўбутэлек (другі. — *А. Б.*), а Паўлюк ужо абнімаў аб’ездчыка і гаварыў:

— Хоць ты і сабака, лайдак і свіння і хоць я паб’ю тваё рыла, але я люблю цябе!» («Тоўстае палена»).

Адначасова варта звярнуць увагу на тое, што амаль першы раз гарэлка выступіла тут не ў традыцыйнай ролі сродку, што вызваляе ў чалавеку адмоўныя інстынкты і схільнасці, але ўзбуджае дабрадушнасць яго характару.

*

Дабрадушная насмешка аўтара над наіўнасцю сялянскіх палітычных ілюзій выступае ў цікавай навеле «Андрэй-выбаршчык», якая працягвае ў пэўным сэнсе праблематыку «Выбараў старшыні». Галоўная думка твора заключаецца ў ілюстрацыі ашуканчых махінацый рэакцыі ў час выбараў у Дзяржаўную Думу. Навела з дзвюх частак. Першую частку аўтар прысвячае ілюстрацыі падзей, якія звязвалі сяляне з выбарамі ў Думу. Перакананне ў тым, што ўрэшце сялянскія справы аказаліся ў кампетэнцыі сялянскіх рук і галоў, знаходзіць выраз у такіх сцвярджэннях, як «свабоды бог з неба не скіне», «не ганіся за панскай гарбатай», «смела, Андрэй, рэж у горадзе праўду» («Андрэй-выбаршчык»).

У другой частцы «Андрэя-выбаршчыка» паказвае аўтар узбуджаны эмацыянальны стан грамады, якая сустракае свайго дэлегата. Паяўленне Андрэя іграе ў творы ролю кульмінацыі, пасля якой наступае спад падзеі, развязка і заканчэнне. Праяўленнем поўнага краху папярэдніх надзей грамады з’яўляюцца слёзы на сялянскіх вачах. Згодна з аўтарскім намерам, гумарыстычны матыў выступае з асаблівай сілай у другой частцы апавядання. Натоўп сялян, нягледзячы на ўрачыстасць і павагу моманту, а

можа, дзякуючы гэтаму моманту, праяўляе сваю традыцыйную схільнасць да выпіўкі. «…рабіць тут не было чаго, то сягдытагды можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолістую руку і як галгатала гарэлка, пераліваючыся проста з бутэлькі ў мужыцкае горла. Тут былі і такія, што паспелі налізацца і спявалі песні, а Антось Байбак пайшоў нават у скокі і баранаваў пясок на вуліцы старымі ботамі, на якіх яе хапала аднаго абцаса» («Андрэй-выбаршчык»).

У расказах прыехаўшага з выбараў Андрэя таксама нямала гумарыстычных момантаў, камізм якіх паглыбляецца сур'ёзнасцю расчараванага вынікамі сваёй місіі дэлегата.

Ужо першае слова, ужытае Андрэем для акрэслення характару і вынікаў выбараў «…насіла імя той рэчы, якую мужыкі на поле вывозяць» («Андрэй-выбаршчык»).

«А раз браткі, — казаў далей Андрэй, — такая выйшла штука. Зайшлі да аднаго выбаршчыка. Ніхто не ведаў, што ён — прадсядацель Саюза рускага народа, і аблаялі мы гэты Саюз з апошніх слоў. Выбаршчык усё слухаў ды вачыма моргаў, а потым як усхопіцца, усё роўна як на шыла сеў, ды як крыкне: "Гарадавых пазаву!" Дык мы, брат, ходу. Грыгор з Н…. павета, бегучы з другога паверха, зачапіўся ботам, паслізнуўся і пералічыў задам усе ўсходы». («Андрэй-выбаршчык»).

*

Маламестачковая і вясковая чыноўніцкая інтэлігенцыя Беларусі, пачынаючы ад Дуніна-Марцінкевіча, была аб'ектам зацікаўленасці з боку амаль усіх беларускіх пісьменнікаў.

Наогул адмоўныя адносіны нашай літаратуры да чыноўніцтва тлумачацца: нізкім разумовым узроўнем чыноўніцтва, выключна малой знаёмасцю з прафесійнай праблематыкай, схільнасцю да хабарніцтва і нажывы за кошт селяніна. На адмоўную характарыстыку чыноўнікаў магло ў нейкай ступені паўплываць іх паходжанне. Большасць іх — элемент нацыянальна чужы. Але нават інтэлігенцыя мясцовага паходжання адзначалася нацыянальным рэнегацтвам і старалася падкрэсліць сваё адзінародства з рускай або польскай нацыяй.

Дуніна-Марцінкевіча, а таксама і Багушэвіча, цікавіла перш за ўсё дзейнасць судовага механізму, накіраванага заўсёды супраць сялянскіх інтарэсаў. Колас і ў гэтым выпадку адступае ад традыцыі. Суд у яго камічнай творчасці займае нязначнае месца («Дзядзькаў сведка»). Пры гэтым варта адзначыць,

што гумарыстычная і сатырычная трактоўка чыноўніцкай праблематыкі ў Коласа намнога шырэй, чым у папярэднікаў. Пісьменнік выказвае асаблівую зацікаўленасць практычнай дзейнасцю паліцэйскіх устаноў і паліцэйскіх чыноўнікаў, якія атрымліваюць у яго творах сатырычную афарбоўку.

Рысуючы персанажы паліцэйскіх чыноўнікаў, Колас звяртае ўвагу перш за ўсё на такія рысы іх дзейнасці, як кар'ерызм, нахабства і грубіянства («Соцкі падвёў»), схільнасць да перабольшання шкоднасці нязначных, неістотных з'яў і фактаў («Слабода», «Сацыяліст»), хваравітая падазронасць у адносінах да людзей («Слабода», «Соцкі падвёў»).

Першае ўжо апавяданне «Слабода», надрукаванае яшчэ ў «Нашай долі», востра высмейвае паліцэйскія звычкі. Велізарная дыспрапорцыя між памерамі паліцэйскай акцыі і нязначнасцю факта, які яе выклікаў, узбуджае толькі здзіўленне і горкую ўсмешку. Вобраз паліцэйскага прыстава, які наладзіў цэлую экспедыцыю, каб адабраць у селяніна старую стрэльбу, у сатырычным сэнсе дасканалы. «Едзе цэлы абоз паліцыі: прыстаў, два ўраднікі, стражнікаў з дваццаць, са стрэльбамі, шаблямі, нагайкамі. І куды едуць? Адбіраць у мужыка стрэльбу. Праўда, наш Сымон Таўкач гаварыў, што мужык той быў чуць не сацыяліст: панскую кабылу назваў брыдка і земскага калісь дурнем злаяў перад соцкім» («Слабода»).

Сарказм, амаль у кожным сказе іронія, высмейванне фальшывай чуйнасці, няўдачлівых хавальнікаў публічнага парадку праходзіць чырвонай ніткай праз усю навелу. Ці ж могуць крокі прыстава знайсці якое-небудзь апраўданне ў галаве нармальнага чалавека, калі вядома, што стрэльба селяніна прыгодна толькі на злом. «Якая там стрэльба? Божа ты злітуйся! Яе, папраўдзе сказаць, смешна і называць стрэльбай. На рулі — гразі на цэлы палец, брамка з сабачку нябожчыцы пані Каліноўскай. Заміж штэнфеля — арэхавая палка. Звязана яна лыкам і дротам — старая стрэльба. Можа, яшчэ швед згубіў яе трыста гадоў таму назад» («Слабода»). Аж дзіўна, што гэты рэлікт мог стацца прычынай вялікіх захадаў прыстава і амаль драматычнага дыялога паміж ім і селянінам.

«— Дзе ружжо? Падавай яго сюды, мярзавец! — крычыць начальства і нагамі тупае.

— Якое там, паночку, ружжо? Адно цьфу — нічога болей. Паказаць брыдка.

— Не рассуждаць, дурак!

— Не крычыце, паночку. Вунь дзеці перапалохаліся, плачуць.

— А табе хто разрашыў іх?!

Мужык аж рот разявіў: ніколі ён не чуў, каб на гэта трэба было браць дазвол у паліцыі. Потым ужо, як выпусцілі, смяяўся Кандрат:

— Да чаго мы браткі дажыліся. На дзеці білет трэба браць. От хіба «слабода», дык «слабода» («Слабода»).

Яскравасць сатырычнага малюнка паліцэйскіх чыноўнікаў выступіць з яшчэ большай вострасцю ў наступным апавяданні з гэтага цыкла — «Соцкі падвёў».

Трапнасць камізму ў гэтым творы паглыбляе факт, што ахвярай паліцэйскай падазронасці, прадузятасці, звышчуйнасці становяцца паліцэйскія, аўтары авантурнага замыслу. У вытканыя ўрадніцкай галавой «…хітрыя сеці, у якія павінна заблытацца крамола…», папаў дзеяч самай рэакцыйнай царскай арганізацыі, а разам з ім і самураднік.

Ужо пачатак апавядання прыносіць дасканалы гумарыстычны вобраз урадніка, які расплыўся ў салодкіх марах аб выніках сваёй антырэвалюцыйнай дзейнасці.

«Важна ходзіць па мястэчку ўраднік, пакручваючы рыжыя вусы. Пры баку ў яго целяпаецца трапло-шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі, і блішчаць на сонцы наваксаваныя боты. Ён толькі што прыехаў на службу, у яго галаве мітусяцца тысячы думак — ён думае аб тым, як звесці крамолу. Яму толькі што данёс стражнік, што ў вёсцы Галадранцы нядаўна з’явіўся падазроны чалавек. А раз чалавек падазроны, то ён напэўна сацыяліст, па меншай меры, забастоўшчык. І ўрадніцкая галава строіць складаныя планы, тчэ хітрыя сеці, у якія павінна заблытацца крамола. Яму здаецца, што ён выкрыў «праступнае савобчаства», захапіў лісты, рэвальверы і бомбы і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэнне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, потым прыставам, а потым… і пайшоў наш ураднік угору, як цыган па драбінах на неба» («Соцкі падвёў»).

Ужо тут, у такім характэрным для творчасці Коласа спалучэнні апісанняў выгляду і ўнутраных перажыванняў героя праяўляецца гумарыстычная задума, якая ў далейшых частках апавядання будзе разгортвацца штораз шырэй. Так, сцэна арышту падазронага ў рэвалюцыйнай дзейнасці чалавека перапоўнена камізмам высокага гатунку. Але камічная кульмінацыя супадае з апошнімі радкамі твора, гэта значыць з тым момантам, калі згодна з надзеямі ўрадніка павінен наступіць канчатковы трыумф яго акцыі.

«— Ваша высокаблагароддзе, — рапартаваўураднік прыставу, — я арыштаваў і прывёў да стану сіцыліста, аб чым і маю чэсць асабіста далажыць вам! — перабіў ураднік прыстава.

— Дзела добрае, дзе арыштаваў?

— У Галадранцы, ваша высокаблагароддзе!

Тут прыставу нешта цюкнула. Ён глянуў на ўрадніка, той стаяў і пазіраў на прыстава так, як бы ён, ураднік, схапіў з неба зорку або японскага Мікаду забраў у палон.

— Пашпарт у яго ёсць?

— Не спраўляўся.

— Дзе арыштаваны? Пазваць сюды!

Ураднік кінуўся на двор, соцкі і дзясяцкі ўвялі «сіцыліста».

— Як дапускаеце вы такое безабраззе і свавольства вашых падначаленых? Я самому губернатару жалавацца буду! Я член Саюза рускага народа! Вось мае дакументы.

— Звініце, — сказаў прыстаў «сіцылісту», — тут абмылка («Соцкі падвёў»).

Роля памылкі ў літаратурным камізме, здольнай гумарыстычна ўскладніць падзею твора, бывае вялікай. У даным выпадку аўтар скарыстоўвае яе як сродак сатырычнага высмейвання бязглуздасці паліцэйскага начальства. Аняменне і поўны крах урадніцкіх летуценняў аб павышэнні і ўзнагародах з'яўляецца тут лагічнай развязкай умела задуманай інтрыгі.

*

Да чыноўніцтва, гэтага дадатковага ярма на сялянскія шыі, Колас адносіўся выключна адмоўна. Згэтуль ішла шчодрасць панурых фарбаў, якімі маляваў пісьменнік чыноўніцкія персанажы. Бадай што ні адна рыса побыту, звычаёвасці і дзейнасці гэтага грамадскага пласта не прайшла незаўважанай вокам пісьменніка-гумарыста. Апавяданні, якія будуць намі разглядацца, даюць толькі агульнае ўяўленне аб коласаўскай ацэнцы чыноўніцтва. Пазнейшыя яго творы — паэма «Новая зямля» і трылогія «На ростанях» — узбагачаюць чыноўніцкую камічную галерэю новымі тыпамі персанажаў і новымі здарэннямі з чыноўніцкага жыцця. У побыце і звычаёвасці маламестачковай і вясковай інтэлігенцыі аб'ектам аўтарскага высмейвання з'яўляюцца кар'ерызм, схільнасць да пляткарства і абгаворвання сваіх знаёмых, ганарыстасць, узвялічванне сваёй асобы і сваіх ведаў, п'янства і азартная гульня ў карты, пагарда ў адносінах да селяніна.

Да цыкла такіх твораў належаць, між іншым, такія апавяданні, як «Злавіў», «Пісаравы імяніны», «Так і трэба ашуканцу».

У апавяданні «Так і трэба ашуканцу» выразна адчуваецца манера гумарыстычных твораў Гогаля. Уплыў гогалеўскага матыву выяўляецца ў малюнку соннай маламестачковай атмасферы і характарыстыцы героя.

Тры асаблівасці, тры рысы вызначаюць і акрэсліваюць сутнасць характару пісара Спірыдона. Аб дзвюх першых — схільнасці да пляткарства і марах аб любоўных прыгодах — расказвае аўтар, аб трэцяй асаблівасці гаворыць нос героя: «…нос-чаравік кідаўся кожнаму ў вочы сваім доўгім з задраным угару канцом, афарбаваным пад бурачны квас. І дурню было ясна, што гаспадар гэтага носа дужа змагаўся з п'янствам і змагаўся проста, адкрыта, чэсна без усякіх там хітрыкаў, — галялюшчыў гарэлку і толькі» («Так і трэба ашуканцу»). Роля Спірыдонавага носа ў творы значная. Яго ранняе свярбенне было для героя азнакай удалага дня, дня з выпіўкай.

Але прароцтвы носа таксама могуць не здзейсніцца. Выпіць Спірыдону не давялося. І гэтым самым герой быў пазбаўлены аднаго з найпрыгажэйшых атрыбутаў свайго існавання. Безалкагольны дзень прыносіць расчараванне і смутак.

«Можа б, і абышлося ўсё, бура ўляглася б і Спірыдон супакоіўся б, але гэты прахвост, нос, як сумыслу зноў засвярбеў таксама, як і раніцай.

— Не, брат, няма дурных, — зларадна сказаў Спірыдон. Задраў ён угару галаву, прыплюшчыў крыху вочы, — нос яго са страху зморшчыўся так, што зубы выскаліліся. Потым прыгнуў Спірыдон сярэдні палец правай рукі да вялікага пальца.

— Троп! троп! троп! — паляцела па пустой кватэры.

— Так табе і трэба, ашуканцу! — сказаў Спірыдон, даўшы тры пстрычкі ў свой уласны нос» («Так і трэба ашуканцу»).

Бадай што пад найбольш вострае сатырычнае высмейванне падпадаюць чыноўніцкія персанажы ў навеле «Пісаравы імяніны». Ужо на пачатку твора аўтар дае з'едлівую характарыстыку местачковай чыноўніцкай эліты.

«Усё мястэчковае панства збіралася кожны вечар у каго-небудзь з паноў, піло гарэлку, гуляла ў карты, абівала свае языкі аб косці таго, хто не ўмеў або не хацеў пападаць ім у тон і туляўся іх зборышч» («Пісаравы імяніны»). Імяніны пісара скарыстоўваюцца аўтарам для больш дакладнай абмалёўкі местачковых індывідуальнасцяў.

Вось памочнік пісара:

«Памочнік меў значок Саюза рускага народа, пасылаў свае творы ў газету «Русское знамя» і лічыўся ў мястэчку чалавекам мыслі, пяра і бутэлькі».

Павага, якую накладаюць героі на свае творы, гэта штучная маска, арэол славы і заслуг, якімі акружаюць яны свае галовы, гэта фальшывы міф.

Для раскрыцця істотнай вартасці чыноўнікаў аўтар прымяняе выпрабаваны сродак — алкаголь.

Пасля першых чарак гарэлкі распадаецца, як мыльная банька, ультрасур'ёзнасць чыноўніцкіх характараў. На паверхню выплывае духоўная пустэча.

Пачынаюцца дзікія спрэчкі аб вартасці сваіх грамадскіх заслуг, якія паступова пераходзяць у бойку і канчаюцца тым, што два «паважаныя» грамадзяніны выкачаліся ў свіной ежы. Вобраз сапраўды сімвалічны!

*

Закончыўшы агляд гумарыстычных і сатырычных апавяданняў Якуба Коласа, варта затрымацца над зместавымі і мастацкімі асаблівасцямі коласаўскага камізму. У пабудове гумарыстычнага вобраза Колас скарыстоўвае: элементы камізму сітуацый і здарэнняў («Калодка пчол», «Кантракт», «Злавіў», «Знайшоў»), камізм характараў («Выстагнаўся», «Кажух старога Анісіма», «Трывога», «Дзядзькаў сведка») і камізм слоўных канструкцый.

Камізм слова выступае ва ўсіх апавяданнях. Дасціпнасць слоўных канструкцый дасягае асабліва высокай ступені пры скарыстоўванні Коласам народных прымавак. Напрыклад, «Такі ён сацыяліст, як ты маёй кабыле дзядзька» («Соцкі падвёў»). Акрамя гэтага пісьменнік карыстаецца чыноўніцкім і царкоўным жаргонам, якія ў выпадку ўжывання ў неадпаведным месцы або празмернага іх ужывання могуць выклікаць смех. Пісар, звяртаючыся да паўзучага па сцяне клапа, пытае: «— …а гад! А пашпарт у цябе ёсць?» («Злавіў»).

Прызвычаены да загадаў і дазволаў прыстаў, на заўвагу селяніна аб тым, што плачуць дзеці, крычыць: «А табе хто разрашыў іх…?!» («Слабода»).

Поп, даведаўшыся, што ў яго начуе рэвалюцыянер, спалохана шэпча: «Ад вешчы, ва цьме прэхадяшчыя, ад беса полудзеннага» («Соцкі падвёў»).

Седзячы ў студні п’яны, «Арцём заплюхаў абедзвюма нагамі і зацягнуў: атракомся ад старага міру, атрасём яго прах з нашых ног. Сяляне дружна зарагаталі». («Недаступны»).

Варта адзначыць, што асноўным прыёмам у апавяданнях Коласа з’яўляецца камізм здарэнняў або прыгоды, здольнай выклікаць здзіўленне героя і прывесці да непрадбачаных ускладненняў падзеі.

Нечаканасць выступае ў творчасці Коласа ў дзвюх відах: вясёласці або прыкрасці. Акрэсленне і класіфікацыя катэгорыі нечаканасці залежыць заўсёды ад героя, ад характару і формы яго ўдзелу ў дадзеным здарэнні. Адна і тая ж з’ява нечаканасці можа быць вясёлай для аднаго і сумнай для другога чалавека.

Нечаканая прыгода можа сустрэць кожнага, і дзякуючы гэтаму кожны чалавек можа стаць на момант смешным. У коласаўскіх апавяданнях бываюць камічнымі асобы, якія вызначаюцца супрацьлеглымі якасцямі характару: вясёлыя, схільныя трактаваць жыццё бесклапотна («Недаступны»); скептыкі і псеўдафілосафы («Выстагнаўся», «Так і трэба ашуканцу»), надзвычай сур’ёзныя, а таксама і нармальныя («Пісаравы імяніны», «Калодка пчол»).

Асабліва многа смеху выклікае развянчанне пісьменнікам уяўнай, фальшывай велічнасці. Унутранае ўбоства ці подласць, паказаныя пад знешняй маскай павагі, выклікаюць заўсёды смех («Пісаравы імяніны», «Стараста»).

Колас ахвотна ўводзіць свайго «нармальнага» «сур’ёзнага героя ў гумарыстычныя абставіны і амаль ніколі не стараецца яго адтуль вывесці. У апавяданнях Коласа бывае смешным не толькі асобны чалавек, але і цэлая група людзей («Кірмаш», «Выбары старшыні»). Цікава адзначыць, што сярод герояў гумарыстычнай галерэі Коласа вельмі рэдка сустракаюцца жанчыны, а калі і выступаюць, дык найчасцей як другапланавыя персанажы. Агульнай рысай жанчын у гумарыстычных апавяданнях Коласа з’яўляецца схільнасць да сваркі, якая выступае амаль арганічнай патрэбай іх жыцця («Недаступны», «Дзяліцьба»).

Сутнасць коласаўскага гумару заключаецца ў здольнасці лёгкай і вясёлай трактоўкі падзей і з’яў, па сваёй сутнасці сумных, прыкрых і адмоўных. І хоць аўтар, ілюструючы падзеі гумарыстычнымі малюнкамі, ніколі не выяўляе дыдактычнай і маралізатарскай тэндэнцыі, усё ж такі сіла маральнага і грамадскага ўздзеяння яго камічнай творчасці вялікая. Не заломваючы рук над чалавечай недасканаласцю і не падсоўваючы чытачу

маладзейсных у такіх выпадках маральных падказак, аўтар пакідае яму канчатковыя вывады з «камедыі чалавечага жыцця», дзе кожны з нас не толькі назіральнік, але і ўдзельнік.

Колас ніколі не становіцца ў трагічную позу, не кідаецца ў роспач над недахопамі чалавечай натуры, дзякуючы чаму дазваляе глянуць нам на жыццё не праз прызму трагізму, а весялосці. Гумар Коласа не мае характару непасрэднага асуджэння, гэта хутчэй за ўсё папрок грамадству, якое прызвычаілася лічыць апісаныя, выключна адмоўныя звычаі і схільнасці нармальнымі. Аўтар не ставіць сваёй мэтай канчатковае знішчэнне зла (гэта было б немагчымым), а толькі стараецца пераканаць чытача ў заганлівасці апісаных з'яў і гэтым самым робіць першы крок па шляху да ліквідацыі іх.

Літаратурны камізм не азначае перамогі над хібамі чалавечай звычаёвасці ці сутнасцю дзяржаўных формаў, але, выстаўляючы іх на публічны смех, стварае спрыяльныя ўмовы да ўсведамлення іх адмоўнасці, разумовага асуджэння і паступовага выцяснення з жыцця. Такім чынам, камізм Коласа не бездапаможны смех, а смех актыўны ў грамадскім, палітычным і маральным сэнсе. Смех Коласа вызначаецца значнай колькасцю эмацыянальных адценняў. Дзякуючы гэтаму, без асаблівых цяжкасцяў можам аддзяліць герояў, высмеяных дабрадушна, ад герояў, высмеяных аўтарам сатырычна і асуджальна. Тонкая нітка сімпатыі аўтара да сялянскіх герояў — у выпадку сустрэчы з тыпам мяшчанскім і чыноўнікамі замяняецца ў бязлітасны біч сатыры. Сатыра Коласа — гэта бязлітасны смех асуджэння чыноўніцкіх і паліцэйскіх заправіл. Гэтых людзей пісьменнік шчодра надзяляе кпінай, іроніяй і насмешкай і злосна высмейвае іх унутраную марнасць. Сваёй сатырычнай творчасцю выносіць Колас суровы прыгавор усёй чыноўніцкай самадзяржаўнай Беларусі.

*

З боку канструкцыі і пабудовы камічныя апавяданні Коласа можна падзяліць на дзве групы. У першай групе апавяданняў пачатковыя элементы фабулы разгортваюцца ў сур'ёзнай, поўнай павагі, атмасферы. І толькі ў выніку павольнага накаплення гумарыстычных момантаў атрымліваецца канчатковы камічны эфект. Да гэтай катэгорыі належаць такія творы, як «Калодка пчол», «Адгукнуўся», «Кантракт», «Тоўстае палена», «Дзядзькаў сведка».

З другога боку ў такіх апавяданнях, як «Чорт», «Выбары старшыні», «У балоце», «Сацыяліст», «Дзяльба», ужо ад самага пачатку персанажы і здарэнні афарбаваны жартаўлівым колерам.

Месцы, у якіх адбываюцца падзеі коласаўскіх апавяданняў, вызначаюцца разнароднасцю, але наогул яны звязаны з вёскай або малым мястэчкам.

Для прыкладу можна назваць сялянскую хату («Кантракт», «Выстагнаўся», «Стараста»), вясковую вуліцу («Андрэй-выбаршчык», «Выбар старшыні»). Часта выступае карчма ці будынак дзяржаўнай установы, аднак побач з гэтым падзеі могуць адбывацца і ў такіх рэдкіх у літаратуры месцах, як ложак («Злавіў») ці калодзеж («Недаступны»).

*

Перыяд, у якім узніклі першыя гумарыстычныя творы Якуба Коласа, вызначаўся такімі палітычнымі ўмовамі, у якіх літаратурны камізм быў рэдка даступнай пісьменніку формай індывідуальнай барацьбы са злом у дзяржаўным ладзе і чалавечых характарах. Для коласаўскіх гумарыстычных твораў характэрны такія рысы, як аб’ектывізм і крытыцызм, а таксама аптымізм, выкліканы верай у сэнс і перспектывы жыцця, якія не дазвалялі пісьменніку закончыць свае творы акордам безнадзейнасці і песімізму. Аб’ектывізм не перашкаджае пісьменніку быць эмацыянальна чулым на праявы, шкодныя ў грамадскім жыцці. Смех пісьменніка ніколі не выходзіць з рамак грамадскіх спраў і заўсёды датычыць істотных пытанняў сялянскага і чыноўніцкага жыцця. Ствараючы камічны вобраз, аўтар не карыстаецца гатовымі шаблонамі ці літаратурнымі ўзорамі, дзякуючы чаму яго творы характарызуюцца жыццёвым аўтэнтызмам і арыгінальнасцю. Высокую ступень камізму, падзей і персанажаў ніколі не даводзіць Якуб Колас да гратэску, а заўсёды застаецца ў рамках рэалістычнай манеры.

Характэрны прыём камізму ў яго — прасочванне сумнага праз прызму вясёлага.

Сваім камізмам пісьменнік супрацьстаўляўся смутэчы і песімізму, якія пераважалі ў беларускай паэзіі перыяду разгрому першай рускай рэвалюцыі.

Гумарыстычная і сатырычная творчасць Якуба Коласа ўзбагаціла выяўленчыя формы крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Пісьменнік унёс у нашу літаратуру но-

вый вобразы і наватарскую камічную трактоўку сялянскага і чыноўніцкага героя.

Камізм Якуба Коласа — гэта не выпадковыя, смешныя здарэнні ці падзеі, але шырокая, адэкватная ў адносінах да жыцця карціна старой Беларусі.

Творчасць нашага класіка памагае сённяшняму чытачу ўявіць і паўней зразумець побыт, звычаі і псіхіку беларуса ў мінулым. Коласаўскі камізм заўсёды праўдзівы, шчыра беларускі — балючы, смешны і супярэчлівы, як супярэчлівым бывае чалавечае жыццё.

## АБРАДЫ БЕЛАРУСАЎ, ЗВЯЗАНЫЯ З НАРАДЖЭННЕМ І ХРЫШЧЭННЕМ

Фальклорныя песні ў абрадах, звязаных з прыходам на свет дзіцяці і яго хрышчэннем, у беларусаў Беласточчыны былі да гэтага часу аб'ектам толькі спарадычных даследаванняў, якія праводзілі беларускія і польскія вучоныя. Праўда, у працы Міхала Федароўскага «Lud białoruski»*, асабліва ў тамах, у якія ўключаны песні, мы бачым шмат тэкстаў, што адносяцца да хрышчэння, аднак яны, як правіла, не перадаюць маляўнічасці і нязмушанай атмасферы, у якой урачыста адпраўляюць абрад. Бо Федароўскі ці не выключна цікавіўся песнямі, не звяртаючы ўвагі на працэс абраду, характар якога часта адзіны сродак, што дазваляе зразумець сэнс тэксту.

Я вырашыў апісаць найбольш характэрныя праявы абраду, звязанага з нараджэннем і хрышчэннем, а таксама спалучаныя з ім звычаі ды традыцыі, што маюцца ў рэгіёне, які больш за ўсё нас цікавіць.

Комплекс абрадаў, паняццяў, мерапрыемстваў і песняў, якія захаваліся на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, датычыць цяжарнасці, родаў, адведзін і хрышчэння.

Цяжарнасць кабеты і нараджэнне дзіцяці беларусы трактавалі як прыхільнасць Вышэйшых сілаў да дадзенае сям'і.

Гэта падкрэслівае выдатны знаўца народнай культуры Я. Карскі — аўтар фундаментальнай працы, прысвечанай беларускаму фальклору**. Погляды Карскага па гэтым пытанні

---

* Federowski M. Lud białoruski. Warszawa, 1958. T.V; Warszawa 1960. T. VI; Warszawa, 1981. T. VIII.

** Карский Е. Белорусы. Москва, 1916. Т. III. Ч. I.

знаходзяць пацвярджэнне ў выказваннях шматлікіх жыхароў Беласточчыны. Сярод іх — у сцверджаннях жыхаркі вёскі Лука Ганны Садоўскай, якая свае назіранні на гэтую тэму сфармулявала наступным чынам: «*Можэ быці найздаравейша жонка і найздаравейшы мужык і не вядомо як могут ваны хацеці дзяцей, але не будут іх меці, калі Бог не даст ім сваго благаславеньства. Дзеці — гэто велікі клопат, але і велікае шчасце. Калі сем'я не мае патомкоў, то значыць, што вана неміла Богу. Бывае так, што посьле многіх бездзетных лет сем'я дажджэ дзіцяці. Гэто значыт, што Бог выслухаў ее малітвоў, прабачыў ее грахі і нагрaдзіў патомком*»*.

Не толькі ў XIX стагоддзі, але і ў першай палове XX стагоддзя беларусы, якія жывуць ва ўсходняй Беласточчыне, не выкарыстоўвалі аніякіх сродкаў, што абмяжоўваюць рост папуляцыі. Іх адносіны да шматдзетнасці выяўляла папулярная прымаўка: «*Дасьць Бог дзеці*, *то дасьць і на дзеці*». Аднак здараліся выпадкі, што кабета, якая зацяжарала дзясяты ці дванаццаты раз, ад роспачы ішла да нелегальнае акушэркі-знахаркі альбо скакала з вялікай вышыні ці падымала цяжкія рэчы, хочучы зрабіць выкідыш. У некаторых мясцовасцях жыхары называюць прозвішчы мужоў, якія, даведаўшыся пра непажаданую цяжарнасць іх жонак, фізічна здзекаваліся з іх, каб выклікаць выкіданне плоду.

Парадаксальным было тое, што віну як за частыя цяжарнасці, так і за бяздзетнасць заўсёды прыпісвалі жанчыне. Бясплодную кабету пагардліва называлі «пустая». Мужу бяздзетнай кабеты вясковае асяроддзе магло дараваць найгоршыя правіны: п'янства, гультайства, здраду.

У беларускай грамадзе не толькі даўней, але таксама і сёння акружэнне негатыўна ставіцца да пазашлюбных дзяцей. Называюць іх пагардліва: *байструк, падкідыш, бахур*. Антыпатыя да дзяцей, што паходзілі ад пазашлюбных адносінаў, доўжыцца, як правіла, да іх сталасці. У несумнеўнай спрэчнасці з незычлівым стаўленнем да дзяцей, што паходзілі ад пазашлюбных адносінаў, застаецца звычай, які практыкуецца ў шматлікіх беларускіх вёсках, што, стаўшы хросным такога дзіцяці, забяспечваеш сабе поспех і шчасце. Гэтым можна вытлумачыць клопат суседзяў, каб маці бязбацькавіча папрасіла іх стаць кумамі.

---

* Ганна Садоўская, вёска Лука, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1969 г.

Падобную з’яву адзначаюць шматлікія даследчыкі польскага фальклору.

У перыяд чакання родаў галоўным для бацькоў і акружэння было пытанне, ці народзіцца хлопчык. Чаканне сына ўсталявалася ў псіхіцы беларусаў пад уплывам жыццёвай неабходнасці і знайшло адлюстраванне ў іх абрадах і традыцыях.

У шмат якіх тэкстах гэтак званых «мужчынскіх» песняў маецца пажаданне, каб жонка нарадзіла дзевяць сыноў і адну дачку:

Дай дзевяць сыночкаў
І дзясятую дочку,
Каб прала на сарочку*.

Думку пра перавагу нашчадка мужчынскага полу падзяляюць многія інфарматары, у тым ліку жанчыны. Аграмадная колькасць жыхароў усходняй Беласточчыны, падзяляючы погляд пра вышэйшасць хлопчыка над дзяўчынкаю, кіруецца практычнымі меркаваннямі. На думку інфарматараў, бацькі маюць значна менш клопату з выхаваннем хлопца, чым дзяўчынкі, а мужчына нашмат лягчэй вырашае будзённыя жыццёвыя справы. Асобныя з інфарматараў вышэйшасць мужчыны над кабетаю бачаць у духоўнай сферы. Характэрнае ў гэтых адносінах выказванне жыхаркі вёскі Медзведзі Кацярыны Мядзведзь: «*Потомок мужскі на много лепшы, чым жаноцкі. Толькі мужчыну, а не бабу людзі напраўду шанують. Мужчыны менш грэшны чым бабы. Тож святыя і ангелы толькі з мужчын, а не з бабаў выводзяцца*»**. На думку некаторых анкетаваных, сярод шматлікіх нашчадкаў апрача хлопцаў павінны быць таксама дзяўчынкі.

Тым часам большае значэнне дочкам, чым сынам, прыпісвала толькі адна асоба з вялікае колькасці апытаных. Гэта была жыхарка вёскі Скупава Марта Гарустовіч, якая ў падтрымку сваёй думкі прывяла прымаўку: «*Дзе дочак сем — там доля ўсем*».

Варта тут сказаць, што вышэй прыведзеная прымаўка паходзіць з тэксту папулярнай песні, якую цытавалі шматлікія жыхары ўсходняй Беласточчыны ў доказ сваіх высноваў, што

---

* Юлія Салавей, вёска Багнюкі, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1968 г.

** Кася Мядзведзь, вёска Медзведзі, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1970 г.

адно дзіця заўсёды нешчаслівае, бо самотнае, а ў вялікай сям'і ўсе дапамагаюць адзін аднаму ў жыцці.

Стала плакаці,
На сваю долю наракаці.
У каго дочак сем,
Там доля ўсем.
А я ў бaценькі адна.
Мне долі нема*.

Разумную думку выказаў жыхар Орлі Гжэгаж Хмялеўскі, сцвярджаючы, што ў розных сем'ях мусяць быць як сыны, так і дочкі, а то парушыцца гарманічнае развіццё грамадства.

Пераважная большасць анкетаваных лічыць, што пол нашчадкаў у кожнай сям'і вызначаецца вышэйшаю сілаю. Абсалютна пярэчыць гэтаму шырокая сістэма захадаў, якія выкарыстоўваюць муж і жонка, каб паўплываць, паводле іх меркавання, на пол дзіцяці. Але ўсе яны як падказваюць Богу іх пажаданні.

Жыхар вёскі Ардынкі Сямён Кулеша тлумачыць гэта наступным чынам: «*На свеці вельмі много людзі. Цэлым гэтым светом і людзьмі мусіт займаціся одзін Бог. Чы мае вон час думаці об усіх дзецях? І тому кажда баба павінна сама думаці об тым, як народзіці хлопца, а як дзеўчынку*»**.

Паводле меркавання жыхароў усходняй Беласточчыны, фактарамі, што вызначаюць пол дзіцяці, з'яўляюцца дні, у якія яно было зачатае, узрост бацькоў, а таксама розныя прадметы, якія спадарожнічаюць пры іх інтымным зблiжэнні.

Амаль паўсюль лічаць, што пол дзіцяці вызначае мужчынскі ці жаночы дзень тыдня. Вераць, што дзеці, зачатыя ў панядзелкі, аўторкі, чацвяргі, будуць хлопцамі, а дзеці, зачатыя ў серады, пятніцы, суботы і нядзелі, будуць дзяўчынкамі.

Найбольш баяліся зачаць дзіця ў нядзелю. Бо лічылася, што характэрнаю рысаю дзіцяці сапраўды будзе прыгажосць, але і выключная гультаяватасць. Шмат якія інфарматары лічаць, што пол нашчадка залежыць ад таго, хто з бацькоў больш паўплываў падчас інтымнага зблiжэння.

---

* Ганна Міруць, вёска Бандары, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1973 г.

** Сямён Кулеша, вёска Ардынкі, гміна Нараў, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1972 г.

Да вельмі распаўсюджаных у мінулым захадаў, якія мусілі ўплываць на тое, каб на свет прыйшло дзіця пэўнага полу, было завязванне жонкаю хусткі на галаву мужа альбо надзяванне жонцы мужавай шапкі, а таксама падпіхванне пад ложак падушкі або сенніка — прадметаў з назвамі мужчынскага або жаночага роду. Аднак у некаторых вёсках лічылася, што поспех залежыць не толькі ад мужчынскага або жаночага роду назвы прадмета, а таксама як часта выкарыстоўваюць тыя прадметы мужам або жонкай. Напрыклад, меркавалі, што падсунутая пад ложак качарга як прылада гаспадыні спрыяе нараджэнню дачкі, а падсунутая сякера, інструмент, якім карыстаецца мужчына, абумоўлівае прыход на свет сына.

Жыхар вёскі Кашэле Якуб Крупа пагардліва выказаўся пра сістэму, якая заснавана на тым, каб браць пад увагу мужчынскія або жаночыя назвы дзён тыдня. Але падаў малавядомую ў іншых мясцовасцях усходняй Беласточчыны сістэму. Заключаецца яна ў тым, каб дзяліць на сем асобна гады мужчыны і асобна гады жонкі, потым параўнаць астаткі. Калі астатак пры дзяленні будзе большы ў мужа, дык народзіцца сын, калі ў жонкі — народзіцца дачка. Напрыклад, калі муж мае 33 гады і мы падзелім іх на 7, дык апроч кратнасці 4, атрымаем рэшту 5. Жонка мае 29 гадоў. Выканаўшы тое самае дзеянне, атрымаем астатак 1. Такім чынам, дзіця, зачатае ў такой узроставай сітуацыі бацькоў, будзе хлопцам. На думку Крупы, шмат вядомых яму сем’яў выкарыстоўвала гэтую сістэму з добрым вынікам; яны атрымалі жаданы пол сваіх дзяцей.

Сярод некалькіх сотняў анкетаваных па гэтым пытанні, ледзьве некалькі асобаў адказала, што не выкарыстоўвалі ў сваім жыцці ніякіх сістэмаў, бо не верылі ім. Адным з іх быў жыхар вёскі Махнатэ Павел Давідзюк, які сцвердзіў: «*Ніхто нічого нэ ведае і нічого у гэтой справе нэ можэ зробіті*»*. Таксама жыхар Орлі Павел Рыбарчык лічыў, што «*Гэту справу можэ рушыті толькі медыцына, а нэ забобоны*»**.

Наступны комплекс народных звычаяў, звязаных з нараджэннем, ахоплівае шэраг рэкамендацый, забаронаў і перасцярогаў, якіх павінна прытрымлівацца цяжарная кабета. Яны свайго роду кодэкс, які акрэслівае паводзіны цяжарнае.

---

* Павел Давідзюк, вёска Махнатэ, гміна Гайнаўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1974 г.

** Павел Рыбарчык, пас. Орля, гміна Орля, рэгіён Бельскі. Запісана ў 1971 г.

У разуменні беларусаў, цяжарная жанчына, а таксама яе плод, асабліва моцна залежаць ад уздзеяння вонкавых фактараў, якія могуць уяўляць і сур'ёзную небяспеку. Са свайго боку цяжарная, як асоба, надзеленая невядомаю сілаю, мае таксама здольнасць уздзейнічаць на атачэнне. Таму блізкія шануюць і паважаюць яе.

Існуе перакананне, што вывіхнуты палец, рука або нага, пацягнутыя цяжарнаю, будуць выпраўленыя.

У шматлікіх мясцовасцях старыя кабеты прыводзяць прыклады пакаранняў за незычлівае стаўленне да цяжарнае. Кажуць, напрыклад, пра спаленыя перуном стадолы альбо неўраджай у тых гаспадароў, якія адмовілі цяжарнай пазычыць збожжа. Амаль ва ўсіх мясцовасцях верылі, што розныя з'явы могуць выклікаць пэўны ўплыў на выгляд, характар, рысы асабовасці і здольнасці дзіцяці. Дык быў вызначаны доўгі рэестр учынкаў, фактаў, з'яў, якіх цяжарная павінна засцерагацца, каб аберагчы сваё дзіця ад непажаданага ўздзеяння. Абмяжуемся тут найбольш распаўсюджанымі рэкамендацыямі і забаронамі:

не належыць глядзець на нябожчыка, бо тады дзіця мала пражыве або народзіцца мёртвае,

калі цяжарная апынецца ў сітуацыі, што будзе вымушаная глянуць на памерлага, дык мусіць спачатку глянуць на ўласныя пазногці, а толькі потым на нябожчыка,

нельга глядзець на пажар, бо дзіця будзе рудым. Ні ў якім выпадку нельга падчас пажару схапіцца рукою за якую-небудзь частку цела, бо ў тым месцы ў дзіцяці з'явяцца чырвоныя плямы, што называюцца ў шматлікіх мясцовасцях вогнікамі,

не належыць падглядваць у шчыліну, дзірку для ключа ды іншыя адтуліны, бо дзіця будзе касавокім,

трэба пазбягаць праходзіць пад або над вяроўкамі, лейцамі, ланцугамі, шнурамі, а таксама насіць каралі, бо дзіця народзіцца з пупавінаю, акручанаю вакол шыі, альбо выйдзе з лона не галавою, а нагамі,

нельга станавіцца адною нагою на парозе, бо дзіця будзе кульгавае,

цяжарная не можа быць хроснаю маці, бо яе дзіця народзіцца мёртвым,

нельга глядзець на людзей з брыдкім тварам, бо гэта можа ўплываць на выгляд дзіцяці,

нельга цяжарнай абліваецца вадою, бо дзіця будзе мець на целе белыя плямы,

не трэба выліваць ваду з вядра ў студню, бо ў дзіцяці з'явіцца схільнасць да ванітавання. У некаторых вёсках існуе забабон,

што выліванне вады ў студню выкліча ў дзіцяці доўгатэрміновыя праблемы з кантраляваннем фізіялагічных працэсаў,

нельга цяжарнай насіць што-небудзь у падоле, бо дзіця жаночага полу будзе мець звычку пастаянна задзіраць сукенку,

не належыць насіць у падоле збожжа ці які-кольвек іншы корм курам, бо дзіця будзе мець цела пакрытае струпамі або будзе рабое,

цяжарная не мае права паказваць гэтак званай дулі, бо дзіця будзе мець пакручаныя пальцы,

нельга павышаць голас, бо дзіця будзе вельмі крыклівае,

цяжарная не можа хлусіць, ленавацца, ашукваць, красці, бо ўсе гэтыя заганы пяройдуць на дзіця,

у цяжарную нельга чым-небудзь кінуць, бо дзіця будзе мець на целе плямы.

Забараняецца цяжарнай:

зашываць або прышываць на сабе што-небудзь, бо гэта можа выклікаць ускладненне родаў,

выконваць рухі абедзвюма рукамі адначасова, бо прыйдуць на свет блізняты,

праходзіць па засеяным полі, бо гэта можа выклікаць неўраджай,

апранаць да шлюбу маладую, бо такім чынам спрычыніцца да ўзнікнення цяжкасцяў у яе жыцці,

пачынаць жніво, бо з-за гэтага яно стане для ўсёй вёскі вельмі цяжкім,

хрысціць дзіця, бо яго лёс быў бы вельмі пакручасты,

насіць у падоле кацянят, бо дзіця будзе сляпое,

глядзець на суку ў час цечкі, бо нованароджаны мужчынскага полу меў бы жаночыя грудзі,

капрызіць, гневацца, дуцца, бо дзіця было б маўклівае або нямое.

Апроч таго, цяжарная кабета не павінна:

каштаваць з гаршка зваранай ёю стравы, бо гэта выклікала б у дзіцяці ненаеднасць,

пудрыць твар, бо дзіця было б бледнае, як нябожчык,

глядзець на качкі, якія купаюцца ў пяску, бо дзіця тады перавальвалася б пры хадзе, як качка,

аблізваць таўкач, бо дзіця нарадзілася б без валасоў,

атрэсваць яблыкі, грушы і слівы, бо калі плод упадзе на яе цела, дык у дзіцяці вырасце на тым месцы гуз, па велічыні такі самы, як плод, што ўпаў,

часта звяртацца да чужых з просьбамі, бо дзіця стала б жабраком,

нахіляцца, ідучы пад жэрдкамі, бо дзіця будзе гарбатае.

Некаторыя з тых забабонаў быццам бы паўтараюць падобныя, якія ёсць у Польшчы, а таксама ў іншых краінах. Усе гэтыя забабоны сфармаваліся, пэўна, у старажытнасці. Здзіўляе, аднак, тое, што з'явіліся і новыя, выкліканыя праявамі сучаснага жыцця, напрыклад, звязаныя з тэлебачаннем. У шматлікіх вёсках старыя кабеты стараюцца перашкодзіць сваім цяжарным дочкам і нявесткам глядзець тэлевізар, таму што гэта, на іх думку, выклікае, што дзіця:

будзе мець вялікую, але пустую галаву,
будзе падоўгу, але без сэнсу гаварыць,
будзе чортам лезці людзям у вочы.

Амаль ва ўсіх беларускіх вёсках існаваў забабон, што хто адмаўляе цяжарнай у дапамозе, мышы пагрызуць розныя рэчы ў гаспадарцы.

Цікава, што ў доўгім спісе рэкамендацый і забаронаў нічога не гаворыцца адносна фізічных заняткаў цяжарнае. Амаль усе анкетаваныя лічаць, што цяжкая праца не толькі не шкодзіць, а, наадварот, спрыяе цяжарнай і яе дзіцяці. З гэтай прычыны амаль кожная кабета на вёсцы да моманту родаў не пераставала займацца гаспадаркаю. Шмат кабет сцвярджала, што, чакаючы чацвёртае ці пятае дзіця, мелі вялікі вопыт і ведалі, калі будуць роды, а гэта дазваляла ў адпаведны момант пакінуць дом і пайсці ў пуню або ў стадолу, каб там нарадзіць на саломе ці сене і такім чынам не забрудзіць пасцелі. Нарадзіўшы, вярталіся ў хату, несучы немаўля ў фартуху. Нярэдка здаралася, што роды адбываліся ў полі ці на лузе. У прынцыпе, аднак, кабету ў час родаў імкнуліся прывезці ці прывесці ў хату. Клалі яе на ложку або на падлозе ці печы.

У мінулым ніколі не было звычаю выклікаць лекара да сялянкі, якая нараджае, ці везці яе ў шпіталь. Нават калі роды былі вельмі складанымі, адзінаю асобаю, якая дапамагала цяжарнай, была бабка — старая кабета, што абслугоўвала адну або некалькі ваколічных вёсак. Асабліваю славаю карысталіся ў нас дзве бабкі — жыхарка вёскі Крывятычы Хвядора Бобік, 98 гадоў, і жыхарка вёскі Падбеле Еўдакія Нэйман, 104 гады. Абедзве прынялі па некалькі тысяч дзяцей і з гонарам казалі, што не карысталіся нічыёй дапамогаю. Е.Нэйман заявіла, што *«дзеці прымала толькі я і Бог, больш ніхто не быў патрэбны»**.

---

* Еўдакія Нэйман, вёска Падбеле, гміна Бельск Падляшскі. Запісана ў 1978 г.

Бабка звычайна не карысталася лекамі і інструментамі. Аднак выкарыстоўвала шэраг прыёмаў, якія павінны былі аблегчыць і прыспешыць роды. Але толькі асобныя прыёмы мелі рацыянальны характар. Большасць была са сферы магіі.

Да найбольш распаўсюджаных прыёмаў варта залічыць наступныя:

цяжарную кабету мылі і адзявалі ў чыстую бялізну. Чыстую вопратку надзяваў таксама яе муж,

цяжарную садзілі на нейкую ёмкасць, напоўненую гарачаю вадою. Пасля яна мусіла тройчы прапаўзці на каленях вакол стала,

у выпадку складанасцяў, ногі цяжарнай звязвалі ручніком і ўзнімалі, падвязваючы да бэлькі,

у хаце адчынялі ўсе скрынкі, замкі, камоды, дзверы, распускалі косы, расшпільвалі гузікі, развівалі клубкі, адчынялі дзверы ў гаспадарчых будынках,

над галавою цяжарнай трымалі запаленую свечку,

давалі парадзісе пустую бутэльку і загадвалі дзьмуць у рыльца або ў дно,

у выпадку выключных складанасцяў ішлі да пробашча з просьбаю адчыніць у царкве царскія вароты, а таксама пазычыць епітрахіль, якою перавівалі цяжарную.

Пералічаныя захады прымяняліся амаль на ўсім беларускім абшары ўсходняй Беласточчыны. Апроч таго, у многіх вёсках прымяняліся мясцовыя захады, якія былі зусім невядомыя або малавядомыя ў іншых рэгіёнах.

Напрыклад, у Вялікіх Тынявічах аж да моманту нараджэння дзіцяці ў доме парадзіхі затрымлівалі кожнага выпадковага госця.

У вёсцы Плутычы неспадзяваных гасцей выпускалі з дому, але яны павінныя былі пакінуць нейкі сімвалічны падарунак, пераважна гэта было нешта з вопраткі. Гэты звычай знайшоў адлюстраванне ў выразе: «*Бабка здзерла з галавы шапку»*.

У вёсцы Чэхі Арлянскія кабеце падчас родаў абавязкова трэба было зняць з пальца шлюбны пярсцёнак.

У Гарадку пры складаных родах пераразалі ў платах перавясла.

У вёсцы Лука напаўнялі вадою ўсю пасуду, што была ў хаце, і давалі цяжарнай жаваць спарыш.

У вёсцы Тымянка бабка давала цяжарнай ручнік і загадвала ёй моцна яго нацягваць.

Я. Карскі апісвае тэатралізаваны звычай, які часам назіраецца ў розных раёнах Беларусі. Ён заключаўся ў тым, што муж парадзіхі, якая нараджае ў пакутах, клаўся таксама ў ложак, скручваўся і енчыў так доўга, пакуль не нараджалася дзіця. Такі мужчына як бы браў на сябе частку болю, які выклікалі роды.

Сёння ў аніводнай з беластоцкіх вёсак я не сустрэў такога звычаю.

Але ў шмат якіх мясцовасцях казалі, што раней былі бабкі-павітухі, якія ўмелі зрабіць так, каб родавыя болі і цярпенні адчуваў замест кабеты яе муж, калі выказваў незадавальненне, што яго жонка цяжарная. Болі мучылі мужа да таго часу, пакуль шчыра не адмаўляўся ад сваіх нараканняў.

У Вітове пасля нараджэння дзіцяці бабка выходзіла на парог хаты з запаленаю свечкаю ў руках, каб такім чынам паведаміць Богу пра нараджэнне новага чалавека на зямлі. Гэтыя дзеянні выконвалі дзеля таго, каб Бог мог запаліць на небе новую зорку.

У хвіліну нараджэння дзіця прымала бабка. Усе дарослыя сямейнікі ў той час выказвалі зацікаўленасць, ці дзіця нарадзілася ў чэпчыку. Гэта від абалонкі, якая пакрывае галаву нованароджанага. «Шапачку» знімала бабка і ўпотайкі хавала. Адным з першых дзеянняў бабкі было перавязванне пупка высвечанаю пасмачкаю кудзелі.

Адрэзаны кавалачак пупавіны бабка завязвала ў вузялок і хавала разам з шапачкай. Пупавіну клапатліва захоўвалі, пакуль дзіця не ішло першы раз у школу. У гэты дзень давалі яму пупавіну і загадвалі развязаць вузялок. Верылі, што гэта будзе гарантаваць дзіцяці добрыя вынікі ў навуцы, асабліва лёгкае рашэнне арыфметычных задач. А шапачку, як правіла, захоўвалі ажно да ўступлення ў шлюб. Толькі тады давалі як амулет, які будзе забяспечваць сямейнае шчасце.

У некаторых вёсках, размешчаных у гміне Нараў, існаваў арыгінальны звычай закапвання перад парогам або за парогам хаты дабытага з лона маці паследу. У сенцах адрывалі ў падлозе дошкі і закопвалі послед перад парогам. Рабілі гэта тады, калі нарадзіўся сын. Гэты прыём павінен быў спрыяць моцнай сувязі будучага гаспадара з домам. Паслед закапвалі за парогам тады, калі на свет з’яўлялася дачка. Гэта мела гарантаваць, што яна выйдзе замуж. Прыведзеныя захады значна адрозніваюцца ад тых, якія прымяняюцца ў аналагічных выпадках у суседніх краінах, а таксама ў іншых рэгіёнах Беларусі.

«На Гуцульшчыне гаспадар закопвае паслед так, каб яго ніхто не мог пераступіць — відавочна тут назіраецца страх, што хто

пераступіць праз яго, гэта можа прывесці да кепскіх вынікаў. На Украіне кідаюць паслед у бягучую ваду, каб гэта прынесла шчасце нованароджанаму. У Ласінцы бабкі альбо чараўніцы са злымі намерамі закопваюць паслед у хляве, дзе трымаюць свіней, каб гэтым наклікаць нядобры лёс нованароджанаму. Раней, відаць, верылі, што закопванне паследу ў хляве шкодзіць свінням, якія забруджваюцца, калі сутыкаюцца з прадметам par excellance нячыстым. На Беларусі (паветы Лепельскі і Барысаўскі) паслед належыць закапаць, але абавязкова пад дахам, а значыць у падпечку, у стадоле і г.д. У Крапузыне (павет Мінскі) паслед, старанна закручаны ў палатно, павінен быць закапаны ў куце хаты»*.

Пасля таго, як прыме дзіця, зніме з галавы чапец і завяжа пупавіну, бабка пачынала купаць дзіця ў так званых «капаньках» — ці начоўках, выдзеўбаных са ствала ліпы. У ваду, у якой купалі нованароджанага, абавязкова кідалі зерне і манеты. Зерне сімвалізавала добрае здароўе дзіцяці і высокія ўраджаі ў яго будучай гаспадарцы, а манеты — заможнасць.

У вёсцы Махнатэ ўкінутае ў ваду зерне павінна было забяспечыць дзіцяці чыстую і гладкую скуру, а таксама добрае здароўе. Кідаючы зерне, бабка прамаўляла: «Будзь гладкі і здаровы, як зярно».

У некаторых вёсках бабка ўлівала ў рот нованароджанага некалькі кропляў свянцонай вады. Вада, як таксама і знак крыжа, выкананы рукою бабкі альбо ручкаю немаўляці, а таксама прамоўленая формула: «Даю табе імя…» былі формаю першапачатковага хрышчэння. Дзіця пасля гэтае цырымоніі ў выпадку смерці заслугоўвала на пахаванне ў адпаведнасці з хрысціянскім рытуалам. А дзяцей, якім не давалі першапачатковага хрышчэння, хавалі за абшарам могілак без святара.

У вёсцы Крывая, а таксама ў некалькіх іншых мясцовасцях, мяркуюць, што без такога абраду дзіця ў выпадку смерці будзе ў небе сляпым анёлкам.

Пасля купання бабка апранала нованароджанаму тую самую кашульку, у якую апраналі ўсіх папярэдніх сысункоў у гэтай сям'і. Гэта павінна было забяспечыць жыццё ў згодзе для ўсіх братоў і сясцёр. У шмат якіх вёсках выкупанае дзіця, калі гэта была дзяўчынка, апраналі ў мужчынскія кальсоны, а калі хлопец — у жаночую спадніцу. Гэта рабілі для таго, каб як дзеці

* Bystroń J. S. Słowiańskie obrzędy rodzinne. Kraków, 1916. S. 59.

вырастуць, яны мелі поспех: дзяўчына ў кавалераў, а хлопец сярод дзяўчат.

Розныя варыянты гэтага звычаю на свеце падае Х.Бегэляйсэн:

«Пры нараджэнні дзіцяці ў польскага народа захаваўся звычай, што парадзіхі надзяваюць на галаву шапку або мужчынскі капялюш. У некаторых мясцінах Польшчы падкладаюць пад падушку новanароджанаму — калі гэта дзяўчынка — штаны (хлопцу ж спадніцу), а прычыну тлумачаць, што калі дзіця вырасце, каб кахалі хлопцы (альбо дзяўчаты). Гэты звычай пераапранання вядомы і іншым еўрапейскім народам. У Шатландыі апранаюць на новаароджаную дзяўчынку мужчынскую вопратку і наадварот, з тою мэтаю, каб зазналі прыемнасць сужонства. На востраве Ругіі мужчынскую вопратку кладуць на ложку парадзіхі, каб аберагчы яе ад злых вынікаў родаў. Аналагічныя звычаі існуюць у Кітаі, дзе пасля нараджэння дзіцяці бацькавы штаны вешаюць на ложку парадзіхі, а на выспах Ватабэла падчас цяжкіх родаў парадзісе падкладаюць мужчынскую вопратку. Гэты самы звычай шырока распаўсюджаны на польскіх землях як у палякаў, так і ў русінаў, і ён стасуецца таксама і да вяселля»*.

У Беларусі звычайна прытрымліваюцца пэўных правілаў падчас гадавання дзіцяці. Напрыклад, у вёсцы Відава сурова забараняецца апранаць альбо пераварочваць новаароджанага на стале, бо такое дзіця, як стане поўнагадовым, будзе п’яніцам.

У некаторых мясцовасцях ваду, у якой купалі дзіця, вылівалі пад дрэвы, што раслі на падворку. Верылі, што мужчынскі род назвы дрэва спрычыніцца ў будучыні нараджэнню ў дадзенай сям’і хлопца, а жаночы — дзяўчынкі. Пазбягалі выліваць ваду пасля купання дзіцяці ў адкрытых месцах, дзе не было ценю, як таксама і тую, у якой мылі пялюшкі, бо лічылі, што пад уплывам месячнага святла дзіця будзе лунацікам.

З першых гадзін жыцця спавівалі новаароджанага з галавы да ног доўгім шматмятровым кавалкам палатна. Лічылася, што гэта прадухіляе скрыўленне, драпанне дзіцяці. Гэтак рабілі некалькі месяцаў, што мела адмоўныя вынікі для здароўя дзіцяці, асабліва падчас гарачыні або ў выпадку, калі пад палатно траплялі скочкі.

У шматлікіх бельскіх вёсках у падушкі новаароджаным клалі па жмені бярозавага лісця, мяты, кветак рамонку, парасткі зуброўкі, а ў куце хаты паблізу калыскі ставілі галіны хвоі і елкі.

---

* Biegeleisen H. U kolebki. Przed ołtarzem. Nad mogiłą. Lwów, 1929. S. 54–55.

Робячы гэта, бралі пад увагу не толькі прыемны пах і карысць для здароўя, але таксама каб дзіця «*прывыкала да прыроды*».

Пасля нараджэння дзіцяці бабка абносіла яго па хаце, паказвала ўсім сямейнікам і заклікала, каб палюбілі новага члена сям'і. У асобных вёсках з гэтага моманту сямейнікі называлі немаўля па імені, а ў іншых забаранялася ўжываць імя ажно да хрышчэння дзіцяці ў царкве.

У вёсцы Крывятычы бабка выціскала з грудзей маці некалькі кропель малака і давала яго кожнаму з сямейнікаў. Гэта мела забяспечыць узаемнае разуменне і любоў.

Паказаўшы нованароджанага ўсёй сям'і, бабка аддавала яго маці. Калі маці была першародкаю, дык бабка папярэджвала яе, што спачатку мусіць карміць дзіця праваю цыцкаю. Кармленне ж дзіцяці з левай цыцкі выкліча ў яго леварукасць. Гэтых жа поглядаў прытрымліваліся таксама, калі выносілі дзіця хрысціць. Пераступала парог хаты бабка заўсёды праваю нагою, але ні ў якім разе не леваю.

Паўсюль лічылася, што найлепшым харчаваннем для дзіцяці з'яўляецца матчына малако, і таму кармілі грудзямі вельмі доўга, нават да трох і больш гадоў, калі дзіця ўжо гаварыла.

Васьмідзесяцігадовая жыхарка вёскі Галоды Зінаіда Багінская ўспамінае, што яе сын, маючы амаль тры гады, заўсёды вітаў яе завучанаю фразаю: «*Слава Богу, мама ідут і цыцкі дадут*»*.

Сур'ёзнаю праблемаю асабліва ў маладых маці была нястача малака. У такіх выпадках не шукалі дапамогі лекараў, а звярталіся часцей за ўсё да магіі.

Жыхарка вёскі Маліннікі Ганна Кулік прызналася, што пасля нараджэння дзіцяці зусім не мела ў грудзях малака. Папрасіла тады жабрака, каб даў крошак з ягонае торбы. Калі з'ела іх, грудзі напоўніліся малаком.

У вёсцы Вялікія Туневічы маці, не маючы малака, накіроўваліся па ваду з трох крыніц. У гэтай вадзе размочвалі цеста, саскрэбенае з трох дзежак, пасля чаго фармавалі аладку, якую пяклі і з'ядалі.

Ад шматлікіх хваробаў, немачаў, кволасці намагаліся пазбавіцца пры дапамозе наступнага:

акурвалі дзіця дымам спаленых свянцоных зёлак,

выціралі яго цела кашуляю таго з бацькоў, хто быў старэйшы,

тры разы працягвалі дзіця праз хамут,

* Зінаіда Багінская, вёска Галоды, гміна Бельск Падляшскі. Запісана ў 1978 г.

хукалі на дзіця, пачынаючы з ног да галавы, і імітавалі, што тройчы сплёўваюць,

выціралі дзіця спадніцаю альбо кальсонамі і тройчы пераносілі праз парог,

тройчы паўтаралі над дзіцём: «*Згінь, маро, прападзі*»,

дзіця, спалоханае сабакам, лячылі акурваннем яго спаленай поўсцю гэтага сабакі,

калі дзіця доўга не пачынала хадзіць, яго звязвалі выпадкова знойдзенымі путамі, ставілі на парог і разрэзвалі путы нажом,

дзіця, якое моцна плакала, у некаторых вёсках зачынялі на некалькі хвілін у куфры або клалі пад карыта, праз якое гналі парасят, альбо капалі пад мяжою пералаз, праз які перацягвалі дзіця, а таксама здаралася, што маці «*ссалі*» тройчы вочы дзіцяці і сплёўвалі за кожным разам направа і налева,

чырвоных плямаў спрабавалі пазбавіцца, паціраючы іх пярсцёнкам, знятым з пальца парадзіхі, альбо прыкладаючы кавалак паследу, што выйшаў з лона кабеты.

Кожная нянька імкнулася пазбягаць тых дзеянняў, якія, у перакананні вяскоўцаў, шкодзілі дзіцяці:

да году нельга было стрыгчы валасоў, бо дзіця мела б цяжкасці з маўленнем,

не калыхалі пустой калыскі, бо дзіця пакутавала б без сну,

не зашывалі і не прышывалі чаго-небудзь да вопраткі, якая была на дзіцяці, бо такім чынам зашылі б яму памяць,

баяліся пераступаць праз дзіця, бо гэта стрымала б яго рост,

перад хрышчэннем немаўляці яго бацькі нікому нічога не пазычалі, бо дзіця ў будучыні ўсё вынесла б з хаты,

да года не абразалі пазногцяў, але іх абгрызалі. Верылі, што абразанне пазногцяў немаўляці пагражае скрыўленнем пальцаў.

Амаль усюды на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны існавала ўяўленне, вельмі паэтычнае, што адначасова з прыходам на свет нованароджанага з’яўляецца на небе яго зорка. Перакананне, якое ўкаранілася ў свядомасці беларусаў з усходняй Беласточчыны, знаходзіць пацвярджэнне ў К.Машынскага, які піша: «Перакананне, што лёс людзей вельмі шчыльна звязаны з лёсам зорак, падзяляюць усе славяне, а таксама шматлікія старажытныя і сучасныя народы на ўсходзе і на захадзе Славяншчыны. Як сцвярджаюць славацкія сяляне (а таксама іх усходнія і заходнія суседзі), кожны чалавек мае сваю зорку на небе»*.

---

* Moszyński K. Kultura ludowa słowian. Warszawa, 1967. T. II. Cz. 1. S. 463.

Факт супольнасці лёсу чалавека з зоркаю, якая свеціць яму, у свядомасці беларусаў з Беласточчыны мае прамое і пераноснае значэнне. У прамым значэнні выступае, дзякуючы веры ў тое, што зорка запальваецца на небе адначасова з нараджэннем чалавека. А пераноснае значэнне выяўляецца ў трактаванні зоркі як сімвалу чалавечага лёсу. Зрэшты, інфарматары не прытрымліваюцца аднае думкі і дакладнасці ў гэтым пытанні. Адны сцвярджаюць, што кожны чалавек мае ўласную зорку на небе, а іншыя мяркуюць, што зоркі існуюць на небе спрадвеку і не запальваюцца, калі нараджаецца чалавек. Адны зоркі спрыяюць чалавеку, а іншыя — не. Чалавек, прыходзячы на свет, не выклікае гэтым запальвання новай зоркі, а толькі нараджаецца пад ужо існуючай шчаслівай або нешчаслівай зоркай.

Асобныя беларусы, якія жывуць у вёсках Беласточчыны, выкарыстоўваюць такія паняцці, як «народжаны пад зоркаю» і «народжаны пад планетаю».

Большасць анкетаваных атаясамлівае гэтыя два паняцці — зорка і планета. Здараюцца, аднак, выпадкі, калі гэтыя паняцці трактуюцца па-рознаму. Жыхар вёскі Семяноўка Юзаф Буйко выказаў свой погляд на гэту тэму ў паэтычнай форме: «*Звезда гэто мертвы распалены прадмет. Факел Божы. Загараецца вон з Божае волі тады, як народзіцца дзіця на землі. Людзей на землі Бог ніколі не палічыў бы, бо ваны ж усё бегают, чорт ведае чаго, а зоркі ему палічыць лёгко. Палічыт і ведае адразу, колькі ў его народу. Калі замного, то пашле або вайну, або заразу. Тады зоркі сыплюцца цэлымі роямі, гаснут, бо ўмірают людзі. Гледзячы на падаючы зоркі, чалавек павінен помніць, што вон не вечны на землі. Помніць і жыць па-чалавечы, а не, не тут гаворачы, па-сьвінячы*»*.

Планета ж, на думку Ю. Буйко, не з'яўляецца прадметам і зусім не мае бляску. Планета так, як і душа, не мае формы, ні акрэсленага месцазнаходжання. Як душа знаходзіцца ў чалавечым целе невядома ў якім месцы, гэтак і планета кружыць недзе ў сусвеце. Планета — гэта людскі лёс, якога чалавек ніколі не зразумее і не спазнае, а лёс дасканала ведае месцазнаходжанне чалавека, бо нязменна яму спадарожнічае.

Варта падкрэсліць, што гэтакае супрацьпастаўленне паняццяў зорка і планета вельмі рэдкае. Часцей за ўсё жыхары ўсходняй Беласточчыны атаясамліваюць гэтыя два паняцці.

---

* Юзаф Буйко, вёска Семяноўка, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1957 г.

Асацыяцыі зорак з жывымі людзьмі вельмі характэрны для старых жанчын. Асобныя з іх з глыбокім перакананнем сцвярджаюць, што «голым вокам» бачаць: сёння зорак нашмат больш, чым было ў вайну і ў першыя пасляваенныя гады, гэта для іх раўназначна павелічэнню колькасці людзей на зямлі.

Апрача перакананая, што зорка нязменна спадарожнічае чалавеку ў жыцці і знікае адначасна з яго смерцю, у беларусаў існуе вера ў блуклівыя зоркі. Гэта зорка дзіцяці, якое памерла перад хрышчэннем. У шматлікіх вёсках існуе звычай, які рэкамендуе кожнай асобе, што заўважыць блуклівую зорку, закрычаць: «*Калі ты дзяўчынка, дык Ева, калі ты хлопец, дык Адам».* Прамаўленне гэтай формулы раўназначна хрышчэнню памерлага дзіцяці, пасля гэтага блуклівая зорка гасне назаўсёды.

Мы ўжо казалі, што з зоркамі ці планетамі беларусы спалучаюць веру ў шчаслівы і нешчаслівы людскі лёс. У трактаванні гэтага назіраецца шмат супярэчнасцяў і непаслядоўнасці. З аднаго боку, жыве перакананне, што лёс чалавека не можа фармавацца ні ім самім, ні яго атачэннем, але, з другога боку, робяцца самыя розныя дзеянні, якія павінны паўплываць на ход жыцця нованароджанага.

На ўсходняй Беласточчыне ўсюды лічыцца, што не кожная пара году і дня, надвор'е, а таксама месца нараджэння аднолькава шчаслівыя для нованароджанага. Да шчаслівых дзён залічаюць суботу, гадавыя святы, месяцы красавік і май, апроч таго, раніцу і зорную ноч. Дзеці, народжаныя на маладзіку, вельмі хутка растуць. Нованароджаныя ў нядзелю прыгожыя і акуратныя, але гультаяватыя.

Найбольш нешчаслівымі днямі тыдня лічацца панядзелак і серада. Гэты забабон адлюстраваны ў папулярнай песні:

Я ў сераду нарадзілася,
Гора і нядоля,
Кажа маці валы гнаці
На чужое поле*.

А гумарыстычны варыянт гэтай песні кажа пра няўдачлівасць асоб, народжаных у панядзелак:

У панідзелак радзілася,
Гора, маё гора,

* Зінаіда Боўтрык, вёска Боўтрыкі, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1975 г.

За старога я пайду,
Барадой заколе*.

Неспрыяльнымі для нованароджаных таксама лічыліся поры года — восень і зіма, апрача таго, ноч, пахмурны дзень, а таксама лес і поле.

Забабоны, што жывуць сярод беларусаў і тычацца шчаслівых і нешчаслівых дзён, назіраюцца ў шматлікіх еўрапейскіх народаў, і наогул інтэрпрэтацыя гэтай праблемы падобная. Такія вывады мы назіраем у Р. Андрэ**.

Апроч вышэйпералічаных фактараў, якія ўплываюць на лёс нованароджанага і маюць дакладна акрэслены характар, у свядомасці беларусаў існуе невыразнае паняцце «ліхой гадзіны». Яно не мае ні часавага, ні прасторавага вымярэння. Інфарматары не звязваюць яго з якімі-небудзь канкрэтнымі з'явамі. «Нешчаслівая гадзіна» — гэта паняцце, раўназначнае з лёсам, а можа быць fatum, наканаванне, якое ўплывае на ход чалавечага жыцця.

Матыў наракання на «нешчаслівую гадзіну» асабліва праяўляецца ў песнях сірот, удоў і салдатак.

Шырока распаўсюджаная песня:

У нешчасну гадзіну
Маці парадзіла,
Буду гараваці
Да самай магілы***.

Насуперак агульнаму перакананню, што лёс кожнага чалавека прадвызначаны, што акрэслены характар, выгляд і нават рост нованароджанага, маці выкарыстоўвалі самыя розныя рацыянальныя і магічныя прыёмы, якія павінныя былі ўплываць на духоўнае і фізічнае развіццё немаўляці.

Старыя беларусы падаюць шэраг спосабаў, што забяспечваюць хуткі рост нованароджаных, добры іх сон і стан здароўя. У шматлікіх мясцовасцях, каб дасягнуць хуткага росту дзяцей, давалі ім распушчаныя ў вадзе дрожджы. У асобных сем'ях дзеля гэтага штодзённа лёгка пацягвалі дзяцей за ножкі і галоўку.

---

* Люба Янюк, вёска Бандары, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1976 г.

** Andree R. Ethalographische Paralelen u. Vergleiche. Stuttgart, 1878.

*** НаталляМіруць, вёска Бендзюга, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1978 г.

Жыхарка вёскі Пашкоўшчына Марыя Галёнка парэкамендавала рацыянальна-містычны спосаб. Паводле яе, хуткі рост дзіцяці забяспечваюць вітаміны і малітвы.

Жыхары вёскі Скупава мяркуюць, што росту спрыяе частае вымярэнне дзіцяці пядзяю, шнурком ці сантыметрам.

У шматлікіх беларускіх вёсках існуе перакананне, што дзіця расце толькі падчас сну.

Дзецям, якія кепска спяць, часцей за ўсё давалі адвар з макавін, не ведаючы, што яны ўтрымліваюць опіум.

У выпадку, калі дзіця засынала з цяжкасцю альбо часта плакала, як правіла, звярталіся да магіі. Бо лічылі, што гэтае дзіця ўраклі. Напрыклад, ужо згаданая жыхарка Скупава Марта Гарустовіч апавядае, што дзіця, якое ўраклі, клалі ў скрыню, замыкалі і тройчы прамаўлялі малітву.

Урокі адганяла чырвоная стужачка, якую вешалі на шыю. Гэты звычай сустракаецца ў многіх народаў свету. Вельмі часта ў кашулі ці коўдры зашывалі шчопаць солі і галінку з мятлы. Гэты прыём суправаджаўся слоўнаю формулаю: «*Соль табе ў очы і дзеркач у зубы*», якую вельмі часта прамаўлялі маці, калі лічылі, што на дзіця зірнулі кепскія вочы.

У некаторых вёсках, апрача солі і галінкі мятлы, на каптанік дзіцяці прышпільвалі каляровую брошку і ўшывалі воўчы зуб. Лічылася, што позірк кепскіх вачэй затрымаецца на брошцы і не трапіць на дзіця, а воўчы зуб знішчыць усялякае ліха.

У шмат якіх мясцовасцях дзіця, якое ўраклі, тройчы прасоўвалі праз хамут ці праз шлюбную сукенку.

Але часта проста казалі малітвы. Аднак малітвы, як правіла, толькі часткова адпавядалі тэкстам, узятым з набожных кніг ці завучаным у парафіяльных школах. Часцей за ўсё гэта былі фрагменты малітваў з вольнаю апакрыфічнаю імправізацыяй. Прыкладам можа быць тэкст, запісаны ў вёсцы Чэхі Арлянскія:

Ішла Матка Боска чэрэз лес,
Спаткаў ее сам Пан Езус,
— Гдзе ідзеш, Матко наймілейша?
Вона ему одповядала:
— Іду до Вані трыдцэть урокі одмовляті
— Ідзь, моя Матко, одмовляй, помогай
Чэрэз духа сьвентэго Сына Божэго.
Амін*.

* Анна Самосюк, вёска Чэхі Арлянскія, гміна Дубічы Царкоўныя, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1976 г.

А яшчэ былі закляцці, пазбаўленыя ўсялякай сувязі з малітвамі. Яны выступалі ў першасных формах з прыкметамі паганскіх часоў. Старэйшыя жыхары ўсходняй Беласточчыны раўніва аберагаюць гэтыя тэксты і толькі ў выключных сітуацыях знаёмяць з імі чужых. Ад жыхаркі вёскі Бандары Альжбеты Буры мне ўдалося атрымаць і запісаць адно з такіх закляццяў:

Адракайцесе ўрокі жаноцкі,
Дзіцячы, зверыны, птушыны
Ад белае касці, ад чырвонае крыві.
Ест на сьвеці трох сьвядкоў:
На небі месяц, у моры камень,
У лесі медзьведзь.
Пакуль гэтых трох сьвядкоў зыдзецца —
Нехай ты ўжэ нічого не баішсе*.

Адной з найбольш цікавых з'яў абраднасці, звязанай з нараджэннем і хрышчэннем, былі гэтак званыя адведкі. Яны заключаліся ў тым, што маці нованароджанага наведвалі блізкія суседкі праз некалькі дзён пасля родаў. У гэтым удзельнічалі выключна замужнія кабеты. Наведніцы прыносілі з сабою ў вузялках прадукты харчавання, цацкі ці адзенне для нованароджанага заўсёды ў няпарнай колькасці. Увайшоўшы ў хату, кабеты клалі скрутак на парозе і стараліся як найхутчэй развязаць. Гэта рабілі для таго, каб дзіця як хутчэй пачало гаварыць. Кожная з кабет падыходзіла да калыскі, мімаходзь зірнуўшы на нованароджанага, адварочвалася, рабіла выгляд, як бы тройчы сплёўвала і казала «*Але ж брыдке»* альбо «*Якое ж паскуднэ*» ці «*Нема на што глядзець».*

Некаторыя з кабет ужывалі вершаваную формулу, у якой меліся вульгарныя элементы:

Якое брыдкое,
Якое гадкое,
Мышы насцалі,
Мухі насралі**.

* Альжбета Бура, вёска Бандары, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1972 г.

** Марыя Мартонік, вёска Залукі, гміна Гарадок, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1979 г.

Абароненае інвектывамі дзіця нібы рабілася непадатлівым на розныя ўрокі. Недапушчальным было якое-небудзь пазітыўнае выказванне, бо лічылася, што ўхваленне выгляду або здароўя дзіцяці аўтаматычна заахвочвала злую сілу атакаваць новаароджанага. Наведвальніц частавалі гарэлкаю, што хутка стварала нязмушаную атмасферу. Упершыню пасля родаў дазвалялася спяваць. Песні часцей за ўсё ўтрымлівалі элементы ўхвалення маці, наадварот, у тых, якія датычыліся бацькі новаароджанага, мелі месца іранічныя матывы.

Жанчыны, што сабраліся на адведзіны, рабілі шмат заўвагаў з уласнага досведу, давалі парады, што мелі практычнае значэнне. Звычайна аказвалася, што ўсе праяўленні недамаганняў маці або новаароджанага яны самі зведалі раней, таму кожная з кабет прапаноўвала нейкае рашэнне. Гэтыя заўвагі былі асабліва каштоўныя для гаспадыні, якая нарадзіла першае дзіця і не была нікім да гэтага падрыхтаваная.

У некаторых вёсках захаваўся звычай, што ў хвіліну, калі маці новаароджанага пачынала карміць пры чужых кабетах, то яна мусіла папярэдне падысці да печы і выціснуць на яе з грудзей крыху малака. Гэта павінна было абараніць ад страты матчынага малака.

Калі кабеты, якія ўдзельнічалі ў адведках, збіраліся пакінуць дом, яны станавіліся наводдаль калыскі і гукалі «*Расці веліке і харошэ*», «*Хутко расці і вылазь з калыскі*», «*Расці і прынось радасць бацькам*»*.

Такі звычай, аднак, не назіраўся ва ўсіх вёсках. У некаторых мясцовасцях да царкоўнага хрышчэння ўстрымліваліся ад якіх-небудзь зычлівых слоў на адрас дзіцяці, бо лічылася, што ўсялякія пазітыўныя пажаданні будуць мець супрацьлеглы вынік.

Найбольш прыгожым этапам абраду, звязнага з нараджэннем, былі, бясспрэчна, хрысціны, якія ўтрымлівалі ў сабе як элементы хрысціянскія, гэтак і паганскія.

Хрысціны звычайна адбываліся праз тыдзень або два пасля нараджэння дзіцяці. Спяшаліся з хрышчэннем толькі ў тых выпадках, калі дзіця было вельмі слабое і магло памерці.

Беларусы з усходняй Беласточчыны лічаць, што новаароджаны і яго маці з’яўляюцца пэўны час нячыстымі. Толькі абрад царкоўнага хрышчэння, якому спадарожнічае крапленне свян-

---

* Ольга Назарка, вёска Бандары, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1969 г.

цонаю вадою і намазванне мірам, вызваляе дзіця з нячыстасці. Гэты абрад робіць немаўля больш моцным перад хваробамі, урокамі і нячыстай сілаю. Маці нованароджанага перастае быць нячыстаю, калі праз сорак дзён пасля родаў першы раз з дзіцём пераступае парог царквы. Гэты абрад атрымаў назву ўвод.

У польскай тэрміналогіі гэты акт называецца вывадам, а спосаб яго правядзення ў рымска-каталіцкім касцёле ідэнтычны таму, які мае месца ў праваслаўнай царкве. Я. Быстронь піша: «Абрадавым заканчэннем гэтага доўгага перыяду, на працягу якога кабета павінна знаходзіцца ў ізаляцыі, з'яўляецца вывад — касцельная цырымонія, якая здымае ўсе ізаляцыйныя абмежаванні і вяртае кабеце нармальны лад жыцця. Тэрмін вываду ў касцельным рытуале не з'яўляецца дакладна вызначаным: звычайна ён адбываецца праз шэсць тыдняў пасля родаў. Кажуць, што Маці Божая пасля нараджэння Хрыста ачысцілася праз дванаццаць тыдняў, а звычайным смяротным даволі палову гэтага, шэсць тыдняў ці яшчэ менш. Да рэдкіх, аднак, выпадкаў у нас належыць, каб кабета ішла да вываду ўжо праз два тыдні, як, напрыклад, у Рудаве (Хшаноўскі павет). Тым часам грэчаская царква вызначае дакладна гэты тэрмін у сорак дзён, адсюль усе забароны, пра якія мы гаварылі вышэй, доўжацца ў Грэцыі, Балгарыі, Сербіі і Румыніі сорак дзён. Увесь гэты час кабета лічыцца нячыстаю, не можа ўвайсці ў царкву, дакрануцца рэліквій, прыняць блаславенне, і толькі праз сорак дзён святар уводзіць яе ў царкву»*.

Адным з найважнейшых пытанняў, звязаных з абрадам хрышчэння, з'яўляецца выбар кумаў. Звычайна стараліся, каб кумамі былі людзі заможныя, бо лічылася, што ад іх дзіця будзе мець матэрыяльную падтрымку ў выглядзе вопраткі, ласункаў ды іншых падарункаў, а таксама ў будучым нейкі дадатак да пасагу. Багатыя, аднак, не былі занадта ахвочыя ісці кумамі да бедных, з гэтай прычыны хроснымі выбіралі, як правіла, асобаў са свайго асяроддзя.

Паміж бацькамі і дзіцём, з аднаго боку, а таксама кумамі, з другога боку, узнікалі свайго роду абавязкі, лучылі іх з гэтага часу адносіны, поўныя ўзаемнай павагі. Незалежна ад узросту бацькоў і кумаў пасля хрышчэння пераходзілі ў непасрэдных кантактах на «вы». Хроснік жа ўсё жыццё, звяртаючыся да хросных бацькоў, называў іх «*татулько*» і «*мамулько*». Аднак належыць зазначыць, што ў беларускім фальклоры знаходзім

* Bystroń J. S. Słowiańskie obrzędy rodzinne. Kraków, 1916. S. 66.

шмат іроніі на тэму абавязкаў, якія былі ў адносінах паміж бацькамі дзіцяці і кумамі. Гэта знайшло выяўленне ў папулярнай прымаўцы «*кум не сваяк, а сыр не закуска*».

Часты зварот да адных і тых самых асобаў з просьбаю быць кумамі падымаў іх аўтарытэт у грамадстве. Недапушчальным было запрашаць у кумы цяжарных кабет, разведзеных, жаніхоў і нявестаў, а таксама абодвух сужонцаў адначасова. Кумамі маглі быць: паненка, кавалер, замужняя кабета, жанаты мужчына, у выключных выпадках брат і сястра.

У разуменні беларусаў абавязкі звязвалі не толькі бацькоў дзіцяці з кумамі, але таксама куму і кума. Існуе забабон, што яны не павінны ўступаць у шлюб, бо дапусцілі б свайго роду кровазмяшальніцтва. Таму для таго, каб кума з кумам маглі ўзяць шлюб, абавязковым быў спецыяльны дазвол царкоўных уладаў.

Беларуская традыцыя забараняе, каб хроснаю маці была цяжарная. Яе ўдзел у хрышчэнні выкліча смерць дзіцяці ў яе лоне. На думку жыхароў вёскі Мора на Гайнаўшчыне цяжарная можа быць кумою з умоваю, што падчас абраду будзе мець на сабе дзве кашулі. У вёсцы Вялікія Тыневічы не можа трымаць дзіцяці пры хрышчэнні кабета, якая мае менструацыю, бо дзіця будзе ў будучым бясплодным. Калі паненка ці кавалер першы раз у жыцці запрашаліся ў кумы, дык паненка мусіла трымаць да хрышчэння хлопца, а кавалер — дзяўчынку, гэта гарантавала ім поспех у супрацьлеглага полу. Калі ў нейкай сям'і паміралі дзеці, дык бацька нованароджанага запрашаў хроснымі бацькамі гэтак званых знойдзеных кумаў. Заключалася гэта ў тым, што ён выходзіў на вуліцу і запрашаў першую напатканую кабету і першага спатканага мужчыну. Не звяртаючы ўвагі на іх узрост і паходжанне. У некаторых вёсках у такіх сітуацыях прасілі ў кумы жабракоў або брата і сястру. А вось у Малінніках і Баброўніках, у мясцовасцях, што размешчаны адна ад другой за сто кіламетраў, запрашалі перш за ўсё бяздзетных кабет і бяздзетных мужчынаў.

У некаторых мясцовасцях — Гмінаў, Нараў, Заблудаў, Нараўка — маці нованароджанага, у якой да гэтага паміралі дзеці, накіроўвалася на могілкі і там на магілках сваіх дзяцей убівала ў зямлю перакуленыя старыя гнілыя крыжыкі.

У Вялікіх Тыневічах да сужонцаў, у якіх смерць забрала ўжо не аднаго нованароджанага, прыходзіў бацька, што меў шмат дзяцей. Гэты чалавек выконваў акт пакупкі нованароджанага. Таргаваўся прытым, як на звычайным рынку. Плаціў бацькам

сімвалічную суму, а пазней час ад часу наведваў «купленае» дзіця.

У гэтых самых Вялікіх Тыневічах прасілі ў кумы брата і сястру.

Увогуле інфарматары не змаглі патлумачыць, чаму так рабілася. Жыхарка вёскі Капітаншчына Ганна Карпюк выказалася наступным чынам: «*Ведомо, што калі ўміралі дзеці, то смерць на каждэ новэ дзіця ждала пры дзверах, каб зноў его забраці. А тому выносілі дзіця праз акно, каб ашукаці смерць. А после хрысту смерць ужэ бессільна*»*.

У шмат якіх мясцовасцях Гайнаўшчыны і Сакольшчыны замацаваўся звычай, які заключаўся ў тым, што людзі, сабраныя ў доме бацькоў новапароджанага, былі абавязаны пільна сачыць за кожным крокам кумы і не дапусціць да таго, каб перад выездам у царкву яна справіла свае фізіялагічныя патрэбы, а то гэта паўплывала б на дзіця, якое доўгі час бы не навучылася кантраляваць сваіх фізіялагічных функцый. У выпадку, калі кума не была ў стане вытрымаць, мусіла вывернуць кашулю на левы бок.

Дзіця да хрышчэння збірала звычайна бабка. Яна ўкладала яму ў пялюшкі манеты, зерне, кавалачак хлеба, крыху солі, галінку з мятлы. У некаторых вёсках дзяўчынку ўкручвалі ў пялюшку, зробленую з мужчынскай кашулі, а хлопца — у пялюшку з жаночай кашулі. У шматлікіх мясцовасцях ад уроку прышпільвалі да пялюшкі ангельскую шпільку. Тым часам дзяўчынцы, апрача шпількі, укладалі іголку з ніткаю, што мела запэўніць здольнасці да шыцця.

На ўсім абшары ўсходняй Беласточчыны бабка ці бацькі дзіцяці клапоцяцца пра тое, каб яно спаткалася з разнастайнымі прадметамі. Бо верылі, што такім чынам спрыяюць яго здольнасцям. Часцей за ўсё падтыкалі дзіцяці кніжку, аловак або газету, каб яно ў будучым стала гмінным пісарам.

У шматлікіх мясцовасцях апрача прадметаў, якія нібыта гарантавалі дзіцяці лёгкае засваенне ведаў, падсоўвалі кудзелю, сякеру, пілу, нажніцы, іншыя прылады, што маглі паўплываць на яго будучыя тэхнічныя зацікаўленні.

У асобных вёсках у гміне Сямятычы перад кумамі, якія выносілі з хаты дзіця, ставілі на парозе шклянку ці талерку, якія абавязкова трэба было пабіць, каб запэўніць дзіцяці шчасце.

---

* Ганна Карпюк, вёска Капітаншчына, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1974 г.

У мясцовасці Крывятычы ў выпадку, калі бацька і маці зычылі сабе, каб наступным дзіцём быў хлопец, стараліся, каб кумам, якія выходзілі з дому, выпадкова сустрэўся мужчына. Калі сям'я жадала дачку, дык кумаў мусіла спаткаць жанчына.

У большасці вёсак кума не выносіла дзіцяці з хаты. Гэта рабіла бабка. Кумы ж чакалі, седзячы на возе. Бабка, перадаючы кумам дзіця, звычайна гаварыла: «*Берыце крыкуна, а прывезіце ціхуна*». Калі ад'язджалі ў царкву, бабка нейкі час бегла за возам, каб дзіця хутка пачало хадзіць.

Кумы, едучы ў царкву, былі абавязаны шмат размаўляць, гэта мела гарантаваць, што дзіця хутка пачне гаварыць. Па дарозе назад не мелі права нікога падвозіць, апярэджваць або прапускаць каго-небудзь наперад.

У мясцовасцях на тэрыторыі гміны Нараў існаваў звычай, што кума, едучы ў царкву, падпяразвалася пасмаю льну, а кум — лейцамі ці нават аброццю. Гэта мусіла забяспечыць куме багаты ўраджай ільну, а куму добрыя вынікі ў гадоўлі коней. Па дарозе назад з царквы кумы на ўсе пытанні, што тычыліся імя дзіцяці, нязменна адказвалі: «*Ціхон*», калі гэта быў хлопец, або «*Ціхоня*» ці «*Соня*», калі гэта была дзяўчынка. Гэта павінна было засцерагчы дзіця ад крыклівасці.

У Моры і Махнатым пасля вяртання з царквы бабка забірала ад кумы дзіця, даставала з яго кашулькі схаваныя кавалачкі хлеба і ўкідала іх у дзяжу.

Акт хрышчэння адбываўся паводле літургічных правіл. Аднак падчас урачыстасці пільна сачылі, як паводзіць сябе дзіця, бо з некаторых рэакцый нованароджанага можна было вызначыць, якое будзе ягонае далейшае жыццё. Усюды лічылася, што плач дзіцяці ў царкве — гэта добрая прыкмета на будучыню. Хутчэй да выключэння належаў забабон, пашыраны ў вёсцы Барысоўка гміны Нараў быццам бы гучны плач дзіцяці падчас хрышчэння з'яўляецца прадказаннем яго таленту спевака.

У некаторых вёсках на Гайнаўшчыне святару плацілі не мёртвымі — як іх называлі — грашыма, а жывым інвентаром. Часцей за ўсё давалі авечку, парася, пару гусей, бо верылі, што такім чынам запэўніваюць нованароджанаму даўгавечнасць, а таксама поспех у гадоўлі жывёлы і свойскай птушкі ў будучай яго гаспадарцы.

Раней імёны дзецям, як правіла, даваў святар, які кіраваўся календаром. Сёння гэта належыць бацькам. Усё больш і больш даюць імёны не праваслаўныя, а каталіцкія, каб у будучыні не ствараць небяспекі кпінаў і ізаляцыі ў польскім асяроддзі.

У некаторых вёсках здараліся выпадкі, не пазбаўленыя камізму. Гадоў каля дваццаці назад, везучы з вёскі Альхоўка дзіця на хрышчэнне ў Нараўку, кумы забыліся імя, прапанаванае бацькамі. Хлопцу далі імя Васіль. Вярнуўшыся дадому, даведаліся, што старэйшы брат немаўляці мае такое самае імя. Падобны выпадак здарыўся і ў Вялікіх Тыневічах, дзе дзве сястры атрымалі імя Яўгенія.

Апошнім акордам абраду, звязанага з нараджэннем і хрышчэннем, з'яўляецца бяседа. Апрача галоўных герояў гэтай урачыстасці: бабкі, кумы і кума, а таксама бацькоў дзіцяці ў ёй удзельнічаюць выключна замужнія жанчыны і жанатыя мужчыны. На Сакольшчыне кумы мусяць сядзець, моцна прытуліўшыся адно да аднаго. Гэта нібыта забяспечвала хрэсніку роўныя і здаровыя зубы. Падчас шчодрай бяседы шмат пілі, елі, бавіліся і спявалі.

Нават самыя бедныя сем'і стараліся як можна лепш прыняць гасцей. Аднак раней гігіенічны бок хрэсьбінаў быў вельмі далёкі ад сённяшніх патрабаванняў. Звычайна елі з агульных місак, часта карысталіся ўсяго некалькімі лыжкамі. Пілі з аднаго кубка, дык узаемна прымушалі адно аднаго хутка піць да дна.

Хрэсьбіны адрозніваліся вялікай колькасцю і адметнасцю песняў. Падчас святкавання гучала вельмі шмат песняў, якія поўніліся алюзіямі, што да дзіцяці, маці і бацькі, бабкі, кумы і кума. Цяпер ужо не баяліся пахвал, што падкрэслівалі прыгажосць, а нават і розум нованароджанага. Часта прыхільна спявалася не толькі пра дзіця, але таксама і пра бацькоў. Шырока вядомы тэкст, не пазбаўлены зычлівасці ў адносінах да бацькі нованароджанага:

Наш (*імя бацькі*) маладзец, майстэр на ўсе рукі,
Падкідае бабцы што рок па ўнуку.
Хлопец як грыбочок, як рыба здаровы,
Як зорачкі очы, як шнурочкі бровы*.

Часта спявалі наступную песню ў гонар маці дзіцяці:

Ой, наша Марына
Нарадзіла сына:
Сына як дубочка,
Падобнаго на мужа.

* Ганна Валкавыцка, вёска Таніца, гміна Міхалова, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1969 г.

Расці, наш сыночок,
Расці, як дубочок,
Будзь жэ ты разумны,
Каб мог палічыці
Усе ў вёсцы гумны*.

Неаднаразова падымалі тосты ў вершаванай форме. Вось некалькі прыкладаў з Сакольшчыны:

Нехай жыве нам сто лет
І цвіце як макаў цвет.

Расці ў шчасці, наша дзеціна,
Красуй, як тая ў полі каліна.

За шчасце мужа, за шчасце жонкі,
За шчасце гэтага і новых патомкаў.

Таўчэм талеркі, паб'ем усе міскі
За шчасце таго малога з калыскі.

Чым хучэй вып'ем гэтую чарку,
Тым хучэй сын ваш перойме гаспадарку.

За што п'ем, за што п'ем, за малую ляльку;
Дзякуй Богу, што нам даў малую забаўку**.

Разам з песнямі, што мелі лірычны настрой, складалі шмат гумарыстычных песняў. Найбольш жартаў выпадала на долю бацькі нованароджанага.

Да найбольш распаўсюджаных належыць хрэсьбінная песня з выразным іранічным падтэкстам, якую спявалі ад імя маці нованароджанага і якая нагадвала мужу ягоныя ўчынкі:

Чы я табе не казала,
Чы не гаварыла,
Не лягай разом спаці,
Бо будзе Гаўрыла.
А ты мене не пытаў,

* Ганна Пташынска, вёска Лешукі, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1968 г.

** Група жанчын з вёскі Остраў Паўночны, гміна Крынкі, рэгіён Сакольскі. Запісана ў 1969 г.

Каля мене клаўся,
А цепер пытаешся:
Скуль Гаўрыла ўзяўся.
А ты мене не пытай,
Бежы за кумамі,
Бо Гаўрыла на печы
Совае нагамі*.

Кпліва высмейвалі куму і кума, прыпісваючы ім абжорства, п'янства, распусту. Вось некалькі прыкладаў песняў з Янава:

Я келішок выпіла,
По столе покоціла,
Я такі звычай знаю,
Што до дна ўсё выпіваю.
Ой, выпіла, пакаціла,
Сама сэбэ похваліла,
Ой, я з доброго роду,
П'ю горэлку, як воду.
Кума мая, кума любленая,
Чом у тэбэ сорочына
Не подрубленая,
Сухэ лето было,
Конопэль не стало,
Сорочына до колен,
Рукавоў не стала**.

Цікавыя куплеты, што паходзяць з гміны Сідра:

Прышоў кум да кумы,
Кума грэчку поле.
Добрэ, куме, што прышоў,
Мой пайшоў на поле.

Прышоў кум да кумы,
Кума мые ложкі,
Кідай, кума, ложкі,
Патанцуем трошкі.

---

* Валянціна Лаўрашук, вёска Рудня, гміна Міхалова, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1973 г.

** Зінаіда Самойлюк, вёска Янова, гміна Нараў, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1973 г.

Прышоў кум да кумы
Пажычыці бараны,
Кума ногу падняла:
Ото, куме, барана.

Напіліся гарэлачкі,
Напіліся мёду,
То за таго салаўя,
Што ў кума спяроду.

Напіліся гарэлачкі,
Напіліся мёду,
То за тую ластаўку,
Што ў кумы спяроду.

Ой, выпіла, выхіліла,
Сама сябе пахваліла:
Я з харошаго роду,
П'ю гарэлку, як воду*.

Найбольш папулярная песня, якая пачынаецца са слоў:

Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Будземо піці да панядзелка…

Яна складаецца з сямі строф, у якіх гаворыцца пра неабходнасць піць ва ўсе дні тыдня.

Значна радзей сустракаюцца песні, у якіх кума паказваецца станоўча. Прыкладам такое песні можа быць тэкст, што паходзіць з гміны Белавежа:

Кума на куце села,
Харошу песню спела,
Першу — хрышчоную,
Другую — васельную,
Ой, дай, Божа, дзецяці
Да васеля даждаці**.

* Група жанчын з вёскі Ахрымовіцы, гміна Сідра, рэгіён Сакольскі. Запісана ў 1969 г.

** Група жанчын з вёскі Пагарэльцы, гміна Белавежа, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1969 г.

Асабліва важная фігура на хрэсьбінах, а таксама ва ўсім абрадзе бабка-павітуха. Яна побач з дзіцём займае ганаровае месца. Ужо ў першай фазе рытуалу бабка звяртаецца да сабраных з просьбаю скласці ахвяраванні на новы ножык, прызначаны для таго, каб перарэзаць пупавіну нованароджанаму. Вось тэкст з ваколіц Супрасля:

Ой, моцна ступіўся мой ножык старэнькі,
Чым буду адрэзваць я пупавінку
Дзетачкам вашым маленькім?
Кіньце капейкі, кіньце яшчэ грошык,
Каб дзеткі былі здаровы і былі харошы.
Ой, мушу я, мушу яшчэ доўга жыць
І вам у фартушку дзетачак насіць*.

Пасля гэтага закліку сабраныя кідалі на талерку ці на пасцеленую хустачку манеты, якія бабка дзяліла папалам. Адну прызначала дзіцяці, другую — сабе.

Госці спявалі песню:

Пылом лістом дарожанька прыпала,
А парадуха па бабулю паслала.
Бывай, бывай, бабуленько, у мене
Есць у мене беседанька для цебе**.

Нідзе апроч вёскі Цeрамкі не сустракаецца варыянт гэтага папулярнага тэксту:

Матуля па садочку хадзіла
І бабульку прасіла:
Бабуля мая міла,
Прыходзь да маго дзіцяці.
Дам табе заплату,
Палатно як белу карту:
І танюсенькe, і белюсенькe,
З бабулею роўнэ***.

---

* Надзея Грушэўска, вёска Целічанка, гміна Супрасль, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1975 г.

** Зофія Каліноўска, вёска Падзалукі, гміна Гарадок, рэгіён Беластоцкі. Запісана ў 1976 г.

*** Надзея Рубчэўска, вёска Церамкі, гміна Нараўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1968 г.

Арыгінальны акцэнт хрэсьбінаў гэтак званая «каша». Раней кума гатавала яе з ячных круп. Пасярэдзіне глінянай міскі ў кашы рабілі дзірку, а яе берагі ўпрыгожвалі кветкамі. З міскаю кашы ў руках садзілася пад іконамі кума або пераапрануты за старую кум, прамаўляючы тэкст «*гародца*» — агародніка:

Ой, чый то гародзец
Не гароджаны —
Срэбрам і злотам
Не тынованы ?*

Гэты тэкст шматкроць паўтараўся, калі выклікаліся розныя асобы пакласці грошы, каб агарадзіць агарод.

Кум выклікаў па чарзе бацьку, маці, цётак, дзядзькаў па матчынай і бацькавай лініі і ўсіх гасцей, паўтараючы наступнае:

Трэба (імя выкліканае асобы) рубля даці,
Дырку плотам залатаці.

У асобных вёсках выступаюць розныя варыянты формулы, якую прамаўляе кум. Усюды, аднак, у іх змесце гаворыцца пра агароджванне агароду або дзіркі.

Кожны госць, які кладзе грошы, атрымлівае крыху кашы. Калі ўсё раздадзена з міскі, міску разбівалі на шчасце. Аскепкі разбітай міскі мужчыны ўкідалі кабетам за пазуху, што мела забяспечыць ім плоднасць. Кабеты, якія мелі ўжо шматлікіх нашчадкаў, пазбягалі аскепкаў.

У цяперашніх часах «агародчык» выконваецца амаль на ўсіх хрэсьбінах. Праўда, замест кашы ўжываюцца цукеркі. Аднак рытуал і надалей называюць «кашаю».

Амаль на ўсім беларускамоўным абшары абрад хрэсьбінаў завяршаецца «*важэннем*» на баране па падворку кумы і кума. Гэта робіцца наступным чынам: удзельнікі бяседы пераварочвалі драўляную барану ўверх зубамі, прыкрывалі яе сенам і анучамі. Потым садзілі наверх кума і куму, пасля чаго ўпрагаліся ў пастронкі і доўгі час цягалі барану па падворку. Асобныя са старэйшых жыхароў Беласточчыны сцвярджаюць, што гэты захад павінен быў гарантаваць высокія ўраджаі ў будучай гаспадарцы нованароджанага.

Нельга абмінуць факт, што падчас хрэсьбін спявалі таксама песні, якія па форме нагадвалі балады.

* Павел Грыка, вёска Семяноўка, рэгіён Гайнаўскі. Запісана ў 1977 г.

Пададзены ў іх лад жыцця бацькі і маці, у якіх нарадзілася дзіця, выглядаў песімістычна.

Прыкладам можа быць песня, што паходзіць з ваколіцаў Крынак:

У зялёнай дуброве Коля сена косіць,
А яму жоначка дзяціну прыносіць:
Ой, Коля, мой Коля, на табе дзяціну,
Як не хочаш браці, на пракосы кіну.
Ой, жонко, ой, жонко, забірай з сабою,
Як не хочаш браці, зарэжу касою.
У цёмнай каморы Коля лісты піша,
Праваю нагою дзяцінку калыша:
Ой, люляй, ой, люляй, ой люляй, мой сыне,
Праз цябе мой сыну гаспадарка гіне*.

Варта прызнаць слушнасць беларускага даследчыка Ніла Гілевіча, які, характарызуючы хрэсьбінныя песні, піша: «Бадай у ніякіх іншых абрадавых песнях не выступае столькі эратычных алюзій, колькі ў песнях, звязаных з нараджэннем. Трэба зазначыць, што гэтыя алюзіі робяцца тактоўна, не абражаючы слыху і пачуццяў. Словам, гэтак паступае народ, які захоўвае свае здаровыя маральныя прынцыпы і валодае эстэтычным пачуццём»**.

Можна сказаць на заканчэнне, што сутнасць звычаяў і абрадаў, звязаных з нараджэннем дзіцяці, засталася, па сутнасці, тая самая. Гэта тычыцца ўваходжання ў грамадства новага чалавека і яго лёсу. Ва ўсіх праявах гэтай абраднасці захаваліся тыя ж самыя сімвалы і тыя самыя рэлігійна-магічныя дзеянні, якія люд, што жыве на ўсходняй Беласточчыне, выкарыстоўваў у пачатковым перыядзе фарміравання народнай беларускай культуры.

* Група жанчын з вёскі Оструў Палуднёвы, гміна Крынкі, рэгіён Сакольскі. Запісана ў 1971г.

** Ніл Гілевіч. Наша родная песня. Мінск, 1968, с. 72.

# АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?

Публіцыстычны цыкл «Амерыка, якая ты?» — вынік апошняга майго падарожжа па ЗША, якое правёў я з 11 па 31 кастрычніка 1987 года. Ствараючы свае замалёўкі, я адкінуў усякую прадузятасць, варожасць, нядобразычлівасць і стараўся глядзець на амерыканскую рэчаіснасць вачыма чалавека, які прыехаў у чужую краіну з вучнёўскай мэтай: па меры магчымасцяў як мага больш прысвоіць і як найбольш вывучыць. Такім прынцыпам кіруюся незалежна ад таго, еду я на Захад ці на Усход. Смешаць мяне і гневаюць, між іншым, амерыканскія журналісты, якія, прыехаўшы ў Польшчу, пачынаюць паводзіць сябе як следчыя, адвакаты, пракуроры і суддзі ў адной асобе. Я стараўся пазбегнуць такой паставы і позы. Зрэшты, ужо сам загаловак цыкла «Амерыка, якая ты?» сведчыць аб тым, што ніякай катэгарычнасці ў маіх сцвярджэннях не будзе. У ніякім выпадку не выдаю сябе за вялікага эксперта ад амерыканскага жыцця. Проста дзялюся з чытачамі сваімі досыць павярхоўнымі назіраннямі, уражаннямі і рэмінісцэнцыямі. А ацэнка напісанага мною залежыць ад чытачоў. Зразумела, што будуць яны, як заўсёды, розныя. Некаторыя, мабыць, нядобразычлівыя і катэгарычныя.

Як я ўжо сказаў, мае веды аб ЗША пасля некалькітыднёвага знаходжання ў гэтай краіне досыць павярхоўныя. І зусім магчыма, што ў многіх месцах маіх рэпартажаў паявяцца нейкія недакладнасці. Знаходзячыся ў Амерыцы, не адчуваў я сябе ні героем, ні адкрывальнікам, ні следчым, ні суддзёю ці пракурорам, а ўсяго толькі звычайным назіральнікам, які імкнуўся да ўсяго прыглядзецца, як мага больш запомніць і пасля свае ўражанні перанесці на паперу. Стараўся я не ўжываць катэгарычных ацэнак, а тым болей фармуляваць абвінавачванні. Калі можна мяне з кім-небудзь параўноўваць, дык хутчэй за ўсё з вучнем, які з крыху разяўленым ад здзіўлення ротам глядзеў на амерыканскі свет і стараўся зрабіць вывады. З другога боку, не паводзіў я сябе як бедны родзіч, што ад нявольніцкага захаплення

багатым краем траціць годнасць і ў сваім сервілізме зніжаецца да лislівасці і зняволенасці. Паездка ў ЗША была для мяне жыццёвай прыгодай, а цыкл «Амерыка, якая ты?» залічваю да прыгод журналісцкіх.

## ПЕРЫПЕТЫІ

Доўга цягнулася справа майго выезду ў Амерыку ў 1987 годзе. Першае запрашэнне, якое выслаў мне прафесар славістыкі Нью-Ёркскага публічнага ўніверсітэта Томас Бэрд, да мяне не дайшло. Другое, прысланае ў пачатку жніўня, аказалася дакументам не вельмі верагодным. Справа ў тым, што ў ім было напісана замест Аляксандр — Алесь, а замест Баршчэўскі — Баршэўскі. Зразумела, што запрашэнне з такімі недакладнасцямі магло б выклікаць складанасці і ў нашым Міністэрстве вышэйшай адукацыі, і ў амерыканскім пасольстве, якое можа даць, а можа і не даць візу.

Урэшце калі Лёнік Тарасевіч прывёз з Амерыкі такое, як трэба, запрашэнне, аказалася, што амерыканскае пасольства патрабуе запрашэнне, зробленае на спецыяльных універсітэцкіх бланках. Па тэлефоне сказаў я аб гэтым майму старому знаёмаму з Кліўленда Сяргею К., які паведаміў аб гэтым прафесару Бэрду. Той вельмі хутка аформіў справу, і новае запрашэнне не было выслана поштай, а прывезена студэнтам права Плясковічам, які быў у Амерыцы амаль што цэлы год. Толькі пасля гэтага амерыканскае пасольства дало візу. Быў яшчэ клопат з білетамі, бо аказалася, што цяпер менш самалётаў курсіруе па лініі Варшава–Нью-Ёрк, чым раней. Аднак і гэтая перашкода была адолена, і ўрэшце не ў чэрвені, як гэта планавалася спачатку, а 11 кастрычніка я разам з дэканам факультэта рускай філалогіі і прыкладной лінгвістыкі прафесарам Альбертам Барташэвічам выбраўся ў Амерыку.

Калі я пакідаў Варшаву, была непрыемная дажджлівая раніца. Пашпартна-мытныя фармальнасці не цягнуліся доўга. Аднак мытніца загадала адкрыць мне чамадан і, убачыўшы ў ім мае паэтычныя зборнікі і падручнікі, здзівілася. Даведаўшыся, што я беларус і таму пішу па-беларуску, досыць доўга прыглядалася да майго зборніка «Блізкасць далёкага».

Дабраўшыся да выдадзенага ў Мінску і цудоўна ілюстраванага майго перакладу на польскую мову паэмы Янкі Купалы «Яна і я», мытніца пачала ўчытвацца ў тэкст. Праз нейкі час пачала

вохкаць, гаворачы, што пераклад ёй вельмі падабаецца. Калі я ёй сказаў, што Янка Купала быў у маладосці звязаны з Польшчай, што першыя свае вершы пісаў па-польску і што многіх польскіх паэтаў перакладаў на беларускую мову, мытніца яшчэ больш уважліва пачала ўчытвацца ў тэкст паэмы.

Скончылася ўсё тым, што я падарыў ёй адзін экзэмпляр паэмы «Яна і я», і мы з ёю рассталіся, калі і не вялікімі прыяцелямі, дык, прынамсі, сябрамі.

Калі мы перайшлі ў пачакальню, высветлілася, што мой намер купіць для аднаго з амерыканскіх знаёмых паўлітра спірту не можа здзейсніцца. Бо з Польшчы нельга вывозіць спірт і кругом у аэрапорце вісяць плакаты з перакрэсленымі чырвонымі лініямі з надпісам «Спірт». У кіёску, які знаходзіцца ў пачакальні аэрапорта, можна купіць дзясяткі, калі не сотні відаў польскіх і замежных гарэлак і каньякоў, але няма сярод іх спірту. Але ж гэта не такая вялікая бяда. Нельга, дык нельга!

Што там ні кажы, але прыемна, адолеўшы дзясяткі перашкод, урэшце аформіць усё, атрымаць ва ўніверсітэце службовы пашпарт, білеты і 18 долараў, так званую адну дыету-камандзіроўку, сядзець сабе ў мяккім крэсле, піць каву, якую прынясе з бара Барташэвіч, глядзець, як ён пацягвае карычневы каньячок, якога я не магу піць, бо прымаю лекі, і чакаць, пакуль не аб’явяць, што можна ўжо выходзіць усім тым, хто ляціць у Амерыку.

І хоць я ўжо быў у ЗША ў 1981 годзе, усё ж такі Амерыка засталася для мяне таямнічай загадкай. А каму ж не хочацца зазірнуць у таямнічае і загадкавае? Кожнаму — і мне таксама. І вось я, хоць яшчэ і знаходжуся на польскай зямлі, ступаю ўжо на парог чужога і таемнага.

## У САМАЛЁЦЕ

Даведваемся, што можна ўжо выходзіць з будынка аэрапорта, сядаць у аўтобус і ехаць да самалёта. Уся аперацыя працягваецца мінут 15. Аказваецца, што ляцім амерыканскім самалётам «Д-48», які бярэ на борт 260 чалавек.

Дарэчы, шэсць гадоў таму назад ляцеў я «Капернікам», які пасля разбіўся. Ляцеў я ў Маскву і «Касцюшкам», які таксама пацярпеў пасля аварыю. Зразумела, што, сядаючы ў самалёт, не можа чалавек не думаць аб гэтых катастрофах. Аднак не агортвае мяне панічны страх. Прыгадваю, як гадоў восем таму назад быў у Малдавіі з нагоды Дзён літаратуры ў гэтай рэспубліцы.

Калі мерапрыемства скончылася, усе пісьменнікі сабраліся ў аэрапорце, каб ляцець у Маскву. Аказалася, што не ляціць з намі толькі вядомы пісьменнік і спявак Булат Акуджава. Я спытаў, чаму ён не ляціць. А ён мне на гэта: «проста баюся». Спадабаўся мне такі шчыры адказ. Нехта іншы саромеўся б сказаць праўду і выкручваўся б, а гэты ўзяў і сказаў праўду.

Калі мы ўжо расселіся, дык хочучы-няхочучы пачаў я параўноўваць новы для мяне самалёт з «Капернікам» і «Касцюшкам». Здалося мне, што розніцы ніякай няма, аднак праз некалькі мінут аказалася, што ёсць. Усё-такі тое-сёе ёсць. Папершае, калісьці аб'яўлялі, што самалёт вядзе такі і такі экіпаж пад камандаваннем такога і такога капітана. Цяпер гэтага няма. Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, але быццам бы самалёты гэтыя водзіць амерыканскі экіпаж пілотаў. Што да групы сцюардэс, дык сярод іх амаль усе полькі і толькі адна амерыканка, якая па-польску гаворыць толькі «proszę bardzo i dziękuję».

Па-другое, у адрозненне ад «Каперніка» або «Касцюшкі», у самалёце «Д-48» ёсць выратавальныя лодкі. Калі б нам аб гэтым не сказалі, дык ніхто з пасажыраў не ведаў бы. Справа ў тым, што гэтыя лодкі так захаваны ў столі, што ніхто з нас іх не заўважыў. Зрэшты, думаю, што гэтыя лодкі маюць толькі псіхалагічнае значэнне. Не ўяўляю сабе, як іх можна было б вывалачы і спусціць на ваду, калі б самалёт упаў у мора.

Можам гаварыць аб трэцяй розніцы. Заключаецца яна ў тым, што кожнаму з пасажыраў выдалі тапачкі. Вельмі мяккія і каляровыя. Аказалася, аднак, што ўсе яны маюць 37 размер. Зразумела, што як Барташэвіч, так і я не маглі іх надзець на ногі, бо маем размер 43.

Самалёт з Варшавы ў Нью-Ёрк ляціць каля 9 гадзін. Можна ў ім сядзець, можна паўляжаць і можна хадзіць. Зразумела, што людзі прыглядаюцца адзін да другога, і ладзяцца між імі як бы сямейныя сувязі.

Хачу сказаць, што ляцела разам з намі і муха. Калі я ўбачыў, як лётае яна па салоне самалёта і сядае на галовы, прыпомніўся мне фрагмент апавядання Якуба Коласа, у якім апісаны чыноўнік, які ўночы ловіць на сценах клапоў. Запаліўшы свечку і ўбачыўшы клапа, чыноўнік набліжае да яго полымя свечкі і гаворыць: «А, гад, у цябе пашпарт ёсць?» Мушу прызнацца, што мне таксама хацелася гэту надакучлівую муху спытаць: «А, гадаўка, ці ў цябе ёсць пашпарт?»

Зрабіў на мяне вялікае адмоўнае ўражанне адзін чалавек, так гадоў пад пяцьдзесят пяць. Яму, напэўна, здавалася, што ён

вельмі прыгожы, дасціпны і разумны. Рабіў усё, каб звярнуць на сябе ўвагу і каб даказаць, што тады, калі іншыя трывожацца, калоцяцца, ён — чалавек абсалютна свабодны і непадпарадкаваны.

Зразумела, што чалавек, які ляціць амаль дзевяць гадзін, мае многа часу на тое, каб паназіраць, паспаць, падумаць і тое-сёе запісаць. Так было і са мною. Не ведаю, чым гэта растлумачыць, але заўсёды ў самалёце назойліва лезуць у галаву думкі аб Бандарах. Асабліва калі пачынаю драмаць, тады галава напаўняецца мройнасцю і аб зямлі, і аб жывёле, і аб пасевах, і аб грыбах, якія так моцна мною завалодалі ў верасні мінулага года. Многа думаў я і аб Беларускім музеі, аб тым, як буду агітаваць амерыканскіх беларусаў у справе фінансавай дапамогі для прыярытэтнай пабудовы.

Трэба, аднак, сказаць, што доўга драмаць або спаць у самалёце не даводзіцца. Справа ў тым, што болей-меней адзін раз у гадзіну сцюардэсы вязуць праз калідор доўгага самалёта возік, густа застаўлены бутэлькамі і банкамі. У бутэльках гэтых — прынамсі, 15 гатункаў каньякоў і гарэлак, а ў банках — піва і разнародныя сокі. Пасажыры выбіраюць тое, што найбольш адпавядае іх паднябенням. Я быў у вельмі дрэннай сітуацыі, як ужо гаварыў, прымаў лякарства, якое выключала ўсякі алкаголь. Вось таму, хоць і вельмі падабаліся мне бутэлькі з каньякамі, ніводнага разу не працягнуў рукі ў бок гэтага высакароднага пітва. Затое мой сябра быў пры добрым здароўі і таму не мусіў ставіцца да бутэлечак так нігілістычна, як я. Абмяжоўваючы сябе пры бутэлечках, не мусіў я гэтага рабіць пры банках з сокамі. Многа выпіў і апельсінавага, і лімоннага, і грэйпфрутавага.

Нельга не сказаць і таго, што ў самалёце вельмі добра кормяць. Падалі нам вельмі смачнае снеданне і яшчэ смачнейшы абед. Спажывалі мы з Барташэвічам усе гэтыя дары. Калі, аднак, узяць пад увагу, што білет у Амерыку каштуе больш чым 250 долараў і 100 тысяч злотых, дык нічога дзіўнага, што Аэрафлот не шкадуе ні пітва, ні ежы.

Зрэшты, трэба сказаць, што не ўсе плацяць так многа. Калі я ўжо быў у Амерыцы, прыляцела туды жонка аднаго з нашых дзеячаў. У сувязі з тым, што ў гэты час мелі падаражаць білеты на самалёты, я спытаў яе, колькі яна заплаціла за білет.

— Дзесяць тысяч злотых і трыццаць долараў!

Я падумаў, што дрэнна пачуў, і спытаў яе яшчэ раз. Другі раз пачуў той жа адказ. Высветлілася, што яе дачка працуе сцюардэсай і ў сувязі з гэтым маці плаціць толькі 10 працэнтаў звычайнай цаны білетаў.

Вяртаючыся да самалёта, хачу сказаць, што пасля праезду пятага ці шостага возіка з напіткамі некаторыя пасажыры выразна павесялелі, мабыць, прынамсі, на пэўны час забылі аб аграмадных грошах, якія выдалі на білеты.

Калі ўрэшце аб'явілі, што набліжаемся да Нью-Ёрка і што трэба зашпіліць рамяні, па сутнасці, у сэрцах ва ўсіх пасялілася трывога. Кожны думаў аб адным: ці шчаслівa самалёт прызямліцца. Паплыло пад крыламі мора нізкіх чырвоных домікаў. З часам усё выразней былі відаць не толькі асобныя машыны, але і чалавечыя постаці. Урэшце колы самалёта ўдарылі аб бетон, і аграмадны самалёт пакаціўся па ім.

Такім чынам, закончылася амаль дзевяцігадзіннае прабыванне ў паветры, і, што там казаць, кожны цешыўся, што яго ногі ўрэшце стануць на зямлі. Трэба было, аднак, яшчэ крыху пасядзець у самалёце. Спецыфіка аэрапорта імя Кенэдзі ў Нью-Ёрку заключаецца ў тым, што пасажыры не выходзяць з самалёта на зямлю і не едуць у будынак аэрапорта аўтобусам, а праз аграмадны «рукаў», які падстаўляецца непасрэдна да дзвярэй самалёта, ідуць у будынак, дзе чакаюць іх чыноўнікі ад пашпартоў і візаў.

Вось мы, пакінуўшы «Д-48», пайшлі насустрач выспецыялізаваным амерыканскім пагранічным і мытным службам.

## СЯРОД ПАГРАНІЧНІКАЎ І МЫТНІКАЎ

Гаворачы пра амерыканскіх пагранічнікаў, трэба ведаць, што яны значна адрозніваюцца ад нашых. У нас як у цягніках, так і ў аэрапортах і партах ролю пагранічнага кантролю выконваюць вайсковыя людзі. Так, мабыць, справа выглядае і ў многіх іншых краінах. У ЗША, прынамсі, у аэрапорце імя Кенэдзі, кантролем пашпартоў займаюцца цывільныя асобы, у тым ліку і асобы жаночага полу. Зрэшты, ці яны не вайскоўцы, я казаць не магу. Бо вайсковы чалавек не мусіць абавязкова выступаць у мундзіры.

У аэрапорце імя Кенэдзі ўсе кантралёры апрануты пацывільнаму. Мяне праверыў нейкі пан, які з выгляду падобны быў да індуса, і, трэба сказаць, што не абышлося тут без клопату. Дарэчы, клопат гэты быў выкліканы намі самімі. Справа ў тым, што ў самалёце кожны з пасажыраў атрымлівае амерыканскія міграцыйныя бланкі. Трэба іх запоўніць так, каб не было ніякіх разыходжанняў з пашпартам. У нас з Барташэвічам справай пашпартоў займаліся цывільныя асобы, у тым ліку і ў час трохтыднёвага прабывання ў Амерыцы. Сцюардэса параіла нам у

тых рубрыках, якія адносяцца да тэрміну знаходжання ў ЗША, напісаць: «адзін месяц». У гэтым праявілася, як жа характэрная для польскага жыцця, прыблізнасць і недакладнасць. Мы паслухалі сцюардэсу і напісалі так, як яна раіла. Якраз гэтая недакладнасць і сталася прычынай турбот. Пагранічны чыноўнік вельмі хутка вылавіў разыходжанне паміж амерыканскай візай і бланкам і павёў нас у міграцыйны пункт, які знаходзіўся, на шчасце, на месцы. Там намі займалася здаравенная негрыцянка. Якраз ёй мы досыць хутка патлумачылі, што разыходжанне — вынік непаразумення і што мы ў ніякім выпадку не намерваемся знаходзіцца ў Амерыцы больш як тры тыдні.

Можа хтосьці з чытачоў спытаць, чаму гэта амерыканцы зрабілі праблему з так неістотнай, здавалася б, справы. Трэба ведаць, што амерыканскія службы вельмі сур'ёзна і сурова ставяцца да ўсякіх спроб нелегальнага знаходжання на тэрыторыі Амерыкі. І не трэба здзіўляцца. Штодзённа сотні, а можа, і тысячы галоўным чынам мексіканцаў, але не толькі мексіканцаў, стараюцца нелегальна пранікнуць у Амерыку. Амерыканскія службы іх вылаўліваюць і адсылаюць назад. Аднак усіх вылавіць не могуць. Варта сказаць і тое, што многія польскія грамадзяне, якія прыехалі, скажам, на месяц ці на два, пасля нелегальна застаюцца на цэлыя гады. Асобы гэтыя найчасцей пачынаюць нелегальна працаваць, гнездзяцца ў вельмі дрэнных кватэрах, працуюць удзень і ўночы. Уночы, як правіла, разгружаюць тавары ў прадуктовых магазінах. Гэта ім аплачваецца, бо там можна бясплатна наесціся, што дазваляе эканоміць больш зробленых грошай.

Нярэдка паліцыя налятае на рознага тыпу варштаты і майстэрні, уладальнікі якіх бяруць на работу нелегалаў. Трэба сказаць, што ў такіх выпадках паліцыя не чыкаецца і з такім схопленым чалавекам можа паступіць досыць сурова. І ўсё ж такі людзі рызыкуюць. Кожны хоча зарабіць як найбольш долараў, каб пасля, вярнуўшыся ў сваю краіну, «жыць па-пански». Быць можа, пагранічныя чыноўнікі падазравалі, што і мы маем нейкія невыразныя планы. Аднак усё высветлілася, і мы прайшлі ў памяшканне з аграмаднымі «слімакамі», што безупынна падаюць чамаданы і ўсякі багаж, які ляціць не разам з пасажырамі, а ў спецыяльным багажным аддзяленні самалёта. Трэба сказаць, што з гэтым багажом абслуга аэрапортаў не чыкаецца. Вельмі часта паяўляецца на «слімаку» чамадан разломаны, такі, з якога вывальваюцца рэчы. Мой чамадан не разваліўся, але пачка з

кнігамі разваліліся. Давялося кнігі гэтыя вылаўліваць на транспарцёры.

У Лондане або ў Варшаве пасажыр самалёта сам выбірае праход з надпісам: «Маю прадметы, якія падлягаюць мытным аплатам» або «Не маю прадметаў, якія падлягаюць мытным аплатам». У Нью-Ёрку такога раздзелу няма, усе падлягаюць адпаведнаму кантролю. Амерыканскія мытнікі, як правіла, не заглядаюць ва ўсе чамаданы і пакункі. Найчасцей пераглядаюць падручныя торбы. У нашым выпадку сталася ўсё вельмі арыгінальна. Мы з Барташэвічам узялі возік, паставілі на ім свае чамаданы і торбы і сталі ў чаргу да мытніка. Неспадзявана падышоў да нас негр, узяў нашы дакументы, уляпіў на адпаведным бланку пячатку і сказаў — ідзіце! І мы пайшлі бесперашкодна да выхаду. Мой каментарый быў кароткі: «Ад сёння люблю чорных».

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

Пакінуўшы мытны пункт, сутыкаемся з маімі старымі знаёмымі Раяй і Антосем. Шэсць гадоў я не бачыўся з імі. Са здзіўленнем сцвярджаю, што ні адзін з іх нічуць не змяніўся. Той самы выгляд. Той самы настрой, тая самая бадзёрасць. Рая дасканалы вадзіцель, для яе нью-йоркскі лабірынт не мае таямніц, і таму з поўным даверам можам даручыць ёй не толькі свае багажы, але і свае целы. Антось, наколькі мне вядома, увогуле не меў і не мае машыны. Затое ён дасканалы знаўца нью-йоркскай архітэктуры. Ніхто, як ён, зарыентаваны не толькі ў гісторыі горада, але і ў гісторыі паасобных будынкаў. З асаблівай праніклівасцю цікавіцца сакральным будаўніцтвам і ведае, калі і як будаваліся паасобныя саборы, касцёлы, кірхі, мячэці. Калі ідзем з ім, не мусім насіць у руках гарадскія даведнікі. Антось усе звесткі мае ў галаве, і гэтымі звесткамі засыпае мяне і Барташэвіча. Адкуль у яго такія веды? Зразумела, што мне не вядомы дакладныя прычыны. Здаецца мне, аднак, што такіх ведаў не будзе ніколі мець зматарызаваны жыхар Нью-Ёрка, які штодзённа праносіцца туды і назад у машыне. Няма ў яго ні часу, ні магчымасці разглядацца, назіраць, задумвацца, затрымлівацца. Тут трэба трымаць вуха востра, глядзець на святлафоравую сістэму, на машыны і асабліва на пешых, якія досыць бесцырымонна ўрываюцца на вуліцу.

Калісьці мне адзін моцна пажылы чалавек у Польшчы казаў, што ён у трыццатыя гады жыў у Нью-Ёрку і бачыў, як уладальнікі машын, дратуючы людзей, катоў ці сабак, пралятали тысячамі па целе забітага. Мушу прызнацца, што гэтае апавяданне мяне вельмі моцна ўразіла. Ніяк я не мог зразумець праяву такой вялікай бесчалавечнасці зматарызаванага чалавека-жывёліны. Апынуўшыся ў ЗША, я пытаў многіх амерыканцаў, ці такое магчыма. Усе апытаныя казалі мне, што не. Зразумела, што разгоненая машына можа пераехаць чалавека, але не можа быць такога, каб па гэтым чалавеку праехалі з халоднай абыякавасцю сотні ці тысячы машын. Значыць, чалавек той расказваў мне злую, крывавую казку. Я, на шчасце, у час знаходжання ў Амерыцы ў 1981 і ў 1987 гадах не бачыў ніводнай катастрофы. І думаецца мне, што колькасць такіх катастроф, беручы пад увагу велізарную колькасць машын, — невялікая. Справа ў тым, што амерыканцы ездзяць разважна, і ніхто нікому не стараецца імпанаваць ні размерамі, ні хуткасцю сваёй машыны.

Ад Раі і Антося даведаліся мы, што прафесар Т. Бэрд заняты ва ўніверсітэце і таму нас не сустрэў. Паведамілі нам таксама, што я буду, як і шэсць гадоў таму назад, жыць у Нюры і Валодзі, а Барташэвіч — у вельмі заможных беларусаў Веры і Францішка Б.

Вестка аб тым, што зноў буду ў пані Нюры і Валодзі, мяне шчыра ўзрушыла. Прывык я і да іх, і да іх доміка, і да іх ежы і, будучы традыцыяналістам, які не любіць перамен, вельмі ўсцешыўся, што зноў сутыкнуся з прывычным ужо для мяне ўкладам жыцця.

Тым часам Антось, чалавек з прыгожым і разумным тварам, расказваў і расказваў нам урбаністычную казку аб стварэнні і сучасным дні Нью-Ёрка. А побач хвалявалася і кіпела нью-йоркскае мора, якое не мае ні пачатку ні канца, якое не ведае, калі прачынаецца і калі засынае, якое ніколі да канца не зразумее ні свайго багацця, ні свайго ўбоства, якое не кантралюе ні свайго хараства, ні сваёй брыдоты. Нью-Ёрк — гэта многаэтнічны кацёл, у якім жыве, прынамсі, сто нацыянальнасцей і дзесяць мільёнаў чалавек. Кацёл, які безупынна падаграваецца эмоцыямі імкненняў, інтарэсаў, кар'ер, дэградацый, узлётаў і ўпадкаў.

Нарэшце семдзесят сёмая вуліца, званок у дзверы — і добры, сардэчны твар пані Нюры, якая нічуць не пастарэла за мінулыя шэсць гадоў. Зваліліся мы ўсёй гурбой у знаёмую мне ў дэталях хату, і здалося мне, што я тут ужо ад 1981 года і што нікуды я

адгэтуль не выязджаў. Павеяла блізкім і родным. Благаславёная ідэя згоды і духоўнага сваяцтва паміж людзьмі.

## ВІЗІТ ВА ЎНІВЕРСІТЭТ

Нью-йоркскі публічны ўніверсітэт займае вялікую плошчу. Галоўны будынак мае больш за дваццаць паверхаў, іншыя будынкі намнога ніжэйшыя. Іх архітэктура ўтрымана ў іспанскім стылі. Вучыцца тут каля 20 тысяч студэнтаў. У гэтым аспекце ён амаль аднолькавы з Варшаўскім універсітэтам. Паміж будынкамі многа газонаў, сквераў, дарожак і сцежак. Добры бок універсітэцкага комплексу тое, што ўсё тут на месцы і студэнт, які сапраўды хоча вучыцца, усё мае пад рукой. Наш гаспадар Томас Бэрд абвёў нас па галоўным корпусе і па дапаможных памяшканнях, у якіх змяшчаецца адміністрацыя. Трэба сказаць, што гэта апошняя катэгорыя памяшканняў як бы нават уступае нашым, адміністрацыйным. У кожным выпадку нідзе я там не бачыў халадзільнікаў, якія ў нас на факультэце русістыкі ёсць. Не бачыў таксама прыёмнікаў і тэлевізараў — прылад, якія красуюцца ў нас на Смычковай. Але ў нас на Смычковай і Штурмовай ёсць толькі адна і то дрэнная капіравальная машына, ксеракс, які да зарэзу патрэбны навуковым работнікам і студэнтам, і наогул няма апаратуры да мікрафільмавання, без якой цяжка развівацца навуковаму жыццю. Не маем таксама ніводнага камп’ютара. А ў Нью-Ёркскім універсітэце гэтыя прылады на кожным кроку. Калі мы зайшлі з Томасам Бэрдам у бібліятэку і пані бібліятэкарка, якая родам з Польшчы, паказала нам усю апаратуру і сказала, што апаратура гэта выменьваецца кожныя дзесяць год на апаратуру новага тыпу, дык я, даведаўшыся ад яе, што яна вялікі энтузіяст сушаных грыбоў, запрапанаваў ёй, каб яна ўсю непатрэбную яе бібліятэцы апаратуру перадала нашаму факультэту, а мы за гэта прышлём многа грыбоў. Бібліятэкарка вельмі ахвотна прыняла маю прапанову. Зразумела, што ўсё, сказанае на гэту тэму, мае характар жартаў, бо вядома, што не так проста вазіць грыбы ў Амерыку і апаратуру з Амерыкі.

Аўдыторныя залы аказаліся падобнымі да нашых аўдыторый. І крэслы, і сталы, і табліцы вызначаліся сціпласцю і не мелі ніякіх пераваг над нашымі сталамі, крэсламі і табліцамі.

Калі ўрэшце мы зайшлі ў сталовыя, аказалася, што ў гэтай галіне Нью-Ёркскі ўніверсітэт на галаву перавышае Варшаўскі ўніверсітэт. У Нью-Ёркскім універсітэце аж пяць вялікіх стало-

вых і адна сталовая прафесарская. З’елі мы абед у студэнцкай сталовай, бо прафесарская была яшчэ зачыненая. Выбар страў аказаўся вельмі вялікі, а цэны, як на амерыканскія ўмовы, даступныя, а як на нашы параўнанні і рэляцыі — страшныя. Бо вядома, што пяць долараў за абедзік азначала тады пяць тысяч злотых, а сёння, зразумела, болей.

Здзівіла нас і тое, што ў Нью-Ёркскім універсітэце ёсць прыгожы прафесарскі клуб з вельмі прыстойнай батарэяй гарэлак і каньякоў. Клуб гэты, хоць ён яшчэ не працаваў, мы наведалі, аднак не пілі нічога, а толькі зайздросна прыглядаліся да паліцы з бутэлькамі. Я спытаў Томаса Бэрда, ці прафесура не злоўжывае алкагольнымі напіткамі. Т. Бэрд адказаў, што клуб адкрываецца толькі пасля ўніверсітэцкіх заняткаў і што часам здараецца такое, што той-сёй з шаноўных прафесараў выйдзе часам з клуба і на крышку мяккаватых нагах.

Новым для нас было тое, што на тэрыторыі ўніверсітэта знаходзіцца вельмі багатая кнігарня, спалучаная з папяровым і газетным магазінам. Тут можна купіць усё, што звязана з патрэбай пісання і чытання. У сувязі з тым, што ў час нашага візіту Нью-Ёркскі ўніверсітэт святкаваў сваё пяцідзесяцігоддзе, у гэтай кнігарні-магазіне набралі мы бясплатна многа вельмі прыгожых нейлонавых торбаў, з малюнкам і надпісам, звязаным з юбілеем універсітэта.

Трэба сказаць, што агульнае ўражанне, вынесенае з Нью-Ёркскага ўніверсітэта, было вельмі станоўчае. Кідаецца на кожным кроку ў вочы практыцызм у падыходзе да тых усіх спраў, якія звязаны з дыдактыкай і навучаннем.

Прызнаюся, што, па сутнасці, я не высветліў справы аплаты за навуку ў амерыканскіх вышэйшых установах. У гэтай галіне ўсё ў амерыканцаў іншае, чым у нас, і вельмі рознае ў рознага тыпу ўстановах. Наколькі я добра зразумеў, у ЗША параўнаўча мала такіх вышэйшых устаноў, дзе вучаць дарам або даюць стыпендыю. Наогул, за навуку студэнт абавязаны плаціць, і то вялікія сумы. Зразумела, што нам гэта не падабаецца. Мы самі пакончалі ўніверсітэты, не плацячы залатоўкі. Не плаціць за навуку і сённяшняя генерацыя нашых студэнтаў. Не толькі не плаціць, але большасць з іх атрымлівае высокія стыпендыі. І тут мы над амерыканцамі гарой! Хто яго ведае, аднак, ці не ставіўся б студэнт да навукі больш сур’ёзна, калі б за яе трэба было плаціць, хоць бы сімвалічныя сумы?

## ПЕРШАЕ АЎТАРСКАЕ СПАТКАННЕ

Пазнаёміўшыся дакладна з універсітэтам, мы яго не пакінулі. У гэтым жа ўніверсітэце мела адбыцца маё першае публічнае выступленне. Тым, якія не ведаюць заходніх звычаяў, хачу сказаць, што на Захадзе на спатканне з замежным навуковым супрацоўнікам, як правіла, прыходзіць пяць—сем асоб. У маім выпадку было лепш. Аднак адбылося так не таму, што амерыканская грамадскасць прападае за мною, а таму, што на гэта спатканне прыйшлі беларусы, якія ўжо ведалі мяне з 1981 года. Зразумела, што мне было вельмі прыемна ўбачыць знаёмыя твары. Цікава і тое, што ніхто з маіх знаёмых за гэтыя шэсць гадоў не пастарэў, а жанчыны дык нават як бы памаладзелі.

Сустрэчу адкрыў, як і шэсць гадоў таму назад, прафесар Томас Бэрд. Гаварыў ён аб патрэбе кантактаў паміж прадстаўнікамі Усходу і Захаду. Успомніў вельмі сімпатычна свой побыт у Польшчы як удзельніка канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Падкрэсліў патрэбу культурнага, навуковага і паэтычнага абмену. Пасля ўступнага слова перадаў голас мне.

Не выпадае мне шырока разводзіцца аб тым, як я гаварыў, што я гаварыў і якое выклікаў уражанне. Было б гэта нясціпласцю. Скажу толькі, што гаварыў аб асноўных напрамках дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, аб бляcках і ценях паэтычнай прафесіі. Галоўную ўвагу прысвяціў пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, раздаў бланкі прыгожых падзяк, якія апрацаваў графічна наш гайнаўскі мастак Янка Салавянюк, тым прысутным, якія ўнеслі акрэсленыя сумы ў фонд пабудовы музея. Падзякі вельмі спадабаліся. У сувязі з тым, што я прасіў уносіць далейшыя складчыны, прысутная Вера Бартуль паінфармавала мяне, што яна сабрала яшчэ больш чым 400 долараў на музей.

Прысутныя задалі мне шэраг пытанняў, якія галоўным чынам адносіліся да стану нацыянальнай свядомасці сярод беларускай меншасці ў Польшчы. Другая катэгорыя пытанняў была звязана, калі так можна назваць, з характарам і натурай паэтычнай творчасці. На просьбу прысутных давялося чытаць свае вершы. Некаторыя пытанні адносіліся да прысутнага на сустрэчы дэкана Альберта Барташэвіча, які даволі шырока расказаў аб працах, звязаных з беларуска-польскім слоўнікам.

Аказалася, што сярод слухачоў знаходзяцца мае старыя знаёмыя, пляменнікі Якуба Коласа — Валянцін і Алесь. Для

паясненне інфармую, што яны — сыны роднай сястры Якуба Коласа Міхаліны, якая, маючы з дому прозвішча Міцкевіч, выйшла замуж таксама за Міцкевіча. Алесь жыве да сёння з родным братам Якуба Коласа Міхасём. Шэсць гадоў таму назад я быў у доме Алеся і сустрэўся там з яго дзядзькам Міхасём Міцкевічам. Зразумела, што сустрэча з родным братам славутага пісьменніка не магла не выклікаць у мяне хвалявання. Я, зрэшты, пісаў аб гэтым у сваіх рэпартажах, змешчаных у «Ніве» за 1982 год. У час даўжэйшай размовы з Алесем Міцкевічам даведаўся я, што Міхась Міцкевіч цяжка хворы, што яму ўжо за 90 і што на гэты раз з увагі на стан здароўя сустрэча з Міхасём немагчыма. Зразумела, што вестка аб дрэнным здароўі апошняга жывога брата Якуба Коласа мяне моцна засмуціла. Вядома, што чалавек, які перакрочыў 90 гадоў, не можа разлічваць на аптымістычныя перспектывы. Прызнаюся, што мне сардэчна шкада Міхася Міцкевіча. Вярнуўшыся ў Польшчу, я атрымаў ад Алеся Міцкевіча 131 нумар «Вестак — Паведамленняў Аддзелу Беларуска-амерыканскага задзіночання», у якім на першым месцы знайшоўся наступны камунікат:

«Прафесар Бэрд з Квінс каледжу запрасіў на 16 кастрычніка дэкана Катэдры Беларускай Філалогіі пры Варшаўскім універсітэце праф. Барташэвіча й кіраўніка гэтай Катэдры Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага) прачытаць даклад пра працу ў катэдры й пра пісьменніцкую й грамадскую дзейнасць А. Баршчэўскага, які з’яўляецца й старшынёй Беларускага грамадска-культурнага Таварыства ў Польшчы.

А. Баршчэўскі гаварыў пра ролю, долю паэта, ды пра паэзію наогул. Ён казаў, што часамі ўкрадаецца такая мінута, калі паэт сумняваецца ў эфекце паэзіі. Але калі ён прадэкламаваў некалькі сваіх вершаў, а ў тым ліку верш «Маці», то пераканаўся аб добрым эфекце свае паэзіі на прысутных. Па дакладзе А. Баршчэўскі расказаў пра ход пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы ды апэляваў да беларусаў Амерыкі, каб памагчы Музею грашова».

Гэтае прыемнае для мяне першае спатканне закончылася гарбатай і коржыкамі. У нас, як вядома, такія сустрэчы найчасцей заканчваюцца па-другому.

## БІБЛІЯТЭКА

Я некалькі разоў быў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы на 42-й вуліцы. Чым яна мяне прыцягнула? Справа ў тым, што ў гэтай бібліятэцы працуе беларуска Зора К. і што гэта бібліятэка з'яўляецца месцам найбольшага сховішча беларускіх кніг у ЗША. Агулам беларускіх кніг у ёй больш чым 4000 экзэмпляраў. Сярод іх ёсць і кнігі вельмі рэдкія. Для прыкладу, усе тамы «Беларусаў» Я. Карскага, усе тамы «Люду беларускага» М. Федароўскага. Не без значэння і тое, што бібліятэка збірае ўважліва ўсе публікацыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і «Ніву». Апрача Нью-Ёркскай наведаў я бібліятэку ўніверсітэта, які мяне запрасіў, і гарадскую бібліятэку ў Кліўлендзе, якая таксама мае беларускі аддзел. Зразумела, што вельмі прыемна, калі ў краіне, аддаленай ад твайго краю на дзевяць тысяч кіламетраў, знаходзіш кнігі, выдадзеныя арганізацыяй, якой сам кіруеш. Вядома, што маю на думцы Беларускае таварыства ў Польшчы. Яшчэ прыемней сустрэць сваю ўласную кніжку.

Але сёння хачу гаварыць аб тэхнічным абсталяванні амерыканскіх бібліятэк. Інфармацыю гэту хачу, аднак, папярэдзіць весткай непрыемнага характару. Ва ўсіх наведаных мною бібліятэках пытаў я, ці наведвальнікі крадуць кнігі, і ўсюды атрымліваў адказ, што крадуць, ды многа. Можа, аднак, лепш было б сказаць, кралі многа, а цяпер крадуць мала. Можа хтосьці падумаць, што ў апошні час амерыканскае грамадства настолькі перавыхавалася, што крадзяжом кніжак не займаецца. Аднак не ў гэтым сабака закапаны! Радыкальнае змяншэнне пакражаў кніжак у амерыканскіх бібліятэках звязана з тэхнікай, якая ўвайшла ў гэтыя бібліятэкі. Яшчэ скажу, што, паводле інфармацый персанала бібліятэк, найбольш кніг кралі студэнты, а цяпер тыя ж студэнты крадуць мала. Чаму? Таму што ў кожнай чытальні стаяць капіравальныя машыны — ксеракс, і кожны наведвальнік, калі толькі хоча, можа сабе на працягу адной гадзіны перафатаграфаваць любую тоўстую кнігу, а тонкую — на працягу 10–15 мінут. Аплата за такую паслугу мінімальная. Зразумела, што ў такой сітуацыі студэнту «не аплочваецца» красці кнігу, бо ўсё-такі ўсюды ёсць кантроль; выносячы крадзеную кнігу, можна папасціся і страціць доступ да бібліятэкі. Вядома, што ўвогуле ліквідаваць пакражу кніжак не ўдаецца нідзе і нікому, аднак апісаны мною просты спосаб абмежаваў пакражу кніжак радыкальна.

Яшчэ адна з’ява — поўная камп’ютарызацыя бібліятэчнай інфармацыі. Быць можа, не ўсе ведаюць аб тым, што калі я хачу даведацца, якія кнігі такога ці іншага аўтара знаходзяцца ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта, дык мушу пайсці ў аддзел каталогаў і там у скрыначках шукаць паасобныя лісточкі. А якія кнігі гэтага ж аўтара знаходзяцца ў іншых польскіх бібліятэках? Магу даведацца, але мушу паехаць у тыя мясцовасці, у якіх гэтыя бібліятэкі знаходзяцца. А як гэта выглядае ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы? Праверылі мы з Барташэвічам гэту справу вельмі проста. Спыталі паню Зору К., а яна падышла да камп’ютара і выклікала на яго экран прозвішча — Альберт Барташэвіч — і зараз жа на гэты экран пачалі выплываць усе загалоўкі тых яго кніжак, якія знаходзяцца не толькі ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, але і ў цэлай Амерыцы.

Пасля пані Зора К. выклікала маё прозвішча, і зноў вялікі і ўслужлівы камп’ютар пачаў закідваць назвы маіх кніжак. І вось тут даведаўся я, што Нью-Ёркская бібліятэка мае другі том маёй «Гісторыі беларускай літаратуры», але не мае першага тома. Не мае таксама першага майго зборніка «Белавежскія матывы» і перакладу на польскую мову паэмы Янкі Купалы «Яна і я». Я паабяцаў прыслаць гэтыя кнігі, але дагэтуль не выслаў.

Вось так выглядае тэхнічная база амерыканскіх бібліятэк. Прызнаюся, што я глядзеў з зайздрасцю на гэтыя тэхнічныя навінкі і паціху марыў аб тым часе, калі ў нас яны паявяцца і так геніяльна пачнуць дапамагаць чытачу.

Ну, а як дарагія кнігі ў ЗША? Мушу сказаць, што дарагія або нават вельмі дарагія. Быў я ў амерыканскай кнігарні і аглядаў альбомы з жывапісам. Кнігі гэтыя каштавалі 50, 70, 100 і 120 долараў. Зразумела, што не кожны чалавек можа дазволіць сабе купіць такую кнігу. Але нямала ёсць і такіх, якія каштуюць 5, 10 і 20 долараў, і гэта на амерыканскія ўмовы нямнога.

## ВЫГЛЯД ВУЛІЦЫ

Кажучы аб выглядзе вуліцы, маю на думцы не толькі будынкі, асфальт, тратуары, але таксама людзей, якія па вуліцы ходзяць. Трэба адразу сказаць, што выгляд вуліцы ў Нью-Ёрку і, скажам, у нейкім малым мястэчку вельмі адрозніваецца. З гэтай прычыны не бяруся за характарыстыку амерыканскіх гарадскіх вуліц увогуле, а буду казаць толькі аб вуліцы нью-ёркскай, як найбольш характэрнай для амерыканскіх вялікіх гарадскіх кангламерацый.

Аб адной рысе нью-йоркскай вуліцы, аб жабрацтве, пастараюся расказаць у наступным адрэзку сваіх рэпартажаў. Сёння хачу сказаць аб яшчэ горшай праяве вулічнай амерыканскай рэчаіснасці. Перад тым як назаву яе, прывяду прыклад. Вялікі знаўца амерыканскай рэчаіснасці, чалавек выключнай актыўнасці і дысцыпліны, чалавек з камп'ютарным мысленнем Вітаўт К., пабачыўшы, як я выняў з нагруднай кішэні свой кашалёк з грашыма, спытаў:

— Вы ўсе свае грошы так носіце?

— Усе.

— Ні ў якім выпадку так нельга насіць, нельга!

— Чаму?

— Таму, што забяруць усё да цэнта! Трэба ў кашальку насіць толькі невялікую суму, а рэшту хаваць.

А дзе ж іх схаваеш?

Пан Вітаўт падняў нагу, задраў калошыну нагавіц і сказаў:

— У шкарпэтцы, а яшчэ лепш у боце.

— Дык і там могуць знайсці?!

— Наогул не маюць на гэта часу. Яны гэту штуку робяць вельмі хутка і найчасцей лезуць у кішэні пінжака і нагавіц.

Пасля гэтай лекцыі я быў асцярожны і пакідаў грошы на кватэры. Калі б у мяне, не дай Бог, забралі 900 долараў, якія я назбіраў на Беларускі музей, дык я расплачваўся б за іх да канца жыцця.

Расказаў мне пан Антось Ш., як яго пабілі і абрабавалі пры выхадзе з метро.

Значыць, на вуліцах вялікіх амерыканскіх гарадоў выступае і такая адмоўная з'ява, як разбой. Можа хтосьці спытаць: а як часта бываюць разбоі ў Амерыцы? Адкажу — не ведаю. На шчасце, тое, што я сказаў, з'яўляецца толькі пераказам пачутага. Я асабіста не быў сведкам ніякіх разбояў.

Другая ўласцівасць амерыканскай вуліцы — гэта мноства на ёй выкінутых рэчаў. Бачыў я на ёй не толькі пустыя банкі, газеты, элементы вопраткі, але і тапчаны, а нават тэлевізары. Усё, што непатрэбнае, жыхары амерыканскіх гарадоў выкідаюць на вуліцу. Можа, лепш было б сказаць, не ўсё, але многае. Бо асноўная маса смецця, хоць і выкінутая на вуліцу, то ўсё ж такі знаходзіцца ў завязаных чорных нейлонавых мяшках.

Многія людзі пытаюць мяне: «Ну а як амерыканцы апранаюцца?» Несумненна, спосаб апранання таксама складаецца на непаўторную спецыфіку амерыканскай вуліцы. Наколькі, гаворачы аб Англіі, можам сказаць аб пэўным стылі, асабліва

ў мужчын, настолькі аб амерыканскім стылі ў вопратцы нічога не скажаш. Пануе ў гэтай галіне поўная свабода, якую можна было б назваць нават хаосам. Руская прыказка: «По одежде встречают, по уму провожают», мне здаецца, у Амерыцы не мае прымянення. Не думаю, каб у Амерыцы ацэньвалі людзей на падставе вопраткі, якую яны носяць. Здаецца мне, што амерыканцы перш за ўсё думаюць аб тым, каб вопратка была зручная, а не прыгожая і модная. Прабыўшы ў суме дзевяць тыдняў у Амерыцы, я нідзе і ні ад каго не чуў, каб хтось аб іншым сказаў, што той быў прыгожа або брыдка апрануты. Прызнаюся, што мне такі падыход да справы вельмі даспадобы.

І так, канчаючы, хачу падкрэсліць яшчэ і тое, што амерыканскія вуліцы нават у Нью-Ёрку не маюць аднаго твару. Як жа розныя яны на Мангэтане, у Гарлеме, на Брадвеі, у раёне Порта-Рыка, у раёне нямецкім ці кітайскім. Не хапае мне, аднак, ведаў, каб усе гэтыя «твары» апісваць.

## СМЕЦЦЕ

Многія чытачы, напэўна, скажуць: аб чым як аб чым, але аб смецці ў Амерыцы можна было б і не пісаць. Праўда. Можна было б не пісаць не толькі аб смецці, але і аб усім іншым. У Амерыку ляцяць і плывуць штодзённа з Польшчы сотні людзей. Аднак, вярнуўшыся з яе, толькі адзінкі нешта там пішуць. А калі ўжо нехта піша, дык перш за ўсё аб тым, што яго ўразіла, што яго захапіла, або аб тым, што яму не спадабалася. Няма сэнсу пісаць аб тым, што наогул не выклікала ніякага ўражання. Я пісаў ужо, што вялікія амерыканскія гарады вельмі брудныя. Чаму? Думаю, што ёсць дзве прычыны такога стану. Першая заключаецца ў тым, што амерыканскія гарады па-за цэнтрамі, дзе стаяць найчасцей небаскробы, складаюцца з велізарнай колькасці маленькіх домікаў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы, калі самалёт пачынае зніжацца і перад табой паяўляецца бяскрайняе мора аднасямейных домікаў. Амерыканцы не церпяць многапавярховых і многакватэрных дамоў. Кожны, хто толькі можа, купляе для сябе домік, дзе ён сам сабе пан. Зразумела, што мільённы, а тым болей пяці ці дзесяцімільённы горад пры такой агламерацыі домікаў займае аграмадную прастору. Не ведаю, якую плошчу займае Нью-Ёрк, але напэўна сотні кіламетраў. А калі так, дык практычна гарадскія службы не ў стане замесці ўсе вуліцы. Другая прычына заключаецца ў тым, што амеры-

канцы вельмі дбаюць пра парадак, але ў сваіх дамах, у сваіх агародчыках, але не пераймаюцца наогул вуліцамі. Многія з іх ідуць па вуліцы, нешта там ядуць і, зразумела, усякую ўпакоўку кідаюць абы-дзе.

Можа, варта пры нагодзе сказаць і аб тым, што дзе як дзе, але ў Амерыцы ні людзі, ні магазіны не маюць найменшага клопату з упакоўкай. У кожным магазіне пакупнік бярэ колькі яму трэба нейлонавых або папяровых торбаў. І калі б, купляючы бульбу, сказаў кожную бульбіну пакласці ў асобны нейлонавы мяшок, дык ніхто яму не сказаў бы з гэтай прычыны благога слова. Апрача гэтага, вельмі многія прадукты, напрыклад, піва, сокі, малако, кока-кола, яйкі — усё гэта купляецца ў адпаведнай упакоўцы або посудзе, якія, спажыўшы прадукт, трэба выкінуць. Праўда, наогул посуд і ўпакоўку ўжо непатрэбную амерыканцы складваюць у вялікія нейлонавыя мяшкі, якія, завязаўшы, выстаўляюць на вуліцу, каб маглі імі заняцца гарадскія службы. Аднак вядома, што амерыканцы вялікую колькасць ежы, асабліва піва і сокаў, спажываюць на вуліцах, у скверах, у парках і ў метро. Зразумела, што многія не шукаюць расстаўленых скрынак і кідаюць непатрэбную ўпакоўку дзе папала. А гэта, як вядома, не прыдае гораду прывабнага выгляду. Адзін беларус з Нью-Ёрка сказаў, што вычытаў у энцыклапедыі, нібы кожны дзень з гэтага горада спецыяльныя службы вывозяць 250 тысяч тон смецця! Многа. А колькі яшчэ яго валяецца па вуліцах, скверах, у метро? Таксама многа. Беручы пад увагу мільённае насельніцтва горада, на кожнага стотысячнага жыхара прыпадае 250 кг адпадкаў у дзень.

Я думаў, што амерыканцы, як і японцы, усе адпадкі выкарыстоўваюць у нейкіх там прадукцыйных працэсах. Аказваецца, не. Я зусім выпадкова высветліў гэту справу. Калі мы ехалі з Сяргеем з Кліўленда ў бок Чыкага, мне кінулася некалькі разоў у вочы і ў нос дзіўная з'ява. На некаторых адрэзках аўтастрады вельмі непрыемна пахла, а побач з дарогай узвышаліся велізарныя зямныя не то ўзгоркі, не то сцірты. Над гэтымі ўзгоркамі ўзбіваліся або ападалі ўніз аграмадныя хмары птушак. Я спытаў Сяргея, ці ён мне можа патлумачыць гэту з'яву. І Сяргей сказаў, што «сцірты» — гэта горы смецця, якое прывозіцца сюды з вялікіх гарадоў. Дадаў ён, што нейкія там спецыяльныя трамбавальныя машыны ці бульдозеры мяшаюць смецце з пяском або абсыпаюць пяском з усіх бакоў. Зразумела, што робіцца гэта, мабыць, не адразу і таму на працягу пэўнага часу птаства мае доступ да ападкаў, а непрыемныя пахі маюць

доступ да насоў тых людзей, якія будуць знаходзіцца блізка ад такіх сметнікаў.

У многіх гарадах Амерыкі збудаваны фабрыкі, у якіх спальвалася смецце. Аднак фабрыкі гэтыя ліквідаваны, бо аказалася, што яны моцна атручваюць паветра. У такой сітуацыі ўзніклі фабрыкі, якія смецце прасуюць і часам за тысячы кіламетраў вязуць у тыя штаты, дзе можна яго складваць. Як фантазія, гучыць канцэпцыя, каб смецце выкідаць у космас.

Можа, хтосьці са сказанага мною зробіць вывад, што амерыканскі народ бруднаваты. Я пытаў бывалых людзей аб гэтым. Усе яны давалі мне адназначны адказ. Гаварылі, што жыхары Амерыкі не толькі ў параўнанні з нейкімі там адсталымі народамі, а таксама ў параўнанні з французамі ці англічанамі з'яўляюцца грамадствам, якое вельмі дбае пра сваю гігіену. Вядома, што амерыканскае грамадства складаецца са ста этнічных і нацыянальных абшчын і што ў сувязі з гэтым па-рознаму выглядае справа чысціні і гігіены ў гэтых групах. Аднак наогул амерыканцы вельмі многа расходуюць вады, мыла, зубной пасты і туалетнай паперы і вядома, што не маюць найменшых цяжкасцей з купляй гэтых артыкулаў. А што на вуліцах паводзяць сябе неахайна, дык гэта таксама святая праўда.

## ЦЭНЫ

Вельмі часта сябры, якія ведаюць, што я быў у Амерыцы, пытаюць мяне, колькі там што каштуе. Так было шэсць гадоў таму назад, так ёсць і сёння. З гэтага вынікае, што людзей цікавіць, колькі за зробленыя грошы можа купіць амерыканец, а колькі купіць польскі грамадзянін. Здарылася і такое, што нейкі карэспандэнт зусім без патрэбы знерваваўся і крыкнуў у «Ніве»: «Чаму гэта Баршчэўскі не напісаў, колькі ў Амерыцы варты долар?!»

Калісьці выдатны польскі пісьменнік Мельхіёр Ванькові́ч такога тыпу людзям, якія крычаць на аўтараў і прыціскаюць іх да сценкі за тое, што яны не напісалі таго ці сяго, адказваў вельмі разумна: «Таму што не пісаў, і ўсё». Ніхто ніколі на свеце не напіша ўсяго. Усе мы пішам толькі нешта малое з тае аграмаднасці, якая з'яўляецца светам. Права пісьменніка ці публіцыста — пісаць аб тым, аб чым ён хоча. Я асабіста стараюся ў жыцці не крычаць на іншых і не люблю, калі іншыя крычаць на мяне. І таму, калі сёння пішу аб цэнах у ЗША, дык выходжу

насустрач тым, хто мяне пытаў аб гэтай праблеме, але не тым, хто на мяне крычаў.

Аднак пачну з афіцыйнай заявы. Заключаецца яна ў тым, што я ў ніякім выпадку не з'яўляюся спецыялістам у галіне амерыканскіх цэн. Я толькі лізнуў таго-сяго і сваімі павярхоўнымі ведамі прагну падзяліцца з чытачамі. І яшчэ адна спасцярога: гаворка аб цэнах, па сутнасці, не мае сэнсу, калі не будзем адначасова гаварыць аб заробках. На жаль, і ў гэтай галіне ведаю даволі мала. Таму абмяжуюся толькі дзвюма катэгорыямі амерыканцаў — прафесара ўніверсітэта і пенсіянера. Прафесар зарабляе дзве з паловай тысячы долараў у месяц, пенсіянер — пяцьсот долараў у месяц. Для прыкладу скажу, што прафесар у Польшчы атрымлівае 80 000 зл. у месяц, а пенсіянер найніжэйшай катэгорыі атрымлівае каля 15 000. Прыгледзьмася, што можа купіць амерыканскі прафесар, а што польскі за месячную зарплату:

— 25 веласіпедаў, польскі — 3 веласіпеды;

— 25 двухкасетных магнітафонаў, палова магнітафона такога класа;

— 12 касцюмаў, 3 касцюмы;

— 100 бутэлек гарэлкі, 50 бутэлек гарэлкі;

— 150 абедаў у рэстаране, 80 абедаў;

— 350 кілаграмаў мяса, 150 кілаграмаў;

— 2,5 білета на самалёт з Нью-Ёрка ў Варшаву і назад, адна пятая білета з Варшавы ў Нью-Ёрк;

— 700–800 долараў аплата за кватэру плошчай 100 квадратных метраў;

— 1000 літраў бензіну, 660 літраў бензіну;

— 1/4 аўтамашыны, 1/25 аўтамашыны;

— 2500 білетаў на аўтобус або на метро; 5333 білеты на аўтобус;

— 1250 кілаграмаў хлеба, 1300 кілаграмаў хлеба.

Як бачым, у большасці выпадкаў амерыканскі прафесар у лепшай сітуацыі, чым польскі. Трэба адзначыць, што амерыканскі прафесар не мае льгот на чыгуначныя білеты. Не можа паехаць так, як ездзіць польскі прафесар, на летні танны адпачынак, не карыстаецца бясплатнай медыцынскай апекай. І, нягледзячы на гэта ўсё, амерыканскі прафесар жыве значна лепш, чым польскі. Трэба, аднак, сказаць і аб тым, што ён болей, чым польскі, працуе. Для прыкладу скажу, што ведаю ні аднаго з многіх польскіх прафесараў, якія на працягу года выязджалі па

адным разе ў Францыю, ФРГ, Англію, Канаду, ЗША, Югаславію і пяць разоў у СССР.

Кошты, звязаныя з пераездамі самалётамі або цягнікамі, у выпадку польскага прафесара аплаціла дзяржава. Зрэшты, не толькі кошты білетаў, але і ўтрыманне ў выпадку выезду ў сацыялістычныя краіны. Такіх магчымасцей абсалютна не мае амерыканскі прафесар. Ён мусіць працаваць, а не ездзіць па свеце, а калі выедзе, дык не болей, чым адзін-два разы ў год.

Дзеля шырэйшай арыентацыі, магу падаць некаторыя іншыя цэны тавараў без супастаўлення іх з такімі ці іншымі прафесіямі:

Легкавая аўтамашына — 8–25 тыс. долараў.

Боты — 50–150 долараў.

Кажух — 150–250 долараў.

Куртка — 25–40 долараў.

Тачка — 70 долараў.

Бензінная піла — 250 долараў.

Кілаграм хлеба — 1–3 долары.

Ну, а што да найніжэйшых катэгорый пенсіянераў, якія ў ЗША атрымліваюць 500 долараў, а ў нас 15 000 злотых, дык чытачы самі параўнаюць іх патэнцыяльныя магчымасці.

Гаворачы аб амерыканскіх цэнах і параўноўваючы іх з нашымі, не можам не браць пад увагу, што ёсць тры вялікія галіны жыцця, якія зусім па-другому трактуюць у Амерыцы, чымсьці ў нас. Маю на ўвазе аплату за кватэры, аплату за навуку і аплату за лячэнне. Ва ўсіх гэтых сферах грамадзяне Польшчы маюць вялікую перавагу перад амерыканскімі грамадзянамі. Бясплатная навука і зусім бясплатнае лячэнне ў Амерыцы — рэдкасць. Аплата за кватэры ў Амерыцы значна большая, чым у нас.

Можа хтосьці сказаць: дэталі, дэталі, а нас цікавіць агульнае параўнанне жыцця амерыканца і жыхара Польшчы. Нават калі ўлічым вялікую армію беспрацоўных, з якіх многія жывуць на мяжы нэндзы, дык і ў такім выпадку так званы сярэдні ўзровень жыцця паляка і амерыканца — на карысць амерыканца.

І гэта поўнасцю зразумела. Трэба сказаць ясна і выразна: амерыканцы значна лепш працуюць, чым мы, і значна лепш жывуць. А тыя людзі, якім здаецца, што ў Амерыцы грошы самі сыплюцца ў кішэню, сутыкнуўшыся з амерыканскай рэчаіснасцю, моцна расчароўваюцца. Амерыка — гэта краіна, у якой выступаюць праявы найбольшай раскошы і найбольшай нэндзы.

## ЖАБРАЦТВА

Амерыка — адна з найбагацейшых краін свету. Адносіцца гэта і да дзяржавы як цэласнасці і да грамадзян. Аднак у амерыканскім грамадстве нямала людзей бедных. Не толькі наша прэса, але і прэса амерыканская піша аб бяздомных і недаядаючых у ЗША. Хачу сказаць, што я гэтай праблемай глыбінна не займаўся і мае веды ў гэтай галіне вельмі абмежаваныя. З гэтай прычыны не маю права выказвацца на гэту тэму катэгарычна. Не ведаю, колькі ў Амерыцы бяздомных і недаядаючых. Не ведаю, чыя віна ў тым, што ёсць такая з'ява. Не ведаю, ці бяздомныя і паўгалодныя — гэта вылюдкі, людзі дна, якія не хочуць не толькі працаваць, але, як сказаў Рэйган, не імкнуцца нават зацікавіцца тым, дзе знаходзяцца начлежныя дамы і ў якім месцы выдаюць бясплатную ежу. Не ведаю, ці людзі трапляюць у такі стан таму, што не могуць знайсці працы, ці таму, што пагарджаюць усякай працай.

Ведаю толькі, што такая з'ява існуе, што кідаецца яна ў вочы. Дарэчы, я на гэты раз па-за Нью-Ёркам і Кліўлендам не быў у вялікіх амерыканскіх гарадах. І таму не магу выказвацца ўвогуле аб амерыканскай рэчаіснасці і расцягваць жабрацтва, аб якім хачу гаварыць, на ўсю Амерыку. Са з'явай гэтай, якая, несумненна, надта псуе, калі так можна сказаць, амерыканскі пейзаж, сутыкаўся я часта ў Нью-Ёрку і не бачыў у меншых гарадах, якія наведваў. Не ведаю, ці нехта з амерыканскіх сацыёлагаў падлічыў, колькі ў Амерыцы жабракоў і якая «геаграфія» іх размяшчэння. У кожным выпадку жабракоў у Нью-Ёрку даволі многа. Многія з іх выклікаюць прыгнятальнае ўражанне. І што яшчэ цікавае — сярод амерыканскіх жабракоў намнога больш маладых, чым старых, і намнога больш мужчын, чым жанчын. І гэтыя прапорцыі зусім супрацьлеглыя, чым у нас. У Польшчы жабруюць амаль выключна людзі старэйшыя і, калі не памыляюся, болей-меней раўнаважыцца сярод жабракоў група мужчынская і жаночая. І яшчэ адна асаблівасць амерыканскіх жабракоў: большасць з іх — чорныя.

Дзе канцэнтруюцца амерыканскія жабракі? Галоўным чынам у цэнтральных раёнах Нью-Ёрка. Многа іх на станцыях метро. Трэба сказаць, што нью-ёркскае метро вельмі старое і вельмі бруднае. І, несумненна, цяжка глядзець на маладога чалавека, які сядзіць, прыкрыўшы плечы пледам або і без пледа, сярод смецця і ападкаў, проста на бетоне лесвіцы, якая вядзе ў падзямелле або з падзямелляў наверх.

Асобная катэгорыя жабракоў шнырыць па вагонах метро. Некаторыя з іх не выдаюць сябе за жабракоў, наадварот, прыкідваюцца прадстаўнікамі такога ці іншага руху. Для прыкладу, многія звяртаюцца да пасажыраў у вагоне з просьбай даваць грошы на лячэнне наркаманаў або на лячэнне хворых на СНІД. Давялося мне бачыць і белага, моцна зарослага валасамі чалавека з мыліцамі, які, увайшоўшы ў вагон, назваў сябе ахвярай-інвалідам в'етнамскай вайны. Вельмі горача і палка гаварыў ён аб тым, што Амерыка прымусова паслала яго ў В'етнам, што зрабіла з яго забойцу і што пасля, калі ён быў цяжка паранены і вярнуўся назад, пакінула без сродкаў, і таму ён прымушаны звяртацца па дапамогу да грамадзян.

Неяк так злажылася, што ў адзін і той самы вагон на трох чарговых станцыях увайшло трое жабракоў і адзін з іх прасіў грошай на наркаманаў, другі на ахвяраў СНІД, а трэці прадстаўляў сябе як ахвяру в'етнамскай вайны. Я з цікавасцю прыглядаўся, як людзі рэагуюць і як часта даюць. Першым двум даваў прыблізна кожны дзясяты пасажыр, а апошняму — кожны пяты-сёмы. Няўжо в'етнамскі комплекс надалей прыгнечвае амерыканцаў? Не ведаю. Тым болей усё гэта незразумела, калі ўзяць пад увагу тое, што ўсе амерыканцы, да якіх я звяртаўся, гаварылі, што ўсё гэта містыфікацыя і ніякі сапраўдны інвалід в'етнамскай вайны не вымушаны ў Амерыцы жабраваць. Прызнаюся, што не маю ў гэтай справе яснасці.

Бачыў я многа жабракоў і на вуліцах. Стаяць яны на тратуарах, трымаюць у руках пластмасавыя кубачкі і моцна патрасаюць імі. Досыць назойліва падстаўляюць прахожым кубачкі пад нос. Аднак нідзе не бачыў, каб хапалі за полы. У адным выпадку я пашкадаваў, што не маю фотаапарата. Малады жабрак ляжаў не ўздоўж, а поперак тратуара і, палажыўшы галаву на руку, спаў. Перад ім стаяў кубачак, а ў кубачку адзін папяровы долар і крышку манет. Блізка Брадвея, раёна тэатраў і кабарэ, я мінут 15 стаяў у такім пункце, з якога бачыў двух жабракоў. Цікавіла мяне, як часта даюць амерыканцы жабракам міласціну. Быў крыху здзіўлены, таму што на працягу гэтых 15 мінут ніхто не даў ім ніводнага цэнта. Ці сведчыць гэта аб тым, што амерыканцы скупыя, ці проста лічаць яны, што жабруюць звычайныя лодыры, якім памагаць не варта — не ведаю.

## АЎТАМАШЫНЫ

Колькі аўтамашын у ЗША? Так я і не даведаўся, хоць пытаў аб гэтым многіх. Можа, было б лепш сказаць: даведаўся, але не дакладна. Сказалі мне, што на адну статыстычную сям'ю ў Амерыцы прыпадаюць тры машыны. Калі б так было сапраўды, дык у ЗША было б каля 180 мільёнаў аўтамашын, бо ўсіх сем'яў у ЗША каля 60 мільёнаў. І гэтая, па сутнасці, не змяшчальная ў нашых паняццях колькасць машын кідаецца ў вочы і вушы на кожным кроку. Трэба, аднак, сказаць і тое, што не кожная сярэдняя, а нават і не кожная вялікая сям'я мае машыну. Аднак не мала ёсць такіх, у якіх кожны дарослы чалавек мае машыну. Гэта значыць, што ёсць сем'і, на якія прыпадае па чатыры, пяць або сем машын.

Аўтамашына зрабілася ў Амерыцы надзённым прадметам, калі так можна сказаць, інструментам працы. Справа ў тым, што гарадскі транспарт у Амерыцы не дзейнічае з такой рэгулярнасцю і частотнасцю, як у нас. Апрача гэтага, трэба ведаць і аб тым, што амерыканскія гарады па-за цэнтрамі — гэта кангламерацыі, якія складаюцца з вельмі нізкіх адно- або двухпавярховых домікаў. У сувязі з гэтым, скажам, мільённы горад, не кажучы ўжо аб сямі- васьмімільённым, займае велізарную плошчу. Вядома, што людзі наогул не працуюць там, дзе жывуць. Працуюць у іншым месцы, часта вельмі далёка ад месца жыхарства. У такой сітуацыі дабрацца да месца працы вельмі цяжка, і толькі ўласная машына можа дапамагчы вырашыць гэту праблему. З другога, аднак, боку трэба сказаць і аб тым, што велізарная колькасць машын — сведчанне заможнасці і багацця амерыканскага грамадства. Можа нехта з чытачоў спытаць: як сабе амерыканцы радзяць з бензінам? Я не ведаю, як радзяць у аспекце агульнадзяржаўным. Чуў, што большасць «спажыванага» бензіну купляюць па-за межамі. Зразумела, што бензіну ёсць колькі хочаш, і амерыканцы не вельмі разумеюць нашы цяжкасці, звязаныя з картачнай сістэмай на паліва. Сімптомная і другая з'ява: бензін у ЗША танны. Аднак не быў такі танны заўсёды. Гадоў 10–12 таму назад, калі краіны Блізкага Усходу радыкальна паднялі цану бензіну, паліва гэта моцна падаражала ў ЗША. Пачалі тады амерыканцы купляць малыя самаходы. Усюды вялася прапаганда, каб не ездзіць без патрэбы і каб у машыне не ехаў толькі адзін, але некалькі чалавек. Даволі хутка, аднак, багатыя заходнія краіны знайшлі спосаб на краіны-экспарцёры нафты, і цэны на паліва пачалі хутка падаць. Адзін мой знаёмы

ў Кліўлендзе спытаў у мяне, колькі я магу купіць літраў бензіну за свой месячны заработак. Калі я палічыў і сказаў, знаёмы не хацеў паверыць. Калі мы разам пералічылі мае і яго заробкі на бензін, дык сапраўды аказалася, што знаёмы можа купіць намнога больш, чым я. Актуальна бензін у ЗША каштуе 25–30 цэнтаў за літр — значыць, вельмі танна. Вядома, што гэта спрыяе матарызацыі.

Аўтамашыны і дарогі —гэта родныя сёстры. Трэба сказаць, што першакласных дарог у Амерыцы вельмі многа. Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, але чуў, што каля паловы сусветных аўтастрад прыпадае на Амерыку. Ну, але вядома, што кожны медаль мае два бакі. Гэту праўду пацвярджае і Амерыка. Амерыканскія дарогі, як правіла, платныя. Мы ездзілі па 200, па 500 кіламетраў, і заўсёды на такіх адрэзках дарог болей-меней праз кожныя 100 кіламетраў стаяць упоперак шашы будкі, і трэба плаціць прыкладна па два-тры долары.

І яшчэ адна справа, справа гаражоў. Практычна амаль кожны ўладальнік аднасямейнага доміка мае пад гэтым домікам гараж. Аднак гэтыя гаражы не змяшчаюць усіх аўтамашын. Таму ўсе вуліцы абстаўлены машынамі з аднаго і другога боку. На многіх вуліцах, асабліва ў цэнтры, нельга трымаць машын на вуліцы бясплатна. На тратуарах стаяць слупкі са шчылінамі. Гэта лічнікі. Трэба ў іх кідаць, у залежнасці ад часу стаянкі, манеты. Хоць слупкі і выглядаюць прымітыўна, аднак ашукаць іх нельга. Яны добра выконваюць свае абавязкі і верна служаць дзяржаве.

Здзівіла мяне хуткасць, з якой амерыканцы ездзяць па сваіх дасканалых дарогах. Яна невялікая, каля 100 кіламетраў. Ніхто не абганяе там, дзе не трэба. Не імпануе сваёй машынай. Таму і колькасць катастроф у параўнанні з колькасцю машын невялікая.

## АБ НЕБАСКРОБЕ

Ёсць на Мангэтане ў Нью-Ёрку славуты больш чым стопавярховы дом. Яго вышыня больш чым 400 метраў. Дом быў збудаваны даўно, яшчэ ў 1932 годзе. Ад моманту свайго «нараджэння» дом быў аб’ектам гонару гарадскіх улад, а можа, і ўсіх жыхароў велізарнага горада. Амерыканцы любяць усё вялікае: вялікія караблі і судны, вялікія магазіны, вялікія аўтамашыны і вялікія дамы. Не адносіцца гэта, аднак, да тых дамоў, у якіх жывуць. Амерыканцы ненавідзяць вялікія шматпавярховыя жылыя дамы і жыццё ў іх трактуюць як свайго роду няшчасце. Любяць жыць

у малых аднасямейных доміках з уласным гаражом, уласным малым агародчыкам або садзікам.

А гэтыя аграмадзіны служаць ім выключна як сядзібы банкаў, біржаў і розных адміністрацыйных устаноў.

У Нью-Ёрку я сустрэў Надзею Артысевіч з Кляшчэляў, якая сказала, што, жывучы ў Кляшчэлях, гаварыла выключна па-польску і толькі ў Амерыцы навучылася па-беларуску. Ці ж гэта не парадокс? Надзея Артысевіч жыве ў Амерыцы больш чым сем гадоў. Вывучыла таксама англійскую мову і бухгалтарскую прафесію. У даны момант працуе ў японскім банку. Ведаеце, на якім паверсе? На 98! Над ёю ўжо толькі лётчыкі, касманаўты і Бог. Расказвала, што ў час вельмі моцных вятроў іх на высокія паверхі не пускаюць. Баяцца катастрофы. Хаця ўсе небаскробы Мангатана збудаваны на цвёрдай скале, то ўсё ж такі featured рознае можа здарыцца.

Вярнуся да славутага, больш чым стопавярховага дома, які славіцца і тым, што ўжо дзесяткі гадоў усе знатныя замежныя афіцыйныя госці, якія прыязджаюць у Нью-Ёрк, наведваюць гэты дом. Сярод здымкаў, якія паказваюць гэтых гасцей, красуецца таксама здымак Мікіты Хрушчова, якому таксама хацелася паглядзець на Нью-Ёрк, так сказаць, з палёту птушкі.

Праўда, мы з Барташэвічам не належалі да гасцей знакамітых, але нам таксама захацелася глянуць на панараму горада зверху. Трэба заўважыць, што сістэма ліфтаў у доме дасканала прадуманая, і адзін ліфт бярэ адразу некалькі дзесяткаў чалавек. Давялося, аднак, мінут 10 пастаяць у чарзе, бо такіх, як мы, аказалася вельмі многа. Зразумела, што ніхто не возіць тут нікога дарам. Трэба плаціць. Аднак гэтым займаўся наш апякун і дасканалы знаўца горада Антон Ш. Пачатковы ліфт нас выкінуў дзесьці на 84-м ці 85-м паверсе. Палюбаваўшыся панарамай горада, паехалі мы вышэй, каб канчаткова выйсці ў самай «галаве» дома на сто другім паверсе. Трэба сказаць, што пляцоўкі, з якіх аглядалі горад, забяспечаны жалезнымі сеткамі. Быццам бы калісьці іх не было. Аднак у сувязі з тым, што здараліся самагубствы, было ўведзена забеспячэнне, якое ліквідуе магчымасць кінуцца ўніз.

Калі глядзіш са ста другога паверха на горад, агортвае цябе нейкі паўсон, паўбайка, паўмагія. Здаецца табе, што ўдзельнічаеш у рэальна-фантастычным спектаклі. З аднаго боку, наведвае цябе гордасць за геніяльнага чалавека, які больш чым паўстагоддзя таму назад, калі тэхніка была намнога слабейшая, чым сёння, здолеў узняць да сонца такога бетоннага і сталёвага

велікана. А з другога боку, агортвае і нейкае горкае сумненне і пытанне: а навошта такое? Калі ўзіраешся з вышыні 102 паверха на Нью-Ёрк, а перш за ўсё на густы лес небаскробаў Мангатана, дык здаецца табе, што знаходзішся ў архіпелагу дзівосных муравейнікаў ці будоўляў тэрмітаў. І хаця відаць, як у вузкіх шчылінах вуліц бегаюць ва ўсе бакі машыны, то ўсё ж такі выдаецца ўсё гэта светам калі не памерлым, дык скамянелым. Мёртвы камень, бетон і сталь устаюць перад табой нейкай непераможнай дамінантай. Такое ўражанне выклікаюць першыя мінуты. Калі пастаіш, прыгледзішся і асвоішся, тады заўважыш, што гэта ўсё ж не каменная пустыня, а нешта жывое. Нешта такое, што пульсуе вечным рытмам гарадскога арганізма.

Воляй-няволяй, аднак, задумаешся і засумуеш па лугавой раніцы над Нарвай і па малых хатках у сваёй роднай вёсцы. Так ці інакш, трэба пакланіцца тэхнічнаму генію чалавека, які зрабіў нешта амаль неверагоднае. А вядома, што ўжо ёсць дамы вышэйшыя. Але, як для мяне, дык і гэты дастаткова вялікі і імпануючы. А добры ён, між іншым, таму, што, гледзячы з яго на вуліцы, ніяк не адрозніш жабрака ад мільянера.

Сказалі мне, што ў адным з гарадоў плануецца пабудаваць небаскроб вышынёй 700 метраў, а ў Гюстане аграмадзіны вышынёй два кіламетры. Баюся, што Бог умяшаецца ў гэту пабудову і так, як у выпадку будовы вавілонскай вежы, пераблытае будаўнікам мовы.

## НА СЛАВЯНСКАЙ ВЫСТАЎЦЫ І КАНЦЭРЦЕ

Якраз тады, калі мы з Барташэвічам былі ў Амерыцы, святкаваўся ў гэтай краіне Тыдзень славянскіх народаў. Я нешта ўжо раней чуў аб такім мерапрыемстве, і, як мне здавалася, мела яно моцна палітычны характар. І таму, калі нам запрапанавалі, каб мы пазнаёміліся з некаторымі «праявамі тыдня», я спытаў, які характар маюць гэтыя праявы. Сказалі мне, што ў рамках тыдня арганізавана выстаўка нацыянальных славянскіх убораў і канцэрт славянскай песні. Даведаўшыся, што ў ніякім выпадку не будзем прымаць удзел у палітычных мерапрыемствах, згадзіліся. І трэба сказаць, што тое, што мы бачылі і пачулі, было свабодным ад усякай палітыкі. Аглядалі этнаграфічную выстаўку, на якой было болей чым 10 славянскіх касцюмаў. Усе мне падабаліся. Цікава і тое, што ўсе або амаль усе часткі народнай вопраткі мелі аўтэнтычны характар. Не ведаю, якім

чынам арганізатарам удалося сабраць арыгінальную вопратку, але гэта ўжо не мой клопат.

Сярод экспанаваных убораў, якія, дарэчы, экспанаваліся не на вешалках ці ў вітрынах, а на манекенах, красаваліся і беларускія жаночы і мужчынскі касцюмы. Беларускае адзенне было выключнага хараства, аднак не абышлося тут без аднаго недахопу. Справа ў тым, што накідка, якая знаходзілася на плячах хлопца-беларуса, была пашыта не з белага сукна, а з фабрычна тканага льну. Вядома, што гэта накідка моцна ішла ўразрэз з народным аўтэнтыкам. Я, зразумела, адразу звярнуў на гэта ўвагу. Прысутныя беларусы Раіса і Антось з жалем сказалі, што яны ведаюць аб тым, што накідка моцна пярэчыць народнаму арыгіналу, але яны не маюць арыгінальнай беларускай ваўнянай тканіны. Слова за слова і я паабяцаў, што мая сястра, якая гадуе авечак, а пры гэтым дасканалая ткачыха, вытча і некалькі метраў белай ваўнянай тканіны, з якой будзе пашыта сапраўдная беларуская накідка.

Добрае ўражанне зрабіў на нас і канцэрт славянскай песні. Трэба адразу сказаць, што апрача песні была ў канцэрце таксама паэтычная дэкламацыя. Якраз усё і пачалося з дэкламацыі. Прадстаўнік рускіх дэкламаваў паэму Лермантава «Дэман». Зрабіў ён памылку. Праявілася яна ў тым, што вырашыў дэкламаваць не фрагменты, але ўвесь доўгі тэкст паэмы. І гэтым можна пашкодзіць і сабе і Лермантаву. Напачатку дэкламаваў па памяці вельмі прыгожа і калі б ведаў, дзе і калі скончыць, дык было б дасканала. Сталася, аднак, па-іншаму. Вырашыў ён дэкламаваць усю паэму. Змучыўся, пачаў забываць тэкст, збівацца, пачаў заглядаць у тэкст і такім чынам пад канец поўнасцю сапсаваў тое, што напачатку зрабіў добра. Урэшце давёў слухачоў да таго, што ўсе чакалі, каб як найхутчэй скончыў.

Слабавата выступіла спявачка, якая прадстаўляла польскую меншасць. Спявала песні Манюшкі так невыразна, што я і іншыя прысутныя з трох яе песень зразумелі толькі некалькі слоў. Усё іншае было невыразнае і мутнае. Вельмі прыгожа заспявала сербка. Цудоўны, глыбокі, ёмісты голас зрабіў вельмі добрае ўражанне, хаця тэксту большасць не разумела. Уражанне тут было болей прыемнае, што спявачка была прыгожая.

Мы нецярпліва чакалі Данчыка. Я калісьці быў дома ў бацькоў Данчыка, аднак яго асабіста не сустрэў ані ў ЗША, ані ў Польшчы, калі ён да нас прыязджаў. Значыць, было гэта маё першае спатканне са спеваком. Данчык пад гітару заспяваў тры песні: «Ночка над Шчарай», «Беларусачка», «Не за вочы чор-

ныя». Спяваў мякка, рамантычна, цудоўна, я ўзрушыўся. Спявак атрымаў ад усіх вельмі моцныя апладысменты.

Пасля канцэрта адбыўся маленькі прыём з віном, з коржыкамі. І вось тут я пагаварыў з Данчыкам, з яго бабкаю Каханоўскай, з якою я сустракаўся ў 1981 годзе. Пані Каханоўская ані фізічна, ані інтэлектуальна не змянілася. Выглядала дасканала і гаварыла вельмі разумна. Ну, а Данчык? Данчык хоць і мае 29 гадоў, выглядае на 19. Па-беларуску гаворыць вельмі чыста. Калі я спытаў, ці хоча мне даць інтэрв'ю для «Нівы», адразу згадзіўся. Вельмі я быў здзіўлены, калі на ўсе мае пытанні атрымаў праз некалькі дзён напісаныя на машынцы на добрай беларускай мове адказы.

## РАЗМОВА З ДАНЧЫКАМ

— Раскажыце, калі ласка, аб сваіх бацьках і аб сваёй бабцы, як яны Вам зашчапілі любоў да беларушчыны.

— Яны самі патрыёты сваёй Бацькаўшчыны і выхоўвалі мяне і майго брата ў любові і пашане да таго, ад чаго мы паходзім. Напрыклад, дома гаварылі толькі па-нашаму; вывучалі гісторыю, геаграфію, культуру Беларусі; часта сустракаліся з нашымі людзьмі і ад малога актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці (беларуская школка, беларускі тэатр і г. д.). Дык, нягледзячы на тое, што я нарадзіўся ў Амерыцы, Беларусь была для мяне роднай — з пялёнак.

— Калі і як абудзіўся ў вас вакальны талент?

— Маладым хлопцам я належаў да скаўтаў. Летам у лагерах скаўтаў старэйшыя мелі гітары і спявалі пры вогнішчы. Мне хацелася таксама тварыць гэтую прыгажосць. Навучыўся ад сяброўкі іграць галоўныя акорды і пачаў спяваць. Выходзіла штораз лепей, падабалася і мне, і іншым. І ад таго часу граю і спяваю.

— Якую і дзе праходзілі вы вышэйшую адукацыю?

— У Нью-Ёркскім універсітэце зрабіў бакалаўрэат з журналістыкі ў 1980 годзе.

— Колькі і калі вы найгралі беларускіх песень на пласцінкі і магнітафонныя стужкі?

— На першай пласцінцы — 14 песень: я і гітара. Я найграў яе, калі мне было 19 год (1977). У 1985 годзе выйшла другая пласцінка, на якой 12 песень: я і аркестр.

— Вы былі ў Польшчы. Якія ўражанні пакінула ў вашым сэрцы гэтая паездка?

— Падарожжа ў Польшчу зрабіла на мяне незабыўнае і надзвычайнае ўражанне. Беларусы, асабліва моладзь, прымалі мяне з радасцю і энтузіязмам. З вялікай прыемнасцю ўспамінаю сустрэчу з беларускай моладдзю ў час майго канцэрта ў млыне ў Белавежскай пушчы, іхнюю гарачую любоў да беларускай песні, іхнюю зацікаўленасць беларускім жыццём у Амерыцы. Я думаю, што маё падарожжа ў Польшчу падтрымала іх на духу, а іхняя рэакцыя на мае песні, іхні энтузіязм падтрымалі і далей трымаюць мяне і іншых у Амерыцы на духу.

— Ці намерваецеся вы зноў прыехаць у Польшчу або Савецкі Саюз?

— Усё будзе залежаць ад абставін. Калі выйдзе, то ў 1988 годзе зноў пабачуся з тымі цудоўнымі людзьмі, з якімі я пазнаёміўся ў 1981 годзе. Хацеў бы абавязкова выступіць з канцэртам на Беласточчыне. А Савецкі Саюз таксама даўно хацеў і хачу наведаць. Будзем бачыць. Я ніколі не трачу надзеі!

— Наколькі мне вядома, вы знаходзіцеся ў добрых адносінах з «Песнярамі». Ці можна тут гаварыць аб узаемных уплывах?

— Галоўны ўплыў — гэта цудоўнае выкананне іхніх песень. Некаторыя з іх я таксама найграў. Найбольшае ўражанне на мяне зрабілі песні ў цудоўным выкананні Лёні Барткевіча, з якім я пазнаёміўся ў Нью-Ёрку 10 гадоў таму назад. Яго голас — гэта для мяне «парагон». Вельмі мяне цешыць і з’яўляецца для мяне вялікім кампліментам, калі людзі знаходзяць падабенства паміж нашымі галасамі. А ці я меў на «Песняроў» нейкі ўплыў — сумняваюся, але аб гэтым трэба ў іх запытаць.

— Цяжка ці лёгка быць беларускім спеваком у Амерыцы?

— Лёгка ў сэнсе, што канкурэнцыя малая і беларусы не могуць мяне не любіць. Але ў амерыканскім свеце беларуская песня, як ніякая іншая, не пойдзе. Папулярная музыка занадта для мяне брутальная. Я яе не слухаю і не маю зусім ахвоты развучваць ці імітаваць.

— «Ніва» некалькі разоў пісала аб вас, як вы ацэньваеце гэтыя публікацыі?

— Безумоўна, прыемна чытаць пазітыўныя водгукі. Хто б не хацеў прачытаць у газеце, што ён — «зорка»! Але я ведаю, што ніколі нельга быць самаўпэўненым, верыць у сваю дасканаласць, бо тады перастанеш расці не толькі як артыст, але і як чалавек.

— Што вы хацелі б сказаць ці пажадаць чытачам «Нівы»?

— Добра, што пра мяне пішуць у «Ніве». Хай беларуская моладзь у Польшчы ведае, што ніякія мілі ад Бацькаўшчыны — ні іхнія сотні, ні мае тысячы — не павінны адлучаць нас ад пашаны

і любові да Беларусі і ўсяго беларускага. Наадварот, часам гэтыя мілі ўзмацняюць гэтую любоў. Карыстаючыся аказіяй, я шлю гарачае прывітанне ўсім чытачам «Нівы» і выказваю прызнанне і шлю найлепшыя пажаданні плённай працы ў Рэдакцыі!

## СПАТКАННЕ З АТЛАНТЫКАЙ

Атлантычны акіян дзейнічае на мяне магічна. Адкуль гэта бярэцца? Мабыць, з комплексу непаўнацэннасці беларуса, нацыя якога не мае доступу да акіяна. І я зноў пішу аб Атлантыцы. Пішу зноў таму, што акіян узрушае мяне да глыбіні душы, і я горача жадаю, каб кожны з чытачоў пабачыў гэтую стыхійную з'яву. А калі так станецца, дык напэўна большасць чытачоў, як і я, закахаецца ў цудоўную прыродную з'яву — акіян.

На гэты раз я паехаў на акіян не ў ліпені, як гэта было ў 1981 годзе, а ў другой палове кастрычніка. Паехаў з гарачым намерам зноў пакупацца ў акіяне. Павёз мяне на Атлантыку, як і шэсць гадоў таму назад, мой стары сябра пан Валодзя. Не вельмі вялікая адлегласць, каля ста кіламетраў, аддзяляе Нью-Ёрк ад акіяна, здалася мне вельмі вялікай. Маё сэрца выразна вырывалася да майго старога знаёмага, акіяна. Урэшце паявілася невялікае знаёмае мястэчка, выехаўшы з якога, я адчуў спецыфічны «смак» марскога паветра. Нарэшце наш Валодзя затрымаў машыну на знаёмай стаянцы, і я вельмі хутка выскачыў з машыны і пабег праз сыпучыя пяскі. Давялося зняць боты, бо пясок пачаў цэлымі жменямі ўсыпацца і ў боты, і ў шкарпэткі.

І вось ён, вечны прыгажун, перада мною! Яго магутныя зялёныя хвалі налятаюць на плоскі бераг ды трацяць сваю магутную сілу і адкатваюцца назад са зласнаватым шыпеннем. Скінуўшы боты і падкасаўшы нагавіцы, пабег я, як бы крыху ашалеўшы, уздоўж берага. Хвалі набягалі на мае ногі і вельмі хутка ахлёпалі мяне пенай амаль да пояса. І тут стары, ад вякоў нязменны акіян пачаставаў мяне навінкаю. Навінка заключалася ў тым, што хвалі выкідвалі на пясок рыбу. Рыба была велічынёй у дзве пядзі, так прыблізна паўкілаграма штука. У той момант я зразумеў, чаму на беразе стаяць роўненька ў радочак праз кожныя 40–50 крокаў чайкі. Калі толькі хваля выкіне рыбіну, чайка падбягае да яе і — што робіць? Выбівае дзюбаю вока. Зразумела, што стаўся я ўмомант сябрам рыб і ворагам чаек. Пачаў хапаць рыбіны і кідаць іх у акіян назад. Чайкі злосна глядзелі на мяне і адляталі ўздоўж берага. Калі я вярнуўся назад да пана Валодзі і Нюры

і сказаў аб пабачаным, ён мне параіў, каб я назбіраў рыбін на вячэру. Я вярнуўся назад — і тут акіян, як бы прадчуўшы мае драпежніцкія намеры, перастаў выкідваць на пясок ахвяры. Так я і вярнуўся толькі з адной рыбінай, і пан Валодзя параіў мне ўкінуць яе назад у мора, што я і зрабіў вельмі ахвотна…

Нацешыўшыся адкрытым акіянам, праехалі мы кіламетраў 15 да заліва Атлантыкі. Тут ужо не было вялікай хвалі, а толькі спакойныя невялікія грабяні, падобныя да тых, якія выступаюць на звычайных азёрах. Здзівіла мяне, што на заліве, дзе гарачым летам 1981 года было вельмі мала людзей, што давала мне магчымасць купацца ўдосталь, на гэты раз было даволі многа людзей, якія лавілі вудачкамі рыбу. Было ні горача, ні холадна. Можна было купацца. Аднак не хапіла мне адвагі. Пабаяўся я не тэмпературы, а пасаромеўся людзей, якія былі апрануты ў курткі, калі б пабачылі голага Барскага-дзівака, хто ведае, ці не паведамілі б у паліцыю. Так яно і абышлося без купання ў акіяне ў 1987 годзе. Гэта, аднак, паўбяды. Найважнейшае, што я зноў пабачыў адкрыты акіян і яго заліў, што падняў з пяску маленькі кругленькі каменьчык, які на працягу тысяч гадоў абточвалі марскія хвалі, а ў гэтых хвалях былі таксама кроплі вады з маёй роднай Нарвы, якая ж таксама аддае свае воды Балтыцы, а Балтыка дзеліцца імі з Атлантыкай. А, мабыць, найважнейшае тое, што зноў пабыў некалькі гадзін з вельмі сардэчнымі людзьмі: Нюрай і Валодзем, дзякуючы якім пабачыў першы раз у жыцці Атлантыку ў 1981 годзе і другі раз у 1987 годзе. А ці будзе трэцяе спатканне? Усё ў руках лёсу.

## ТРЫНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН У АЎТОБУСЕ

Шэсць гадоў таму назад я паляцеў з Нью-Ёрка ў Кліўленд самалётам і, зразумела, нічога цікавага не пабачыў. 800 кіламетраў праляцеў больш-менш за гадзіну.

На гэты раз мы з Барташэвічам рашылі гэтыя 800 кіламетраў праехаць аўтобусам. І паехалі. Быў гэта першы мой праезд амерыканскім рэйсавым аўтобусам.

Па-першае, хачу сказаць, што аўтобус з Нью-Ёрка ў Кліўленд каштуе 83 долары. Калі прызнацца, дык я не ведаю, дарага гэта ці танна. Думаю, аднак, што дарагавата.

А што датычыць саміх аўтобусаў. Прыгледзеўся я да іх на вакзале, калі яны раз за разам пад'язджалі на розныя стаянкі. Прыгледзеўся і з сярэдзіны да тых трох аўтобусаў, якімі ехалі мы

ў Кліўленд і з Кліўленда. Трэба сказаць, што аўтобусы гэтыя на вельмі высокім тэхнічным узроўні. Зрэшты, калі б было інакш, дык, мабыць, чалавек замучыўся б насмерць, едучы так, як мы ехалі, 13 гадзін.

Амерыканскія аўтобусы вельмі высокія. І гэта важна, бо, седзячы высока, намнога лепш бачыш наваколле, чым седзячы, скажам, у легкавой машыне. Вельмі выгадныя ў аўтобусах крэслы, і найбольшая для нас навінка — аўтобусныя туалеты, тым болей што больш-менш праз кожныя 150 кіламетраў аўтобус затрымліваўся і пасажыры выходзілі на аўтобусныя вакзалы. Свайго роду дзіковінкай для мяне было тое, што на гэтых вакзалах стаяць спецыфічныя крэслы. Спецыфіка іх заключаецца ў тым, што ў гэтыя крэслы ўманціраваны невялічкія тэлевізары. Калі пасажыр хоча, дык кідае, не ведаю якую, манету і глядзіць праграму. Цікава, што толькі нямногія пасажыры ўключалі тэлевізары. Большасць сядзела так сабе, дэманструючы поўную абыякавасць у адносінах да тэлевізараў.

Падарожжа з Нью-Ёрка дало мне магчымасць прыгледзецца да амерыканскага пейзажу. Прыгледзецца і захапіцца ім. Амаль на працягу ўсіх 800 кіламетраў выступала паўгарыстая мясцовасць. Усе схілы гор пакрыты лісцевымі лясамі. Лясы гэтыя пафарбавала, паводле свайго густу, восень. Якая ж цудоўная панарама рассцілалася паабапал дарогі і як прыемна было глядзець на яе і момантамі нічога не думаць, нічым не пераймацца, а толькі глядзець на хараство і час ад часу сунуць руку ў торбу, дзе была куча смачных бутэрбродаў і велізарны бідон кока-колы. Выйшаўшы з аўтобуса ў Кліўлендзе, мы не адчувалі ніякай стомленасці, хаця ехалі 13 гадзін.

## У «ПОЛАЦКУ»

«Полацак» — гэта беларускі цэнтр у Кліўлендзе. Займае каля васьмі гектараў зямлі. На тэрыторыі «Полацка» жыве ўсяго некалькі беларусаў, але ёсць там і сталовая і аўдыторная зала. «Загадчыкам», «дырэктарам» і душою «Полацка» з’яўляюцца Сяргей К. і Кастусь К. Жывуць яны ў адным доміку, які з’яўляецца ўласнасцю Кастуся К. З «Полацкам» я ўпершыню сутыкнуўся ў 1981 годзе. Ужо тады меў там аўтарскую сустрэчу і ўжо тады з прыемнасцю касіў там траву як ручной, так і трактарнай касілкай. Зрэшты, я аб гэтым пісаў ужо ў цыкле

«Амерыканскія былі» ў 1983 годзе. Сёння хацеў бы дабавіць толькі тое, што здарылася паміж 1981 і 1987 гадамі.

Даведаўся я з пэўным жалем, але і прыемнасцю, што ўжо ў азерцы, якое знаходзіцца на тэрыторыі «Полацка» няма здаравенных чарапах, якія былі там шэсць гадоў таму назад. Аказалася, што гэтыя, здавалася б, нявінныя істоты, з'ядалі качанят або адгрызалі качкам ногі. У такой сітуацыі мясцовыя беларусы былі вымушаны схапіць здаравенных чарапах тады, калі яны вылезлі на бераг, і аддаць іх у нейкі там батанічны сад.

Шэсць гадоў таму назад я ездзіў на вельмі старым трактары маркі «Форд». Сёння ў гаражы побач са старым «Фордам» стаіць новы чырвоненькі маленькі трактарчык, які вельмі добра спраўляецца з касілкай.

Ад Яўгена К. даведаўся, што Амерыка імпартуе многа відаў савецкіх трактароў. Іх цэны вельмі розныя, ад 3 да 50 тысяч долараў. Яўген К. гаварыў, што па тэлебачанні выступаў нейкі фермер, які моцна хваліў мінскія трактары «Беларусь». Зразумела, што не мой клопат падказваць што-небудзь беларусам з «Полацка», але мне здаецца, што было б добрым сімвалам, калі б яны, калі ўжо часткова выйдзе са строю іх «Форд», купілі трактар «Беларусь».

Можа хтосьці з чытачоў спытаць: як увогуле функцыянуе «Полацак», калі там жыве ўсяго некалькі беларусаў? Хачу сказаць, што на тэрыторыі Кліўленда жыве некалькі сот беларусаў. І вось яны хаця і не жывуць у «Полацку», дык збіраюцца ў ім і на нядзельныя пікнікі, і на лекцыі. Часам нават на набажэнствы. Праўда, царква Ефрасінні Полацкай знаходзіцца ў іншым месцы, але здараецца, што мясцовы духоўны Страпко часам прыязджае ў «Полацак» і тут праводзіць набажэнствы.

Кліўлендскія беларусы сур'ёзна думаюць аб тым, каб на тэрыторыі «Полацка» збудаваць вялікі «Беларускі дом», у якім была б аўдыторыя на 500—600 месцаў. Гэта дазволіла б праводзіць розныя мерапрыемствы. Пакуль што ідэя знаходзіцца на этапе арганізацыйна-прававых вырашэнняў. Ведаючы выключную самаахвярнасць кліўлендскіх беларусаў і асабліва паслядоўнасць Кастуся К. і Сяргея К., думаецца мне, што ідэя гэта будзе рэалізавана, і калі я праз некалькі гадоў паяўлюся ў Кліўлендзе, дык буду ўжо чытаць свае новыя вершы ў новым «Беларускім доме».

Дарэчы, кліўлендскія беларусы думаюць не толькі аб пабудове на тэрыторыі «Полацка» «Беларускага дома», але таксама і беларускай царквы. Апрача гэтага думаюць аб пабудове шэрагу

малых домікаў і кватэр, у якія перабраліся б мясцовыя беларусы. Такім чынам, стварыўся б у Кліўлендзе беларускі гарадок «Полацак». Што там гаварыць! Цудоўная гэта ідэя. Аднак ажыццявіць яе нялёгка, патрэбны для гэтага вялікі капітал. Ці знойдуць яго кліўлендскія беларусы, не ведаю. Аднак ад шчырага сэрца жадаю ім ажыццяўлення гэтай прыгожай ідэі. Па сутнасці, толькі такі гарадок, такая канцэнтрацыя нацыянальнай меншасці ў адным месцы можа захаваць на доўгія гады яе нацыянальную спецыфіку, яе традыцыі і тое, што, бадай, найважнейшае — беларускую мову. Пакуль што кліўлендскія беларусы галоўным чынам дзякуючы «Полацку» моцна трымаюцца роднага, беларускага. Аднак трэба ведаць што ва ўмовах амерыканскага культурнага і моўнага таталізму вельмі цяжка ўтрымаць сваё маленькае роднае. Як жа цудоўна, што кліўлендскія беларусы гэтае роднае ўтрымліваюць і лічаць яго не маленькім, а вялікім.

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ

Вярнуўшыся з Кліўленда ў Нью-Ёрк, я быў сведкам незвычайнай дэманстрацыі. А сталася гэта такім чынам. Пайшлі мы прайсціся каля будынкаў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. У будынкі і не намерваліся заходзіць, бо і я і Барташэвіч былі там раней. Я нават шэсць гадоў таму назад апісваў свой візіт у ААН.

Гэтым разам, падыходзячы да аанаўскіх будынкаў, былі мы здзіўлены вялікай колькасцю паліцыянтаў на вуліцах, якія вялі да ААН. Чым бліжэй падыходзілі мы да ААН, тым паліцэйскіх было болей. Мы падумалі, што могуць быць дзве прычыны такіх абставін: або прыязджаюць у ААН галовы іншых дзяржаў, або паліцыя атрымала паведамленне аб тым, што плануецца нейкі тэрарыстычны акт. Аднак пярэчыла такім домыслам тое, што ніхто нас не спыняў, і мы, свабодна абмінаючы паліцэйскіх, маглі бесперашкодна набліжацца да агароджы Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. І калі мы падышлі ўжо да гэтай агароджы, сітуацыя нечакана выяснілася. Высветлілася, што праводзілася дэманстрацыя гомасексуалістаў, якія пратэставалі супраць таго, што дзяржава не забяспечвае іх здавальняюча ад хваробы СНІД.

Мы, хочучы не хочучы, затрымаліся і прыгледзеліся да дэманстрантаў. Было іх намнога меней, чым паліцыі. Так прыблізна чалавек 70–80. Амаль усе маладыя. Частка белых, частка чорных. Займалі яны невялікую плошчу, якую досыць шчыльна акружала паліцыя. Як дэманстранты, так і паліцыя паводзілі сябе вельмі спакойна. Не чуваць было крыкаў, не

відаць ніякай мітусні. Частка паліцэйскіх была павернута да дэманстрантаў тварамі. Некаторыя былі адвернуты ад іх плячыма, а яшчэ іншыя спакойна прахаджваліся туды і назад. Выглядала гэта неяк так, што гэтыя дзве групы не маюць да сябе ніякай справы. Дэманстранты стаялі групкамі, але найчасцей парамі.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаго дамагаліся дэманстранты і ці ўвогуле дамагаліся, калі не крычалі, нікуды не рваліся? Аднак дамагаліся.

Іх патрабаванні красаваліся на транспарантах, якія былі развешаны перад імі. І якраз на гэтых транспарантах было напісана аб розных «крыўдах». Гаварылася аб тым, што на свеце ўжо ёсць 10 мільёнаў хворых на СНІД і што будзе іх намнога болей. Чалавецтва і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый трацяць мільярды долараў на розныя неістотныя або нават злачынныя рэчы і ўвогуле не займаюцца тымі, хто ўжо сёння з'яўляецца ахвярай СНІДу або будзе ёю заўтра. Калі б энергія навукі і матэрыяльныя сродкі былі кінуты на барацьбу са СНІДам, хвароба гэтая знікла б з паверхні зямлі.

Па сутнасці, нічога злачыннага і недарэчлівага ў такой трактоўцы праблемы не было, і таму, мабыць, паліцыя і не думала ўжываць сілы ў адносінах да дэманстрантаў.

Мы пастаялі яшчэ крышку, прыгледзеліся да юнакоў, сярод якіх не было ніводнай жанчыны, хаця ў іх вопратцы і паводзінах было не мала жаночага, і пайшлі сваёй дарогай.

Пасля, аднак, вяртаўся я ў думках не адзін раз да гэтай незвычайнай для мяне справы, аж у канцы сваіх рэпартажаў вырашыў падзяліцца ёю з шаноўнымі чытачамі.

## БЕЛАРУСКІ ДРУК

Зразумела, што друк як для народа, так і для нацыянальнай меншасці вельмі важны фактар, які стымулюе вітальныя сілы кожнай чалавечай грамады. Разумеюць гэта і амерыканскія беларусы. На жаль, у мяне няма, калі так можна сказаць, гістарычнага матэрыялу, які дазволіў бы паказаць развіццё беларускага друку на захадзе ад моманту заканчэння Другой сусветнай вайны. З гэтай прычыны звярну ўвагу толькі на тое, што ў галіне беларускага друку існуе ў ЗША сёння.

Трэба адзначыць, што ўсякае друкаванае слова, звязанае з нацыянальнымі меншасцямі ў Амерыцы, мае пазадзяржаўны характар. Гэта значыць, што дзяржава не перашкаджае і не

памагае друкаваць кнігі, брашуры, газеты і адозвы. Практычна гэта выглядае так: маеш грошы, каб заплаціць за паперу, фарбу і друкарню, і маеш тэкст, дык сабе друкуй. Не маеш — не друкуй. Можа хтосьці з чытачоў спытаць, колькі каштуе друк аднаго нумара газеты або адной сярэдняй таўшчыні кнігі. На жаль, не магу даць дакладнага адказу, бо не ведаю. Прызнаюся, што я пытаў пра гэта некаторых беларусаў, аднак не атрымаў канкрэтнага здавальняючага адказу.

Вядома толькі, што беларускі аўтар, зацікаўлены выданнем сваёй кніжкі, уваходзіць у кантакт з друкарняй, плаціць ёй за выкананую работу-паслугу, забірае надрукаваныя кніжкі і пасля рассылае іх у беларускія цэнтры, у цэрквы або проста знаёмым, інфармуючы пры гэтым, што кніжка каштуе столькіта. Зразумела, што ў такім спосабе друку, а тым болей у метадзе распаўсюджвання кніжак ёсць нешта саматужнае, але няма іншага, больш эфектыўнага спосабу. Вядома, што ў такой сітуацыі аўтар можа моцна «пагарэць», бо адкуль вядома, што яго кніга знойдзе адпаведную колькасць пакупнікоў?! Я не маю ніякіх даных і гавару тут, кіруючыся толькі інтуіцыяй, але мне здаецца, што не зраблю памылкі, калі скажу, што аўтары ў ніякім выпадку не зарабляюць на сваіх кнігах. Дай Бог, каб даход з прададзеных кніжак ураўнаважыў выдаткі, звязаныя з коштам друку. Аб ганарарах у такой сітуацыі не можа быць нават гутаркі.

Пасля сказанага мною хтосьці можа падумаць, што выдадзеныя ў ЗША беларускімі аўтарамі кніжкі вельмі прымітыўныя. Кожны, хто так думае, памыляецца. Праўда, такія кнігі, як аповесць Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» ці Калюгі «Нядоля Заблоцкіх» і многія іншыя, выдадзеныя досыць скромна. Аднак можна назваць надрукаваныя ў апошні час кнігі паэзіі Арсенневай «Між берагамі», або Салаўя «Выбраныя творы», ці кнігу Ст. Станкевіча «Янка Купала», тэхнічны бок якіх вельмі высокі. Адносіцца гэта і да якасці паперы, і да вокладкі, і да тэхнікі друку.

Высокім тэхнічным узроўнем характарызуецца і тоўсты навуковы часопіс «Запісы». Адзіная ў Амерыцы беларуская газета «Беларус» таксама выдавалася да нядаўна высокай тэхнікай. Аднак у апошні час пачала выходзіць на значна горшай паперы. Я не з’яўляюся ў гэтай галіне экспертам, але мне здаецца, што тэхнічныя ўласцівасці друку «Беларуса» не стаяць вышэй за «Ніву».

Напэўна многіх чытачоў цікавіць ідэйная накіраванасць беларускай публіцыстыкі ў Амерыцы. Трэба сказаць, што

публіцыстыка гэта, асабліва пра Беларусь, мае яскравы антысацыялістычны характар. Другая рыса беларускай перыёдыкі праяўляецца ў глыбокай яе рэлігійнасці. Трэцяя ўласцівасць заключаецца ў тым, што аўтары моцна стаяць на грунце амерыканскай рэчаіснасці і поўнасцю атаясамліваюцца з амерыканскай сістэмай.

З навінак варта сказаць аб тым, што амерыканскія беларусы рыхтуюць да друку вельмі салідны том паэзіі Язэпа Пушчы. Ці мае гэта сэнс — не ведаю, бо, наколькі мне вядома, у Мінску выйдзе двухтомнік гэтага паэта, у які ўвойдуць усе тыя творы, якія не друкаваліся на працягу шасцідзесяці гадоў.

## АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ

Многія ў Польшчы пыталі і пытаюць мяне: якія тыя амерыканскія беларусы? Зразумела, што ацэнкі і характарыстыкі мае маюць суб’ектыўны характар і не могуць трактавацца як нешта поўнасцю аб’ектыўнае, аўтарытэтнае і пэўнае. Аднак я буду поўнасцю задаволены, калі хаця ў нейкай ступені прыбліжу нашым чытачам тую беларускую грамаду, якую лёс закінуў «на канец свету».

Многія з амерыканскіх беларусаў гаварылі мне, што на пачатку глытнулі ў Амерыцы гора. І гэта зразумела. Прыехалі яны без сродкаў для жыцця, без ведання мовы. Па сутнасці, ніхто з іх не меў прафесійнай падрыхтоўкі, якая б давала ім магчымасць знайсці добрую работу ў чужой краіне. Усе пачыналі ад нуля і на працягу многіх гадоў жылі бедна. Расказвала мне адна беларуска, як зайшла да беларускай сям’і і пабачыла такую карціну: «Вакол круглага пашарпанага і заплямленага стала сядзела пяць членаў сям’і і з адной вялікай міскі сёрбалі суп». Такія былі пачаткі. Беларусы мусілі выконваць найгоршыя катэгорыі работы, жыць у мізэрных кватэрах, ашчаджаць.

А сёння?

Усе, у каго я быў, жывуць добра. Амаль усе маюць свае домікі і свае машыны. Не значыць гэта, што ўсе жывуць аднолькава. Для прыкладу, Вера і Францішак Б. жывуць, я б сказаў, раскошна. Маюць дзве машыны, адна з іх за 25 000 долараў. А іх дом — гэта нешта фантастычнае. Прызнаюся, я ў сваім жыцці не бачыў настолькі раскошнага дома. Самае цікавае тое, што багацце не сапсавала гэтай каталіцкай беларускай сям’і. Яна

вельмі гасцінная, сардэчная і самаахвярная. Пані Вера вялікі прапагандыст ідэі збору сродкаў на Беларускі музей. Гэта яна ўручыла мне на музей болей як 400 долараў. Пан Францішак зубны тэхнік, і гэта прафесія дае яму высокія даходы. Колькі дакладна зарабляе — не ведаю. Тут хацеў бы ўсім параіць: у Амерыцы ніколі не пытайце, колькі хто зарабляе або які ў каго запас грошай, бо гэта тайнае тайных. Амерыканцы аб гэтым не гавораць.

Дарэчы, я ў гэтай галіне зрабіў страшэнны ляпсус, якога саромеюся да сёння.

Сям'я Веры і Францішка Б. усё ж, мабыць, выключэнне ў сэнсе заможнасці. Большасць беларусаў жыве больш сціпла. Бадай што ў найгоршай сітуацыі знаходзяцца пенсіянеры. Сустрэў я пенсіянераў, якія атрымліваюць у месяц 500 або 400 долараў. А ў Кліўлендзе сутыкнуўся з паняй Эвай, якая мае ўсяго 360 долараў пенсіі ў месяц. Гэтыя асобы кажуць, што калі б ім прыйшлося жыць выключна з пенсіі, дык было б вельмі цяжка звязаць канцы з канцамі. За свой ужо выплачаны домік мусяць плаціць у сярэднім 200 долараў у месяц. Да гэтага даходзіць плата за газ, за электрычнасць, за ваду. Медыцынская страхоўка ў месяц прыблізна 50 долараў. Ну, і застанецца на ежу і вопратку вельмі невялікая сума. Дык як сабе радзяць? Пані Эва гаворыць: «Мушу круціцца». Ну, а калі пастарэе моцна, не здолее «круціцца», як тады будзе, не ведаю.

І ўсё ж трэба сказаць, што тыя мае знаёмыя, якія маюць пенсію па 500 або 400 долараў, маюць машыны, што для нашых пенсіянераў найніжэйшай катэгорыі будзе здавацца з'явай вельмі дзіўнай, бо ім машына даступная толькі ў марах.

Для мяне асабіста найпрыгажэйшая праява паставы беларусаў у Амерыцы — іх адносіны да роднай мовы. Як жа часта ў нас сустракаюцца цёткі ці дзядулі, якія пабылі некалькі месяцаў у сыноў ці дачок у Гайнаўцы ці Бельску і пачалі, страшэнна калечачы мову, гаварыць па-польску. Амерыканскія беларусы, хоць і пражылі ў вялікіх амерыканскіх гарадах па 40 гадоў, гавораць па-беларуску так, як быццам бы выехалі з беларускіх вёсак учора. У найменшай ступені не згубілі беларускага акцэнту, роднага каларыту і інтанацыі. Не засмецілі беларускай мовы амерыканізмамі. Я па некалькі тыдняў жыў у беларускіх сем'ях і не чуў нават аднаго разу, каб яны загаварылі адзін з другім не па-беларуску.

Сярод амерыканскіх беларусаў моцна ззяе зорка Вітаўта Кіпеля. Лаканізм, канкрэтнасць і дзелавітасць вызначае не толькі

стыль яго гутаркі, але, мабыць, і стыль яго жыцця. Ад многіх беларусаў чуў я, што ён дасканалы арганізатар культурных мерапрыемстваў. Жыццё яго не было лёгкім. Калі было яму тры гады, яго бацька быў арыштаваны як нацдэм і высланы ў глыбіню Расіі. Апынуўшыся на Захадзе, настойліва вучыўся ў Заходняй Германіі і Бельгіі. Каларытна расказвае аб тагачасных беларускіх студэнтах, якія, нягледзячы на выключна цяжкія пасляваенныя ўмовы, вельмі актыўна дзейнічалі на ніве беларускай культуры.

Вітаўт Кіпель у 1955 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па мінералогіі. Аднак не закахаўся ў чужой зямлі. Пацягнула яго ў бок роднай культуры. Пераехаўшы ў Амерыку, закончыў бібліятэчны факультэт у адным з амерыканскіх універсітэтаў і пачаў працаваць у Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы. Тое, што сёння гэта бібліятэка мае найбагацейшы беларускі аддзел ва ўсёй Амерыцы, — несумненная заслуга Вітаўта Кіпеля, які нястомна збіраў беларускія кніжкі.

Вітаўт Кіпель вядомы не толькі як бібліятэкар і дзеяч, але таксама як публіцыст і даследчык. Асабліва многа ўвагі прысвяціў ён лёсам беларусаў у Амерыцы. Апублікаваў такія даследаванні, як: «Беларусы ў штаце Мэрыленд» (1974), «Беларусы на Гаваях» (1975), «Беларусы ў штаце Нью-Джэрсі» (1978), «Беларусы ў горадзе Кліўлендзе» (1982), «Беларусы ў Нью-Ёрку» (1988).

Наватарскі характар маюць працы, напісаныя разам з жонкай Зорай Кіпель: «Беларускі характар у Амерыцы» (1983), «Беларуская літаратура ў англійскіх перакладах» (1977), «Беларусіка ў англійскай мове» (1982).

У суме апублікаваў Вітаўт Кіпель каля сотні прац, прысвечаных розным аспектам жыцця беларускай эміграцыі. Многія даследаванні Вітаўта Кіпеля апублікаваны на англійскай мове, дзякуючы чаму веды аб беларускай эміграцыі даходзяць да шырокіх колаў амерыканскага грамадства.

Вітаўт Кіпель вызначаецца паслядоўнасцю, лагічнасцю, дзелавітасцю, прагматызмам і камп’ютарнасцю мыслення. Камп’ютарнасць, якая не абазначае неприсутнасці ў яго паставе эмацыянальнасці і пачуццёвасці, накіраваных у глыбіню беларускасці.

Пры гэтым ён чалавек вясёлы і любіць кампанію. Калі вып’е чарку, абавязкова зацягне песню:

Пасеяла агурочкі над быстрай вадою,
Паліваць іх буду дробнаю слязою.

І ў яе інтанацыі чуецца глыбокая настальгія Вітаўта Кіпеля па Беларусі.

Характэрная рыса амерыканскіх беларусаў — іх гасціннасць. Па сутнасці, увесь Захад характарызуецца крайняй ашчаднасцю, якая часта пераходзіць у скупасць. На шчасце, гэтая ўласцівасць Захаду не характарызуе беларусаў у ЗША. Захавалі яны традыцыйнае беларускае хлебасольства. Я бываў у многіх хатах і часта паяўляўся ў іх нечакана, і нягледзячы на гэта, заўсёды і ўсюды быў пачастунак. Не адбываўся ён без гарэлкі, віна ці нейкага іншага алкагольнага напітку. Амерыканскія беларусы не страцілі яшчэ здольнасці добра з’есці, выпіць, а нават заспяваць.

У час апошняга майго знаходжання ў «Полацку» беларуская грамада закалола свінню і два дні вэндзіла мяса. Вэндзіла так, што пахі разыходзіліся па ўсёй васьмігектаровай тэрыторыі беларускага цэнтра. І, калі надышла нядзеля, кожны мог сабе выбраць адпаведны кусок свініны і запіць яго алкаголем па выбару. На жаль, я ўвесь час прымаў лякарствы і не выпіў нават піва.

Трэба, аднак, ведаць, што выпіўка амерыканскіх беларусаў у параўнанні з нашай вельмі памяркоўная. Не бачыў я ні разу, каб хтосьці з нашых землякоў напіўся напавал, а такое ў нас, як вядома, бывае не так ужо і рэдка.

Наступная ўласцівасць амерыканскіх беларусаў — гэта іх эмацыянальнасць. Жывучы ў краіне, у якой як бы і не было месца на сентыменты, бо моцныя ў ёй рацыяналізм і дзелавітасць, амерыканскія беларусы захавалі традыцыйную беларускую пачуццёвасць. Здольны яны не толькі ўзрушыцца, але і пусціць слязу. Датычыць гэта не толькі жанчын, але і мужчын. Назаўсёды захаваю ў сэрцы прыгожыя мужчынскія слёзы, якія паліліся з вачэй Васіля Р. у Нью-Брансвіку, калі чытаў я вершы аб Радзіме.

## БЫВАЙ, АМЕРЫКА!

Беручы пад увагу, што быў я ў Амерыцы толькі тры тыдні, уражанняў назбіралася нямала. Вярнуўшыся ў Польшчу, я з жахам сцвердзіў, што з тых нататак, якія рабіў у час знаходжання ў Амерыцы, не магу прачытаць ні аднаго слова… Рабіў я тыя нататкі на вуліцах, у аўтобусе, у аўтамашыне, у метро, і атрымаліся яны настолькі невыразныя, што прачытаць іх было нельга. Давялося абапірацца выключна на памяць, пісаць хутка ўсе адрэзкі, пакуль памяць была яшчэ свежай. Зразумела, што

сям-там маглі быць недакладнасці і памылкі. Калі так, дык прашу прабачэння ў тых асоб, якіх гэтыя памылкі датычаць.

Галоўнай гераіняй маіх рэпартажаў была Амерыка, сваю постаць стараўся я ставіць недзе збоку — як назіральнік ці фатограф. Зразумела, што адступаў ад гэтага прынцыпу на аўтарскіх сустрэчах.

Многія людзі, едучы ў Амерыку, думаюць аб тым, як прывезці адтуль як мага больш грошай. І вельмі хутка пачынаюць разумець, што можна дасягнуць гэтай мэты двума спосабамі. Першы спосаб — гэта прадставіць сябе як ахвяру нашай сістэмы. Другі — выставіць сябе як барацьбіта з гэтай сістэмай. А яшчэ лепш, даказаць і першае і другое. Ахвяра і барацьбіт — гэта робіць добрае ўражанне, і такім амерыканцы грошай не шкадуюць.

Я ў ніякіх сітуацыях не выстаўляў сябе ні ахвярай, ні барацьбітом. Наадварот, стараўся даказаць, што ўсім, чаго дасягнуў у жыцці, я абавязаны тым пераменам, якія наступілі ў Польшчы, якая ў параўнанні з Польшчай санацыйнай з'яўляецца чымсьці настолькі дасканалым і прыгожым, што параўноўваць гэтыя дзве краіны ў ніякім аспекце нельга. Зразумела, што не мог я затойваць тых вялікіх клопатаў і праблем, якія перажываем сёння ў нашай краіне, але пры гэтым падкрэсліваў гістарычную векапомнасць такіх з'яў, як свабодны доступ беларусаў да ўсіх відаў школ, дзяржаўных чыноў і прафесій, радыкальнае паляпшэнне жыцця беларускіх сялян, бясплатная адукацыя, медыцынская дапамога, магчымасць выязджаць з вёсак і сяліцца ў гарадах.

Прызнаюся, што далёка не ўсе верылі маім словам. Былі і такія, якія не верылі, што наступіла поўная электрыфікацыя ўсіх беларускіх вёсак, што да ўсякіх вясковых пунктаў пабудаваны асфальтавыя або бітыя дарогі, што сяляне маюць двухпавярховыя дамы, трактары, што практычна амаль ва ўсіх хатах ёсць радыё, тэлевізар, халадзільнік, што ўсё болей у сялян паяўляецца матацыклаў, а нават легкавых машын. Зразумела, што не скрываў і таго, што ёсць на вёсках людзі, якія жывуць бедна. Аднак іх убоства ў ніякім выпадку нельга параўнаць з той бядой, у якой жылі беларускія сяляне ў даваеннай Польшчы.

Падкрэсліваў пры гэтым і драму многіх беларускіх вёсак, якая праяўляецца ў іх старэнні, у масавых выездах беларусаў у гарады, у тым, што ў многіх мясцовасцях стаіць ужо палова пустых хат, што гэты працэс паглыбляецца і пашыраецца, што практычна вясковаму хлопцу, нават і дасканаламу гаспадару,

вельмі цяжка знайсці жонку, бо дзяўчаты не хочуць ісці замуж у вёску.

Адным словам, гаварыў я тое, што думаю і што ёсць праўдай, а не тое, што будзе падабацца маім амерыканскім размоўцам. Гэтым самым прынцыпам кіраваўся я, пішучы рэпартажы аб Амерыцы. Імкненне да максімальнай праўды было маёй мэтай, а не імкненне да таго, каб прыпадобіцца чыімсьці поглядам ці густам.

Ва ўсіх сваіх рэпартажах я стараўся адказаць на пытанне, пастаўленае ў загалоўку: «Амерыка, якая ты?» Калі б мяне прымусілі адказаць на гэтае пытанне адным словам, дык сказаў бы я: цікавая. А ўсім чытачам жадаю паехаць у ЗША і пераканацца ў гэтым асабіста.

Амерыканскім жа беларусам хачу яшчэ раз падзякаваць за гасціннасць і шчырасць, пажадаць спакойнага і добрага жыцця і вечнай беларускай трывогі ў нацыянальнай дзейнасці.

# ДАДАТАК

*Уладзімір КАЗБЯРУК*

## СЛЕД НА ЗЯМЛІ

Вёска Бандары на Беласточчыне, дзе 2 лістапада 1930 года нарадзіўся Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), — своеасаблівы куток Беларусі з незвычайна самабытным мікракліматам — этнаграфічным і маральным. Тут да вайны зусім не адчувалася польскага ўплыву, нягледзячы на тое, што дзеці вучыліся толькі ў польскіх школах у суседніх вёсках Рыбакі (4 класы) і Лука (V клас) і што ў гміне (у той жа Луцэ, якую ў наш час ліквідавалі, ствараючы ў гэтым месцы на рацэ Нарве вадасховішча) даводзілася чуць польскую мову.

Гэта шчасце, калі чалавек можа пакінуць пасля сябе добрую памяць у тым асяроддзі, дзе ён жыў, працаваў, весяліўся. Звычайна такая памяць знікае тады, калі адыходзяць у нябыт людзі, якія яго асабіста знаді, чулі, бачылі, маглі засведчыць рэальнасць нейкіх падзей. А калі ў асяроддзі знойдзецца ўважлівы летапісец, раскажа пра іх у друку — у мастацкіх творах або нарысах, — тады падзеі з жыцця вёскі і навакольных мясцовасцей набываюць зусім новае вымярэнне: яны становяцца неспадзявана з’явай гісторыі народа, прытым не толькі тады, калі яны звязаны з нейкімі грамадскімі катаклізмамі, імклівымі зменамі, працэсамі. Апісанне нават аднаго моманту дазваляе спыніць хуткаплынны бег часу, паказаць тое, чаго новыя пакаленні самі ўжо ніяк не пабачаць, а без такога апісання не маглі б уявіць.

Дзякуючы коласаўскай «Новай зямлі», трылогіі «На ростанях», шматлікім іншым творам для нас ужо ніколі не згінуць малюнкі жыцця многіх куткоў Беларусі (асабліва коласаўскага Наднямоння) пачатку нашага стагоддзя.

Сцэны з жыцця Бандароў, як кадры нейкай хронікі, ажываюць ва ўспамінах Алеся Барскага — і з тых часоў, калі ён быў малым хлопчыкам, і з больш позніх перыядаў, калі ўжо ён выбраўся ў шырокі свет на вучобу, работу ды ў шматлікія вандроўкі па чужых краінах.

Хочацца пашкадаваць, што даваенных Бандароў мы тут не бачым. А гэта быў час, калі яшчэ не згубіліся норавы і традыцыі, якія ішлі,

магчыма, з глыбіні стагоддзяў. Яшчэ ў традыцыйны лад жыцця не паспелі ўмяшацца капіталістычныя парадкі з міграцыяй насельніцтва, перамешваннем розных этнічных груп, з развіццём прамысловасці. Тут амаль што ў поўным аб'ёме захавалася натуральная гаспадарка, пры якой вёска ўсім асноўным забяспечвала сябе сама. Купляліся толькі соль, запалкі (але курцы абыходзіліся без іх, карыстаючыся крэсівам і губкай), нафта (якую, аднак, даводзілася вельмі эканоміць), тытунь (селяніну да вайны было забаронена самому яго садзіць — за адно каліва, знойдзенае ў агародзе, пагражала турма). Вёска забяспечвала сябе не толькі харчамі, але ў нейкай ступені і вопраткай (у кожнай хаце пралі кудзелю і ткалі кросны) і нават многімі металічнымі вырабамі (у каваля заўсёды работы хапала).

З далёкім светам кантакты былі абмежаваныя, але з блізкім наваколлем сувязі былі вельмі шматгранныя і актыўныя. Вёска невялічкая (16 дамоў, 20 сем'яў), але ў ёй быў паравы млын, кузня, невялічкая крама, рабіліся рашоты з ліповага лыка і сіты з конскага валосся (гэта была спецыяльнасць роду Баршчэўскіх). А яшчэ займаліся бандаркай. Акрамя таго, у 30-я гады, калі рэчка Нарва была больш паўнаводная, некаторыя мужчыны ранняй вясной хадзілі на плыты, сплаўлялі лес. На мясцовай мове такі занятак называўся арэлькай. У зборніку «Літаратурная Беласточчына» змешчана апавяданне Васіля Баршчэўскага (таксама Андрэевіча, як і Алесь Барскі, і яго амаль аднагодка) «Арэлі» (гэта значыць «Плытнікі»), дзе апавядаецца пра вёску і даюцца каларытныя замалёўкі з жыцця арэляў (плытнікаў).

Нягледзячы на адносную адарванасць ад шырокага свету (а можа, нават дзякуючы ёй), вёска жыла самабытным культурным жыццём. Старэйшыя сяляне заўсёды цікавіліся падзеямі на далёкім і блізкім свеце. Ад многіх з гэтых падзей залежаў і лёс вёскі. На памяці толькі аднаго пакалення колькі разоў мянялася ўлада! Была царская Расія, потым з'явіліся немцы. А там усё пачало мяняцца: то немцы, то палякі, то бальшавікі. А затрымаліся тут усё ж такі палякі — амаль на цэлых два дзесяцігоддзі. А ў верасні 1939 года зноў пачалося. Спачатку наблізіліся немцы. Не дайшлі нейкіх 8 кіламетраў і затрымаліся. Затым менш чым два гады пабыла савецкая ўлада. Пасля трох гадоў фашысцкай акупацыі вярнулася зноў савецкая ўлада, але ўжо на вельмі кароткі тэрмін. Райваенкамат у Свіслачы паспеў толькі прызваць навабранцаў, але праз дзесяць дзён адпусціў іх дахаты, нават не растлумачыўшы прычыну. Толькі праз пару тыдняў выпадкова стала вядома, што Бандары — гэта зноў польская тэрыторыя. На ўсход ад вёскі праз тую ж Ялоўку праходзіць славутая «лінія Керзона», пра якую нашы гісторыкі і нашы палітыкі — прытым нават на найвышэйшым узроўні — добра не ведаюць. Найбольш блытаюць тыя, што пішуць, быццам яна праходзіць па этнаграфічнай мяжы, якая аддзяляе беларускае насельніцтва ад польскага. На самай жа справе гэтая мяжа праходзіць недалёка ад

Беластока, гэта значыць больш чым за паўсотні кіламетраў на захад. І таму пасля вайны на Беласточчыне засталося каля 300 тысяч беларусаў.

А яшчэ ж старыя людзі гаварылі, што па рачулцы Руднік, пару кіламетраў на захад ад Бандароў, калісьці праходзіла нейкая граніца. Але якая — ніхто не ведаў. Калі сёння прыгледзецца да гістарычных мапаў, то можна дапусціць, што гэта была граніца, якая ўтварылася пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у самым канцы XVIII стагоддзя.

Як бы там ні было, але гістарычная памяць народа цвёрда засвоіла тое, што ўлады, якімі б вечнымі яны ні ўяўляліся, часта мяняюцца, а людзям трэба жыць, хто б на гэту зямлю ні ступіў. І ці не таму ў народным асяроддзі выпрацаваўся нейкі непахісны маральны кодэкс, які не аглядваўся ні на дзяржаўныя, ні на царкоўныя нормы, а перш за ўсё на традыцыі, на выразнае ўсведамленне абавязкаў і неабходнасці пашаны правоў кожнага чалавека, на асуджэнне праяў анархіі, самавольства, самаўпраўства. Гэты маральны кодэкс дзейнічаў непарушна ў той час, калі панаванне адной улады канчалася, а другая яшчэ не з'явілася. Так было, напрыклад, у верасні 1939, у чэрвені 1941, у жніўні — верасні 1944 года.

Своеасаблівай школай грамадзянскага і маральнага выхавання і нават павышэння прафесійнай кваліфікацыі з'яўляліся рэгулярныя сустрэчы старэйшых мужчын у цэнтры вёскі пад ліпай або каштанам. Там абмяркоўваліся навіны мясцовыя і сусветныя з адпаведнай ацэнкай падзей, што мела спецыфічнае выхаваўчае значэнне. Гэта было месца, дзе фармавалася грамадская думка па прыватных пытаннях і глабальных праблемах. Зімой на падобных сустрэчах у чыёй-небудзь хаце можна было пачуць апавяданні бывалых людзей пра доўгія падарожжы па Расіі ў час салдацкай службы і пра незвычайныя жыццёвыя здарэнні, бачаныя або чутыя. А ў больш падабранай і абмежаванай «аўдыторыі» можна было пачуць прозвішчы Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Дабралюбава, Горкага, Андрэева і іншых. Прозвішчы беларускіх пісьменнікаў — Купалы, Коласа, Багушэвіча, Танка — сталі вядомыя значна пазней, перш за ўсё разам з часопісам «Калосьсе», што трапляў у суседнюю вёску Рыбакі да маладога селяніна Уладзіміра Хлябіча.

Вось у такім асяроддзі — у даволі вялікай дружнай, працавітай сям'і Андрэя Баршчэўскага (Антонавага, бо быў яшчэ ў вёсцы Андрэй Баршчэўскі Аляксееў — сучаснай формай імя па бацьку ў вёсцы ніхто не карыстаўся) — нарадзіўся, рос і выхоўваўся Шурык, які з цягам часу выбраў сабе літаратурны псеўданім Алесь Барскі. Бацька Шурыка разлічваў, што сын яго будзе даглядаць гаспадарку, бо старэйшым дочкам (а іх было чатыры) самім лёсам было прызначана выходзіць замуж. Гаспадарка дазваляла жыць бязбедна — хоць і без лішняга дастатку, але забяспечвала надзейны кавалак хлеба.

Аднак Шурык гэтых надзей не апраўдаў і адправіўся ў шырокі свет на вучобу, на пошукі «мудрасці кніжнай» — такой заманлівай і такой недаступнай усім папярэднім пакаленням вяскоўцаў. Як бы сёння ні

характарызавалі той пасляваенны лад у Польшчы, іменна тады, упершыню ў гісторыі краіны і народа, выхадцы з самых нізоў атрымалі рэальнае права на вучобу, на доступ да самых высокіх дзяржаўных пасад. Перад вёскай, якая да вайны задыхалася ад беззямелля і ў якой гаспадаркі ўсё больш і больш драбнелі, раптам расступіліся сцены, што адгароджвалі яе ад шырокага свету, ад горада, дзе аказаліся патрэбнымі і новыя рабочыя рукі і знаходзілася месца для інтэлігенцыі з народа.

Парадокс, аднак, заключаўся ў тым, што новая ўлада, ліквідаваўшы мур, што закрываў сельскай і гарадской беднаце дарогу на шырокія прасторы жыцця, не забяспечвала ўсім тым, хто працаваў у горадзе, хоць бы даваеннага жыццёвага ўзроўню. А для многіх катэгорый інтэлігенцыі гэты ўзровень значна панізіўся. Тое ж, што ўзровень жыцця на вёсцы павысіўся ў небывалых маштабах, чамусьці не хацелі заўважаць усе крытыкі пасляваеннага сацыяльна-палітычнага ладу.

Як бы там ні было, малады Шурык Баршчэўскі падаўся ў навуку, скончыў Лодзінскі універсітэт і звязаў свой лес з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, дзе пачаў працаваць пад кіраўніцтвам прафесара Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай. З цягам часу сам стаў кіраўніком гэтай кафедры. І заваяваў там такі аўтарытэт, што каліў 1980–1981 гадах склаліся для яго там вельмі неспрыяльныя абставіны, то студэнты і большасць выкладчыкаў тайным галасаваннем выказалі яму давер і не дазволілі звольніць з пасады.

Даводзілася Аляксандру Баршчэўскаму зарабляць на хлеб выкладчыцкай дзейнасцю, займацца даследчыцкай працай, але галоўным яго прызваннем аказалася паэзія. У першых яго творах улаўліваюцца водгукі рэвалюцыйнай рамантыкі, боязь адарвацца ад традыцый польскай і беларускай паэзіі.

Першы паэтычны зборнік «Белавежскія матывы», што пабачыў свет у Беластоку ў 1962 годзе, засведчыў, што малады аўтар умее не толькі пераймаць традыцыйныя ўзоры мастацкай творчасці, але і знайсці сваё свежае слова, адметны вобраз, каб увасобіць у ім шчырае пачуццё юнака, што ад душы цешыцца маладым жыццём, правам выбіраць любую дарогу, кожная з якіх павінна прывесці толькі да шчасця. Ён жа любуецца красой і багаццем роднай прыроды, увасабленнем якой служыць такі блізкі і такі загадкавы — найбольшы ў Еўропе — лясны масіў Белавежскай пушчы.

Сама пушча ў лёсе жыхароў вёскі практычна не адыгрывала ніякай ролі, бо яна знаходзіцца за рэчкай, на тэрыторыі чужой адміністрацыйнай адзінкі, няма з ёю канкрэтных эканамічных кантактаў.

Як бы там ні было, але Белавежская пушча жыве ў свядомасці жыхароў вёскі як нешта непаўторнае, велічнае і ў той жа час недалёкае. Нейкія дзесяць кіламетраў— такая адлегласць ніколі не лічылася вялікай. А для Алеся Барскага пушча стала адным з сімвалаў, адным

з увасабленняў велічнасці і славы яго Радзімы, пераемнасці эпох і стагоддзяў.

Ужо ў першым зборніку вызначыліся асноўныя напрамкі мастацка-вобразных пошукаў, асноўныя тэмы паэтычнай творчасці. Тут ганаровае месца займаюць малюнкі неўміручай красы наднарвянскай прыроды, матыў сыноўняй вернасці роднай зямлі. І выяўляецца нейкая асаблівая вобразная адметнасць, такая асацыятыўнасць, якая на першы погляд можа і насцярожваць, але калі ўдумацца, то адчуваецца яе апраўданасць. Паэт — і ў гэтым яго асабістае і бачанне і адчуванне свету— адну з'яву асэнсоўвае і высвечвае пры дапамозе іншай, прытым добра ўсім вядомай, засвоенай, калі можна так сказаць, з дзяцінства і надзейна абжытай.

Паслядоўна ад аднаго паэтычнага зборніка да наступнага, а іх у Алеся Барскага, акрамя «Белавежскіх матываў», чатыры — «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток, 1983), «Лірычны пульс» (Мінск, 1987) — мастацкі вобраз станавіўся ўсё больш трапным, і адначасова асацыяцыі ператвараліся ва ўсё больш складаную сістэму вобразаў.

Алесь Барскі — паэт з ласкі Божай. А яшчэ ён і даследчык роднай літаратуры, і яе папулярызатар, і фальклорыст, і перакладчык, і публіцыст, і педагог, і аўтар дапаможнікаў па беларускай літаратуры і фальклору для студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Ён меў падставы сказаць пра сябе ў адным з пазнейшых вершаў, што ён «у храме навукі не лішні».

Кожную з гэтых галін дзейнасці можна было б характарызаваць спецыяльна, разглядаць з улікам той важнасці, якую ўяўляе для справы ці то выхавання маладога пакалення на лепшых узорах нацыянальнай спадчыны, ці то духоўнага ўзаемаўзбагачэння беларускага і польскага, а нават і ўкраінскага народа праз падрыхтоўку, складанне і пераклад выдатных здабыткаў вуснай народнай творчасці аднаго народа на мову другога. Так, напрыклад, ён апублікаваў на польскай мове фальклорныя зборнікі «Д'яблава скрыпка» (казкі са збору Міхала Федароўскага «Люд беларускі…»; Варшава, 1973), «Невычэрпны збан» (казкі зямлі Мінскай, Смаленскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Палесся; Варшава, 1976), «Зачараваныя барвы стэпу» (казкі ўкраінскага народа; 1987). Агульны памер гэтых зборнікаў — каля 70 друкаваных аркушаў.

Як перакладчык Алесь Барскі дбае перш за ўсё пра дакладную перадачу не толькі зместу, але і таго, што мы называем духам твора. Гэтая якасць асабліва поўна вызначылася ў перакладзе паэзіі. Алесь Барскі, у прыватнасці, таленавіта пераклаў творы Янкі Купалы, у тым ліку паэму «Яна і я». Паводле майго пераканання, якраз яму найлепш удаўся пераклад верша «А хто там ідзе?» на польскую мову. Гэтую акалічнасць варта падкрэсліць таму, што на працягу сямідзесяці гадоў такіх перакладаў было не менш сямі.

На працягу многіх гадоў Алесь Барскі друкуе ў беластоцкім штотыднёвіку «Ніва» рэпартажы, успаміны, публіцыстычныя артыкулы, эсэ пад агульнай рубрыкай «На мяжы». Тут мы знойдзем усё: і ўспаміны з далёкіх гадоў, і нарысы пра падарожжы ў Сібір або на другі канец свету — ажно ў Злучаныя Штаты Амерыкі. То зноў з'яўляюцца ў друку разважанні аб найбольш набалелых праблемах жыцця Беласточчыны. Да такіх, безумоўна, адносіцца праблема існавання роднай мовы, трывожнага лёсу нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Не ведаю, як для каго, а для мяне найбольшую каштоўнасць уяўляюць замалёўкі з жыцця Бандароў, з лёсу бандарскіх Міруцёў, Бураў і іншых сялян. Паколькі я сам родам з гэтых жа Бандароў, то магу засведчыць, што факты і характарыстыкі людзей у аўтара дакладныя. Толькі зрэдку можна было б штосьці падправіць ці ўдакладніць. Але пра гэта я пісаў ужо ў прадмове да кнігі А. Барскага «З пабачанага і перажытага» ў 1992 годзе.

Усё вясковае асяроддзе дабратворна ўплывала на фармаванне чалавечай натуры і маральных норм Шурыка — будучага навукоўца, педагога, грамадскага дзеяча Аляксандра Баршчэўскага і паэта Алеся Барскага. І толькі беларускае нацыянальнае ўсведамленне набываў ён за межамі роднай вёскі.

Алеся Барскага сёння добра ведаюць у кожнай мясцовасці на Беласточчыне. Ён — жаданы госць у беларускіх ліцэях, школах, цэнтрах беларускай культуры, ён карыстаецца заслужаным і бясспрэчным аўтарытэтам як паэт, грамадскі дзеяч, былы старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, як чалавек цвёрдых перакананняў. Ён добра вядомы як аўтарытэтны прадстаўнік беларускай культуры ў тых далёкіх і блізкіх замежных краінах, куды даходзіць беларускае друкаванае слова з Беласточчыны — перш за ўсё ў Злучаных Штатах Амерыкі і Вялікабрытаніі. Асабліва часта ён наведвае Беларусь і як беларускі паэт (ён з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў), і як былы выкладчык беларускай літаратуры Варшаўскага ўніверсітэта.

У нарысах «На мяжы» на першы план вылучаецца асоба аўтара-апавядальніка, яго ўнутраны свет, вынашаныя ім маральныя прынцыпы, яго заўсёдны абавязак нізка пакланіцца чалавечай сумленнасці, працавітасці, шчырасці, яго непрымірымасць да чыноўніцкага ці звычайнага бытавога хамства, вандалізму — усяго таго, што сведчыць аб калецтве душы чалавека. Нарысы ствараліся з жаданнем узбагаціць унутраны свет чытача, зрабіць яго хоць трошачку больш чалавечным, уважлівым да людзей, беражлівым і сумленным у жыцці, бескарыслівым ахоўнікам роднай прыроды і нацыянальнай культуры і перад усім — патрыётам роднага краю.

*Ірына БАРОЎСКАЯ*

## ПЕСНЯ І МАЛІТВА: ЛІРЫКА АЛЕСЯ БАРСКАГА

Зараз гэтыя два анталагічна-паэтычныя паняцці, што вызначаюць код быцця беларуса, і з’яўляюцца сэнсаўтваральнымі ў творчасці таленавітага паэта Алеся Барскага. Творчасці адметнай, арыгінальнай, шчырай, не прачытанай на належным узроўні, а таму і не ацэненай як след, у поўнай адпаведнасці з яе вартасцямі і значымасцю. Мажліва тут у нейкай ступені прычынай стаўся, як гэта ні дзіўна, аўтарытэт таленавітага вучонага, даследчыка, прафесара Аляксандра Баршчэўскага, які сапернічае з аўтарытэтам паэта. Але хутчэй за ўсё тут звыклая беларуская абыякавасць, калі выключная эстэтычная з’ява, якой і трэба ўспрымаць лірыку таленавітага Паэта (перш за ўсё!), іскрыцца і жыве самастойным жыццём. А менавіта Алесь Барскі, як ніхто ў беларускай паэзіі, працягнуў спеўна-малітоўныя традыцыі нацыянальнай літаратуры пачатку 20-га стагоддзя і перш за ўсё Янкі Купалы.

Беларуская песенная лірыка — гэта выключная з’ява ў мастацкім быцці беларусаў у свеце, што сталася заканамерным вынікам працяглага, шматвяковага працэсу развіцця мастацкага слова і музыкі, якія ўвабралі ў сябе адметныя асаблівасці беларускага мыслення, светапогляду, маральна-этычнага ўспрыняцця рэчаіснасці. Гэта ўнікальнае дасягненне нацыянальнай культуры. У ёй схаваны няўлоўны ход гісторыі і духу народа, непаўторныя рысы адметнага нацыянальнага характару. Каб зразумець да канца сутнасць гэтай мастацкай з’явы, неабходна яе разглядаць у непарыўнай сувязі з такімі катэгорыямі, як музыка, паэзія, мова, мелодыка, вобразна-выяўленчая сістэма, бо зараджэнне і станаўленне нацыянальнай літаратуры непарыўна звязана са станаўленнем айчыннай песеннай лірыкі. Не выпадкова літаральна ўсе беларускія паэты называлі сябе музыкамі, гуслярамі, песнярамі, зборнікі сваіх твораў лічылі спеўнікамі, а самі вершы называлі песнямі, што падкрэслівала адметную цесную сувязь з музыкай, сведчыла аб незвычайнай нагляднасці і разам з тым незвычайнай метафарызацыі, схільнасці да тонкага выяўлення пачуццяў і перажыванняў.

Купалаўскія традыцыі песеннасці мастацкага вобраза найбольш яскрава ўвасобіў у сваёй творчасці Алесь Барскі. Як ніхто з беларускіх паэтаў ён стварыў уласную краіну-*браначку*, якая сталася ўвасабленнем мараў усіх беларускіх песняроў усіх эпох — бо тут зямля спявае. У паэтычным сусвеце Алеся Барскага бязмежна пануе ПЕСНЯ, якой, у поўнай адпаведнасці з арфічнымі законамі, падпарадкавана ўсё жывое. Паэт чуе песню ў трысці рэчкі; у душы чалавека; у марскіх хвалях; *вясна спявае вішнёвую песню; спявае пушча хваляй воннай; і вынырнуў вечар з даспелага збожжа — жніўную песню прынёс з Беларусі.* Нават салавей для паэта гэта Паганіні, што спявае. І для гэтага ёсць усе падставы: *На ўсіх лістах бярозавай сукенкі салаўі адспявалі рапсоды.*

Або яшчэ прыгажэй: *У брычцы месяца рассеўся салавей, пяе ў залатой карэце.* Хараша, праўда?! *І колькі песняў у вясны за пазухай,* — усклікае паэт, які так шчыра дзеліцца радасцю ўспрыняцця быцця. Вось чаму ён *элегічна спявае,* а вербы ў яго *літаніі.*

Паэт упэўнены, што рука ягоная бярэцца за пяро толькі таму, што ў сэрцы ёсць і *песня,* і *сляза.* Буйнае маёвае квітненне зможа змяніць у песню нават камень. Вось чаму патрэбна пасадзіць дрэва, каб яно спявала песню. Лясныя ж песні складаюцца з многіх, многіх ціхіх слоў. Яны складваюцца ў сэрцы, таму такія бясконцыя і ніколі-ніколі не завершацца, бо ў іх сардэчнай аснове пошум травы, палёт матылькоў, спакой святочнай ночы пасля цяжкай працы.

Песенную аснову паэт падкрэслівае у кожным вершы: *І сонцам, бэзам, песняй стаўся я; Каб яно спявала песню прыгажосці свету, Пасадзім дрэва; я не магу пачатую песню кончыць; што ў сэрца ўлівалася добраю песняй.*

Песня А. Барскага прысвечана ў першую чаргу Айчыне, якой ён імкнецца праспяваць сапраўдны гімн. Ён не аднойчы заявіць, падчас нават пафасна, паводле ўласных слоў, што хаця і *не стаў Бетховенам ці Лістам, як мог табе* (Айчыне) *спяваў.* Ён будзе згадваць слынных кампазітараў, прычым у надзвычай адметнай, як заўсёды ў сусвеце А. Барскага, асацыятыўнасці: *Мы павіслі над светам, як Бах над арганамі,* або *Звінім, як Бетховены, цалкам глухія.*

Родная песня, *такая далёкая, шчырая-шчырая,* гукае лірычнага героя, абуджае ў сне, кліча да сябе, яна становіцца сімвалам-увасабленнем Радзімы, яе голасам, які, трывожыцца паэт, так лёгка можа пакінуць душу.

Паэт надзвычай метафарызуе свой свет, ягоныя асацыяцыі адметныя і спецыфічныя, непаўторныя, наватарскія. Асабліва калі гэта тычыцца *песні,* якой надаецца магутная і неспазнаная сіла. Знешняя апратка паэзіі — слова — гэта другараднасць, сапраўдная ейная сутнасць — у шчырай песні сэрца, бо ў ёй і журба, у ёй і радасць:

З рук сонца узялі мы песню
Такую шчырую-шчырую,
Яна нам рукі залагодзіла,
Яна нам сэрца расшырыла,
Яна нам пахне выраем.
Ёю жыццё ўквецім,
Ёю зямлю ўмаім
Мы песню цёплую, цёплую
З рук маткі-сонца маем.

Асабліва магутна гучыць песня ў душах закаханых:

Мы, як дзве песні,
Мы, як два гімны

У свеце ранішнім
І ўсвеце сонным.

Алесь Барскі надзвычай метафарычна паказвае, *як расце кахання дрэва сярод нас і прыкрывае песня ўсю планету.* Каханне расце і спее ў *вечна спеўнай душы,* а сама каханая ўмее паклікаць *ціхай песеннай мовай.* А. Барскі ўмее — і як гэта яму толькі ўдаецца пасля столькіх песняроў кахання — знаходзіць свае словы і вобразы: *кахаць каханне і любіць любоў.* І сам знаходзіць тлумачэнне: *А калі ў каханне шчырае не верыць, / Дык не зложыш песні ты аб ім праўдзівае.* Толькі ў песні можна распавесці, праспяваць пра свае пачуцці, толькі ў песні можна перадаць радасць быцця і шчасце: я *і песня патанулі ў вір бяздонны, у КАХАННЕ.* Ды і слёзы, журбу лепш за ўсё перадаць песняй: і *спяваем і плачам — гэта не песня альтруістычных анёлаў, А рэха растоптаных душ, турботная, як ваша песня, якой стаў чужы;* песня можа быць жоўтай, як лісце-восень, зялёнай з вечным гоманам, цёпла-сонечнай, салоўкай, як глыток вады ў поўдзень на ніве. Песня гэта рэха бязмежнага неба, якое аднаўляе ўсё, што ў дзяцінстве. І сама родная зямля становіцца песняй, бо аб'ядноўвае ўвесь сусвет, і толькі ёй пад сілу ажывіць былое:

Зайграйце песню, лірнікі,
Каб аджыло мінулае
У віхры струн
Напружаных,
Узбуджаных,
Уз'юшаных.
Зайграйце песню, лірнікі,
Каб старына пайшла
У скокі
З бадзёрасцю адчайнаю,
Юнацкаю і хвацкаю.
Зайграйце песню, лірнікі,
Каб душы ўскалыхнуліся,
Каб сэрцы разбудзіліся.
Зайграйце песню, лірнікі,
Плячыстую,
Агністую,
Бунтарную,
Змагарную,
Задорную
І непакорную.

Алесь Барскі настолькі ўлюбёны ў родную зямлю, што гатовы ёй маліцца, як некалі Янка Купала. І, працягваючы традыцыі песняра,

які ўсклікаў: *малюся я небу, зямлі і прастору,* наш сучаснік моліцца да зямлі:

Другіх багоў даў лёс
І загадаў маліцца.
Але не выракайся
Песеннага бога.
Які ёсць лесам,
Цалаваным бліскавіцай.
Ідзі мяжой,
Цябе чакае нечаканасць,
Валошкавы прастор
Бязмежны і бязрамны,
Далёкія лясы,
Як велічная драма.
О, лесе, дзякуй —
Я патрапіў на след мапы.

Ён, як старажытныя грэкі, адухаўляе прыроду. Кветкі асоту нагадваюць яму крык *ці ў песні, ці ў малітве гордай; далоні дрэў зноў моляцца над рэчкай; ворагі вучылі нас маліцца богу-страху; малюся, каб ніколі ў жыцці нядоўгім не мець пытанняў менш; малюся лясному голлю, п'янею ад песні трысця; і сняцца доўгія гады малітвы салаўя.*

Малітва ў славянскай традыцыі — гэта сустрэча з жывым Богам, які чуе чалавека, дапамагае яму, любіць яго. Аднак сам паэт у споведзі-малітве ўпадабляецца хутчэй язычніку, не выпадкова параўноўваючы малітву з паганскай замовай, захоўваючы, аднак, яе сакральнасць і містычнасць. Існуюць малітвы велічныя, падзячныя і прашэнні. Алесь Барскі нічога для сябе асабіста ў сваіх малітвах не просіць. Ён толькі ўдзячны Сусвету, Богу, роднай зямлі за шчасце быць на свеце і спявае ўдзячную песню:

З гімнам,
З малітвай
Стаім і просім
Свет на каленях:
Гэй, веснавая добрая просінь,
Трымае нас у жмені.
Ён добра ведае суровы закон жыцця:
І песні, як багі,
Напоўнены дабрэчай;
Здаецца, маладосць —
Кранаю я рукой,
А гэта брама могілак,
Мой чалавеча.

Але ўсё роўна ён спявае Асанну быццю. Ён звяртаецца да неба і ўсклікае:

> Прашу, каб падзялілася спакоем.
> Трывогу вам —
> Хто буру сее недзе;
> А цішыню —
> Маім валам і вершам.
> Жменю зямлі бяру
> З туманнай глебы —
> Буду ляпіць свой верш і чалавека.

Плёну майстру-Паэту ў гэтай высакароднай справе.

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

### *Беластоцкі край (с. 21)*

Друкуецца паводле выд.: Беларускія пісьменнікі Польшчы. Мінск, 2000.

### *Нарач (с. 22)*

Друкуецца паводле выд.: Рунь. Беласток, 1959. Датуецца годам публікацыі.

### *Балада пра бізун (с. 22)*

Друкуецца паводле газ. «Ніва», Беласток, 5 жніўня 1962 г. Датуецца годам публікацыі.

### *Францішак Скарына (с. 24)*

Друкуецца паводле выд.: Барскі А. Белавежскія матывы. Беласток, 1962. Датуецца годам публікацыі.

### *Маці (с. 25)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1965. Датуецца годам публікацыі.

### *Вяртанне (с. 25)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1967. Датуецца годам публікацыі.

### *«Майго дзяцінства...» (с. 26)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1965. Датуецца годам публікацыі.

### *Падзяка Айчыне (с. 27)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1965. Датуецца годам публікацыі.

### *Белавежанка (с. 28)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1965. Датуецца годам публікацыі.

*«Расклявалі сонца пчолы...» (с. 29)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1965. Датуецца годам публікацыі.

*«Конь, плуг і я...» (с. 29)*

Друкуецца паводле выд.: Барскі А. Жнівень слоў. Беласток, 1967. Датуецца годам публікацыі.

*«Селянін, як тварэц...» (с. 30)*

Друкуецца паводле выд.: Барскі А. Жнівень слоў. Датуецца годам публікацыі.

*«Дзесь далёка за мною сяло...» (с. 30)*

Друкуецца паводле выд.: Барскі А. Жнівень слоў. Датуецца годам публікацыі.

*«Цягнік бяжыць усё хутчэй...» (с. 31)*

Друкуецца паводле выд.: Барскі А. Жнівень слоў. Датуецца годам публікацыі.

*«У бялізне імглы...» (с. 31)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

*«Конь, нібы бог...» (с. 32)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

*«Глянь назад...» (с. 33)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

*«Стаіць-маўчыць...» (с. 33)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

*«Давай адкрыем клеткі...» (с. 34)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

*«Ты выйшла з сукенкі...» (с. 34)*

Друкуецца паводле літаратурнага альманаха «Белавежа», Беласток, 1971, № 2. Датуецца годам публікацыі.

